# РУСКАЕ САВЕЦКАЕ АПАВЯДАННЕ

У ДВУХ ТАМАХ

ТОМ 1



*З рускай мовы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84 Бел7-44
Р 88

Прадмова *Барыса Сачанкі*

---



В первый том вошли рассказы М. Горького, А. Серафимовича, Л. Леонова, А. Платонова, Б. Пастернака, М. Булгакова, А. Грина и других мастеров слова, которые знакомят белорусского читателя с достижениями русской советской новеллистики 1918—1951 годов, отображают ее богатство и жанровое разнообразие и плодотворно продолжают наилучшие традиции русского рассказа, вдохнув в него новую жизнь.

Р $\frac{4702010200-028}{М 302(03)-88}$ 144—87

ISBN 5-340-00362-0 (т. 1)
ISBN 5-340-00361-2

# ВЕЧНА ЖЫВОЕ, ЗАЎСЕДЫ НОВАЕ

Апавяданне — адзін з самых ёмкіх і даўніх жанраў мастацкай літаратуры. Зачаткі ці, дакладней, яго карані — у вуснай народнай творчасці — казках, міфах, легендах, прытчах, анекдотах...

Як самастойны жанр апавяданне заняло сваё належнае месца ў пісьмовай літаратуры і стала адразу ж надзвычай папулярнае. І не толькі ў Еўропе, але і ў краінах Усходу. Асаблівага росквіту яно дасягнула ў эпоху Адраджэння, ды і потым, у пазнейшыя часы, даўшы свету такіх выдатных майстроў, як Бакачыо, Сервантэс, Гофман, Мерымэ, Бальзак, Мапасан, По, Дзікенс...

Ва ўсе часы было папулярнае апавяданне і ў Расіі. Хто з рускіх пісьменнікаў ні працаваў у гэтым жанры, хто ні прыносіў у яго новае, адметнае, сваё! А. Марлінскі, М. Пагодзін, У. Адоеўскі... А. Пушкін... М. Гогаль... З развіццём літаратуры апавяданне не мізарнела, а набывала яшчэ большую прывабнасць, выяўляла свае фактычна неабмежаваныя магчымасці і для раскрыцця таленту кожнага сапраўднага мастака слова, і ў асваенні, спасціжэнні, асэнсаванні жыцця, чалавечых лёсаў. Узбагачалася яно і жанрава — іншы раз набліжаючыся да навелы, іншы раз — да маленькай аповесці, а пад пяром такіх мастакоў слова, як І. Тургенеў, Л. Талстой, Г. Успенскі,— і да нарыса.

Асаблівая роля ў развіцці рускага класічнага апавядання належыць М. Ляскову і А. Чэхаву. Кожны з гэтых мастакоў слова надаў апавяданню сваю непаўторнасць: тонкую, майстэрскую стылізацыю, гістарызм і бытавізм — М. Ляскоў і лірызм, псіхалагізм, лаканізм — А. Чэхаў.

Канец XIX і пачатак XX стагоддзя ў рускай літаратуры наогул звязаны з небывалым росквітам малой апавядальнай формы. Нават раман — вяршыня дасягненняў рускай рэалістычнай прозы — як бы саступіў сваё месца аповесці, апавяданню. Вось толькі пералік імён, хто як бы ўдыхнуў новую сілу ў гэты даўні і вечна новы жанр,— У. Гаршын, У. Караленка, Л. Андрэеў, Ф. Салагуб... Цэлая эпоха ў развіцці апавядання звязана з імёнамі М. Горкага, І. Буніна, А. Купрына...

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя парушыла звыклы ход падзей і як бы раздзяліла рускую літаратуру на два рэчышчы: частка пісьменнікаў не прыняла рэвалюцыі і пакінула радзіму, апынулася ў эміграцыі; большасць жа рэвалюцыю вітала як сваю і нікуды не выязджала, асталася на радзіме, каб і далей, у новых умовах, жыць і працаваць. Сярод тых, хто пакінуў радзіму і апынуўся ў эміграцыі, былі і вядомыя апавядальнікі, майстры гэтага жанру — І. Бунін, А. Купрын, А. Талстой, А. Рэмізаў, І. Шмялёў, Б. Зайцаў, І. Сакалоў-Мікітоў, А. Аверчанка, Тэфі. Некаторыя з гэтых пісьменнікаў знайшлі ў сабе сілу, вярнуліся ў Савецкі Саюз, сталі класікамі савецкай літаратуры. Некаторыя ж, як І. Бунін, А. Рэмізаў, І. Шмялёў, А. Аверчанка, Тэфі, Б. Зайцаў, так і памерлі на чужыне.

Народжаная рэвалюцыяй новая савецкая ява паклікала да творчасці новыя літаратурныя сілы. Пачалі асвойваць новую рэчаіснасць і тыя мастакі слова, што не пакінулі радзімы, асталіся разам са сваім народам будаваць новы сацыялістычны лад. Не ўсім аднолькава гэта ўдавалася, асабліва напачатку, але ў імкненні асэнсаваць і паказаць новую рэчаіснасць нікому з іх нельга адмовіць. А. Серафімовіч, В. Верасаеў, М. Горкі, А. Блок, В. Брусаў, Я. Замяцін — вось тыя літаратурныя сілы, вакол якіх і пачалі гуртавацца таленты, што ўліліся ў рускую літаратуру пасля перамогі Кастрычніка. Знаходзілі пастулова сябе і сваё месца ў народным страі і тыя, хто пачаў пісаць і друкавацца яшчэ да рэвалюцыі, але на поўную моц іх талент раскрыўся толькі ў савецкі час,— М. Прышвін, С. Сяргееў-Цэнскі, П. Раманаў, І. Новікаў, А. Грын, Б. Пільняк. Усё ярчэй заяўлялі пра сябе і тыя, хто прыйшоў у літаратуру проста з рэвалюцыі, з франтоў грамадзянскай вайны,— У. Іваноў, М. Булгакаў, К. Федзін, А. Вясёлы, М. Шолахаў, Л. Лявонаў, І. Бабель, А. Фадзееў, М. Зошчанка, А. Платонаў. Адны з гэтых мастакоў слова прадоўжылі традыцыі рускага класічнага апавядання, надаючы яму кожны нешта сваё, непаўторнае, другія шукалі новых формаў выяўлення і асэнсавання рэчаіснасці. І апавяданне ўзбагачалася, набывала раней не знаныя якасці. Галоўнымі героямі твораў рабіліся людзі працы, актыўныя будаўнікі новага, сацыялістычнага грамадства. «Маладое савецкае апавяданне,— піша вядомы аўтар і даследчык малога жанру прозы С. Антонаў,— увяло ў літаратуру новага героя, творцу рэвалюцыі. Учарашнія пралетарыі, парабкі, салдаты, што скінулі панскую манархію, вучыліся па-новаму жыць, па-новаму думаць, па-новаму адрозніваць дабро і зло. Яны адважна кіравалі камунамі, камандавалі дывізіямі і заводамі, ставілі спектаклі, самавукам асвойвалі замежныя мовы, рыхтуючыся да сусветнай рэвалюцыі. Такога героя старая літаратура не ведала».

Калектывізацыя, індустрыялізацыя, першыя пяцігодкі, нараджэнне новых гарадоў і новых адносін між людзьмі прынеслі нямала новага і ў літаратуру, у тым ліку і ў апавяданне. Сацыялістычны рэалізм як асноўны метад асэнсавання і адлюстравання рэчаіснасці атрымліваў перавагу і перамогу. Умацоўваліся сувязі між пісьменнікамі і літаратурамі розных народнасцей і нацый, узаемаўплыў і ўзаемапранікненне, ішло інтэнсіўнае ўзбагачэнне формаў і стыляў. Расла цікавасць да рэвалюцыйнага мінулага, да гісторыі свайго народа, да таго, што рабілася не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Выкрывалася мяшчанства, едка высмейвалася прыстасаванства, невуцтва, іншыя адмоўныя якасці. На ўвесь свой рост паўставаў чалавек новага тыпу, новага гарту — герой працы.

Праўда, з песні, як кажуць, слова не выкінеш, былі ў тыя гады і негатыўныя з'явы і тэндэнцыі, якія не лепшым чынам адбіліся на развіцці літаратуры, і, у прыватнасці, на развіцці апавядання. Яркае сацыялагічнае і псіхалагічнае даследаванне часта падмянялася неглыбокім лірызмам, слізганнем па паверхні з'яў і фактаў; газетны нарыс нярэдка выдаваўся за паўнакроўнае, паўнацэннае апавяданне.

Вялікая Айчынная вайна, калі на барацьбу з фашысцкімі захопнікамі падняўся ўвесь савецкі народ, патрабавала новых вымог і ад літаратуры. Трэба было, каб кожнае слова пісьменніка даходзіла да чытача, біла ворага. Факт, жыццёвая праўда бралі верх над вымысламі і домысламі, надзённыя задачы дыктавалі кожнаму быць на вастрыі падзей. Апавяданне ваенных гадоў — яркая старонка ў развіцці гэтага жанру, ва ўсёй савецкай літаратуры.

Плённыя для развіцця апавядання былі і пасляваенныя гады, калі залечваліся раны, адбудоўваліся разбураныя, знішчаныя акупантамі гарады і вёскі, вярталіся да мірнай працы былыя воіны і партызаны, ствараліся новыя сем'і. Апавяданне гэтых гадоў таксама стаяла вельмі блізка да нарыса. Але паступова яно разнастаілася, набывала зусім іншае, куды багацейшае гучанне, асабліва з прыходам у літаратуру В. Авечкіна, Г. Траяпольскага, Ф. Абрамава, Ю. Казакова, С. Нікіціна, У. Салаухіна, С. Залыгіна, В. Астаф'ева, В. Бялова, В. Шукшына, Я. Носава, В. Распуціна, Г. Сямёнава ды іншых.

Новымі гранямі таленту заззялі творы малой формы М. Шолахава, К. Паўстоўскага.

Напісалі выдатныя апавяданні і некаторыя паэты — А. Твардоўскі, А. Яшын, Я. Еўтушэнка...

На развіццё апавядання, як і ўсёй савецкай літаратуры, жыватворна паўплывалі падзеі, што адбыліся ў нашай краіне пасля

XX з'езда КПСС, усталяванне ленінскіх нормаў партыйнага жыцця і маралі, патрабаванне праўдзівасці і сумленнасці ва ўсім. Былі выдадзены і перавыдадзены многія творы тых пісьменнікаў, што замоўчваліся гадамі. Усё гэта ўзбагаціла савецкую літаратуру.

У сённяшняй рускай савецкай літаратуры працуе цэлае сузор'е талентаў. Нямала ўвагі аддаюць амаль усе яны апавяданню. У невялікіх па аб'ёме творах нярэдка падымаюцца вялікія, вельмі важныя для грамадства і людзей праблемы. Адна з характэрных і галоўных рысаў сучаснага савецкага апавядання — яго актыўнасць, дзейснасць. І яркая таленавітасць большасці аўтараў, якая і дае магчымасць кожнаму з іх выявіць і свой непаўторны стыль, і сваё разуменне жыцця, і свой індывідуальны падыход да з'яў, падзей і чалавечых лёсаў.

Рускае савецкае апавяданне — незвычайная школа для ўсіх пісьменнікаў і сапраўдная радасць для чытачоў — шчырых і зацікаўленых аматараў прыгожага пісьменства.

*Барыс Сачанка,*
*лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР*

## Аляксандр Серафімовіч

# ЧЫРВОНАЕ СВЯТА

Як алей з вадою, колькі іх ні трасі, упарта расслойваюцца,— так ворагі рэвалюцыі панура пакідаюць вуліцы, плошчы, даючы месца рабочым, і пачынаюць шырока ўзносіцца святочныя рэвалюцыйныя сцягі.

Аўтамабіль нястомна нясецца ўперад, халодны асенні вецер рэжа вочы, выціскаючы слёзы. Міма з абодвух бакоў праносяцца шэрыя калоны рэвалюцыйнай арміі і бясконца чорныя постаці рабочых.

Чаму твары спакойныя?

Не, не весела-святочныя, не з усмешкамі, а спакойныя спакоем рашучасці, спакоем перажытых перамог, перажытых і цяперашніх болю і горычы. Тяжкий млат, дробя стекло, кует булат.

Чырвоныя палотнішчы палыхаюць на вуліцах. Пад шэрым халодным кастрычніцкім небам чырвоны горад.

Ніводнага «шляхетнага, чыстага пана», ніводнай «шляхетнай» дамы. Вецер свішча і ніжа навылёт. Ці не затрэсла іх холадам?

Чые ж гэта злосныя вочы блішчаць за шыбамі вокнаў?

Вось пачатак бясконцай дзіцячай калоны. У гэтых твары вясёлыя. Яшчэ не прыйшоў час накласціся на іх адбітку спакойнай рашучасці, засяроджанай сур'ёзнасці. На іх тварах усмешкі і смех, яны паварочваюцца адзін да аднаго, махаюць нам. І раптам успыхвае дзіцячае «ўра», нечаканае і радаснае, яно коціцца з намі ўздоўж іх бясконцай калоны.

Можа, ад таго, што аўтамабіль хутка нясецца, захлёбваюцца, трапечуцца на ім чырвоныя сцяжкі, і мы сядзім, мы — даўно знаёмыя, нічога, што ніколі не бачыліся,— бо гэта ж пралетарскія дзеці, а ў чырвоным аўтамабілі могуць ехаць толькі іх сябры.

Чые ж гэта вачаняты гараць дапытлівасцю, блішчаць за шыбамі вокнаў?

Хлапчук з пасінелымі ад холаду рукамі нясе сцяг — чырвоны сцяг, а вецер валіць яго, а ён змагаецца, і ад гэтага яшчэ мацнейшымі раскатамі, абганяючы нас, ляціць цудоўнае дзіцячае «ўра».

Аўтамабіль перадыхнуў і пайшоў павольна.

Ну, што б ім яшчэ такое зрабіць? Ну, падскочыць, ляпнуць рукою па кузаве ці пусціцца з намі навыперадкі? Але ж калона не пускае, дый дзіцячая дысцыпліна ўжо кладзецца на вясёлае свавольства.

Аўтамабіль напружыўся, замармытаў, і пайшлі мільгаць дамы, а за шыбамі то злосны бляск дарослых вачэй, то мілыя, поўныя дапытлівасці вачаняты дзяцей. І далёка ўжо мільгаюць плямкі чырвоных сцягоў, тухне далёкае дзіцячае «ўра».

Вось Увядзенскі тэатр Ляфортаўскага раёна ўспыхнуў чырвоным заравам рэвалюцыйнага ўбранства, і, як чорныя пацеркі, рабочы народ уздоўж выгнутага парапета. Чырвоная трыбуна.

Зрываецца, адносіцца ветрам, гучыць музыка.

Усё бліжай і бліжай. Стройна, па-маладому ідуць рады рэвалюцыйнай арміі міма рабочых, якія яе стварылі.

Ну і што з таго, калі не ўсе ў форме — некаторыя ў капелюшах, а хто і ў пінжаках,— нічога, калі спатрэбіцца, будуць адважна змагацца за тых, хто цяпер на іх глядзіць.

Не міма генералітэту, не міма князёў і саноўнікаў — міма братоў, міма рэвалюцыйнага пралетарыяту ідуць чырвоныя баявыя рады, і шырока палошчуцца чырвоныя рэвалюцыйныя сцягі — за сацыялізм.

Аўтамабіль, паднапяўшыся, вырываецца з плошчы, і зноў бягуць чырвоныя гірлянды, востра вытыркаюцца чырвоныя, толькі што створаныя вежы.

І кожны раён, міма якога прабягае аўтамабіль, успыхвае чырвоным заравам убранства, успыхваюць чырвоныя трыбуны.

Так, свята!

І ўсюды яно гучыць урачыста, гучыць магутным акордам чырвонага зарава, велічнага спакою, і ў маўчанні тых, чые вочы з нямою нянавісцю ніжуць шыбы дамоў,— ніводнага здрадніцкага стрэлу.

Велічна і ўрачыста над чырвоным горадам у гуле халоднага ветру, які хвалюе сцягі і флагі, гучыць чырвонае пралетарскае свята.

Красная плошча.

Здыміце шапкі: магілы тых, хто да дна выпіў чырвоную чашу пакут за братоў сваіх!

Васілій Блажэнны, старэнькі і сівенькі, глядзіць, не разумеючы, на рады рабочай працоўнай і баявой арміі, што крочаць міма высокай чырвонай трыбуны. Грукочуць гарматы, прыземіста паўзуць аўтамабілі, браневікі, шчыльна крочыць пяхота, стрымліваючы гарачых коней, праходзіць кавалерыя.

А за ланцугом, дзе шэрыя гледачы,— ніводнага кацялка, ніводнага капелюша з пёрцамі і... ніводнага стрэлу.

На Хадынцы зноў ідуць войскі. На трыбуне камісар, некалькі былых генералаў, палкоўнікаў.

Салдацік у натоўпе гледачоў гаворыць:

— Гэта што ж, цётку іх за нагу! Што ж гэта — зноў у нас генералы ды палкоўнікі, як і раней?

І сказаў рабочы, павярнуўшыся да яго:

— Таварыш, яны нам патрэбныя, толькі не так, як раней, а як спецыялісты. А на выпадак чаго справіцца з імі мы заўсёды здолеем: бо перад імі не тое святое шэрае быдла, а мы.

І, можа быць, у раскацістым акордзе вялікага пралетарскага свята гэта прагучала найбольш цвёрда — нібы падкрэсліла тое, што адбылося навокал.

*1918*

## Вікенцій Верасаеў

# СПАБОРНІЦТВА

## I

Калі спаборніцтва было аб'яўлена, ніхто ў горадзе не сумняваўся, што выканаць задачу здольны толькі Двойчы-Венчаны — на ўвесь свет праслаўлены мастак, гонар горада. І толькі сам ён адчуваў у душы сякі-такі страх: ён ведаў сілу маладога Адзінарога, свайго вучня.

Вяшчальнікі хадзілі па горадзе і прывычна зычнымі галасамі апавяшчалі на скрыжаваннях прынятую пастанову народнага сходу: аб'явіць спаборніцтва на карціну, якая адлюстроўвае прыгажосць жанчыны; карціна гэта, вялізных памераў, будзе выстаўлена ў цэнтральнай нішы порціка на плошчы Прыгажосці, каб кожны прахожы здалёк мог бачыць карціну і няспынна славіць тварца за радасць, якую даў ён свету.

Роўна праз год, у месяц вінаграду, карціны павінны быць выстаўлены на ўсенародны суд. Чыёй карціне выпадзе гонар упрыгожыць сабою найлепшую плошчу вялікага горада, той будзе ўзнагароджаны шчадрэй, чым калісьці ўзнагароджвалі цары: трайны лаўровы вянок аздобіць яго галаву, і пераможца будзе насіць імя — Тройчы-Венчаны.

Так выкрыквалі вяшчальнікі на скрыжаваннях і рынках горада, а Двойчы-Венчаны, у дарожным капелюшы і з клункам за плячамі, з кізілавым кійком у руцэ і золатам у поясе, ужо выходзіў з горада. Сівая барада яго варушылася пад ветрам, вялікія, заўсёды сумныя вочы пазіралі ўверх, у горы, куды паднімалася паміж вінаграднікаў камяністая дарога.

Ён ішоў па свеце шукаць найвышэйшую Прыгажосць, увасобленую ў жаночым вобразе.

Каля хаціны за плятнём чарнакудры юнак сек сякерай ламачча на грабовай калодцы. Ён убачыў падарожніка, выпрастаўся, адкінуў кучары з загарэлага твару і радасна бліснуў зубамі і бялкамі вачэй.

— Настаўнік, радуйся! — весела прывітаў ён падарожніка.

— Радуйся, сын мой! — адказаў Двойчы-Венчаны і пазнаў Адзінарога, любімага свайго вучня.

— У далёкую дарогу ідзеш ты, настаўнік. Капялюш у цябе на галаве і клунак за плячамі, і сандалі ў цябе з цвёрдай буйлавай скуры. Куды ідзеш ты? Зайдзі пад мой дах, бацька мой, асушым з табою па кубку добрага віна, каб мне пажадаць табе шчаслівай дарогі.

І з вялікай паспешнасцю адказаў Двойчы-Венчаны:

— З радасцю, сын мой!

Адзінарог з размаху ўвагнаў бліскучую сякеру ў калодку і радасна крыкнуў:

— Зорка! Хутчэй сюды. Нясі нам найлепшага віна, сыру, вінаграду!.. Незвычайная радасць завітала да нас у хату, настаўнік мой прыйшоў да мяне!

Яны селі перад хацінаю, у цяні вінаградных лоз, што звешвалі над іх галовамі чорныя свае гронкі. Нясмела, але з глыбокай пашанай паглядаючы на волата, Зорка паставіла на стол збан з віном, драўляныя талеркі з сырам, вінаградам і хлебам.

І спытаўся Адзінарог:

— Куды ты бярэш кірунак, настаўнік?

Двойчы-Венчаны паставіў кубак і здзіўлена паглядзеў на яго.

— Хіба ты не чуў, пра што трэці дзень крычаць вяшчальнікі на плошчах і скрыжаваннях горада?

— Чуў.

— І... думаеш удзельнічаць у конкурсе?

— Думаю, настаўнік. Ведаю, што давядзецца змагацца з табою, але такая барацьба не можа быць для цябе крыўднай. Ведаю, што барацьба будзе цяжкая, ды не мастак той, хто спужаўся б яе.

— Я так і думаў. Ведаю і я, што барацьба чакаецца цяжкая і перамагчы цябе будзе нялёгка. Калі ж ты ідзеш у дарогу?

— Куды?

— Як куды? Шукаць тую найвышэйшую Прыгажосць, якая дзе-небудзь ды павінна ж быць. Знаходзіць яе, у каго б яна ні была ўкладзена — ці ў гордую царэўну, ці ў дзікую пастушку, ці ў смелую рыбачку, ці ў ціхмяную дачку вінаградара.

Адзінарог бесклапотна ўсміхнуўся:

— Я ўжо знайшоў яе.

Сэрца Двойчы-Венчанага забілася павольнымі, моцнымі штуршкамі, грудзям не ставала паветра, а сівая галава скаланулася. Ён асцярожна спытаўся, не спадзеючыся атрымаць праўдзівага адказу:

— Дзе ж ты знайшоў яе?

— А вось яна!

І Адзінарог паказаў на Зорку, сваю каханую. Позірк яго быў адкрыты, бясхітрасны.

Двойчы-Венчаны здзіўлена глядзеў на яго.

— Яна?

— Але ж!

Галава старога перастала калаціцца, і сэрца забілася роўна. І загаварыла ў ім пачуццё настаўніка.

— Сын мой! Твая каханая — мілая, я не спрачаюся. Шчаслівы той, чыю шыю абдымаюць такія стройныя залацістыя рукі, да чыіх грудзей прытуляюцца гэтыя чароўныя грудзі. Але падумай: ці тая гэта прыгажосць, якая павінна завалодаць пачуццямі людзей.

— Тая, менавіта тая самая. Няма ў свеце і не можа быць прыгажосці вышэйшай за прыгажосць маёй Зоркі,— з захапленнем сказаў Адзінарог.

І ўзяло на хвіліну сумненне Двойчы-Венчанага: можа, падмануў яго вопытны позірк, а можа, не заўважыў ён чаго ў гэтай дзяўчыне, што пануры́ўшыся стаяла ў гарачым цяні вінаградніку? Асцярожна і дапытліва ён агледзеў яе. Звычайная дзяўчына, якіх усюды можна сустрэць дзесяткі. Шырокі твар, крышку коса прарэзаныя вочы, трошкі рэдка пастаўленыя зубы. Вочы мілыя, вялікія, але і ў іх нічога асаблівага... Закаханыя заўсёды сляпыя!

У грудзях у настаўніка забіўся радасны смех, але твар застаўся сур'ёзны. Ён устаў і, утойваючы хітрасць, сказаў:

— Можа, і твая праўда. Шчаслівы ты, што так блізка знайшоў тое, што мне давядзецца шукаць так далёка і доўга... Радуйся! І ты радуйся, шчаслівая паміж дзяўчат!

Калі Двойчы-Венчаны выйшаў на дарогу, ён з палёгкай супакоена ўздыхнуў: адзіны небяспечны сапернік сам, у сваім любоўным асляпленні, сышоў з яго шляху. Спіна старога выпрасталася, і, скарачаючы дарогу, ён бадзёра пайшоў пад гару па белых камянях рэчышча перасохлага горнага ручая.

## II

Двойчы-Венчаны пераходзіў з горада ў горад, з вёскі ў вёску, пераплываў з вострава на востраў. Не ведаючы стомы, шукаў ён дзяўчыну, у якую прырода ўклала самую лепшую сваю прыгажосць. Ён шукаў у вінаградніках і рыбацкіх хацінах, у храмах і на кірмашах, у вілах багатых паноў, у палацах усходніх цароў. Славутае імя яго адчыняла перад ім усе дзверы, рабіла яго ўсюды жаданым госцем. Але нідзе ён не знаходзіў той, якую шукаў.

Аднойчы, у месяц вятроў, за морам, ён убачыў каля гарадскіх варотаў усходнюю царэўну, што ехала на мулах, спыніўся і з хвіліну прагна глядзеў на яе зіхатлівую прыгажосць.

І падумаў, вагаючыся:

«Можа, яна?»

Але адразу ж перасіліў сябе, адвярнуўся і рашуча пайшоў далей.

«Можа? Значыць, не яна... Сапраўдная прыгажосць як святляк,— сказаў ён сабе.— Калі ўночы шукаеш у лесе светлякоў, часта здараецца: раптам спынішся — «стой! Здаецца, святляк!» Здаецца?.. Не спыняйся, ідзі далей. Гэта бялее ў цемры каменьчык або кветка анемона, гэта лапік месячнага святла ўпаў у гушчары на завялы лісток. Калі ясным сваім святлом, пранізваючы цемру, засвеціцца святляк, тады не пытаешся ў сябе, тады проста і ўпэўнена гаворыш: «Гэта ён!»

Месяц ішоў за месяцам. На моры адшумелі буры раўпадзенства, асыпалася лісце з дубоў. Усё ніжэй пачало хадзіць сонца, усё глыбей заглядваць у вокны хацін. Туманныя цені папаўзлі па хвалях астылага мора. Горы надзелі на галовы белыя шапкі, ледзяны вецер гнаў па далінах сухі, шорсткі снег. Перад світаннем выбягаў з-за гор нябесны Стралец і цэліўся стралою ў выгнутую спіну бліскучага Скарпіёна. Болей стала цяпла.

А Двойчы-Венчаны вандраваў.

Быў месяц фіялак. Падарожнік размясціўся на начлег на пясчаным беразе бухты. Глынуў з флягі віна, закусіў кавалкам чэрствага ячменнага хлеба з авечым сырам, зрабіў сабе пасцель: нагроб на ўзгалоўе марскога пяску, паслаў бурку і схіліўся на пасцель галавою.

У целе была стома, у душы — адчай. Ніколі, ніколі,

здавалася яму, не знойдзе ён таго, чаго шукае. Не знойдзе, бо не здольны знайсці.

З паўднёвага боку, ад гор, дзьмуў цёплы вецер, і ўвесь ён быў прасякнуты водарам фіялак. Там, на горных перавалах, лясныя палянкі ўкрыты суцэльнымі дыванамі фіялак. Сёння ўвечары ён ішоў сцежкаю па гэтых перавалах і захапляўся ўсім навокал і ўдыхаў цнатлівыя пахі ранняй вясны. А цяпер, калі змрок ахутаў горы, калі цёплы ветрык здалёку даносіў водар фіялак, яму здавалася: там усё чароўна і таямніча... А пойдзе туды, бліз-ка,— і зноў прыгажосць аддаліцца, і зноў будзе добра, але не тое... Што ж гэта за чараўніцтва ў сусветнай прыгажосці, што яна вечна ўцякае ад чалавека, вечна недаступная і загадкавая і не ўкладваецца ў цэлым ні ў якія формы прыроды!

Аглянуўся Двойчы-Венчаны на ўсё, што стварыў за сваё жыццё, што зрабіла яго славутым на ўвесь свет, і прыпаў тварам да ўзгалоўя. Брыдка стала яму і сорамна за няўмелыя яго намёкі на тое вялікае і недасягальнае, што насілася перад яго тужлівымі вачамі і чаго ніяк ён не мог увасобіць у формы і фарбы.

Так ён і заснуў, уткнуўшыся тварам у сваю бурку. З гор усё дзьмуў цёплы вецер, прасякнуты водарам фіялак, і ўздыхала ўздоўж берага мора, якое вечна тужыла і не знала спакою.

Калі Двойчы-Венчаны ачнуўся, над морам займаўся зеленавата-залацісты золак. Горы, кусты, калючая трава на беразе стаялі ў роўным змроку — аб'яднаныя, яны мякка свяціліся; святло абдымалася з ценем. Потым запалала над морам вялізнае зыркае вогнішча, без дыму і чаду, павольна вылецела з яго сонца і стукнула промнямі па зямлі. І адхіснулася святло ад ценю, і раз'ядналіся яны. Ярчэйшае стала святло, чарнейшы зрабіўся цень.

Двойчы-Венчаны зірнуў на змрочныя горы, што патанулі ў цяні. Зірнуў — і ўсхапіўся на ногі хутка, бы юнак. З перадгорнага ўзгорка, залітая промнямі сонца, спускалася зграбная дзяўчына ў вянку з фіялак. І здрыганулася душа ў мастака да самых глыбінь, і адразу, без вагання, без пытанняў, радасна ўсклікнула душа:

— Гэта — яна!

Двойчы-Венчаны стаў на калені і з незвычайным захапленнем працягнуў рукі да прамяністай дзяўчыны.

## III

Надышоў месяц вінаграду. Плошча Прыгажосці, як мора, шумела народам. У глыбіні плошчы ўзвышаліся два вялізныя, аднолькавага памеру, прамавугольнікі, завешаныя палатном. Каля аднаго стаяў Двойчы-Венчаны, каля другога — Адзінарог. Натоўп з замілаваннем глядзеў на ўпэўнены, сурова-спакойны твар Двойчы-Венчанага і пасмейваўся, пазіраючы на бледны пад загарам твар прыгажуна Адзінарога.

Людзі крычалі:

— Адзінарог! Уцякай са сваёю мазнёй, не сарамаціся.

Адзінарог у адказ трос кучаравымі валасамі і задзірліва ўсміхаўся, бліскаючы зубамі.

Стары ў пурпуровым плашчы і з залатым абручом на галаве ўдарыў палачкай са слановай касці па сярэбраным звоне.

Усе прыціхлі. Стары падняў палачку да карціны Двойчы-Венчанага. Палатно слізганула ўніз.

Высока над натоўпам стаяла, азораная сонцам, у вянку з фіялак, дзяўчына, якая спускалася з вышыні. За ёю грувасціліся цёмна-шэрыя выступы суровых гор, яшчэ не кранутых сонцам. Па натоўпе пранёсся гул, і раптам на плошчы зрабілася ціха, як у спякотны поўдзень у горным лесе.

Велічна-спакойная, стаяла дзяўчына і глядзела на натоўп вялікімі вачамі, яснымі, як ранняе неба пасля навальніцы. Ніхто ніколі яшчэ не бачыў на свеце такой прыгажосці. Яна сляпіла вочы, хацелася засланіць іх, як ад сонца, якое толькі што выйшла з мора. Але падала рука, не дайшоўшы да вачэй, бо не маглі вочы адарвацца ад убачанага. А калі адрываліся і пазіралі па баках, было з імі, як быццам яны глянулі на сонца, якое толькі што выйшла з мора: усё навокал здавалася цёмным і невыразным. Цела, якога яшчэ не абдымала ні адна мужчынская рука, свіцілася праз лёгкую тканіну. Але не было пажадлівасці. Было толькі малітоўнае схіленне і шчаслівы, незямны смутак.

Цёмныя горы былі за дзяўчынаю, і цёмна зрабілася наўкол на плошчы. Дзяўчаты і жанчыны сарамліва адварочвалі твары ўбок, а юнакі і мужчыны глядзелі на Фіялкавенчаную, пераносілі позірк на сваіх каханых і пыталіся ў сябе: што ж падабалася ім у гэтых няўклюд-

ных целах і звычайных тварах, у гэтых вачах, цьмяных, бы куродымны начнік?

Стары паганяты мулаў з адутлаватым тварам і шчацінаю на падбародку скоса аглядваў сваю старую: была яна тлустая, з адвіслым падбародкам і вялізнымі грудзьмі, з тварам, чырвоным ад кухоннага чаду. Зірнуў ён зноў на Фіялкавенчаную і зноў на жонку. Балюча зашчымела сэрца. З кім жа яму давядзецца жыць да канца сваіх дзён.

Доўга стаялі маўклівыя людзі, поўныя глыбокай пашаны, і глядзелі, і нешта шапталі. І ўсеагульны ўздых свяшчэннай вялікай тугі пранёсся над натоўпам.

Стары ў чырвоным плашчы строс з сябе зачараванне і ўстаў. Твар яго быў строгі і ўрачысты. З намаганнем, нібы робячы вымушанае блюзнерства, падняў ён палачку да другой карціны.

## IV

Покрыва ўпала.

Шум збянтэжанасці і абурэння прайшоў па плошчы. На ўслоне, абхапіўшы калена рукамі, падаўшыся тварам наперад, сядзела і глядзела на натоўп — Зорка! Людзі не верылі вачам і не верылі, каб да такога нахабства мог дайсці Адзінарог. Праўда, Зорка! Тая самая Зорка, што раніцамі вяртаецца з рынку, несучы ў кошыку паўдзесятка кефаляў, пучкі часнаку і пятрушкі, тая самая Зорка, што матычыць за горадам свой вінаграднік і вечарамі доіць на панадворку коз. Сядзіць, абхапіўшы калена рукамі, і пазірае на натоўп. За ёй — аблупленая сцяна ў хаціне і вушак, над галавою — вінаградныя лісты, чырвоныя па краях, паміж іх — цяжкія шызыя гронкі, а вакол яе — напоены сонцам цень. І ўсё. І была яна на карціне такая самая вялікая, локцяў на дваццаць, як і незвычайная дзяўчына на суседняй карціне.

— Хоць з гару велічынёй намалюй, лепшая не стане! — крыкнуў гарэзлівы голас.

І ўсе засмяяліся. Пачуліся свіст, шыпенне. Нехта крыкнуў:

— Камянямі па ім!

І іншыя падхапілі:

— Закідаць камянямі!

Але вось шум пакрысе пачаў сціхаць. Раты, што гарлапанілі і рагаталі, стуліліся, паднятыя з камянямі рукі

апусціліся. І раптам зрабілася ціха. Так часам нечакана наляціць з гораў вецер — завые, заўецца, падніме да неба вулічны пыл — і раптам упадзе, нібы ў зямлю ўвойдзе.

Людзі глядзелі на Зорку, і Зорка глядзела на іх. Адзін юнак ад здзіўлення пацісnуў плячамі і сказаў другому:

— А ведаеш, я дасюль не заўважаў, што Зорка такая чароўная. Табе не здаецца?

І другі адказаў задумліва:

— Дзіўна, але праўда. Вачэй не адвесці.

Высока ўзняўшы бровы, нібы прыслухоўваючыся да нечага, Зорка глядзела перад сабой. Ледзь прыкметная шчаслівая ўсмешка застыла на губах, а ў вачах быў сарамлівы сполах і асалода здзіўлення перад нечаканым вялікім шчасцем. Яна працівілася, упіралася і, аднак, уся імкнулася наперад у радасным, неадольным парыве. І ўся неяк свяцілася. Быццам хтосьці, употай даўно каханы, нечакана нахіліўся да яе і ціха-ціха прашаптаў:

— Зорка! Кахаю!

Людзі маўчалі і глядзелі. Яны забыліся, што гэта — тая самая Зорка, якая носіць у кошыку рыбу з бліскучай луской і сярэбраныя пучкі часнаку, не заўважалі, што твар яе трохі шырокі, а вочы пастаўлены крыху коса. Здавалася, калі б яна была брыдкая, як качэўнікава дачка, з прыплюснутым носам і з вачамі-шчылінамі, то, асветленая гэтым цудоўным святлом, ператварылася б у небывалую прыгажосць.

Нібы сонца ўзышло высока над плошчаю. Радаснае, цёплае святло лілося ад карціны і асвятляла ўсё навокал. Кожнаму ўспомніліся найлепшыя хвіліны яго кахання. Тым самым святлом, што ззяла ў Зорцы, свяціўся твар, які раптам перамяніўся, яго каханкі ў час патаемных сустрэч, у хвіліны першых нясмелых пяшчотаў, калі нечакана выходзіць на свет і шырока распускаецца глыбока затоеная, вечная прыгажосць, што нас захапляе і якая закладзена прыродай ва ўсякую без выключэння жанчыну.

Праяснеўся твар старога паганятага буркуна, зірнуў ён на сваю старую, усміхнуўся і штурхнуў яе худым локцем у тлусты бок.

— А памятаеш, старая... Гы-гы!.. Каля вадапою? Ты

паіла коз, а я пераскочыў цераз пляцень... Малады месяц стаяў над гарой, цвілі дзікія слівы...

І сарамліва ўсміхнуўшыся, глянулі на яго з азызлага, барвовага твару знаёмыя, любыя, даўно забытыя вочы, і асвятліўся гэты твар водбліскам таго вечнага святла, што ішло ад Зоркі. Паганяты хіхікаў і выціраў бруднаю рукою слёзы на сваіх вачах, якія гнаіліся. І здавалася яму,— не ўмеў ён шанаваць таго, што ў яго было, і сам зрабіў сваё жыццё шэрым і бязрадасным.

Гэта быў ён, які першы крыкнуў на ўсю плошчу:

— Няхай будзе Адзінарог Тройчы-Вянчаны!

*1919*

## Барыс Пільняк

# НАСЛЕДНІКІ

### I

З Сакаловай гары, кажа паданне, прыйшоў Сценька Разін,— і ўжо ў кнігах ёсць пра тое, што адтуль жа падступаўся Емяльян Пугачоў. Сакалова гара стаіць над Волгаю і стэпам, панура абрынулася ў Волгу, разбойную рэчку. Стаіць горад над Волгаю. Каля Глебычавага яра, каля Старога сабора (стаіць каля Старога сабора пушка, Пугачовым пакінутая), у старым горадзе, на ўзвозе ад Волгі, засеўшы ад пазамінулага веку, стаіць стары дом з калонамі па фасадзе, пафарбаваны вохраю. Калісь у доме ішло баляванне і жыў славуты дваранскі род Ростаравых. Апошнія дваццаць гадоў у доме, разам з домам, памірала старая гаспадыня яго, Аксеня Давыдаўна, старая дзеўка. У тысяча дзевяцьсот семнаццатым кастрычніку яна памерла, і ў доме, сырым, халодным, разваленым, раскрадзеным, жылі — наследнікі. Параскідаліся былі па абліччы Расіі, наладжвалі сваё жыццё ў Пецярбурзе, Маскве і Парыжы, дваццаць гадоў дом пуставаў, канаючы,— прыйшла рэвалюцыя, ускінулася народная вольніца, і сваякі ростараўскага роду сабраліся ў сваё гняздо — ад рэвалюцыі, ад голаду.

Над стэпам, над Волгаю і горадам тварыліся мяцеліцы, скакалі снежныя коні — тварылася рэвалюцыя, вольная вольніца. Пакоі ў доме былі старыя, цёмныя, сырыя, халодныя. За вокнамі быў Стары сабор, і пад узвозам ляжала Волга, у белым снезе, з паўмарожванымі параходамі каля прыстаняў, на сем вёрст шырынёю.

Спачатку ў доме жылі камунаю. Але, відаць, камунізм занадта недасканалы для генералаў — разгарадзіліся, акапаліся кожны ў сваім пакоі, кожны з сваім гаршком і самаварам. Жывуць у доме злосна, паныла, марна, нік-

чэмна, праклінаючы рэвалюцыю і жыццё, жывуць адарваныя ад жыцця, па-за жыццём, павярнуўшыся да старога.

## II

У сем гадзін, калі яшчэ сінее муць, прачынаецца генерал Кірыла Львовіч, апранае аксамітны халат з кутасамі і, запаліўшы свечку ад лампады, ідзе ў прыбіральню. У прыбіральні холадна, дыміцца пара, на сядзенні, як у карчме, гразь і ледзяныя глетчары, генерал бурчыць строга, заціскае нос, потым будзіць жонку і бубніць:

— Ганна! Гэта чортведама. Гэта ччорт... Папытайся ў сваіх сваякоў, хто гэта псуе клазет,— у нас жа служанкі няма.

У пакоі цесна настаўлена рэчаў. Гэта і спальня, і гасцёўня, і сталоўка. У прыземістыя акенцы з цяжкімі шторамі ўплывае сіняя муць.

— У нас жа служанкі няма! Ччорт. Сёння ставіць самавар твая чарга. Гільзаў няма? — Генерал ходзіць па пакоі з рукамі назад, пальцы яго ў брыльянтах.

— А табе ісці ў раёнку па хлеб,— кажа Ганна Андрэеўна.

— Ведаю. Не ўмешвайся, калі ласка. У доме жыве чатыры сям'і і не могуць арганізаваць, каб па чарзе хадзіць па хлеб. Дай ліст паперы, чарніла і кнопкі.

Генерал сядае да стала і піша:

«Панове! У нас няма служанкі, мы самі павінны прыбіраць за сабою. Не кожны можа сядаць арлом, і таму прашу быць акуратней.

Кірыла Ляжнёў».

Кірыла Львовіч — не наследнік, з роду Ростаравых яго жонка, ён прыехаў з ёю. Кірыла Львовіч бярэ сваю аб'яву і вешае яе каля дзвярэй прыбіральні. Потым зноў ходзіць па пакоі, паблісваючы брыльянтамі, і бурчыць:

— Чорт ведае. Сяргей з сям'ёю займае тры пакоі, а мы адзін. Я з'еду адсюль. А яшчэ радня. Гільзаў няма?

Ганна Андрэеўна — ціхая, зняможаная, слабая — гаворыць стомлена:

— Ведаеш жа, што няма. Зараз пашукаю недакуркаў. Ліпа часамі кідае невывернутыя.

— Іч якія буржуі: недакуркі кідаюць, служанак маюць!..

У цёмным сустаўчастым калідоры навалена старызна, бо калідоры нікому не хочацца прыбіраць. Ганна Андрэеўна капаецца ў паперах і ў смецці каля печы Сяргея Андрэевіча, адчыняе дзверцы і бачыць, што хатняя работніца Лявонцеўна, аднавокі цыклоп, наклала дроў бярозавых, калі было згаворана паліць спачатку гнілякамі ад альтанкі. Генерал салодка курыць папяросу з «свайго» тытуню, потым ідзе на двор па дровы, прыносіць гнілякі. Самавар ужо гатовы, генерал п'е чай, многа і доўга, Ганна Андрэеўна паліць у калідоры сваю печ. Развіднівае марудна, па-зімоваму, мутна. За сцяною ўжо прачнулася Сяргеева сям'я: ён загадваў аддзяленнем у міністэрстве, і чутно, як яго жонка, Ліна, гаворыць дзецям:

— Кіра, ты ўжо шмат з'еў бялкоў, вазьмі вугляводаў.

— Калтоплі?

— Ну але.

— А тлусцы?

— Ты ўжо многа з'еў і тлушчу.

Генерал бурчыць:

— Не ядзяць, а харчуюцца!..— і адрэзвае сабе кавалак сала, з белым хлебам, чай п'е з салодкім коранем і сушанаю дыняю.

Дом прачынаецца паволі, па калідоры, каля адчыненых генералавых дзвярэй, ходзяць з начнымі гаршкамі, пустымі самаварамі, з зубнымі шчоткамі і ручнікамі, напалову адзетыя і заспаныя. Генерал п'е чай, усё гэта бачыць і злуецца. Бухае мужчынскімі ботамі цыклоп — Лявонцеўна, Сяргеева хатняя работніца, з біржы,— глядзіць гаспадарскім сваім адным вокам у печ Ганны Андрэеўны і кажа:

— А дроў-то вы як мае быць наклалі — многа.

Генерал адказвае з свайго пакоя:

— А вы бярозавыя ўзялі!

Цыклоп ускіпае, б'е сабе па сцёгнах,— пачынаецца чарговая сварка.

— Як?! Мне не вераць, за мною сочаць! Ліна Фёдараўна, разлічыце мяне, я ў біржу паскарджуся!

Ліна Фёдараўна крычыць ад сваіх дзвярэй:

— Як?! Ёй не вераць, за ёю сочаць! У нас у доме шпіянаж! А яшчэ інтэлігентныя людзі!

— А дровы-то ўсё ж бярозавыя!

— А яшчэ інтэлігенты!

Генерал паяўляецца ў калідоры і кажа строга:

— Не нам талкаваць, Ліна Фёдараўна. Мы тут не наследнікі. От мяне вельмі дзівіць, чаму Сяргей займае тры пакоі, а Ганна адзін,— вельмі і вельмі дзівіць!

## III

І сварка расце. Генерал апранаецца і ідзе, давольны, у чаргу па хлеб. Ліна бяжыць да мужа. Муж хоча перагаварыць з генералам, але таго ўжо няма, ён гаворыць з сястрою, Ганнаю Андрэеўнаю.

— Гэта немагчыма, гэта недапушчальна, гэта вывіжоўванне!

— Ды зразумей жа ты, што ўсё гэта з-за недакурка,— кажа паныла Ганна.

Ліна сядзіць наверсе ў Кацярыны і расказвае ёй усё да тонкасці падрабязна.

Ганна ідзе да Канстанціна, ліцэіста, малодшага брата. Канстанцін гаворыць, што ён заняты і зараз сядзе за стол пісаць, але неўзабаве кіруецца да Сяргея.

— Заняты?

— Што? — заняты, як бачыш.

— Можа, пакурым?

Кураць махорку, якую завуць «Кэпстэнам». Маўчаць.

— А то, можа, у шахматы? — кажа Канстанцін.

— Ды не хочацца,— кажа Сяргей.

— Ну — адзін раз?

— Хіба што адзін раз? Толькі адзін!

Садзяцца і гуляюць. Канстанцін апранены ў паношаны свой ліцэйскі мундзірчык, на пальцах у яго, як і ў генерала, як і ў Сяргея,— пярсцёнкі, на шыі даўні-даўні залаты ланцужок: рэч у тым, што, баючыся вобыскаў, усе каштоўнасці наследнікі падзялілі і носяць на сабе. Гуляюць адну партыю, потым другую, чацвёртую, шостую,— кураць, спрачаюцца, зноў згаворваюцца не браць назад хадоў. Генерал прыходзіць з рынку з чаргі і праходжваецца па калідоры, зазірае ў дзверы, нарэшце асмельваецца і заходзіць.

— Малакасосы, гуляць не ўмееце.

— Як умеем.

— Ну-ну! Ты не злуйся, не злуйся!.. Пагарачыліся — і хопіць. Калі я вінаваты — прабач старому. Я Кірку па газету паслаў — даў яму саракоўку на семачкі.

— Ды я і не злуюся.

— Ну, вось і добра. Вы кіньце гэтага персідскага шаха, давайце ў прэферансік.

І садзяцца на ўвесь дзень за прэферанс, перапыняюцца толькі на тое, каб схадзіць у свае пакоі паабедаць, у Сяргея на другую страву «студзіна» з вярблюдзіны. Калі Сяргей рамізіцца, ён гаворыць:

— А ўсё-такі, Кірыла Львовіч, у вас паганы характар!

— Ну-ну, малакасос!

## IV

Грошай няма. Апякункаю над уладаннямі прызначана Кацярына Андрэеўна. Мужчыны цяперашняга ладу не прызнаюць. Толькі ў Сяргея асталіся грошы ад прададзенага перад рэвалюцыяй маёнтка (нездарма ў яго работніца).

У Кацярыны сядзяць дзве дзяўчыны, якія прынцыпова пакінулі — адна гімназію, другая кансерваторыю, гавораць вяла і памагаюць абіраць бульбу. Праходзяць Ганна і Ліна, і ўсе разам спускаюцца ўніз, у камору, капаюцца ў даўнейшых строях, што асталіся ад бабулек, у розных фіжмах, рабронах, цюрнюрах, адкладваюць убок серабро, фарфор, бронзу — пасля абеду прыйдуць татары. У каморы пахне пацукамі, сцены ўстаўлены скрынямі, бауламі, чамаданамі, вісіць вялікі ржавы бязмен.

Калі прыходзяць татары, збіраюцца ўсе. Мужчыны садзяцца ўбаку. Татары — двое іх — рукаюцца, з усімі па чарзе. Генерал сапе. Самы стары татарын, у новенькіх галёшах на валёнках, кажа Кацярыне:

— Як паджываеце, пана?

Генерал закідвае нагу на нагу,ківае нагою, кажа строга:

— Будзьце ласкавы — ваша цана?

Татары перабіраюць старызну, абгаворваюць абыякава, даюць недарэчна малыя цэны. Генерал рагоча і спрабуе жартаваць. Кацярына злуецца, кажа нарэшце:

— Кірыла Львовіч, гэтак жа нельга!

Генерал ускоквае. Пярэчыць:

— Ну пэўна ж! Я не наследнік! Я магу пайсці.

Генерала супакойваюць, таргуюцца з татарамі, татары нядбайна падкідваюць на руцэ — даўнейшыя сукні з карункамі прыгоннай работы, старасвецкія ручнога вырабу шандалы, падзорную трубу, ацэтыленавы ліхтар.

У прыземістыя вокны зазірае змрок. У марозным шызым сутонні, як праз таўшчэзнае шкло, відзён Стары сабор, нашто памятаў Сценьку Разіна, перагукваюцца званы. Наварэшце татары б'юць па руках, шустра-прывычна згортваюць купленае ў какетлівыя пакуначкі, плацяць керанкі з пузатых бумажнікаў і пакідаюць дом.

Тады наследнікі дзеляць грошы. Сядзяць у гасцёўні. Акенцы ў шторах; вісяць у марлі (гадоў дваццаць не здымалася марля) кенкены і люстры, партрэты. Стаіць жоўты дубовы раяль, плюш на мэблі выцерся, палысеў. У пакоі кладзецца палосамі сіні змрок. Наследнікі апранены экзатычна: генерал у халаце, вышываным золатам, з кутасамі; Сяргей у чорнай мікалаеўцы, з бабром; Ліна ў заечым кабаце; Кацярына, апякунка, старэйшая, з вусамі,— у асеннім мужчынскім паліце, ніжняй спадніцы і ў валёнках,— у доме холадна. На ўсіх панадзяваны каштоўнасці — пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, калье.

Сяргей гаворыць няхрабра:

— Цяпер цяжкі, па сутнасці, час,— я прапаную падзяліць суму па колькасці едакоў.

— Я не наследнік,— устаўляе скоранька генерал.

Канстанцін адказвае з халоднаю ўсмешкаю:

— Я не падзяляю сацыяльных поглядаў. Трэба падзяліць па колькасці наследнікаў.

Спрачаюцца. У вокны ўпаўзае сіні вечар, перагукваюцца званы. Пагаджаюцца цяжка. Кацярына прыносіць самавар, усе ідуць па свой салодкі корань і па хлеб, п'юць чай, давольныя, што не трэба ставіць самавара.

Раптам нечакана-паныла гаворыць генерал:

— У тым цюрнюры, які толькі што прадалі, я паручнікам-жаніхом сустрэў упершыню цётачку Аксеню... Калі гэтак пойдзе далей... Калі б мне сказалі, што бальшавікі прабудуць яшчэ год,— я б застрэліўся. Я мучуся. Мне вельмі баліць. А я ж — стары... Не варта жыць.

І зноў былі слёзы. Плакаў па-старэчы генерал. Плакала, усхліпваючы басам, вусатая Кацярына. Плакала Ганна Андрэеўна. У кутку, абняўшыся, стаялі дзве дзяўчыны і таксама плакалі — іх маладосць і п'янае віно дзявочасці асталіся наводшыбе.

— Калі была б магчымасць,— кажа Кацярына,— я пачала б расстрэльваць, усіх.

Увайшлі Сяргеевы дзеці, Кіра і Іра. Ліна сказала:

— Дзеці, вазьміце сабе бялкоў.

Кіра намазала хлеб маслам.

## V

У небе ўзышоў месяц. Зоркі сталі яркія, сухія. Снег сіні. Волга анямелая. Месца каля Старога сабора глухое, бязлюднае. Мароз скоўвае, цісне. Паненкі Аксеня і Алена, Сяргей, генерал — ідуць катацца з узвоза на саньках. Канстанцін ідзе ў горад, у клуб какаіністаў — какаініцца, гаварыць саладжавыя мудрасці і цалаваць рукі ў жанчын, прапахлых целам. Лявонцеўна, пакаёўка з біржы, цыклоп, лажыцца ў кухні на лаўку, моліцца перад сном і засынае, натомленая за дзень,— паважная, непакорная.

Генерал стаіць каля ганка. Сяргей выносіць санькі, садзяцца трое — Аксеня, Алена і ён — і імчацца па рыпучым снезе ўніз, на волжскі лёд. Санькі ляцяць імкліва, рыпяць і падымаюць пырскі снегу, мароз колецца і не дае дыхаць.

Мароз страшэнны, жорсткі, пякучы. Генерал надзімаецца, як верабей, мерзне, крычыць з ганка:

— Сяргей! Сёння такі мароз, што могуць лопнуць водаправодныя трубы. Трэба выставіць на ноч дзяжурства.

Магчыма, Сяргею, што неўзабаве стане таксама дзедам, хуткая сонечная імклівасць дае адчуванне шчасця,— ён крычыць:

— Глупства!

І зноў шалёна шыбуе ўніз ад Старога сабора, на Волгу, за барліны і параходы, у прастору сіняга лёду, што гарыць мігатлівымі сняжынкамі.

Але генерал ужо ўсхваляваўся. Ён ідзе ў дом, падымае ўсіх на ногі:

— Панове! Калі мы перастанем патроху спускаць ваду, водаправод замерзне — трубы лопнуць. Мароз — дваццаць сем.

— Дык жа крап у кухні. Там спіць Лявонцеўна,— кажа Ліна.

— Разбудзіць!

— Яшчэ чаго!

— Нічога страшнага.

Генерал ідзе ў кухню, тармосіць Лявонцеўну, тлумачыць.

Лявонцеўна грозіцца:

— Я ў біржу пайду! Не даюць спаць! Лезуць да нераздзетае жанчыны.

Ліна ляпеча за Лявонцеўнай:

— Яна ў біржу пойдзе! Не даюць спаць! Лезуць к жанчыне...

Прыбягае Сяргей.

— Не чапайце, прашу вас. Я ручаюся. Дайце Лявонцеўне спаць!

Генерал гаворыць пакрыўджана:

— Вядома, я ж не наследнік.

## VI

Над стэпам, над Волгаю, над горадам ідзе ноч, ідзе мароз. У мезаніне нудзяцца Аксеня і Алена. Генерал не можа заснуць. Канстанцін прыходзіць позна, ціхенька прабіраецца да Лявонцеўны. У вокны дома ідуць сінія месячныя пласты святла.

Водаправод за ноч перамёрз і лопнуў.

*Саратаў. Студзень, 1919*

Іван Новікаў

# АРКАДЗЬ ПЯТРОВІЧ І МЫШ

У дні Вялікай рэвалюцыі, якую сёння вывучаюць ужо і школьнікі па класе гісторыі, здарылася ў Маскве адна маленькая і трохі забаўная нейкім чынам гісторыя, пра што і хачу тут расказаць. Чуў я яе ад самога Аркадзя Пятровіча, тады ўжо старога, ціхмянага і сціплага, а галоўнае — на рэдкасць праўдзівага і ўжо зусім не выдумшчыка. Калі б самі вы ведалі яго гэтак блізка, як давялося ведаць мне, то, вядома, ні на хвіліну не ўсумніліся б у шчырасці яго апавядання, як не сумняваюся і я; але паколькі лёс наўрад ці зводзіў вас з ім — быў ён вялікі дамасед дый вялікі маўчальнік,— то прашу паверыць мне на слова.

Жыў у тую пару Аркадзь Пятровіч у адным з найцішэйшых, паміж Прачысценкай і Астожанкай, завулкаў, хадзіў, як і ўсе, на службу, а вечарамі, а то і доўгаю ноччу любіў пісаць для сябе, почыркам дробным і бісерным.

Гэтыя яго запіскі, самага сціплага з грамадзян рэспублікі, гартаў я не раз, а сёе-тое прачытаў і зусім уважліва; нямала там цікаўнага ад той цікаўнай пары, і калінебудзь асобныя старонкі з іх я выцягну на свет божы ды на ваш суд. Захоўваюцца яны з вялікай любасцю і клапатлівасцю ў дачкі нябожчыка, Марыны Аркадзеўны. У часе той гісторыі з мышкай была яна, зрэшты, зусім яшчэ дзяўчынка, гадкоў шасці альбо сямі, наўрад ці больш таго; усё-такі і яна сякія-такія падрабязнасці памятала.

Аркадзь Пятровіч наймаў толькі адзін пакой, невялікі, але добры; любіў ён парадак. За сцяною жылі гаспадары — рабочы-механік з жонкай; абое яны з раніцы ішлі на працу, аднак жа гаспадыня была да кватаранта свайго ўважлівая і прыхільная, у сім-тым памагала і ад душы шкадавала Марышу, вясёлую дзяўчынку, што ёй даводзілася цэлымі днямі заставацца адной. Але хоць

жабрацкае і галоднае было гэта жыццё, ні сам Аркадзь Пятровіч, ні дзяўчынка па лёс не паракалі.

Марышу гэта дзённая адзінота таксама не прыгнятала: дзяўчынка мела лагодны характар і, як бацька, была фантазёрка, само прыбіранне іх пакоя ўспрымалася ёю кожны раз па-іншаму, але заўсёды як прывабная і вясёлая прыгода ці казачнае падарожжа па няведаных краінах.

Калі канчала свае справы і пажавала на снеданне скарынку хлеба ці халоднай бульбы з соллю, даставала яна з шафы тоўстыя кніжкі з малюнкамі, садзілася да стала на бацькава месца, і час ляцеў так хутка, што кожны раз нечаканы бываў бацькаў званок. Ён прыносіў ёй са службы паесці, а вечарам, калі наступаў змрок, распальвалі сваю жалезную «пчолку» і самі гатавалі вячэру. Гэта, бадай, быў самы лепшы час: чарадзейнае цяпло, вясёлы агеньчык, само паветра ў пакоі рабілася смачнае; абое яны нязмоўкла лапаталі.

Марышу Аркадзь Пятровіч сам раздзяваў і клаў спаць; час быў позні, начны. І чуе Аркадзь Пятровіч, як нехта настойліва драпае па паперы. Ці не здалося яму часам? Адклаў пяро, прыслухаўся. Ціха. Ды толькі зноў: драп-драп!.. Агледзеўся навокал, няма нікога, і гукі змоўклі. Зноў нахіліўся да стала і пачаў бісерам выводзіць на паперы тое, што яго клапаціла ў гэты ціхі начны раздумлівы час.

Аркадзь Пятровіч пісаў:

«Цяжка стала быць добрым; раней лёгка і нічога нават не каштавала. Цяпер жа і скарынку хлеба падаць — адабраць у сябе. Але тут вось і трэба...»

І здалося Аркадзю Пятровічу, што на яго струменіцца нейчае тонкае дыханне. Узняў ён вочы, а на краі стала — мышка. Стаіць і глядзіць. «Дык гэта яна была за шпалерамі...» — падумаў Аркадзь Пятровіч і пачаў глядзець на госцю неспадзяваную.

Мышка была целаскладу слабага, зусім мізэрная, акрамя таго, мабыць, і схуднела на галодных харчах: ножкі такія малюпасенькія, як у дзіцяняці-мышаняці. Стаіць яна і глядзіць, толькі вось слова не вымавіць. І, пастаяўшы так, прысела на заднія лапкі, а з пярэдніх адну прыклала да сэрцайка, а другую, правую, да Аркадзя Пятровіча працягнула, нібы просячы міласціну падаць.

Так гаварыў мне пра гэта Аркадзь Пятровіч, расказваючы, рукою крыху прыкрыўшы вочы: «Ці паверыце,

васпане, вы мне: лапкаю гэтай сваёй, ручачкаю худзенькай, нібы пранізала яна пінжак мой і грудзі і пазногцікамі там у мяне... за самае сэрца драпнула...»

Зразумеў Аркадзь Пятровіч адразу, што ёй было трэба, устаў, выцягнуў шуфлядку ў століку. Марышыну долю ранішнюю ён аддзяліў, а сваю хлебную порцыю, маленечкую, паклаў мышцы. Яна зараз жа абхапіла хлеб пярэднімі лапкамі і акуратна і з асалодай пачала грызці; Аркадзь Пятровіч глядзеў на яе і ўсміхаўся. Усяго кавалачка мышка не адолела, але ўсё-такі з'ела даволі многа, выцерла абедзвюма лапкамі павесялелую сваю шэрую мордачку, смешна пакланілася, падзякавала і пайшла кудысьці да сябе.

Аркадзь Пятровіч у тую ноч ужо больш не пісаў: так, усміхаючыся, ён і заснуў.

Марыша слухала раніцай пра гэтыя начныя прыгоды, як вясёлую казку, але вечарам на поўным сур'ёзе запатрабавала, каб сёння мышцы была яе доля: яна адламала сама і паклала на край стала. Аркадзь Пятровіч пасмейваўся: няўжо прыйдзе і сёння?

І праўда, мышка зноў з'явілася і зноў акуратна пад'ела.

Пачала хадзіць яна кожную ноч, і Аркадзь Пятровіч прывык да яе зусім; калі, здаралася, мышка пазнілася, ён сумаваў без яе і чакаў, калі ж драпнецца. Хутка і зусім з ёю ён пасябраваў: яго начная госця не спяшалася цяпер ісці назад, аблюбавала сабе месцейка на Марышыным маленькім крэселцы і даволі часта там паседжвала, атрымліваючы асалоду, а то падрэмвала. Здаралася, бывала яна ў настроі і прытым гуллівым, тады па рукаве ўзбіралася, як па нябачнай драбінцы, на плячо к чалавеку, маленькай лапкай гуляла з валаскамі з кучаравай яго барады і раптам, камячком, хуценька скочвалася на не высахлыя яшчэ пісьмёны. Аркадзь Пятровіч на яе не злаваўся, мышку ён палюбіў.

Марыша прасіла не раз, каб яе разбудзілі — паглядзець, пазнаёміцца з мышкай, але шкода было дзяўчынку будзіць, і Аркадзь Пятровіч толькі рабіў раніцамі падрабязную справаздачу пра таямнічую госцю. І ўсё ж знаёмства іх нарэшце адбылося, пры абставінах, праўда, даволі сумных.

Аркадзь Пятровіч моцна прастудзіўся (усю зіму хадзіў без галошаў) і аднойчы пад вечар злёг; рукі яго ажно гарэлі, зацягнуліся светлым туманам вочы, і мокрыя

валасы пасмамі прыліплі да потных скроняў. Яму было горача, ён кідаўся ў ложку і трызніў, гаварыў несупынна, шпарка, нясскладна. Потым змоўк, нібы забыўся, заснуў. Гаспадыня не раз заходзіла да хворага, ківала над ім галавой і тужліва паглядвала на няшчасную дзяўчынку; Марыша была ў трывозе, хоць і трымалася. Але беглі гадзіны, і яна ўрэшце зусім засталася адзінокая.

Гаспадары спалі цяпер, гарэла адна невялікая іх лямпачка, заслоненая старой газетай, цені ляжалі ў кутах, ледзь паварушваючыся. Марыша сядзела, глядзела, як зрэдку ўздрыгвалі вейкі на запалых вачах у хворага, як ён ляжаў перад ёй худы, пацямнелы. У дзіцячай галоўцы яе цьмяна мільгалі розныя думкі: трэба б доктара, трэба б татачку беднага добра, як мае быць падкарміць, ён бы падняўся тады і стаў бы зноў вясёлы і добры. Але як гэта зрабіць?

Слязінкі накаціліся ў яе на вочы; яна ўзяла вялікую бацькаву руку і асцярожна прытулілася да яе разгарачанай сваёй шчакой. І толькі прытулілася, як у тую ж хвіліну і закапалі буйныя слёзы, і зрабілася ёй так самотна і горка, так бязвыхадна...

А калі ўстала і выцерла вейкі, то ўбачыла на століку каля лямпы шэрую мышку; яна стаяла ў цяні, але вочкі яе блішчалі ўважлівасцю і разуменнем. Ціхенька потым яна падышла бліжэй да хворага, пакратала лапкаю лоб, паківала сур'ёзна галоўкай, падумала, нешта скеміла; потым, зусім ужо дзелавіта, дзелавітай хадой падышла да самой Марышы і пагладзіла яе па руцэ.

Дзяўчынка сачыла як зачараваная за ўсімі яе рухамі, не вымавіўшы ні слова; гэтак жа яна і праводзіла мышку позіркам, калі тая хуценька шмыгнула ў патайныя свае дзверцы, за шпалерамі. Ёй было і надзвычай цікава, і запала на сэрцы надзея, вельмі недарэчная, але і вельмі гарачая: а раптам мышка паможа?

І яна пачала чакаць, і доўга чакала, пакуль не змарыла дрымота. Але сон яе быў няроўны і трывожны; час ад часу на пэўны момант яна расплюшчвала вочы, і тады ёй бачыліся нейкія цуды... Мышка вярнулася, але цяпер прыйшла не адна: за ёю ланцужком, як мурашкі, цягнуліся мышка за мышкай... Іх было шмат, старыя і маладыя, тоўстыя і хударлявыя, вясёлыя і дзелавітыя, кудлатыя і гладзенькія... але ў кожнай з іх было ў роце па зярнятку—вялікім адборным зярнятку пшаніцы. Падыходзілі яны, адна за адной, і клалі спачатку на століку —

кучку даволі вялікую, потым і на крэслах, потым і проста ў куце: зрабілася як у засеку — цёпла, утульна і ціха.

Потым знаёмая добрая мышка засталася адна, залезла на плячо пад самае Марышына вуха і ціхенька шапнула ёй:

— Бачыш, Марыша, сёння якраз я незнарок даведалася адрас: у аднаго спекулянта схавана шмат пшаніцы, я ўсіх і паклікала — знаёмых і незнаёмых, каб яны памаглі. Няхай гаспадыня твая заўтра пойдзе на Смаленскі і выменяе там на муку ды і на сала. Галоўнае, няхай не забудзе пра сальца... Гэта самая на свеце смачная рэч. І спажыўная самая. Ды доктара чалавечага пакліч.

Раніцай Марыша, ачнуўшыся, так усё і зрабіла. Павесялела ў іх. Быў і доктар, сівы дзядок у шэрых акулярах, прыпісаў ён лякарства, але між тым пахваліў і сала: прастуда прастудай, ды і знясілеў наш хворы.

І пачаў ачуньваць Аркадзь Пятровіч, а як паправіўся зусім, вечарамі смажылі разам з Марышай на патэльні бульбу, сала шыпела, курчылася, прыемна пахла. А якое смачнае было, дык і не раскажаш.

Мышцы яе добрую порцыю ні разу не забывалі; яна прыходзіла цяпер ужо не ноччу, а проста на вячэру. А неўзабаве і зусім перасялілася да Аркадзя Пятровіча ў пакой. Дужа яны пасябравалі з Марышай, пашыла ёй дзяўчынка сукеначку, цёплыя валёнкі і рукавічкі, а спаць клала ў кардонку каля сябе: сама і пярынку насыпала, і коўдрачку ёй цёпленькую выкраіла.

І жылося ім усім траім у дружбе, у любві — добра.

*1920*

## Ісак Бабель

# ПЕРАХОД ЦЕРАЗ ЗБРУЧ

Начдыў шэсць далажыў аб тым, што Наваград-Валынск узяты сёння на досвітку. Штаб выступіў з Крапіўны, і наш абоз шумлівым ар'ергардам расцягнуўся па шашы, што ішла ад Брэста да Варшавы і была пабудавана на касцях мужыкоў Мікалаем Першым.

Палі пурпуровага маку цвітуць вакол нас, паўдзённы вецер гуляе ў пажаўцелым жыце, нечапаная грэчка паўстае на небасхіле, як сцяна далёкага манастыра. Ціхая Валынь выгінаецца, Валынь адыходзіць ад нас у жамчужны туман бярозавых гаёў, яна ўпаўзае ў квяцістыя ўзгоркі і аслабелымі рукамі блытаецца ў зарасніках хмелю. Аранжавае сонца коціцца па небе, як адсечаная галава, ласкавае святло загараецца ў цяснінах хмар, штандары захаду лунаюць над нашымі галовамі. Пах учарашняй крыві і забітых коней капае ў вячэрнюю прахалоду. Пачарнелы Збруч шуміць і закручвае пеністыя вузлы сваіх парогаў. Масты разбураны, і мы пераязджаем раку ўброд. Велічны месяц ляжыць на хвалях. Коні па спіну ўваходзяць у ваду, гучныя патокі прасочваюцца паміж сотнямі конскіх ног. Хтосьці тоне і звонка бэсціць багародзіцу. Рака ўсеяна чорнымі квадратамі калёс, яна поўная гулу, свісту і песень, што грымяць поверх месячных змей і зіхатлівых ям.

Позняй ноччу прыязджаем мы ў Наваград. На адведзенай мне кватэры страчаю цяжарную жанчыну і двух рыжых яўрэяў з тонкімі шыямі; трэці спіць, накрыўшыся з галавой і прыткнуўшыся да сцяны. Бачу спустошаныя шафы ў прызначаным мне пакоі, ашмоткі жаночых футраў на падлозе, чалавечы кал і чарапкі запаветнага посуду, якім карыстаюцца яўрэі раз у год — на вялікдзень.

— Прыбярыце,— кажу я жанчыне.— Як вы брудна жывяце, гаспадары...

Два яўрэі падхопліваюцца з месца. Яны скачуць па

лямцавых падэшвах і прыбіраюць абломкі з падлогі, яны скачуць моўчкі, як малпы, як японцы ў цырку, іх шыі пахнуць і круцяцца. Яны кладуць на падлогу распоратую пярыну, і я лажуся да сценкі, побач з трэцім, сонным яўрэем. Палахлівая галеча ахінае маю пасцель.

Усё забіта цішынёй, і толькі месяц, абхапіўшы сінімі рукамі сваю круглую, бліскучую, бесклапотную галаву, блукае пад акном.

Я размінаю зацёклыя ногі, я ляжу на распоранай пярыне і засынаю. Начдыў шэсць сніцца мне. Ён гоніцца на цяжкім жарабку за камбрыгам і ўсаджвае яму дзве кулі ў вочы. Кулі прабіваюць галаву камбрыга, і абодва вокі яго падаюць на зямлю. «Навошта ты павярнуў брыгаду?» — крычыць параненаму Савіцкі, начдыў шэсць,— і тут я прачынаюся, бо цяжарная жанчына шнарыць пальцамі па маім твары.

— Пане,— кажа яна мне,— вы крычыце ў сне, і вы кідаецеся. Я пасцялю вам у другім кутку, таму што вы штурхаеце майго татулю...

Яна падымае з падлогі худыя свае ногі і круглы жывот і сцягвае коўдру з заснулага чалавека. Мёртвы стары ляжыць там, закінуўшыся дагары. Горла ў яго вырвана, твар рассечаны папалам, сіняя кроў ляжыць у яго барадзе, як кавалак свінцу.

— Пане,— гаворыць яўрэйка і ўстрахвае пярыну,— палякі рэзалі яго, і ён умольваў іх: забіце мяне на чорным двары, каб мая дачка не бачыла, як я памру. Але яны зрабілі так, як ім было патрэбна,— ён канаў у гэтым пакоі і думаў пра мяне... І цяпер я хачу ведаць,— сказала раптам жанчына з жахлівай сілай,— я хачу ведаць, дзе яшчэ на ўсёй зямлі вы знойдзеце такога бацьку, як мой бацька...

*1920*

## Арцём Вясёлы

# НА ВЕРНАЙ СЦЯЖЫНЕ

### 1

Слабодка хуталася ў пыльны, дымны вечар. Па размытым дажджамі і разбітым бруку грукаталі тарантасы ламавікоў, ляскаталі брычкі. На дарозе хлапчукі гулялі ў белых — чырвоных. Белыя скакалі на кіёчках, размахвалі бізунамі. Перад імі чырвоныя кідалі бомбы — пакеты з пылам.

Ад турмы да слабодкі праз шырокую плошчу ішлі кучкі хлопцаў і дзяўчат з макароннай, з запалкавай, з цукерачнай фабрык Грабяжова. Жартавалі, смяяліся, выкрыквалі прыпеўкі.

На парозе сваёй халупы Мікалай Сямёнавіч Грыбаў — заўзяты галубятнік і рыбак — чысціў яшчэ жывенькіх язёў.

Жонка Яўдоха падсіньвала і, шоргаючы атопкамі, развешвала па двары бялізну.

Грыбаў выпрастаў спіну, з прысвістам засоп пагаслай люлькай і сказаў нараспеў, па сваёй звычцы:

— Ану, ма-аці, пастаў самавар, пара-а.

Стомленая Яўдоха павярнулася ад плота і цераз плячо злосна крыкнула:

— Ах стаміўся, на даху, бач, сядзеўшы?.. Мо загадаеш разарвацца? У мяне не дзесяць рук.

У варотцы ўваліўся, прыдуркавата ўсміхаючыся, кравец Міцька Лукоўка і, захліпаючыся п'янай ікаўкай, паведаміў:

— Шабаш, Сямёнавіч, скручвай вуды... Вай-на! Чырвоныя ўцякаюць — выкалупваюцца. Вось-вось казакі наскочаць.

Грыбаў адклаў убок апошнюю растрыбушаную рыбіну і ўзняў бараду.

— Звані больш.

— Х-ха, звані!.. Кажу праўду, толькі вось з горада, усе ведаюць.— Кравец, размахваючы рукамі, пабег у глыбіню двара раззвоньваць навіну: кажуць, казёнкі адкрыюць.

Дачкі гэтым вечарам не дачакаліся. Чаявалі ўдваіх са старой на вольным паветры, на двары, пад чэзлай бярозай з абламанымі на венікі галінкамі.

— Куды б гэта яна, ведзьма, магла прапасці?

— Маладая, дурненькая, яшчэ, чаго добрага, за гэтымі таварышамі ўвяжацца.

— Галаву зломіць.

— Охо-хо.

Яўдоха крадком змахвала мутную слязу і ўспаміпала казанскую заступніцу.

Ноччу ў горад нахлынулі белыя. Усю ноч у горадзе грымелі стрэлы.

Дадому Волька прыйшла ўранку. Скінула дзіравы рабочы фартух, памылася і ў дрывотніку на свежых стружках улеглася спаць.

## 2

Волька ўцягнулася ў работу змалку. То на падзёнку бегала, то з маці мыла бялізну, сціраючы да крыві рукі за залатоўку ў дзень. Гады падышлі — і на фабрыку паступіла.

Далей — болей.

Пачала на вячэрнія курсы бегаць; а к таму часу, калі ў горад прыйшлі дзянікінцы, яна ўжо была камсамолкаю.

Усё жывое пайшло ў падполле: тысячы маленькіх рук упарта падрыхтоўвалі вялікую перамогу. Вольцы даручылі невялічкі ўчастак, які аб'ядноўваў да тузіна сем'яў рабочых, што адступілі ў радах чырвонай дружыны.

Акуратна кожныя два тыдні Волька бегала па адрасах, якія нанізвала на памяць. Раздавала маленькія запячатаныя канверты з грашыма. Як магла супакойвала заплаканых жанчын, не забывала пачаставаць цукеркамі дзетак. Шустрая, як верабей, імчалася па вуліцах, ныраАа ў крывыя завулкі, праваьвалася ў прарэхі варотцаў, у чорныя пашчы падвалаў.

Гарэзная, зухаватая дзеўка Волечка — проста жах. Ні з рук, ні з зубоў ніколі нічога не вырывалася. Казак — не дзеўка. Ці ў рабоце, ці на вечарынках — заўсёды завадатарам хадзіла. Круцёлкі з фабрыкі Грабяжова, макароншчыцы, ды і ўсе дзяўчаты млынавага пасёлка,— усе за ёй хвастом слаліся: шу-шу-шу ды шу-шу-шу: гэта як ды ці так гэта?

Вечарам прыйдзе Волька з працы, пачнуць, бывала, удваіх дачку пілаваць — аж дым пад воблакі.

— Волька, дзе начамі швэндаешся, якемі такемі справамі займаешся?..

— Мая справа.

Яўдоха ўсхапілася.

— Твая? Даскачашся, дзеўчына, трапіш у нерад — ні ўзад ні ўперад. Вунь сёння на базары шэсцера вісяць і языкі высалапілі... А за што? Усё за палітыку.

— Мая шыя — мой і клопат.

Маці плакала, і ён крахтаў.

— Ах, ведзьма, даведаюся, што з таварышамі валаводзішся,— мазгаўню адарву, памыйнае вядро зраблю.

Волька спахоплівалася:

— Што вы, родненькія, блёкату наеліся — такое чаўпці.

— Лахудра!

— Халера дохлая!

Палучкі чакалі, як светлага дня. Праз суботу на другую прыносіла дзеўчына грошы. Пералічыць стары паперкі, на кучкі раскладзе, у якую дзірку колькі сунуць: гэта на корм галубам, гэта на новую сетку. У сваёй гаспадарцы дзірак шмат — усё нястача ды няўдача.

— Чаму мала? Дзе яшчэ саракоўка? — спытаецца, бывала.

— Два дні не выходзіла на работу, ды вось кніжак купіла.

Надзьмецца, як стары індык у непагадзь, забуркуе:

— Толькі грошы на вецер кідаць твая справа, дзе там, каб кожную капейчыну дадому цягнуць. Усё дурасць у галаве...

— Халява! — падтакне і маці...

## 3

Аднойчы Яўдоха знайшла ў каморы ў закінутай скрынцы скрутак лісткоў. За селядцоў хвост дала прачытаць п'янчужку краўцу Міцьку Лукоўку. А лісткі аказаліся пра забастоўку: усе так і ахнулі... Вось дык Волечка, вось дык ціхоня, вось дык галубка. Лічылі — вылічвалі, кідалі — прыкідвалі: у каго б такая ўдалася. Ні маці, ні бацька такімі справамі не займаліся, ды і радня нібы не

чувацъ. Праўда, сам стары Грыбаў у маладосці разы два пераначаваў у клапоўніку, але трапіў туды п'яны і зусім нават, ратуй божа, не за цёмныя справы.

Прыйшла тым вечарам дзяўчына з працы і, па сваёй бабскай спецыяльнасці, адразу — шух да рукамыйніка. Вячэраць села. Старыя так у яе і ўваткнуліся, нібы шыла ў калодку.

— Сцерва ты, кудлатая сцерва.

— У рывалюцыю кінулася.

— Не кажы, тат.

— Ні бога, ні цара, ні віновага казыра.

Волька не адразу скеміла, што адбылося, і, засёрбваючы гарохавым супам моцна пасолены хлеб, проста спыталася:

— Чаго вы раскудахталіся?

Яўдоха, забыўшыся на свае шэсцьдзесят гадоў, віхрам падляцела, замахала перад тварам у дачкі лісткамі. Горкім папрокам і страхам забрынчаў яе голас.

— Ах, сучка, маладая яшчэ, каб вадзіць бацькоў за нос! Мо пад цынкавы дах нас хочаш на старасці гадоў засадзіць? Галубка, мо не міл табе вольны свет?

— Не жывецца ў цяпле, у доглядзе, за выпрацоўку правоў узялася, сялянаў уздумала шкадаваць, рабочых, а маці з бацькам не шкада.

— Кінь, тата.

— Кінуць-то кінем, ды немаведама, хто падымаць будзе. Прагоняць вось з фабрыкі, калі пра «гэта» дазнаюцца... Тады не крыўдуй, карміў я цябе, выцягнула з мяне жылы — годзе... Тады каб і нага твая на парог не ступала. Тады вось ідзі — яны цябе пашкадуюць, ці што, рабочыя ды сяляне...

— Нічыя літасць мне непатрэбна.

Як нітка за іголкай, цягнулася за ім маці, ржава скрыпела:

— У-у, непуцёвая мазгаўня, бессаромныя зекры! Бацьку вось на грэх наводзіш — вырасла пад неба, а дурніца як трэба.

Стары бурчаў і бурчаў, нібы сушаныя грыбы на шнурок нанізваў.

— З голаду здохнеш, вошы з'ядуць. Цяпер табе што: ясі, п'еш гатовае, чужым гарбом зробленае.

Быццам варам на дачку плюхнуў. Усхапілася з-за стала, лыжку кінула.

— Хлебам мяне не дакарай, сваё ем.

— Цыц! Бач, ляпнула! Пакажы, дзе ж тваё запрацаванае.

— Чаго крычыш на бацьку, як на падначаленага? — пеканула і Яўдоха.— Ты, сучка, не агрызайся, а слухайся бацькоўскага навучання... Хіба табе бацька ліхадзей — кепскаму навучыць?

— Ану вас!

— Не нукай, яшчэ не запрэгла.

— Дык вось, матухна мая, калі не хочаш падпарадкоўвацца волі бацькоў — ідзі на ўсе чатыры бакі, табе галаву зламаць.

— Сціхні, тата, раззваніўся, быццам царкоўны звон у свята.

Буркне гэтак Волечка, ды зноў маўчок: толькі пасопвае сабе, у кніжку ўткнуўшыся.

Усімі думкамі і пачуццём была яна там, далёка-далёка, дзе партызанілі свае — чырвоныя — і сярод іх мілёнак Колька Рыжы...

## 4

На Міколу зімовага з нагоды дня свайго анёла Грыбаў прапусціў кілішак, вярнуўшыся ад абедні, палез на дах чужога голуба заганяць; упаў і забіўся.

У Яўдохі засталося адно суцяшэнне — дачка. І яна, мяккасардэчная, усё яшчэ не траціла надзеі паставіць яе на правільны шлях.

Сядзе, бывала, ніцма на краёк вузкай дзявочай пасцелі ды і давай-давай смаркацца ў фартух.

— Дачка, вазьміся за розум. Кінь ты рывалюцыяй займацца, ужо дарослая. Пра мяне, пра старую, падумай. Засадзяць, згнояць у турме цябе — як я жыць буду?

— Нічога,— толькі, бывала, і скажа любімае слоўца Волечка.

— Няма душы ў цябе, Волечка, каб толькі ведала, як цяжка матчынаму сэрцу.

— Пачакай, маці, белых прагонім, тады зажывём.

Яўдоха, як квактуха, прыпадала да галавы дачкі, пужліва шаптала, пырскаючы слінай і словамі:

— Чакай, пакуль чорт здохне, а ён яшчэ і хварэць не думаў.

Так і плыў, бег час. Дачка круцілася, кідалася, гарэла. У старэчую матчыну мітусню ўрываліся сляпыя, шэрыя дні...

Чорт быў жывучы.

Марознай ноччу, калі слабодка спала мёртвым сном, «яны» прыйшлі і рэзка, па-гаспадарску загрукалі.

— Гэй!

Маці ўсхапілася і, шлёпаючы босымі нагамі, замітусілася па пакоі, намацваючы запалкі.

— Спытайся, хто гэта? — прашаптала Волька і вырвала ў яе лямпу.

Настойлівы грукат паўтарыўся. Праз падвойныя рамы чулася нецярплівая лаянка, рыпеў пад нагамі снег.

— Хутчэй адчыняй, зараза... Замкнуліся, нібы грошай шмат назбіралі?

— За-араз, за-араз,— замармытала, заспяшалася старая, усцягваючы спадніцу.

Волька ўскочыла на прыпечак і ўлезла ў комін. Маці толькі і паспела крыкнуць ёй напаследак:

— Холадна! Прастудзішся. Надзела б што.

Уварваліся тры. Грукаючы ботамі і бразгаючы шпорамі, прайшлі наперад. Запалілі святло. Бліснулі пагоны. Чырвоныя абмерзлыя твары шлёпалі губамі. Глухаватая Яўдоха хрысцілася, плакала і статуяй стаяла каля чалеснікаў. Перакапалі, павыкідалі з куфроў усё. Аблазілі падпамосце, камору, хлявы і, лаючыся, пайшлі.

Праводзіла гасцей, кінулася да печы.

— Я іду з дому, мама.

— Куды?

— Не пытайся.

Пацалавала маці і пайшла ў ноч.

## 5

З тугой ледзяною ды мізэрнай надзеяй углядалася Яўдоха ў дзевак, што праходзілі па вуліцы.

Прапала дачушка, зусім прапала, растала, як ручай у вясенняй рацэ.

Цэлы гадок праседзела старая каля акенца запаветнага. Ах, доўгі здаўся гэты гадок, даўжэйшы за думкі старэчыя. Усё глядзела, глядзела на варотцы, якія пахіліліся,— чакала...

Вось-вось, маўляў, з'явіцца Волечка, па даўняй гарэзлівай звычцы выспяткам дзверы расчыніць — уляціць у святліцу.

Пры кожным шораху, стуку ўздрыгвала збалелая маці. Забрэша ўночы сабака, старая перахрысціцца, паміту-

сіцца, у гнілы кут паплюе і ўсё чакае, чакае дачку родную.

Дні паўзлі, ночы, крэкчучы, паўзлі, паўзлі тыдні, каціліся то маладзік, то поўня.

Год прачакаць — не калатоўку аблізаць,— у каго хочаш сэрца ў грудзях перавернецца, а ў маці роднай тым больш. Гора больш ядавітае за сулему.

Горкімі слязьмі выплакала Яўдоха вочачкі — аслепла. Нічога не заставалася рабіць, як Хрыстовым імем пабірацца — пайшла жабраваць. З гора страціла розум. Пасівелая, як выпараная мачалка, галава ад слабасці безупынна трэслася.

Свавольныя слабодскія хлапчукі далі ёй мянушку: «Трасучка».

Маці не спадзявалася ўжо бачыць Вольку жывой. Прапала і прапала. Была, і няма дачушкі роднай. Быццам і не было ніколі.

Добра.

Цёплым вясновым днём грэлася Яўдоха на сонейку. З боку горада даносіліся трэск, выбухі, падобна было, што хістаюцца і развальваюцца дамы. Падазвала сынка шаўцовага — Ваську, які прабягаў міма, пазнала па голасе.

— Васечка, што вось там у горадзе робіцца, трашчыць надта страшна.

— Ах, цяцера глухая, у цябе ўсё трашчыць — белыя ўцякаюць, нашы блізка.

Праз слабодку ў стэп адыходзілі абозы белых. Грукаталі калёсы па выбоінах, іржалі коні, гарлапанілі п'яныя горлы.

Вечарам таго ж дня сядзела Яўдоха з бабамі каля варотаў — гаманілі.

— Глянь, глянь — Волька ідзе!

— Бабачкі — такі праўда!

Старая так і абамлела, слова вымавіць не можа, сядзіць, асавелая.

А цераз дарогу наўскасяк Волька бяжыць, абцасікамі стук-стук-стук, на грудзях бант чырвоны, на рукаве крыж.

Падбегла, абняла маці, гарачымі вуснамі ўпілася ў сухі і моцны яе рот.

— Дажылі, мама!

— Чэрці падохлі! — прамовіла тая, захліпаючыся ад радасці — дачка побач.

— Чэрці ў ваду, бурбалкі ў гару.

— Як з неба звалілася.

Не магла зрэнкамі бачыць: абмацала ножачкі, ручачкі, галовачку — усё цалюсенькае. Абцалавала ўсю.

Пайшлі ў двор пад руку.

І ў маладым і ў старым сэрцы звінела радасць — у кожным свая...

— Што ж, цяпер табе ўзнагарода будзе?

— Не без гэтага,— засмяялася Волька,— абавязкова будзе.

## 6

Закруцілася Волечка ў рабоце, як трэска ў вясенняй рацэ. Днём усё бегала, начамі рэдка дома начавала — запрацавалася. Маці не трэба было болей хадзіць жабраваць — хапала ў хаце клопату.

У рэдкія хвіліны адчуваючы каля сябе дачку і глытаючы слёзы, Яўдоха пачне, бывала, як неразведзенай пілой пілаваць:

— Пашкадавала б ты сябе, дзіцятка. Бач — сухая зрабілася, як таран.

— Нічога.

— Ці табе свабода даражэйшая за маці родную, сука ты гэтакая... Ад работы і коні дохнуць. Адпачыла б трохі.

— Нічога, мама, адпачываць няма калі — работы па вушы...

Або выбера, бывала, вольную часіну, пачне адукоўваць маці, кніжку ёй прачытае, раскажа што-небудзь. Бяда са старой — слаба даходзіць. Бо новае ў галаву туга лезе — слухае ды і заскрыпіць:

— Сарока, сарока, нагаварыла, як кашы наварыла, а есці няма чаго.

Смяецца Волечка, заліваецца.

Так і жылі, старая ды маладая — і блізкія і далёкія адна адной.

*1921*

## Усевалад Іванаў

# ДЗІЦЁ

### 1

Манголія — звер дзікі і нярадасны. Камень — звер, вада — звер; нават матылёк і той цікуе ўкусіць.

У мангольскага чалавека сэрца невядома якое — ходзіць ён у шкурах, падобны на кітайца і ад рускіх далёка, цераз пустыню Нар-Кой, пачаў жыць. І, кажуць яшчэ, пойдзе ён за Кітай, у Індыю, у сінія непазнаваныя краіны на сямі берагах...

Суседзі каля рускіх прыіртышскія кіргізы, што ад рускай вайны ў Манголію перакачавалі. У іх сэрца вядома — слюдзяное, нікудышнае, усяго наскрозь відаць. Ішлі яны сюды — не спяшаліся: і жыўнасць, і дзятву, і нават хворых сваіх папрывозілі.

Рускіх жа сюды гналі бязлітасна — былі таму яны мужыкі цягавітыя і здаровыя. На камянях-горах пакінулі лішнюю нямоглацсь — хто паўміраны, хто пазабіваны. Сем'і, і адзевак, і жыўнасць белым асталіся. Лютыя, як ваўкі вясною, мужыкі. У лагах, у палатках ляжалі і думалі пра стэп, пра Іртыш...

Было іх з паўсотні, старшыняваў Сяргей Селіванаў, а атрад гэтак зваўся: «Партызанскі атрад Чырвонай гвардыі таварыша Селіванава».

Нудзіліся.

Пакуль гналі іх цераз горы — ад каменя, вялізнага і цёмнага, страхата забіралася ў сэрца. Прыйшлі ў стэп — нуда. Бо падобны стэп на стэп прыіртышскі: пясок, жорсткая трава, крута гартаванае неба. Усё чужое, не сваё, не арапае, дзікае.

І яшчэ цяжка без баб.

Пра баб начамі расказвалі мацерныя салдацкія балачкі, а калі не было ўжо магаты — сядлалі коней і лавілі ў стэпе кіргізак.

І кіргізкі, згледзеўшы рускіх, пакорліва лажыліся на спіну.

Было нядобра, агідна іх мець — нерухомых, з моцна

заплюшчанымі вачыма. Усё роўна як грашылі з жывёлаю.

Кіргізы — баяліся мужыкоў — адкачоўвалі далей у стэп. Угледзеўшы рускага — гразілі вінтоўкамі і лукамі, гікалі, але не стралялі. Можа, не ўмелі?..

## 2

Казначэй атрада Афанас Пятровіч быў слязлівы, як дзіця. І твар у яго, як у дзіцяці: маленькі, бязвусы і румяны. Толькі ногі доўгія, дужыя, як у вярблюда.

А калі сядаў на каня — стражэў. Далёка хаваўся твар, і сядзеў: сівы, сярдзіты і страшны.

На тройцу вылучылі трох — Селіванава, казначэя Афанаса Пятровіча і сакратара Дравясініна — у стэп, шукаць добрых сенажацяў.

Дыміліся пад сонцам пяскі.

Зверху, з неба, ішоў вецер. З зямлі на мігатлівае неба ішла цеплыня. Целы ў людзей і ў жывёлін былі цвёрдыя і цяжкія, як камень. Нэндза.

І Селіванаў сказаў хрыпла:

— Якія там сенажаці хоць?..

Усе ведалі: гаворыць ён пра Іртыш. Але маўчалі рэдкабародыя твары. Усё адно як сонцам выпаліла волас, як траву ў стэпе. Чырванелі вузкія, як рана ад рыбалоўнага кручка, вочы. Гарачыня.

Адзін Афанас Пятровіч абазваўся жаласліва:

— Няўжо ж і там засуха, мужчыны?..

У голасе чуўся плач, але твар не плакаў, і толькі ў каня пад ім, знясіленага і задыханага, нылі слязою вялікія і доўгія вочы.

Гэтак адзін за адным па пратаптаных дзікімі козамі сцежках ішлі партызаны ў стэп...

...Тлелі пяскі паныла. Прыліпаў да плеч, да галавы душны вецер. Гарэў у целе пот і не мог прабіцца цераз сухую скуру...

Пад вечар, ужо выязджаючы з лагчыны, Селіванаў сказаў, паказваючы на захад:

— Праезджыя імчаць.

Праўда, на самым даляглядзе калыхалі пяскі ружовы пыл.

— Мабыць, кіргізы.

Заспрачаліся. Дравясінін гаварыў, што кіргізы далёка водзяцца і да Селіваноўскіх лагоў не даходзяць; Афанас Пятровіч — непазбежна кіргізы, пыл кіргізскі, густы.

А калі падкаціў пыл бліжэй, то парашылі ўсе:

— Нязнаныя людзі...

Па галасах гаспадароў учулі коні — нясецца па ветры чужое. Застрыглі вушамі, прыпалі да зямлі, не чакаючы загаду. Ляжаць у лагу шэрыя і жоўтыя конскія тушы. Выглядалі яны бездапаможна і смешна з тонкімі, як жэрдкі, нагамі. Ад сораму, ці што, заплюшчылі вялікія спалоханыя вочы і дыхалі парывіста?..

Ляжалі Селіванаў і казначэй Афанас Пятровіч з краю логу. Плакаў, шморгаючы носам, казначэй. Каб не было страшна, клаў яго заўсёды каля сябе Селіванаў, і ўсё роўна як ад дзіцячага таго плачу весялілася і блазнавала цяжкае мужыцкае сэрца.

Узвіваўся над сцежкаю пыл. Перабойна ляскалі калёсы. І, як пыл, клубіліся ў хамутах доўгія чорныя грывы!

Упэўнена сказаў Селіванаў:

— Расейцы... Афіцар'ё.

І пазваў з логу Дравясініна.

Сядзяць у плеценых новых драбінках. Двое ў фуражках з чырвонымі аколышкамі. За пылам не відно твараў. Як у жоўтым воблаку плаваюць чырвонааколышныя. Руж-жо — руля тырчыць, калі рука з пугаю вытыркае з пылу.

Падумаў Дравясінін і сказаў:

— Афіцар'ё... нейкія справы, мабыць. Ікспіцыя... Ясна.

Гарэзна падміргнуў вокам і грэбліва дадаў:

— Мы ім прыпішам, Селіванчык.

Нясуць драбінкі людзей, цвёрда нясуць. Коней. Вяселяцца, і ззаду, як ліса хвастом, замятаюць драбінкі след свой мангольскім пылам.

Працягнуў плаксіва Афанас Пятровіч:

— Не трэба, мужчыны... Можа, у палон лепш... Біць пачакай.

— Галавы свае не шкада... табе, ці што?

Зазлаваў Селіванаў і затвор бясшумна, як гузік адшпільваючы, адкінуў:

— Тут плакаць не прыходзіцца, казначэй.

Больш за ўсё злавала іх — паявілася афіцарня ў стэпе без канвою. Быдта іх тут моц незлічоная, мужыкам быдта адразу смерць будзе. Вось, напрыклад, стаў на ўвесь рост афіцэр, стэп азірае, але згледзець мала што можа: пыл; вецер вячэрні чырвоны на выпаленых тварах, на двух камянях каля логу, падобных на конскія тушы... Якія камяні?.. Тушы?..

У чырвоным пыле драбінкі, колы, людзі і думкі іх... Імчацца.

Стрэлілі... Гікнулі. Яшчэ стрэлілі.

Разам, зачапіўшы адна адну, упалі фуражкі ў драбінкі.

Аслаблі, як бы лопнулі, лейцы...

Рванулі коні... Упудзіліся былі. Але раптам каркі ў іх малаком запеніліся. Дрыжучы моцнымі кускамі мускулаў, яны панурылі галовы, сталі.

Сказаў Афанас Пятровіч:

— Памерлі...

Падышлі мужыкі, пaглядзелі.

Памерлі чырвонааколышныя. Сядзяць плячо ў плячо, галовы назад паадкіданы, а адзін з забітых — жанчына. Валасы распаліся, у пыле, напалавіну — жоўтыя і чорныя, а гімнасцёрка салдацкая прыўзнята высока жаночымі грудзьмі.

— Дзіўна,— сказаў Дравясінін,— сама вінавата — не надзявай фуражкі. Каму бабу забіваць ахвота?.. Бабы — людзям патрэбныя.

Плюнуў Афанас Пятровіч:

— Вылюдак ты і буржуй... Нічога ў табе, у нягодніку...

— Пачакай,— перапыніў іх Селіванаў.— Мы не рабаўнікі, трэба маёмасць народную перапісаць. Давай паперу.

Пад передком сярод іншай «народнай маёмасці», у плеценай кітайскай кашолцы ляжала белавокенькае і белагаловенькае дзіцё. У ручачцы ў яго ражок рудой коўдзеркі заціснуты. Немаўля, маленькае, папіскввае.

Расчулена сказаў Афанас Пятровіч:

— Таксама ж... мабыць, неча па-свойму гаворыць, што і як.

Яшчэ раз пашкадавалі жанчыну і не захацелі адзежы з яе здымаць, а мужчыну закапалі голага ў пясок.

## 3

Назад у здабытых драбінках ехаў Афанас Пятровіч, трымаючы ў руках дзіцянё, і, пакалыхваючы, спяваў ціхенька:

Салавей, салавей-пташачка...
Канарэечка...
Жаласна пяець...

Успамінаў ён пасёлак Лебядзін — бацькаўшчыну; кашары з гавядамі; сям'ю, дзяцей — і тонкагалоса плакаў.

Дзіцё — таксама плакала.

Міналіся і тонкагалоса плакалі кволыя сыпучыя і спаленыя пяскі. Імчалі на нізенькіх, тугамясых мангольскіх конях партызаны. Былі ў партызанаў выпетралыя твары і выпетралыя душы.

Каля сцежак задушаны сонцам слаўся палын, падобны на пясок — дробны, нязгледжаны вокам.

І пяскі — палын, дробныя і горкія.

Сцежкі вы, сцежкі казліныя! Пяскі вы, пяскі горкія! Манголія — звер дзікі і нярадасны!..

Разгледзелі маёмасць афіцэрскую. Кнігі, чамаданы з тытунём, бліщчастыя сталёвыя інструменты. Адзін з іх, на трох доўгіх ножках — чатырохвугольная медзяная скрынька з дзяленнямі.

Падышлі партызаны, аглядаюць, мацаюць, на руку ўзважваюць.

Пахне ад іх авечым лоем — ад нуды елі многа, і адзежа прасалілася. Шырокія сківіцы, мяккія і тонкія губы — з данскіх станіц; з доўгім чорным воласам, цемнатварыя — з ваннавых капальняў. Ва ўсіх крывыя, як дугі, ногі і гартанныя стэпавыя галасы.

Падняў Афанас Пятровіч медзянагаловы трыножнік, сказаў:

— Цілiскоп.— І вочы зажмурыў.— Добры цілiскоп, не адзін мільён каштуе. На ём месяц разгледзелі і знайшлі на ём, мужчыны, залатыя россыпы... Прамываць не трэба, як мука, чысцюсенькае золата. Сып у мяшок...

Адзін малады з гарадскіх зарагатаў:

— А брахаць як умее, валацуга...

Раззлаваўся Афанас Пятровіч:

— Гэта я брашу, падла ты паштовая? Ды я ж табе...

— Што ты мне?

Афанас Пятровіч схапіў рэвальвер.

— Цыц,— сказаў Селіванаў.

Тытунь падзялілі, а інструменты перадалі Афанасу Пятровічу — як казначэй, можа пры выпадку абмяняць іх на што-небудзь у кіргізаў.

Склаў ён інструменты перад дзіцянём:

— Забаўляйся...

Не бачыць тоїі: пішчыць. І так і гэтак спрабаваў (аж у пот кінула) — пішчыць дзіцё, не забаўляецца.

Прынеслі кашавары абед. Густа запахла маслам, ка-

шаю, варанаю капустаю. Выцягнулі з-за халяў шырокія семіпалацінскія лыжкі. Вытаптана стапам трава. Уверсе, на скалах, вартавы крычыць:

— Мне скора-а?.. Жэрці хачу... Змену... давай!

Паабедалі і ўспомнілі: трэба малога накарміць. Пішчыць бесперастанку дзіцё.

Нажаваў Афанас Пятровіч хлеба. Мокрую суслу сунуў у мокры разяўлены раток, а сам губамі папыкаў:

— Ппы-пы... малеча... лопай, чарцянё... смачны ж.

Але закрыў той раток і галаву адвярнуў — не прымае. Плача носам, тонка, пранізліва.

Падышлі мужчыны, абступілі. Цераз галовы зазіраюць на дзіцё. Маўчаць.

Душна. Блішчаць ад бараніны шчокі і губы. Кашулі парасшпільваны. Ногі босыя, жоўтыя, як зямля мангольская.

Адзін падказаў:

— Капусты варанай бы яму...

Астудзілі капусты. Абмакнуў Афанас Пятровіч палец у капусту — і ў рот дзіцяці. Цякуць па губках тлустыя добрыя шчы на кашульку ружовую, на байкавую коўдзерку.

Не бярэ. Пішчыць.

— Шчаня разумнейшае — з пальца жарэ.

— То табе сабака, а то чалавек...

— Удумаў!..

Малака каровінага ў атрадзе няма. Думалі кабылячым напаіць — кабыліцы былі. Нельга — ап'яняе кумыс. Захварэць можа.

Разышліся сярод вазоў, кучкамі перамаўляюцца, растрывожаны. А сярод вазоў Афанас Пятровіч носіцца, на плячах бяшмецік падраны, вочы маленькія, таксама падраныя. Галасок тоненькі, няўрымслівы, хлапчанячы, як бы само дзіцё бегае, жалкуецца.

— Што ж гэта выходзіць?.. Яно ж есці хоча, мужчыны!.. Як жа іначай, а?.. Клопату ў вас няма, валацугі...

Стаялі, шырокія, дзябёладужыя, бездапаможна гледзячы.

— Бабы няма...

— А ўжо ж...

— Ад бабы ён барана з'еў бы...

— От гэта праўда.

Сабраў Селіванаў сход і абвясціў:

— Нельга хрысцьянскаму хлапчаці, як жывёліне, прападаць. Бацька, яно, скажам, буржуй, а дзіцё — як? У чым віна?

Пагадзіліся мужчыны:

— Дзіцё ні пры чым. Няма віны.

Зарагатаў Дравясінін:

— Расці, хлапчо. Ён вырасце ў нас — на месяца палявіць... на россыпы.

Не рассмяяліся мужчыны. Афанас Пятровіч кулак падняў і крыкнуў:

— А і сучка ж ты беспрасветная! Адзін у атрадзе толькі і можаш здзекавацца...

Патаптаўся ён, рукамі паматаў і раптам закрычаў празліва:

— Карову... Трэба карову яму!..

У адзін голас абазваліся:

— Без каровы — канцы...

— Конча карову трэба...

— Без каровы — дойдзе.

Рашуча сказаў Афанас Пятровіч:

— Пайду я, хлопцы, па карову...

Здзекліва Дравясінін перабіў:

— На Іршыш, у Лебядзін?..

— На Іртыш мне, казёл бязмозглы, ехаць няма чаго. Паеду я да кіргізаў.

— На ціліскоп мяняць? Ідзі, спагаднік.

Кінуўся да яго Афанас Пятровіч, злосна крыкнуў:

— Падлюка ты! Хочаш, па мордзе заеду?

А калі пачалі яны мацюкацца не па парадку, то перапыніў старшыня сходу Селіванаў:

— Годзе...

І прагаласавалі гэтак: Дравясініну, Афанасу Пятровічу і яшчэ траім ехаць у аулы кіргізскія, у стэп, і прыгнаць карову. Калі ўдасца, то дзве ці пяцёра, бо мяса ў кашавараў кончылася.

Прымайстравалі да сёдлаў вінтоўкі, надзелі кіргізскія лісіныя малахаі, каб здалёк на кіргізаў быць падобнымі.

— Добрай дарогі.

Дзіця ў коўдзерку загарнулі і ў цень, пад воз, палажылі. Сядзеў каля яго малады хлапчына і сабе і дзіцяці на пацеху ў палыновы куст з нагана пастрэльваў.

## 4

Эх, пяскі вы мангольскія нярадасныя! Эх, камень — гарун сіні, рукі глыбаказемныя, лядайкія!

Едуць рускія пяскамі. Ноч.
Пахнуць пяскі жарам, палыном.
Брэшуць у ауле сабакі на ваўка, на цемру.
Ваўкі выюць у цемры на голад, на смерць.
Ад смерці ўцякалі кіргізы.
Ад смерці ці выратуеш гурты?

Пахне ад аула кізяком, айранам — малаком кіслым. Сядзіць пры жоўтых вогнішчах худая і галодная кіргізская дзятва. Каля дзятвы галарэбрыя вастрамордыя сабакі. Юрты як стагі сена. За юртамі возера, чараты, і раптам гулка з чаратоў стрэлілі ў жоўтыя вогнішчы: о-о-а-ат!..

Адразу выскачылі з чарацяных юртаў кіргізы. Закрычалі спалохана:

— Уй-бой... Уй-бой, ак-кызыл урус... Уй-бой...

Скочылі на коней. Коні ўсюды дзень і ноч закілзаны. Захадзіліся юрты. Захадзіўся стэп. Чараты закрычалі дзікаю качкаю:

— Ай-ай, чырвоны-белы рускі, ай-ай...

Адзін, сівабароды, скінуўся з каня галавою ў казан — кацёл, перакуліў яго. Ашпараны — загаласіў густым галасам. А побач, падагнуўшы хвост, калматы сабака баязліва тыцнуўся галоднаю мордаю ў гарачае малако.

Тонка рагаталі кабыліцы. Спалохана, як ад ваўкоў, цiснуліся ў загарадзі авечкі. Цяжка, як загнаныя, дыхалі каровы.

І пакорлівыя кіргізкі, убачыўшы рускіх, пакорліва лажыліся на кошмы...

Рагатаў распусна Дравясінін:

— Ды мы хіба жарабцы?.. Не вечна ж мы іх...

Спехам нацадзіў ён у пляскатую аўстрыйскую біклажку малака і, сцябаючы нагайкаю, збіраў да юрты кароў з цялятамі. Спушчаныя з прывязі цяляты, скоранька штурхаючы галавою мяккае вымя, радасна хапалі вялікімі мяккімі губамі цыцкі.

— Бач, якія галодныя, небаракі...

І Дравясінін разрадзіў наган у цялят.

Афанас Пятровіч абабег аул і хацеў быў ехаць следам за Дравясініным, але раптам успомніў:

— Соску трэба. Чэрці, соску забылі!..

Кінуўся па юртах шукаць соскі. Агні ў юртах патушаны. Афанас Пятровіч схапіў галавешку і, пырскаючы іскрамі, кашляючы ад дыму, шукаў соскі. У адной руцэ ў яго трашчала галавешка, у другой быў рэвальвер. Сосак ні ў кога не было. Ляжалі на кошмах, распластаўшыся і панакрываўшыся чуўлукамі, пакорлівыя кіргізкі. Ляманталі дзеці.

Раззлаваўся Афанас Пятровіч і ў адной юрце закрычаў маладой кіргізцы:

— Соску, падлюка, нехрысць, давай соску!

Заплакала кіргізка і пачала скоранька расшпільваць фаевы кафтан, а потым сцягваць кашулю.

— Ні кірэк... Ал... Ал... Бяры...— А поруч на кашме плакала загорнутае ў анучы дзіця. Кіргізка ўжо падгінала ногі.— Ал... ал... бяры...

Але тут хапіў за грудзі яе Афанас Пятровіч, паціскаў і свіснуў узрадавана:

— Во-о... Самая соска! А! Цвярда́я!

— Ні кірок... Ні... што?..

— Ладна, не кірэкай. Пайшлі! Цвярдая!

І за руку пацягнуў за сабою кіргізку.

Цёмначы пасадзіў на сядло кіргізку і, час ад часу намацваючы ў яе грудзі, панёсся ў Селіванаўскія лагі, у атрад.

— Знайшоў, хлопцы, а! — узрадавана гаварыў ён, і на вачах у яго былі слёзы.— Я, брат, знайду, я з-пад зямлі выкапаю.

## 5

А прыехаўшы аказалася — у цемнаце не дагледзеў Афанас Пятровіч,— захапіла з сабою кіргізка дзіцянё.

— Такой бяды,— сказалі мужчыны,— малака на абаіх хопіць. Каровы ёсць, а яна баба здаровая.

Была маўклівая, строгая кіргізка і дзяцей, нікому не паказваючыся, карміла. Ляжалі яны ў яе на кашме ў палатцы — адзін беленькі, другі жоўценькі — і пішчалі ў адзін голас.

Праз тыдзень на агульным сходзе Афанас Пятровіч паскардзіўся:

— Так што ўтайка, таварышы: кіргізка гэтая — по-

скудзь, шальмуе: сваймy онё ўсёю грудзёю корміць, а нашаму што на дне астанецца. Я, брат, падцікаваў. Онь што робіцца...

Пайшлі мужчыны, глядзяць: хлапчукі як і ўсе хлапчукі, адзін беленькі, другі жоўценькі, як спелая дыня. Але можа здацца, што рускі танчэйшы за кіргізскага.

Развёў рукамі Афанас Пятровіч.

— Я яму імя ўжо надумаў — Васька... а тут выходзіць... Чортведама... Шальмоўства.

Сказаў Дравясінін нават без усмешкі:

— А ты, Васька, хілы, нямоглы...

Знайшлі кій, памералі яго на аглоблі, каб адзін бок на другі не перацягваў.

Павешалі з канцоў малых — каторы пераважыць?

Пішчалі ў анучах падвешаныя на валасяных арканах малыя. Пахла ад іх тонкім дзіцячым духам. Стаяла каля воза кіргізка і, не разумеючы нічога, плакала.

Маўчаць мужчыны, глядзяць.

— Пускай,— сказаў Селіванаў.— Пускай вагу.

Апусціў рукі ад кія Афанас Пятровіч, і адразу рускае хлапчанё — угору.

— Іч, смурод жаўтароты,— сказаў Афанас Пятровіч раззлавана,— адгадаваўся.

Падняў сухі чэрап ад барана, што валяўся тут, і палажыў на рускага. Ураўняліся тады хлапчукі.

Загаманілі мужчыны, закрычалі:

— На цэлую галаву, скажы ты, перакарміла, а?..

— Не ўпільнуеш...

— От звяруга... як карміла.

— Хто глядзеў?

— Не толькі работы, каб за малымі глядзець!

Пацвердзілі некаторыя, больш паважныя:

— Дзе там угледзіш!

— Дый як ні кажы — роднае...

Тупнуў, завішчаў Афанас Пятровіч:

— Па-твойму — рускаму чалавеку прападаць з-за нейкага там нехрысця... Прападаць хлапчаці, Ваську... майму?..

Паглядзелі на Ваську — ляжыць белы, худзенькі. Млосна стала мужчынам.

Сказаў Селіванаў Афанасу Пятровічу:

— А ты яго... гэта сама... няхай, бог з ім, апрастаецца... кіргізяпё гэтае. Мала іх перабілі, адзін... адказ...

Паглядзелі мужчыны на Ваську і разышліся моўчкі.

Узяў кіргізянё Афанас Пятровіч, загарнуў у падраны мяшок.

Завыла маці. Выцяў яе злёгку ў зубы Афанас Пятровіч і пайшоў са стану ў стэп...

## 6

Дні праз два стаялі мужчыны каля палаткі на пальчыках і цераз плечы адзін аднаго зазіралі ўсярэдзіну, дзе на кашме кіргізка карміла белае дзіцё.

Быў у кіргізкі пакорлівы твар з вузкімі, як аўсянае зерне, вачыма; фаевы фіялетавы кафтан і саф'янавыя ічыгі — боцікі.

Торкалася дзіця тварыкам у грудзі, мясіла ручаняткамі па кафтане, а ногі маталіся смешна і няўклюда, як бы яно скакала.

З магутным рогатам глядзелі мужчыны.

І далікатней за ўсіх Афанас Пятровіч. Шморгаючы носам, плаксіва гаварыў ён:

— Іч як дае!..

А за палатнянаю палаткаю беглі невядома куды: лагі, скалы, стэп, чужая Манголія.

Невядома куды бегла Манголія — звер дзікі і нярадасны.

*1921*

## Лідзія Сяйфуліна

# ПАЎЛУШКАВА КАР'ЕРА

Ух, і мароз! Як ні цісніся ў камячок — прабярэ да касцей. Апранаха ж вельмі ліхенькая: маміна кофта зусім выцерлася. Худзенькая шыя ўся наверсе і зрабілася шыза-чырвоная ад холаду, ногі з хадакоў вылезлі. Не замерзлі адны вялікія вочы, што ўжо атупелі ад болю, яны разгублена глядзяць на белы будынак вакзала. Народу вельмі многа, ідуць і туды і сюды, а папытацца няма ў каго. У шумнай заклапочанай мітусні натоўпу маленькая фігурка астаецца адзінокая.

Ці ён прыехаў, ці не?

Сібір жа вунь якая вялікая. Высаджваўся ў Чалябінску, бадзяжнічаў па Омску. Але штосьці кепска атрымліваецца. Галоўнае — месцаў няма, а Паўлушка нясмелы. У Чалябе, каля аддзела народнай асветы, хлапчукі набілі і, што настарцаваў, адабралі. Пайшоў зноў на поезд.

Ехаў і ў вагоне, і на пляцоўцы, і ў прыбіральні (дух цяжкі, а так нічога — цёпла), і ў скрыні пад вагонам. У Омску зноў адлупцавалі. Праўда, тут трохі і зарабіў за што — піражкі ў адной пані з багажу ўкраў. А быццам бы такая ўжо ласкавая была, усё выпытвала, пакуль аціраўся каля яе:

— Куды едзеш? Дзе бацькі?

І шкадавала:

— Ты,— кажа,— у аддзел народнай асветы! Яны абавязаны... Хіба можна? Раздзеты, галодны!!!

— Месцаў няма,— паныла цягнуў Паўлушка.

А яна закусвала. Адвярнулася, дык Паўлушка хоп з кашолкі піражок!

Убачыла... Як завішчыць! Ну, збілі. Такім чынам... зноў паехаў.

Дык цяпер прыехаў ці не?

Стаіць Паўлушка на платформе. Таўхануць — адыдзе. Прабяжыцца крыху, зноў стане. Есці вельмі хочацца...

Учора еў. Сунулі як падарэйку. Красці страшна: балюча б'юць, а костачкі і без таго баляць.

Мароз даймае. Вочы не замерзлі, а плачуць. Ад холаду слёзы льюцца, і ўжо трэсці пачало. Трэба ў горад.

У каго б гэта папытацца, куды ісці?

Вось гэты быццам нічога. І таксама адзежка неважнецкая.

— Дзядзечка, як у горад прайсці?

— А чаго табе ў горад? Чаго там не бачыў? Такіх там і без цябе поўна.

З вышыні на дробненькага, скурчанага глядзяць усмешлівыя вочы. Падбадзёраны Паўлуша па звычцы хлусіць:

— Брат там у мяне. У кульерах служыць.

— Хлусіш, хлопец. Дзе ў кур'ерах?

— А ў гэтай... як яе... у чаке,— выгаворвае першае, што трапіла на язык.

Дзядзька ў кепскай вопратцы смяецца:

— Бач ты яго, што прыдумаў? Ну бяжы, галышня... куды-небудзь ды трапіш. У чаку ці куды... Ідзі за вакзал...

Паказаў дарогу. Смяецца, а вочы шкадуюць.

— Эх ты, чака!.. Здохнеш, як верабей... Ну, добра, бяжы... На вось, вазьмі.

Выняў з кішэні кавалак хлеба, падае́.

Пабег Паўлушка. У кулаку мёрзлы хлеб. Прагна хапае яго на бягу. Нічога, тут папкадавалі.

Ужо цямнее. Горад нішто сабе. Народу шмат.

— Дзядзечка, дай на хлеб!

— Цётачка, падарэце на кавалачак хлебца!

— Таварыш, дзе аддзел народнай асветы?

На хлеб не далі. Многія просяць. Аддзел народнай асветы зачынены. Зайшоў з двара. Мужык у паўкажушку сказаў:

— Заўтра прыйдзеш. Бачыш жа, ноч. Ды па двары не цягайся. Яшчэ сцібрыш што-небудзь.

Зноў на вуліцы. Аўтамабіль ту-ту-ту... Гудуць, шумяць, нясуцца... Коні па мёрзлай дарозе выстукваюць. Народу колькі! На вуліцах віднага.

— Дзядзечка, дай на хлебца кавалак.

— Цётачка...

— Таварыш...

Не даюць.

Хлапчукоў па вуліцы многа. Гандлююць:

— Папяросы найвышэйшага гатунку!

Эх, каб гандляваць! Капусты гарачанькай па барахо-

лаўцы купіў бы. Ногі нешта не ідуць. Галоўнае, што стаміўся. Есці ўжо і не хочацца.

Рукі, бачыш, белымі арламі. Трэба на вакзал. Там пераначаваць. Кепска ногі ідуць. Хутка вакзал... Трэба адпачыць усё-такі. Прытуліўся цёмным камячком да плота.

Спаць хочацца.

Дзіва якое! Мамка і тата тут... А памерлі ж даўно...

Соладка спіцца.

Прыстыў да плота цёмны камячок. Заплюшчыліся вочы, больш не пытаюць.

Скончылася Паўлушкава кар'ера.

*1921*

## Максім Горкі

# ЗНАХАРКА

...На прызбе старой хаты Макееў, без кашулі, грэе пашанаю скуру сваю на зыркім чэрвеньскім сонцы, раманту е браднік кручкаватымі пальцамі. Пад скурай старога жаласна тырчаць скобы ключыц, асцярожна рухаюцца косці рэбраў.

Дзень — цудоўны; сумленна працуе сонца, выдатна пахне ў квецені ліпа, у гарачым паветры — ціхая музыка: гудуць пчолы; у час касавіцы яны працуюць ці не асабліва зацята.

— Прахожы адзін гаварыў,— сіпіць Макееў,— маўляў, чалавечае жыццё — шчасце, і выходзіць так, што не адны паны, а ўсякі чалавек, хоць бы і мужык, таксама — благароддзе. А мы гаворым: добры, дык гэта недарэчны, буяны,— нядобры, значыць. У нас усё — па-свойму...

Ён ужо з паўгадзіны практыкуецца ў славеснасці, і яго сіплы голас добра зліты з ціхім гулам пчол, з чырыканнем вераб'ёў, з песнямі нябачных жаваранкаў. З-за рэчкі даносіцца звон кос, шорганне мянташак, але ўсе гэтыя гукі не перашкаджаюць чуць спакойную цішыню сіняга, духмяна чыстага, дужа высокага неба. Усё вакол паруску проста і цудоўна.

— Князі-та, Галіцыны-та, канечне — князі; тут як хочаш круціся, яно так і будзе — князі. Я і спачатку пераконваў мужыкоў — кіньце, ці ж князёў перасудзіш? А Іваніха нацкавала іх, мужыкоў. Добры дзень, Іваніха!

Нячутна падышоўшы, з намі параўнялася прыземістая баба ў цёмным сарафане, у сіняй хустцы на вельмі вялікай галаве, з дубцом у адной руцэ, з цяжкім лыкавым кошыкам — у другой; кошык поўны духмяных траў, карэння. З цяжкасцю прыўзняўшы вялікую галаву, баба глуха і сярдзіта адказала:

— Добры дзень, балбатун...

Яе грубы, мужчынскі твар, скуласты і цёмны, упрыгожаны сівымі вусамі, пасечаны частай сеткай дробных

маршчын, шчокі яе абвіслі, як у сабакі. Пукатыя вочы мутныя, чырвоныя жылкі на бялках робяць позірк яе панурым. Пальцы левай рукі няспынна варушацца, я чую сухі шолах іх скуры. Паказаўшы на мяне дубцом, яна спытала:

— Гэта хто?

Макееў пачаў шматслоўна тлумачыць, што я прыехаў ад адваката, па справе вёскі з князямі Галіцынымі, што ў нядзелю будзе мірскі сход,— не даслухаўшы яго, старая асцярожна схіліла галаву і дакранулася дубцом да майго калена.

— Зайдзі да мяне.

— Куды?

— Скажуць. Праз гадзінку...

І пайшла прэч, надзіва лёгка для яе ўзросту і цяжкога няўклюднага цела.

З тым гонарам, з якім старыя ў вёсках расказваюць пра сваё, незвычайнае, Макееў паведаміў мне, што Іваніха — знахарка, вядома ўсяму павету.

— Ты толькі не лічы, што ведзьма,— не, гэта ў яе ад бога! Яе і ў Пензю вазілі, дзеўку лячыць бязногую, дык яна бязногую гэту адразу — замуж!

І пайшла ж дзеўка, пайшла, братка. «Дурні,— кажа бацькам ейным,— дзяцей, кажа, нараджаеце, а — для чаго, не ведаеце». А бацькі — багацюшчыя фабрыканты. Жывёлу, чалавека, нават гусей, курэй — яна ўсіх лечыць, ёй усё роўна. У Ніжні патрабавалі: абмёр там нейчы хлопчык і ляжыць, тыдні два ляжаў, хоць у зямлю закопваць. А яна яму недзе іголкай укалола, то ён да столі ўзвіўся, хлопчык-та, ёй за тое — дваццаць пяць рублёў ды сукню — бяры!

— У нас яна першы чалавек, яе і на сходзе паважаюць, слухаюць, нават станавы баіцца. Яна яму тры зубы выдрала з каранямі, дык карані тыя па вяршку аказаліся і з кручкамі на канцах. Ніхто не мог выдраць іх, а яна — усё можа. Яна — бясстрашнага жыцця і ўсіх таемнасцяў валадарка. Гляне на цябе ды спытае, раптам: «Ты чаго думаеш?» Дык ты ёй, у душу тваю, як дзверы адчыніш: на глядзі!

Макееў пачаў гаварыць з выхвальным гонарам, але хутка, панізіўшы сіплы, старэчы галасок, ён расказваў ужо са страхам. Кручкаватыя пальцы яго, заблытаўшыся ў нітках брадніка, перасталі працаваць, бяссільна леглі на вострыя калені.

Я даведаўся, што Іваніха — дачка няхрышчанага мардвіна, паляўнічага на мядзведзяў і ведзьмара, забітага ў часе мардоўскага руху саракавых гадоў.

— Бацька-та яе самому Кузьку, мардоўскаму богу [1], бунтаўніку, прыяцелем быў...

Пасля смерці бацькі Іваніха засталася падлеткам-сіратой, яе ахрысцілі, калі яна была ўжо дарослай дзяўчынай, і неўзабаве пасля гэтага з ёю ажаніўся ляснік. Тры гады яна бяздзетна пражыла з ім, а на чацвёрты, вясною, лесніка задраў мядзведзь. Іваніху пакінулі ў лясной старожцы, і яна пачала біць мядзведзяў — лясы Сергача славіліся багаццем гэтага звера, і да сямідзесятых гадоў XIX стагоддзя мужыкі «сергачы» былі найлепшымі дрэсіроўшчыкамі і «павадырамі» мядзведзяў на ўсю Расію. Біла Іваніха звера «па-мардоўску»: абкладвала правую руку лубкамі, абкручвала яе, да пляча, сырамятным рэменем, у кісць брала нож, а ў левую — кароткую, накшталт матыкі, сякеру. Калі звер ішоў на яе, яна біла яго матыкай па лапах і, сунуўшы нож у пашчу, распорвала горла.

— Гэтак толькі мардва біла мядзведзяў, гэта патрабуе сілы звярачай. Семнаццаты звер усё-такі рабро ёй выбіў, а трыццаць каторы шыю звярнуў трохі,— бачыў ты, як яна нязручна шыяй валодае? Ад гэтага. Да саракавога звера яна не дайшла, збаялася, саракавы мядзведзь — саракавы, як лёс паляўнічаму, рэдкія ад яго ўцякаюць жывыя. Гэта ўсе ведаюць — саракавому мядзведзю вядомы тэрмін жыцця паляўнічага.

— У мяне, гадоў з дваццаць назад, жыў адзін індзей, знакаміты паляўнічы, са сталіцы, дык у яго стрэльбы былі і двухстволкі, і ўсялякія, і раганіцы, і нажыкі страшэнныя, а саракавы нічым не пасаромеўся, абадраў яму вуха і бараду, разам са шчакой.

— Чаму — індзей? Так ужо нарадзіўся, чын у яго быў — граф, а родам ён індзей, такі народ ёсць за Каспійскім морам. Там іх многа жыве; валасы сіняватыя і п'яніцы? Не, гэта другі народ, гэтыя нам падуладныя, нібыта палонныя нашы, як татары ці — чуваша, мардва, а індзей — вольны народ, людзі самабытнага цара. Ім, індзеям, належыць мець залаты зуб у роце, для адрознення ад другіх людзей. Народ — важны, басавіты. Дзевак індзей

---

[1] У пяцідзесятых гадах XIX стагоддзя мардвін Кузьма спрабаваў развіць культурна-нацыянальны рух сярод мардвы-мокшы і эрзі, якая насяляе Ніжагародскую губерню.

гэты перапсаваў у нас за зіму, за вясну штук пяць, не менш. Пасля павезлі яго лячыць. Без барады ў іх не дапускаецца жыць, сорамна, тым яны і падобныя на нас, а ва ўсім іншым — народ свайго звычаю. Звалі-та як яго? А звалі яго Хведар Карлавіч. Ха-арошы пан...

Макееў гаварыў, акурат з гары ехаў звілістай дарогай, і, напэўна, скончыў бы прамову не раней почы, але мне здалося, гадзіна прайшла, і я спытаў: дзе жыве Іваніха?

— А вунь тыя хацінкі акуратныя наводшыбе. Такога дзела людзі заўсёды ўбаку жывуць...

Калі я падышоў да чысценькай Іванішынай хаты, у адчыненых варотах стаяў воз свежай травы, калёсы воссю зачапіліся за шула, белагаловы падлетак спрабаваў папхнуць назад буланага каня і не мог. Іваніха, стоячы на ганку, мыла рукі пад гліняным рукамыйнікам, сярдзіта пакрыкваючы:

— Выпражы! Выпражы, гавару...

Хлапец моўчкі біў каня па храпе і сіпеў. Старая сышла з ганка, хутка распрэгла каня, узялася за аглоблі, нахілілася, упіраючыся ў зямлю чыгуннымі нагамі, выпхнула калёсы на аршын за вароты, спрытна павярнулася, запрэглася ў аглоблі і лёгка ўскаціла воз на двор, сказаўшы:

— Неслух. Дурань.

— Дык у тэя — сіла,— пакрыўджана апраўдваўся хлапец, адводзячы каня пад павець.

— Мне сёмы дзесятак. На што прыдатныя, балаўні?

Убачыўшы мяне, змерала позіркам і запрасіла:

— Калі ласка, у хату-та...

Вячэрняе сонца пільна глядзела ў адчыненыя вокны, на чыста вымытай падлозе качаліся пушыстыя кацяняты, водар сухіх траў напаўняў светлы пакой, у пярэднім куце фыркаў парай чысцюткі самавар. Ля печы, на паліцах, блішчалі бутэлькі, слоікі, бляшанкі з-пад сардзінаў. Пад тапчаном віселі пучкі траў: зверабой, буквіца, мядзведжая капуста — непрыгожая расліна сырых мясцін,— карэньчыкі бадзягі, балігалова і нейкія сучкі ў маленькіх пучках.

Па-купецку трымаючы сподачак на растапыраных пальцах, Іваніха пыталася:

— Што ў горадзе кажуць? Ці дадуць мужыкам зямлі? Глядзіце — злуюцца мужыкі. Сказаў бы ты Галіцынымта,— чаго яны? Дзевяць гадоў судзяцца бессаромна, а толку няма ні сабе, ні людзям. Матаюць мужыкоў. Нібыта волю далі, а дзе яна? Павесілі мужыкоў над зямлёй, таўкуцца яны, як камары, вось і ўся воля.

Яе цёмны твар з абвіслымі шчокамі проста пачварны. Крывавыя вочы глядзяць на сподачак, на верхняй губе варушацца мокрыя белыя вусы, на шыі, пад левым вухам, валасатая бародаўка. Іваніха грызе цукар, цмокае, і нішто, акрамя высока ўспухлых грудзей, не нагадвае ў ёй жанчыну.

Я асцярожна выпытваю ў яе, як яна біла мядзведзяў, яна адказвае з неахвотаю і быццам знарок паглыбляючы глухі, сварлівы голас.

— Моцная была. Мяне, у тыя часы, толькі два мужыкі маглі адолець ва ўсім наваколлі. Акрамя мужа. Ды і мужа б я здолела, толькі — нельга: муж. Жартам я яго і падольвала, а сур'ёзна — нельга, не адважвалася на гэта. Тут у нас мужык лясны, моцны.

Спацеўшы, яна зняла хустку з галавы, і ў жорсткай грыве яе валасоў паказаліся тоўстыя сівыя пасмы. Выцерла хусткай пасечаны маршчынамі твар і захутала ёю надломленую шыю. Далоні рук яе былі ёмістыя, акурат каўшы, пальцы ж бесперастанку варушыліся, нібыта разбіраючы, разблытваючы маток пражы. Гэта было непрыемна бачыць. І ўся Іваніха неяк не па-чалавечы цяжкая.

Пра саракавога мядзведзя яна сказала:

— Мядзведзь — звер — богу служыць. Керамець на мядзведзях на небе ездзіць, сонца возіць. Сонца-та вялікае, з добрую сажалку, усё з чыстага золата. Людзі таксама богу патрэбны. Пчолы служаць чалавеку, чалавек — богу. Керамець сказаў: «Бі мядзведзя, пакуль я цярплю, паб'еш многа — сонца спыніцца — помні! Тады пашлю я на цябе моцнага, ён цябе заб'е». Згадзіўся чалавек: чалавеку жывёлы шкада. Мёду шкада, аўсоў. Мядзведзь шмат псуе.

Пашкробшы канцом ножыка скуру на галаве, яна плюнула на далонь і, прыгладзіўшы слінаю ўзбітыя валасы, вытрашчылася на мяне сваімі мутнымі вачыма. Нос у яе быў шырокі, ноздры вывернуты, як у вярблюда.

— Вось табе, маладому, трэба ведаць: баба ёсць такая, як саракавы мядзведзь. З трыма кахаешся — нічога і з дзевятаю — нічога, а стане на шляху тваім чацвёртая альбо там сёмая, і — канец табе. Прыварожыць, прывяжа, апроч яе няма ў цябе святла, будзеш жыць, як сляпы. Гэта баба — лёс твой, яе Керамець у пакаранне пасылае. Богу дзяцей трэба, людзей. А калі адна голая гульня, без дзяцей, гэтага ён не любіць. Не трэба яму гэта...

— Вы ў царкву ходзіце? — спытаў я. Яна нібыта здзівілася, адказвала пахмура:

— Мы ходзім. Чаму не хадзіць? У нас царква добрая, князямі збудаваная. І поп добры, разумны. Яго пчала любіць. Мы тут ціха жывём, добра. Лясы навокал.

Кацяняты ўзлезлі ёй на калені, яна зграбла вялізнай лапай сваёй дваіх, паднесла звяркоў да твару, спытала:

— Ну, што?

І, наліўшы малака ў свой сподак, тут жа, на стале, сунула ім сподак — гэтага не зрабіла б простая баба.

— Ешце. А трэці дзе? Брацік?

Брацік грыз мой бот, я падняў кацяня і паставіў яго на стол.

— Гэта вось разумныя звяркі, яны нікому не вераць,— сказала Іваніха.— І памяць у іх добрая: набі яго, ён гэта помніць. Праз пяць гадоў успомніць, калі і не чакаеш. А ў людзей памяць слабая: не помняць яны, хто іх б'е...

Моцна завечарэла, ужо прыгналі статак, па вуліцы ішлі мужыкі, плылі паўз вокны косы, адбіваючы чырванаватае святло, у вокны зазіралі бабы.

— Ну, мне трэба схадзіць на двор,— сказала Іваніха.— Ты чаму спыніўся ў Макеева? Гэта сям'я няшчасная. Ты другі раз у мяне станавіся. Я заезджых люблю.

І, праводзячы мяне за вароты, крыкнула нейкай бабе:

— Мар, нагу перавязала?

— Ай, матухна, няма калі...

— Дурніца. Не чапай ужо, я сама...

Пасля вячэры Макееў, паклікаўшы мяне на рэчку ставіць бучы, па дарозе расказаў, што Іваніха яшчэ нядаўна, гадоў дзесяць таму назад, займалася навучаннем хлопцаў тэхніцы кахання.

— Пятак брала альбо фунт абаранкаў, яна абаранкі любіць з анісам. Спярша — смяяліся з яе, пасля — прывыклі. А яна лаялася. «Дурні»,— крычыць.

Гэта ў яе першае дзела, дурнем лаяць. «За коньмі, крычыць, сочыце, за каровамі глядзіце, жывёлу — шкадуеце, а дзевак не шкадуеце?» Гэта яна, бадай, верна крычала. Хлопцы — мядзведзі, справе гэтай у сабак, у катоў вачамі вучацца, а пажэняцца — і пачнуць дзевак дарэмна ламаць, нічога не ўмеюць. Іншы з першага разу жонку сапсуе, а пасля б'е — не салодкая, не ахвочая...

Свяціў месяц, у паветры стаяў густы, вільготны пах накошанай травы. Стары спатыкнуўся на аголены корань дрэва, вылаяўся моцна, пасля прызваў бога і, кульгаючы, пераскочыў да другога апавядання...

— Яе баяцца, Іваніхі. Паважаюць. Яна, брат, ух якая. Проста скажу...

Падумаўшы, ён дадаў:

— Карысная. Хацелі яе з лесу, са старожкі прагнаць, чыноўнік прыехаў — гоніць і гоніць. «Няма, кажа, ні моды такой, ні закону, каб лес вартавала баба. Ніколі, гаворыць, не было гэтага». Яму дакладваюць: «Ды яна хоць і баба, а страшнейшая за лесуна». Не верыць. Дык яна сама пайшла на яго, як на мядзведзя, абгарнула скурай руку, нож узяла, усё, як трэба. Тут ён спалохаўся: «Ну цябе, кажа, к чорту. У Сібір бы, гаворыць, цябе трэба!»

Так яна і засталася старажыхай, а пасля сама пайшла з лесу, на яе месца кум Якаў заступіў, яго, той жа зімой, ваўкі з'елі. Край у нас добры, ціхі край,— заключыў стары, трохі нечакана, а ўсё-такі з поўнай перакананасцю.

Ласкава, асцярожна выходзіла з лясоў ноч, накрываючы лугі і палі цёплымі ценямі, цішыня стаілася над сіняй, лянівенькай рэчкай, і вакол месяца, як пчолы над кветкай, бліскалі зоркі...

...Месяцы праз тры, у святочны дзень, мне зноў давялося быць у Беразянцы. Я спыніўся ў Іваніхі, сабраў мужыкоў, расказаў ім, наколькі за гэты час пасунулася іх справа, і восеньскім вечарам, седзячы са старой за чаем, слухаў яе гаворкі. Яна расказвала пра падзеі лета, пра пажар, які знішчыў, на шчасце, толькі тры хаты, пра тое, хто на што хварэў, хто каго набіў, пра людзей, што аб'еліся грыбамі, пра дзяўчынку, якая нечага спалохалася ў лесе і памуцілася розумам.

— Сядзіць на печы, у цёмным куточку, і спявае днём, уночы: «Мамачка, бяжым, родная, бяжым!»

Потым, варушачы пальцамі, спытала строга:

— Пра зямлю-та не рашылі там, у вас?

І калі я адказаў: не яшчэ,— яна, недаверліва глянуўшы на мяне, параіла:

— Ты не хавайся. Глядзі, хварэюць мужыкі аб зямлі...

За акном вецер гайдаў дрэвы, хвастаў па шкле дажджом, гудзеў у коміне, вёску задушліва абняў асенні, рускі сум, той сум, журботнейшы за які бывае толькі безнадзейная, невылечная хвароба.

Мне хацелася папытацца ў знахаркі пра Керамеця: які гэта бог? І калі яна, перастаўшы піць чай, памыўшы і прыбраўшы посуд, села да стала вязаць панчоху, я асцярожна пачаў выпытваць.

Непрыемна падціснуўшы тоўстыя губы, хутка варуша-

чы пальцамі, пабліскваючы сталлю пруткоў, яна адказвала з неахвотаю, вярблюджыя ноздры яе сціснуліся і цёмны нос стаў вастрэйшы.

— Я не поп, бога не ведаю,— гаварыла яна.

— А Керамець — добры бог?

— Бог — не конь, па зубах не пазнаеш. Не заглянеш яму ў зубы-та...

Яна доўга адказвала так, сярдзіта і стрымана, але мне ўдалося нейкімі словамі закрануць яе, і, раздзьмуўшы ноздры, паказаўшы зеленаватыя зубы авечкі, яшчэ хутчэй перабіраючы пруткі, яна забурчала раздражнена:

— Што ты стукаеш, як бондар,— бог, бог? Чалавека нельга аддаваць богу, як дзеўку старому, нельга сілком цягнуць да бога. Не сям'я будзе. Праўды не будзе.

Са здзіўленнем я заўважыў, што старая вядзе гаворку сваю нібыта не па-руску, хоць увогуле яна гаварыла сакавіта і складна. Рэзкім рухам яна кранула хустку на галаве, лоб яе стаў вышэйшы, а з-пад калматых броваў на мяне пільна глядзелі іншыя вочы — светлыя, меншыя. І ўвесь памяты твар яе таксама стаў меншы, цвярдзейшы.

— Ваш бог — веру любіць, Керамець — праўду,— гаварыла яна.— Праўда вышэйшая за веру. Керамець ведае: бог з чалавекам у дружбе — будзе праўда! Чалавечая душа — яго душа, ён яе д'яблу не аддасць. Ваш бог, Хрыстос, нічога не хоча. Керамець — чалавека хоча, ён ведае: бог з чалавекам — праўда, а адзін бог — гэта няпраўда. Ён — беражлівы. Звера, рыбу, пчалу — гэта ён дае чалавеку. Зямлю дае. Ён чалавеку пастух. Не поп пастух, бог пастух. А ў вас — поп. Хрыстос гаворыць: веруй, а Керамець: рабі праўду! Зробіш — сябрам маім будзеш. За грошы праўду не зробіш. Папы — грошы любяць. Яны Хрыста з Керамецем звялі, як сабак, змагаюцца абодва, злуюцца, ваш — на нас, наш — на вас.

Яна перастала вязаць панчоху, кінуўшы на стол ніткі і пруткі, шлёпаючы губамі, гаварыла глуха, пахмура:

— Мардва не людзі сталі, каму верыць — не ведаюць. І вы — не людзі. Керамець сярдзіты на вас, перашкаджае жыць, абодва яны перашкаджаюць, адзін — вам, другі — нам. Злыя абодва. Бог чалавекам корміцца, а чалавек стаў таксама злы, горкі стаў...

Пасвятлелыя вочы старой бліпчалі дакорліва і жорстка, яна рабілася ўсё меней падобная на рускую, і штосьці ўладнае гучала ў яе словах. Павolі разгінаючы зламаную шыю, яна акурат наважвалася ўдарыць мяне галавой,

і гэта было так непрыемна, што я выпрастаўся на крэсле. І ўсё часцей сустракаліся ў яе гаворцы чужыя мне, мардоўскія словы. Мой рух, відаць, трохі супакоіў яе, яна схапіла панчоху са стала, і зноў хутка захадзілі ў руках пруткі. Памаўчаўшы, яна загаварыла цішэй:

— Бог злы, чалавек злы, поп горай за ўсіх злы. Людзей трэба падзяліць сумленна: тых — гэтаму богу, гэтых — таму. Тады багі будуць жыць дружна. У кожнага свой статак. Добрыя гаспадары варожасцю не жывуць. Вы гаворыце: «Бог праўду любіць, ды не хутка скажа» — чаму не хутка? Ведаеш — цяпер скажы! Керамець знае: праўда лепш за веру. Ён гаварыў, а калі яго цкаваць сталі — змоўк. Пакрыўдзіўся — жывіце без мяне. Гэта дрэнна нам. Гэта — чорту добра...

Да мяне прыйшлі мокрыя мужыкі; фыркаючы, выціраючы далонямі бароды, яны ўселіся на лаўку і павялі асцярожную гаворку пра горад, пра зямлю, намацваючы: ці няма якіх адзнак, што жыццё стане лягчэйшае? Не намацалі.

А калі яны, цяжка ўздыхаючы, пайшлі, Іваніха папрасіла мяне:

— Ты не кажы ў горадзе, пра што мужыкі размаўлялі. Губернатару не гавары, калі ласка...

Спаць яна легла на печы, а я — на тапчане, у душным паху сушаных траў.

Сярод ночы мяне разбудзіў віск ветру ў коміне і цяжкі, булькатлівы шэпт. Асцярожна глянуўшы з тапчана ўніз, я ўбачыў, што Іваніха, стоячы на каленях, моліцца. Зверху яна здавалася бясформеннай грудай нечага шэрага, вуглаватага, падобнага на камень. Яе незвычайны, глухі голас дзіўна булькаў, здавалася — гэта моцна кіпіць вада альбо палошчуць горла. Потым з гэтага кіпення ўзніклі дзіўныя спалучэнні слоў.

— Ай-яй, Хрыстос, ай-яй... Сорамна, Хрыстос... Ілья злуецца, ты злуешся, Керамець таксама. Ты — моцны, за табой ідзе багата людзей. Табе трэба быць добрым. Хто будзе добры да людзей, калі бог злы? А-я-яй, Хрыстос! Ты слухай мяне, слухай, я многа ведаю! Бабы твае пакутуюць, мужыкі пакутуюць, навошта? Э-эх...

Не хрысцячыся, яна размахвала рукамі, то працягваючы іх да цёмных абразоў, то пляскаючы да бёдраў, альбо біла далонямі па грудзях. І ўсё шаптала, глуха, але горача папракаючы, душачыся словамі:

— Керамеця папы твае гоняць, ох! Ці ж можна? Кера-

мецъ — горш за цябе? Э-э, дрэнна, Хрыстос! Бог бога гоніць — чаму вучыць людзей? Ох ты, Хрыстос, нядобры бог, зайздросны ты, злы, не чалавечы ты бог, не! Цяжка людзям з табой. Што робіш! Іван — навошта памёр малады? Мішка — адно дзіця, такі светлы, Мішка,— чаму? Карова Гусевых пала, ай-ай-яй! Не шкада табе сваіх, га? Чужых ты ўжо не пашкадуеш, не! Ой, дрэнна. Каму служыш, Хрыстос? Якім людзям служыш, га? Вось я, баба, людзям служу, тваім памагаю, і татарам, і чувашам — мне ўсё адно, бачыш? А ты — каму? Поп твой гаворыць: ты — для ўсіх, а ты і сваіх не любіш, не. Сорамна табе, ох, не так трэба. Я праўду кажу: эй, сорамна табе! Глядзі на тваіх людзей — добрыя людзі, а як жывуць? Э,— Хрыстос! Ты ведаеш: бог жыве добра, калі слухае людзей, людзі — калі бога слухаюць. Ты слухай мяне, я гавару не дрэннае, я праўду гавару, ты разумей: богу трэба ведаць праўду лепей за людзей, а я, чалавек, старая, знаю праўду лепш за цябе, раней за цябе ведаю, э-эх ты, Хрыстос...

Так яна дакарала Хрыста доўга: вельмі жудасна гудзеў яе глухі голас, кіпучыя словы, булькаючы ў горле, чуліся то жаласна, то горка і гнеўна.

Тонкімі плёткамі хвастаў дождж па саломе на страсе, тонка і злосна скавытаў вецер, прыглушаючы сардэчную скаргу чалавека.

...На світанку я паехаў з вёскі і павёз у памяці сваёй адну з найлепшых размоў чалавека з богам, магчыма, самую лепшую з усіх, якія давялося чуць мне.

«Э, Хрыстос...»

*1924*

3 Зак. 218

## Барыс Пастарнак

# ПАВЕТРАНЫЯ ПУЦЯВІНЫ

*Міхаілу Аляксеевічу Кузьміну*

### I

Пад пракаветнай шаўкоўніцаю спала нянька, прыхінуўшыся да яе ствала. Калі вялізазная, аж падсіненая хмара, паўстаўшы ўскрай дарогі, змусіла змоўкнуць і конікаў, што зацята трашчалі ў траве, а ў лагерах уздыхнулі, перастаўшы трапятацца, барабаны, у самой зямлі, здавалася, пацямнела ўвачча і на свеце не стала жыцця.

— Куды, куды! — знявечанай губой правыла на ўвесь свет прыдуркаватая пастушка і, наперадзе маладога воліка, цягнучы навярэджаную нагу і махаючы, бы маланкай, дзікім дубцом, з'явілася ў воблаку смецця з таго боку саду, дзе пачыналася несусветчына: паслён, цэгла, клычаны дрот, гнілы змрок.

І тое ўсё знікла.

Хмара абняла зрокам нізкую, засмяглую ад сонца збажыну. Яна слалася да самага гарызонта. Хмара лёгка ўскінулася дыбкі. Збажына ляжала і далей, за самыя лагеры. Хмара пала долу і, паволі перайшоўшы дарогу, сціха папаўзла ўздоўж чацвёртай рэйкі раз'езда. Хмызы, расхінуўшы вецце, усім сваім масівам памкнуліся за ёй. Яны ліліся, кланяючыся ёй. Яна на іх не зважала.

З дрэва падалі ягады і вусені. Яны адвальваліся, ачмурэўшы ад спёкі, і, шмякнуўшыся аб няньчын фартух, пераставалі пра што-небудзь думаць.

Дзіця дапаўзло да водаправоднага крана. Яно паўзло ўжо даўно. Яно папаўзло далей.

Калі, нарэшце, будзе залева і дзве пары рэек памчаць уздоўж крывога паплёту, ратуючыся ад чорнай вадзяной ночы, пізрыпутай на іх; калі, раз'ятраная, ноч прагукае вам, каб вы яе не баяліся, што яе завуць залевай, любасцю і яшчэ неяк, я раскажу вам, што бацькі ўкрадзенага хлопчыка звечара вычысцілі свае піке і было яшчэ вельмі рана, калі, беласнежныя, нібы дзеля партыі ў тэніс, яны прайшлі цёмным яшчэ садам і выйшлі да слупа з назваю стан-

цыі ў тое самае імгненне, калі гарбузаватая талерка паравіка, выкочваючыся з агароднiцтва, абчапляла турэцкую кандытарскую клубамі жоўтага, тхлівага дыму.

Яны кіраваліся ў порт страчаць таго гардэмарына, які кахаў яе некалі, быў другам мужу і гэтай раніцай меўся ў горад з вучэбнага кругасветнага плавання.

Муж гарэў нецярплівасцю як хутчэй далучыць сябрука да глыбокага сэнсу бацькоўства, якое яшчэ не паспела самому апрыкраць. Так здараецца. Немудрагелістая прыгода ледзь не ўпершыню сутыкала вас з мілатою самабытнага сэнсу. Гэта ўсё такое важнае для вас, што няхай перад вамі чалавек, які аб'ехаў свет, усяго пабачыў, мае пра што расказаць, а вам здаецца, што пры скорай сустрэчы слухачом будзе ён, а вы — бразготкай, што абавязкова апаломіць яго розум.

У процівагу мужу яе, нібы якар у ваду, цягнула ў чыгуначны ляскат гавані, да рудой іржы трохтрубных волатаў, туды, дзе руччом лілося зерне,— пад светлы плёскат нябёсаў, ветразяў і матросак. Памкненні іхнія не былі ў згодзе.

Лье дождж, лье як з вядра. Я падступаюся да абяцанага. Над канавай трашчыць голле арэшын. Дзве постаці бягуць полем. У мужчыны чорная барада. Касматая грыва жанчыны б'ецца па ветры. У мужчыны зялёны каптан і сярэбраныя завушніцы, на руках ён трымае ўзрадаванае дзіця. Лье, лье як з вядра.

## II

Выявілася, яго даўно ўжо зрабілі мічманам.

Адзінаццаць гадзін ночы. Да станцыі падкочвае апошні поезд з горада. Да змогі дагэтуль наплакаўшыся, ён павесялеў з паваротки і неяк раз'імпэціўся. Цяпер, набраўшы паветра ад усяго наваколля, а яно ўлілося разам з лісцем, жвірам і расой у яго задушлівыя рэзервуары,— поезд спыняецца, б'е ў далоні і змаўкае, чакаючы гулу ў адказ. Ён павінен сцячыся да яго з усіх пуцявін. Калі ён яго пачуе, пані, марак і цывільны, усе ў белым, збочаць з дарогі на пешаходную сцяжынку, і проста перад імі з-за таполяў усплыве асляпляльны дыск абрасянелага даху. Яны пройдуць да агароджы, грукнуць весніцамі і, нічога не згубіўшы з пазоў, стрэшак і паддашкаў, з карнізаў, што шчыкотнымі завушніцамі муляюць ёй, жалезная планета стане знікаць у адпаведнасці з тым, як яны стануць

набліжацца. Гул поезда, які аддаляецца, разрасцецца раптам нечакана далёка і, падманваючы сябе і іншых, на час пададзіцца цішынёй, а потым рассыплецца дажджом дробных, усё менш і менш чутных гукаў-абмылкаў. Аднак стане зразумелым, што гэта зусім не поезд, а вадзяныя ракеты, якімі забаўляецца мора. З-за станцыйнага гаю выйдзе на дарогу месяц. І тады, пры паглядзе на ўсю гэтую сцэну, вам здасца, што яна прыдумана надта ўжо знаёмым нейкім паэтам і што яе яшчэ дагэтуль дораць дзецям на каляды. Вы ўспомніце, што якраз гэты вось плот неяк бачылі вы ў сне і тады ён называўся край-светам.

Каля абмытага месяцам ганка бялелася вядзерца з фарбай і стаяў ражон з квачом угору. Потым у сад расчынілі акно.

— Сёння бялілі,— нягучна сказаў жаночы голас.— Вы чуеце? Хадземце вячэраць.

І зноў запанавала цішыня. Яна не здоўжылася. У доме пачаўся вэрхал.

— Як? Чаму гэта — няма? Прапа-аў? — адначасна чуліся сіплы, як саслаблая струна, басок і ўзнятае да істэрыкі жаночае кантральта.

— Пад дрэвам? Пад дрэвам? Зараз жа ўстань і па парадку. І не выць. Не галасіць. Ды адпусці ты рукі мае, божа. Ды што ж гэта такое? Тоша, Тошачка мой! Не смей! У вочы? Бессаромная, нахабная, дрэнь! — І, перастаўшы быць словамі, гукі жаласліва зліліся, пацішэлі і прапалі. Іх ужо не чуваць было.

Ноч канчалася. Але да світання было далёка. Зямля, як стагамі, была застаўлена формамі, аглухлымі ад цішыні. Яны адпачывалі. Адлегласці паміж імі павялічыліся проці дня; нібы для таго, каб лепей адпачыць, формы адхінуліся адна ад адной і аддаліліся. У прамежках паміж імі нячутна пыхкалі і храплі золкія лугі пад наскрозь потнымі посцілкамі. Зрэдзь каторая з формаў аказвалася дрэвам, воблакам ці чым знаёмым. Найбольш гэта былі невыразныя громазды без імёнаў. Іх збольшага хістала, і ў гэтым паўабмарачэнні бадай не здолелі б яны сказаць, быў толькі што дождж, ці перастаў, ці ён мае намер праліцца першымі кроплямі. Іх зрэдзь пагойдвала з былога ў будучыню, з будучыні ў прошласць, як жвір у пясочным гадзінніку, якім гуляюць у руках.

Але на далёкай водмашы ад іх, нібы бялізна, сарваная на світанні парывам ветру з плота і занесеная чортведама куды, няпэўна мільгалі на тым баку поля тры чалавечыя

постаці, і ў супрацьлеглым ад іх баку каціласе і адкочвалася некуды спрадвек несціханае водгулле далёкага мора. Гэтых чацвярых несла толькі з былога ў будучыню і назад ніколі не вяртала. Людзі ў белым перабягалі з месца на месца, нахіляліся і выпросталіся, саскоквалі ў равы і, прапаўшы, выходзілі потым на мяжу зусім у іншым месцы. На вялікай адлегласці адзін ад аднаго яны перагукваліся і махалі адзін аднаму рукамі, і таму, што гэтыя сігналы кожнага разу зразуметы былі па-інакшаму, кожны раз яны махалі інакш, нецярплівей і злаcлівей і часцей за ўсё таму, што знакаў не зразумелі і яны адмяняюцца, а трэба не вяртацца, а шукаць там, дзе шукалі. Суладная жвавасць гэтых постацей рабіла такое ўражанне, быццам, уздумаўшы ноччу гуляць у мячыка, яны мяч упусцілі і цяпер шукаюць яго абы-дзе і, не знайшоўшы, гульню пачынаюць зноў.

А спаміж спакойных формаў панавала найвялікшая лагода, бязветранасць, і ўжо не верылася ў блізкі світанак; а гледзячы на гэтых людзей, што неспакойнымі віхорчыкамі ўзляталі над зямлёй, можна было падумаць, што паляну ўзбарсала ветрам, прыцемкам і трывогай, нібы нейкім чорным грабеньчыкам з трыма зламанымі зубамі.

Існуе закон, паводле якога з намі ніколі не можа быць таго, што заўжды і непазбежна можа адбыцца з другімі. Правіла гэтае неаднойчы нагадвалі пісьменнікі. Неабвержнасць яго ў тым, што пакуль нас пазнаюць сябры, мы спадзяёмся, што няшчасце можна папpавіць. Калі ж мы ўсведамляем яго непазбыўнасць, сябры перастаюць пазнаваць нас і, нібы дзеля пацвярджэння правіла, мы самі робімся іншымі, гэта значыць тымі, якія павінны зведаць пажар, страту маёмасці, патрапіць пад суд ці трапіць у вар'яцкі дом.

Пакуль на няньку крычалі здаровыя яшчэ людзі, справа бачылася ім у тым, так сказаць, выглядзе, што ад гарачлівасці іхняй расправы залежала ўвайсці потым у дзіцячы пакой і, з палёгкай уздыхнуўшы, знайсці там хлопчыка, перанесенага на гэтае месца памерамі самога іх спалоху і засмучэння. Відошча пустога ложка абнішчымніла іх галасы. Але і са спустошанай душой, кінуўшыся спярша шукаць у садзе, а потым усё далей і далей адыходзячы ў сваіх пошуках ад дому, яны доўга яшчэ былі людзьмі такімі ж, як мы, гэта значыць шукалі, каб знайсці. Аднак праміналі гадзіны, мянялася аблiччам сваім ноч, іначыліся і яны, і цяпер, на яе згоне, гэта былі зусім непазнаваль-

ныя людзі, якія перасталі разумець, за якія гэта грахі і дзеля чаго, не даючы ім аддыхацца, жорсткая пространь усё цягае іх за сабой і перакідае з канца ў канец па той зямлі, на якой іх сына ўжо больш ніколі і ніякім чынам не відаць. І яны даўно забылі пра мічмана, які пачаў шукаць па той бок рова.

Ці не дзеля гэтага спрэчнага назірання хавае аўтар ад чытача тое, што яму так добра вядома? Бо лепш за іншых ведае ён, што як толькі ў пасёлку адчыняць булачныя і раз'едуцца на лініі першыя паязды, дык чутка пра сумнае здарэнне абляціць усе дачы і падкажа нарэшце блізнятам-гімназістам з Альгінай, куды ён даставіць свайго безыменнага знаёмца і трафей учарашняй перамогі.

Ужо з-пад дрэваў, як з-пад нізка насунутых клабукоў, выбіваліся першыя адзнакі яшчэ няўцямнай раніцы. Світанак браўся прыступамі, з перапынкамі. Морскі гул раптам паніпічыўся, і зрабілася яшчэ цішэй, чым перад тым. Невядома адкуль беручыся, саладкавае і дрыготкае трапятанне працінала дрэвы. Пачаргова, пашпалерна, адхваставўшы паркан сваім потным срэбрам, яны зноў надоўга засыналі. Два найлепшыя алмазы самі па сабе, самастойна гралі, пераліваліся ў глыбокіх гнёздах гэтай цемнаватай раскошы: птушка і яе чыліканне. Палохаючыся сваёй адзіноты і саромеючыся сваёй нікчэмнасці, птушачка з усяе сілы намагалася паніпічыцца ў неабсяжнай пространі расы, якая ніяк не магла сабрацца з думкамі паводле безуважнасці і са сну. Птушачцы гэта ўдавалася. Схіліўшы галоўку набок, моцна зажмурыўшыся, яна бязгучна аддавала сябе бяздумнасці і маркоце толькі што народжанай зямлі, радуючыся свайму паніпічэнню ў навакольным і скону. Але моцы ёй не ставала. І раптам, скарыўшы яе журботу і робячы яўным прытоенае ў ёй, шчодрай аздобай на прызначанай вышыні загараўся халоднай зоркай яе шчэбет, пругкі пошчак паласаваў імглісты прыцемак, пырскі святла гучалі, халаднеючы і дзівуючыся,— нібы тут пралілі сподак з агромністым, як само здзіўленне, вокам.

Але вось світанак браўся дружней. Сад увесь наліўся сырым белым святлом. Найбольш святло ціснулася да атынкаванай сцяны, да пасыпаных жвірам дарожак і да ствалоў тых садовых дрэў, якія былі абмазаныя нейкім купарвасным, белаватым, як вапна, саставам. І вось, з та-

кім жа белаватым, чэзлым налётам на аблічча, па садзе пранеслася, вяртаючыся з поля, маці малога. Яна не спыняючыся, хісткай хадой прайшла ў край саду, не заўважаючы, што топчуць і ў чым патанаюць яе ногі. Градкі гупалі ў яе пад нагамі, кідаючы яе ўгору і ўніз, нібыта яе хваляванне хацела здоўжыць сябе. Прайшоўшы агарод, яна наблізілася да плота там, дзе за ім відна была дарога да лагераў. Да гэтага ж месца кіраваўся мічман, наважваючыся пералезці праз агароджу, каб не абыходзіць сад кругом. Сам ранак нёс яго на агароджу, як белы ветразь крута нахіленай лодкі. Яна чакала яго, трымаючыся за балясіны агароджы. Відно было, што яна збіраецца нешта сказаць і ўжо напагатове было яе кароткае слова.

Тая ж блізкасць нядаўна пралітага ці таго, што меўся праліцца, дажджу чулася і тут, на беразе мора. Адкуль мог брацца гул, што праз усю ноч чуўся на той бок палатна? Мора ляжала, халаднеючы, як нартучанае спадыспаду люстэрка, але спахоплівалася лёгка і ўсхліпвала на закрайках. Гарызонт ужо жаўцеўся хваравіта і зласліва. Можна было зразумець гэты золак, што прыціснуты быў як бы да сценкі вялізнага, на сотні вёрст забруджанага хлява, дзе кожную хвіліну маглі раз'ятрыцца і ўзняцца з усіх канцоў хвалі. Цяпер жа яны паўзлі на чэраве і ледзь прыкметна церліся адна аб адну, быццам незлічоная плойма чорных і слізкіх парсюкоў.

На бераг з-за скалы выйшаў мічман. Ён ішоў скорым і бадзёрым крокам, калі-нікалі пераскокваючы з каменя на камень. Толькі што ён пачуў там, наверсе, нешта агаламляльнае. Ён падняў з пяску пляскаты вобгладак чарапіцы і, размахнуўшыся, запусціў ім у ваду. Камень, чвакнуўшы, слізгануў убок, а потым пачуўся ледзь улоўны, па-дзіцячы наіўны гук, які выдыхнула, здаецца, усё ўзбярэжжа. Толькі што, калі, зусім зняверыўшыся ў пошуку, ён павярнуў на дачу і пачаў падыходзіць да яе з боку паляны, як Лёля падбегла знутры да плота і, даўшы яму параўняцца з плотам, хуценька сказала:

— Мы больш не можам. Ратуй! Знайдзі яго. Гэта твой сын.

Калі ж ён схапіў яе за руку, яна вырвалася і пабегла, а калі ён пералез у сад, дык нідзе ўжо яе не мог знайсці. Ён зноў падняў камень і так, кідаючы іх, усё ішоў і ішоў, пакуль не схаваўся за выступам скалы.

А за ім доўга яшчэ жылі і шавяліліся яго сляды. Ім таксама хацелася спаць. А ззаду паўзло, асыпалася, узды-

хала і пераварочвалася з боку на бок патрывожанае мора і, грукочучы, ладкавалася як мага зручней, каб цяпер ужо выспацца ўсмак на прыволлі.

## III

Мінула больш за пятнаццаць год. На дварэ сутоньвалася, а ў пакоях было цёмна. Невядомая пані трэці ўжо раз пыталася пра члена прэзідыума губвыканкома, былога марскога афіцэра Паліванава. Перад жанчынай стаяў з сумным выглядам салдат. Праз акно прыхожай відзён быў прахадны двор, закіданы гарбамі цэглы пад снегам. У самай яго глыбіні, дзе некалі была памыйная яма, а цяпер ляжала гара застарэлага смецця, неба здавалася здзічэлым падлескам, што вырас па схілах гэтага збірышча дохлых кошак і кансервавых бляшанак, якія ўваскрасалі падчас адлігі і, аддыхаўшыся, пачыналі трызніць былымі вёснамі, капяжовым цуркам, птушыным чыліканнем, шапаткім і грымотным прыволлем. Але дастаткова было адвесці позірк ад гэтай сумоты і пагпядзець вышэй, каб здзівіцца, наколькі ўсё ж гэтае неба выдавала новым.

Цяперашняя ягоная здольнасць разносіць цэлымі суткамі з мора і ад вакзала гул вінтовачных стрэлаў і гарматны гром пакінула ў занядбанні ягоную згадку пра тысяча дзевяцьсот пяты год. Нібы шашэйным катком з канца ў канец абкатанае несціханай кананадай і ёю ж канчаткова ўтрамбаванае і панішчанае, яно бязгучна хмурылася і некуды клікала, як гэта наогул уласціва ўсялякаму паску аднастайнай у сваім імкненні рэйкавай каляіны.

Што ж гэта было за неба? Яно і ўдзень нагадвала вобраз той ночы, якая западае нам у душу юначай парой і ў паходзе. Яно і ўдзень кідалася ў вочы, і, такое прыкметнае, яно і ўдзень жыло спустошанай зямлёй, збіваючы з ног санлівых і ўзнімаючы на ногі летуценнікаў.

Гэта былі паветраныя пуцявіны, па якіх, нібы цягнікі, кожнага дня імкнулі ў свет порсткія думкі Лібкнехта, Леніна і нешматлікіх розумаў такога ж парадку. Гэта былі пуцявіны, якія былі дастатковыя, каб мінуць любыя межы, як бы яны ні называліся. Адна з ліній, пракладзеная яшчэ падчас вайны, захавала сваю ранейшую стратэгічную вышыню, навязаную будаўнікам прыродаю франтоў, над якімі яе пракладвалі. Гэтая старая пуцявіна, якая недзе ў сваім месцы і ў нейкія свае часы перасягала мяжу Польшчы і потым Германіі,— тут, ля свайго пачатку, увачавід-

кі для ўсіх выходзіла за абсягі разумення звычайнасці і самога яе цярпення. Яна праходзіла над дваром, і ён збянтэжаны быў далёкасцю яе прызначэння і яе гнятлівай вялізнасцю, як заўсёды бянтэжацца рэйкавай каляіны гарадскія ўскраіны, кідаючыся ад яе наўзбоч. Гэта было неба Трэцяга Інтэрнацыянала.

Салдат адказваў пані, што Паліванаў яшчэ не вяртаўся. Трохступенная сумота чулася ў ягоным голасе. Гэта была панырасць істоты, што прывыкла да хлюпаткай гразюкі і раптам апынулася ў сухім пыле. Гэта быў сум чалавека, які звыкся ў франтавых і рэквізіцыйных атрадах з тым, што пытанні задае ён, а адказвае, бянтэжачыся і заікаючыся, такая вось пані, а сумна было яму таму, што парадак узорнага дачынення з прысутнымі тут перавернуты і парушаны. Гэта была, нарэшце, і тая знарачытая абыякавасць, з дапамогай якой надаюць выгляд самай малой звычайнасці нечаму сапраўды небываламу. І, добра ведаючы, якімі незвычайнымі павінны здавацца гэтай пані парадкі апошняга часу, ён напускаў на сябе дурнаватасць, нібы пра пачуцці той пані не здагадваўся і ніколі ні чым іншым, акрамя дыктатуры, і не дыхаў.

Раптам увайшоў Лёвушка. Быццам махам аграмадных хадуноў узнесла яго на другі паверх аднекуль з неба, што тхнула сюды снегам і цёмнай цішынёй. Ухапіўшыся за тыя хадуны, што набылі выгляд партфеля, салдат спыніў чалавека, як спыняюць карусель на ўсім яе разгоне.

— Вось як,— сказаў ён да яго,— з палонбежа былі.

— Гэта зноў наконт венгерцаў?

— Але.

— Дык жа сказана ім, на адных дакументах далёка не заедзеш!

— Ну а я пра што? Я нават вельмі разумею, што з выпадку таго, што параходы... Я так ім і растлумачыў...

— Ну і што?

— Мы, кажуць, і без вас ведаем. Ваша справа — паперы каб у парадку, для пасадкі, значыць. А там, так сказаць, відаць будзе. Ім памяшканне вызваліць.

— Так. А яшчэ што?

— А больш нічога. Паперы ім, памяшканне,— кажуць.

— Ды не! — перапыніў Паліванаў.— Навошта паўтараць! Я не пра тое.

— З Канатнай пакет,— сказаў салдат, назваўшы вуліцу, дзе памяшчалася ЧК, і, наблізіўшыся да яго, загаварыў шэптам, як на разводзе.

— Ды што ты! Так. Не можа быць! — абыякава і мімаходзь праказаў Паліванаў.

Салдат адышоў ад яго. Імгненне абодва стаялі моўчкі.

— Хлеба прынеслі? — нечакана кісла спытаў салдат, таму што па форме партфеля не меў патрэбы ў адказе, і дадаў: — Ды вось яшчэ тут... грамадзянка да вас.

— Так, так, так,— гэтак жа абыякава сказаў Паліванаў.

Хадуны затрымцелі і здрыгануліся. Партфель пачаў торгацца.

— Калі ласка, таварыш,— загаварыў ён да жанчыны, запрашаючы ў кабінет. Ён яе не пазнаў.

У параўнанні з цёмнай прыхожай тут было цямней. Яна пайшла следам за ім і за дзвярыма спынілася. Мусіць, тут быў кілім на ўвесь пакой, таму што, ледзь зрабіўшы адзін ці два крокі, ён некуды знік, а потым гэткія ж крокі пачуліся ў супрацьлеглым канцы гэтых поцемкаў. Пачуліся гукі, якія паслядоўна казалі пра тое, як перастаўлялі на стале шклянкі, сухары і рафінад, адсоўвалі часткі разабранага рэвальвера, дакраналіся да алоўкаў. Ён ціха вадзіў рукой па стале, нешта перакочваючы і распіраючы, і шукаў запалак. Уяўленне было ўжо адсунула пакой, абвешаны карцінамі, застаўлены шафамі, пальмамі і бронзай, на адзін з праспектаў былога Пецярбурга і стаяла з поўнай жменяй агеньчыкаў у выцягнутай руцэ, каб прамкнуць іх на ўсю даўжыню перспектывы, як нечакана порстка азваўся тэлефон. Ягонае бульканне з металічным скрыгатам, што абзывалася полем ці гарадской панылаcцю, імгненна напомніла, што дрот прабраўся сюды горадам, які патанаў у абсалютным змроку, і што справа адбываецца ў правінцыі пад бальшавікамі.

— Так,— мусіць, прыкрыўшы вочы рукою, адказваў незадаволены, нецярплівы і смяротна стомлены чалавек.— Так. Ведаю. Ведаю. Правер па лініі. Глупства. Я меў гаворку са штабам. Жмерынка адказвае ўжо з гадзіну. І гэта ўсё? Так, буду і скажу. Ды не, хвілін праз дваццаць. Усё?

— Ну-с, таварыш,— з карабком у адной руцэ і сіненькай кропляй міргатлівага сернага полымя ў другой загаварыў ён да наведвальніцы.

І тады, амаль адначасова са стукатам запалак, што ўпалі і рассыпаліся, пачуўся яе стрыманы, хвалюючы шэпт.

— Лёля! — сам сябе не помнячы, ускрыкнуў Паліванаў.— Не можа быць — вінават. Ды што ж гэта — Лёля?

— Я... Я... Ды што гэта... Дайце супакоюся... Вось дзе бог вялеў,— аднастайна задыхаючыся і плачучы, шаптала яна.

Раптам усё знікла. Пры святле запаленай маслёнкі стаялі адно супроць другога выпетраны вострым недасыпаннем мужчына ў кароткай куртцы наапашку і брудная, даўно не прыбраная жанчына з вакзала. Маладосць і мора толькі сніліся. Пры святле масла яе прыезд, смерць Дзмітрыя і дачкі, пра існаванне якой ён не ведаў, і, словам, усё расказанае ёю да агню было гнятлівай паводле сваёй абавязковасці праўдай, што няйначай запрашала і самога слухача ў магілу, асабліва калі ягонае спачуванне не адно словы. Зірнуўшы на яе пры святле каганца, ён адразу прыгадаў тую гісторыю, з прычыны якой, сустрэўшыся, яны адразу не пацалаваліся. І, міжволі ўсміхнуўшыся, ён падзівіўся з жывучасці такіх прымхаў. Пры святле каганца рухнулі ўсе яе спадзяванні на ўбранства кабінета. Чалавек жа гэты здаўся ёй такім чужым, што гэтага пачуцця нельга было прыпісаць ніякай змене. Тым больш рашуча падступіла яна да сваёй справы і зноў, як некалі, узялася яе выконваць слепа і на памяць, як чужое даручэнне.

— Калі вам дарагое ваша дзіця...— так пачала яна.

— Зноў! — імгненна ўспыхнуў Паліванаў і пачаў гаварыць, гаварыць, гаварыць — жвава і бесперапынку.

Ён гаварыў, нібы допіс пісаў — з «якімі» і з коскамі. Ён пахаджаў па пакоі, і прыпыняўся, і разводзіў рукамі, і пафасна трос імі. У перапынках, моршчачы і збіраючы трыма пальцамі скуру на пераноссі, ён вярэдзіў і расціраў тое месца, нібы там нараджалася яго нязгода і яго абурэнне. Ён прасіў яе перастаць лічыць, што людзі ніжэй за яе выдумкі і імі можна распараджацца як хочаш. Ён заклінаў яе ўсім святым не казаць ніколі і нідзе гэтай бязглуздзіцы, асабліва пасля таго, як і сама яна ў мане тады прызналася. Ён гаварыў, што калі нават і дапусціць гэтую бязглуздзіцу, дык і тады яна даможацца адваротнага. Як цяжка перакanaць чалавека, што тое, чаго ў яго не было мінуту назад і раптам з'явілася, якраз не знаходка, а страта. Ён згадваў, якую бесклапотнасць і волю адразу ж адчуў ён, як толькі паверыў яе мане, і як адразу прапала ў яго ахвота абшукваць яры і канавы, і як захацелася купацца. Так што каб нават тыя часы вярнуліся і зноў была б патрэба, паздзекаваўся ён, шукаць аднаго з членаў яе

сямейства, дык і ў такім выпадку ён стаў бы сябе турбаваць толькі дзеля яе, дзеля зэта, ігрэка, але не дзеля сябе і не дзеля яе ці яе вартых смеху...

— Вы скончылі? — сказала яна, даўшы яму стаміцца.— Ваша праўда. Я ад сваіх слоў адступілася. Няўжо вы не разумееце? Няхай гэта подла і баязліва. Я ледзь не звар'яцела ад радасці, што хлопчык знайшоўся. І так добра, вы помніце? Ці хапіла б у мяне пасля гэтага духу разбіваць сваё і Дзімітрыева жыццё? Я і адраклася. Але гаворка не пра мяне. Ён ваш. Ах, Лёва, Лёва, каб вы ведалі, у якой ён цяпер небяспецы! Не ведаю, як і пачаць. Давайце па парадку. З таго дня мы не бачыліся з вамі. Вы яго не ведаеце. А ён такі даверлівы. Гэта яго калі-небудзь загубіць. Ёсць такі нягоднік, авантурыст,— бог яму суддзя,— Неплашаеў, Тошын таварыш па корпусе...

Пры гэтых словах Паліванаў, які хадзіў па пакоі, стаў як укапаны. Яна назвала імя, якое сярод шмат чаго іншага было названа нядаўна пошапкам салдатамі. Ён ведаў гэтую справу. Яна была безнадзейнай для тых, каго абвінавачвалі, і ўсё рашалі якія-небудзь гадзіны.

— Ён дзейнічаў не пад сваім прозвішчам?

Яна пабляднела, пачуўшы гэтае пытанне. Значыцца, ён ведае больш за яе і справа горш, чым яна думала. Яна забыла, у чым стане знаходзіцца, і, думаючы, што ўся правіна ў выдуманым прозвішчы, кінулася выгароджваць сына з зусім непатрэбнага боку:

— Але, Лёва, не мог жа ён адкрыта адстойваць...

І зноў ён перастаў яе чуць, зразумеўшы, што яе дзіця магло схавацца за любым з прозвішчаў, якія ён ведаў з папер, і стаяў ля стала, і некуды званіў, і пра нешта даведваўся, і ад званка да званка ён прабіраўся ўсё глыбей у горад і ў ноч, пакуль перад ім не расхінулася бездань апошняй і канчаткова правільнай інфармацыі.

Ён азірнуўся кругом. Лёлі ў пакоі не было. Ён адчуваў страшэнную пустату ў вачніцах, і калі абводзіў позіркам пакой, ён плыў перад ім суцэльнымі сталактытамі, ручаямі. Ён хацеў сабраць скуру на пераноссі, але замест гэтага правёў рукой па вачах, і ад гэтага руху сталактыты затрымцелі і пачалі расплывацца. Яму лягчэй было б, каб іх відовішча не было такім частым і бязгучным. Потым ён знайшоў яе. Яна аграмаднай ацалелай лялькаю ляжала паміж тумбачкай стала і крэслам на тым слаі пілавіння і смецця, які ў цемры і пакуль была пры памяці, падаўся ёй кілімам.

# Міхаіл Зошчанка

## ЛАЗНЯ

Кажуць, грамадзяне, што ў Амерыцы лазні найсамалепшыя.

Туды, напрыклад, чалавек пройдзе, скіне бялізну ў адмысловую скрыню і пойдзе сабе мыцца. Баяцца нават не будзе, што табе там кража ці прапажа здарыцца — нумарка нават не возьме.

Ну, можа, там які руплівы амерыканец і скажа лазеншчыку:

— Гуд бай, даражэнькі, кінь вокам.

Толькі гэтак і скажа.

Памыецца гэты амерыканец, назад вернецца, а яму чыстую бялізну даюць — памытую і папрасаваную. Анучы і тыя бялейшыя за снег. Падштанікі зашыты, зацыраваны. Чаму не жыць!

А ў нас лазні таксама нішто сабе. Але горшыя. Хоць таксама мыцца можна.

У нас толькі з нумаркамі бяда. Мінулае суботы я пайшоў у лазню (не паедзеш жа, думаю, у Амерыку),— даюць два нумаркі. Адзін за бялізну, другі за паліто з шапкаю.

А голаму чалавеку куды нумаркі дзяваць? Проста сказаць — няма куды. Кішэняў няма — кругом жывот ды ногі. Грэх адзін з нумаркамі. Да барады не прывяжаш.

Ну прывязаў я да ног па нумарку, каб тут жа не згубіць. Увайшоў у лазню.

Нумаркі, ведама, па нагах ляпаюць. Хадзіць не вельмі зручна. А хадзіць трэба. Ну хоць бы ражку ўзяць. Без ражкі якое ж умыванне? Грэх адзін.

Шукаю ражкі. Гляджу, адзін грамадзянін у трох ражках мыецца. У адной стаіць, у другой галаўню намыльвае, а трэцюю леваю рукою прыцiскае, каб не сцібрылі.

Пацягнуў я трэцюю ражку, хацеў тым часам сабе яе ўзяць, а грамадзянін не дае.

— Ты што ж гэта, кажа, чужыя ражкі крадзеш? Як гахну, кажа, табе ражкаю паміж воч — не ўзрадуешся.

Я кажу:

— Не царскі, кажу, рэжым ражкамі гахаць. Эгаізм, кажу, які. Трэба ж, кажу, і другім памыцца. Не ў тэатры, кажу.

А ён задам павярнуўся і мыецца.

«Не стаяць жа, думаю, над яго душою. Цяперака, думаю, ён знарок тры дні будзе шаравацца».

Пайшоў далей.

Праз гадзіну, гляджу, нейкі дзядзька зазяваўся, выпусціў з рук ражку. Па мыла нагнуўся ці задумаўся — хто яго ведае. Але тую ражку я ўзяў сабе.

Цяперака і ражка ёсць, а сесці няма дзе. А стоячы мыцца — якое ж гэта ўмыванне? Грэх адзін.

Добра. Стаю стоячы, трымаю ражку ў руцэ, мыюся.

А наўкруга, людцы добрыя, усюды паласканне самасільна ідзе. Адзін штаны мые, другі падштанікі шмаруе, трэці яшчэ нешта круціць. Толькі, скажам, ты вымыўся — але зноў брудны. Пырскаюцца неймаверна. І шоргат такі стаіць ад паласкання — мыцца няма прыемнасці. Не чуеш, куды мыла трэш. Грэх адзін.

«Ну іх, думаю, у балота. Дома дамыюся».

Іду ў прылазнік. Выдаюць на нумар бялізну. Гляджу — усё маё, штаны не мае.

— Грамадзяне, кажу. На маіх тутака дзірка была. А на гэтых вунь дзе.

А лазеншчык кажа:

— Мы, кажа, да дзірак не прыстаўлены. Не ў тэатры, кажа.

Добра. Надзяваю гэтыя штаны, іду па паліто. Паліта не выдаюць — нумарок патрэбен. А нумарок на назе забыты. Раздзявацца трэба. Скінуў штаны, шукаю нумарка — няма нумарка. Матузок тут, на назе, а паперкі няма. Змылася паперка.

Падаю лазеншчыку матузок — не хоча.

— Па матузку, кажа, не выдаю. Гэтак, кажа, кожны грамадзянін нарэжа матузкоў — палітаў не набярэшся. Пачакай, кажа,— калі публіка разыдзецца — выдам, якое астанецца.

Я кажу:

— Братачка, а раптам ды дрэнь астанецца? Не ў тэатры ж, кажу. Выдай, кажу, па прыкметах. Адна, кажу, кішэня падрапая, другой няма зусім. Што да гузікаў, то, кажу, верхні ёсць, ніжніх не выстарчае.

Усё-такі выдаў. І матузка не ўзяў.

Апрануўся я, выйшаў на вуліцу. Раптам успомніў: мыла забыўся.

Вярнуўся зноў. У паліце не пушчаюць.

— Раздзявайся,— кажуць.

Я кажу:

— Я, грамадзяне, не магу трэці раз раздзявацца. Не ў тэатры, кажу. Аддайце хоць тое, што яно каштуе.

Не даюць.

Не даюць — не трэба. Пайшоў без мыла.

Ведама, чытач можа пацікавіцца: якая там гэта лазня? Дзе яна? Адрас?

Якая лазня? Ды звычайная. Што грыўню каштуе.

*1924*

## Аляксандр Малышкін

# ЦЯГНІК НА ПОЎДЗЕНЬ

Ці знаёмае вам гэта незвычайнае пачуццё перад адпачынкам? Яно як вецер, што час ад часу шчымліва павявае на вас з нейкіх нябачных сонечных садоў. Упершыню з'яўляецца яно на пачатку вясны, калі мясцком пачынае клапаціцца пра ложкі ў Крыме, а машыністкі скідаюць цёплыя вязаныя жакеты і раніцаю на сваіх лёгкіх блузках прывозяць водар расчыненых у сонца трамвайных вокан. Пра яго нагадвае рахункавод вашага аддзела, які паспеў выехаць на дачу: над яго вельмі шаноўным сур'ёзным сталом і таўшчэзным стосам мудрагелістых бухгалтарскіх кніг на ім нібы ўсміхаецца месяц Клязьмы і позна шумяць бярозы... Казачная ноч у парку, таямніца дзікіх куткоў, нечаканых спатканняў... Вы носіце ў галаве расклад цягнікоў на поўдзень, а сцены — нават на Ільінцы — робяцца раптам шкляныя, і бяжыць, імчыцца за імі, вунь як імчыцца свежая стэпавая прастора!

Але мяне на поўдзень цягнула не толькі гэта.

Быў час, калі стэп звінеў пагібеллю, а за кожнай узятай з бою станцыяй паўставала тое, чаго ніколі да гэтага не было на зямлі. Вы памятаеце, мабыць, па зводках пра трагічны выпадак з шостым Уральскім палком каля вёскі Беразняватка? Гэта якраз мне ўдалося тады своечасова раскрыць здраду і, праз суткі бязлітаснага бою, прарвацца з абяскроўленым палком да роднай дывізіі, праўда, страціўшы палову людзей і ў тым ліку адзінага брата.

Як дзіўна, як неверагодна было зноў убачыць гэтыя мясціны, што пахлі незваротнай маладосцю і смерцю. За тры гады амаль зусім забыўся той пах.

Памятаю, перад самым ад'ездам цёплым жнівеньскім вечарам я зайшоў у нейкі кінатэатр на Арбаце. Усё было як звычайна: па фае снавалася бесклапотная публіка, смыкі пілавалі «Баядэрку», піяніст як апантаны падскокваў на крэсле ў бессаромным экстазе. За велізарнымі вокнамі, шчыльна пазавешванымі аж даверху, віраваў шум пло-

шчы і падземна гулі трамваі, праносячы за бульвар паўналюдныя, наскрозь асветленыя вокны. Я ўспомніў пра хуткі ад'езд, пра поўдзень, і — не ведаю чаму — тут здалося нерэальным, што некалі сапраўды існавалі Беразняватка, і справа шостага палка, і світанак над дымным Перакопам: зазірнуць у іх было страшна, як у раскапаную паблюзнерску магілу. І цягнікі па-блюзнерску імчаліся па шчасце над цёмнымі палеткамі...

А я ж, я таксама мог ляжаць там, безыменны!

Зрэшты, усё гэта магло стацца ад звычайнага вясновага пераматамлення. У дзень ад'езду перон кіпеў такой вясёлай таўкатнёй, неба было такое радасна-сіняе, што адразу амаль усё забылася. Я ведаў толькі, што я вольны, і вытрас з галавы ўсе папкі са справамі, даведкі, прамовы — я дзіка скакаў ад шчасця на кучы гэтага абрыдлага хлам'я.

Севастопальскі адыходзіў а другой гадзіне. Я сядзеў у купэ і з гультайскай цікаўнасцю чакаў сваіх суседзяў. Першыя прыйшлі дзве дзяўчыны — мабыць, з нейкага сур'ёзнага сакратарыята; жоўтыя чамаданчыкі, партпледы з вышыванымі ініцыяламі і, вядома ж, кветкі на століку сведчылі аб чыстым, утульным, выпешчаным матулямі жыцці. І яны стаялі тут, каля вагона — дзве мажныя, аж гарсэты распінаюцца, мурлатыя мамкі старога свету, з вялізнымі лакіраванымі рыдыкюлямі. Яны лапаталі, перабіваючы адна адну:

— Пішыце, пішыце! Жэнечка, увечары халаднее, абавязкова выцягні жакетку! Сонечка, у Ялце заскоч да Соф'і Андрэеўны!

І Жэнечка, галарукая, зацалаваная вачамі кавалераў, са спакуслівай радзімкай пад цёмным вокам, распешчана-надламаным голасам крычыць:

— Скажыце Уладзіміру Аляксандравічу!.. Ён абяцаў пахадайнічаць...— і яшчэ нешта пра мясцком, у які трэба паведаміць, пра Харкаў, з якога абавязкова, абавязкова паштоўкай...

Другая — сакаўная таўстуха ў шаўковай спадніцы — о, з яе выйдзе вельмі ўтульная гарадская і дачная мамуля, з тых, што з задышкаю адчаю і мноствам мяшочкаў заўсёды спазняюцца, даганяючы трамвай,— другая толькі ківае пышнай бялявай галавой і млява ўсміхаецца.

— Мама, не забывай карміць Туську,— урэшце крычыць і яна.

І ў абедзвюх, нібы п'яныя, бліпчаць вочы. О, бачу, якія пакоі за гэтымі дзяўчатамі — падобныя на музей мэблі, чахлоў, палічак, цацак, што захоўваюць подых старой чыноўнай панскасці, пакоі тысяча дзевяцьсот дзесятага — чатырнаццатага года, шчасліва пранесеныя праз бураломы рэвалюцыі да нашых спакойных дзён. І пасля тых жахлівых гадоў — першы раз, зноў, у Крым, у Крым!

У купэ ўвайшоў вайсковец з нашыўкамі камандзіра палка, мужчына гадоў трыццаці, з нейкім бабскім, абадраным вятрамі, сялянскім тварам, які загадзя ўсміхаўся на ўсё з мяккай нязграбнасцю. Праз паўгадзіны я ўжо ведаў, што яго завуць Рыгор Іваныч і што ён рыхтаваўся ў акадэмію, ды зрэзаўся на агульнаадукацыйных, а цяпер збіраецца зноў — і ўжо вытрымае, абавязкова вытрымае, назло вось гэтым элегантным чамаданчыкам і ўсім мамчыным дачушкам на свеце.

— Таксама на папраўку? — спытаўся ў мяне прыязным тэнарком Рыгор Іваныч, склаўшы на каленях здаравенныя чырвоныя рукі.

— Але, на поўдзень,— адказаў я і падумаў, гледзячы на яго з захапленнем і міжвольнай зайздрасцю: «А табе якая яшчэ папраўка патрэбна?»

І, нібыта ў адказ, ён усміхнуўся мне жахлівай усмешкай кантузіі, якая раптоўна перакрывіла яго барвовыя скулы, той вокамгненнай усмешкай, якую трэба зморгваць набок, як слязу. Праз усмешку прарвалася ноч нейкага бою, апраметная цемра, патаемнае прадчуванне забойства...

«Ага,— падумалася мне са зларадным спакоем,— і ты, ты ведаеш гэта!»

Прыйшла нарэшце нейкая панурая сямейная пара, якую, мяркуючы па яе пакрыўджаным і змарнаваным выглядзе, лёс кідаў чорт ведае куды: то крамнікамі ў Варонеж, то ў касу Лебядзянскага каапературыва, то ў Маскву на чыгунку — і ўсюды пад разарэнне, пад скарачэнне... Прабілі з трыумфам апошнія званкі, і замітусіліся, махаючы хусцінкамі, жанчыны на пероне, ледзь не збітыя з ног шалёным рухам насільшчыкаў,— і вось ужо скача вакол і гудзе дрымучы лес вагонаў, і вось ужо ўкручваемся ў залатую пыльную пустату...

Да сустрэчы, Масква!

Мы з Рыгорам Іванычам прыўсталі, глядзім паўзверх дзявочых галоў у развітальную смугу дахаў, што круцілца пад намі. І раптам бачу скоса, як Рыгор Іваныч злавіў

вачыма радзімку пад Жэнеччынымі вейкамі, разгубіўся і крадзе яе — па-хлапечы, наспех, баязліва крадзе...

— Не варта, Рыгор Іваныч,— хочацца мне сказаць яму.— Там выпешчаныя, незразумелыя табе пакоі, і тонкія пахі, і чуллівыя словы, а ты сарамліва думаеш, як бы ўрэзаць ад гэтай паездкі чырвонец-другі і паслаць у родныя мясціны — перакрыць у старой да зімы хаціну. Дзіўна і сумна ёй будзе, Рыгор Іваныч, ад саматканай тваёй прастаты...

Мы імчымся над нерухомай, соннай цішынёй дачных платформаў і паўстанкаў, імчымся ў дзікую цемру і прахалоду бору, сеючы ўсюды бунт, грукат, пыл.

Паненкі стаміліся, яны ўсаджваюцца адна насупраць адной і, папраўляючы раскудлачаныя ветрам валасы, мімаходзь, абыякава аглядаюць усіх нас. Рыгор Іваныч натхняецца, лезе пад лаўку па чайнік. Хутка Серпухаў.

Рыгор Іваныч імкліва нацэльваецца на прыгожы эмаліраваны чайнік — паненчына ўласнасць.

— Дазвольце і вам... у вашага дзівачка!

Жэнечка ад здзіўлення пазірае на яго запытальна.

— Калі ласка...

На прыпынку шпоры і чайнікі стрымгалоў бразгаюць у калідор. Жэнечка перагінаецца з акна.

— Не спазніцеся! — крычыць яна наўздагон.

Я баюся глянуць — ці не спатыкнуўся там Рыгор Іваныч ад шчасця.

Мы выплываем у засерпухаўскае раздолле; там чырвонае месячнае полымя і замглёная глыбіня, у якой патанаюць цэркаўкі, вёсачкі, туманістая палявая старонка. За чаем Рыгор Іваныч загаворвае з дзяўчатамі ўжо смялей. Ды я не веру перабольшанай Жэнеччынай увазе, не веру яе добрай круглавокай усмешцы. Напэўна, з тым самым пачуццём яна завязвае ў Маскве чырвоную хусцінку на галаву, ідучы на маніфестацыю, ці падатліва-смяшліва какетнічае з камуністам, старшынёй мясцкома... О, гэтая хітруха ўмее абыходзіцца з гаспадарамі. І мы даведваемся, што яны з Сонечкай едуць у Алупку, а пасля па ўсім Паўднёвым беразе Крыма, што яны былі там яшчэ падлеткамі, у чатырнаццатым годзе, тады аб'явілі вайну і была такая паніка, такая паніка.

— А помніш, Сонька, Байдарскія вароты?

— Ах, Байдарскія вароты!..— Бландзінка пакутліва жмурыцца ад захаплення.

— А вы таксама да Севастопаля? — пытаецца Жэнеч-

ка, і ў вачах яе, у голасе непрыхаваная гульня, быццам яна яшчэ там, каля раяля пад махровым цюльпанам абажура. Колькі вачэй патанула ў іх глыбіні?

— Не, у мяне праз Сімферопаль. Гэтыя самыя... Байдарскія вароты я ўжо бачыў! Мы з брыгадай па ўсіх гэтых мясцінах...

Рыгор Іваныч стараецца прыдумаць штосьці незвычайнае.

— Вось, у мяне ўсё запісана, што і дзе нас добрае чакае. Вельмі ці-ка-ва! За Харкавам пойдуць кураняты, можаце есці колькі хочаце, ха-ха-ха! — Рогат у Рыгора Іваныча ласкавы, сіпаты, бабскі нейкі.— А вось за Мелітопалем пойдуць смажаныя бычкі, ну і бычкі, ха-ха-ха!

Яму не сядзіцца, ён аж пеніцца ад радасці, чапляецца да панылых суседзяў, частуючы іх чаем.

Тыя спачатку адмаўляюцца, але пасля вымаюць з кашолак вялізныя паходныя конаўкі і па чарзе нясмела падстаўляюць Рыгору Іванычу. Рыгор Іваныч ліе доўга і цярпліва: пакуль ад напружання ў яго не пачынае балець рука. Але ж і конаўка — што яна, бяздонная? Рыгору Іванычу робіцца сорамна, аднак спыніцца ўжо няма як, і жанчыне, якая сарамліва цягне руку з конаўкай, таксама няёмка; чорныя зубы яе ўсміхаюцца неяк жаласна. Пасля гэтага пачастунку Рыгор Іваныч сядзіць моўчкі, як апляваны: лепей бы яму скрозь зямлю праваліцца.

Прыцемкам улятаем у Тулу, у губернскі вечар, што гулліва мігціць агеньчыкамі; паненкі выходзяць на шпацыр пад ліхтарную прахалоду і павольна прагульваюцца, не гледзячы ў наш бок, нібы зусім чужыя. Рыгор Іваныч пасля тых конавак не адважваецца падысці і самотна кружыць воддаль, тужліва прагнучы жаданага поклічу. А я рады: мае сцены нарэшце распаліся ў гэтую свежую цемру, за кожным вакзалам мне мроіцца бяскрайні горад з тысячамі жыццяў, і кожнае з іх магло б прайсці праз маё. І недзе там, за наступным паваротам, хаваецца ў дымны сум мая Беразняватка.

Жэнечка адзяе цёплую вязаную кофту і ідзе ў калідор, да расчыненага акна. Там стыне ноч, і таямнічая бездань шэпча наўкол, і само па сабе пяецца нешта бязладнае. Вось калі б зазірнуць у яе сапраўдны, поўны дзявочага смутку твар! Ды няма Рыгора Іваныча, бадзяецца недзе, нудзячыся, па чужых купэ. А пад акно па-

дыходзіць малады чалавек з мяккага вагона; ён, добра адзеты, паголены, прыгожы, падымае на Жэнечку бяздонныя ў змроку вочы і ціха напявае — ведаеце гэты спеў пад акном: шумяць дрэвы, і нехта нясе міма вас у ноч свой вясёлы настрой. Бедалага Рыгор Іваныч, якую хвіліну ты прапусціў! Але вось і ён, Рыгор Іваныч, задыханы, пераможна прэцца па калідоры,— відаць, і ўскочыць паспеў толькі на хаду, а пад пахамі ў яго два вялізныя кавуны.

— О цэ добрыя кавуны! — крычыць ён нам, не вытрымлівае, сыпле зноў сіпатым рогатам і, не выпускаючы кавуноў, кідаецца магутным целам на лаўку.

— Грамадзяначка, імя і па бацьку не ведаю! Там вочы запарушыце! Гляньце лепей, якіх я дзівакоў за дзве грыўні адхапіў!

Жэнечка вяла падыходзіць з туманнымі на святле, яшчэ летуценнымі вачамі, круціць галавой: не, не хочацца, і без таго холадна... І зябка моршчыцца.

— Сонька, ты ўжо спаць?

Але ў Рыгору Іванычу прачынаецца цёмнае буянства, ён не здаецца.

— Ды вы зірніце на кавун,— шалее ён і раптам б'е яго з размаху аб калена.

І кавун са смачным краканнем, спела трэскаецца напалам, і з яго прэ рваны пунсовы, цукровы мякіш, які — нажом і Жэнечцы.

— Грамадзяначка!..— І ўсіх нас, быццам шчасцем, надзяляе Рыгор Іваныч.

І Жэнечка не можа не ўзяць, заходзячыся недарэчным смехам, бярэ надзьмутая таўстуха, бяром мы з пахмурнай парай і ядзім прахалоду, што пахне талым веснавым снегам. Рыгор Іваныч, які ўдосталь намаўчаўся, шуміць і заліваецца за пяцярых.

...Цягнік спыняецца. Вакол — скрозь начныя сады.

Я таксама выйшаў на платформу, у зарыва матавабакітных ліхтароў, і знайшоў знаёмую назву станцыі. Тут калісьці ішлі Дзянікін і Мамантаў і грымелі нашы эшалоны. Я стаў спінай да святла, дрымотна прыплюшчыўшы вочы, і паспрабаваў уявіць усё, як было тады: выбітыя шыбы, няроўнае святло лямпы ў зальчыку, дзе на падлозе, лежма, падабраўшы пад сябе вінтоўкі, калмаціцца вашывая салдатня, якую вязуць на Маскву; і равуць, равуць паравозы... Але ж гэта не ўдавалася — холад абдымаў, як рака, у цёмных садах мужна, густа і мо-

лада гуло лісце. Упасці б у траву і спаць пад стэпавы вецер...

Здалёк я пазнаў Рыгора Іваныча. Ён, радасна падскокваючы, бег да вагона, прыціснуўшы да жывата велізарны кавун. Каля прыступак мы ледзь не сутыкнуліся, але ён асцярожна абмінуў мяне і, нахіліўшы галаву, зморгваў, зморгваў пад вагон...

У цёмным купэ ён крануў мяне за плячо.

— Эх, спазніўся — спяць, а кавун які! Можа, даць кавалак? — І шэптам збянтэжана спытаўся: — Як жа мне з ботамі быць, ногі ў мяне смярдзяць...

— Вось глупства,— адказаў я.

Але ён так і лёг пакутнікам, спусціўшы з лаўкі абутыя грузныя ногі.

Я застаўся адзін — цягнік, завываючы, гнаўся па мамантаўскіх слядах. І хмараю паўзло — на дарогі, на гарады, на сны — цёмнае, шчымлівае поле.

Пажоўклыя нівы на безаглядныя сотні вёрст, дзе толькі што, як паводка, адшумеў ураджай; і бандыцкія паўстанкі да поясу ў хмызняку і таполях; на платформах босыя бабы з гладышамі, кавунамі, з вясковым і садовым багаццем, і шчокі ў баб як слівы, і над паўстанкам сонца; і бандыцкія сцежкі, дзе пятлялі нядаўна, ашукваючы чырвоныя знішчальныя атрады, Махно, Шчусь, Хмара... Па дарозе, па шэра-блакітнай пыльнай мякаці валы санліва цягнуць воз з атавай, і дэмабілізаваны хлопец у вылінялай гімнасцёрцы ляжыць на возе пузам уніз, праводзячы цягнік пасалавелымі сытымі вачамі; і ў раўчуках, за весніцамі, куды збягае з даўніх часоў плот з іржавым калючым дротам, густа пайшоў лопух, гусятнік, крапіва — павуцінная цемра ў равах ад травы, і квохчуць куры.

Зарасло, атлусцела, сытасцю завалілася і глухатой...

Зноў у нашым купэ елі кавун і танных куранят пад Харкавам — хоць ужо ні есці, ні глядзець на іх не хацелася; пілі — нават забыліся, колькі разоў,— чай з Рыгора Іванычава «дзівака»; у бландзінкі па ўсіх прыкметах здарыўся запор. А Рыгор Іваныч, як назло, не адставаў ад дзяўчат, бразгаў за імі шпорамі — ахоўваў — і, нічога не падазраючы, падахвоціўся суправаджаць іх да паштовай скрынкі ў Харкаве. А тая паштовая скрынка была прыдумана бландзінкай, каб уволю адседзецца ў вакзальнай прыбіральні, і бландзінка, ледзь не плачучы, пакутліва тупала на пальчыках па пероне, трымаючы

пад руку Жэнечку... а Жэнечка толькі рагатала з абаіх, рагатала і кідала гуллівыя позіркі на вокны мяккага вагона.

І я зларадніча: ага, не паслухаў мяне Рыгор Іваныч! Дый не было яго — за сіпатым рогатам, за шпорамі хіба сапраўдны быў Рыгор Іваныч?..

І вось якраз з гэтай сытасці і глухаты ўлезла ў наша купэ новая сям'я, замест панылай пары, якая непрыкметна знікла ў Харкаве. Сярдзітая мажная жанчына несла груднное дзіця; мужык, гарачым позіркам падобны на цыгана, трымаў за руку дзяўчынку год чатырох. Паперлі кашолкі, мяхі, коўдры — адразу завалiла хламам і дзіцячым плачам усю бландзінчыну пасцель; жанчына, не саромеючыся, расшпіліла гузікі на грудзях і пачала карміць; муж на кожным прыпынку клапатліва бегаў па ежу і кіпень. Мне здалося, што я недзе бачыў гэтага ціхмянага чалавека, які даглядаў сям'ю пакорна, з маўклівай вінаватасцю.

Паненкі крывіліся, перасмыквалі плячамі і хавалі на вуснах нешта з'едлівае. Паненкі былі незадаволеныя.

Ды як жа іначай — на падлогу паляцелі кавуновыя лупіны і мякіш, яшчэ нешта неперажаванае, пад нагамі натапталася слізкая гразь, па якой весела скакала старэйшая дзяўчынка з вялікім кавалкам кавуна ў руках. І гэтая ж дзяўчынка ўхітрылася абярнуць пад тоўстую бландзінку чайнік з кіпнем.

Бландзінка зусім разрумзалася.

— Гэта ж хамства, я не разумею... напаскудзіць, перавярнуць усё ўверх дном, адзежу сапсаваць чалавеку. Я буду скардзіцца!

Жанчына абыякава гушкала дзіця, нават не азірнуўшыся.

— Грамадзянка,— сказаў я, палічыўшы патрэбным заступіцца,— вас аштрафуюць за непарадак. Глядзіце, што вы нарабілі ў купэ!

Яе сярдзітае маўчанне нарэшце прарвалася.

— Ну і няхай аштрафуюць! — крыкнула яна.— У мяне дзеці, бачыце, у мяне дзеці. Ездзілі б у мяккіх, калі вам тут не падабаецца. Панасядуць розныя...

Муж стаяў, абапёршыся аб верхнюю лаўку, і толькі пасмейваўся. Было незразумела, што гэта — дзёрзкасць ці прастата. Я паглядзеў яму ў твар уважліва і сур'ёзна. Ён жа ўсміхаўся ў адказ крыху знаёмай, быццам некалі бачанай усмешкай. Я строга запярэчыў жанчыне:

— Грамадзянка, мы вам не якія-небудзь, а савецкія служачыя. Майце гэта на ўвазе.

— І вы адны занялі ўсю ніжнюю лаўку! — крыкнула зноў скрозь слёзы, падымаючы падмочаныя спадніцы, бландзінка.

Мне зусім не падабалася ўдзельнічаць у лаянцы, якая ўсчыналася ў купэ. Я выйшаў — і не ведаю, колькі гадзін прастаяў на тамбурнай пляцоўцы, каля расчыненага ў прастору акна.

Міма неабсяжнай глушынёй праплывалі палеткі. Ліловыя лініі перавалаў паўзлі за імі ў небакрай, што тлеў белым зарывам. Мроілася армія з нейкай даўняй казкі, яна крочыць па гэтым гарбу ў зару; твары салдатаў ружовыя ад ягчэ нябачнага сонца. Гэта быў першы песенны павеў Беразняваткі, зямлі, якая прыняла трыста таварышаў — я ўсіх іх ведаў у твар. Цягнік мусіў уначы прамчацца над імі сваімі патушанымі спальнямі.

...Уначы здарылася трывога.

На перагоне Сярэбранае — Беразняватка нейкая банда напярэдадні абрабавала скоры поезд. Таму на вузлавой станцыі ў наш поезд села ўзброеная ахова. Праз вагон пранёсся подых забытай навальніцы, павеяла чымсьці з дзевятнаццатага года. Пасажыры купкамі збіраліся ў цьмяных купэ, моладзь смяялася, барадаты грамадзянін у акулярах на верхняй лаўцы хваляваўся:

— А чорт іх ведае, можа, яны ўжо прытаіліся дзе-небудзь і загадзя сабе выглядваюць!

— У цябе, мабыць, грошай многа, што так баішся! — кпіў з яго нейкі вясёлы крываногі хлопец у пузырыстых галіфэ.

У купэ запалілі скупы агарак, жанчына, зноў не падымаючы вачэй, усё калыхала дзіця. Якія цьмяныя, кароценькія засталіся ёй у жыцці вечары! Муж з ранейшай маўклівай паслужлівасцю карміў усіх нанач, слаў пасцелі, бегаў па ваду. Мне стала моташна ад іх.

Ішла прыхмураная, сапраўды бандыцкая ноч. У вагоне паспешліва клаліся — каб забыцца на трывогу, каб хутчэй апынуцца ў сонечным ранні. Самотная бландзінка сярдзіта масцілася на верхняй лаўцы, засланіўшы ёмістымі, мацярынскімі клубамі ўсё купэ. Мне не было з кім сустрэць гэтую ноч.

Трэба было знайсці Рыгора Іваныча. Цягнік імчаўся з гары, мяне вадзіла па калідоры. Дзверы ў тамбуры адлятаўся ад рукі — скрыгат, свіст і холад. Ён быў там, але не

адзін — абое стаялі, нахіліўшыся за акно ў шчаслівай сплеценай цеснаце...

Я спачатку не зразумеў. Пэўна, гэта адбылося таму, што Жэнечка на самай справе баялася бандытаў: ёй патрэбна была цяпер чыясьці шырокая абарончая сіла. Што яшчэ магло штурхнуць яе раптам пад мужыцкае крыло?

— Станцыя будзе далей, я вам пакажу...— гаварыў Рыгор Іваныч, і гэта быў голас зусім не таго Рыгора Іваныча, якога я чакаў.— А я, бачыце, жывы і яшчэ еду на курорт. І, магчыма, гады праз тры зноў буду праязджаць тут, і ўсё будзе ўжо незнаёмае, а я буду ўжо ведаць дзве мовы, вось...

— Раскажыце яшчэ...— ціха папрасіла Жэнечка, а можа, яна сказала нешта іншае, пакорнае, ласкавае: яны мяне не бачылі, і я ціха зачыніў за сабою дзверы...

Не ведаю, чаму агарнула мяне тады невыразная туга: ці таму, што я нічога не ўгадаў і жыццё з лёгкасцю растаптала мае вялыя думкі, ці таму, што мне самому хацелася таксама пераможцам прайсці праз тое жыццё.

І я вярнуўся ў вагон, на свой краёчак лаўкі, і задрамаў; і ўсе спалі, і ціхмяны хлопец спаў насупраць мяне, апусціўшы галаву на жалезную стойку.

Недалёка, пэўна, ужо была Беразняватка. Беразняватка? Значыць, яна ўсё ж такі існавала на зямлі?

...Апоўначы ўзброены кантроль правяраў дакументы.

Мутныя куткі ў купэ напалову патаналі ў снах. Сусед таксама з цяжкасцю прачнуўся, папрасіў у мяне агню і пачаў корпацца ў кішэнях.

— Вось пакуль партыйны білет,— нарэшце сказаў ён,— зараз знайду пашпарт.

Двое каля ліхтара, ледзь не стукаючыся лбамі, агледзелі дакументы.

— Хопіць,— сказалі яны з суровай пачцівасцю.

Мы засталіся адны ў соннай, аднастайнай цішыні. Я адчуў, што вочы насупраць клічуць мяне.

— Таварыш,— сказаў ён раптам напаўголаса, нахіляючыся ўперад,— я хацеў папрасіць прабачэння за нядаўняе, за жонку. Яна крыху таго...— ён дабрадушна засмяяўся,— яна, ведаеце, нервовая, на падпольнай рабоце выматалася.

Я трохі здзівіўся, але паспяшаўся ветліва супакоіць яго, маўляў, усё забылася. Яму, відаць, хацелася пагаварыць, і ён успомніў пра бандытаў. Я сказаў, што добра ведаю гэтыя мясціны — вось тут будзе пад'ём перад Бераз-

няваткай, цягнік пойдзе ў выемцы, самае зручнае месца для нападу. Я быў тут з шостай арміяй, што прарвала Перакоп.

Ён узрадаваўся.

— Ведаю, ведаю, яна потым уступіла ў Крым, а я з тых мясцін родам.

Хлопец назваў некалькі прозвішчаў з штаба дывізіі, з асобага аддзела, некалькі начдываў. Майго прозвішча ён не памятаў.

— А пра мяне вы, мабыць, чулі? Якаўлеў, партызан. Мы злучаліся з шостай арміяй пад Сімферопалем.

Мяне апякло вогненным халадком. Гэта — Якаўлеў? Вядома, помню — неяк у разведроце дывізіі мы з прагнай цікаўнасцю разглядалі фотакартку гэтага несамавітага, звычайнага чалавека, «правадыра» зялёнай арміі, якая гаспадарыла ва ўрангелеўскім тыле. Якаўлеў! Хто з нас не ведаў пра Якаўлева — чалавека, што гуляе з пятлёю, хто не чуў пра легендарны пераход цераз зімовы хрыбет Яйлы, па лядовых сцежках, даступных толькі звярам? Ён помсціў за брата, павешанага ў Севастопалі.

— Цяжэй за ўсё было зімою, але нам удалося ўцячы. Хаваліся ў пячоры каля Байдароў. Вось цяперашняя мая жонка... праз яе мы трымалі сувязь з Севастопальскім камітэтам.

Я слухаў гэтага чалавека з незвычайным хваляваннем: ужо не вагонная ноч, а сама Беразняватка абступала мяне. Ён расказваў яшчэ, што служыў начальнікам міліцыі недзе ў Купянскім павеце, а цяпер пераводзіцца на радзіму, бліжэй да Ялты; што яны з жонкаю знарок едуць праз Сімферопаль і Байдары. Гул цягніка загучаў магутнай і журботнай музыкай. Як скрозь сон чуў — прыходзіў Рыгор Іваныч, крадком знайшоў свой шынель і пайшоў — відаць, апранаў там, каля тамбурнага акна, жаданыя паслухмяныя плечы.

Як скрозь сон набегла з начы нізкая казарма, уся ў бударажных агнях,— і я пазнаў Беразняватку.

Я выбег у пазаплёўваную з дзіравай паліраванай канапай залу; чырвонаармейцы стаялі каля рычагоў тэлефона, усе з вінтоўкамі. У суседнім пакоі салдаты шоргалі нагамі і гулі злавесна, як перад пагромам. Я прайшоў у тэлеграфную: той самы армянін, насаты, падобны на грачаня, тыцкаў пальцам у апарат Юза, знарок тыцкаў перада мной, каб паказаць, што ўся душа вылецела з гэтых касцяных клавішаў.

— Няма сувязі,— сказаў ён.

— І не будзе,— кінуў я,— мы адыходзім.

Я скакаў за батальёнам, які ўцякаў па гарбу гары ад смерці; твары братвы былі панурыя і ружовыя ад сонца, марознага, абыякавага сонца.

— Дзе камендацкая каманда? — спытаўся я.

Начальнікам над ёй быў мой брат. Ніхто не ведаў. Унізе, за плятнямі, адстрэльваліся батальёны, пакінутыя намі ў ахвяру, асуджаныя на смерць. Я праехаў паўз чырвонаармейцаў, што ляжалі жыватамі на зямлі, падобныя на кучы рыззя, яшчэ жывыя, яшчэ ўпартыя — яны пакуль нічога не ведалі. Брат ускочыў з зямлі, падбег да плятня, абхапіў яго рукамі, каб пералезці.

— Аляксей! — крыкнуў я, каб стрымаць яго.— Не туды, Аляксей!

Ён не азірнуўся і застаўся распяты, як быў. Я падбег, зняў з яго шапку: валасы на патыліцы зліпліся ў чырвонай студзіне, глыбока зеўрала дзірка пад імі...

Мы з грукатам пралятаці над магіламі, якіх я ніколі не бачыў, усе спалі пад мяккае калыханне; спаў і я.

Світанне за Перакопам, за Сівашом. Цёплая сівая трава без канца і краю, і птушкі над бязмежным светам — птушкам відаць, пэўна, горы і сіні рай над імі. Каля Джанкоя сонца раптам накідваецца на наш цягнік, сцены станцыі пачынаюць адразу палаць, на асфальтавым пероне глыбокі чорны цень, быццам яго палілі вадой, а ў халадку прадаюць ружы. Мы каля варотаў сіняга раю! І зноў нясе ў сівую стэпавую цеплыню — там вецер, нават раніцы, дзьме ўвесь час з нейкіх спякотных становішчаў, ён прымушае з няясным адчуваннем шчасця звешваць рукі з акна, класціся шчакою на гарачую раму, марыць, спяваць нешта бязладнае... Я з трапятаннем намацваю ў сабе сённяшнюю ноч, прыслухоўваюся, але няма яе, пакуль няма нічога, акрамя імклівага руху наперад, які закалыхвае, супакойвае...

Не веру: выпаўзе яшчэ з нейкай цемры, ляжа на свет недаравальным ценем...

Дзеці прачнуліся, звіняць пад нашымі лаўкамі, у Якаўлевых. Пачынаецца шчабятлівая, лагодная мітусня. Дзесьці ў памяці бледным водгуллем праплывае вобраз кудлатай шпіёнкі з нахабнымі вачамі, ва ўрангелеўскай камендатуры... Пачакайце, пячора яшчэ наперадзе.

— Гэта Чатырдаг,— ахкаюць ззаду дзяўчаты і кідаюцца да акна ў шчырым захапленні, забываючыся, туляцца да мяне сваёй неасцярожнай мяккагрудай цеплынёю. За імі — па-ранішняму румяны, жмурыста-ўсмешлівы твар Рыгора Іваныча.

— Да Сімферопаля далёка? — ціхенька пытаецца ён у мяне.

— Каля гадзіны.

Бедалагу хутка давядзецца развітацца з намі.

На прыпынку таварыш Якаўлеў, камандарм зялёнай, выходзіць паўз латкі з садавінай, купляе поўную шапку вязных ліловых сліў і пакет вінаграду. Пачастунак вылізных ліловых сліў і пакет вінаграду. Пачастунак выкладваецца на гасцінна напяты паміж каленьмі жончын прыпол, з якога ўся сям'я пад'ядае павольна і моўчкі. Тоўстая бландзінка пасля прыбіральні халодзіць усіх пахам адэкалону і круціць люстэркам каля носіка. За яе галавой, за коўдрамі, што звешваюцца на вокны,— узыход нейкай вапнава-блакітнай гары, асляпляльная зямля, Крым. Даўно забыта і пра бандытаў, і пра ноч, у вагоне сонечна і душна, мужчыны расслаблена трасуць на сабе расшпіленыя каўняры: сарваць бы іх зусім.

У Сімферопалі Рыгор Іваныч таямніча знікае. Яго пасцель акуратна ўвязана раменьчыкамі і разам з куфэркам стаіць на краі лаўкі. З калідора мне відаць голая шыя і худзенькія Жэнеччыны плечы ў лёгкай паркалёвай сукенцы, заламаныя над непакорлівай прычоскай тонкія рукі; яна пакрыўджана пярэчыць бландзінцы:

— Сонечка, я добра ведаю, дарагая, што раблю, прашу цябе, без павучанняў!

Рыгор Іваныч вяртаецца аж перад апошнім званком.

— Узяў плацкарту да Севастопаля,— кажа ён з сарамлівай усмешкай.— Трэба ж паглядзець вашы Байдароўскія вароты, што ўжо там за цуд такі.

Бландзінка раўніва і сярдзіта падколвае:

— Ды вы ж іх, здаецца, ужо бачылі?

— Не, то былі другія,— бянтэжыцца Рыгор Іваныч.— Назва вельмі падобная, забыў якая. Другія.

Каменныя цясніны абступаюць цягнік аж да неба. Гарачы святочны полудзень ляжыць дзесьці на іх далёкай травяной, пляската абсечанай вышыні. Тунелі грымяць, як вясёлыя імгненныя ночы, і кожны раз у іх цемры з калідора звініць казытліва-знаёмы дзявочы смех. І на вакзальным пероне, мабыць, ужо б'юць званкі: падыходзіць плацкартны Масква — Севастопаль. Вось ён, сонечны, жа-

даны ў марах канец дарогі! Мы гудзім на ўсе свае жалезныя грудзі і з радасным грукатам кідаемся ў апошнія перонныя нетры.

Зайчыкі зіхацяць на паліраваных дзвярах, на асфальце, у пустэльнай завешанай зале, за якой разяўлена гарыць выхад на вакзальны двор. Там усё апякае гарачынёй і думаецца толькі пра высачэзныя, раскошна-пеністыя прыбоі.

Мы чакаем дванаццацімеснага аўтамабіля Крымкурсо, пасеўшы на сваіх рэчах, як бежанцы. Усюды з рэкламных плакатаў струменіцца Крым, закінутыя ў сінь беласценныя казкі, вечаровы цень палацаў, за якімі мора і пышныя кветнікі, і проста з іх пад'язджаюць аўтамабілі — к вячэрняму цягніку, ссаджваючы загарэлых паспешлівых людзей, з каменным пылам узбярэжжа на шчоках. О, якая шчымлівая нудота — ім жа цяпер у Маскву, назад у Маскву!

Таварыш Якаўлеў, пакуль жонка пераадзявае дзяцей, размаўляе са мной, як даўні знаёмы. Пра службу ў Крыме марыў даўно, тут роднае паветра, малыя падгадуюцца, па міліцыі асаблівага клопату не будзе — якія тут здарэнні! А ім з жонкай даўно трэба заняцца самаадукацыяй.

— Паглядзім сёння вашу пячору,— з прытворнай абыякавасцю кажу я.

Ад таго, як ён зірне і адкажа, пакутліва залежыць нешта маё, асабістае. Хлопец усміхаецца паверх маёй галавы ў неба.

І нічога не гаворыць.

У аўтамабілі нам з бландзінкай выпадаюць пярэднія месцы. Мне б хацелася бачыць усіх перад сабою. Ну нічога, цяпер убачу іх, калі будзе трэба, проста ў твар.

Бландзінка адразу рассыпіста дабрэе і радуецца нават з лысых загарадных узгоркаў.

— Дзівосы, дзівосы,— ляпеча яна; цела яе пышна калышацца ў такт матору.

Мы коцімся вільготнай Балаклаўскай далінай. Над ёй хмарна, сялібы направа — да пояса ў зялёнай імгле міжгор'яў. Гэта там — сіні рай. Па спіралі падымаемся вышэй і вышэй. Шафёр пераключае хуткасць, матор тужліва скрыгоча, быццам і яму дух займае вышыня. Горы падыходзяць усё бліжэй кучарава-сівымі, вапняковымі адхонамі. Вышэй ужо нельга — пад намі толькі паветра і касмыляваты хмызняк, праз які праглядваюць недзе там, у жу-

дasнай глыбіні, цёмныя лагчыны. Зараз мы абрынемся туды.

— А-ах! — дурэючы, крычыць з перапуду Рыгор Іваныч.

Мы падаем у пустату, кусты рвана свішчуць, у грудзях не хапае паветра. Я азіраюся. Жэнечка прыціскаецца да Рыгора Іваныча, сутаргава схапіўшы яго пад руку, бездапаможная, разгубленая, без усіх сваіх пакойчыкаў і мамак. Вочы Рыгора Іваныча сустракаюцца з маімі, яны невідушчыя, шчаслівыя.

Мы адпачываем у Байдарах. Павявае блізкім вечарам, папырскаў невялічкі дождж[ы]к, пасля якога будзе сонца і вецер у соснах, там, наверсе. Прахалода зялёнымі кропелькамі кранула вінаград на прылаўках. Здаецца, што мы едзем бясконца доўга... Магчыма, у сне.

Ага, у сне. Вось цясніна, па якой ішла некалі зялёная армія; яшчэ заварот — і чыесьці вочы патрапяць і ўвап'юцца ў цёмны правал пад соснамі, на зрывістай зялёнай вышыні. Вось ужо збягае наўскос па тым баку гары сіні хмызняк, вось дымок пустаты за краем шашы... І я чакаю — я адчуваю чужую тугу ззаду ў сябе, раптоўную, як нож; я адчуваю, як пераможнае і страшнае святло, што ўпала з мінулага, раптам інакш асвятліла і выявіла ўсё жыццё. Але, магчыма, гэта здалося толькі мне аднаму? Я паварочваю галаву, каб глянуць у памутнелыя твары дваіх, што сядзяць ззаду. Я шукаю іх, але замест гэтага бачу Рыгора Іваныча, страшнага ў мігатлівай сваёй усмешцы, бачу з дзесятак іншых вачэй, якія іскрацца дзіўным вар'яцкім бляскам.

Мы падаем у Байдарскія вароты! Сцены гор расчыняюцца насцеж. Шафёр дурэе і асаджвае машыну аж над самым бяздоннем, над блакітнай, не вытрымлівае сэрца — пустатой. Ні перад намі, ні пад намі нічога няма, апроч неба і дрыготкай урачыстай сіні.

Мора.

У аўтамабілі вішчаць, шэпчуць, шалеюць; бландзінка раней за ўсіх кулём кідаецца на зямлю і дробненька тупае, абамлелая, да прадоння.

— Хараство... Якое хараство!..

Рыгор Іваныч ашалела выхоплівае з кішэні наган і маніць, быццам толькі што бачыў пад абрывам лісіцу.

— Што вы робіце! — крычыць на яго Жэнечка і бяжыць за ім кудысьці ўніз па шашы.

Мне трэба ўбачыць таварышаў Якаўлевых. Чую, як

жанчына пытаецца за маёй спінай у шафёра, ці паспее яна пакарміць дзіця. «Паспееце»,— адказвае ён. А я ніяк не магу адарваць вачэй ад бяздоннага незвычайнага свету. Мора ідзе за неабсяжныя далягляды — так яно ішло ўчора, без нас, і так ішло тысячу гадоў назад, несучы тую самую дзікую, бурлівую цішыню. У зялёнай бездані, пад нашымі нагамі, мрояцца гарады, манастыр Форас небяспечна лепіцца на каменнай іголцы. Бліскае вар'яцкі ластаўчын лёт... І ўсё ж мне трэба ўбачыць іх.

...І бачу клапатліва нахіленую патыліцу жанчыны, яе раскудлачаныя мяккія валасы, што закрываюць шыю. У гарах пахаладнела, на плечы яе абы-як накінута паліто, перашытае з шыняля, паліто, у складках якога засталося дыханне навальнічных, неўміручых гадоў. Якаўлеў стаіць побач і, засунуўшы рукі ў кішэні, глядзіць уважліва на яе грудзі. Яго вейкі леглі шчаслівым паўкругам. Святло і цішыня на іх абліччах.

Я адвярнуўся і гляджу ў бязмежны цуд, створаны жыццём з камення, вечнасці і вады. Таўстуха ў шаўковай спадніцы трывожна пытаецца ва ўсіх, дзе Жэнечка. Але каму якая справа да Жэнечкі? Толькі мне было відаць, як Рыгор Іваныч бег унізе, хмызняком, па краі небяспечнай сіні, і, шчасліва смеючыся, нёс дзяўчыну на сваіх руках.

*1925*

## Барыс Лаўранёў

# СПЕШНЫ ФРАХТ

### 1

У Канстанцінопалі, як толькі «Мэджы Дальтон» аддала якар на сярэдзіне рэйду і спусціла з правага борта ржавы трап, які скрыпеў усімі суставамі, да яго падваліў каік. Турэцкі паштальён, у якога зашмальцаваны хвосцік фескі звісаў на гарбаты потны нос, падняўся па хісткіх прыступках і падаў тэлеграму.

Капітан Джыбінс сам прыняў яе на верхняй пляцоўцы трапа, чыркануў распіску, сунуў паштальёну піястр і накіраваўся ў сваю каюту. Там ён не спяшаючыся натаптаў люльку порцыяй «Navy Gut», распаліў, пыхнуў некалькі разоў рэзкім пахучым дымам і разарваў вузкую блакітную стужачку, што склейвала краі бланка.

Тэлеграма была ад гаспадара, з Нью-Арлеана. Гаспадар паведамляў, што кампанія «Ленсбі, Ленсбі і сын», якая зафрахтавала «Мэджы», настойвае на хутчэйшай пагрузцы ў Адэсе і неадкладным выхадзе назад, таму што прадбачыцца хуткі попыт на ўгнаенні з макухі, па якія ішла «Мэджы» ў далёкую Расію.

Капітан прыўзняў плечы, пыхнуў асабліва густым клубам дыму, перакінуў люльку ў другі куток рота і працадзіў скрозь сціснутыя губы павольнае:

— Goddam! [1]

Ён успомніў, што гаспадар, пашкадаваўшы два лішнія цэнты за тону, набіў вугальныя ямы парахода такім панельным смеццем, што пры пераходзе цераз Атлантыку «Мэджы» ледзь паўзла супраць хваляў і ветру і ледзь трымала мінімальны ціск пары.

Пры такім становішчы разлічваць на хуткасць нельга, але загад быў атрыманы, капітан звычайна выконваў загады і, пазваніўшы сцюарду, загадаў паклікаць старшага механіка О'Хідзі.

Праз хвіліну дзверы ў каюту расчыніліся і прасуну-

[1] Чорт вазьмі!

лася стрыжаная «пад вожык» рыжая галава, агледзела каюту і капітана дабрадушнымі васількавымі вачыма і ўцягнула за сабой згорбленае тулава ў футбольным світэры і купальных трусах.

— Чаго вам уздумалася трывожыць мяне, Фрэд? — спыталася галава лянівым голасам.— Я здыхаю ў гэтым праклятым клімаце і не вылажу з ванны. Як толькі мы вернемся дамоў, я запатрабую ў гаспадара пераводу на якую-небудзь паўночную лінію.— О'Хідзі падцягнуў трусы на ўпалым жываце і дадаў: — Калі маеш няшчасце нарадзіцца ў Клaндайку і праседзець паўжыцця ў футравым мяшку, цяжка прымірыцца з гэтай дзікай тэмпературай.

— Тады я ўсцешу вас,— адказаў капітан,— я разлічваў прастаяць тут да нядзелі, каб даць камандзе магчымасць прагуляць грошы ў галоцкіх прытонах і падмазаць фарбай барты перад Адэсай, але вось тэлеграма гаспадара... Падганяе! Значыць, трэба здымацца пад вечар. Адэса — не Аляска, але ўсё ж у ёй халадней.

— Адкуль такая паспешнасць? — спытаўся О'Хідзі, набіваючы сваю люльку капітанскім тытунём.

— Ленсбі хочуць хутчэй атрымаць макуху. Рынак просіць.

Механік у роздуме паляпаў далонямі па голым калене.

— А ці вядома вам, Фрэд, што ў Адэсе нам давядзецца затрымацца, каб пачысціць катлы? — сказаў ён з раўнадушнай злараднасцю.

З твару капітана Джыбінса на момант знікла маска абыякавасці і змянілася чымсьці падобным на зацікаўленасць. Ён дастаў люльку з рота.

— Гэта яшчэ што? Мы правялі генеральную чыстку ў папярэднім рэйсе. Чаму зноў распачынаць мазню, калі нас просяць паспяшацца?

О'Хідзі плюнуў у попельніцу і ўхмыльнуўся:

— Можна падумаць, што вас яшчэ не распавіла нянька, такія наіўныя пытанні задаяце. Вы бачылі вугаль, якім мы палім?

— Бачыў,— суха адказаў капітан.

— Пра што вы тады пытаецеся? Сумесь такой якасці можна знайсці толькі ў прамой кішцы бегемота. З-за нагару палова труб ужо не цягне. Без добрай чысткі мы не дойдзем назад, асабліва з грузам.

— Гэта немагчыма. Мы можам пазбавіцца прэміі. Кан-

чайце валтузню як мага хутчэй. Нам нельга траціць ніводнай хвіліны.

— Паспрабую. На шчасце, у Адэсе ёсць містэр Бікаф. За грошы ён зробіць немагчымае.

Капітан быў задаволены адказам, і зноў мускулы ў яго на твары застылі ў спакойнай абыякавасці.

— Добра! Спадзяюся на вас. Толькі папярэдзьце каманду, каб а шостай вечара ўсе былі на месцы. Калі хто-небудзь спозніцца — чакаць не будзем. Няхай жабруюць у Галаце, пакуль мы будзем ісці назад. Трэба выйсці ў Чорнае мора да захаду сонца, перш чым праклятыя туркі выстраляць са сваёй сігнальнай гарматы. Інакш давядзецца чакаць раніцы.

— Добра! — адказаў механік.— Будзе зроблена.

## 2

«Мэджы Дальтон» прайшла вузкія вароты Басфора на захадзе сонца, калі грабяні хваляў блішчалі ружовым золатам, і, рэзка павярнуўшы, узяла курс на поўнач.

Капітан Джыбінс стаяў на мосціку, насунуўшы на лоб сінюю шапку з галунамі і засунуўшы рукі ў кішэні.

Па марскіх дарогах свету ў час, калі хвалі блішчаць ружовым золатам, праходзяць тысячы параходаў. Старыя, залізаныя салёнымі пацалункамі ўсіх мораў і акіянаў грузавозы і транспарты, хуткія стымеры і цудоўныя шасціпавярховыя трансатлантычныя пасажырскія гіганты, перад фарштэўнямі якіх з панурым гулам расступаецца вада, пераможаная іх агромністасцю. Удзень і ўначы, пад мігатлівай павуцінай зорных сетак, перасякаюць яны марскія шляхі, узіраючыся ў сусветную цемрадзь каляровымі агеньчыкамі электрычных вачэй.

Іх рухае і гоніць праз зялёную бездань воля банкаў, кантор і параходных кампаній, бязлітасная дзелавая воля капітана, якая не дае надзеі на спагаду.

На блакітным марыве марскога гарызонта вырастаюць міражы казачных краін. У казачных краінах чакаюць горы патрэбнага банкам і канторам грузу. Пад лаянку і свіст бізуноў жоўтыя, карычневыя, чорныя рабы грузяць у пустыя жалезныя чэравы параходаў матэрыю і вострыя прыправы, бавоўну і руду, садавіну і гародніну, каўчук, здабытыя, вырашчаныя і парыхтаваныя такімі самымі рабамі пад такі самы свіст бізуноў. Пад грукат лябёдак ту-

лавы параходаў асядаюць у шкляную глыбіню, пакуль вада не закрые рысу грузавой ватэрлініі.

Скрозь туманы і хвалі, скрозь зорныя сеткі і раз'юшаны лямант ураганаў параходы беражліва нясуць сваю ношу ў далёкія порты, каб не пераставала кіпець сухая, таямнічая работа, ляскат лічыльнікаў на неспакойных вуліцах, за люстраным шклом, прыкрытым зялёнымі шаўковымі фіранкамі. За гэтымі фіранкамі царства прагнасці.

Лямпы, што звісаюць на шнурах, раскідаюць струмені роўнага мёртвага ззяння на высокія канторкі, на лысіны, на зямлістыя твары ў акулярах, схіленыя над гросбухамі і рэсконтра. Уладальнікі гэтых твараў таксама лютыя і сухія, як папера канторскіх кніг, і, калі яны варушаць губамі, здаецца, што губы шалясцяць, быццам старонкі, якія яны гартаюць. На паперы растуць слупкі і калонкі лічбаў. Яны кіруюць лёсам грузаў, цюкі якіх захутаны ў шаўкавістую навобмацак тканіну, ад якой ідзе прывабны водар казачных краін, што квітнеюць за блакітным марывам гарызонтаў.

Людзі банкаў і кантор не чуюць гэтага водару. Яны ведаюць адзіны водар хрусткіх каляровых паперак, на якіх сумнымі ўзорамі кладуцца лічбы і кароткія словы на ўсіх мовах зямлі.

Людзі банкаў і канторператвараюць запісаныя імі на старонках кніг грузы ў каляровыя паперкі і звонкія металічныя кружочкі. Яны спяшаюцца закончыць гэта чароўнае ператварэнне, каб лічбы, якія штодзённа піша крэйдай на чорнай дошцы біржы бясстрасная рука маклера, заставаліся на спакойным узроўні дастатку.

І зноў, падначальваючыся кароткім, як гаўканне, загадам прагнасці, машыны параходаў напружваюць стальныя мускулы, гнуць аблітыя змазачным маслам калені і локці рычагоў, трубы плююць у свежае акіянскае неба атручанай сажай, хутчэй ракочуць вінты, і капітаны часцей пытаюць у вахценных пра паказанні лага.

Капітаны вопытныя і спакойныя, як капітан Джыбінс. Раўнадушна стаяць яны на мосціках, насунуўшы сінія з галунамі шапкі і засунуўшы рукі ў кішэні. Прыжмуранымі вачыма яны бачаць нябачны іншым шлях, што вядзе паміж сівога ашмоцця пены.

Капітану Джыбінсу добра відаць шлях ад плоскіх зялёных берагоў Нью-Арлеана да ярка-жоўтых рыхлых скалаў адэскага прымор'я. І яму таксама вядомы шлях ператварэння яго грузу ў каляровыя паперкі і металічныя

кружочкі, частка якіх ідзе на аплату працы капітана і матросаў. Капітан адкладвае вялікую долю гэтых паперак для забеспячэння сваёй сям'і на чорны дзень. Матросы, якім няма чаго адкладваць, прапіваюць свае грошы ў прыступах раз'юшанай тугі ў партовых шынках з нікчэмнымі размаляванымі дзеўкамі. Грошы, зрабіўшы пэўны кругазварот, вяртаюцца ў банкі, праходзяць на старонках кніг і ператвараюцца ў новыя грузы.

Параходы прымаюць іх у трумы і зноў ідуць марскімі шляхамі, каварнымі і небяспечнымі, поўнымі нечаканасцей, якія пагражаюць і капітану і матросам пагібеллю ці стратай работы. Апошняе страшней за смерць.

Таму ноччу капітан Джыбінс тройчы выходзіў на палубу, захутваючыся ў кароткае непрамакальнае паліто, і пытаўся ў вахценнага пра паказанні меднай вяртушкі, якая меланхалічна адзвоньвала на карме над успененымі хвалямі.

## 3

За пераездам праз рэйкавыя пуці, звітыя змяіным клубком пад драўлянымі пралётамі эстакады, залеглі па крутой вуліцы нізкія дамы з наздраватых закураных камянёў. Удзень і ўночы іх абдаюць грукатам і сажай цагельна-чырвоныя цягнікі, якія праходзяць бясконца, адзін за адным, прымаючы і падаючы грузы да прычалаў з вапнавых пліт, аб якія, шапочучы, трэцца мутна-зялёная вада.

Над дзвярыма аднаго з дамоў залатыя абшарпаныя літары: «Кантора па рамонце і чыстцы параходных катлоў П. К. Быкава».

У канторы за пісьмовым сталом сам Проў Кір'якавіч Быкаў. Ён адзін абслугоўвае сваё прадпрыемства і з самай раніцы да вечара нерухома сядзіць у шырокім крэсле. Акрамя яго, у канторы нікога, калі не лічыць двух партрэтаў: імператара і самадзержца ўсерасійскага Мікалая II і святога Іаана Кранштацкага.

На партрэце самадзержца дзве дзіркі. Здарылася гэта два гады таму назад, у дні, калі прыходзіць у Адэскі порт браняносец «Пацёмкін». Прастаяўшы двое сутак у порце, нагнаўшы шмат страху на ўлады, чым выклікаў у горадзе магутную ўспышку рэвалюцыйнай буры, браняносец узяў кірунак на поўдзень. Апамятаўшыся ад панікі, сатрапы залілі Адэсу крывёю барыкадных змагароў і мірнага

насельніцтва, а раз'юшаныя чарнасоценцы арганізавалі крывавы звярыны пагром. Тады ў кантору да Прова Кір'якавіча ўварваліся грамілы і п'яная басота, пачалі прасіць царскі партрэт, каб пагуляць уволю па вуліцах пад прыкрыццём уладара. Цар павінен быў узаконьваць сваім лікам разню і грабеж.

Але атрымалася інакш. Пагром прыняў такі размах, што пагражаў перакінуцца з раёнаў гарадской галоты ў багатыя кварталы і захапіць не толькі яўрэйскія дамы. Напалоханыя другі раз, мясцовыя ўлады аддалі загад усімі мерамі спыніць пагром, і, ледзь толькі ашалелая зграя адышла ад канторы за вугал, жалезна ляснулі тры залпы. Проў Кір'якавіч бачыў, як каля вокнаў пранесліся ашалелыя пагромшчыкі і адзін з іх кінуў партрэт на брук.

Калі праскакалі драгуны і ўсё сціхла, Проў Кір'якавіч выпаўз, як барсук з нары, і ўнёс партрэт назад. Шкло высыпалася з рамы, а самадзержац быў знявечаны дзвюма кулямі. Адна разарвала вуха, другая ўлезла ў ноздру. Двое невядомых стралкоў, відаць, зашчэмленыя ў цісکі дысцыпліны, адвялі душу хоць на царскім партрэце.

Проў Кір'якавіч цяжка ўздыхнуў. Трэба было купляць новы партрэт, але не хацелася траціцца, і, прыгледзеўшыся, ён вырашыў, што справу можна паправіць. Дзірку ў ноздры не заляпляў — усё роўна і па прыродзе там дзірка, а вуха заклеіў паперкай і падчарніў алоўкам.

Так і павіс самадзержац глытаць канторскі пыл адной натуральнай ноздрай. А быкаўскія хлапчукі-катласкробы, што заўсёды таўкліся ў двары канторы, падгледзелі ў акенца і далі мянушку партрэту «Міколка Рваная Ноздра».

Справа ў Прова Кір'якавіча вялікая, вядомая ўсім у порце. Прыходзяць у Адэскі порт ва ўсе поры года сотні параходаў з розных дзівосных мясцін. У каторага на карме назва і партовая адзнака напісаны на такой мове, што нават студэнт-філолаг Моцька Хлюп, які спіўся і ходзіць зіму ў заматаных на ногі лямцавых татарскіх капелюшах замест чаравікаў, і той прачытаць не зможа.

Доўга ходзяць параходы па марскіх дарогах, і засмечваюцца ў іх ад нагару і сажы дымаходныя і кацельныя трубы. Каб адправіцца далей, трэба параходу палячыць свой страўнік, прачысціць жалезныя кішкі, саскрэбці з іх усю нагараную брыдоту. У док з-за такой дробязі заходзіць няма патрэбы, чысцяць на плыву, тут вось і прыходзіць на дапамогу хворым параходам кацельны лекар Проў Кір'якавіч.

Для гэтага ў яго цэлая рота хлапчукоў.

Вузеюць трубы ад нагару і накіпу, даросламу чалавеку ніяк не адолець, а хлапчуку на першым дзесятку сама раз. Слізгане ўюном у хворы комін і лезе з аднаго канца ў другі ў цеснаце, духаце і гарэлым смуродзе з стальной скрэбалкай, а дзе трэба — і зубілам, адбівае тоўстыя плеўкі нагару і накіпу з металу.

Проў Кір'якавіч набірае сваіх хлапчукоў з самых бедных логаваў горада — з Перасыпу, Блізкіх і Далёкіх Млыноў, з Малдаванкі. Толькі там можна знайсці ахвотнікаў пакутаваць цэлы дзень за пяць алтынаў, на сваіх харчах.

Прыходзяць да дзвярэй быкаўскай канторы механікі хворых суднаў усіх нацый. Быкаў прымае заказы, запісваючы іх каракулямі ў гандлёвую кнігу. Цяжка яму пісаць, грамаце навучыўся з цяжкасцю. Выводзячы літары, сапе ад стараннасці, размазвае чарніла па паперы касматай барадой Карла Чарнамора. А прыняўшы заказ, адчыняе фортку на двор і крычыць на ўсё горла:

— Сенька, Мішка, Пашка, Алёшка!.. Гайда, байструкі, на працу! Не марудзіць! Жыв-а-а!

## 4

О'Хідзі ў новенькім часучовым касцюме і бліскучых аранжавых чаравіках, трымаючы ў руцэ трысцінку з чароту, спусціўся па шырокай адэскай лесвіцы з бульвара, дзе знішчыў цэлую гару марожанага, і паплёўся па бруднай, засыпанай вугальным шлакам вуліцы, у супраўджэнні камісіянера Лейзара Цвібеля.

Лейзара ведалі ўсе капітаны і механікі, якія хоць адзін раз пабывалі ў Адэскім порце. Ён выконваў усялякія даручэнні, пачынаючы з нечарговага ўваходу ў док акіянскіх гігантаў і да пастаўкі маракам, якія разгуляліся на цвёрдай зямлі, бесклапотных і непераборлівых сяброўак на хвіліну.

Лейзар валодаў многімі мовамі, бо гэта патрэбна было партоваму камісіянеру ў межах названых абавязкаў. Усе мовы ён страшэнна каверкаў, але ўсё ж ухітраўся прымушаць разумець сябе і быў для марскіх людзей, якія губляліся на вуліцах гэтага горада, выратавальнай ніткай Арыядны, што выводзіць з заблытанага лабірынту. Толькі часам, калі Лейзар бываў усхваляваны, ён пускаў усе мовы ў ход адразу, і тады зразумець яго было зусім немагчыма.

Цяпер Лейзар праводзіў О'Хідзі ў кантору Прова Кір'якавіча. Механік знайшоў бы дарогу і сам, ён не першы раз у сваім вандроўным жыцці шліфаваў сінія пліты лавы на адэскіх тратуарах, але весці размову з Быкавым самастойна не здолеў бы. Проў Кір'якавіч ведаў па-англійску толькі матроскую лаянку, О'Хідзі мог вымавіць толькі тры патрэбныя, як хлеб, рускія фразы: «Здрастэй», «Как жыв'ёш» і «Ты красівэй дзевуш, я л'юблю цібэ». Але для дзелавых перагавораў гэтага было мала.

Проў Кір'якавіч прыпадняўся перад механікам і падаў пухлую, у чорных валасках лапу з кароткімі пальцамі. О'Хідзі энергічна трасянуў яе. Лейзар хутка і з асцярожнасцю дакрануўся да кончыкаў быкаўскіх каратышак.

— Як сабе жывяце, Проў Кір'якавіч? — спытаўся ён, ласкава ўсміхаючыся трывожнай, насцярожанай усмешкай палахлівага і забітага чалавека.

— Жывём памаленьку. А ты як, ерусалімская курыца?

— Вой, што значыць курыца? Калі б я быў на самай справе курыцай, дык я кожны дзень насіў бы дамоў па зярнятку і карміў бы дзетак. А то я не курыца, а нават і сорам сказаць... пфэ... Вось, можа, сёння зараблю, таму што прывёў вам кліента... Вой, якога кліента, каб ён доўга жыў. Ён мне дасць трохі, і вы таксама дасце беднаму яўрэю.

— А якая работа? — пацікавіўся Быкаў, разгортваючы кнігу заказаў.

— Вой, што за пытанне? Царская работа, каб ёй лёгкаікалася. Трэба вычысціць містэру катлы за два дні, таму што містэру трэба спяшацца ў сваю Амерыку і ў яго такі спешны фрахт, якога ў мяне ніколі не будзе.

— Два дні? За два дні і заплаціць давядзецца як за два дні,— сумна адгукнуўся Быкаў.

— А я што, не тое кажу? Што містэр стаіць? Ён жа намнога багацейшы за старога Лейзара? Ён згодны плаціць.

— Згодзен дык згодзен. Скажы яму, колькі будзе каштаваць...

Быкаў пацёр нос і назваў зусім нечаканую лічбу. Цвібель скалануўся і пабялеў.

— Вой-вой! — прашаптаў ён.— Гэта ж дзікая цана. Я ж не магу і вымавіць такую!

— А не хочуць— не трэба,— адказаў, не мяняючы тону, Быкаў,— час кіпучы, кліентаў хапае. Не ён — другі знойдзецца.

Лейзар развёў рукамі і збянтэжана паўтарыў механіку лічбу па-англійску. О'Хідзі нават не зморшчыўся і адказаў коратка: «Very well!» [1], дадаў, калі ж работа не будзе закончана за двое сутак, то за кожны дзень пратэрміноўкі з Быкава будзе ўтрымлівацца дваццаць пяць працэнтаў.

— Няхай,— сказаў Быкаў, запісваючы заказ,— нічога яны не ўтрымаюць, бо зраблю ў тэрмін, калі бяруся.

Механік паклаў на стол задатак, узяў распіску і кінуў Цвібелю пяць долараў за камісію. Пацісnуўшы яшчэ раз руку Быкаву, ён выйшаў з канторы, пакінуўшы Цвібеля дамовіцца ў дэталях.

На тратуары ён спыніўся, звярнуў увагу на крыкі і смех.

Пяцёра мурзатых, абадраных хлапчукоў гулялі на бруку ў класы, кідаючы біты і скачучы за імі на адной назе. О'Хідзі ніколі не бачыў гэтай гульні і глядзеў з цікавасцю.

Адзін з хлапчукоў, маленькі і віхрасты, скакаў спрытней за ўсіх і з запалам смяяўся, радуючыся, што яму шанцуе. Выкінуўшы спрытным бакавым узмахам ступака біткy з акрэсленага крэйдай квадрата, ён падняў галаву і ўбачыў механіка. Губы яго расцягнуліся ва ўсмешцы, адкрыўшы два бліскучыя рады малочна-белых зубоў. Ён падбег да О'Хідзі, падаючы маленькую лапку, ад сажы падобную на лапку малпы, і закрычаў, падскокваючы:

— Капітэн, капітэн! Гіф мі шылінг іф ю пліз, каб ты скіс. Гуд бай! Хаў ду ю ду? [2]

О'Хідзі выскаліўся. Рускіх слоў, уціснутых хлапчуком у англійскую фразу, ён не зразумеў, але ўспомніў такіх самых вясёлых чарцянят на прыстанях Нью-Арлеана і адчуў цёплае дыханне роднага ветру.

Рука яго сама палезла ў кішэню і паклала ў выстаўленую лапку бліскучы долар. Манета маланкай знікла ў хлапчука за шчакой, ён перакуліўся, стаў на рукі і, пастукаўшы босай пяткай аб пятку, крыкнуў: «Гіп-гіп, ура!»

О'Хідзі засмяяўся яшчэ ласкавей. Паляпаў хлапчука, які стаў на ногі, па шчацэ, падзівіўся з яго моцных зубоў, як у драпежнага звярка, і сказаў адну са сваіх выратавальных фраз:

— Здрастэй, как жыв'ёш?

---

[1] Выдатна!

[2] Капітан, дайце мне, калі ласка, шылінг... Бывайце здаровы! Як пажываеце? *(англ.)*

Хлапчукі зарагаталі, і адзін, плюнуўшы, з захапленнем сказаў:

— Бач ты! Па-нашаму ведае, сабачая морда!

О'Хідзі хацеў сказаць яшчэ што-небудзь, але прызнанне ў каханні прыгожай дзяўчыне яўна не падыходзіла да абставін, і ён бездапаможна крэкнуў.

З нязручнага становішча яго выручыў трубны голас Быкава з ганка:

— Пецька!.. Санька!.. Пацук!.. На работу!

О'Хідзі ветліва зняў шапку, развітаўся з хлапчукамі і пайшоў у порт.

## 5

Сярод быкаўскіх катласкробаў быў славуты на ўсё Чарнамор'е адзінаццацігадовы Міцька, па мянушцы «Пацук», той самы, які выманіў у О'Хідзі новенькі долар і чыя белазубая ўсмешка так спадабалася механіку.

Ніхто не ведаў, адкуль Міцька, чый ён, як яго прозвішча. Проў Кір'якавіч знайшоў яго ледзь жывога два гады таму назад, у гарачцы, восеньскай ноччу пад эстакадай і, выхадзіўшы і адкарміўшы, кінуў яго ў справу.

Астатнія хлапчукі мелі сем'і, былі дзецьмі адэскай беднаты, грузчыкаў і каталяў, у Міцькі ж у Адэсе і на тысячы вёрст вакол нікога не было. З усяго, што пашанцавала даведацца ад яго, была адна падрабязнасць, што ў мамкі была сіняя спадніца. Але на свеце шмат сініх спадніц, і з такой прыкметай Міцька меў мала шанцаў знайсці мамку, якая знікла, кінуўшы яго ў порце.

Затраты Прова Кір'якавіча на Міцьку не прапалі марна. Для канторы ён стаў залатым скарбам. Худое, тонкае цела гнулася і скручвалася ў такія клубкі, што ў звычайнага чалавека паламаліся б косці і мускулы. А ў справе Прова Кір'якавіча гнуткасць была галоўнай якасцю. Там, дзе дрэйфілі іншыя хлопцы, у ход ішоў Міцька. Ён вужом пралазіў у самыя вузкія трубы, запаўзаў у такія патаемныя закуткі, куды нельга было дабрацца ніякімі спосабамі без разборкі механізмаў. Аднойчы ён умудрыўся пралезці праз вінтавую трубу помпы-рэфрыжэратара, якая вілася спіраллю ўдава з поўнымі абаротамі праз кожныя паўтара метра. Гэты фокус праславіў яго імя ва ўсім порце, і канкурэнты Быкава не раз прапаноўвалі Міцьку двайную плату, каб пераманіць яго. Але ў Міцькі, які памятаў толькі колер мамчынай спадніцы, быў свой рыцарскі ко-

дэкс. Ён зняважліва хмыкаў вострым носікам, за які разам са сваёй нечалавечай гнуткасцю і атрымаў мянушку Пацук, і адказваў сурова і злосна:

— Значыць, міне перад хузяінам захудчэ блатнога сволача стаць? Ён міне адкарміў, адпаіў, а я яму дулю ў нос тыцнуў? Міне ў яго харашо!

Канкурэнты лаяліся і адыходзілі ні з чым. Была нават спроба ліквідаваць Пацука, дзеля чаго падбухторылі дзесятак хлапчукоў «зрабіць Міцьку цёмную», але гэтую бойку своечасова заўважылі матросы з «Чыхачова» і паспелі адбіць акрываўленага хлопчыка.

Так Пацук і застаўся ў Быкава, зберагаючы вернасць свайму першаму гаспадару, і Проў Кір'якавіч, які часта лупцаваў хлапчукоў чым папала, ніколі не чапаў Міцькі. Не таму, што яму было шкада Міцькі, а з боязні пашкодзіць такі дарагі дар.

І цяпер, атрымаўшы заказ на спешную чыстку катлоў «Мэджы», заказ выгадны і добра аплочаны, ён вырашыў паслаць на працу Міцьку, ведаючы, што ён адзін зробіць за дзесяцярых. Быкаў выдаў хлапчукам скрабкі, зубілы і малаткі і адпусціў іх разам з Лейзарам. Той павінен быў паказаць стаянку парахода.

О'Хідзі, вярнуўшыся на карабель, з'явіўся ў каюту Джыбінса.

— Свінства! — сказаў ён, заходзячы і выціраючы лоб.— Сёлета і ў Адэсе не халадней, чым у тропіках. З мяне выцяклі ўсе сокі. Дайце глынуць хоць нашага анафемскага чэры.

— Валяйце! — Джыбінс наліў шклянку.— Як справы з катламі?

— Дамовіліся! Містэр Бікаф бярэцца зрабіць за двое сутак.

— Ол райт! Ёсць новая тэлеграма ад гаспадара. Ленсбі згодзен падвоіць прэмію, калі мы скароцім дарогу назад яшчэ на двое сутак. Мы разбагацеем, Дзікі. Я змагу пакласці ў банк сёе-тое маім дзецям.

Механік адразу выпіў шклянку.

— Мне што! У мяне дзяцей няма... Але я вам спачуваю, Фрэд. А цяпер пайду і палезу ў купальны касцюм. Інакш зварусь, як рак.

О'Хідзі пайшоў. Джыбінс падышоў да ложка. Над ім на сцяне вісела фатаграфія поўнай пышнавалосай жанчыны з двума малымі на руках. Капітан, уздыхнуўшы, распластаўся на ложку і задрамаў.

## 6

О'Хідзі толькі што скончыў абліванца вадой, калі дзверы ў каюту адчыніў качагар у прамасленым камбінезоне.

— Сэр! З берага прыйшлі чысціць катлы.

— Спусціце іх у качагарку. Я хутка прыйду.

Ён выцерся, нацягнуў трусы, павесіў ручнік і, прайшоўшы па палубе да машыннага люка, лёгка спусціўся па звонкім металічным трапе ў качагарку.

Хлапчукі нацягнулі на сябе цвёрдыя брызентавыя мяшкі без рукавоў, каб не параніць цела пры поўзанні па трубах.

Лейзар Цвібель ветліва пакланіўся механіку.

— Яны зараз пачнуць. Яны такія спрытныя хлапчукі. Будзьце спакойныя.

Адзін з хлапчукоў павярнуўся на голас Цвібеля і нават у змроку качагаркі асляпіў фарфоравым бляскам зубоў. Механік пазнаў таго, каму даў долар.

Ён падміргнуў хлопчыку і зноў сказаў:

— Здрастэй, как жыв'ёш?

— Закаўкала сарока пра Якава,— усміхнуўся Міцька,— сказана, жыву добра. Ты не дрэйф, дзядзечка, раз узяліся — вычысцім. Ну, хлопцы, гайда!

Ён запхнуў зубіла і малаток у вонкавую кішэню ў мяшку, узяў у рукі скрабок і яшчэ раз усміхнуўся механіку. Потым уперад галавой палез у трубу. О'Хідзі, прасачыўшы, як астатнія катласкробы таксама схаваліся ў трубах, павярнуўся да Цвібеля і ласкава запрасіў яго выпіць кавы. Задаволены такой ветлівасцю, Цвібель папоўз за механікам па трапе наверх, высока падымаючы ногі ў дзіравых шкарпэтках, трымаючыся за поручні.

У прыбранай каюце амерыканца ён піў салодкую каву з кексам і нават рызыкнуў выпіць шкалік лікёру. Пасля гэтага шкаліка ён адразу засумаваў. Яму ўспомнілася яго нікчэмная бярлога на Малдаванцы, дзе сядзіць вечна галодная Рахіль з дзевяццю галоднымі дзеткамі. Успомнілася, што непадалёк ад бярлогі ёсць паліцэйскі ўчастак, а ў ім пан прыстаў і што пану прыставу трэба кожны месяц несці дзесяць рублёў, каб пан прыстаў быў паблажлівы да Лейзара. І што трэба яшчэ несці пяць рублёў пану акалотачнаму. І тры рублі пану гарадавому. І ад гэтых думак Цвібелю стала так цяжка, што ён, забыўшыся, пачаў, каверкаючы словы, расказваць механіку пра свае няшчасці. Амерыканец слухаў ветліва, але, відаць, яму было

сумна. Лейзар заўважыў гэта, засаромеўся, заспяшаўся і ўстаў, каб развітацца.

Але дзверы ў каюту расчыніліся, і на парозе з'явіўся той самы качагар.

— Прабачце, сэр... Неадкладна спусціцеся ўніз.

— Чаго? — з яўным незадавальненнем спытаўся О'Хідзі.

— Там непрыемнасць. Адзін з хлапчукоў засеў у трубе і не можа выбрацца.

— Што?.. Damn! [1] — вылаяўся механік і выскачыў з каюты.

У качагарцы ён застаў машыністаў, качагараў і бакаўскіх хлопчыкаў. Усе яны стоўпіліся вакол жэрала трубы.

— У чым справа? — сярдзіта спытаўся О'Хідзі.— Чаму сабраліся? Як гэта здарылася?

— Хлопчык быў ужо глыбока ў трубе,— не спяшаючыся тлумачыў старшы машыніст,— і раптам пачаў крычаць. Мы збегліся, але не зразумелі, чаго ён крычаў. Цяпер ён плача. Відаць, засеў і не можа варухнуцца.

— Вой, што такое? — закрычаў Лейзар, споўзшы ўніз услед за О'Хідзі.— Хлопчыкі, скажыце мне, што гэта такое?

— Міцька ў трубе засеў.

— Залез, а вылезці не можа.

— Плача.

— Выцягваць трэба,— загаманілі катласкробы на розныя галасы.

Лейзар нагнуў галаву ў трубу і, пачуўшы ціхае ўсхліпванне, усхвалявана спытаў:

— Пацук!.. І што гэта значыць? Што з табой зрабілася, каб табе адсохлі пячонкі, калі ты так выстаўляеш на смех мяне і гаспадара?

Тонкі перарывісты плач Пацука глуха адгукнуўся з трубы:

— Сам разумець не магу, Лейзар Абрамавіч... Я, далібог, не вінаваты. Лез па ёй, як заўсёды, а тут рука падвярнулася пад пуза... Ніяк выдраць не магу... Баліць! — І Міцька зноў заплакаў.

Лейзар пляснуў рукамі.

— Яна падвярнулася!.. Вы бачылі такія штукі? І як яна магла падвярнуцца, калі ты такія атрымліваеш гро-

[1] Чорт!

шы, каб яна не падварочвалася. Вылазь, каб табе ў рот нічога не лезла, цудрэйтар! [1]

У трубе зашоргала і застагнала.

— Ой, не магу... Ой, костка трашчыць,— данёсся адтуль голас.

Лейзар замітусіўся.

— Ты хочаш мяне загубіць, паршывец? — закрычаў ён у трубу.— Дык ты лепш вылазь, а то як скажу Прову Кір'якавічу, ён табе вушы адарве.

— Не магу!

— Га?.. Ён не можа... Вы такое чулі? Пецька! Лезь у трубу, хапай яго за ногі, а мы будзем цябе разам з ім цягнуць. Лезь, паскуднік! Вой, бяда мне з такімі дзецьмі!

Пецька палез у трубу.

— Трымай яго за ногі! Мацней! Не ўпусці! — камандаваў Лейзар.— Ухапіўся? Ну, хлопчыкі, цягніце Пецьку за ногі. Каб вы мне яго так выцягнулі, як я жыў.

Хлопчыкі са смехам ухапіліся за Пецькавы брудныя пяткі, што тырчалі з трубы, і пацягнулі. І раптам з трубы вылецеў страшэнны пакутлівы Міцькаў крык:

— Ой, хлопчыкі, даражэнькія... пакіньце, баліць мне... Рука... Вой-вой-вой!

Катласкробы разгублена выпусцілі Пецькавы ногі, што тырчалі з трубы, і не па-дзіцячы панура пераглянуліся. Лейзар пабялеў.

— Вы не турбуйцеся, містэр механік,— хутка загаварыў ён,— гэта нічога... Гэта зусім дробязь... Я хутка прывязу гаспадара Быкава, ён яго выцягне ў адзін момант.

Ён кінуўся да трапа і пабег па ім з такой хуткасцю, якой ганарыўся б і сам О'Хідзі.

Астатнія моўчкі стаялі каля гэтай страшнай трубы.

— Трэба заліць змазачным маслам,— прапанаваў машыніст.— Яна стане слізкая, і тады хлапчука можна будзе вызваліць.

О'Хідзі схіліўся над жэралам трубы. Ён быў засмучаны, даведаўшыся, што ў трубе завязла тое самае белазубае чарцянё, якое адразу прыцягнула яго ўвагу на вуліцы. У механіка зашчымела пад лыжачкай, і, адчуваючы вострае жаданне чым-небудзь дапамагчы і злуючыся на сваё бяссілле, ён ласкавым голасам паклікаў:

— Хэло, бобі! Здрастэй, як жыв'ёш?

---

[1] Вар'ят! *(яўрэйск.)*

Хлопчыкі засмяяліся. З трубы разам з плачам даляцеў сумны адказ:

— Дрэнна!.. Рука баліць, быццам паламаная.

Нічога не зразумеўшы, О'Хідзі яшчэ больш засмуціўся і ўсхваляваўся, панура стаў хадзіць туды-сюды па цесным памяшканні качагаркі.

## 7

Сходкі трапа задрыжалі і загулі пад самім Провам Кір'якавічам.

Не звярнуўшы ўвагі на ўсхваляванага О'Хідзі, Бykaў адразу рыкнуў на хлопчыкаў, якія, прыціхшы, збіліся каля трубы.

— Гэта што? Лынды біць будзеце? А працаваць каму? Лезце ў трубы, сабачыя выскрабкі, а то ўсіх у каршэнь выганю!

— Пацук завяз, Проў Кір'якавіч,— жаласным голасам прапішчаў Пецька.

Рука Прова Кір'якавіча моцна тузанула за Пецькава вуха.

— Ты яшчэ ўсё балбочаш, смаркач! У цябе пытаюцца?.. Завяз!.. Я яму пакажу завязаць... Марш у трубы! Вы мне грошы заплоціце, калі ў час работу не скончу? У, сукіны сыны!

Хлопчыкі разбегліся адразу і зніклі ў трубах. Проў Кір'якавіч цяжкім крокам падышоў да злашчаснай трубы.

— Міцька! — пагражальна паклікаў ён.— Ты што, падлюга? Пакасціць уздумаў? Вылазь у адзін момант!

— Проў Кір'якавіч, міленькі, родненькі, не злуйцеся. Я сам бы рады, ды не магу, далібог. Зусім руку звярнуў,— пачуў ён у адказ слабы, прыглушаны металам голас.

Быкаў наліўся крывёю.

— Ты мне камедзь не ламай, пракляты чорт! Вылазь, кажу, а не ўсю морду расквашу!

У трубе заплакала.

— Лепей забіце, не магу больш пакутаваць. Вой, баліць!

— Бач ты!.. І праўда завяз, шчанюк... Трэба вяроўкай за ногі ўзяць і цягнуць.

Лейзар асцярожна падышоў ззаду да Быкава.

— Такое няшчасце, такое няшчасце... Мы ўжо спраба-

валі — не выцягваецца... Пан машыніст гаворыць — трэба заліць змазачным маслам, тады будзе слізка...

— Марш, жыдзюга! — адрэзаў Быкаў.— Без цябе ведаю. Скажы глічанам, каб неслі масла.

Плячысты канадзец-качагар з нажавым шрамам праз усю шчаку прынёс вядро з густым маслам. Проў Кір'якавіч скінуў люстрынавы пінжак і з размаху плюхнуў масла глыбока ў трубу.

— Швабру! — крыкнуў ён спалоханаму Лейзару і, выхапіўшы швабру з рук качагара, пачаў прапіхаць у трубу.

— Яшчэ вядро!

Другое вядро выплюхнула ў трубу слізкую зеленавата-чорную жыжку.

— Пецька! Лезь, свалата, з канатам. Вяжы яго за ногі.

Пецька палез у трубу. Па яго брудных шчоках каціліся кроплі поту і слёз. Яму было страшна і шкада Пацука. Хутка ён вылез назад, увесь чорны і ліпкі ад масла.

— Завязаў,— прахрыпеў ён, адплёўваючыся.

Проў Кір'якавіч наматаў канец вяроўкі на руку і, перакінуўшы цераз плячо, пацягнуў. Труба завыла жахлівым крыкам.

— Цыц! — уз'юшыўся Быкаў.— Пан знайшоўся. Цярпі, чычас выцягну!

Ён другі раз налёг на вяроўку, і качагарку пранізала страшэнным крыкам. Перш чым Проў Кір'якавіч паспеў пацягнуць трэці раз, О'Хідзі схапіў яго за плечы і адкінуў у кутох качагаркі на кучу шлаку.

— Скажыце яму, што я не дазволю мучыць хлопчыка! — крыкнуў ён Лейзару.

Быкаў устаў сіне-пунсовы ад злосці.

— Ты!.. Перадай гэтаму нехрысцю — калі так — няхай сам калупаецца. А не хоча — давядзецца трубу ламаць.

Лейзар, збянтэжаны, пераклаў.

О'Хідзі паківаў галавой.

— Добра!.. Я пайду ўсё скажу капітану.

Ён узбег па трапе і знік у люку. Проў Кір'якавіч хацеў пацягнуць яшчэ раз, але канадзец са шрамам пагрозліва падняў кулак, і Быкаў застаўся стаяць нерухома.

З люка зноў з'явілася галава О'Хідзі.

— Містэр Цвібель, падымайцеся і запрасіце разам містэра Бікафа. Капітан жадае гаварыць з вамі.

Проў Кір'якавіч плюнуў, вылаяўся і палез наверх.

Капітан Джыбінс стаяў каля люка і глядзеў на Быкава халоднымі прыжмуранымі вачыма. Ён папрасіў растлу-

мачыць яму, што здарылася, і, выслухаўшы расказ Лейзара, сказаў няспешна і сумна:

— Выламаць трубу я не магу дазволіць без згоды ўладальнікаў грузу і гаспадара. Я адразу пашлю тэрміновую тэлеграму ў Нью-Арлеан. А пакуль паспрабуйце як-небудзь вызваліць хлопчыка.

Раз'юшаны Быкаў палез уніз. У трубу лілі яшчэ масла, спрабавалі цягнуць то хуткімі рыўкамі, то паступова і асцярожна, але кожнае торганне прычыняла Міцьку невыносны боль, і качагарка зноў напаўнялася дзікімі крыкамі. Міцька плакаў і прасіў лепш забіць яго адразу.

Настаў вечар. Увечары Быкаў, вычарпаўшы ўвесь запас лаянкі, пайшоў на бераг. Качагары ціха вялі размову, прыслухоўваючыся да глухіх усхліпаў.

— Ён доўга не вытрымае,— сумна сказаў канадзец,— я кажу, што трэба распілаваць трубу ацэтыленам!

— Джыбінс не дазволіць,— адазваўся другі качагар.

— Сволач! — прахрыпеў канадзец і стукнуў кулаком па трубе.

## 8

Раніцаю капітан Джыбінс атрымаў адказ на тэрміновую тэлеграму.

Ён прачытаў яго ў сваёй каюце, і твар яго камянеў з кожным прачытаным радком. Гаспадар тэлеграфаваў, што ён не дапускае ніякай затрымкі з-за нейкага паршывага рускага хлапчука і ўскладае ўсю адказнасць за вынікі спазнення на Джыбінса.

«Мы заўсёды знойдзем у Амерыцы капітана, які будзе больш аддана служыць інтарэсам фірмы»,— канчалася тэлеграма.

Капітан Джыбінс заплюшчыў вочы і ўявіў жонку і двое дзяцей. Твар яго тарганўся. Адным махам ён разадраў тэлеграму і выйшаў на палубу. Там перад О'Хідзі стаяў Быкаў і, размахваючы рукамі, штосьці горача тлумачыў Цвібелю. Цвібель убачыў капітана і ўпіўся ў яго жаласлівым, збянтэжаным позіркам.

— Містэр капітан, вы ўжо маеце адказ з Амерыкі?

— Маю,— суха адказаў Джыбінс,— зрабіце пераклад містэру Бікафу, што я не затрымаюся ні на адну гадзіну. Сёння вечарам топкі павінны быць запалены, а заўтра раніцай мы выйдзем. Калі па віне містэра Бікафа гэтага не

будзе — яму давядзецца заплаціць усе затраты кампаніі і мае.

Быкаў сціснуў кулакі і моцна вылаяўся.

— Ах ты, пракляты вырадак! Каб ты здох у трубе, сукін сын.

Лейзар замахаў рукамі:

— Што вы такое гаворыце, Проў Кір'якавіч, што нават зусім страшна слухаць. Няўжо на дзіцяці ёсць якая віна, каб ён памёр у такім дрэнным месцы?

— Пайшоў ты да д'ябла! — раўнуў Быкаў.

Капітан хацеў пайсці ў каюту, але яго спыніў качагар са шрамам, які толькі што вылез на палубу з машыннага люка.

— Прабачце, сэр,— сказаў канадзец,— людзі просяць дазволу разрэзаць трубу. Больш чакаць нельга, хлопчык ледзь дыхае. Мы...

Паголеныя шчокі ў Джыбінса трошкі пачырванелі. Не павышаючы голасу, ён адказаў:

— Забараняю.

— Але гэта ж забойства, сэр,— пагрозліва наступаў канадзец,— мы гэтага не дапусцім. Мы разрэжам трубу без вашай згоды.

— Паспрабуйце! — яшчэ цішэй сказаў Джыбінс.— Вы ведаеце, што такое бунт на караблі, і ведаеце, што наконт гэтага гаворыць закон. Прашу вас... Я не дам двух пенсаў за вашу скуру. Зразумела?

Шрам на шчацэ ў канадца наліўся крывёю. Ён апаліў Джыбінса гарачым позіркам, рэзка павярнуўся і знік у люку.

— Прасачыце за людзьмі, О'Хідзі. Вы адказваеце за машынную каманду,— злосна кінуў механіку Джыбінс і пайшоў у каюту.

Быкаў і Цвібель спусціліся ў качагарку. Міцька ўжо не адказваў на воклікі і толькі ледзь стагнаў. Звон паклікаў каманду абедаць. Качагарка апусцела. Быкаў нагнуўся да трубы і доўга прыслухоўваўся. Потым выпрастаўся і рашучым рухам насунуў шапку на бровы.

— Ідзём да капітана,— загадаў ён Цвібелю і палез наверх.

Капітан Джыбінс жаваў біфштэкс і ўтаропіўся на Быкава і Цвібеля спакойнымі, абыякавымі вачыма.

— Выцягнулі? — спытаўся ён, адрэзаўшы кавалак сакавітага мяса.

— Нічога не выходзіць, містэр капітан. Вой, які страш-

ны выпадак,— пачаў Лейзар, але Быкаў спыніў яго. Ён успёрся рукамі на стол, і цагляны твар яго раптоўна пабялеў.

— Ты скажы яму, Лейзар,— загаварыў ён ціха, хоць ніхто не мог зразумець яго, акрамя Цвібеля,— скажы яму, што выцягнуць нягодніка нельга, а я плаціць прастой не магу. Адкуль жа ў мяне такія грошы? — Быкаў спыніўся, шумна ўвабраў у грудзі паветра і з паветрам глуха выдыхнуў: — Хай запальваюць топкі з ім разам.

Лейзар завойкаў:

— Вой, Проў Кір'якавіч! Хіба ж можна такія жарты? Як я скажу такое амерыканскаму капітану, каб забіў дзіця такім чынам? Лепш вы самі зрабіце што хочаце, а я не магу. Ад мяне і ад дзяцей маіх бог адвернецца за такую справу.

Быкаў нізка нахіліўся над сталом.

— Слухай, Лейзар,— прашыпеў ён,— я не жартую з табою. Я не хачу ісці з торбаю па свеце з-за выскрабка. Вось маё слова: калі не скажаш капітану, вось табе хрэст, раскажу пану прыставу, як ты залетась хадзіў па Дзерыбасаўскай з чырвоным сцягам і крычаў супраць цара.

Лейзар адчуў, як па целе папаўзлі мурашкі, але ён усё роўна спрабаваў не здавацца.

— Ну і што тут такога? — сказаў ён з жаласлівай і балючай усмешкай.— Пан прыстаў нічога не скажа. Які яўрэй тады не хадзіў з чырвоным сцягам і не крычаў розныя недарэчнасці?

— Недарэчнасці? Пра арла забыўся? Думаеш, я не ведаю?

Лейзар пахіснуўся. Гэта быў аглушальны ўдар. Значыць, Быкаў ведае пра гэта. Пра тое, што Лейзар так старанна таіў увесь час і думаў, што гэта зарасло травой забыцця. Пра тое, што ён, Лейзар Цвібель, разам з разгарачанымі студэнтамі сарваў ляпнога арла з аптэкі на Марзліеўскай і ў дзікай злосці таптаў нагамі яго чорныя крылы. Гэта было яшчэ горш за чырвоны сцяг. Лейзар заплюшчыў вочы, а Быкаў гаварыў:

— А Шлікермана памятаеш?

Цвібель застагнаў. Ён успомніў знявечанае цела Шлікермана, якога да смерці забілі гарадавыя ва ўчастку, горка і глыбока ўздыхнуў і адважыўся.

— Грэх вам, Проў Кір'якавіч... Ну добра... Я скажу капітану.

Пакуль ён перакладаў капітану Джыбінсу словы Бы-

кава, у яго трэсліся рукі і дрыжалі губы. Джыбінс выслухаў моўчкі. Ніводная рысачка яго гладкага твару не кранулася. Ён дастаў з рота люльку і паволі сказаў:

— Скажыце містэру Бікафу, што гэта яго справа. Хлопчык яго і прадпрыемства яго. Хай разбіраецца як ведае... Калі зможа захаваць усё ў тайне ад маёй каманды і як-небудзь ашукаць людзей. Я нічога не чуў і нічога не ведаю. Але вечарам топкі будуць распалены.

Быкаў сцяў зубы і выйшаў з Цвібелем на палубу. Бірузовыя вячэрнія цені лажыліся на штылевы рэйд. Стаяла вячэрняя цішыня, якую разрывалі толькі крыкі чаек, што біліся на вадзе з-за адкідаў. Быкаў павярнуўся да Цвібеля і, наліўшыся крывёю, прашаптаў дзіка і пагрозліва:

— Калі хоць адно слова каму — запомні: са свету зжыву.

## 9

У качагарцы не было нікога, акрамя хлопчыкаў. Амерыканцы яшчэ не вярнуліся з абеду. Хлопчыкі, перашэптваючыся, стаялі вакол трубы, у жэрала якой засунуў галаву Пецька. Быкаў схапіў Пецьку за адтапыраны на спіне брызент і з усяе сілы пацягнуў да сябе. Пецька са страху ажно вочы вылупіў, белыя, як гузікі, на чорным твары.

— Ты чаго туды лезеш, нягоднік? Зноў лынды біць? Усіх пазабіваю к чортавай мацеры! — зароў Проў Кір'якавіч, падняўшы Пецьку ў паветра.

— Дык мы пашабашылі, Проў Кір'якавіч! — запішчаў Пецька.— Усе трубы скончылі, далібог. Каб не Пацук, усё б раней часу зрабілі.

Проў Кір'якавіч зноў паглядзеў на квадратную дзірку ў люку наверсе, над якой сінела неба, падцягнуў Пецьку да сябе і замармытаў:

— Чычас лезь у трубу да Пацука. На завяжы вяроўку сабе за нагу і лезь. Як глічане з абеду прыйдуць, я цябе цягнуць адтуль буду, а ты крычы на ўвесь голас. Цяпер ты будзеш не Пецька, а Пацук.

— Навошта, Проў Кір'якавіч?

— Ты яшчэ пытаеш?.. А як выцягну,— раві каровай, быццам з радасці. Ну, бягом! А то ўмомант — вон! А вы маўчыце ў дамавіну, альбо дзесяць скур спушчу! — крыкнуў ён тром астатнім.

Пецька знік у трубе, з якой звісала вяроўка. Дзірка ў

люку наверсе пацямнела, і на сходках трапа загрукаталі крокі амерыканцаў, якія спускаліся ўніз.

Цвібель цяжка ўздыхнуў і асмеліўся дакрануцца да локця Быкава.

— Проў Кір'якавіч,— працадзіў ён, увесь трасучыся,— няўжо ж вы так жадаеце загубіць нявіннае дзіця?

Быкаў паглядзеў на яго.

— І да чаго ж вы жаласлівая нацыя! — сказаў ён з агіднай разгубленасцю.— Відаць, таму вас і б'юць на ўсіх землях.— І тут жа закіпеў злосцю, крыкнуў: — Твой, ці што? Твая якая справа? Я яго знайшоў — я за яго і адказчык. Усё роўна ў яго нікога няма — бяздомны, ніхто не папытаецца. А папытаецца — скажу: збег, паехаў з глінамі. Ідзі!

Лейзар адхіснуўся. Падышлі качагары да трубы. Быкаў крэкнуў, схапіў вяроўку і, напружыўшыся, пацягнуў. Пецька ў трубе завыў. Вяроўка пачала паддавацца.

— Цягні!.. Цягні!..— зароў Быкаў, і качагары, зразумеўшы, таксама ўхапіліся за канец. Паказаліся Пецькавы ногі, зад, і потым вывалілася ўсё тулава. Растапырыўшы рукі, Пецька бразнуўся тварам аб жалезную падлогу, усыпаную вострымі грудамі шлаку. Ён моцна разбіў лоб і разроўся ўжо не на жарт. Качагары, загаманіўшы, падхапілі яго і пацягнулі па трапе на палубу. Канадзец хусцінкай сцёр кроў з разбітага Пецькавага лба, хацеў выцерці ўвесь твар, замазаны тлустым налётам змазкі, але Быкаў выхапіў хлапчука з яго рук і пацягнуў да сходаў. Па дарозе ён сустрэўся з О'Хідзі, які нечакана выйшаў на шум.

— Што здарылася? — спытаўся механік.

Канадзец спяшаючыся тлумачыў яму, што хлопчыка ўдалося выцягнуць.

О'Хідзі падышоў да Быкава. Яму захацелася сказаць што-небудзь выратаванаму хлопчыку, падбадзёрыць яго і прылашчыць. Ён дакрануўся далонню да зліплых Пецькавых валасоў. Пецька павярнуў галаву, разявіў рот, і механік убачыў чорныя сапсаваныя зубы, зусім не падобныя на бліскучы частакол Міцькавых зубоў. О'Хідзі адняў руку, са здзіўленнем прасачыў за Быкавым, які збягаў на пірс, цягнучы за сабой Пецьку. Калі той знік за вуглом пакгауза, механік адышоў ад борта і спусціўся ў качагарку.

Хлапчукі, сабраўшы інструмент, таксама збіраліся пакінуць карабель. О'Хідзі пачакаў, пакуль яны ўзлазілі наверх, узяў багор і глыбока прасунуў яго ў трубу. Багор на-

ткнуўся на мяккую перашкоду, і О'Хідзі пачуў слабы гук, падобны на мяўканне.

Ён адкінуў багор і за некалькі скачкоў пераадолеў трап. На палубе ён замарудзіў крокі і пастукаў у дзверы капітанскай каюты.

Джыбінс здзіўлена паглядзеў на механіка, на бледны твар з расшыранымі васільковымі вачыма, на кроплі поту на лбе.

— Што з вамі, Дзікі? — спытаўся ён.

Механік задыхаўся.

— Фрэд!.. Зроблена злачынства. Гэты нягоднік Бікаф ашукаў нас. Ён выцягнуў з трубы другога хлопчыка. Той застаўся там. Ён амаль што памёр, ён не можа нават адказаць...

Капітан Джыбінс круціў у руцэ люльку. Твар яго стаў скамянелы і цяжкі.

— Я так і думаў,— паволі вымавіў ён.

Механік адхіснуўся.

— Як? Вы ведаеце гэта?

— Не ведаю, але я меркаваў.— Джыбінс сціснуў люльку ў зубах і чыркнуў запалкай аб падэшву, паволі распаліў тытунь.— Але гэта ўсё роўна. У нас няма выхаду. Мы павінны выйсці заўтра раніцай, як толькі пагрузім апошні мяшок макухі. А дзесятай вечара вы распаліце топкі.

— Вы з глузду з'ехалі! А дзіця?

Капітан Джыбінс падняў галаву. Вочы яго сталі зеленавата-халодныя, як кавалачкі лёду.

— Паслухайце мяне, шаноўны! Калі я не выканаю загаду гаспадара, мяне выкінуць і занясуць у чорны спіс. Ніводная кампанія не возьме мяне на працу. Вы халасцяк. У мяне ёсць дзеці і жонка. Я ведаю, што зроблена злачынства, калі глядзець на рэчы з пункту погляду агульнай маралі. Я чалавек і не хачу, каб мая сям'я здохла пад плотам. Мне даражэй мае дзеці. Магчыма, вы не разумееце гэтага, але, калі я думаю пра тое, што будзе з маімі дзецьмі, я прымаю на сябе адказнасць... І вы не захочаце зрабіць маіх дзяцей такімі ж адшчапенцамі і жабракамі, як гэты хлопчык...

— Але каманда...

— Каманда ні пра што ведаць не будзе, калі вы ёй не скажаце. А вы не скажаце таму, што не захочаце смерці маім дзецям. Хлопчыка ўсё роўна ўжо не ўратаваць. Яшчэ дзве-тры гадзіны, і ён затхнецца. У дзесяць мы засыпаем вугаль у топкі. Гэта загад!

О'Хідзі сціснуў скроні. Яму здавалася, што галава ў яго раздзімаецца, як гумавы шар, і хутка лопне.

— Добра!.. Я буду маўчаць. Хай бог даруе мне і вам, Фрэд!

## 10

«Мэджы Дальтон» выйшла з адэскай гавані ў поўдзень, узяўшы поўны груз. На пірсе было бязлюдна, і толькі ў пакгаузе тулілася згорбленая постаць у доўгім зіпуне. Лейзар Цвібель прыйшоў праводзіць параход, таму што ў яго было дзевяць галодных дзяцей і жаласлівае да дзяцей, нікому не патрэбнае сэрца. Калі «Мэджы» завярнула за выступ мола, ён пайшоў з пірса, узваліўшы на сваю спіну нікому не бачны жахлівы груз.

«Мэджы» паспяхова прайшла Басфор і Гібралтар. Машыны працавалі добра, узяты ў Адэсе вугаль быў выдатнай якасці, людзі працавалі вельмі добра, і толькі старшы механік О'Хідзі напіваўся зранку і ляжаў у сваёй каюце апухлы і страшны.

За Гібралтарам «Мэджы» ўступіла ў Атлантыку на шлях, пракладзены пяць стагоддзяў назад упартым генуэзцам, і ў першую ж ноч механік О'Хідзі на вачах у вахценных матросаў скочыў са спардэка за борт. Было халаднавата, вецер гнаў цяжкую хвалю, і шлюпкі спускаць было рызыкоўна. Капітан Джыбінс адзначыў гэты сумны выпадак кароткім запісам у вахценнай кнізе.

Адзінаццаць дзён «Мэджы» рэзала акіянскую хвалю і на дванаццаты стала каля роднага прычала ў гавані Нью-Арлеана. Гаспадар разам з кіраўніком фірмы Ленсбі, худым джэнтльменам у белым цыліндры па летнім часе, выйшаў на палубу падзякаваць капітану Джыбінсу за паспяховы рэйс і добрую службу.

— Мы даём вам, акрамя прэміі, яшчэ спецыяльную ўзнагароду, і містэр Ленсбі, са свайго боку, таксама знайшоў магчымасць прэміяваць вас за стараннасць... Дарэчы, як вы разблыталіся з гэтай замінкай у Адэсе?

Капітан Джыбінс пакланіўся.

— Дзякую вам. Гэта дробязь. Няма чаго і ўспамінаць,— адказаў Джыбінс.

На ім, як заўсёды, была сіняя шапка з галунамі і ў зубах капітанская люлька з абгрызеным муштуком. Твар капітана Джыбінса быў гладкі і спакойны.

Ноччу, калі каманду адпусцілі і яна з'ехала на бераг, а на параходзе застаўся адзін вахценны, капітан Джыбінс

спусціўся ў качагарку. Задраіўшы люк на ўсе баранчыкі, ён узяў доўгую качаргу і запусціў яе ў жэрала трубы. Ён доўга калупаў ёю ў глыбіні трубы. На жалезную падлогу звалілася некалькі абгарэлых костак, потым з гулкім і пустым стукам зваліўся круглячок маленькага чэрапа. Запушчаная яшчэ раз качарга выцягнула нешта, што звонка ўпала на падлогу. Джыбінс нагнуўся і падняў невялікую бляшаначку, у якія ўпакоўваюць танныя ледзянцы. Бляшанка была ўкрыта цёмным нагарам. Капітан дастаў нож і, падсунуўшы пад вечка, адчыніў бляшанку. На дне ў ёй ляжала некалькі медных гузікаў і чорны ад агню долар. Джыбінс зачыніў бляшанку і паклаў яе ў кішэню. Потым стаў на калені, разаслаў хусцінку і сабраў у яе косці і чэрап. Выйшаўшы на палубу, ён падышоў да борта і кінуў завязаную вузлом хусцінку ў чорную, амаль нерухомую ваду.

У каюце ён падышоў да стала, узяў бутэльку віскі, наліў поўную шклянку і паднёс да рота, але не выпіў. Пастаяў хвіліну, правёў рукой па твары, быццам здымаючы дрыжанне мускула пад сківіцай, і, падышоўшы да адчыненага ілюмінатара, выліў віскі за борт.

Раніцай, сышоўшы на бераг, капітан Джыбінс зайшоў да знаёмага ювеліра і папрасіў упаяць цёмны абпалены долар у вечка свайго сярэбранага партсігара.

— Адкуль у вас гэтая штука, Джыбінс? — спытаўся ювелір, круцячы долар у пухлых пальцах.

Капітан Джыбінс спахмурнеў.

— Мне не хочацца пра гэта расказваць. Непрыемная гісторыя. Але я хачу захаваць гэтую манету на памяць.

Ён ветліва развітаўся з ювелірам і выйшаў на вуліцу. Ён ішоў дамоў, радуючыся таму, што хутка ўбачыць жонку і дзяцей і асчасліваць сям'ю весткай аб прэміі, атрыманай за спешны фрахт. Ён быў спакойны і ўпэўнены ў заўтрашнім дні і цвёрда крочыў сярод шуму і грукату вуліцы каля дамоў, за люстраным шклом якіх, прыкрытым да паловы зялёнымі шаўковымі фіранкамі, пад мерны стук лічыльнікаў закіпала сухая, мерная праца чалавечай прагнасці.

*Сочы. Жнівень, 1925*

## Міхаіл Булгакаў

# РУЧНІК З ПЕЎНЯМІ

Калі чалавек не ездзіў на конях глухімі селавымі дарогамі, то расказваць мне яму пра гэта няма чаго: усё роўна ён не зразумее. А таму, хто ездзіў, і напамінаць не хачу.

Скажу коратка: сорак вёрст, што аддзяляюць павятовы горад Грачоўку ад Мур'еўскай бальніцы, ехалі мы з вазаком маім роўна суткі. І нават да дзівосы роўна: у дзве гадзіны дня 16 верасня 1916 года мы былі каля апошняй крамы, што вылезла на самы край гэтага цудоўнага горада Грачоўкі, а ў дзве гадзіны пяць мінут 17 верасня таго ж 1916 года я стаяў на ўтоўчанай, змярцвелай і панылай ад вераснёўскага дождыку траве на двары Мур'еўскай бальніцы. Быў у мяне такі выгляд: ногі скасцянелі, і аж да таго, што я міжволі, тут жа, на двары, перагортваў у памяці старонкі падручнікаў, панылa сілячыся прыпомніць, напраўду існуе, ці мне гэта прытрызнілася ўчора ў сне ў вёсцы Грабілаўцы, што бывае хвароба, пры якой у чалавека касцянеюць мышцы? Як яе, праклятую, завуць па-латыні? Кожная з мышцаў гэтых балела нясцерпна, нагадваючы боль зубоў. Пра пальцы на нагах гаварыць не трэба,— яны ўжо не варушыліся ў ботах, ляжалі пакорліва, былі падобны на драўляныя куксы. Прызнаюся, што, ахоплены маладушнасцю, я праклінаў ціхенька медыцыну і сваю заяву, пададзеную пяць гадоў таму назад рэктару універсітэта. Зверху ў гэты час сеяла, як праз сіта. Паліто маё набрыняла, як губка. Пальцамі правай рукі я дарэмна сіліўся ўхапіцца за ручку чамадана і нарэшце плюнуў на мокрую траву. Пальцы мае нічога не маглі трымаць, і зноў мне, нашпігаванаму рознымі вучонасцямі з цікавых медыцынскіх кніжак, успомнілася хвароба — паралюш. «Паралізіс»,— з адчаем і чортведама навошта сказаў я сам сабе ў думках.

— П... па вашых дарогах,— загаварыў я здзеравянелымі, сіненькімі губамі,— трэба п... прывыкнуць ездзіць...

І пры гэтым злосна чамусьці ўставіўся ў вазака, хоць ён, папраўдзе, і не быў вінаваты ў такой дарозе.

— Эх... пане доктар,— абазваўся вазак, таксама ледзьве варушачы губамі пад светлымі вусікамі,— пятнаццаць гадоў служу, а ўсё прывыкнуць не магу.

Я скалануўся, азірнуўся панына на белы аблуплены двухпавярховы корпус, на непабеленыя драўляныя сцены фельчарскага дамка, на сваю, што мелася быць, рэзідэнцыю — двухпавярховы вельмі чысценькі дом з замагільнымі загадкавымі вокнамі, цяжка ўздыхнуў. І тут жа цьмяна мільганула ў галаве замест лацінскіх слоў салодкая фраза:

...Привет тебе, приют священный...

Бывай, бывай надоўга Вялікі тэатр, Масква, вітрыны... ах, бывай...

«Другі раз я кажух надзену...— у злым адчаі думаў я і тузаў чамадан за рамяні здранцвелымі рукамі,— я... але ж другі раз будзе ўжо ў кастрычніку... хоць два кажухі надзявай. А раней як праз месяц я не паеду, не паеду ў Грачоўку... Падумайце самі... начаваць жа давялося! Дваццаць вёрст зрабілі і апынуліся ў пякельнай цемрадзі... ноч... у Грабілаўцы давялося начаваць... настаўнік пусціў. А сёння раніцаю выехалі ў сем гадзін... і вось едзеш... божухна святы... марудней, як пехатою ідучы. Адно кола ляціць у яму, другое ў неба задзіраецца, чамадан на ногі — бабух... потым на бок, потым на другі, потым носам уперад, потым патыліцаю. А зверху сыпле і сыпле, і стынуць косці. Ды хіба я мог бы паверыць, што ў сярэдзіне шэранькага, кіслага верасня чалавек можа мерзнуць у полі, як лютаю зімою?! Аж выходзіць — можа. І пакуль паміраеш ціхаю смерцю, у вачах стаіць усё тое самае: справа — гарбатае абгладанае поле, злева — чэзлы пералесак, а каля яго — шэрыя, струхлелыя хаты, штук пяць ці шэсць. І здаецца, што ў іх няма ні адной жывой душы. Маўчанне, маўчанне кругом...»

Чамадан нарэшце паддаўся. Вазак налёг на яго жыватом і выпхнуў проста на мяне. Я хацеў схапіць яго за рэмень, але рука адмовілася служыць, і распухлы, знелюбелы мой спадарожнік з кніжкамі і розным барахлом пляснуўся проста на траву, жахнуўшы мяне па нагах.

— Эх ты, пане...— пачаў быў вазак спалохана, але я ніякіх прэтэнзій не падаў: ногі ў мяне былі ўсё роўна хоць выкінь іх.

— Гэй, хто тут? Гэй! — закрычаў вазак і залопаў рукамі, як певень крыламі.— Гэй, доктара прывёз!

Тут у цёмных вокнах фельчарскага дамка паказаліся твары, прыліплі да шыб; бразнулі дзверы, і вось я ўбачыў, як зачыкільгаў па траве да мяне чалавек у старэнькім палітэчку і ў ботах. Ён пачціва і ўслужліва зняў шапку, падбегшы на два крокі да мяне, чамусьці ўсміхнуўся сарамліва і хрыплівым галаском павітаў мяне:

— Добрага здароўя, пане доктар.

— Хто вы такі? — папытаўся я.

— Ягорыч я,— назваўся чалавек,— вартаўнік тутэйшы. Мы ж вас чакаем, чакаем...

І тут жа ён ухапіўся за чамадан, ускінуў яго на плячо і панёс. Я закульгаў за ім, дарэмна сілячыся засунуць руку ў кішэню штаноў, каб дастаць партманет.

Чалавеку, па сутнасці, вельмі мала трэба. І перш за ўсё яму трэба агонь. Адпраўляючыся ў мар'еўскую глушэчу, я, памятаю, яшчэ ў Маскве даў сабе зарок трымаць сябе салідна. Мой малады выгляд на першым часе атручваў мне ўсё маё існаванне. Кожнаму даводзілася называцца:

— Доктар такі і такі.

І кожны абавязкова паднімаў бровы і пытаўся:

— Ды няўжо? А я думаў, што вы яшчэ студэнт.

— Не, я скончыў,— паныла адказваў я і думаў: «Акуляры мне трэба завесці, вось што». Але акуляраў заводзіць не было патрэбы: вочы ў мяне былі здаровыя, і яснасць іхняя яшчэ не была азмрочана жыццёвай спрактыкаванасцю. Не маючы магчымасці абараняцца ад бясконца паблажлівых і ласкавых усмешак з дапамогаю акуляраў, я стараўся выпрацаваць асаблівую, такую, што надае павагі, завядзёнку. Гаварыць стараўся павольна і важка, не рабіць, па магчымасці, рэзкіх рухаў, не бегаць, як бегаюць людзі ў дваццаць тры гады, скончыўшы універсітэт, а хадзіць. Атрымлівалася ўсё гэта, як цяпер я, пасля многіх гадоў, разумею, вельмі дрэнна.

На той жа момант я гэты свой няпісаны кодэкс паводзін парушыў. Сядзеў, скурчыўшыся, у адных шкарпэтках, і не дзе-небудзь у кабінеце, а на кухні, і, як вогнепаклоннік, натхнёна і аддана гарнуўся да зыркага полымя, што шугала ад бярозавых дроў у пліце. Леваруч ад мяне стаяла перакуленая дном угору кадушка, і на ёй ляжалі мае чаравікі, поруч з імі абскублены, галаскуры певень з акрываўленай шыяй, поруч з пеўнем, кучаю, яго

стракатае пер'е. Рэч у тым, што яшчэ да здранцвеласці я паспеў зрабіць цэлы шэраг захадаў, якіх вымагала само жыццё. Вастраносая Аксеня, Ягорычава жонка, была прызначана мною на пасаду мае кухаркі. У выніку гэтага і загінуў пад яе рукамі певень. Яго я павінен быў з'есці. Я з усімі пераззнаёміўся. Фельчара звалі Дзям'ян Лукіч, акушэрак — Пелагея Іванаўна і Ганна Мікалаеўна. Я паспеў абысці бальніцу і з найяснейшаю яснасцю пераканаўся, што інструментарый у ёй самы багаты. Пры гэтым з такой жа яснасцю я вымушаны быў прызнацца (сам сабе, вядома), што прызначэнне вельмі многіх бездакорна зіхоткіх інструментаў мне зусім невядомае. Я іх не толькі не трымаў у руках, але нават, шчыра прызнаюся, і не бачыў.

— Гм,— вельмі шматзначна прамармытаў я,— у вас інструментарый найсамалепшы. Гм...

— А як жа-с,— соладка пагадзіўся Дзям'ян Лукіч,— гэта ўсё з клопату вашага папярэдніка Леапольда Леапольдавіча. Ён жа з раніцы да вечара рабіў аперацыі.

Тут я абліўся халодным потам і паныла паглядзеў на бліскучыя, як з люстэрка зробленыя, шафкі.

Пасля гэтага мы абышлі пустыя палаты, і я пераканаўся, што ў іх смела можа размясціцца сорак чалавек.

— У Леапольда Леапольдавіча часам і па пяцьдзесят ляжала,— усцешыў мяне Дзям'ян Лукіч, а Ганна Мікалаеўна, жанчына ў кароне пасівелых валасоў, чамусьці сказала:

— Вы, доктар, такі маладжавы, такі маладжавы... Проста дзіва: вы на студэнта падобны.

«Чорт на цябе,— падумаў я,— як згаварыліся. Хоць ты прападзі!»

І прабурчаў праз зубы, суха:

— Гм... не, я...вядома, я... ну, але, маладжавы...

Пасля гэтага мы спусціліся ў аптэку, і адразу я ўбачыў, што ў ёй не было толькі птушынага малака. У цемнаватых двух пакоях моцна пахла зёлкамі, і на паліцах стаяла ўсё што хочаш. Былі нават патэнтаваныя замежныя лекі, і ці трэба дадаваць, што я ніколі нічога не чуў пра іх.

— Леапольд Леапольдавіч выпісаў,— з гордасцю далажыла Пелагея Іванаўна.

«Проста геніяльны чалавек быў гэты Леапольд»,— падумаў я і напоўніўся павагаю да таямнічага Леапольда, які пакінуў ціхае Мур'ева.

Чалавеку апроч агню трэба яшчэ асвойтацца. Певень быў даўно мною з'едзены, сяннік для мяне набіты Ягорычам, накрыты прасціною; гарэла лямпа ў кабінеце ў маёй рэзідэнцыі. Я сядзеў і, як зачараваны, глядзеў на трэцяе дасягненне легендарнага Леапольда: шафа была біткам набіта кнігамі. Адных дапаможнікаў па хірургіі на рускай і нямецкай мовах я налічыў бегла каля трыццаці тамоў. А тэрапія! Наскурныя самалепшыя атласы!

Насоўваўся вечар, і я асвойтваўся.

«Я ні ў чым не вінаваты,— думаў я ўпарта і пакутліва,— у мяне ёсць дыплом, я маю пятнаццаць пяцёрак. Я ж перасцерагаў яшчэ ў тым вялікім горадзе, што хачу ісці другім доктарам. Не. Яны ўсміхаліся і гаварылі: «Асвойтаецеся». Вось табе і «асвойтаецеся». А калі кілу прывязуць? Растлумачце, як я з ёю асвойтаюся? І асабліва як будзе пачуваць сябе хворы з кілою ў мяне пад рукамі? Асвойтаецца ён на тым свеце (тут у мяне холад па пазванку...).

А загноены апендыцыт? Га! А дыфтэрыйны круп у вясковых дзяцей? Калі трахеатомія паказана? Ды і без трахеатоміі будзе мне не вельмі соладка... А... а... роды? Роды ж забыў? Няправільнае ляжанне! Што ж я буду рабіць? А? Які я легкадумны чалавек! Трэба было адмовіцца ад гэтага ўчастка. Трэба было. Дасталі б сабе якога-небудзь Леапольда».

У сумоце, у вечаровым сутонні я прайшоўся па кабінеце. Калі параўняўся з лямпаю, убачыў, як у бяскрайнім цямноцці палёў мільганула маё бледнае аблічча поруч з агеньчыкам лямпы ў акне.

«Я падобны на Лжэдзмітрыя»,— раптам недарэчна падумаў я і зноў усеўся за стол.

Гадзіны дзве ў самоце я мучыў сябе і дамучыў да таго, што ўжо больш мае нервы не вытрымлівалі натвораных мною страхаў. Тут я пачаў супакойвацца і нават строіць некаторыя планы.

Ну так-с... Прыём, яны кажуць, цяпер невялікі. Па сёлах труць лён, бездараж... «Вось тут табе кілу і прывязуць,— бабухнуў суровы голас у мазгах,— бо ў бездараж чалавек з насмаркам не паедзе, а кілу прыцягнуць, будзь пэўны, дарагі калега-доктар».

Голас быў не такі дурны, ці не праўда? Я скалануўся.

«Маўчы,— сказаў я голасу,— неабавязкова кіла. Дый што за неўрастэнія? Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж».

«Назваўся грыбком, лезь у сявеньку»,— яхідна абазваўся голас.

Што ж... з даведнікам я расставацца не буду... Калі што выпісаць, можна, пакуль мыеш рукі, абдумаць. Даведнік ляжацьме разгорнуты проста на кнізе запісвання хворых. Буду выпісваць карысныя, але няцяжкія рэцэпты. Ну, напрыклад, натрый саліцыліці — 0,5, па адным парашку тры разы на дзень...

«Соду можна выпісаць!» — яўна здзекуючыся, абазваўся мой унутраны субяседнік.

Пры чым тут сода? Я і іпекакуану выпішу інфузум... на 180. Або на дзвесце... Хвіліначку...

І тут жа, хоць ніхто і не патрабаваў ад мяне цяпер на адзіноце з лямпаю іпекакуаны, я маладушна перагарнуў рэцэптурны даведнік, праверыў іпекакуану, а заадно прачытаў машынальна і пра тое, што існуе на свеце нейкі «інсіпін». Ён не што іншае, як «сульфат эфіру хініндыгліколевай кіслаты»... Аказваецца, смаку хініну не мае! Але навошта ён? І як яго выпісаць? Ён што — парашок? Чорт на яго!

«Інсіпін інсіпінам, а як жа ўсё-такі з кілою будзе?» — упарта прыставаў страх у выглядзе голасу.

«У ванну пасаджу,— азвярэла абараняўся я,— у ванну. І паспрабую ўправіць».

«Зашчэмленая, мой ты анёл! Якія тут, к чортавай мацеры, ванны! Зашчэмленая,— шайтанскім голасам спяваў страх.— Рэзаць трэба...»

Тут я здаўся і траха не заплакаў. І мальбу ў цемнату за акно паслаў: усё, што хочаш, толькі не зашчэмленую кілу.

А стомленасць напявала:

«Лажыся ты спаць, няшчасны эскулап! Выспішся, а ўранні будзе відаць. Супакойся, юны неўрастэнік. Глядзі: у цямноцці за вокнамі спакой, спяць акалелыя палі, няма ніякай кілы. А ўранні будзе відаць. Асвойтаешся... Спі... Палажы атлас... Усё роўна нічагуткa цяпер не разбярэш. Абкальцаваная кіла...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як ён уляцеў, я нават не ўцямлю. Памятаю, клямка ў дзвярах бразнула, Аксеня нешта піснула. Ды яшчэ за вокнамі рыпнулі калёсы.

Ён без шапкі, у расплікнутым кажусе, са злямчанаю бародкаю, з шалёнымі вачыма.

Ён перахрысціўся, і ўпаў на калені, і бухнуўся лбом у дол.

«Я прапаў»,— у роспачы падумаў я.

— Што вы, што вы, што вы! — замармытаў я і пацягнуў за шэры рукаў.

Твар яго перакрывіўся, і ён, захліпаючыся, пачаў падганяць непаслухмяныя словы:

— Пане доктар... пане... адзіная, адзіная... Аднюсенькая! — крыкнуў ён раптам па-юначы звонка, так, што заскакаў абажур на лямпе.— Ах ты, божухна! Ах...— Ён у роспачы заламаў рукі і зноў забухаў ілбом у маснічыны, як бы хацеў разбіць яго.— За што? За што кара? Чым прагнявілі?

— Што? Што здарылася?! — выкрыкнуў я, чуючы, што халадзею.

Ён ускочыў на ногі, хіснуўся бліжэй і прашаптаў:

— Пане доктар... што хочаце... грошай дам... Грошы бярыце якія хочаце. Якія хочаце! Харчы будзем прывозіць... Толькі каб не памерла. Толькі каб не памерла. Калекаю астанецца — няхай сабе. Няхай сабе! — крычаў ён у столь.— Хопіць пракарміць, хопіць.

Бледны Аксенін твар вісеў у чорным квадраце дзвярэй. Скруха абвілася вакол майго сэрца.

— Што?.. Што? Гаварыце! — крыкнуў я пакутліва.

Ён сціх і шэптам, як бы сакрэтам, сказаў мне, і вочы яго сталі бяздонныя:

— У мялку папала...

— У мялку... у мялку? — перапытаў я.— Што гэта такое?

— Лён, лён цёрлі... пане доктар...— шэптам патлумачыла Аксеня,— у мялцы... лён труць...

«Вось пачынаецца. Вось... О, навошта я прыехаў!» — з жахам падумаў я.

— Хто?

— Дачка мая,— адказаў ён шэптам, а потым крыкнуў: — Памажыце! — І зноў паваліўся, і пастрыжаныя ў кружок яго валасы звіслі яму на вочы.

Лямпа-«маланка» са скрыўленым бляшаным абажурам гарэла зырка, двума рагамі. На аперацыйным стале, на белай, са свежым пахам, цыраце я яе ўбачыў, і кіла патухла ў маёй памяці.

Светлыя, крышачку рыжаватыя валасы звешваліся са стала злямчаным закарэлым каўтуном. Каса была велізэзная, і канец яе кранаўся падлогі.

Паркалёвая спадніца была ўшчэнт падрана, і кроў на ёй рознага колеру — пляма рудая, пляма тлустая, пунсовая. Святло «маланкі» здалося мне жоўтым і жывым, а яе твар папяровым, белым; нос завостраны.

На белым твары ў яе, як гіпсавае, нерухомае, патухала папраўдзе найрадчэйшае хараство. Не заўсёды, не часта сустрэнеш такі твар.

У аперацыйнай хвілін з дзесяць было паўнюткае маўчанне, але за зачыненымі дзвярыма чутно было, як глуха выкрыкваў нехта і бухаў, усё бухаў галавою.

«Кранууся розумам,— думаў я,— а сядзелкі, відаць, яго адпойваюць... Чаму такая красуня? Але ж і ў яго правільныя рысы твару... Відаць, маці была прыгожая... Ён удавец...»

— Ён удавец? — машынальна шапнуў я.

— Удавец,— ціха адказала Пелагея Іванаўна.

Тут Дзям'ян Лукіч рэзкім, як бы злосным махам, ад краю да верху, разарваў спадніцу і адразу яе адкрыў. Я зірнуў, і тое, што ўбачыў, было звыш майго ўяўлення. Левай нагі, проста кажучы, не было. Пачынаючы ад раструшчанага калена, ляжалі крывавыя ашмёткі, чырвоныя пажмаканыя мышцы, і востра ва ўсе бакі тырчалі белыя раструшчаныя косці. Правая нага была пераломана ў галёнцы так, што абедзве косці канцамі выскачылі наверх, прабіўшы скуру. Ад гэтага ступня яе знежывела, як бы асобна ляжала, павярнуўшыся набок.

— Н-але,— ціха сказаў фельчар і нічога больш не дадаў.

Тут я выйшаў са здранцвення і ўзяўся за яе пульс. У халоднай руцэ яго не было. Толькі пасля некалькіх секунд знайшоў я ледзьве чутную рэдкую хвалю. Яна прайшла... пасля была паўза, за час якой я паспеў зірнуць на пасінелыя крылы носа і белыя губы... Хацеў ужо сказаць: канец, але шчасліва ўстрымаўся... Зноў прайшла нітачкаю хваля.

«Вось як патухае раскрамсаны чалавек,— падумаў я.— Тут ужо нічога не зробіш...»

Але раптам сурова сказаў, не пазнаючы свайго голасу:

— Камфары.

Тут Ганна Мікалаеўна схілілася да майго вуха і шапнула:

— Навошта, доктар? Не мучце. Навошта яшчэ калоць? Зараз сканае... Не выратуеце.

Я злосна і строга азірнуўся на яе і сказаў:

— Папрашу камфары...

Ганна Мікалаеўна з зачырванелым, пакрыўджаным тварам зараз жа кінулася да століка і зламала ампулу.

Фельчар таксама, відаць, не ўхвальваў камфары. Тым не менш ён спрытна і скоранька ўзяўся за шпрыц, і жоўтая аліва пайшла пад скуру пляча.

«Памірай, памірай хутчэй,— падумаў я,— памірай. А то што ж я буду рабіць з табою?»

— Зараз памрэ,— як бы ўгадаўшы маю думку, шапнуў фельчар. Ён пакасіўся на прасціну, але, відаць, раздумаў: шкада было крывавіць прасціну. Аднак праз некалькі секунд ёю прыйшлося прыкрыць. Яна ляжала, як труп, але яна не памерла. У галаве маёй раптам стала светла, як пад шкляною столлю нашага далёкага анатамічнага тэатра.

— Камфары яшчэ,— хрыпла сказаў я.

І зноў пакорліва фельчар упырснуў аліву.

«Няўжо ж не памрэ?..— з адчаем падумаў я.— Няўжо давядзецца...»

Усё святлела ў галаве, і раптам без усялякіх падручнікаў, без парад, без дапамогі я зразумеў — упэўненасць, што зразумеў, была жалезная,— што зараз мне давядзецца першы раз у жыцці на непрытомным рабіць ампутацыю. І чалавек гэты памрэ пад нажом. Ах, пад нажом памрэ! У яе ж няма крыві! За дзесяць вёрст выцекла ўсё цераз раструшчаныя ногі, і невядома нават, ці адчувае яна што-небудзь цяпер, ці чуе. Яна маўчыць. Ах, чаму яна не памірае? Што скажа мне звар'яцелы бацька?

— Рыхтуйце ампутацыю,— сказаў я фельчару чужым голасам.

Акушэрка паглядзела на мяне дзіка, але ў фельчара мільганула іскра спачування ў вачах, і ён забегаў каля інструментаў. Пад рукамі ў яго зароў прымус...

Прайшла чвэртка гадзіны. З богабаязным жахам я ўзіраўся ў патухлае вока, прыпадымаючы халоднае павека. Нічога не разумею. Як можа жыць чалавек, што стаў, па сутнасці, трупам? Кроплі поту бесперастанку беглі ў мяне па лбе з-пад белага каўпака, і марляю Пелагея Іванаўна выцірала іх. У астатках крыві ў жылах у дзяўчыны цяпер плаваў і кафеін. Трэба было яго ўпырскваць ці не? На сцёгнах Ганна Мікалаеўна ледзьве чут-

ным дакрананнем гладзіла выпукліны, што паўздымаліся ад фізіялагічнага раствору. А дзяўчына жыла.

Я ўзяў нож, стараючыся быць падобным (раз у жыцці ва універсітэце я бачыў ампутацыю) да некага... Я ўмольваў цяпер лёс, каб у бліжэйшыя паўгадзіны яна не памерла. «Няхай памрэ ў палаце, калі я скончу аперацыю...»

За мяне працаваў толькі мой здаровы сэнс, падагнаны незвычайнасцю абставін. Я наўкруга і са спрытам, як спрактыкаваны мяснік,ваструсенькім нажом краянуў сцягно, і скура разышлася, не даўшы ні адной расінкі крыві. «Сасуды пачнуць крывавіцца, што я буду рабіць?» — думаў я і, як воўк, касавурыўся на кучу тарзіённых пінцэтаў. Я зрэзаў вялізны кусок мяса і адзін з сасудаў — ён быў падобны на белаватую трубачку,— але ні адной кроплі крыві не выступіла з яго. Я заціснуў яго тарзіённым пінцэтам і пайшоў далей. Я панатыкаў гэтых тарзіённых пінцэтаў усюды, дзе меліся быць сасуды... «Arteria... Arteria... як, чорт, яе завуць?..» У аперацыйнай стала падобна на клініку. Тарзіённыя пінцэты віселі гронкамі. Іх марляй адцягнулі ўгору разам з мясам, і я пачаў драбназубаю, ярка-бліскучастаю пілою пілаваць круглую косць. «Чаму не памірае?.. Проста дзіва... ох, які жывучы чалавек!»

І косць адпала. У руках у Дзям'яна Лукіча асталося тое, што было дзявочаю нагою. Акраўкі мяса, косці! Усё гэта адкінулі ўбок, і на стале аказалася дзяўчына як бы ўкарочаная ў тры разы, з адтатурчанай убок куксаю. «Яшчэ, яшчэ трошкі... не памірай,— акрылена думаў я,— пацярпі да палаты, дай мне выскачыць шчасліва з гэтага жахлівага выпадку майго жыцця».

Потым вязалі лігатурамі, потым, пстрыкаючы коленам, я пачаў рэдкім швом зашываць скуру... але спыніўся, шчасліва скеміўшы... пакінуў месца для сцёку... уставіў марлевы тампон... Пот засціламаў мне вочы, і мне здавалася, што я ў лазні...

Аддыхаўся. Цяжка паглядзеў на куксу, на васковы твар. Папытаўся:

— Жывая?

— Жывая,— як маўклівае рэха, адгукнуліся адразу і фельчар і Ганна Мікалаеўна.

— Яшчэ хвілінку пражыве,— аднымі губамі, без гуку ў вуха сказаў мне фельчар. Потым запнуўся і далікатна параіў: — Другой нагі можна і не чапаць, доктар. Мар-

ляю, ведаеце, заматаем... а то не дацягне да палаты... А? Усё ж лепш, калі не ў аперацыйнай сканае.

— Гіпс давайце,— сіпла адгукнуўся я, падштурхнуты невядомаю сілаю.

Уся падлога была заляпана белымі плямамі, усе мы абліваліся потам. Напаўмёртвае цела ляжала нерухома. Правая нага была забінтавана гіпсам, іззяла на галёнцы пакінутае мною «акно» на месцы пералому.

— Жыве...— здзіўлена хрыпнуў фельчар.

Потым яе пачалі падымаць, і пад прасцінаю быў відзён страшэнны правал — трэцюю частку яе цела мы пакінулі ў аперацыйнай.

Потым калыхаліся цені ў калідоры, шмыгалі сядзелкі, і я бачыў, як па сцяне пракралася растрапаная мужчынская постаць і суха застагнала. Але яго вывелі. І сціхла.

У аперацыйнай я мыў акрываўленыя па локці рукі.

— Вам, доктар, мабыць, прыходзілася рабіць аперацыі? — раптам папыталася Ганна Мікалаеўна.— Вельмі, вельмі добра... Не горш, як у Леапольда...

У яе вуснах слова «Леапольд» заўсёды гучала, як «Дуайен».

Я спадылба зірнуў на твары. І ва ўсіх — і ў Дзям'яна Лукіча, і ў Пелагеі Іванаўны — заўважыў у вачах здзіўленне і паважанне.

— Кхм... я... я толькі два разы рабіў, калі сказаць праўду.

Навошта я зманіў? Цяпер я гэтага не разумею.

У бальніцы стала ціха. Зусім.

— Калі памрэ, абавязкова прышліце па мяне,— напаўголаса загадаў я фельчару, і ён чамусьці замест «добра» адказаў з пашанаю:

— Слухаю-с...

Праз некалькі хвілін я быў каля зялёнае лямпы ў кабінеце доктарскай кватэры. Дом маўчаў.

Бледны твар адлюстроўваўся ў чарнюсенькай шыбе.

«Не, я не падобны на Дзмітрыя Самазванца, і я, калі хочаце, пастарэў неяк... Маршчына над пераноссем... Зараз пастукаюць... скажуць: «Памерла...»

«Ну але, пайду і пагляджу апошні раз... зараз пастукаюць»...

У дзверы пастукалі. Гэта было праз два з паловаю месяцы. У акне зіхацеў адзін з першых зімовых дзён.

Увайшоў ён, толькі тады я яго разгледзеў. Папраўдзе,

рысы твару правільныя. Гадоў сорак пяць. Вочы гарапь, пырскаюць іскрамі.

Потым шалясценне... На дзвюх мыліцах ускочыла найдзіўнейшага хараства аднаногае дзяўчо ў шырознай спадніцы з чырвонай аблямоўкаю ў падоле.

Яна паглядзела на мяне, і шчокі яе заліло чырванню.

— У Маскве... у Маскве...— і я пачаў пісаць адрас,— там зробяць пратэз, штучную нагу.

— Руку цалуй,— раптам нечакана сказаў бацька.

Я да таго разгубіўся, што замест губ пацалаваў яе ў нос.

Тады яна, абвісаючы на мыліцах, разгарнула скрутак, і выпаў доўгі снежна-белы ручнік з немудрагеліста вышытымі чырвонымі пеўнямі. Дык вось што яна хавала пад падушку на аглядах. Нездарма ж, я памятаю, ніткі ляжалі на століку.

— Не вазьму,— сярдзіта сказаў я і нават галавою заматаў. Але ў яе стаў такі твар, такія вочы, што я ўзяў...

І доўга ён вісеў у мяне ў спальні ў Мураўёве, потым падарожнічаў са мною. Нарэшце знасіўся, выцерся, падраўся і недзе дзеўся, як сціраюцца і недзе дзяюцца ўспаміны.

*1926*

## Сяргей Сяргееў-Цэнскі

# АРАКУШ

Было мне тады дзевяць гадоў, калі я загарэўся найвялікшаю любоўю да галубоў і пеўчых птушак і пазнаёміўся дзеля гэтага з Аўдзеічам, галубятнікам і птушкаловам.

Вельмі добра я яго помню: куртаценькі дзядок, шчокі ружовыя, як яечкі на вялікдзень, бародка белая, клінočкам уніз, вочы надта пільныя, зеленавата-светлыя (у пекінскіх рыжых качак бываюць такія), даволі рухавы, але на словы скупы, і нават калі жартуе, дык зусім спакойна, без ценю ўсмешкі.

Бывала, гукаюць яго:

— Аўдзеіч!.. А Аўдзеіч!

З хаты на двор два словы:

— Іду, бягу!

Пачакаюць і зноў:

— Аўдзеіч!.. Дзе ж ты там?

— Бягу, лячу!

Яшчэ пачакаюць і ўжо незадаволена:

— Ды дакуль жа чакаць?.. Аўдзеіч!

— Скачу!

І скрозь вельмі шчодра ад падлогі да столі паразвешваныя клеткі прабіраецца нарэшце да акна Аўдзеіч.

— Які клопат?

— Голуба нашага не ты загнаў?

Аўдзеіч жыў «на Пушкарах», гэта значыць у слабадзе Пушкарскай — частка нашага горада найболей першабытная,— і тут многа было надта шалёных галубятнікаў.

— Голуба?

— Ну але, голуба, а то каго ж!

— Якога голуба?

— Звычайна якога... Якія ж бываюць? Турмана чырвонага.

— Учорака?

— Ну але, учорака, а то калі ж?..

Пекінска-качынымі вачыма сваімі ўважліва разглядае Аўдзеіч чалавека пад акном — ці шаўца Храпіна, вялікага п'яніцу, ці слесара Насянкова, доўгага хлапчыну з запэцканым носам і ў вельмі мурзатым фартуху, ці яшчэ каго з тых, хто сумуе па чырвоным турмане, і спакойна кажа:

— Руп.

Гэта ў Аўдзеіча была цвёрдая цана; яе ведалі і без рубля ў кішэні да яго не ішлі.

Цікава было, што пушкары і стральцы, жыхары другой нашай слабады — Стралецкай,— народ увогуле буяны і п'яны, аматары кулачных баёў і ўвогуле ўсялякіх кулачных пабоішчаў, трымаліся нейкіх сваіх няпісаных законаў наконт галубоў.

Вечарамі, з анучамі на жардзінах, яны толькі тым і занятыя былі ўлетку, што выпускалі і ганялі галубоў, ваяўніча свішчучы на сваіх дахах.

Галубіныя чароды над стральцамі і пушкарамі (нашчадкамі сапраўдных пушкароў і стральцоў часоў цара Аляксея) узляталі ледзь вокам дастаць — там, у вышыні, лунаді, купаліся і ныралі, куляліся і камянямі, як каршуны, падалі ўніз; і былі сярод іх свае, усім вядомыя, каралі вышыні палёту, і каралі лунання, і каралі спуску.

Апрача таго, асабліва дзівілі нас і асабліва ўсімі цаніліся вінтавыя, тыя, што набіралі страшную вышыню і адтуль уніз ішлі вінтом — па спіралі,— раўнамерна кулячыся і прымушаючы ахаць і выкрыкваць усіх гэтых мілых людзей з жардзінамі.

Але ў вечары галубіныя не толькі былі замілаванне і захапленне, спаборніцтва і запал,— тут было яшчэ і паляванне, амаль вайна.

Галубіныя войскі ўгары, у небе, і іх камандзіры ўнізе, на дахах; і мэтаю ўсіх вельмі складаных манеўраў іх і шалёнага свісту ў два пальцы і размахаў анучаю было тое, каб з надыходам цемры на твой дах разам з тваёю чарадою сеў адбіты чужак.

Гэта ваенная здабыча лічылася зусім законнаю, адбіраць яе сілаю нельга было; паводле няпісаных законаў галубятнікаў у такіх выпадках пагарджалася нават сварка; прызнавалася толькі адно: калі прынеслі за голуба выкуп, дык мусіш яго аддаць.

У каго мог я, дзевяцігодак, купляць галубоў? Ведама, у тых самых пушкароў і стральцоў; і калі я спрабаваў таксама ваяўніча размахваць жардзінаю на сваім даху і

свістаць у два пальцы, мае галубы спраўна ляцелі на свае колішнія галубятні.

З галубамі ў мяне не выйшла, затое яшчэ мацней прывязаўся я да сініц, шчыглоў і перапёлак. Хто ж іх мог у мяне адбіць?

Мінула шмат гадоў з таго часу... Здаецца, чвэрць стагоддзя не бачыў я бярозак, асінак, елак. Цяпер яны згадваюцца мне ў нейкім невыразным тумане, як на карцінах Клода Манэ.

Тады хадзіў я з Аўдзеічам увосень, іменна ў гэтыя бярозкі, асінкі, елкі з пасткамі і лучкамі лавіць глушак, гаек, лазінавак.

Час, ведама, змыў усе яркія фарбы з тых перажыванняў, ды нешта невыразна-радасна-звонкае асталося ў памяці!.. Не выкажаш, нізашто не выкажаш!..

Сухімі і цёплымі яшчэ асеннімі ранкамі, калі паветра гусцейшае і зямля стражэйшая і лепей відзён чарнобыль на межах, калі бліжэй да ўскрайку падкрадаліся чорнагаловыя манашкі-гайкі і глушкі з шызымі шчочкамі, але таксама ў чорных шлычках, і сініцы-блакітніцы, вельмі даўгахвостыя, белыя з блакітам, пушыстыя, па-святочнаму ўбраныя, як на вяселле ці на баль,— так было нечувана-радасна прачнуцца ў нядзелю на світанні, ледзь толькі стануць свіціцца шчыліны ў аканіцах, сяктак адзецца, прыхапіць тое, што нарыхтавана яшчэ звечара, выслізнуць з хаты так, каб і не разбудзіць нікога, і потым, па соннай яшчэ вуліцы, бегчы да Аўдзеіча, пастукаць яму з двара ў акенца і пачуць выразнае:

— За-раз!

А не болей як праз гадзіну мы з ім у лесе.

Душы ў дзяцей, як і душы ў мастакоў,— зачараваныя душы; але калі я ў лесе асеннім, у жаўцізне, у пахах лісця спелага, у развітальным смутку светлым не мог стрымацца ад крыку, каб выгукнуць рэха, Аўдзеіч глядзеў на мяне вачыма строгага пекінскага качура:

— Ты што гэта, га?.. У клас прыйшоў?

Аўдзеіч ніколі не маргаў павекамі... Яго нічым было нельга ні рассмяшыць, ні раззлаваць, ні здзівіць, ні напалохаць: цвёрда ступаў, шоргаючы нагамі, гаварыў перарывіста, па складах.

Гарэлкі не піў ён.

Таму, што супраць майго захаплення птушкамі і Аўдзеічам нічога не меў мой бацька, я думаю, што і баць-

ка яго ведаў, хоць дома ў нас я ніколі не бачыў Аўдзеіча.

Аўдзеіч быў свой: пушкарскі-то пушкарскі, але ў той самы час лясны, значыць, нічый; я, дзевяцігодак, быў таксама свой: хатні-то хатні, але ў той самы час надта ўлюбёны ў неба, і ў поле, і ў лес,— значыць, таксама нічый. Гэта мяне з ім зблiжала — малога са старым.

Я раўніва стараўся ўсяляк памагаць яму на паляванні, а пакуль мы ішлі ў лес, расказваў яму пра дзіўных старадаўніх звяроў, пра падарожжы па пустынях, пра ўсё, што я вычытваў са сваіх дзіцячых кніг.

Ён слухаў, але наўрад ці мне верыў.

Памятаю, папытаўся ў мяне ён аднойчы:

— А як зваўся той звер, які не паслухаўся Ноя і ў каўчэг да яго не пайшоў?

Нічога не чуў я пра такога звера.

— Вось бачыш... Не ведаеш... З вялікімі рагамі быў звер і доўга мог плаваць... Аднак па часе і той выбіўся з сілы... Чаму такое?.. Птушкі яму на рогі садзіліся... Ён іх атрасе, яны зноў... А птушак тады лятала процьма... Так і змушаны ён быў патануць ганебна праз ганарлівасць сваю.

Пазней траплялася мне шмат паляўнічых з простых людзей, і такое дзіва: іх таксама не надта цікавілі апавяданні з доўгай запісанай гісторыі людзей на зямлі, але закрані патоп — яны дужа ажыўляліся, быццам гэта ўчора было!.. І, апрача Аўдзеіча, трапляліся мне вялікія знаўцы гэтай падзеі, але Аўдзеіч па часе быў першы.

Картуз ён насіў вельмі паношаны і з чырвонымі кантамі.

Я думаў, што ён некалі служыў недзе і яму па форме трэба было — картуз з чырвоным кантам, як у многіх чыноўнікаў... Ды аднаго разу на кірмашы ўбачыў я яго ў птушыным радзе ў навейшым картузе і з сінім кантам, як у брандмайстра... З гэтага зрабіў я вывад, што форменныя картузы Аўдзеічу проста падабаліся, і, можа, дзе-небудзь у куфры на асабліва ўрачысты выпадак, уверчаная ад молі ў газету, хавалася ў яго шапка з зялёным кантам і амаль новая.

Помню, пра гадзюк я ў яго неяк папытаўся — ці не можа трапіцца нам у лесе. Але ён адказаў пагардліва:

— Калі трапіцца, наша будзе... Яе толькі за карак хапай і ў рот разяўлены ёй харкні, будзе зусім шаўковая!.. Вельмі чалавечае сліны баіцца.

Але калі не па гадзюках, дык па пеўчых птушках быў Аўдзеіч немалы знаток.

Гэта ён навучыў мяне глядзець злоўленаму шчыглу ў хвост і лічыць пёры: калі чатырнаццаціпёры хвост — шчыгол-бярэзнік, дарагі шчыгол, не меней як паўрубля, а калі дванаццаціпёры — шчыгол лапушнікавы, цана яму ў кірмашовы дзень пятачок, і забаўляцца з такім не варта.

І на чыжоў была ў яго свая прымета, але я ўжо забыўся яе, і на сініц таксама. Сініц ён цаніў толькі вялікагаловых, у якіх чорная палоса ішла ад шыйкі цераз усе жоўтыя грудкі, была суцэльная, яркая і шырокая... А калі з вясновых праталін прыносіў дзесяткі жаваранкаў, чубатых і бясчубых, ён вельмі сур'ёзна разглядаў іх кожнага паасобку, кудлаціў пёры, распускаў крылы, прымяраў на пазногаць чубкі і шпоры і рассаджваў у сямейныя клеткі — стэпавікаў да стэпавікаў, лесавікоў да лесавікоў, палявых да палявых.

Жаваранкі ў яго неяк вельмі хутка ручнелі і пераймалі галасы другіх птушак.

Часта, калі я бываў у яго і наўкруга стракаталі ў трыццаці — сарака клетках птушкі, ён спыняў раптам маю ўвагу:

— Чуеш, як рэжа?

— Берасцянка?

— Ад трэцяга чую, што берасцянка... А гэта ж палявы жаваранак.

Колькі незвычайных пеюноў было ў яго... Проста, нават гэтак: звычайных у яго і не было — не трымаў з самага пачатку. Дванаццаціпёрых шчыглоў выпускаў, не даносячы да хаты (але ніколі там, дзе яны пападаліся: раскажа другім, пераб'е паляванне — у гэта ён моцна верыў).

Ці то птушыная асцярожнасць, ці то птушыныя звычкі ўвогуле прывучылі яго верыць у птушыны розум, ды нават дурных чачотак, якія чародамі траплялі яму ў поніцы зімою, ён ані не вінаваціў, што яны неразумныя.

— Паскачы ж на холадзе, паспрабуй!.. Ведама, што іх у пятлю гоніць — гора гоніць.

І калі прыходзілі да Аўдзеіча купляць птушак, выяўлялася, што добрыя якасці іх былі незлічоныя.

У нашым горадзе ў тыя гады, якія я ўспамінаю, было нешта накшталт эпідэміі любові да птушынага шчэбету, і Аўдзеічу не даводзілася нават стаяць на кірмашы: яго

ведалі і да яго ішлі самі дахаты. І толькі на благавешчанне ён выносіў на кірмаш вялікія клеткі, поўныя пятачковых пярнатых.

Пакупнікі птушак тады — мяккацелыя і мяккасардэчныя жанчыны ў цёплых хустах — выпускалі іх на волю, ледзь пачуўшы, як трапяталіся іх маленькія сэрцайкі, любоўна глядзелі, скрозь слёзы, як яны ляцелі, і маліліся шчыра ім услед.

Хадзіў Аўдзеіч без лішняга: усё на ім было ў пару і да месца падагнана, як на добрым салдаце.

За спінаю мяшок з пасткаю і клеткаю, за поясам збоку дзве торбачкі: адна сабе з чорным хлебам, другая — птушкам на падкорм, і ў ёй кішэнькі: на канаплянае семя, на мурашыныя яйцы, нават на жывых жукоў; і на рэмені цераз плячо — лучок і понцы так, што звісалі яны з левага боку. Кій браў ён толькі на ўсякі выпадак.

Лес да нашага горада падступаўся блізка якраз з боку слабод — Стралецкай і Пушкарскай. Тут яшчэ ўцалелі зарослыя травою даўнейшыя крапасныя валы і равы, а за імі, непадалёк,— лес, але малады, гарадскі лес, не казённы; а казённы, будаўнічы, з глушцамі, з мядзведзямі, з воўчымі зграямі, пачынаўся вёрстаў за пяць.

Трэба было бачыць і чуць, як Аўдзеіч падзываў птушак. Куды сур'ёзнейшы, чым заўсёды, станавіўся тады гэты дзядок у форменнай фуражцы, і аказвалася там, у лесе, што ён мог тонкім піньканнем уводзіць у зман амялушак, малінавак, канаплянак, якія звінелі недзе далёка. Ён і цінькаў, як сініца, і чакрыжыў, як салавей, і без перапёлчынай дудкі мог неяк языком біць у паднябенне, як перапёлчын самец...

Папытаўся я ў яго адзін раз:

— А якая птушка лепей за ўсіх спявае?

І першы раз Аўдзеіч хітравата прыжмурыўся:

— Ёсць такая.

Я задаў пытанне не пустое: тады не было яшчэ грамафонаў, і ў корчмы хадзілі на выбар паслухаць у абед то жаваранка, то салаўя, то кенара, то вучонага дразда, як у цэркву хадзілі на дысканта-велічальніка, ці на тэнара-саліста, ці на п'яніцу-актаву, які месяц спяваў, а два месяцы лячыўся ад белае гарачкі.

— Якая ж?.. Ну якая?

Мне проста хацелася ведаць, каго са сваіх пеюноў з вялікаю асалодаю слухае сам Аўдзеіч.

— Думаеш, салавей?

— Няў-жо дрозд? — здзівіўся я.

— Хто ж табе гаворыць пра дразда?.. Пра дразда няма гамонкі...

— Валасянка?

— Валасянка, яна проці кенара не можа...

— Дык якая?

— Ёсць такая...

Агледзеў мяне ўсяго Аўдзеіч, падумаў, мабыць, ці варты я таго, каб мне адказаць, і сказаў усё-такі ўрачыста і выразна:

— Ара́куш.

— Які а-ра́-куш?..

— Такі самы і ёсць... У салаўя — дый то не з першае галінкі, а ў самага славутага — усяго іх дванаццаць кален, а ў аракуша — усе дваццаць чатыры. Зразумеў?.. Гэта наколькі болей?

Калі хацеў тады здзівіць мяне Аўдзеіч, дык ён дасягнуў гэтага: я быў ашаломлены.

Я ніколі не чуў пра такую птушку, але я верыў Аўдзеічу: калі ён гаварыў, што ёсць, значыць, ёсць... ара́куш.

— Дзе ён жыве?.. У Амерыцы?.. У Індыі?.. Аракуш.

— Навошта ў Індыі? У Індыі толькі індычкі... У нас трапляюцца...

— У нас?.. А чаму ж у цябе няма?..

— Паспрабуй злаві, адзін такі...

— Чаму ж не зловіць?..

Аўдзеіч паглядзеў шматзначна і нават панізіў голас:

— Хаваецца... Надзіва патаемная птушка... Толькі ў нетрах такіх жыве — не залезці... Вельмі чалавека не любіць...

— А пазнаць яго як?.. Які ён, ара-куш?.. Га?

Ажывіўся Аўдзеіч:

— Ха-ра-ство!.. Ку-ды проці яго салавей?.. Шарак... Усе грудзі, як у добрага генерала, у стужках: стужка чырвоная, стужка сіняя, стужка муар... Жаўтабровая птушка... А хвост... хвост, лічы што, увесь бурдовы...

Пакруціў галавою і паўтарыў:

— Ха-ра-ство!

Першы раз бачыў я Аўдзеіча ўзрушанага.

— Адметны-размаляваны... Куды ж салаўю... А велічынёю не большы... І хвастом торгае, як салавей... І чакрыжыць гэтаксама, як ён.

Дома не было мне ў каго папытацца.

Маці ведала пра лясных птушак гэтулькі, колькі ведаюць усе мацяркі, а бацька ў мяне быў чалавек суровы і залішне гарадскі.

Я і не пытаўся. Я толькі запомніў моцна: ара-куш... Дваццаць чатыры калены... Грудзі размаляваныя...

І дзіва, дазнаўшыся пра такую незвычайную птушку, я разлюбіў усіх сваіх лазінавак, рэмезаў, конікаў, глушак і гаек.

Іх траскатня балбатлівая нават раздражняць мяне пачала.

Я пачаў глядзець на іх з пагардаю дзесяцігадовага чалавека, пранізанага мараю.

Кожнае раніцы, праўда, я насыпаў ім у кармушкі: каму канаплянага семя, каму мурашыных яец, наліваў вады ў іх бляшаначкі, але прапала зачараванне, прапала сур'ёзнасць.

— Свістуны,— сказаў я, ківаючы галавою з вялікім шкадаваннем, калі яны ў сваіх клетках скакалі, чырыкалі, барабанілі дзюбамі па прутках.

Аракуш не выходзіў у мяне з галавы.

Я нават помню, слёзы набеглі ў мяне на вочы, калі я скардзіўся Аўдзеічу:

— Чаму ж ты не сказаў мне гэтага раней?

У мяне не было равеснікаў ці мне было з імі сумна,— праўдзівей другое.

Мы жылі зусім на ўскраіне горада, дык я і прывык блукаць адзін па асенніх агародах, па нейкіх ямах, што асталіся ад колішняга цагельнага завода (у гэтых ямах раслі дзівосныя незабудкі і анемоны ліловыя, якія Аўдзеіч называў «сон-травою»), па балотцах у нізіне, у якіх, апрача жаб, конскіх п'явак і жукоў-плывунцоў, вадзілася надта многа вельмі цікавых стварэнняў.

І аднойчы ў ліпені я натрапіў на пышны бур'ян, які здаўся мне тады цэлым лесам.

За год перад тым была тут бахча, але цяпер на перарытым чарназёме (і лета было тады дажджлівае) падняўся такі густы бадзяк, матава-зялёны, калматы, з ружовымі шапкамі кветак скрозь, непралазна-калючы, ростам болей чым на сажань — той самы лес, поўны тайнаў і магчымасцяў, якія толькі сняцца.

І вось у гэтым бур'яне, на самым яго ўскрайку, я ўбачыў аракуша.

Сумненняў тут ніякіх і быць не магло: мяне тады быццам у сэрца кальнула — ён.

Я ціха і паволі абходзіў калючую сцяну бадзяку і раптам пачуў устрывожанае, салаўінае: «Чок-крр... чок-кр...» Ускінуў вочы — ярка-сіняе, ярка-чырвонае, сляпучае, страшнае, жаданае, і ўсяго адзін момант, і потым мільганула карычнева-шэрая спінка і ў гушчэчы знікла.

Я нават прысеў і заплюшчыў вочы...

Было ці не было? Можа, здалося?

Аднак праз мінуту недзе ў глыбіні нізам пайшло «чок-крр... чок-крр...».

Як я ні глядзеў, як я, абдзіраючы рукі, ні зазіраў наколькі мог глыбока ў яго царства — ён не паказаўся мне болей за ўвесь гэты дзень!..

А на другі дзень, ледзь дачакаўшыся світання, я выйшаў з дому, узброіўшыся, як Аўдзеіч: з пасткаю ў торбе, з мурашынымі яйцамі на прынаду, з лучком і з рыдлёўкаю, каб расчысціць у бур'яне такавішча.

Я зрабіў усё там, у аракушавым царстве, вельмі абдумана.

Вузкі і заблытаны прасек уваход у сярэдзіну, каб толькі пралезці, каб ніхто мне не перашкодзіў, калі будзе праходзіць міма; невялікае такавішча размясціў я так, каб лучок мог зачыніцца, на які-небудзь вяршок не дастаючы да звіслых ружовых шышак бадзяку; з ацярэбленых галінак і з сцяблін, вельмі тоўстых і моцных (сцізорыкам ледзьве іх зрэзаў), я зрабіў сабе схованку — буданок.

У гэтым буданку, скурчыўшыся, стараючыся не паварнуцца, яго я чакаў.

Такая дрымучая нетра быў гэты бур'ян!.. Колькі было тут незвычайнага!..

Але мяне цікавіў толькі ён, мой аракуш... Некалькі разоў мне ўдавалася на яго зірнуць — толькі зірнуць: ён мільгаў, як маланка... Разоў два ён садзіўся на галінку бадзяку над такавішчам, але, задужа асцярожны, падкінуўшы хвосцікам, ныраў у гушчарню.

Я чакаў самаахвярна некалькі гадзін — толькі вочы ў шчыліну з буданчыка ды правая рука на аборку з лучка.

Было горача; дурманіў пах бадзяку; скрозь гулі пчолы. Конікі (шэранькія птушкі) стукалі вакол наперабой, як малаточкамі, а часам садзіліся на маё такавішча кляваць мурашыныя яйцы. Я іх спуджваў, кратаючы аборку, і ўсё злаваўся на сябе, што насыпаў толькі двое прыгаршчаў яец: калі б болей, конік, можа, прывабіў бы і аракуша... Бойкія, вёрткія, куртатыя арэхаўкі таксама

скакалі на такавішчы, але даводзілася зганяць і іх: паклююць усе яйцы, і на што ж тады пойдзе аракуш?

Тым часам ён, аракуш, здаваўся мне вось тут, зусім блізка: нябачны мне, ён сядзіць і сочыць за маім такавішчам і лучком жаўтабровымі, вялікімі... як і ў салаўя, ганарлівымі вачыма. Хай думае, што ўся гэтая навіна ў яго царстве не прычыніць яму бяды, на карысць яму: паклюе ён сваіх прысмакаў і паляціць, як конік, паклюе і паляціць, як арэхаўка...

У мяне ўжо здранцвела ўсё цела і ў вачах пайшлі кругі ад напружання, калі ён, мой аракуш, нарэшце сеў на такавішча... Асцярожны, ён успырхнуў быў адразу, але праз хвіліну сеў зноў і пачаў прагна кляваць.

І я накрыў яго.

Я і цяпер добра помню тую маю радасць, у якую нават не верылася ў першы момант, ад якой заняло дух, але перадаць яе не магу — не месціцца ў словы.

Помню, як я бег да лучка, пад якім прысеў ашаломлены прыгажун. Ведама, я глядзеў толькі на лучок, а не сабе пад ногі — я за нешта зачапіўся, упаў з размаху, моцна выцяў калена, але адразу ўскочыў і, дабегшы, накрыў яго, як толькі ён успырхнуў пад сеткаю, сваёю шапкаю, а з-пад шапкі прасунуў да яго руку.

У яго трапяталася сэрца, як і ў мяне...

Прайшло хвілін дзве, пакуль я апамятаўся, перасільваючы радасць...

Яго трэба было пасадзіць у пастку, але пастка стаяла ў маім буданку, і я баяўся: не данясу, выпушчу з дрыжачых рук.

Нарэшце сказаў уголас:

— Прынясу пастку сюды... Выму — і ў пастку.

Помню, па пастку ішоў я бокам, падступаўся да яе, увесь час касавурачыся на лучок і сваю шапку, а з пасткаю зноў кінуўся подскакам да лучка.

Але, калі я вымаў аракуша з-пад сеткі і садзіў у пастку, я зрабіў гэта з выключнаю вытрымкаю, не горай за Аўдзеіча, і, закруціўшы вяртушку ў пастцы, я не забыўся прывязаць яе суравою ніткаю, каб не адчыніў якнебудзь дзверцаў аракуш, калі пачне біцца.

А ён пачаў біцца адразу ўсімі грудзямі.

Да таго ён быў тады ганарлівы, гэты маленькі кароль спевакоў...

Толькі што злоўленыя сініцы б'юцца адчайна: яны кідаюцца, крычаць, шыпяць, спрабуюць выламаць пруткі,

дзяўбуць драўляную клетку з усяе сілы і разбіваюць іншы раз галоўку да крыві, але ўсё гэта неяк па-жаноцку, хутчэй тэатральна, чым глыбока, абураючыся, і прывыкаюць хутка. Моцна б'юцца жаваранкі: гэтыя растапырваюць крылы, усё стараючыся падняцца ўгору, і стукаюцца аб дашак у клетцы. На іх у птушкаловаў і адмысловыя клеткі з палатнянаю стрэшкаю. Салаўі б'юцца, як маятнікі, раўнамерна: скок — стук, скок — стук, улева — раз-два, управа — раз-два... Салаўям «заначняюць» клетку з усіх бакоў чым-небудзь чорным...

Па-рознаму б'юцца розныя птушкі...

Але я ніколі не бачыў, каб хоць адна білася гэтак страшна, гэтак бязлітасна да сябе, як біўся аракуш.

Ён біўся ўвесь астатак дня і ўсю ноч, перакульваючы бляшанку з вадою, раскідаючы мурашыныя яйцы ў кармушцы.

Бацька хацеў выпусціць яго на волю, і раніцаю панёс я пастку са сваёю здабычаю да Аўдзеіча.

Я застаў дзеда дома; ён чысціў клеткі.

Пастка з аракушам была ў мяне ўверчана ў старую маю рубашку, і я паставіў яе непрыкметна каля самых дзвярэй.

— Аўдзеіч,— сказаў я жвава, але без захаплення,— хочаш злавіць аракуша?

— Усякі хоча,— адазваўся Аўдзеіч.

— Не, ты скажы папраўдзе — хочаш?

— Усякі хоча,— паўтарыў Аўдзеіч, падсыпаючы чыжам семя.

— Ну добра... Хай сабе ўсякі яшчэ толькі хоча, а я ўжо злавіў,— не мог вытрымаць я доўгіх тлумачэнняў.

Аўдзеіч паглядзеў на мяне вельмі ўважліва.

Ці ж мне не хацелася яго здзівіць? Але ён не здзівіўся і цяпер; ён толькі сказаў:

— Мелеш лухту!

Тады я схапіў сваю пастку і сцягнуў з яе рубашку:

— Во ён!.. Глядзі!

Аракуш забіўся асатанела.

Я заўважыў, што ў яго ўжо збіты пёры на цемі і галава ў крыві, але мімаходзь гэта заўважыў. Я ўвесь упіўся ў белыя Аўдзеічавы вочы: абрадуецца? здзівіцца?

І сказаў Аўдзеіч пагардліва:

— Знайшоў а-ра-куша... Які ж гэта аракуш?

— Не аракуш?.. А хто ж?.. Хто ж?..— увайшоў я ў азарт.

— Зусім нават і назвы няма!

— А хто ж?.. Гавары, хто ж?

— Называецца — стракаты ваўчок.

— Ваў-чок?.. Што ты?.. Ваўчок... Не ведаю я ваўчкоў!..

Я папраўдзе ад таго самага Аўдзеіча добра ведаў гэтых асенніх птушачак з чырвонымі грудкамі і з хвосцікамі, якія вечна дрыжаць.

— І відаць, што не ведаеш!.. Думаеш, просты ваўчок?.. Не просты, а табе кажуць — стракаты ваўчок.

— Як гэта ваўчок?.. Стужка сіняя, стужка чырвоная — глядзі! — крычаў я, ледзь не плачучы.— Ты ж сам гаварыў!

— Хіба яны ў яго гэтак? У яго, у аракуша, яны зусім і не туды глядзяць... Узяў сабе ў галаву — аракуш... А гэта — ваўчок стракаты... Птушка нікчэмная... Ні спяваць не будзе, ні жыць не будзе... Прападзе... Хочаш, пакінь тут, каб дахаты не цягнуць, я выпушчу...

Такім гэта здалося мне тады горам... Не аракуш, зусім не аракуш, кароль пеюноў, а ўсяго толькі нейкі ваўчок стракаты...

Я нават не аставаўся пасля гэтага доўга ў Аўдзеіча, толькі расказаў яму, дзе іменна злавіў, у якім бур'яне, добра ўвярцеў пастку зноў у рубашку і панёс дахаты.

Абедаць мне не хацелася. Я ўпарта сядзеў і слухаў, як б'ецца мая птушачка: можа, слабей?

У мяне ўсё-такі была маленькая надзея, што яна прывыкне.

Але ў гэтым Аўдзеіч не памыліўся: на другую раніцу аракуш мой ляжаў у кутку мёртвы.

Я выняў яго ціха, палюбаваўся яшчэ раз яго генеральскімі грудкамі, пакудлаціў на іх асцярожна тонкія, як пух кветкі мімозы, перцы і закапаў пад ліпаю ў садзе.

Два дні пасля не хадзіў я да Аўдзеіча і ўвогуле нікуды з дому. Але захацелася ўсё-такі на трэці дзень праведаць таямнічы лес бадзяку: можа, хоць пачую здалёку, як спявае, можа, хоць убачу другога, жывога і ганарлівага прыгажуна з размаляванымі грудкамі...

Я пайшоў цяпер без лучка, без пасткі — і што ж?.. На сваім такавішчы, асцярожна да яго пралезшы, я ўбачыў знаёмы мне Аўдзеічаў лучок, а сам ён сядзеў, стуліўшыся, у маім буданку і махаў на мяне рукою: ён лавіў стракатых ваўчкоў...

Няма ніякіх стракатых ваўчкоў, і няма ніякіх дваццаці чатырох кален у сціплае мілае птушкі «варакушкі».

Але, можа, і не ашукваў мяне стары Аўдзеіч?

Шмат гадоў прайшло з таго часу, і я думаю цяпер, што ён шчыра ў гэта верыў.

Я пайшоў тады, разгневаны маім дзедам, я не зразумеў тады, навошта яму трэба было ашукваць мяне з тым самым спакоем, з якім гаварыў ён мне да гэтага сваю праўду.

І толькі цяпер, калі цэлая вечнасць прайшла, бачу, што аберагаў ён нават ад мяне, дзевяцігодка, сваю мару.

Павінна была нарадзіцца мара нават у Аўдзеіча. Невыносна без мары... Цёмна, маркотна, вельмі душна...

Салавей, які «словамі спявае», дванаццаць слоў сваіх выгаворвае выразна і галасіста, у сваім нейкім парадку і з найвялікшаю да іх любоўю, на тысячы гадоў зачараваў чалавека... Агульнапрызнаны друг закаханых і паэтаў... Хто з паэтаў не апяваў салаўя? Не было такога паэта...

Але Аўдзеіч, сівенькі Аўдзеіч, які любіў фуражкі з кантамі, запрацівіўся... Ён паўстаў... Ён сказаў самому сабе: «Я таксама паэт, і я таксама — закаханы... І я не хачу, каб салавей быў мяжою птушынае пявучасці!.. Веру і цвёрда кажу, што ў глухіх, непрыступных чалавеку мясцінах, убраны сінімі і чырвонымі стужкамі на грудзях, хаваецца сапраўднае птушынае хараство і слава, роўна ў два разы лепшы спявак, чым самы лепшы з салаўёў, і імя яму — ара́куш... Толькі тым і жыву я, што пра яго ведаю... Толькі гэтая мара кліча мяне і цягне, каб у маім пакойчыку цесным, мною злоўлены і прыручаны, заспяваў не нейкі салавей, і не «стракаты ваўчок», і не «варакушка», а сапраўдны аракуш... Вось чуеце, спявае?.. Вось чуеце, тры-на-ццатае калена... І далей і далей... Пабіты ўсе салаўіныя рэкорды... Пятнаццаць кален... Дваццаць кален... Лічыце лепей... Дваццаць два... дваццаць тры... Два-ццаць чатыры...»

Вынесены як мага далей на двор усе астатнія птушыныя клеткі з усімі гэтымі нікчэмнымі драздамі, канарэйкамі, салаўямі... Грымі, аракуш!.. Слухайце, збіўшыся ў гурт пад акном, пушкары і стральцы... Затаі дыханне, запрудзі вуліцу, прыпыні язду, каб нішто не перашкаджала слухаць...

Вы чуеце цяпер?.. Вось хто такі аракуш... А хто знайшоў яго, сапраўднага? Хто злавіў?..— Аўдзеіч... пяцьдзе-

сят гадоў шукаў, а ўсё-такі знайшоў... Вось вам і Аўдзеіч...

Гэй, дзеду... А-у-у-у!..

Ты жывы, ведама, і цяпер яшчэ, ты ўвогуле неўміручы... Ты і цяпер, ведама, усё ловіш свайго «аракуша», як я свайго... Сумна было б нам з табою жыць без «аракуша»... Якое — сумна... От сказаў я... Невыносна было б нам — хоць адразу ў магілу...

Аўдзеі-і-ч!.. А-у-у-у!

— Руку, таварыш!

*1926*

## Веніямін Каверын

# СЯБАР МІКАДА

Ці не ўсё роўна, дзе адбылося тое, што адбылося з Като Садаа? Пакой, які ён займаў, нагадваў, нягледзячы на вытанчанае ўбранне, манастырскую келлю: вокны былі даволі вялікія, каб, паміраючы, зірнуць на неба. Праз матавыя фіранкі распасціралася бязмежжа. За вокнамі, у бязмежжы, гайдаўся жоўты кісель, які пракідваўся туманам; за туманам ляжаў горад. Горад называўся Лонданам. Зрэшты, вельмі магчыма, што горад называўся Чыкага.

Като Садаа быў шпіёнам. Гэта не так. Като Садаа быў віконтам Като Садаа. Маленькая сухарукая малпачка з адвіслымі вушамі, з белымі кутасікамі вусоў над хітрым ротам... У сямідзесятых гадах, калі самураі беспасняхова змагаліся за ўладу, ён быў паранены. У сямідзесятых гадах японцы біліся стрэламі. Страла трапіла ў руку, разадрала сухажылле. Рука адсохла. Цяпер гэта быў зморшчаны ўчэпісты кручок, якім ён на працягу дваццаці гадоў спрабаваў падчапіць Еўропу.

Ён больш не бунтаваў. Ён шанаваў сваю левую руку і добра ведаў, што японская армія ад лука і стрэл дакацілася да аўтаматычных куляметаў.

Ён быў шпіёнам. Ды не! Ён быў паўнапраўным прадстаўніком сваёй краіны ў горадзе, які ляжаў за акном.

Ружовая тэлеграма ляжала на далоні ў Като Садаа.

У тэлеграме былі надрукаваны толькі два словы. Першае здавалася Като бальнічным халатам, другое — барабанным боем, які рвецца ў вушы павешанаму: мех, накінуты на галаву, пазванкі разарваны намыленай пятлёй.

Ён пазваніў. Парцьера ў крапінкі скаланулася і папаўзла ўбок. Юнак павітаўся ў парозе, хуценька зайшоў, смокінг вёртка зварухнуўся на плячах. Ён спыніўся за два крокі ад віконта.

Като зірнуў на яго, рассунуў бровы.

— Імператар памёр,— абыякава сказаў ён,— вось прачытайце гэта, Матамура.

Сакратар моўчкі зірнуў на тэлеграму. «Ага, імператар памёр,— падумалася яму,— імператар памёр, ну што ж...»

Імператар паміраў шэсць гадоў. Шэсць гадоў назад ён звар'яцеў, яго кармілі з лыжачкі, ён пакутаваў праз дзіцячую хваробу. Ён жыў гэтак доўга, што можна было падумаць: ворагі Японіі прадалі ягоную смерць англічанам, у дадатак да медных руднікоў ці сахалінскай нафты.

— Імператар памёр,— ціха паўтарыў Като,— гэта значыць, што вы размаўляеце з мерцвяком. Справа такая, вы размаўляеце з мерцвяком, Матамура. Калісьці я быў у яго за лепшага сябра. Мой абавязак — пайсці за ім.

Сакратар стаміўся за гэтую ноч. Туман за вокнамі, парцьеры ў крапінкі... Ружовыя жаночыя ногі мроіліся яму. Ен не спаў трое сутак.

«Пайсці за ім — гэта значыць зарэзацца, цікава»,— падумаў ён. І ў думках пацiснуў плячмі.

— Палічу за высокі гонар... Даруйце мне маю смеласць, нявыхаванасць,— з машынальнай ветлівасцю адказаў ён,— але калі я змагу зрабіць вам паслугу, дык гэта будзе мне незаслужаны гонар. Я рашуча не маю права на такі гонар... («Гонар, гонар,— пра што я кажу?» — падумалася яму невыразна.)

— Я не сумняваюся ў вашай прыхільнасці,— прамармытаў Като,— я ведаю, што вы заўжды гатовы зарэзаць мяне, калі надарыцца на тое зручны выпадак.

Сакратар ссунуў бровы, плечы пад смокінгам зварухнуліся. Віконт жартаваў. Але гэтак жартаваць, калі імператар памёр,— непрыстойна.

— Справа такая, мне хочацца жыць, Матамура,— у задуменні прамовіў віконт,— туга, разумееце, што ж паміраць дарэмна?

— Ва ўсякім разе, я ў вашым распараджэнні,— цьмяным голасам зазначыў сакратар і прыгадаў выпадак з Такутомі. Ягоныя сябры, лідэры Кенсейкай, з'явіліся да яго з візітам. Калі яны пайшлі, маленькая залатая труна, у якой ляжаў кінжал, была выяўлена ў кабінеце. Гэта быў пачцівы напамінак. А Такутомі...

«Ён, здаецца, і сапраўды зарэзаўся,—марудліва думаў сакратар,— ці не, ён адаслаў труну на пошту, да запатрабавання, невядомаму... Ён не зарэзаўся, яго забілі».

Като гаварыў не меней як паўгадзіны, а ён не чуў ні

слова. Калі ж ён нарэшце прыслухаўся, яго ўразіў віконтаў твар. Твар быў пляскаты, як цень.

— Я не хачу, каб мая краіна харчавалася падлаю,— хрыплым голасам прадаўжаў Като,— я — сын дайміо, я родам з Кагашымы, а Еўропа атруціла мяне. Мы атручаны, Матамура. Куды б я ні прыязджаў, усюды тое самае. Яны знішчылі прастору, зжэрлі час, а цяпер і тое і другое зрабілася атрутаю. Я дваццаць гадоў не бачыў Японіі, я развучыўся паміраць у Еўропе.

Ён зірнуў на сакратара і змоўк.

— Дзе вы начавалі сёння, Матамура?

Сакратар сцягнуў вузкія вочы да скроняў, сцяў зубы. Віконт хворы, патрэбен доктар, але, здаецца, віконт задае абразлівыя пытанні?

— Палічу за высокі гонар,— прамармытаў ён з халоднай пачцівасцю,— прасіць у вас згоды не адказваць на гэтае пытанне. Апрача таго, дазволю сабе выказаць здагадку, што вы крышку занядужалі. У вас стомлены выгляд, хваравіты колер твару.

Маленькая малпачка з крывой, пачарнелай рукой прыгнулася ў сваім крэсле, потым нечакана выпрасталася, з грукатам паставіла на стол вострыя локці.

— Я быў гатовы аддаць сваё жыццё за імперыю...— злосна сказаў Като.

«Быў гатовы...» — панура адзначыў сакратар.

— Але імперыя ўсё роўна загінула. Сонца ўзыходзіць на Захадзе, а не на Усходзе. Мне пачынае здавацца, што лепей было б загінуць пяцьдзесят гадоў назад пад сцягамі старога Сайіга. Справа ў тым, што цяпер я дужа стары, каб не даражыць жыццём. Вы не думаеце, Матамура...

Позірк яго лёг на тэлеграму, дахі колеру мёртвай істоты, ружовыя персікавыя дрэвы, ліловыя горы Шымбара прыгадаліся яму.

«Ён мітусіцца, напраўду, ён баіцца смерці, напалоханы, гэта, здаецца, ганебна»,— з лёгкаю гідлівасцю падумаў сакратар. Ён быў засмучаны, ён баяўся заплакаць ці зарагатаць. Але зарагатаў не ён, а Като.

— Хэ! Сын дайміо, здаецца, напалоханы? — спытаўся ён з кплівым здзіўленнем.— Хэ! Пустая выпадковасць, ён не прыхапіў з сабою радавога мяча дзеля таго, каб выпусціць кішкі. Хіба ён не думаў, што імператар можа памерці, што не зарэзацца — непрыстойна?

Ці не ўсё роўна, калі адбылося тое, што адбылося з Като Садаа? Вокны былі даволі вялікія, каб, паміраючы,

можна было зірнуць на неба. За вокнамі... за туманам... горад называўся... Менавіта ён, Матамура, не мог бы сказаць, як называўся горад. Ён дужа стаміўся за гэтую ноч, Матамура, і, апрача таго, ён ніяк не мог прыгадаць... Плямы і крапінкі, якія сарваліся з парцьеры, з прыкрай акуратнасцю круціліся наўкола, карты мільгацелі перад ім, і ён чамусьці павінен быў уважліва сачыць за гэтым утомным кругаваротам. Трэба заснуць... Заснуць хоць бы на гадзіну, на паўгадзіны, ды вось нельга... Імператар, здаецца, памёр, віконт, здаецца, звар'яцеў.

— Я не звар'яцеў яшчэ,— змрочна, нібыта ў забыцці, казаў Като,— я магу пералічыць усіх цароў усіх вялікіх дынастый, я ведаю, колькі часу, я бачыў смерць адмірала Ногі, я бачыў, як плакалі ў шэсцьдзесят восьмым годзе самураі...

Ён раптам усміхнуўся, скрывіў губы і непрыстойна падмаргнуў сакратару.

— І тым не менш я не хачу паміраць. Праўда, я быў яго найлепшым сябрам, мой абавязак — зарэзацца, вядома, але ў мяне шмат даўгоў, адным болей, адным меней, ці не ўсё роўна, Матамура?

— Мне вялікі гонар з усёй пачцівасцю нагадаць вам, што бываюць розныя даўгі,— з нечаканай выразнасцю вымавіў сакратар.

«Я, здаецца, павінен забіць яго, ён абразіў імператара,— падумаў ён цьмяна і зноў паспрабаваў успомніць:— Штось здарылася, ага, штосьці здарылася гэтай ноччу, некалькі гадзін назад».

— А калі я зарэжуся, што з вамі будзе, Матамура? — Като з іроніяй памахаў крывой ручкай.— Справа ў тым, што вы не стрымаеце сябе, вы жывяце страшным жыццём: жанчыны, гульні, п'янкі. Каб я папрасіў вас прысутнічаць пры такой аперацыі, вы, бадай, страцілі б прытомнасць, Матамура?

Сакратар здрыгануўся, плечы пад смокінгам, нібы на шарнірах, пачалі хадзіць сюды-туды.

— Мне вялікі гонар з усёй пачцівасцю растлумачыць вам,— сказаў ён выразна,— што, каб імператар быў маім сябрам і братам і каб мой сябар і брат сканаў, я не разважаў бы гэтак доўга над тым, пайсці мне за ім ці не.

Като ўстаў і шумна выдыхнуў паветра. Ягоныя вочы, падцягнутыя наўскос, прыжмурыліся, ніжняя сківіца выпаўзла наперад, над ёю, нібыта ў паветры, звіслі белыя кутасікі вусоў.

— Я паклікаў вас не дзеля таго, каб вы выказвалі мне свае перакананні. Я паклікаў вас дзеля таго, каб паведаміць, што мікада памёр... Прымайце справы. Я складаю з сябе ўсе свае званні, ордэны, чыны і адзнакі. Я дару іх вам. Вы можаце прадаць іх у Брытанскі музей, залажыць у ламбард, прайграць у рулетку, разлічыцца імі з жанчынамі, з якімі вы бавіце ночы. Я іду. Вы можаце адказаць у Токіо, што імператар, на думку былога віконта Като Садаа, памёр шэсць гадоў назад, у той дзень, калі ён звар'яцеў, што былы віконт не паспеў пайсці за ім следам, а цяпер лічыць гэта за нармальную з'яву.

«Вядома, я павінен забіць яго,— млява падумаў сакратар,— ён абразіў мяне, ён абразіў імператара, ён, здаецца, абражае Японію...» Ён засунуў руку ў заднюю кішэню штаноў. Цьмяныя ўспаміны яшчэ мучылі яго.

«Што гэта можа быць? — настойліва думаў ён.— Гэта штосьці там, у Японіі... А можа, гэта здарылася тут... І не імператар, а нешта зусім іншае...»

Като выйшаў з суседняга пакоя, апранены ў клятчастае дарожнае паліто, з маленькім чамаданам у руцэ. Вялізныя круглыя акуляры змянілі яго, ён ішоў цвёрдым крокам.

Сакратар, злёгку хістаючыся, падаўся ўслед за ім.

Ён выцягнуў з кішэні дамскі рэвальвер, нікеліраваны, нечакана лёгкі.

Спіна ў Като, вострыя плечы, высахлая патыліца над клятчастым каўняром павольна гайдаліся ў дзвярах; парцьера ў крапінкі ціха папаўзла ўбок.

«Праўда, я павінен яго забіць,— супакойліва падумаў Матамура,— гэтак падумалася мне з самага пачатку: забіць... і каб я яшчэ прыгадаў...»

Палец намацаў курок. Ён прыўзняў руку, сагнуў у локці і спыніўся. Клятчастая спіна аддалялася. Матамура зірнуў на рэвальвер і ў задуменні засунуў яго назад у заднюю кішэню штаноў.

— Я прыгадаў нарэшце,— прамармытаў ён з цьмянай весялосцю,— пачакайце, віконт. Я пайду з вамі... У гэтую ноч я прадаў наш шыфр англічанам, я ўсё прайграў у гэтую ноч... Калі мы не знікнем, дык не толькі вас, а і мяне зарэжуць.

*1927*

# Леанід Лявонаў

## ВЯРТАННЕ КАПЫЛЁВА

*Д. Н. Кардоўскаму*

Прыцемкам Мішка зноў выйшаў у падлесак і, узлезшы на дрэва, аглядаў радзінныя мясціны. Тхала восенню ад вечаровай зары, сцюдзёныя пасмы тумаціў пагойдваліся ў цеглавінках. Мішку білі дрыжыкі; быў ён босы, апрануты ў лахманы, якімі меўся дапрасіцца літасці ў мужыкоў. Вёска здавалася нежывой, але бляяў за стагамі прыблудны баран і чутны быў у дальняй сціхаце віскат арэляў, а Мішку мроіўся ў дадатак і вясёлы дзявочы смех. Нават знямоглага ад бяздомных начэй адольвалі яго юрлівыя спакусы. Усё здавалася яму, быццам на вясновай лугавіне сыходзяцца і разыходзяцца дзявочыя кадрылі, и пасярод красуецца ён сам, першы кавалер у наваколлі. Седзячы на дрэве з падабранымі нагамі, Мішка густа пачырванеў ад сораму за старцоўскі свой выгляд, у якім лёс і зіма вярталі яго на радзіму. Ішла ноч, і лесу напаўзалі туга і страх. Свет аддаваўся ва ўладу дрымоты, літасціва і Мішку аддаючы на начлег свой аслізлы сук.

Тут вырас Мішка, адсюль ускінула яго немалым ветрам на жыццёвыя вышыні, і калі забунтавалі мясцовыя мужыкі, сюды пасланы быў Мішка на іх ушчуванне як мужык ад нараджэння і знаўца тутэйшых мясцін. Чырванатвары і паглядны, надзелены ўладай самой эпохі, падступіў Мішка з войскам да роднай вёскі. Мужыкі накідалі бароны на ўз'ездах зуб'ем угору, але Мішка падпаліў вёску і, узяўшы прыступам, улагодзіў яе сваім мужыцкім спосабам. Сагнаўшы на сход скоранае племя, памагаты Мішкавых заваёў тлумачыў мужыкам сэнс найноўшай з гэтага часу эпохі, а Мішка, у ружовай кашулі і абвешаны аружжам, спаважна сядзеў тут жа, у крэсле, якое рэквізавалі ў папа. Яшчэ тлелі махныткі ўчарашняга пажарышча, і мужыкі пакорліва схілялі галаў перад ідэяй, якую прыносіў ім Мішка Капылёў.

Тыдзень прагасцяваў Мішка ў роднай вёсцы, курачы сытныя папяросы і хварэючы на прышчы; войска перай-

мала прыклад военачальніка. Калі-нікалі Мішка выходзіў гуляць і ішоў уніз, да стаўка, цягнучы за сабой на вяроўчыне кулямёт: чуццём здагадваўся Мішка пра затоеную нямірнасць мужыкоў. «На вадапой сабачку павёў...» — употай жартавалі мужыкі, але ніводны жывы сабака не адважваўся брахнуць на жалезнага сабаку Мішкі Капылёва. Часам нападала на Мішку трывога перад вялікім безгалоссем наваколля, і тады, стрэўшы дзе мужыка на дарозе, даймаў яго нуднаватымі размовамі. Так патрапіўся яму аднойчы бондар Ярміл Палушкін, мужык татарскага падабенства і патаемнага розуму; як ні стараўся бондар, не адкаснуўўся ад гаворкі з магутным заваёўнікам.

— Павінен ты разумець, грамадзянін, хто я ёсць. Я цяперака ў зенітах, усё магу. Магу запаветны гай спаліць, магу коней пастраляць... усё ў маёй уладзе, Палушкін. Я вас б'ю дзеля карысці вашай лапцюжнай, таму што — сам я мужык. Чалавека не біць, дык ён забыць можа, што ён чалавек. Разумееш, чаму я кажу табе ўсё гэта?

— Шчыра вымушаны разумець,— страсянуў плячамі Палушкін.

— Што ты разумееш, адкажы мне сваімі словамі! — спаважна загадаў Мішка, стрымліваючы суразмоўніка за плячо.

— Страшнавата, Міша. Быдла не страла, а горш за стралу,— выкручваўся Ярміл, павёўшы вокам на ўкрытую аружжам постаць Капылёва.— Крычыш, пытаешся, катуеш, Міша, а на сябе крычыш... і выходзіць, што ў цябе самога смактанне сэрца. І ў галаву я не вазьму: начальнік ты; усё можаш, а баішся, баішся мяне, Мішка.

— Прэч, адчадзіва пекла! — гнеўна затупатаў Капылёў, падняўшы ботамі дарожны пыл.

Але не праз дураслівасць лютаваў у тыя часы Мішка, а праз ленаватую просткасць розуму і праз адну яшчэ драбнюткую прычыну, невядомую свету. Яшчэ ў дагеройскую пару, калі быў толькі бабнікам і вісусам, узнікла ў ягоным магутным целе безразважнае каханне да Арынкі Гусевай. Дзяўчынка ўзростам, яна скрыла грубую ягоную сілу пяшчотнай журбой, якая цякла-лілася ў вачах. Сцюдзёныя азярынкі, вясновыя гаі адшукаў там Мішка, але яна не ўразілася ягоным заляцаннем і пасмяялася з пагрозы. У пошуках іншага шчасця пакінуў Мішка вёску, але ўдачы завабілі яго ў глыб жыцця, адкуль ён вярнуў-

ся ўжо абпалены вогнішчамі эпохі. Мара пра Арынку штурхала яго на бурныя свавольствы, за якія потым і выгналі яго адусюль,— свету не прыдалася дурная яго сіла...

Толькі цяпер да яго, пасінелага ад холаду, даплыў удушлівы куродым колішняга пажарышча. Новыя хаты бяleліся ў змроку, зазыўна свяціліся вокны, але здавалася яму ўсё гэта пасткай, дзе, абярнуўшыся Арынкай, падпільноўвае яго мужыцкая помста. Шукаючы ўцёкаў, ён, бы злодзей, азірнуўся назад... Лес здзекліва маўчаў, замахаўся рукамі, палохаў, дражніўся... Тады, стогнучы, сапучы ад звярынай сваёй адзіноты, Мішка злез з дрэва; ногі яго зайшліся ад ледзяной расы перадзім'я. Неахвотна падняў з зямлі торбу і кій, сукаватае апірышча вандроўнікаў, і безуважнай ступой падаўся наперад, у вёску.

Ён ішоў порстка, прасырэлыя лахманы задыміліся парай; усё яшчэ стаяў у нязнанасці надаедны плач таго барана. Пераскокваючы праз ледзяную гразюку і доўгія пасмы святла ад вокан, Мішка бег паўз галоўны парадак дамкоў, пакуль жаночы голас з цямнечы не спытаў у яго пра беглага барана. Бы нячысцік, вільнуў Мішка за блізкую на той час каплічку, але наскочыў на жанчыну і знiякавеў, учапіўшыся ў яе рукаў і сэрцам чуючы ў ёй Арынку.

— Мішка? — ціха сказала яна без спалоху ці здзіўлення.— Ідзі, ідзі, адкуль прыйшоў. Тут з цябе жмурыка зробяць...

— Арыначка,— бессаромна і з незразумелай надзеяй шапнуў Мішка, пераступаючы босымі нагамі,— замужам ты ці яшчэ ў дзеўках бегаеш? — Але яна адштурхнула яго і растала ў цемначы, такой тугой, што яе хоць гэблем габлюй.

Сустрэча надала Мішку бадзёрасці. Арынка помніла яго, не пракляла, не жахнулася, нават пашкадавала бадзяжную яго долю. Забыўшы пра небяспеку, у дом свой ламаўся ён усім целам, якое прасіла цяпла і спачыну. Збудаваннне прадзеда, дом быў змрочны і прасторны. Мішку адчыніў глуханямы ягоны брат і адразу замычаў, выказваючы не абы-якое сваё задавальненне.

— Ну-ну, расплывешся ад радасці. Кармі старшака, га? — ненатуральна зарагатаў Мішка і ўбег у хату.

Нежылым пахам дрэва і сухой маліны стрэў яго бацькоўскі дом, але ляжала на ўсім пячатка як бы жаночай рукі. Вымытая падлога засланая была дзяружкай, печ была набеленая, гаршкі ў салдацкім парадку і дагледжа-

насці стаялі на паліцах, а на сцяне тырчаў у трох цвіках аскепак аблезлага люстэрка. «Сядзіць адзін, як рэдзька, рабіць яму няма чаго, вось і стараецца»,— падумаў Мішка пра глуханямога, які мітусіўся, рыхтуючы брату яду і сухую апратку, і нават у парыве шчырасці старанна выцер месца на лаўцы картузом. Ціхі і пакорлівы сваёй някідкай планідзе, ён не крыўдаваў на маўчанне гаспадара, які таропка прымяраў на сабе яго мытыя кашулі. Мішка быў буйнейшы целам, і кашулі глуханямога рваліся на ім, як папяровыя.

Седзячы спіной да акна, Мішка прагна паядаў печаную бульбу, і павесялелае ягонае сэрца амаль прымірылася з неадступным лёсам. Людская пара прыйдзе не раней світання, а пакуль чакала цяпло і моцны сон. Калі пастка, дык і зваба ў ёй ёсць. Валёнкі сагрэлі ногі, і кроў полымна ўлівалася ў апухлыя шчокі. Выцягнуўшы ногі, ён гаспадарчым вокам аглядаў хату і не асабліва непакоіўся ні паклычаным пакуллем у сценах, ні пакарабачанай падлогай. Набрынялае ад яды і цеплыні цела ўжо цяпер патрабавала працы, але ён перамог сябе і ўседзеў на месцы, змогшы, дарэчы, і салодкую дрымоту. Прадчуванне сну было яму саладзейшае за сам сон.

Замест таго, падняўшы кайстру з падлогі, ён пачаў разбіраць рэчы — трафеі сваіх заваёў: кавалак цукру, пару паношанай бялізны, невядомага паходжання царскую капейку, брытву, што патанала ў азызлым акрайцы хлеба. Брытва была напалову сточаная, але вострая і без заган, брытва была багаццем у вёсцы — брытву Мішка выцер аб штаны і паклаў на стол. Раптам неадольнае жаданне пабрыцца ўзнікла ў ім. Нацёршы мылам шчокі і пальцам раскоўзаўшы па іх шэрую пену, Мішка пачаў валтузню перад люстрам, знятым са сцяны. Глуханямы з захапленнем дзікуна назіраў за братам і намагаўся дакрануцца рукой да дзівоснай гэтай рэчы.

— Гэта брытва, разумееш?.. Во, былі шчокі ў валасах, а цяпер, эвась, быццам каленкі ў дзеўкі. Гэта яшчэ што! Вось у горадзе ў мяне брытва была! Войстрая, канца нават і не відаць... яшчэ і ў рукі не браў, а парэзаўся! — Ён павёў вокам на глуханямога, які захоплена цмокаў губамі, гледзячы Мішку ў рот.— Згубіў я, брат, тую брытву... усё згубіў. Але ты не глядзі, што я ў жабрачым выглядзе вярнуўся: гэта я знарок пудзіла агароднае раздзеў! Цані маю хітрасць, дурненькі, паважай за сталічнасць, я ўсё магу!

Аднак, папярэджаны мычаннем глуханямога, Мішка павярнуўся да акна і адразу ж, збялелы, хістануўся ў кут: у акне дзелавіта і з расплюснутым носам смужнела аблічча Ярміла Палушкіна. Так мінулася хвіліна, потым глуханямы зашморгнуў фіранку і пабег паглядзець на ганак. Трывога была дарэмная. Вясковы змрок чорны, а сон наўкол непарушны. Загарнуўшы брытву ў анучку і паклаўшы пад абразы, Мішка ўкруціў святло ў лямпе і пачаў ладкавацца спаць. Ён доўга ляжаў без сну, слухаючы ўздыхі глуханямога, палохаючыся шолахаў у падпеччы, найболей ён баяўся, што яго возьмуць у час сну. Потым пачало здавацца: на папялішчы сядзіць кошка і глядзіць на Мішку прыжмураным вокам. Мішка перавярнуўся на жывот і заснуў адразу, бы дзіця...

На світанні адбыўся вясковы сход, а потым мужыкі прыйшлі па Мішку. Глуханямы паліў у печы, густы агонь лізаў кацялок у печы, калі ўвайшлі мужыкі. Яны прынеслі з сабой знадворны холад і наслядзілі на вымытай падлозе, бо ноччу выпаў першы нядоўгі сняжок. Мішка ляжаў на лаўцы, галавой пад абразы, накрыты прасцінаю і са складзенымі на грудзях рукамі. У галавах гарэла свечка. Мужыкі пераглянуліся і падышлі бліжэй. Двое, сябры, Анфім Фівонін і Лявак Пятроў, вытыркнуліся наперад з натоўпу.

— Няўжо — памёр? — сказаў Фівонін.

— Дыхае,— усміхнуўся Лявак.

— Бач ты, нібы мёртвы ляжыць,— казаў Фівонін.

— У нябожчыка хаваецца,— пагардліва адгукаўся Лявак. Тады Палушкін рассунуў натоўп, беручы ўладу на сябе.

— Чакайце, грамадзяне,— сказаў ён спаважна.— Мёртвы не жывы, мёртвы простых слоў не чуе... І найперш трэба свечку патушыць, яшчэ пажару наробіць! — Ён глыбакадумна зняў шапку.— Міша, паспееш памерці! Скажы хоць слоўка землякам, у такую раннюю пару дзеля цябе ўсталі. Маўчыць... Слухай, злосці ў нас няма, а вырашыла грамада цябе забіць за твае грахі. Памаліся, хлопча! — пракрычаў ён у самае вуха Капылёву, але той не азваўся.— Дай сюды іголку,— суха загадаў ён глуханямому і тут жа, прыўзняўшы безжыццёвую Мішкаву руку, паволі ткнуў іголкай у мякаць далоні.— Бачылі вы, грамадзяне, каб з нябожчыка кроў цякла? — спытаў ён, беручы кроплю на палец і паказваючы маўклівай грамадзе.

Мужыкі загулі і пачалі нервавацца: чырвань яўна вы-

давала не абы-якое Мішкава прыдурненне, але ён быў мёртвы і не абзываўся ні на боль, ні на кепскае слова, а забіваць мёртвага ні ў кога не ўзнімалася рука. Мішку штурхалі, казыталі, прыпальвалі агнём, і ўжо смурод ішоў ад абпаленага пальца,— Мішка ляжаў урачыста і нерухома, толькі безабароннасцю сваёй супраціўляючыся цёмнаму гневу мсціўцаў. У куце ціхутка выў глуханямы, а ў кацялку выкіпала вада.

— Навошта ж хлопца псаваць за так! Рука яму трэба, рукой яму рабіць трэба,— сказаў тут Мацвей Гусеў, бацька Арынчын, адпіхваючы збянтэжанага Палушкіна.— Забіць мы яго заўсёды можам. А мёртвага забіваць не варта, мёртвы — даравання не атрымаў. Мёртваму няма калі ў нашы гульні гуляць! А клічце сюды, мужычкі, Зацей-Васіліча!

Грамада загула зноў, але ўжо развесяліўшыся выдумкай Мацвея Гусева. Акрамя славы знакамітага ведуна, мусіў мець Зацей Васільевіч і славу найлепшага бывальшчыка ў наваколлі, і калі на сходах даходзіла слова да Зацея, рагатала да помараку грамада.

Зацей Васільевіч увайшоў дробненькай ступой і, перахрысціўшыся на абразы, сеў у Мішкі ў галавах, хітравата ўсміхнуўся на нетутэйшы Мішкаў спакой.

— Дарэмна табе сёння псалтыры чытаць, а лепш паслухай, Міша, казачку... змрок свой магільны павесялі! — ласкава пачаў Зацей, і хоць нічога пакуль не было сказана смешнага, разрагаталіся мужыкі на гэты Зацееў уступ.— Жыў на мусным, неспагадным гэтым свеце дурань і пайшоў ад няма чаго рабіць да папа на споведзь. Поп і пытае: «Салодкім ці не грашыў?» — «На тваёй, адказвае, святы ойча, на пасецы!» — «Так, а бабай, скажы, ці не скароміўся?» — «Тваёй адказвае, ойча, пападдзёй».

Далей нічога не стала разабраць. Хто дзе, а каторыя, проста прысеўшы на падлогу, не маглі стрываць весялосці. Выццё нейкае, віск, трэск і гармідар аж гайдалі хату: шчырае мужыцкае ўзвесяленне, як і шчырая ягоная праца. Нават сам Мацей Гусеў, стараверскага кораня стары, трымаўся за жывот, дробна целам уздрыгваючы, а другія і таго горш. Толькі адзін глуханямы пудліва пазіраў з палацяў на гэтае катаванне смехам, самае небяспечнае для смяшлівага Мішкі. Але той ляжаў па-ранейшаму ў жалобнай сваёй адзіноце, маўкліва смеючыся з Зацеевага ўмельства.

Раптам Зацей пакрыўджана змоўк, адразу перапыняючы смех, што пасяліўся ў мужыках.

— Паказытаць бы яго,— сказаў ён, заклапочана хітаючы галавой.

— Казыталі ўжо, дзядзька Зацей! — у адзін голас паскардзіліся мужыкі.— Хоч галаву адкруці, не прачхнецца. На цябе ўся наша надзея.

— Дайце конскі валасок сюды,— змрочна загадаў Зацей і, калі загад ягоны выканалі, засунуў гнуткую валасіну Мішку ў нос, прыглядаючыся тым часам да твару таго.

Ён круціў тым валаском усяляк — туды-сюды, твар у Мішкі пачырванеў, і сутарга ўжо сцяла набрынялыя губы, але сам ён не варушыўся, аддаючыся цалкам на горкую літасць гэтага свету.

— Вобарацень! — прызнаючыся ў сваёй бездапаможнасці, вызначыў Зацей і сабраўся пайсці. Хапала яму спраў і без Мішкі: загаворваў Зацей парэзы, заколы і загнаных коней.

Мужыкі пайшлі, страціўшы гэты раз надзею прабудзіць Мішку ад смерці дурнай і смерці сапраўднай. Але на другія суткі, апоўдні, яны прыйшлі зноў, хоць і ў меншай колькасці, прыйшлі нечакана. Мішка зноў ляжаў пад абразамі, і ў галавах злавесна палала свечка. Нехта заўважыў, што на нябожчыку новая кашуля, і гэта раз'ятрыла мужыкоў. Мішку за валасы пацягнулі да калодзежа і, кінуўшы пад калоду, палівалі восеньскай, з ледзяным хрустам вадою. Нічым, аднак, нельга было выбавіць Мішку з магільнага яго здранцвення. Плюнуўшы на гада, мсціўцы разышліся па хатах. Пад калодзежам пралежаў Мішка да цемначы. А цемначчу прапаў, і калі зайшоў праведаць мерцвяка Ярміл Палушкін, знайшоў яго ўжо сухога, на лаўцы, з той жа свечкаю ў галавах. Прысеўшы побач, Палушкін доўга і горасна выгаворваў Мішку за яго несумленнасць у гульні, але ўжо не адважыўся адабраць у мерцвяка прыналежную яму свечку.

— Не чакалі мы ад цябе падобнай помсты, Міша! Мала што паўвёскі на вецер пусціў, старшыні два пальцы адсек на допыце, дык цяпер дзіцем прыкідваешся, бессаромнік. Гэта дурасць твая, Міша! Спацеш сэрца, хоць набіць цябе дайся!

Так цэлы тыдзень, але ўсё ў меншай колькасці, прыходзілі мужыкі ўпэўніцца ў Мішкавай смерці, а той усё ляжаў, неадпеты, бязладанны. Заўважалі мужыкі, што ў

прамежках паміж наведваннямі ўсё навей выглядае сама хата, а аднойчы, прыйшоўшы нечакана, убачылі ў хаце цясьлярскае прыстасаванне і свежыя стружкі, але сам цесля ляжаў нябожчыкам. Мужыкіківалі галовамі і ішлі з хаты, дарэшты пакрыўджаныя Мішкавай няўвагай да людскога суду. Глуханямы надрыўна енчыў у кутку, дрэнна паддаючыся на роспыты: мёртвага біць сорамна, а дурня — грэх! Нарэшце, калі ўсім надакучыла цікавіцца Мішкавым лёсам, яго ніхто не трывожыў ужо дома. Толькі заваліўся неяк сам па сабе п'яны Палушкін і апошні раз сарамаціў нерухомага аднавяскоўца.

— Няправільную гульню вядзеш, хітруеш, Міша. Запіў я праз цябе, во! Ляжыш? Ну, ляжы, урвіцель, да друго прышэсця! — жаліўся бондар, дробна б'ючы кулаком па Мішкавай грудзіне, бы на кадзі.

Мішку забывалі, але не даравалі граху: паказацца яму на людзі азначала б пайсці на дачасную пагібель, ды і дома даводзілася асцерагацца. Як бы там ні было, Мішка абнаўляў дом, перасцілаў падлогу і наогул існаваў на поўную сялянскую завядзёнку; нават чутка пайшла, што ён сустракаецца з Арынкай Гусевай і мо ў насмешку з людскога да сябе гневу. І праўда: праз тыдзень падумаў Мішка і ў лазню схадзіць. Лазня стаяла за дваром, густа зарослая вішнямі.

Тонкі сняжок прыцярушыў тым днём наваколле, і пара ў лазні, шчыраваннем глуханямога, была як належыць. Ужо мо паўгадзіны хвастаўся Мішка венікам і выпарыўся ўжо, падобны да моркаўкі, а ўсё не мог здаволіцца — злазіла з яго ашмоццем шматгадовая скура. Цяпер нібы маладая бярэзіна распусцілася ў яго над галавой, а духмяныя яе карані глыбока сядзелі ўсярэдзіне, казычучы кроў і дыханне. Тут пажадаў Мішка абліцца сцюдзёнай вадой дзеля здароўя, але вада нагрэлася ў кадзі, ды і не хапіла б яе на поўную Мішкаву радасць. Як быў, галяком, выскачыў Мішка з вядром у агарод, да калодзежа, але раптам цішыня наўкол заварушылася мужыкамі. Адусюль пацягнуліся да яго чорныя, шурпатыя рукі, і Мішка пакорліва адкінуў убок вядро. Дзесяткі рук прагна трымалі яго за локці, плечы і нават за галаву. Тут жа накінулі на яго кажух і павялі ў хату да Фіёпіна, дзе наперад быў сабраны ўжо сход для вырашэння ягонага лёсу.

— Як жа ты слядоў нашых на снезе не ўбачыў? Так натапталі,— узбуджана жартаваў Палушкін, ведучы здабычу сваю пад руку.

— Ды ўжо ж пара надта добрая. Гэта проста сад райскі, а не лазня,— адказваў Мішка, порстка ідучы насустрач кары.

— Лазня першы сорт,— ахвотна згаджаліся з натоўпу, што ішоў ззаду.

...Незвычайнае ажыўленне ахапіла вёску; бабы крычалі пад вокнамі, малеча рвалася ў хату. Ліхадзея прывялі ўжо ў хату і дзверы зачынілі на клямку. Паветра было цяжкое, а пах густы, чарнахлебны. Наперадзе селі старыя, але неяк здарылася, што яшчэ бліжэй апынуліся маладыя. Мішку пасадзілі каля печы; ён дрыжаў ад холаду і ўсё нацягваў на распаранае плячо кажух, на якім яшчэ вісеў замерзлы камяк бабскага пляўка.

— Калоціцца Міша ад прадчування,— сказаў, між іншым, адзін мужык, круцячы цыгарку і ківаючы на асуджанага.

— Калі хто ўздрыгне знянацку, гэта значыць — па магіле яго прайшлі! — адгукнуліся ад дзвярэй.

Тут Мішка прыўзняўся, прыкрываючы збянтэжана срамоцце ад старых.

— Забівайце, калі насаліў... а то дайце хоць адзецца, д'яблы: кожная жылачка ва мне ад холаду трымціць! — крыкнуў ён, але Анфім Фіёнін і Лявак Пятроў маўкліва пасадзілі яго на адведзенае месца, і тады высунуўся наперад Мацвей Гусеў, адзінадушна выбраны ганаровым абвінаваўцам.

— Не тузайся, а сядзі, хвалі бога ў дудачку! Справа вечаровая амаль, а з раніцы іншыя справы чакаюць. Зараз і вырашым твой лёс,— кінуў яму Мацвей і азірнуўся на грамаду, якая ўхвальна слухала яго.— Сам мужык, мужыком народжаны, можна сказаць, на мужыка пайшоў: здрадніка тады рашыла прыбраць грамада. Награшыў і збег, а зямля прыцягнула прайдзісвета... мацней ад магніта дзейнічае зямля! Але толькі смерцю, думаю, неразумна ліхадзея вучыць. Хлапчына моцны, устойлівы, наш. Чаго ж яго нішчыць за дзіцячы розум: муравей і той сваёй кучы не чапае... А варта нам, мужыкі, павучыць яго цялесна!

— Мяне нельга... я «Георгія» маю,— дрыготкім голасам запярэчыў Мішка, але мужыкі толькі рассмяяліся.

— Эх ты, чалавечынка з вецярком! Мы «Георгія» з цябе сымем, і станеш ты абнакавенны мужык. Ну-ка, хрысціся ды раскладвайся.

Палушкін сашмаргнуў на падлогу кажух з Мішкі і

лёгка падштурхнуў на лаву, а бабы і малеча падавалі ў вокны старую крапіву, сівую ад інею, драбналістую, самую злую. Ламалася прымарожаная трава, і тады збегаў Палушкін па лейцы. Аднак перш чым даць знак пачаць, ён мітусліва пачапаў рукой азызлае Мішкава мяса, пакідаючы на ім іржавы след сваёй рукі.

— Крый, Ванька, бога няма! — моцна крыкнуў ён потым, адступаючы ўбок і хмура сціскаючы зубы ў прадчуванні далейшага.

Тыя ж самыя Анфім Фіёнін і Лявак Пятроў, сябры, шчыра выконвалі волю грамады. Хітры Фіёнін дзейнічаў усмак і нетаропка, а прастадушны Лявак біў сваімі лейцамі, як дурань цэпам. Без стогну і лаянкі, а спачатку нават пасмейваючыся, прымаў Мішка свой прысуд; потым ён змоўк, толькі ўпарцей глядзеў некуды ў адно месца. Але калі пачала сінець спіна, пачаў ён пакрэктваць, закусіўшы губу, і тым жа часам чорная паказалася на барадзе кроў; рэштай свядомасці помніў ён, што ў натоўпе баб за акном магла быць і Арынка. Вясёлыя напачатку воклічы мужыкоў аціхлі зусім, саступаючы месцааднастайнаму віскату лейцаў: моўчкі, спахмурнеўшы, сачылі мужыкі за тым, што дзеелася.

— Гэткае маладзецкае цела, такое пераражываць! — пахваліў нарэшце нехта і нагнуўся паглядзець у запалы Мішкаў твар.

Пацягненыя плеўкай забыцця, паволі закрываліся ліхадзеевы вочы, быццам хіліла іх у непрабудны сон, але на скусаных губах нежывая ўжо ляжала ўсмешка. Тады Гусеў спыніў кару, а каты выцерлі пот з ілба. Расцяўшы нажом выскаленыя Мішкавы зубы, Палушкін асцярожна выліў туды паўшклянкі самагонкі. Потым Мішку асцярожна пераклалі на кажух, і чацвёра панеслі яго дамоў. Адначасна выкліканы быў са свайго закутка Зацей Васільевіч лячыць спаласаванае цела Мішкі Капылёва.

Як тыдзень таму, але ўжо на жываце і глуха ўздрыгваючы ад перадсмяротнай тугі, Мішка ляжаў на сваёй лаўцы, і смуродная свечка над ім набывала цяпер свой жахлівы, праўдзівы сэнс. На стале каля Мішкі стаялі траўныя Зацеевы лекі і шчодрыя дары вёскі: смятана ў палівачках, пірагі з грыбамі, палатно і цёмная самагонка ў бутлі. Пад ноч прыбегла Арынка і, не звяртаючы ўвагі на прысутнасць знахара, плакала і гладзіла Мішкавы валасы, што зліпліся ў смяротным поце. Нізрынуты і ўлагоджаны, ён стаў ёй бліжэй цяпер, чым у пару сваёй лю-

тай улады над акругай: цяпер яна яго любіла і амаль недзявочай ласкай клікала з грознага ягонага здранцвення. Потым яна аціхла, незамужняя ўдава Арынка, і так, здзічэлая і разбэрсаная, сядзела да самага прыходу бацькі.

Гусеў прыйшоў з мужыкамі; яны ўвайшлі ціха, абзываючыся адзін на аднаго і здымаючы шапкі яшчэ да парога. На шырачэзнай мызе Палушкіна адбіваўся нядаўні спалох. Вінавата топчучыся ля парога, яны спыталі ў Зацея пра Мішкава здароўе.

— Адлежыцца! — адказаў знахар, які прывык і не да гэткага.— Галоўнае, жылы цэлыя...

Падышоўшы бліжэй, Гусеў прыўзняў са спіны Капылёва мокрую прасціну і адразу ж яе апусціў, амаль выпусціў з рук.

— Абняла б жанішка свайго,— збянтэжана сказаў ён дачцэ, касавурачыся на Зацея, што мяшаў у місах нейкае варыва.

— Няўжо ж не абдымала! — сурова сказала тая, кладучы руку на Мішку і нібы беручыся абараняць яго цяпер супроць усяго свету.

Мужыкі паспяшаліся пайсці, збаяўшыся Арынчынага погляду.

Цяжка змагаючыся са смерцю, два тыдні пралежаў Капылёў плазам, а як мінуўся тэрмін, устаў і на вачах усёй вёскі з віламі і тапаром палез на хату перакрываць страху. Праходзячы міма, мужыкі здымалі шапкі і спяшаліся прэч. Спыніцца перад Мішкавай хатай адважыўся адзін толькі Ярміл Палушкін.

— Як паскокваеш, сябрук? — закрычаў ён угору, вінавата ўсміхаючыся.

— Ды эвась... прышчак на воку ўскочыў! — адказаў Мішка, набіваючы тапаром новую дошку на даху, не кідаючы клопату.

— Прышчак добра было б гноем змазаць ці завязаць!

— Абыдзецца і так,— скрывіўся Мішка, паказваючы, што пасля перажытага нейкі чырак яму толькі адно задавальненне.

Усё не ішоў Палушкін, усё муляўся ўнізе ды перабіраў рукамі рваную шапку ў руках.

— Ажаніцца надумаў, Міша? Дзела правільнае, мужыцкае дзела. Што ж, Гусеў — род пашаноўны. Ды і дзеванька таўсмаценька, прыстаць, значыцца, мае. Трэба цяпер гаспадарку табе ладзіць. У нас пудоў на дзесяць

цялушку сабе купіш. Сіратой ты да нас вярнуўся, а, бач, нібы ўсынавілі ліхадзея. Даражэй за сына ты нам цяпер, яй-бо...

— Добра, заходзь на сутонні, пачастую! — пасмяяўся Мішка, адмахваючыся ад узрадаванага бондара.

Прыбіўшы дошку, Мішка сеў наверсе даху і аглядаў навакольныя мясціны. Дзянёк выдаўся халадэчны, пахмурны, негустыя сняжынкі ляцелі на глейкую, брыдкую гразюку, але Мішку хораша было сядзець тут, пры вятрыску, важдацца з неслухмянай пахкай саломай, стамляцца, дыхаць, жыць. Наперадзе чакала яго вяселле, прага і немудрагелістае мужыцкае шчасце. Усё ўглядваўся ён у дальні ўскраек лесу, шукаючы дазорнай сваёй бярозы, але нават і дарогі не відно было яму, бо прыцемак хутка ішоў з настылых палёў.

Унізе гаваркой чародкай прабеглі да арэляў дзеўкі, і адна часцей за іншых паглядала на Мішкаў дах, пад якім суджана было ёй жыць.

— Гэй, лялькі, — закрычаў раптам Мішка, наліваючыся крывёю, і сам здрыгануўся ад нечаканасці свайго крыку; нават заказыталі на спіне незажылыя драпіны.— Чакайце, я вас сам пагушкаю. Вось я, Мішка Капылёў! Усё магу! — І, не дагаварыўшы да канца пра свае магчымасці, пачаў паспешліва злазіць на зямлю, да глуханямога, які журботна і на адзіноце глядзеў знізу на незразумелую яго весялосць.

*1927*

## Юрый Тынянаў

# ПАДПАРУЧНІК КІЖЭ

### 1

Імператар Павел драмаў каля расчыненага акна. Пасля полудня, калі ежа паволі дужаецца з целам, непакоіць, турбаваць яго было забаронена. Ён драмаў, седзячы на высокім крэсле, застаўлены з бакоў і ззаду шкляною шырмаю.

Паўлу Пятровічу сніўся звычайны пасляабедзенны сон.

Ён сядзеў у Гатчыне, у сваім стрыжаным садку, і круглявы купідон на рагу глядзеў, як ён палудне з сям'ёю. Потым здаля пачулася рыпенне. Яно ішло аднастайна і падскоквала на калдобінах. Павел Пятровіч убачыў удалечыні трывуголку, конскі бег, аглоблі аднаколкі, пыл. Ён схаваўся пад стол, таму што трывуголка была фельд'егерам. Па яго імчалі з Пецярбурга.

— Nous sommes perdus...[1] — хрыпла закрычаў ён з-пад стала жонцы, каб яна таксама схавалася.

Пад сталом не хапала паветра, і рыпенне было ўжо там, аднаколка лезла на яго аглоблямі.

Фельд'егер зазірнуў пад стол, знайшоў там Паўла Пятровіча і сказаў яму:

— Ваша вялікасць, яе вялікасць ваша матухна памерла.

Але як толькі Павел Пятровіч пачаў выкарабквацца з-пад стала, фельд'егер пстрыкнуў яму па лбе і крыкнуў:

— Каравул!

Павел Пятровіч адмахнуўся і злавіў муху.

Так ён і сядзеў, утаропіўшы шэрыя вочы на акно паўлаўскага палаца, задыхаючыся ад ежы і нуды, з жывой мухай у руцэ. І прыслухоўваўся.

Нехта крычаў пад акном «каравул».

---

[1] Мы загінулі... *(франц.)*

## 2

У канцылярыі Праабражэнскага палка вайсковы пісар быў сасланы ў Сібір пасля цялеснага пакарання.

Новы пісар, малады яшчэ, зусім хлапчук, сядзеў за сталом і пісаў. Рука яго дрыжала, таму што ён спазніўся.

Трэба было перапісаць загад па палку роўна к шасці гадзінам, каб дзяжурны ад'ютант завёз яго ў палац і там ад'ютант яго вялікасці, далучыўшы загад да іншых папер, падаў імператару ў дзевяць. Спазненне было злачынствам. Палкавы пісар устаў загадзя, але сапсаваў загад і цяпер перапісваў другі раз. У першым спіску зрабіў ён дзве памылкі: паручніка Сінюхаева напісаў памерлым, таму што Сінюхаеў ішоў адразу ж пасля памерлага маёра Сакалова, і дапусціў бязглуздае напісанне: замест «Подпоручики же Стивен, Рыбин и Азанчеев назначаются» напісаў: «Подпоручик Киже, Стивен, Рыбин и Азанчеев назначаются». Калі ён пісаў слова *«Подпоручики»*, зайшоў афіцэр, і ён выцягнуўся перад ім, спыніўшыся на «к», а потым, сеўшы ізноў пісаць загад, зблытаў і напісаў: *«Подпоручик Киже»*.

Ён ведаў, што, калі да шасці гадзін загад не будзе гатовы, ад'ютант крыкне: «Узяць» — і яго возьмуць. Таму рука яго не ішла, ён пісаў усё павольней і павольней і раптам пырснуў вялізную, як фантан, прыгожую кляксу на загад.

Заставалася ўсяго дзесяць хвілін.

Адкінуўшыся назад, пісар паглядзеў на гадзіннік, як на жывога чалавека, потым пальцамі, нібыта адлучанымі ад яго цела, нібыта яны хадзілі ў яго па сваёй волі, пачаў прыбіраць паперы, шукаючы чыстага аркуша, хоць чыстай паперы тут не было зусім, яна ляжала ў шафе, складзеная ў вялікі акуратны стос.

У адчаі і толькі як быццам ужо для прыліку перад самім сабою перабіраў ён паперы, як раптам другі раз зноў аслупянеў.

Другая, не менш адказная папера была напісана таксама няправільна.

Паводле імператарскага распараджэння за № 940 аб неўжыванні слоў у данясеннях, патрабавалася не ўжываць слова «обозреть», а *осмотреть*, не ўжываць слова «выполнить», а *исполнить*, не пісаць «стража», а *караул* і ні ў якім разе не пісаць «отряд», а *деташемент*.

У грамадзянскіх устанаўленнях яшчэ дадавалася, каб

не пісаць «степень», але *клас* і не «общество», а *собрание*, а замест «гражданин» ужываць: *купец* або *мещанин.*

Але ўсё гэта было напісана ўжо дробнымі літарамі, пад распараджэннем № 940, што вісела тут на сцяне, перад вачыма пісара, і ён гэтага не чытаў, але пра словы «обозреть» і іншыя ён вывучыў у першы ж дзень і добра памятаў.

У паперы ж, падрыхтаванай для подпісу камандзіру палка і якая накіроўвалася барону Аракчэеву, было напісана:

*Обозрев*, па даручэнні вашага правасхадзіцельства, *отряды стражи*, уласна для нясення прыгараднай пры Санкт-Пецярбурзе і выязной службаў прызначаныя, данесці маю гонар, што ўсё *сие выполнено...*

І гэта было яшчэ не ўсё.

Першы радок ім самім жа напярэдадні перапісанага данясення выглядаў так:

*Ваша Правасхадзіцельства Міласцівы Гасудар.*

Малому дзіцяці ўжо было вядома, што зварот, у адзін радок напісаны, значыў загад, а ў данясеннях асобы падначаленай і асабліва такой асобе, як барон Аракчэеў, дазвалялася пісаць толькі ў двух радках:

*Ваша Правасхадзіцельства*
*Міласцівы Гасудар,*

што падкрэслівала падначаленне і ветлівасць.

І калі за *обозрев* і іншае яго можна было абвінаваціць, што ён не заўважыў і ў час не звярнуў увагі, то з *Міласцівым Гасударом* наблытаў пры перапісцы менавіта ён сам.

І ўжо, сам не ведаючы, што ён робіць, пісар сеў папраўляць гэту паперу. Перапісваючы яе, ён адразу ж забыў пра загад, хоць той быў куды больш тэрміновы.

Калі ж ад імя ад'ютанта па загад з'явіўся веставы, пісар паглядзеў на гадзіннік і на веставога і раптам падаў яму аркуш з памерлым паручнікам Сінюхаевым.

Потым сеў і, усё яшчэ калоцячыся, пісаў: *правасхадзіцельства, дэташаменты, караулу.*

## 3

Роўна ў дзевяць гадзін зазвінеў у палацы званок, імператар торгнуў шнурок. Ад'ютант яго вялікасці роўна ў дзевяць гадзін зайшоў, як звычайна, з дакладам да Паўла

Пятровіча. Павел Пятровіч сядзеў, як і ўчора, ля акна, застаўлены шкляною шырмаю.

Між тым ён не спаў, не драмаў, і выраз у яго на твары быў таксама другі.

Ад'ютант ведаў, як і ўсе ў палацы, што імператар гневаецца. Як ведаў ён і тое, што гнеў імператара шукае прычыны, і чым болей іх знаходзіць, тым мацней выбухае. І таму без дакладу ні ў якім разе абысціся было немагчыма.

Ад'ютант выцягнуўся перад шкляною шырмаю, перад імператарскай спіною і адрапартаваў.

Павел Пятровіч не павярнуўся да ад'ютанта. Ён цяжка і рэдка дыхаў.

Увесь учарашні дзень не маглі дашукацца, хто крычаў у яго пад акном «каравул», і ўначы ён двойчы прачынаўся ў нудзе і смутку.

«Каравул» быў крык бязглузды, і спачатку гнеў Паўла Пятровіча быў невялікі, як у кожнага, каму сніцца кепскі сон і каму перашкодзілі яго дасніць да канца. Бо шчаслівы канец усё роўна азначае ўдачу. Потым было цікава: хто і з якой мэтай крычаў «каравул» пад самым акном. Але калі ўсім палацам перапалохана кінуліся шукаць і не здолелі знайсці таго чалавека, гнеў зрабіўся вялікі. Справа выглядала так: у самым палацы, у пасляабедзенны час, чалавек мог учыніць неспакой і мог застацца не адшуканым. Потым ніхто не мог ведаць, з якой мэтай было выгукнута: «каравул». Магчыма, гэта было папярэджанне пакаянага злаўмысніка. Ці, можа, там, у кустах, тройчы ўжо абшуканых, чалавеку ўпіхнулі ў горла глухі кляп і задушылі яго. Ён нібыта скрозь зямлю праваліўся. Трэба было... Але што было трэба, калі таго чалавека не адшукалі.

Трэба было ўзмацніць варту. І не толькі тут.

Павел Пятровіч, не паварочваючыся, глядзеў на квадратныя зялёныя кусты, такія ж амаль, як у Трыаноне. Яны былі падстрыжаныя. І аднак, хто там быў, было невядома.

І, не гледзячы на ад'ютанта, ён закінуў назад правую руку. Ад'ютант ведаў, што гэта азначае: калі імператар моцна гневаўся, ён не абарочваўся. Ад'ютант спрытна ўсунуў у руку загад па Праабражэнскаму палку, і Павел Пятровіч пачаў уважліва чытаць. Пасля рука ізноў адкінулася назад, і ад'ютант, злаўчыўшыся, нячутна падняў пяро з рабочага століка, памачыў у чарніліцу, страсянуў

і, апырскаўшы сябе чарнілам, лёгка паклаў яго на руку. Усё гэта ён зрабіў імгненна. Неўзабаве падпісаная папера паляцела ў ад'ютанта. Так ад'ютант пачаў падаваць адну паперу за другой, і, падпісаныя ці проста прачытаныя, яны ўсе ляцелі назад у ад'ютанта. Той пачаў ужо нават прызвычайвацца да такой работы і спадзяваўся, што, можа, усё так і абыдзецца, калі раптам імператар саскочыў са свайго ўзвышанага крэсла.

Дробнымі крокамі ён падбег да ад'ютанта. Твар яго быў чырвоны і вочы цёмныя.

Ён наблізіўся да ад'ютанта і панюхаў яго. Так рабіў імператар, калі меў на каго падазрэнне. Потым ён двума пальцамі моцна ўхапіў ад'ютанта за рукаў і ўшчыкнуў яго.

Ад'ютант стаяў, выпрастаўшыся, і трымаў у руцэ паперы.

— Службы не ведаеш, васпане,— сіпла прамовіў Павел,— ззаду заходзіш.

Ён ушчыкнуў яго яшчэ.

— Я выб'ю пацёмкінскі дух, ідзі...

І ад'ютант задам падаўся да дзвярэй.

Як толькі дзверы нячутна зачыніліся, Павел Пятровіч хутка разматаў шыйную хустку і стаў павалі раздзіраць на грудзях кашулю, рот яго перакасіла, губы задрыжалі.

Пачынаўся вялікі гнеў.

## 4

Загад па гвардыі Праабражэнскім палку, падпісаны імператарам, быў ім сярдзіта спраўлены. Словы: *Падпаручнік Кіжэ, Стывен, Рыбін і Азанчэеў назначаюцца* імператар паправіў: пасля першага *к* уставіў велізарны *ёр*, некалькі наступных літар закрэсліў і ўверсе надпісаў: *Падпаручнік Кіжэ ў каравул.* Астатняе пярэчанняў не мела.

Загад быў перададзены ў полк.

Калі камандзір яго атрымаў, ён доўга ўспамінаў, хто такі падпаручнік з дзіўным прозвішчам Кіжэ. Ён тут жа ўзяў спіс усіх афіцэраў Праабражэнскага палка, але афіцэр з такім прозвішчам у ім не значыўся. Не было яго таксама і ў спісах радавых. Незразумела, што гэта такое было. На ўсім свеце разумеў гэта пэўна адзін пісар, але ў яго ніхто не спытаўся, і ён нікому нічога не сказаў. Аднак жа загад імператара неабходна было выконваць. І ўсё ж

выканаць яго было немагчыма, таму што нідзе ў палку не было падпаручніка Кіжэ.

Камандзір падумаў, ці не звярнуцца да барона Аракчэева. Але тут жа махнуў рукою. Барон Аракчэеў жыў у Гатчыне, ды і вынік быў сумніцельны.

А калі прыходзіць бяда, то звычайна кідаюцца да радні, таму і камандзір хутка ўспомніў сваяцтва з ад'ютантам яго вялікасці Саблуковым і памчаўся ў Паўлаўскае.

У Паўлаўскім быў страшэнны перапалох, і ад'ютант спачатку зусім не хацеў прымаць камандзіра. Потым ён грэбліва выслухаў яго і ўжо хацеў паслаць яго да чорта, і без таго хапала спраў і небыту, як раптам насупіўся, кінуў імгненны позірк на камандзіра, і позірк гэты раптоўна зусім пераменіўся: ён стаў азартны.

Ад'ютант паволі сказаў:

— Імператару не дакладваць. Лічыць падпаручніка Кіжэ жывым. Прызначыць у каравул.

Не гледзячы на абмяклага камандзіра, ён кінуў яго на волю лёсу, выпрастаўся і пайшоў.

## 5

Паручнік Сінюхаеў быў занепалы паручнік. Бацька яго быў лекарам у барона Аракчэева, і барон, каб узнагародзіць за пілюлі, якія адмаладзілі яго сілу, паціху прыткнуў лекаравага сына ў полк. Прамалінейны і недалёкі з выгляду, той спадабаўся барону. У палку ён ні з кім асабліва не збліжаўся, але і не цураўся таварышаў. Ён быў негаваркі, любіў тытунь, не вадзіўся з жанчынамі і, што было ўжо зусім не бравым афіцэрскім заняткам, з задавальненнем іграў на «габоі кахання».

Амуніцыя яго заўсёды аж блішчала.

Калі чыталі загад па палку, Сінюхаеў сядзеў і, як заўсёды, выцягнуўшыся ў струнку, ні пра што не думаў.

Нечакана ён пачуў сваё імя і ўздрыгнуў вушамі, як гэта здараецца з задуменным канём, калі яго раптам перацягнулі пугай.

«Паручніка Сінюхаева, як памерлага з гарачкі, лічыць са службы выбыўшым».

Тут здарылася, што камандзір, які чытаў загад, міжволі паглядзеў на тое месца, дзе заўсёды стаяў Сінюхаеў, і рука яго з аркушам паперы апусцілася.

Сінюхаеў стаяў, як і заўсёды, на сваім месцы. Аднак неўзабаве камандзір пачаў чытаць загад зноў,— праўда, ужо не так выразна,— прачытаў пра Стывена, Азанчэева, Кіжэ і дачытаў да канца. Пачаўся развод, і Сінюхаеву трэба было разам з усімі рухацца ў фігурных практыкаваннях. Але замест гэтага ён застаўся стаяць.

Ён быў звычны слухаць словы загаду як асаблівыя словы, не падобныя на чалавечую мову. Яны мелі не сэнс, не значэнне, а сваё жыццё і ўладу. Справа была не ў тым, загад выкананы ці не выкананы. Загад нейк мяняў палкі, вуліцы, людзей, нават калі яго і не выконвалі.

Калі ён пачуў словы загаду, ён спачатку застаўся стаяць на месцы як чалавек, які недачуў. Ён імкнуўся за словамі. Потым пакінуў сумнявацца. Гэта пра яго чыталі. І калі яго калона рушыла, ён пачаў сумнявацца, ці жывы ён.

Адчуваючы руку, якая ляжала на эфесе, а таксама пэўную напружанасць ад туга сцягнутых рамянёў партупеі і важкасці ад насаленай сёння раніцай касы на патыліцы, ён як быццам і быў жывы, але разам з тым ён ведаў, што тут нешта няладнае, нешта непапраўна сапсавана. Яму ні разу не падумалася, што ў загадзе памылка. Наадварот, яму здалося, што ён сам памылкова, па недаглядзе, жывы. Па нядбайнасці ён нечага не заўважыў і не паведаміў нікому.

Ва ўсякім разе, ён псаваў усе фігуры разводу, стоячы слупом на пляцы. Ён не падумаў нават, каб пашавяліцца хоць.

Як толькі скончыўся развод, камандзір наскочыў на паручніка. Ён быў чырвоны. Было сапраўдным шчасцем, што на разводзе не было з выпадку летняй гарачыні імператара, які адпачываў у Паўлаўскім. Камандзір хацеў гыркнуць: на гаўптвахту,— але, каб выказаць гнеў, патрэбны быў раскацісты гук, і ён ужо хацеў пусціць на *рр:* «пад аррышт»,— як раптам рот яго замкнуўся, нібыта выпадкова камандзір злавіў ім муху. І так ён стаяў перад паручнікам Сінюхаевым хвіліны дзве.

Потым, адхіснуўшыся, як ад чумнага, ён пайшоў сваёй дарогай.

Ён успомніў, што паручнік Сінюхаеў, як памерлы, выбыў са службы, і стрымаўся, таму што не ведаў, як гаварыць з такім чалавекам.

## 6

Павел Пятровіч тупаў у сваім пакоі і зрэдку спыняўся.

Ён прыслухоўваўся.

З таго часу як імператар у запыленых ботах і дарожным плашчы прабразгаў шпорамі па зале, у якой яшчэ хрыпела яго маці, і грукнуў дзвярыма, было заўважана: вялікі гнеў станавіўся страшэнным гневам, страшэнны гнеў канчаўся дні праз два страхам або замілаваннем.

Хімеры на лесвіцах у Паўлаўскім рабіў дзікі Брэнна, а плафоны і сцены самога палаца рабіў Камерон, аматар пяшчотных фарбаў, якія, здаецца, заміраюць на вачах усіх. З аднаго боку — ашчэраныя пашчы ўзнятых на дыбкі чалавекападобных ільвоў, з другога — вытанчанае пачуццё.

Апрача таго, у зале палаца віселі два ліхтары, падарунак неўзабаве пасля таго абезгалоўленага Людовіка XVI. Гэты падарунак ён атрымаў у Францыі, калі яшчэ падарожнічаў пад прозвішчам графа Севернага.

Ліхтары былі дасканалай работы: сценкі іх былі такія, што рабілі святло мякчэйшым.

Але Павел Пятровіч пазбягаў іх запальваць.

Гэтаксама гадзіннік, падарунак Марыі-Антуанеты, стаяў на стале з яшмы. Стрэлка, якая адлічвала гадзіны, нагадвала залатога Сатурна з касою, а мінутная — амура са стралою.

Калі гадзіннік біў поўдзень і поўнач, Сатурн засланяў касою стралу амура. Гэта азначала, што час перамагае любоў.

Як бы там ні было, але гадзіннік таксама не заводзіўся.

Такім чынам, у садзе быў Брэнна, па сценках палаца Камерон, а над галавою, у пустэчы падстолля, хістаўся ліхтар Людовіка XVI.

У гадзіны вялікага гневу Павел Пятровіч на нейкі час набываў знешняе падабенства з адным ільвом Брэнны.

Тады, як гром сярод яснага неба, абрушваліся бізуны і палкі на цэлыя палкі, а цёмнай ноччу пры святле факелаў секлі некаму галаву на Доне, маршыравалі пешкі ў Сібір выпадковыя салдаты, пісары, паручнікі, генералы і генерал-губернатары.

Выкрадальніца прастола, яго маці, была нябожчыца. Пацёмкінаўскі дух ён выбіў, як некалі Іван Чацвёрты выбіў дух баярскі. Ён раскідаў косці Пацёмкіна і зраўняў

яго магілу. Ён знішчыў нават густ свае маці. Густ выкрадальніцы! Золата, пакоі, абцягнутыя індыйскім шоўкам, пакоі, упрыгожаныя кітайскім посудам, з галандскімі печамі і пакой з сіняга шкла — табакерка. Балаган. Рымскія і грэчаскія медалі, якімі яна выхвалялася! Ён загадаў выкарыстаць іх на пазалоту свайго палаца.

І ўсё ж дух заставаўся, заставаўся прысмак. Ён адчуваўся скрозь, і, можа, таму Павел Пятровіч меў звычку прынюхвацца да субяседнікаў.

А над галавою хістаўся французскі вісельнік, ліхтар.

...І рабілася страшна. Імператару не хапала паветра. Ён не баяўся ні жонкі, ні старэйшых сыноў — кожны з іх, успомніўшы прыклад вясёлай бабулі і свякрухі, мог закалоць яго відэльцам і сесці на трон.

Ён не баяўся падазрона вясёлых міністраў і падазрона змрочных генералаў. Ён нікога не баяўся з той пяцідзесяцімільённай чэрні, якая ліпела на купінах і на балотах, сядзела на пясках і палях яго імперыі і якую ён ніяк не мог сабе ўявіць. Ён не баяўся іх, узятых паасобку. Разам жа гэта было мора, і ён патанаў у ім.

І ён загадаў абкапаць свой пецярбургскі палац равамі і фарпостамі і падцягнуць на ланцугах пад'ёмны мост. Але і ланцугі былі ненадзейныя — за імі сачыла варта.

Калі вялікі гнеў рабіўся вялікім страхам, пачынала працаваць канцылярыя крымінальных спраў, і тады некага падвешвалі за рукі, а пад некім правальвалася падлога, а ўнізе там чакалі заплечныя майстры.

Таму, калі з імператарскага пакоя чуліся то дробныя, то цяжкія, нібыта яны спатыкаліся, крокі, усе з непакоем пераглядаліся і рэдка хто ўсміхаўся.

У пакоі вялікі страх.

Імператар ходзіць.

## 7

Паручнік Сінюхаеў стаяў на тым самым месцы, дзе накінууся прабіраць і распякаць яго і так раптоўна спыніўся камандзір.

Кругом нікога не было.

Звычайна пасля разводу ён распроставаўся, збаўляў выпраўкі, рукі слабелі, і ён ішоў у казармы ўжо вольна. Усё цела, кожны член рабіўся вольны, і ён сам станавіўся партыкулярны.

Дома, у афіцэрскай казарме, паручнік расшпільваў

сурдут і іграў на габоі кахання. Потым набіваў піпку і пазіраў у акно. Ён бачыў вялікі высечаны пляц саду, дзе цяпер была пустыня, якая звалася Царыцыным лугам. Поле было аднастайным, нідзе ніякай зеляніны, на пяску толькі засталіся сляды коней і салдатаў. Курэнне яму было даспадобы ва ўсіх праявах: ці то набіваннем піпкі, ці то калі пальцам прыціскаеш табаку, ужо не кажучы пра зацяжку і дым. З курэннем чалавек ніколі не прападзе. Гэтага было дастаткова, таму што неўзабаве надыходзіў вечар, і ён ішоў да прыяцеляў або проста пагуляць.

Ён любіў ветлівасць простанароддзя. Аднойчы мешчанін сказаў яму, калі ён чхнуў: «Пруток у нос не большы за палец».

Перад сном ён садзіўся са сваім дзеншчыком гуляць у карты. Ён навучыў дзеншчыка гуляць у контру і ў памфіл, і калі дзяншчык прагульваў сам, то тады не стукаў дзеншчыка. Нарэшце ён праглядаў начышчаную дзеншчыком амуніцыю, сам завіваў, заплятаў і саліў касу і клаўся спаць.

Але цяпер ён не расправіўся, цягліцы яго былі напружаныя, і дыханне каля паручнікавых сцятых вуснаў не чутно было. Ён пачаў разглядаць разводную плошчу, і яна здалася яму незнаёмай. Ва ўсякім разе, ён ніколі не заўважаў раней карнізаў на вокнах чырвонага будынка і мутных шыб.

Круглыя камяні на бруку не былі падобныя адзін на адзін, як розныя браты.

У вялікім парадку і шэрым акурацце ляжаў салдацкі С.-Пецярбург з пустынямі, рэчкамі і мутнымі вачмі маставой, зусім яму незнаёмы горад.

Тады ён зразумеў, што ён памёр.

## 8

Павел Пятровіч, пачуўшы крокі ад'ютанта, як кот, падкраўся да крэсла, што стаяла за шырмаю, і сеў гэтак непахісна, нібыта сядзеў увесь час.

Ён ведаў трохі сваіх прыбліжаных. Седзячы да іх задам, ён адрозніваў шарканне ўпэўненых, падскок ліслівых і лёгкія, паветраныя крокі запалоханых. Адкрытых крокаў ён не чуў.

На гэты раз ад'ютант ішоў упэўнена; Павел Пятровіч напалову павярнуў галаву.

Ад'ютант зайшоў да сярэдзіны шырмаў і схіліў галаву.

— Ваша вялікасць. Каравул крычаў падпаручнік Кіжэ.

— Хто такі?

Страх змяншаўся, ён набываў прозвішча.

Гэтага пытання ад'ютант не чакаў і крыху адступіўся.

— Падпаручнік, які прызначаны ў каравульную службу, ваша вялікасць.

— З якой прычыны крычаў? — імператар тупнуў нагой.— Слухаю, васпан.

Ад'ютант памаўчаў.

— Ад неразумення,— пралепятаў ён.

— Правесці дазнанне і, даўшы бізуноў, пехатой у Сібір.

## 9

Так пачалося жыццё падпаручніка Кіжэ.

Калі пісар перапісваў загад, падпаручнік Кіжэ быў памылкай, апіскай, не болей таго. Яе маглі не заўважыць, і яна патанула б у папяровым моры, і паколькі загад нічым быў нецікавы, то наўрад ці пазней гісторыкі нават сталі б яе выяўляць.

Прыдзірлівае вока Паўла Пятровіча яе выцягла і цвёрдым знакам дало ёй сумніцельнае жыццё — апіска стала падпаручнікам без асобы, але з прозвішчам.

Потым у пахаплівых думках ад'ютанта ў яго акрэслілася і асоба, праўда, няпэўная, размытая, як у сне. Гэта ён крыкнуў «каравул» пад акном у імператара.

Цяпер гэта асоба нібыта зацвярдзела і выцягнулася: падпаручнік Кіжэ аказаўся зламыснікам, які быў асуджаны на дыбу ці, у лепшым выпадку — кабылу — і Сібір.

Гэта была ўжо сапраўднасць.

Да гэтага часу ён быў непакоем пісара, разгубленасцю камандзіра і вынаходлівасцю ад'ютанта.

З гэтага ж часу кабыла, бізуны і падарожжа ў Сібір рабіліся яго асабістай справай.

Загад павінен быў быць выкананы. Падпаручнік Кіжэ павінен быў выйсці з ваеннай інстанцыі, перайсці ў інстанцыю юрыдычную, а адтуль пайсці зялёнай дарогай проста ў Сібір.

І гэта адбылося.

У тым палку, дзе ён лічыўся, камандзір такім страшэнным голасам, які бывае толькі ў смяртэльна разгубле-

нага чалавека, выгукнуў перад строем імя падпаручніка Кіжэ.

Збоку напагатове ўжо стаяла кабыла, і два гвардзейцы абхапілі яе рамянямі з галавы і з ног. Двое гвардзейцаў з абодвух бакоў хвасталі бізуном у сем столак па гладкім дрэве, трэці лічыў, а полк глядзеў.

Паколькі дрэва было ўжо дагэтуль адпаліравана тысячамі жыватоў, то здаля кабыла не здавалася зусім пустою. Хоць на ёй і нікога не было, а ўсё ж здавалася, што нібыта хтосьці і быў. Салдаты, насупіўшы бровы, глядзелі на маўклівую кабылу, а камандзір пад канец экзекуцыі, як і заўсёды, пачырванеў усім тварам.

Потым рамяні расшпілілі і нібыта вызвалілі на кабыле плечы. Двое гвардзейцаў падышлі да кабылы і пачакалі каманды.

Яны пайшлі па вуліцы, аддаляючыся ад палка роўным крокам, стрэльбы на плячо і зрэдку касіліся не адзін на аднаго, а на тое месца, якое было між імі.

У страі стаяў малады салдат, яго нядаўна забрылі. Ён пазіраў на экзекуцыю з цікавасцю. Ён думаў, што ўсё, што адбываецца,— справа звычайная і ўчыняецца часта на вайсковай службе.

Але вечарам ён раптам заварочаўся на нарах і ціхенька спытаўся ў старога гвардзейца, што ляжаў побач:

— Дзядзечка, а хто ў нас імператар?

— Павел Пятровіч, дурніца,— адказаў спалохана стары.

— А ты яго бачыў?

— Бачыў,— буркнуў стары,— і ты пабачыш.

Яны змоўклі. Але стары салдат не мог заснуць. Ён усё варочаўся. Гэтак прайшло хвілін дзесяць.

— А ты чаго гэта пытаеш? — раптам спытаўся стары ў маладога.

— А я не ведаю,— ахвотна азваўся малады,— усе кажуць, кажуць: імператар, а хто такі — невядома. Можа, толькі кажуць...

— Дурніца,— сказаў стары і коса паглядзеў па баках,— маўчы, дурань вясковы.

Прайшло яшчэ хвілін дзесяць. У казарме было цёмна і ціха.

— Ён ёсць,— сказаў раптам стары маладому,— толькі ён падменены.

Паручнік Сінюхаеў уважліва агледзеў пакой, дзе ён жыў да гэтага дня.

Пакой быў вялікі, з нізкай столлю, з партрэтам чалавека сярэдніх год, у акулярах і з невялічкай коскай. Гэта быў паручнікаў бацька, лекар Сінюхаеў.

Ён жыў у Гатчыне, але паручнік, гледзячы на партрэт, не адчуў асаблівай упэўненасці ў гэтым. Можа, жыве, а можа, і не жыве.

Потым ён паглядзеў на рэчы, якія належалі паручніку Сінюхаеву: габой кахання ў драўляным футаральчыку, шчыпцы для завіўкі, баначку з пудрай, пясочніцу, і гэтыя рэчы паглядзелі на яго. Ён перавёў позірк убок.

Так ён стаяў пасярод пакоя, нібыта чакаючы нечага. Наўрад ці ён чакаў дзеншчыка.

Між тым менавіта дзяншчык і зайшоў асцярожна ў пакой і спыніўся перад паручнікам. Ён раскрыў рот і так, гледзячы на паручніка, стаяў.

Напэўна, ён і заўсёды так стаяў, чакаючы загаду, але паручнік паглядзеў на яго, нібыта бачыў яго ўпершыню, і панурыўся.

Смерць трэба было хаваць часова, як злачынства. Пад вечар зайшоў да яго ў пакой малады чалавек, сеў за стол, на якім ляжаў футаральчык з габоем кахання, дастаў яго, падзьмуў і, не дабіўшыся гуку, паклаў у куток.

Пасля, паклікаўшы дзеншчыка, загадаў падаць яму пенніку. Ні разу ён не зірнуў на паручніка Сінюхаева.

Паручнік спытаўся хрыплым голасам:

— Хто такі?

Малады чалавек, п'ючы пеннік, адказаў, пазяхнуўшы:

— Юнкерскай школы пры Сенаце аўдытар,— і загадаў дзеншчыку слаць пасцель. Потым ён пачаў распранацца, і паручнік Сінюхаеў доўга глядзеў, як спрытна сцягвае аўдытар чаравікі і ставіць іх, грукнуўшы аб падлогу, як расшпільваецца, а потым укрываецца коўдраю і пазяхае. Пацягнуўшыся, нарэшце малады чалавек раптам паглядзеў на руку паручніка Сінюхаева і выцягнуў у яго з-за абшлага рукава палатняную хустачку. Пачысціўшы нос, ён зноў пазяхнуў.

Тады нарэшце паручнік Сінюхаеў апамятаўся і вяла сказаў, што гэта супраць правіл.

Аўдытар абыякава запярэчыў, што, наадварот, усё правільна, што ён дзейнічае, як быўшы Сінюхаеў — які

памёр, і каб паручнік скінуў свой мундзір, які здаецца аўдытару яшчэ даволі прыстойным, а каб сам ён надзеў той, што ўжо зношаны.

Паручнік Сінюхаеў пачаў скідаць мундзір, а аўдытар яму дапамог, растлумачыўшы, што сам ён, былы Сінюхаеў, можа гэта зрабіць «не так».

Потым былы Сінюхаеў надзеў мундзір зношаны і пастаяў, пабойваючыся, каб аўдытар не забраў пальчаткі. У яго былі доўгія жоўтыя пальчаткі, форменныя. Пальчаткі страціць — ганьба, ведаў ён. У пальчатках паручнік, які б ён ні быў, усё ж паручнік. Таму, нацягнуўшы пальчаткі, Сінюхаеў павярнуўся і пайшоў прэч.

Усю ноч ён блукаў па вуліцах С.-Пецярбурга, нават не імкнучыся зайсці куды. Пад раніцу ён стаміўся і сеў проста на зямлю каля нейкага дома. Ён задрамаў на некалькі хвілін, а потым раптам падхапіўся і пайшоў, не азіраючыся па баках.

Неўзабаве ён выйшаў на ўскраіну горада. Сонны таршрэйбер[1] ля шлагбаума абыякава запісаў яго прозвішча.

Больш ён не вяртаўся ў казармы.

## 11

Ад'ютант быў хітры і нікому не сказаў пра падпаручніка Кіжэ і сваю ўдачу. У яго, як і ў кожнага, былі ворагі. Таму ён сказаў толькі сяму-таму, што чалавек, які крычаў «караул», знойдзены.

Але гэта зрабіла дзіўнае ўражанне на жаночай палавіне палаца.

Да палаца з яго верхнімі калонамі, тонкімі, як пальцы, якія кранаюцца клавесіна, пабудаванага Камеронам, з фаса былі прыбудаваны два крылы, закругленыя, як кашэчыя лапы, калі кот забаўляецца з мышанём. У адным крыле панавала дзявоцтва фрэйліны Нялідавай з яе штатам.

Часта Павел Пятровіч, вінавата мінаючы варту, выпраўляўся на гэтае крыло, а аднойчы вартавыя бачылі, як імператар хутка выбег адтуль з парыком, збітым набок, а наўздагон над яго галавой праляцела жаночая пантофля.

Хоць Нялідава была толькі фрэйліна, у самое яе таксама былі фрэйліны.

І вось, калі да жаночага крыла дайшло, што чалавека,

---

[1] Пісар *(ням.)*.

які крычаў «каравул», знайшлі, адна з фрэйлін Нялідавай страціла прытомнасць.

Яна была, як і Нялідава, кучаравая і тонкая, як пастушок.

Пры бабцы Лізавеце ў фрэйлін рыпела парча, трашчалі цесныя шаўкі і спалохана вызваляліся саскі. Такая была мода.

Амазонкі, якія любілі мужчынскае адзенне, аксамітныя марскія хвасты і зоркі каля саскоў, адышлі разам з выкрадальніцай прастола.

Цяпер жанчыны парабіліся пастушкамі з кучаравымі галовамі.

І адна з іх раптам страціла прытомнасць.

Узнятая з падлогі сваёй заступніцай, абудзіўшыся ад непрытомнасці, яна расказала: у яе ў той самы час якраз было прызначана любоўнае спатканне з афіцэрам. Яна не магла, аднак, адвінуцца з верхняга паверха і раптам, зірнуўшы ў акно, убачыла, што захоплены афіцэр, забыўшы пра небяспеку, а можа, і не ведаючы таго, што стаіць пад самым акном у імператара, пасылае ёй наверх знакі.

Яна махнула яму рукой, паказала вачыма, які жах, але палюбоўнік зразумеў гэта зусім інакш, нібыта ён ёй спрацівеў, і жаласна закрычаў: «Каравул».

У той жа момант, не разгубіўшыся, яна прыплюснула пальцам нос і паказала ўніз. Пасля гэтага кірпатага знаку афіцэр абамлеў і знік. Больш яна яго не бачыла, а паколькі любоўная прыгода адбылася толькі напярэдадні, яна і прозвішча яго не паспела даведацца.

Цяпер яго знайшлі і саслалі ў Сібір.

Нялідава задумалася.

Яе выпадак не падаваў болей надзеі, і хоць сама сабе яна не жадала ў гэтым прызнавацца, аднак пантофля яе не магла ўжо болей лятаць.

З ад'ютантам яна была абыякавая, і ёй не хацелася да яго звяртацца. Настрой у імператара быў сумніцельны. У такіх выпадках яна звярталася да аднаго партыкулярнага, але ўплывовага чалавека, Юрыя Аляксандравіча Нелядзінскага-Мялецкага.

Яна так зрабіла і цяпер і паслала да яго камер-лёкая з запіскай.

Мажны камер-лёкай, не першы раз перадаючы такія запіскі, заўсёды дзівіўся з мізэрнасці гэтага наймоцнага чалавека. Мялецкі быў спеваком і статс-сакратаром. Ён быў спявак «Быстрой реченьки» і вельмі лагодна ставіўся

да пастушак. З выгляду ён быў малы ростам, рот саладжавы, а бровы калматыя.

Але ён быў да таго ж і вялікі хітрун і, пазіраючы ўверх на плячыстага камер-лёкая, загадаў:

— Скажы, што непакоіцца не трэба. Няхай чакаюць. Усё як трэба вырашыцца.

Сам ён, аднак, пабойваўся, зусім не ведаючы, як усё гэта вырашыцца, і калі ў дзверы да яго паткнулася адна з яго юных пастушак, якую раней звалі Аўдоцяй, а цяпер Селіменаю, ён люта ўзмахнуў бровамі.

Дворня Юрыя Аляксандравіча складалася пераважна з пастушак.

## 12

Вартавыя ішлі ды ішлі.

Ад шлагбаума да шлагбаума, ад паста да крэпасці яны ішлі проста і з боязззю паглядалі на важную прастору, якая ішла між імі.

Суправаджаць сасланага ў Сібір ім даводзілася не першы раз, але ім ніколі не выпадала весці такога злачынцу. Калі яны выйшлі за горад, у іх было сумненне. Не чутно было звону ланцугоў і не трэба было падганяць прыкладамі. Але потым яны падумалі, што справа казённая і папера пры іх. Яны мала размаўлялі, таму што гэта было забаронена.

На першым пасту наглядчык паглядзеў на іх, як на вар'ятаў, і яны сумеліся. Але старшы паказаў паперу, у якой гаварылася, што арыштант сакрэтны і фігуры не мае, і наглядчык заклапаціўся і адправіў іх на начлег у асобную камеру на трое нараў. Ён пазбягаў размаўляць з імі і так выцягваўся перад імі, што вартавыя міжвольна адчулі сваю вагу і адказнасць.

Да другога — большага — паста яны падышлі ўжо ўпэўнена, з важным маўклівым выглядам, і старшы проста кінуў паперу на каменданцкі стол. І гэты гэтаксама закруціўся і забегаў, як і першы.

Памалу яны пачалі ўпэўнівацца, што суправаджаюць вялікага злачынцу. Яны прывыклі да гэтага і між сабою важна вымаўлялі: «ён» або «яна».

Так яны зайшлі ўжо ў глыбіню Расійскай імперыі, па той самай простай і вытаптанай Уладзімірскай дарозе.

І пустая прастора, што цярпліва імкнулася між імі, мянялася: то гэта быў вецер, то пыл, то спякота позняга лета.

## 13

І тады ж па той самай Уладзімірскай дарозе ішоў за імі наўздагон ад заставы да заставы, ад крэпасці да крэпасці важны загад.

Юрый Аляксандравіч Нелядзінскі-Мялецкі сказаў чакаць, і ён не памыліўся.

Таму што вялікі страх Паўла Пятровіча памалу, але пэўна пераходзіў у жаласць да сябе, у замілаванне.

Імператар павяртаўся задам да зверападобных садовых кустоў і, паблукаўшы ў пустэчы, звяртаўся да вытанчанага густу Камерона.

Ён сагнуў у барановы рог усіх матчыных генералаў і губернатараў, ён паразганяў іх па маёнтках, дзе яны адседжваліся цяпер. Ён павінен быў так зрабіць. І што ж. Вакол утварылася велізарная пустка.

Ён павесіў скрынку на пісьмы і скаргі перад сваім палацам, бо ўсё-такі ж ён, а не хто іншы быў бацюхнам айчыны. Спачатку скрынка пуставала — і гэта яго засмучала, таму што айчына павінна ж была гаварыць са сваім бацькам. Потым у скрынцы знайшлося падкінутае пісьмо, дзе яго празывалі кірпатым бацькам і пагражалі.

Ён паглядзеўся тады ў люстра.

— Кірпаты, паночкі, праўда, кірпаты,— прахрыпеў ён і загадаў скрынку зняць.

Ён задумаў падарожжа па гэтай дзіўнай айчыне. Ён сагнаў у Сібір губернатара, які адважыўся пакласці ў сваёй губерні для яго праезду новыя масты. Падарожжа не павінна было быць гэтакім, як у матухны: усё павінна было быць так, як ёсць, а не прыхарошанае. Але айчына маўчала. На Волзе былі сабраліся вакол яго сяляне. Ён паслаў хлопца ачэрпаць яму чыстай вады з сярэдзіны ракі, каб напіцца. Ён выпіў гэту ваду і сіпла сказаў сялянам:

— Вось я п'ю вашу ваду. Дык чаго вы вылупіліся?

І вакол стала пуста.

Больш у падарожжы ён не ездзіў і замест скрынкі паставіў на кожным фарпосце моцных вартавых, але не ведаў, ці адданыя яны, не ведаў, каго яму трэба баяцца.

Кругом была здрада і пустэча.

Ён вынайшаў сакрэт, як ад іх пазбавіцца,— і ўстанавіў дакладнасць і выключнае падначаленне. Запрацавалі канцыляры. Лічылася, што сабе ён бярэ ўладу толькі выканаўчую. Але так яно ўсё атрымлівалася, што выканаўчая

ўлада блытала ўсе канцылярыі і таму былі: сумніцельная здрада, каварнае падначаленне і пустата. Ён здаваўся сам сабе выпадковым плыўцом, які ўздымае сярод раз'юшаных хваляў пустыя рукі. Некалі ён бачыў такую гравюру.

І яго прыгнятала жаданне абаперціся на бацьку, няхай сабе на нежывога. Ён выкапаў з магілы забітага віндальцам нямецкага прыдурка, які лічыўся яго бацькам, і паставіў яго труну побач з трунoю выкрадальніцы прастола. Але гэта было зроблена для таго, каб адпомсціць мацінябожчыцы, пры жыцці якое ён жыў усё роўна як штохвілінна прысуджаны да пакарання смерцю.

Ды і ці была яна яго маці?

Ён ведаў нешта няпэўнае і скандальнае пра сваё нараджэнне.

Ён быў чалавек бязродны, пазбаўлены нават нежывога бацькі, нават нежывое маці.

Ён ніколі пра ўсё гэта не думаў і загадаў бы выстраліць з гарматы чалавекам, які б адважыўся западозрыць яго ў такіх думках.

Але ў такія хвіліны яму прыемнае было хоць маленькае свавольства і кітайскія дамкі яго Трыанона. Ён рабіўся прыхільнікам натуры і жадаў усеагульнай любові ці хоць бы чые-небудзь.

Гэта было як прыпадак, і тады грубасць прымалася за адкрытасць, дурнота за прастату, хітрасць за дабрыню і дзяншчык-турак, які ваксаваў яго боты, рабіўся графам.

Юрый Аляксандравіч заўсёды нюхам адчуваў перамену.

Ён чакаў з тыдзень, а потым нюхнуў.

Ціхімі, але вясёлымі крокамі патаптаўся ён вакол шкляной шырмы і раптам расказаў імператару ў настроі прастаты ўсё, што ведаў пра падпаручніка Кіжэ, за выключэннем, вядома, дакладнасці пра кірпаты нос.

Тут імператар зарагатаў такім, нібыта сабачы брэх, хрыплым, адрывістым смехам, быццам ён палохаў некага.

Юрый Аляксандравіч занепакоіўся.

Ён хацеў зрабіць прыемнасць Нялідавай, у якой быў за хатняга прыяцеля, і паказаць мімаходзь сваю ўплывовасць — таму што, па нямецкай, ходкай тады прымаўцы, umsonst ist der Tod — дарэмная адна смерць. Але такі рогат мог адразу адкінуць Юрыя Аляксандравіча на другую ролю ці нават стаць сродкам яго знішчэння.

Магчыма, гэта былі сарказмы?

Але не, імператар аж змогся ад рогату. Ён працягнуў руку ўзяць пяро, і Юрый Аляксандравіч, устаўшы на дыбачкі, прачытаў услед за імператаравай рукою:

*Падпаручніка Кіжэ, у Сібір сасланага, вярнуць, правесці ў паручнікі і з той фрэйлінай ажаніць.*

Напісаўшы гэта, імператар натхнёна прайшоўся па пакоі.

Ён пляснуў у ладкі, заспяваў сваю ўлюбёную песню, прысвістваючы:

Ельнік мой ельнік,
Часты мой бярэзнік...

а Юрый Аляксандравіч тонкім і ціхенькім голасам падхапіў:

Люшанькі-люлі.

## 14

Пакусаны сабака звычайна сходзіць у поле і лечыцца там горкімі травамі.

Паручнік Сінюхаеў ішоў пехатой з С.-Пецярбурга ў Гатчыну. Ён ішоў да бацькі не таму, каб прасіць дапамогі, а так, магчыма, каб праверыць і ўпэўніцца, ці жыве бацька ў Гатчыне, ці, можа, яго болей няма. На бацькоўскае прывітанне ён нічога не адказаў, паглядзеў кругом і ўжо сабраўся ісці, як чалавек, які саромеецца ці манернічае.

Але, убачыўшы непарадак у яго адзенні, лекар пасадзіў яго і пачаў дапытвацца:

— Ты праштрафіўся па службе ці ў карты прагуляўся?

— Я нежывы,— раптам сказаў паручнік.

Лекар палічыў у яго пульс, сказаў нешта пра п'яўкі і прадаўжаў дапытвацца.

Даведаўшыся пра сынаву прамашку, ён усхваляваўся, цэлую гадзіну пісаў і перапісваў прашэнне, прымусіўшы сына падпісаць яго, і назаўтра пайшоў да барона Аракчэева, каб разам з сутачным рапартам і перадаць яго. Сына, аднак, ён пасаромеўся трымаць у сябе дома, а паклаў яго ў шпіталь і напісаў на дошцы над яго ложкам:

Mors occasionalis
Выпадковая смерць

## 15

Барона Аракчэева турбавала ідэя дзяржавы.

Таму цяжка было вызначыць яго характар, ён быў пяўлоўны. Барон не быў злапомслівы, ён быў часам нават спагадлівы. Расказваючы якую-небудзь сумную гісторыю, ён плакаў нават і, абходзячы сад, даваў садовай дзяўчынцы капейку. Потым, убачыўшы не добра вымеценую дарожку, загадваў секчы дзяўчынку розгамі. А калі экзекуцыя спынялася, выдаваў дзіцяці пятак.

У прысутнасці імператара ён адчуваў слабасць, падобную на любоў.

Ён любіў чысціню, яна была эмблемаю яго нораву. Але быў задаволены менавіта тады, калі заўважаў у чысціні і парадку недахопы, а калі іх не выяўлялася, то ўпотайкі засмучаўся. Замест свежай смажаніны еў заўсёды ёлкае.

Ён быў рассеяны, як філосаф. І праўда, вучоныя немцы знаходзілі падабенства ў яго вачах з вачыма вядомага тады ў Германіі філосафа Канта: яны былі няпэўнага, нейкага вадкага, колеру і пацягнутыя празрыстай пеляной. Але барон пакрыўдзіўся, калі нехта сказаў яму пра гэта падабенства.

Ён не толькі быў скупы, ён часам любіў і шыкануць і пахваліцца. Для гэтага ён унікаў ва ўсе нават найдрабнейшыя гаспадарчыя драбніцы. Ён сядзеў над праектамі капліц, ордэнаў, абразоў і хатняга сталавання. Яго захаплялі кругі, эліпсы і лініі, якія, сплятаючыся, як рамяні ў плётцы, давалі змайстраванне, здольнае ашукаць вока. А ён любіў ашукаць наведвальніка ці ашукаць імператара і прыкідваўся, што не бачыць, калі нехта ўмудраўся і яго ашукаць. Яго ашукаць, вядома ж, было цяжка.

Ён трымаў падрабязны вопіс рэчаў кожнага з людзей, хто яму прыслужваў, пачынаючы з камердынара і канчаючы кухарчуком, а таксама правяраў усе шпітальныя вопісы.

Пры абсталяванні шпіталя, у якім служыў бацька паручніка Сінюхаева, барон сам паказваў, як ставіць ложкі, куды лаўкі, дзе павінен стаяць стол ардынатара і нават якое павінна быць гусінае пяро — яно павінна быць голае, без бародкі, у выглядзе рымскага calamus — чарапіны. За пяро, завострапае з бародкай, падлекару належала ўсыпаць пяць розгаў.

Ідэя рымскай дзяржавы турбавала барона Аракчэева. Таму ён безуважна выслухаў лекара Сінюхаева, і толь-

кі калі той падаў прашэнне, ён уважліва прачытаў яго і зрабіў вымову лекару, што папера падпісана невыразна.

Лекар папрасіў прабачэння, што ў сына дрыжыць рука.

— Ага, браток, вось бачыш,— адказаў барон з задавальненнем.— І рука дрыжыць.

Потым, зірнуўшы на лекара, ён спытаў:

— А калі надарылася смерць?

— Іуня пятнаццатага,— адказаў атарапелы лекар.

— Іуня пятнаццатага,— паўтарыў барон,— іуня пятнаццатага... А цяпер ужо семнаццатага,— сказаў ён раптам, пільна гледзячы лекару ў вочы.— Дзе ж быў мярцвяк два дні?

Ухмыльнуўшыся на лекараў выгляд, ён кісла паглядзеў на прашэнне і прамовіў:

— Вось якія непарадкі. Цяпер, браток, бывай. Ідзі.

## 16

Спявак і статс-сакратар Мялецкі дзейнічаў на ўра, ён рызыкаваў і неаднойчы выйграваў, бо ўсё бачыў у прывабным выглядзе, накшталт фарбаў Камерона, але выйгрышы змяняліся пройгрышамі, як фігуры ў кадрылі.

Барон Аракчэеў меў іншую звычку. Ён ніколі не рызыкаваў і ні за што не ручаўся. Наадварот, у данясеннях імператару ён паведамляў пра злоўжыванні — вось яны — і тут жа прасіў распараджэння, якую меру пакарання прымаць, каб іх знішчыць.

Барон Аракчэеў сухаданёс імператару, што памерлы паручнік Сінюхаеў з'явіўся ў Гатчыну, дзе і пакладзены ў шпіталь. Пры гэтым назваўся жывым і падаў прашэнне аб узнаўленні ў спісах. Прашэнне перанакіроўваецца з просьбай наступнага распараджэння. Ён хацеў паказаць гэтай паперай пакору, як руплівы прыказчык, які пра ўсё пытаецца ў гаспадара.

Адказ быў атрыманы неўзабаве — і на прашэнне і барону Аракчэеву ў прыватнасці.

На прашэнні была накладзена рэзалюцыя:

*Быўшаму паручніку Сінюхаеву, выключанаму са спіскаў з прычыны смерці, адмовіць па той жа самай прычыне.*

А барону Аракчэеву была праслана такая запіска:

*«Пан барон Аракчэеў.*

*Дзіўлюся, што, маючы чын генерала, не ведаеце стату-*

*та, накіроўваючы адразу да мяне прашэнне памерлага паручніка Сінюхаева, да таго ж і не вашага палка, якое належала спачатку накіраваць у канцылярыю палка, з якога гэты паручнік, а не мяне самога турбаваць такавым прашэннем.*

*Зрэшты, прабываю да вас добразычлівы Павел».*

Не было сказана: «назаўсёды добразычлівы». І Аракчэеў праслязіўся, бо страшэнна не любіў атрымліваць вымовы. Ён сам пайшоў у шпіталь і загадаў адразу ж выгнаць памерлага паручніка, выдаўшы яму бялізну, а афіцэрскую адзежу, якая значылася ў вопісе, затрымаць.

## 17

Калі паручнік Кіжэ вярнуўся з Сібіры, пра яго ведаў ужо многа хто. Гэта быў той самы паручнік, які крыкнуў «каравул» пад акном імператара, быў пакараны і сасланы ў Сібір, а потым памілаваны і зроблены паручнікам. Так пэўна было вядома пра яго жыццё.

Камандзір ужо не адчуваў ніякай з ім няёмкасці і вельмі проста прызначаў яго то на дзяжурства, то ў каравул. Калі полк выступаў у лагеры на манеўры, паручнік выступаў разам з ім. Ён быў спраўны афіцэр, бо кепскага нечага за ім заўважыць было немагчыма.

Фрэйліна, якая гэтак імгненна страціла прытомнасць і гэтым самым выратавала яго, спачатку ўзрадавалася, спадзеючыся, што яе з'яднаюць з яе раптоўным любоўнікам. Яна паставіла на шчацэ мушку і сцягнула шнуроўку, якая ніяк не паддавалася. Потым у царкве яна заўважыла, што стаіць адна, а побач, над пустым месцам, трымае вянец ад'ютант. Яна хацела ўжо зноў страціць прытомнасць, але паколькі яна глядзела ўніз і бачыла сваю талію, то перадумала. Дзіўная таямнічасць абраду, пры якім жаніх не прысутнічаў, многім спадабалася.

А праз некаторы час у паручніка Кіжэ нарадзіўся сын, па чутках вельмі падобны да яго.

Імператар забыў пра яго. У яго было многа спраў.

Спрытная Нялідава была ў няміласці, і яе месца заняла пухлявая Гагарына. Камерон, швейцарскія дамкі і нават само Паўлаўскае былі забытыя. У цагляным акурацэ ляжаў прыземісты і салдацкі С.-Пецярбург. Суворава, якога імператар не любіў, але цярпеў, таму што той не ладзіў з нябожчыкам Пацёмкіным, патурбавалі ў яго сельскай адзіноце. Набліжалася кампанія, таму што ў імпера-

тара былі планы. Планаў гэтых было шмат, і яны нярэдка апярэджвалі адзін аднаго. Павел Пятровіч раздаўся ўшыркі і як быццам прысеў. Твар яго зрабіўся чырвоны, як цагліна. Сувораў зноў трапіў у няміласць. Імператар смяяўся ўсё радзей.

Пераглядаючы палкавыя спісы, ён наткнуўся аднойчы на імя паручніка Кіжэ і прызначыў яго капітанам, а другім разам — палкоўнікам. Паручнік быў спраўны афіцэр. Пасля імператар зноў забыўся пра яго.

Жыццё палкоўніка Кіжэ працякала непрыкметна, і ўсе з гэтым змірыліся. Дома ў яго быў свой кабінет, у казарме свой пакой, і часам раніцай туды заносілі рапарты і загады, не надта дзівячыся, аднак, што няма палкоўніка.

Ён ужо камандаваў палком.

Лепей за ўсё адчувала сябе ў прасторным двухспальным ложку фрэйліна. Муж узнімаўся па службе, спаць было зручна, сын падрастаў. Часам сямейнае месца палкоўніка ўгравалася якім-небудзь паручнікам, капітанам ці асобай наогул штацкай. Так, зрэшты, было не ў адной палкоўніцкай пасцелі С.-Пецярбурга, гаспадары якіх знаходзіліся ў паходах.

Аднойчы, калі стомлены любоўнік заснуў, ёй пачулася рыпенне ў суседнім пакоі. Рыпенне паўтарылася. Несумненна было, што рассохлася падлога. Але яна імгненна раскатурхала соннага, выштурхнула яго за дзверы і кінула ўслед адзежу. Апамятаўшыся, яна пасмяялася з сябе.

Але і гэта здаралася ў многіх палкоўніцкіх дамах.

## 18

Ад сялян-мужыкоў пахла ветрам, ад баб дымам.

Паручнік Сінюхаеў нікому не глядзеў проста ў твар і толькі па гэтым адрозніваў людзей.

Гэтаксама ён выбіраў сабе месца, дзе пераначаваць. Чамусьці наравіў лепей спаць пад дрэвам, таму, відаць, што пад дрэвам менш мачыў дождж.

Ён ішоў, нідзе не затрымліваючыся.

Ён мінаў чухонскія вёскі, як мінае рэчку плоскі каменьчык «блінок», які кідаюць хлапчукі,— амаль не кранаючыся паверхні вады. Зрэдку чухонка давала яму малака. Ён піў стоячы і ішоў далей. Дзятва сцішвалася, шморгаючы рукавом па смаркатых насах. Вёска ўсё роўна як замыкалася за ім.

Паходка яго мала змянілася. Ад хадзьбы, праўда, яна

зрабілася расхістаная, але гэта расхістаная, мякінная, як цацачная паходка заставалася ўсё ж афіцэрскай, вайсковай паходкай.

Ён не адрозніваў кірункаў. Але кірункі гэтыя можна было вызначыць. Ухіляючыся, робячы зігзагі, падобныя на маланкі, якімі малююць на карцінах сусветны патоп, ён рабіў кругі, і кругі гэтыя паступова ўсё звужаліся.

Так мінуўся год, пакуль круг не замкнуўся на кропцы, і ён уступіў у С.-Пецярбург. І абышоў яго кругом з канца ў канец.

Потым ён пачаў кружыць па горадзе, і яму здаралася цэлымі тыднямі рабіць той самы круг.

Ішоў ён хутка, усё той жа сваёй вайсковай расхістанай паходкай, пры якой рукі і ногі здаваліся нібыта знарок падвешанымі.

Крамнікі яго зненавідзелі.

Калі яму даводзілася ісці па Гасціным радзе, яны галёкалі яму ўслед:

— Прыходзь учора.

— Гуляй назад.

Пра яго казалі, што ён прыносіць няўдачу, і бабы, якія гандлявалі абаранкамі, каб адкупіцца ад яго вока, давалі яму, маўкліва згадзіўшыся, па абаранку.

Хлапчукі, якія ва ўсе эпохі трапна падлоўліваюць людскія хібы, беглі за ім і крычалі:

— Падвешаны! Падвешаны!

## 19

У С.-Пецярбурзе вартавыя каля палаца Паўла Пятровіча закрычалі:

— Імператар спіць!

Гэты крык паўтарылі алебардшчыкі па перакрыжаваннях:

— Імператар спіць!

І ад гэтага крыку, як ветрам, змяло іх, адна за адною зачыніліся крамкі, а пешаходы пахаваліся хто куды.

Гэта азначала вечар.

На Ісакіеўскай плошчы натоўпы сялян у сярмягах, сагнаныя з вёсак і сёл на работу, патушылі вогнішчы і палеглі тут жа, прыкрыўшыся дзяружкамі.

Варта з алебардамі, адкрычаўшы: «імператар спіць», сама заснула. На Петрапаўлаўскай крэпасці, як гадзіннік, хадзіў вартавы. У адным шынку на ўскраіне сядзеў

кабацкі адчаюга, падпераз̆аны лыкам, і піў царскую гарэлку з рамізнікам.

— Бацьку кірпатаму хутка канец,— казаў рамізнік,— я вазіў важных паноў...

Уздымны мост палаца быў разведзены, і Павел Пятровіч глядзеў у акно.

Пакуль ён быў у бяспецы на сваім востраве. Але былі шэпты і позіркі ў палацы, якія ён разумеў, і на вуліцы стрэчныя людзі кідаліся перад яго канём на калені з дзіўным выразам на тварах. Такі быў парадак, але цяпер людзі падалі ў гразь не так, як заўсёды. Яны падалі надта імкліва. Конь быў высокі, і ён гайдаўся ў сядле. Ён праваў надта спяшаючыся. Палац быў недастаткова небяспечны, быў занадта прасторны. Трэба было выбраць меншы пакой. Павел Пятровіч не мог гэтага зрабіць — сяму-таму гэта кінулася б у вочы. «Трэба схавацца ў партабаку»,— падумаў імператар, нюхаючы табаку. Свечкі ён не запальваў. Не трэба наводзіць на след. Ён стаяў у цемры ў адной бялізне і вёў падлік людзям. Рабіў перастаноўкі, выкрэсліваў з памяці Бенігсена, ставіў Алсуф'ева. Спіс не складаўся.

— Тут майго падліку няма.

— Аракчэеў дурань,— сказаў ён напаўголаса.

— ...vague incertitude [1], якою ён дагаджае...

Каля ўздымнага моста ледзь відзён быў вартавы.

— Неабходна,— сказаў па звычцы Павел Пятровіч.

Ён пабарабаніў пальцамі па партабаку.

— Неабходна,— ён прыпамінаў, і зноў барабаніў, і раптам спыніўся.

Усё, што неабходна было, ужо даўно зрабілася, і гэтага, выявілася, недастаткова.

— Неабходна заключыць Аляксандра Паўлавіча,— ён паспешліва махнуў рукою.

— Неабходна...

— Што неабходна?

Ён лёг і хутка, як усё рабіў, шмыгнуў пад коўдру.

Ён заснуў моцным сном.

У сем гадзін раніцы ён раптам, як ад штуршка, прачнуўся і ўспомніў: неабходна наблізіць чалавека простага і сціплага, які цалкам бы залежаў ад яго, а ўсіх астатніх замяніць.

І зноў заснуў.

---

[1] дарэмная нерашучасць *(франц.)*.

## 20

Раніцай Павел Пятровіч праглядаў загады. Палкоўнік Кіжэ быў раптам узведзены ў чын генерала. Гэта быў палкоўнік, які не клянчыў маёнткаў, не плішчыўся ў людзі за дзядзькавымі плячыма, не выхваляка, не фарсун. Ён нёс службу без наракання і шуму.

Павел Пятровіч запатрабаваў яго фармулярныя спісы. Ён затрымаў увагу над паперай, якая сведчыла, што палкоўнік яшчэ паручнікам быў сасланы ў Сібір за тое, што крыкнуў пад імператарскім акном «каравул». Ён, як скрозь туман, успомніў нешта і ўсміхнуўся. Там была нейкая выпадковая любоўная інтрыжка.

Як быў бы дарэчы цяпер вось такі чалавек, які ў патрэбны момант крыкнуў бы пад імператарскімі вокнамі: «Каравул». Ён падараваў генералу Кіжэ маёнтак і тысячу душ.

Вечарам таго ж дня імя генерала Кіжэ ўсплыло на паверхню. Пра яго загаварылі.

Нехта чуў, як імператар сказаў графу Палену з усмешкай, якой у яго даўно не бачылі:

— Дывізію пачакаем даваць яму. Ён патрэбен на болей важнае.

Ніхто, апрача Бенігсена, не хацеў прызнацца, што нічога не ведае пра генерала Кіжэ. Пален адводзіў вочы ўбок.

Обер-камергер Аляксандр Львовіч Нарышкін успомніў генерала:

— Ну, але, палкоўнік Кіжэ... Я помню. Ён яшчэ з Сандуновай...

— На манёўрах пад Красным...

— Здаецца, сваяк Алсуф'еву, Фёдару Якаўлевічу...

— Ён не сваяк Алсуф'еву, граф. Палкоўнік Кіжэ з Францыі. Яго бацька быў абезгалоўлены чэрню ў Тулоне.

## 21

Падзеі разгортваліся імгненна. Генерал Кіжэ быў выкліканы да імператара. І ў той жа дзень імператару данеслі, што генерал цяжка захварэў.

Ён злосна крэкнуў і адкруціў гузік у Палена, які прынёс гэту вестку. І хрыпла загадаў:

— Пакласці ў шпіталь і вылечыць. А калі не вылечаць, васпане...

Камер-лёкай імператара двойчы на дні ездзіў у шпіталь даведацца, як адчувае сябе хворы.

У вялікай палаце, за глуха зачыненымі дзвярыма, мітусіліся лекары, калоцячыся, як хворыя.

На трэці дзень, пад вечар, генерал сканаў. Павел Пятровіч ужо не злаваўся. Ён абвёў усіх цьмяным позіркам і падаўся да сябе.

## 22

Пахаванне генерала Кіжэ помнілася доўга ў С.-Пецярбурзе, і некаторыя мемуарысты захавалі падрабязнасці, як усё адбылося.

Полк ішоў са згорнутымі сцягамі. Трыццаць прыдворных карэт, пустых і запоўненых, пачэкваліся ззаду. Так хацеў імператар. На падушках неслі ордэны. За чорнай цяжкай трунаю ішла жонка, ведучы за руку дзіця.

І яна плакала.

Калі працэсія параўнялася з палацам Паўла Пятровіча, ён паволі, адзін, выехаў на мост і ўзняў угару агаленую з ножнаў шпагу.

— У мяне паміраюць найлепшыя людзі.

Потым, прапусціўшы паўз сябе прыдворныя карэты, ён паўтарыў, гледзячы ім услед, на латыні:

— Sic transit gloria mundi [1].

## 23

Так быў пахаваны генерал Кіжэ, выканаўшы ўсё, што можна было ў жыцці, і запоўнены ўсім гэтым: маладосцю і любоўнай прыгодай, пакараннем і высылкай, гадамі службы, сям'ёю, нечаканай ласкай імператара і зайздрасцю прыдворных.

Імя яго значыцца ў «С.-Петербургском Некрополе», і некаторыя гісторыкі мімаходзь успамінаюць пра яго.

У «С.-Петербургском Некрополе» не страчаецца імя паручніка Сінюхаева.

Ён знік канчаткова, рассыпаўся, як попел, як мякіна, нібыта ніколі і не існаваў.

А Павел Пятровіч памёр у сакавіку таго ж года, як і генерал Кіжэ,— па афіцыйных звестках ад апаплексіі.

*1928*

---

[1] Так мінаецца слава свету *(лац.)*.

# Міхаіл Прышвін

## АДЗІНОКІ ЖУРАВЕЛЬ

Штораніцы прылятаў на поплаў адзінокі журавель і не трубіў, а толькі свістаў. У вёсцы яго заўважылі і кожны раз вялі пра яго размовы.

Чаму ён свішча?

Адны казалі — хворы. Другія — стары. Трэція здагадваліся — у час пералёту забілі яго самку. Апошняя здагадка была б пэўнай, але толькі ўзнікала пытанне, чаму ж ён не выбраў сабе іншую? Тады зноў вярталіся да таго, што журавель стары, у яго не хапіла б сілы адбіць сабе.

Слухаючы ўсё гэта, я спытаў:

— А ўвосень, калі маладых самак будзе хапаць, ці можа ён, стары, паводле жураўліных законаў выбраць сабе маладую жонку?

Паляўнічы Фёдар Іванавіч, які выдатна ведаў жыццё жураўоў, адказаў:

— Возьме маладую.

Жонка яго забурчала:

— Маладую, маладую, а што ў тым добрага — сам стары свістун, а яна маладая.

— Ну, з маладой,— адказаў Фёдар,— ён перастане свістаць, з маладой жонкай і стары затрубіць.

Усе засмяяліся. А Фёдарава жонка вельмі разззлавалася і сказала яму пры ўсіх у вочы:

— Бессаромнік!

Яна вельмі яго раўнавала.

*1928*

# Панцеляймон Раманаў

## БЛАКІТНАЯ СУКЕНКА

### I

Няшчасце здарылася на вяселлі тыдні за два да пакроваў, калі хлеб ужо ўвесь быў сабраны і ў полі заставалася толькі запозненая бульба.

Спірыдон напярэдадні даччынога вяселля нават хадзіў на свой загон паглядзець, ці не час выворваць бульбу. Пастаяў там, паглядзеў з-пад рукі навокал і пануры пайшоў дадому. Месяц назад дачка, Усцюшка, прыйшла і сказала, што выходзіць замуж за сына каваля Пархвена, камсамольца.

— А грошай на вяселле хто табе напас? — спытаў Спірыдон, нават не зірнуўшы на дачку.

— Якіх грошай? Пасаг яму не трэба, а вянчацца будзем не ў папа, проста запішамся, і ўсё,— сказала неяк абыякава, амаль мімаходзь Усцінння, вільнула сваёю касою і пайшла.

Жонка Алена не паверыла сваім вушам, а Спірыдон кінуўся быў за дачкою з кулакамі, але той жа час спыніўся і, махнуўшы рукою, толькі сказаў:

— Во чортава парода пайшла!..

Больш за ўсё яго зазлавала чамусьці, што жаніху пасагу не трэба. «Значыць, гаспадаркі не справіць, калі капейку не шануе,— падумаў ён.— І жонку не будзе любіць».

Хоць ён і сам ніколі і нічым не паказваў сваёй любові да жонкі і калі яна адна ездзіла ў горад і доўга не вярталася, то выходзіў на вуліцу паглядзець, ці не едзе Алена, але заўсёды глядзеў не на дарогу, а як быццам па баках, каб людзі не ўбачылі, што ён засумаваў па жонцы і чакае яе.

Гаварылі яны з ёю заўсёды толькі пра гаспадарку і ні пра што болей. Цяпер Спірыдон зрабіўся маўклівы і раздражнёны, і калі выпіваў і яго чым-небудзь даймалі, вочы ягоныя загараліся дзікім агнём, і ён, не помнячы сябе, лез біцца.

Аднойчы нават цвярозы ён ледзь не забіў Сёмку-страхара, маленькага калматага мужычка, за тое, што той яхідна павіншаваў яго «з харошым жаніхом і партыйнай лініяй».

Калі ж ён бываў п'яны і лез да каго-небудзь біцца, Алена заўсёды павісала ў яго на руках і прасіла:

— Спірыдон, галубок, хопіць... Спірыдон, мілы, не трэба...

І вяла яго дадому, прыкладаючы зямлю да сінякоў, якія ён, п'яны, настаўляў сам сабе.

Чым бліжэй падыходзіў дзень Усціннінага вяселля, тым Спірыдон рабіўся ўсё больш пахмурны і змрочны. І магчыма, што, калі б не было гэтага вяселля, не здарылася б і няшчасця, такога недарэчнага і жахлівага.

## II

У вёсцы пачыналася вясёлая часіна вяселляў. Але Спірыдон хадзіў засмучаны, нават прыгнечаны. Яму здавалася нейкаю ганьбаю, што вяселле яго дачкі будзе не сапраўднае, без папа.

Вясельная пагулянка была ў жаніха. Алена хацела была адзець сваю самую лепшую блакітную шарсцяную сукенку, якую ёй Спірыдон аднойчы прывёз з горада, але ў самую апошнюю хвіліну чамусьці перадумала і адзела іншае святочнае плацце, прасцейшае. «Як падказаў хто»,— расказвала яна потым, ужо ў бальніцы, Спірыдону.

Госці пачалі збірацца яшчэ задоўга да цямна. Раней, бывала, з царквы ехалі на тройках з папяровымі кветкамі, заплеценымі ў грывы і хвасты коней, а цяпер прыходзілі і прыязджалі без усялякіх кветак.

Спірыдону і ў гэтым бачылася штосьці ганебнае і крыўднае.

Здавалася, што з яго і з ягонай дачкі смяюцца, за сапраўднае вяселле не лічаць. І ён, адзеўшы сваю святочную паддзёўку і намасліўшы валасы каровіным маслам, адчуваў сябе ніякавата, як быццам бы зусім недарэчы вырафранціўся. Іншы б на яго месцы ўвогуле не пайшоў сюды ці знарок бы ўсё старое адзеў.

Народ набіраўся ў хату, галоўным чынам, гэта былі ўсё маладыя хлопцы ў пінжаках і фрэнчах і дзяўчаты, апранутыя таксама па-гарадскому, як паненкі,— у белых сукенках і чаравічках з белымі панчохамі. Яны гучна га-

манілі, смяяліся, быццам усім тут камандавалі і верхаводзілі яны, а старыя неяк няёмка ціснуліся ўбаку.

У пярэднім куце стаяў засланы стол, зроблены з трох ссунутых разам сталоў. На абрусе былі пакладзены ўдоўж па талерках павыманыя з куфраў вышываныя ручнікі для абціраппя масленых ратоў і рук. Стаялі бутэлькі гарэлкі, вішнёўка і на сподачках — заліўныя куры.

Спірыдона ніхто не сустрэў, не аказаў яму як бацьку ўвагі, быццам той не меў тут аніякага значэння. І ён стаяў у натоўпе, сярод іншых гасцей, чакаючы, калі паклічуць садзіцца за стол. І чым болей так стаяў, тым больш разгаралася ў ім крыўда: дваццаць гадоў працаваў, дачку выгадаваў, а цяпер на яе вяселлі стаіць як непрыкаяны, быццам яго толькі з літасці пусцілі сюды.

А тут падаўся крыху назад, не разгледзеў, што ззаду, і трапіў ботам у каціны сподак з малаком, які стаяў каля сцяны. Сподак хруснуў, разламаўся, і з-пад ног Спірыдона на сярэдзіну падлогі пацёк ручай малака. Той-сёй з гасцей фыркнуў, а ён пачырванеў да самай патыліцы.

Старыя — гаспадары, Пархвен і яго жонка Анісся, таксама неяк нязграбна таўкліся сярод іншых, мусіць, не ведаючы, што рабіць з гасцямі, якія пачыналі ўжо сумаваць. А моладзь насуперак усім звычаям забралася ў спальню, адтуль чуўся гоман, смех. Усціння ў белай сукенцы, з валасамі, сабранымі на патыліцы ў куклу з уваткнутым у яе грабянцом, сядзела з жаніхом на ложку, таксама смяялася і папраўляла яму то гальштук, то валасы, як быццам ён быў для яе ўжо свой.

І ад гэтага не было, як здалося Спірыдону, ніякай сур'ёзнасці, ніякай гожасці. І нават аддавала нейкаю бессаромнасцю.

У Спірыдона настрой зрабіўся яшчэ горшы, калі ён убачыў, што тут таўчэцца і рабы Сёмка, які адзін раз падчапіў ужо яго наконт гэтага вяселля.

Кум Спірыдонаў, Сяргей Гарбылёў, пажылы мужчына з шэрай кучаравай барадою і валаскамі на носе, як быццам зразумеў, што адчуваў Спірыдон. Ён адсунуў нагою чарапкі і, нахіліўшыся да Спірыдона, падміргнуў яму і сказаў ціхенька:

— Таксама ў госці прыйшоў?

— Наўродзе гэтага,— хмурна адказаў Спірыдон.

Нарэшце ажывіліся, зашумелі. Маладыя хлопцы, напіраючы адзін на аднаго, кучаю, усіх таўхаючы, вываліліся са спальні.

Камсамолец Гараська Шчогалеў, сведка жаніха, выйшаў на сярэдзіну хаты і падняў угору руку, патрабуючы цішыні. Усе сціхлі і глядзелі на яго і адзін на аднаго з таямкім чаканнем, што ён зробіць ці скажа штосьці такое, ад чаго ўсім будзе няёмка і сорамна і за яго і за сябе. Гараська абцёр губы насоўкаю і, заклаўшы палец за штрыфель фрэнча, сказаў кароткае прывітанне маладым, якое заключалася ў тым, што ён павіншаваў новую пару, якая адмовілася ад забабонаў і будуе новы быт.

Жаніх у карычневым фрэнчы і штанах, стоячы побач з нявестаю, то глядзеў на прамоўцу, то, каб схаваць сваю няёмкасць, усміхаючыся, перашэптваўся з маладою. А яна таксама часам шаптала яму нешта, прыкрыўшы рот рукою.

І зноў гэта смеласць і бесцырымоннасць падаліся Спірыдону амаль бессаромнасцю. Яго старая — не тое што шаптаць і смяяцца з ім пры ўсіх не магла, калі ён быў жаніхом, яна стаяла, нібы акамянела зусім,— да таго баялася.

Спірыдон глядзеў на прамоўцу, на яго сухі віхор, які звешваўся наперад, і яму лезлі ў галаву думкі пра тое, што на яго, бацьку, наплявалі, ды яшчэ паднялі насмех, а камандуе ўсім нейкі хлапчук, у якога на губах малако не абсохла.

Асабліва яму здалося, што з яго пацяшаецца Сёмка, які, седзячы на падаконніку і круцячы цыгарку, пазіраў на жаніха з нявестаю і ўсё ўхмыляўся чагосьці. Твар у яго быў васпаваты, а на носе засталося асабліва многа ямачак-воспін, ад чаго кончык яго выдаваў зусім з'едзеным. І таму твар яго здаваўся Спірыдону асабліва паскуднаяхідным.

За стол ён сеў у паддзёўцы, і яе шырокія рукавы, абшытыя палоскаю скуры, заміналі яму ўпраўляцца з нажом і відэльцам. Пачаў рэзаць курыцу, упёр відэлец стоймя ў талерку, і ён, нечакана саслізнуўшы, так скрыгатнуў, што ўсе госці спалохана азірнуліся. А суседа з левага боку ўсяго абдаў курыным жэле, і той палахліва выбіраў яго з кучаравай барады, быццам яму ў бараду не курынае жэле, а іскры з кавальскага горна трапілі.

Спірыдон зноў увесь пачырванеў і ад прыкрасці ледзь не кінуў талерку на падлогу, ледзь не пайшоў зусім. Але стрымаўся, адно адсунуў талерку ўбок і пачаў толькі піць.

— Непадхадзяшчая, відаць, работа? — сказаў яму праз стол Сёмка.

Спірыдон паглядзеў на яго і нічога не адказаў.

Языкі развязваліся ўсё больш і больш. Нажы адклалі ўбок і пачалі працаваць рукамі, разрываючы сухажылле на курыных нагах, абгрызаючы іх зубамі. Моладзь, абступіўшы маладых, прымушала нявесту піць гарэлку і цалавацца з жаніхом.

І Спірыдону здалося, што яны нахабнічаюць, здзекуюцца з яго дачкі ў яго ж на вачах, а ўсе глядзяць на бацьку і, мусіць, смяюцца, што ён нічога не можа зрабіць.

Сёмка васпаваты, раз-пораз нахіляючыся над сталом п'янаю галавою, глядзеў непаслухмянымі вачыма на маладых, потым пераводзіў іх на Спірыдона і раптам закрычаў п'яным голасам:

— Валіце, хлопцы, цалуйце яе ўсе,— не вянчаная!

Спірыдон збялеў.

Суседнія мужчыны пачалі ўціхамірваць Сёмку, а ён яшчэ болей крычаў і рагатаў п'яным смехам у твар Спірыдону. Усе адразу заціхлі. Наспяваў скандал. Але ўсё ж ніхто нават і не ўяўляў, што зараз здарыцца.

— Валіце, хлопцы, не цырымоньцеся! — зноў закрычаў Сёмка.

І ў гэты час раптам нешта здарылася. Два мужчыны, якія сядзелі побач са Спірыдонам, паляцелі на падлогу, а Спірыдон апынуўся каля Сёмкі і пачаў душыць яго за горла. Сёмка адною рукою аддзіраў Спірыдонавы рукі, а другою шукаў на стале нож. Заўважыўшы гэтыя яго намаганні, Спірыдон не спяшаючыся адвязаў адною рукою з пояса пад паддзёўкаю свой самаробны, вытачаны з касы, нож. Адвязаўшы, наваліўся на Сёмку між суседзяў па стале, якія адхіснуліся ад іх, і толькі быў узмахнуў рукою над прыціхлым пад нажом мужычком, як у яго на руцэ павісла Алена і закрычала:

— Спірыдон, галубок, хопіць... Спірыдон, галубок, не трэба...

Ён з азвярэлым выглядам з усёй сілы адмахнуўся ад жонкі рукою, у якой у яго быў нож, і Алена слаба, спалохана і як бы здзіўлена ўскрыкнула і паволі асела на падлогу.

Сукенка на ёй была разрэзана ад грудзей да самых ног, і на падлозе з'явілася лужына цёмнай крыві, што сцякала ад яе вузенькім ручайком у ямінку, і на ёй плаваў ужо і круціўся пыл земляной падлогі.

## III

Рана аказалася смяротная, Алену завезлі ў бальніцу, і яна паціху памірала.

Усе ў вёсцы шкадавалі Спірыдона і гаварылі пра тое, якое няшчасце звалілася на яго: засталася гаспадарка без бабы.

Суседзі часта заходзілі да яго, калі ён, апусціўшы галаву, сядзеў адзін, і казалі пра тое, што аднаму яму цяжка будзе з гаспадаркаю, што трэба жаніцца, ён жа яшчэ не стары... Можна пасватаць Кацярыну Собалеву, яна харошая і рабацяшчая баба, хоць, між іншым, у яе трое дзяцей. Тады можна ўзяць Сцепаніду, у яе адзін хлопчык, вырасце, памочнікам будзе.

Але Спірыдон нічога не хацеў слухаць.

На трэці дзень яго дапусцілі да параненай.

Калі бальнічная сястра ў белым халаце правяла Спірыдона па высокім калідоры і спынілася перад самымі крайнімі дзвярамі, Спірыдон, які нялоўка, на дыбачках ішоў за ёю ў сваіх вялікіх ботах і з шапкаю ў руках, таксама спыніўся і паглядзеў на сваю шапку, быццам не ведаючы, куды яе дзець, і на свае боты — ці не наслядзіў ён імі.

Сястра ўвайшла ў палату. Спірыдон праз расчыненыя дзверы ўбачыў у далёкім кутку пустой палаты ложак і на ім нейчы незнаёмы і чужы жоўты лоб.

Сястра, зірнуўшы на гэты ложак, павярнулася і паклікала Спірыдона. Той, яшчэ больш прыўзняўшыся на дыбачкі,— ад чаго яго боты нялоўка коўзаліся па слізкай націртай падлозе,— падышоў.

Перад ім ляжала Алена. Жоўты, як у нябожчыка, лоб аказаўся яе лбом. І дзіўна было, што ён гэтак хутка зрабіўся такі. Вакол глыбока запалых вачэй залеглі шэрыя зямлістыя цені. Паўзверх шэрай бальнічнай коўдры ляжалі выпрастаныя бледна-жоўтыя, быццам толькі што памытыя, рукі з адрослымі жоўтымі пазногцямі.

Сястра выйшла. Спірыдон сеў па краёк табурэткі каля жончынай пасцелі.

Яму было сорамна і няёмка, што ён сам забіў яе, а цяпер прыйшоў праведаць.

— Ну, як? — спытаў Спірыдон нейкім чужым, як яму здалося, голасам. Хацеў адкашляцца, ды збаяўся.

Слабы позірк жонкі спыніўся на ім, і па яе твары,

услед за мільганулай бледнай усмешкаю, якая нібы падбадзёрвала, прабег цень клопату.

— Памру...— слаба, ледзь чутна выгаварылі яе бледныя, бяскроўныя вусны. Яна колькі часу ляжала нерухома, быццам адпачывала ад зробленага намагання. Потым усё з тым жа выразам заклапочанасці сказала:

— Во бяда звалілася... як ты цяпер адзін будзеш... не справішся ж з гаспадаркаю...

Яна ўвайшла ў сваю звычайную ролю клопатаў пра яго і гаварыла так, як быццам не яе становішча мела патрэбу ў клопаце і спачуванні, а становішча Спірыдона, які застанецца жыць адзін, калі ў яго бульба не выбрана, і за якім не будзе каму прыглядзець і некаму памагчы.

І Спірыдон неяк па звычцы прымаў гэта і нават міжволі рабіў выгляд, нібыта яго становішча і сапраўды цяжкае. Ён нават хацеў быў сказаць жонцы, што суседзі ўжо ўгаворваюць ажаніцца, але штосьці стрымала яго ад гэтага. Ён толькі махнуў рукою, быццам не жадаючы гаварыць пра сваё становішча, і сказаў:

— Ды гэта што там, спраўлюся як-небудзь. Вось цябе б паправіць...

Але хворая на гэта толькі безнадзейна пахітала галавою:

— Пра мяне размова ўжо скончана...

Потым, прыўзняўшы пазногцямі да сябе свае рукі, што ляжалі на коўдры, здалёку паглядзела на іх і, падумаўшы, спыталася:

— Што, жывуць? — пэўна, маючы на ўвазе дачку.

— Жывуць пакуль,— адказаў Спірыдон.

Алена зноў пакруціла галавою.

— Не гаспадарчы... ад пасагу адмовіўся, значыць, капейку не будзе шанаваць... няшчасная яна з ім будзе... Любіць яе не будзе...

— Якая там любоў...— ціхім голасам сказаў Спірыдон.

— Больш двух дзён не пражыву... адработалася...— сказала Алена, потым, застагнаўшы ад болю, ляжала колькі часу нерухома з заплюшчанымі вачыма.

Спірыдону нібы запарушыніла вочы і заказытала ў носе ад слёз. Ён падумаў пра тое, што яна сама памірае, а думае толькі пра яго, а ён памятае, што ўсё ж не раз успамінаў аб прапанове суседзяў і паколькі прывык больш за ўсё берагчы капейку, яму будзе шкода грошай, калі давядзецца наймаць чалавека, бо адзін пасля яе смерці ён усё роўна не справіцца.

Алена адкрыла вочы, павярнула да Спірыдона галаву на плоскай бальнічнай падушцы, паглядзела на яго і неяк нясмела, нерашуча прамовіла:

— Пакладзі ты мяне ў блакітнай сукенцы... гэта твая памяць... так ні разу і не адзела... толькі глядзела на яе... відаць, ужо там успамінаць буду.

Спірыдон падумаў, потым сказаў:

— Шкада... Што ж яна ў зямлі напуста сатлее? Лепей няхай Усцюшка зносіць.

— А, ну добра... у чым-небудзь пакладзеш, там не спытаюць, чаму не прыбралася...— прамовіла Алена, і на яе вуснах прамільгнуў слабы цень усмешкі.

— І як усё роўна параіў хто...

Яна спынілася, часта і слаба дыхаючы. Спірыдон пачакаў і, пакольні яна маўчала, спытаўся:

— Што параіў?

— Сукенкі гэтай не адзела... і яна б прапала нізашто... распаласаваў бы ўсю...

У Спірыдона зноў засвярбелі вочы, а ў горле быццам засеў якісьці камячок.

— Ды гэта што там... чалавек даражэй за сукенку,— сказаў Спірыдон, махнуўшы рукою.

— Што ж даражэй... чалавека ж, лічы, няма ўжо. А я была ўжо адзела яе, потым зноў зняла... Як усё роўна бог выратаваў.

Спірыдон крадком выцер вочы, правёўшы па іх і па носе шапкаю, і на носе засталася пушынка ваты ад падкладкі, якой ён не заўважыў.

Алена заўважыла гэта, ёй стала шкода мужа, але яна нічога не сказала, а толькі глядзела на гэтую вату, якая рассейвала яе ўвагу.

Спірыдон глядзеў на жонку і бачыў, што ёй ужо не ўстаць, што яна сама ведае гэта, а ўсё ж прадаўжае клапаціцца пра яго. І зноў гора і шкадаванне да чалавека, з якім пражыў цэлае жыццё, сціснулі яму спазмаю горла.

Алена заўважыла і гэта, ёй зноў стала шкада мужа, і, каб супакоіць яго і падбадзёрыць, яна сказала:

— Не бядуй... можа, яшчэ выжыву... выпадкі бываюць...

— Дай бог...— сказаў Спірыдон, а сам спалохана падумаў, што тады гэта будзе бяда, калі Алена на самай справе выжыве, таму што ўсё роўна ні на якую працу яна не будзе годная, яе давядзецца толькі карміць ды даглядаць.

— Да следчага ўжо выклікалі, зараз зацягаюць, глядзі, яшчэ каня напаіць не будзе каму.

Ён сказаў гэта таму, каб, па-першае, адагнаць ад сябе ганебныя думкі, што лезлі ў галаву, а апрача таго, яму неяк сорамна было сядзець перад жонкаю, якая памірала ад яго рукі, сядзець здаровым, неацяжараным ніякім клопатам, ніякімі непрыемнасцямі, і яму нібыта хацелася выставіць сябе яшчэ ў больш няшчасным становішчы, можа быць, ненамнога лепшым, чым становішча Алены. Ён нават стараўся гаварыць нейкім слабым, хворым голасам.

— За што ж цягаць...— сказала Алена, адказваючы на яго словы пра следчага,— каб ты знарок... а што з п'янага чалавека возьмеш, ці мала што бывае...

Яна не дагаварыла, заплюшчыла вочы і закусіла бледныя вусны.

— Баліць табе? — спытаўся Спірыдон, крыху нахіліўшыся над ёю.

Алена слаба кіўнула галавою, потым зноў застагнала і пачала кідацца па пасцелі.

А Спірыдон глядзеў на яе і думаў: «Няўжо яна ўсё-такі выжыве?»

Увайшла сястра, паправіла коўдру, узяла руку хворай і, адвярнуўшыся, пачала слухаць пульс, потым міргнула Спірыдону, каб ён ішоў. Але ў гэты час Алена адплюшчыла вочы і, знайшоўшы імі мужа, сказала слабым голасам:

— Ну, ідзі... можа, не ўбачымся... наймі каго бульбу капаць, адзін не справішся. А сукенку Усцюшцы аддай... Няхай носіць... мяне ўсё роўна ў якой...

Потым, аддыхаўшыся, дадала:

— Ажаніцца б табе... Навошта чужому чалавеку плаціць. Я ўжо думала пра Кацярыну... Харошай душы баба.

— Яшчэ што выдумала! — сказаў Спірыдон.— Можа, дасць бог, паправішся.

Спірыдон пастаяў з шапкаю ў руках каля ложка і, не ведаючы як развітацца, моўчкі пакланіўся жонцы паясным паклонам, як кланяюцца нябожчыку, потым зноў нялоўка, на дыбачках пайшоў з палаты, усё з тым жа пушком ваты на носе.

Прыйшоўшы дамоў, у сваю пустую хату, дзе яшчэ зусім нядаўна жонка рупілася ля печы, Спірыдон сеў на лаву і доўга сядзеў, апусціўшы галаву. Потым адчыніў шафку, шукаючы чаго-небудзь з'есці, але нічога не знайшоў, акрамя хлеба і халодных і слізкіх ужо бульбін на загнеце ў чыгунку.

І ад гэтай пустаты і цішыні чагосьці спыненага, ад страты назаўсёды свайго нязменнага клапатлівага чалавека, ад гэтых халодных бульбін у горле зноў пачаў набірацца камячок слёз.

Яна ж як маці была яму ўсё жыццё, нават цяпер, міраючы ад ягонай рукі, думае і клапоціцца, толькі пра яго, нават пра ягоную жаніцьбу. А ён не цаніў, нават не заўважаў гэтага, і вось толькі цяпер, калі яе няма з ім, калі халодная бульба ў чыгунку напамінае пра яе, можа быць, вечную адсутнасць,— зараз ён адчуў.

І калі не ўдасца выратаваць яе, то дзеля такога жончынага кахання застацца верным да магілы Аленінай памяці. І лепей есці гэтую халодную, слізкую бульбу, чым дапусціць, каб яе месца заняў нейкі іншы чалавек, хоць бы тая ж Кацярына.

## IV

А калі на другі дзень Спірыдон ішоў у бальніцу, ён думаў, як жа цяпер будзе гаспадарка: калі яна памрэ, яму аднаму не справіцца, а наймаць — шкада грошай.

Вядома, самае лепшае — ажаніцца з Кацярынаю. Але ў Кацярыны хоць і душа харошая, у яе ж трое дзяцей... Тады лепей Сцепаніда, у яе адзін хлопчык.

А калі Алена застанецца жывая, то працаваць не зможа, і ўсё роўна прыйдзецца наймаць, таму што, пакуль яна жывая, жаніцца з другою нельга, ды яшчэ і яе глядзець чалавека наняць трэба.

І калі ён падыходзіў да бальніцы, яму падумалася, што раптам сястра выйдзе і скажа:

«Дзякаваць богу, твая старая астанецца жыць, толькі табе давядзецца ўзяць яе дадому і наняць якую-небудзь суседку, каб даглядала яе, бог паслаў табе крыж, трэба цярпець, яна ўжо не работніца».

Спірыдон пачаў меркаваць, у якую капейку гэта абыдзецца, і ніяк не мог злічыць.

Прыгнечаны гэтымі думкамі, ён увайшоў у бальнічны калідор і нясмела, быццам чакаючы свайго прысуду, стаў з шапкаю ля дзвярэй.

Сястра ўстала з-за белага, пафарбаванага масленаю фарбаю століка, за якім яна штосьці пісала, і, убачыўшы Спірыдона, падышла да яго.

— Ну...— сказала яна.

Спірыдон заміргаў, у яго замерла сэрца і на лбе выступіў халодны пот. Ён нават выцер яго шапкаю,

— Што ж зробіш, трэба цярпець,— сказала сястра ў той час, як у Спірыдона пры першых яе словах мільганула думка пра гаспадарку,— уночы памерла,— дагаварыла сястра.— Яна там, яе вынеслі да нябожчыкаў,— дадала яна.

У Спірыдона неяк супраць яго волі вырваўся ўздых палёгкі. Але пры думцы аб тым, што гаспадарка яго асірацела, што ён ужо ніколі не ўбачыць сваю старую, і пры слове «вынеслі» ён зноў адчуў у горле знаёмы камяк і нечакана для сябе пачаў так недарэчна, па-бабску ўсхліпваць, што нават і самому стала сорамна.

*1928*

# Ільля Ільф

## ВЫПАДАК У КАНТОРЫ

У канторы па нарыхтоўцы рагоў і капытоў найвышэйшай асобай быў Мікалай Канстанцінавіч Іваноў. Я асабліва прашу заўважыць яго імя і імя па бацьку — Мікалай Канстанцінавіч. Таксама трэба дамовіцца аб тым, на якім складзе яго прозвішча несла націск. Націск у Мікалая Канстанцінавіча падаў на апошні склад. Прозвішча яго чыталася — Іваноў.

Справа ў тым, што Івановых, гэта значыць людзей, якія нясуць націск на апошнім складзе свайго прозвішча, трэба адрозніваць ад іх цёзак па прозвішчы, у якіх націск падае на другі склад. Іваноў і Іванаў зусім не падобныя. Кажучы карацей, усе Івановы людзі шэранькія, а ўсе Іванавы чым-небудзь ды знакамітыя.

Івановых вялікае мноства. Іванавых можна пералічыць на пальцах.

Івановы займаюць маленькія пасады. Гэта рахункаводы, пастухі, памочнікі начальнікаў станцый, дворнікі або статыстыкі.

Іванавы людзі зусім іншага жанру. Гэта вядомыя пісьменнікі, кампазітары, генералы або дзяржаўныя дзеячы. Напрыклад, пісьменнік Усевалад Іванаў, паэт Вячаслаў Іванаў, кампазітар Іпалітаў-Іванаў або Мікалай Юдавіч Іванаў, генерал, які камандаваў Паўднёва-Заходнім фронтам у час нямецкай вайны. У іх ва ўсіх націск падае на другі склад.

Вядомасць, як відаць, і служыць прычынай таго, што націск перамяшчаецца.

Пісьменнік Усевалад Іванаў, да таго як напісаў сваю аповесць «Бронецягнік», безумоўна, называўся Усевалад Іваноў.

Калі памочніку начальніка станцыі Іванову ўдасца праславіцца, скажам, пералётам цераз акіян, то націск неадкладна перабярэцца з трэцяга на другі склад.

Так сведчаць факты, гісторыя, жыццё.

Вяртаючыся, аднак, да канторы па нарыхтоўцы рагоў і капытоў для патрэб грабянёвай і гузікавай прамысловасці, я павінен зазначыць, што загадчык канторы быў чалавек нічым асабліва не знакаміты. Мікалай Канстанцінавіч быў, калі можна так сказаць, чалавек дробны, з націскам на апошнім складзе. Служачы — і нічога больш.

Мікалай Канстанцінавіч знаходзіўся ў стане найглыбейшага роздуму.

Справа ў тым, што ўсе служачыя на нарыхтоўцы рогавых матэрыялаў мелі аднолькавыя з Мікалаем Канстанцінавічам прозвішчы. Усе яны былі Івановы.

Прыёмшчыкам матэрыялаў быў Пятро Паўлавіч Іваноў.

Арцельшчыкам у канторы служыў Канстанцін Пятровіч Іваноў.

Першым рахункаводам быў Мікалай Аляксандравіч Іваноў.

Другога рахункавода звалі Сяргеем Антонавічам Івановым.

І нават машыністка была Іванова Марыя Паўлаўна.

Як усё гэта так падабралася, Мікалай Канстанцінавіч скеміць не мог, але добра разумеў, што далей так працягвацца не можа, бо пагражае катастрафічнай небяспекай. Ён адчыніў дзверы кабінета і слабым голасам склікаў супрацоўнікаў.

Калі ўсе сабраліся і расселіся на прынесеных з сабою цёмна-малінавых венскіх крэслах, Мікалай Канстанцінавіч спалохана паглядзеў на сваіх падначаленых. Зноў з незвычайнай вастрынёй ён успомніў, што ўсе яны Івановы і што сам ён таксама Іваноў. І не могучы больш стрымлівацца, ён закрычаў з усяе сілы:

— Гэта свінства, свінства і свінства! І я даводжу да вашага ведама, што так далей працягвацца не можа!

— Што не можа? — з вялікім здзіўленнем запытаў прыёмшчык Пятро Паўлавіч.

— Не можа так больш працягвацца, каб ваша прозвішча было Іваноў! — цвёрда адказаў Мікалай Канстанцінавіч.

— Чаму ж маё прозвішча не можа быць Іваноў? — сказаў прыёмшчык.

— Гэта вы зразумееце, калі вас выганяць са службы. Усіх нас выганяць, бо мы Івановы, а значыць, родзічы. Цесна згуртаваная хеўра родзічаў. Як я гэтага да сённяшняга дня не заўважаў?

— Але ж вы ведаеце, што мы не родзічы! — залямантавала Марыя Паўлаўна.

— Я і не кажу. Другія скажуць. Абследаванне. Ці мала што? Вы мяне падводзіце. Асабліва вы, Марыя Паўлаўна, у вас нават імя па бацьку агульнае з Пятром Паўлавічам.

Прыёмшчык уздрыгнуў і цяжка задумаўся.

— Сапраўды,— прамармытаў ён,— супадзенне дзіўнае.

— Трэба мяняць прозвішчы,— закончыў Мікалай Канстанцінавіч.— Нічога іншага не прыдумаеш. І чым хутчэй, тым лепш. Лепш вам самім.

— Бадай, я памяняю, калі трэба! — уздыхнуў арцельшчык.— Падабаецца мне тут адно прозвішча — Леанардаў. У мяне такі стары быў тут знаёмы. У яго нават адзін дырэктар хацеў купіць прозвішча. Вельмі яму падабалася. Дзесяць рублёў даваў, але стары не згадзіўся.

— Леанардаў — цудоўнае прозвішча,— зазначыла машыністка,— але як вы яго прымеце?

— Цяпер можна. Стары паехаў ва Уладзівасток крабаў лавіць.

Марыя Паўлаўна з хвіліну памаўчала, разглядаючы свае белыя панчохі, якія ад мыцця атрымалі колер рассыпанай солі. Нарэшце яна адважылася і бадзёра сказала:

— Якое ж узяць прозвішча мне? Мне хацелася б, каб прозвішча было як кветка.

І Марыя Паўлаўна пачала перакройваць назвы кветак у прозвішчы.

Духмяны гарошак, анюціны вочкі і іван-ды-мар'я былі адразу адкінуты. Марыя Духмянава, Марыя Гарошкава і Марыя Духмянагарошкава былі забракаваны, высмеяны і аддадзены забыццю. З іван-ды-мар'і атрымлівалася тая ж Іванова. Прыгожыя былі кветкі фуксіі, але прозвішча з фуксіі атрымлівалася нейкае пошлае: Фукс. Мадэмуазель Фукс завяла раней, чым паспела расквітнець.

Тады Марыя Паўлаўна з дапамогай абодвух рахункаводаў адважна ўрэзалася ў самую глыбіню кветкавых плантацый. Царства флоры было даследавана з мудрай стараннасцю. Гарманічныя імёны кветак вымаўляліся нараспеў і скорагаворкай: Мацыёлава, Ландышава, Фіялкіна, Цюльпанава.

Рахункаводы выбіліся з сілы.

— Хрызантэма, архідэя, астры, рэзеда! Далібог, рэзеда цудоўная кветка.

— Дык мне ж не нюхаць, зразумейце вы!
— Вяргіня, барвенак, геліятроп.
— Або атрапін, напрыклад! — сказаў раптам арцельшчык, які маўчаў увесь час.

Пакуль рахункаводы здзекаваліся з арцельшчыка, тлумачылі яму, што антрапін не кветка, а медыкамент, Марыя Паўлаўна прыняла рашэнне называцца Ананасавай.

Гэта было нелагічна, але прыгожа.

У Сяргея Антонавіча ўсё было добра, хоць фантазіі ў яго не хапіла. Сваё прозвішча Іваноў ён змяніў на Пятрова. Усе паблажліва ўсміхнуліся.

— У мяне лепш! — пахваліўся першы рахункавод.— Мяне цяпер завуць Мікалай Аляксандравіч Варэнікаў.

Прыёмшчыку спадабалася прозвішча Даведчанка. Гэта было прозвішча добрае, спакойнае, а галоўнае — сугучнае эпосе.

Задаволены больш за ўсіх быў Мікалай Канстанцінавіч Іваноў, загадчык канторы па нарыхтоўцы рагоў і капытоў для патрэб гузікавых фабрык.

— Я вельмі рады,— сказаў ён ветліва,— што ўсё ўладзілася так добра. Цяпер ніякія плёткі сярод насельніцтва немагчымыя. Сапраўды, што агульнага паміж Даведчанкам і Варэнікавым, паміж Ананасавай і Леанардавым або Пятровым? А то, ведаеце, Іванова, ды Іваноў, ды зноў Іваноў і зноў жа Іваноў. Гэта кожнага можа навесці на думкі.

— А вы якое прозвішча ўзялі сабе? — запыталася Марыя Паўлаўна Ананасава.

— Я? А навошта мне новае прозвішча? Цяпер жа Іванавых у канторы больш няма. Я адзін, навошта ж мне мяняць? Да таго ж мне няёмка. Я адказны работнік, я ўзначальваю кантору. Нават па тэхнічных меркаваннях гэта цяжка. Як я буду падпісваць грашовыя чэкі? Не, мне гэта немагчыма, ніяк немагчыма зрабіць.

...Усё пайшло сваёй чаргой, і праз вызначаны законам тэрмін аддзел запісу актаў грамадзянскага стану зацвердзіў за пяццю Іванавымі іх новыя прозвішчы.

А праз тыдзень пасля гэтага патух заранак новага жыцця, што палаў над канторай па нарыхтоўцы рагоў і капытоў. Мікалая Канстанцінавіча звольнілі за тое, што прымусіў супрацоўнікаў, каб яны змянілі прозвішчы.

Атрымаўшы гэтае сумнае паведамленне, Мікалай Канстанцінавіч ціха выйшаў са свайго пакоя. Тужліва паглядзеў ён на Канстанціна Пятровіча Леанардава, на Пятра Паўлавіча Даведчанку, на Мікалая Аляксандравіча Варэнікава і на Марыю Паўлаўну Ананасаву.

Не могучы вытрымаць цяжкага маўчання, арцельшчык сказаў:

— Можа, вас зволілі за тое, што вы не змянілі прозвішча? Вы ж самі казалі...

Мікалай Канстанцінавіч нічога не адказаў. Хістаючыся, ён падаўся ў кабінет — як відаць, здаваць справы і паўнамоцтвы. Ад гора ў яго адразу скасіліся ўбок высокія скараходаўскія абцасікі.

*1928*

# Мікалай Зарудзін

## СТАРАЖЫТНАСЦЬ

За гранню даўніх дзён...
*Фет*

### 1

Старажытная жнівеньская ноч. Горача зіхацяць агнямі самацветаў зоркі. У іх ахвярнай мігатлівай яркасці маўклівы лес навісае векавою цемраю; прападаючы ў цемрадзі, знікаюць у шэрым небе сасновыя шаты. Я ляжу ў акінутай хаціне,— дзе, калі, з кім — ужо забыў, і гляджу на касцёр, на кучу калючага барвістага жару; ён змрочна звініць і пакрываецца тонкім папялістым пухам. Шэрыя цені мінуўшчыны!..

І першы камар звініць песняю вятлужскіх лясоў. Тонка спявае зялёная глуш, ядавітая, як мядзянка, зыбка курыць лясною светлаю параю, настоем світальных кветак.

Глуш гніе. Ноч сырая. Сумотнае вогнішча. І таўкуцца, і мяшаюцца цені.

Дзе я? І — што я? У мінуўшчыне ўзнікаюць спрадвечныя, зацененыя нетры лясоў, камарыная процьма бураломy і яловых бароў. Там у цемры старадаўняя рака серабрыцца і цячэ на нізіну. Яна нясе ў імглу свае воды і віры, зоркі, што спяць у застойных кручах, свае пяскі, чорныя мораныя дубы, якія запалі ў салодкай ціне. Жураўы яшчэ стаяць у чарадзейным тумане. На лугах росныя і халаднаватыя шыпшыны. Пахне міндалем заплецены вербалозавы ўбор. Воды бялеюць качыным світанкам. Я ляжу ў чаднай курнай хаціне, у глыбіні заваленых драўнянаю мярцвячынай кварталаў, у гнілым хаосе ласіных балот. Дым круціцца і цягнецца ў зорнае акенца. Я чую, як кругом, на дзесяткі вёрст, прагна растуць, упіваюцца ў зямлю, варушацца і гніюць лясныя трушчобныя нетры.

Камары спяваюць. Яны джаляць слых найтанчэйшым іголкавым піскам, узбуджана гудуць у сырой цемры. Яны спяваюць пра чырвоны скон вогнішча, пра вятлужскія яловыя кварталы, расказваюць пра цемрадзь глушцовых заказнікаў.

Я засынаю, звальваючыся ў насцярожаную дрымоту. Агонь мігае мне распаленым звярыным вокам. Змешваючыся з поцемкамі, я бачу беласнежнае, ласкавае, незразумелае, потым усё запаўняе ноч, і мне сніцца старадаўні ўрачысты лес, напоўнены змрокам. Ён поўны начнога сутоння, у якім узнікаюць мякка-палевыя дзіўныя ствалы. Прывідна падымаюцца яны ўгору незлічонымі бледнымі палосамі, губляючыся ў густым хвойна-зоркавым свеце. І раптам у імглу падымаюцца вялізныя хмурна-свінцовыя птахі. Яны рассаджваюцца наверсе, і ломка ходзяць у цемры іх круглыя чорныя хвасты. І вялікія касцяныя каплі, адна за адной, зрываюцца і падаюць у цішыню з хвойных верхавін.

Галубяцца!

Лес нерухомы. Сосны — як струны, цішыня — як узняты тапор. Пад зоркаю, калі нарадзілася зараніца, тысячу гадоў назад, вясною, шавелячы сырасць сасны, заспяваў глушэц.

## 2

Гэтыя птушкі валодаюць мною з самых аддаленых дзіцячых часоў. На вярхоўях жыцця, на самых таемных сцяжынках узнікаюць мае першыя адчуванні, як былыя заравы патухлых калісьці паляўнічых вогнішчаў. З пажаўцелай гравюры даўнейшага выдання Брэма паглядзеў на мяне вялікі няўклюдны птах з круглым курыным целам, барадатаю галавою — такою, з якою цяпер ужо ніхто і нішто не бывае... Ён сядзеў на хваёвым суку, важны, намаляваны з той манернай дабрадушнасцю, якой вылучаюцца старамодныя паляўнічыя малюнкі. Птах выцягнуў галаву і збіраўся ляцець. Глыбока пад ім чарнелі ганыстыя лясныя абшары, якія цягнуцца ў несусветную даль. Мяне на ўсё жыццё захапіў гэты малюнак і асабліва тое, што лес цягнуўся на ім *на край свету*... Нешта сярэдневяковае было ў гэтых германскіх дрымучых дрэвах, у туманнай глыбіні сырых і змрочных нетраў. Яны ўзнімаліся, абвешаныя імхамі, узносячы ўверх бяздонне грознагаляснога акіяна, зліваючыся ў бясконцую чорную хвойную далячынь. Высока над вяршалінамі сядзеў стары паляўнічы птах і глядзеў праз усё маё жыццё.

Няхай на дварэ шуміць і круціць завіруха, няхай снег заносіць усю зямлю і шамаціць, ударaючыся ў аканіцы,— мне соладка гадзінамі не адрывацца ад таямнічых брэмаўскіх слоў.

«...Ён гнездзіцца па басейнах глухіх і таежных рэк...— эпічна заўважае старадаўняя кніга, што пахне скураю і кіслаю пракаветнасцю.— Сустракаецца часта ў сярэдняй частцы Еўрапейскай Расіі...»

Жоўты круг газніцы пачынае цямнець і расплывацца. Барадаты птах, што сядзіць над пустыняй лясоў, ціха і насцярожана прыпадымае галаву. Незразумелая ружовая і жаўтаватая карта, што вісіць у бацькавым кабінеце, цямнее: я адчуваю, як з яе дзьме сыры, непраглядны вецер. Вось, плёскаючы хвалямі, павольна цякуць уніз свінцовыя, сцюдзёныя рэкі. На іх няма ні агеньчыка. Жоўтыя сцены сасновых лясоў стаяць на іх берагах; чуваць, як ходзяць са скрыпам дрэвы. Снег цяжкімі камякамі ляціць на затлушчаную непрыветную ваду. І ледзяная цемра вее на белыя сны дзяцінства сваёй хвойнай бязлюднай бездалню... Як стогнуць наскрозь прадзьмутыя, халодныя лясы! Завіруха абсыпае іх калючым снегам і ахутвае цемраддзю. А птах сядзіць наверсе, дзе асабліва сумна і ветрана, дзе вяршаліны ходзяць з пранізлівым рыпам, правальваючыся ў ноч і зноў вяртаючыся з цемры,— недаступны на сваім суку, адзін на ўсім свеце...

Прасека ледзь бялее пад ім бледнаю снежнаю млечнасцю, туманнае мора вяршалін набягае сівым прыбоем. Я іду казённым лесам і чую, як ён гудзе, як там наверсе кара звініць і лопаецца ад марозу. А дрэвы стаяць струнка і густа, узнімаючыся, як хвошч, шчыльнай чорнай сцяной. Штосьці ўпартае, ненасытнае і тужлівае азарае глыбіню сэрца. Вяршаліны ходзяць, нахіляючы свае блакітныя, балотна-асуджаныя сцяблiны, паслухмяныя буры, што ляціць з глыбінь таежнай сібірскай пустыні. Яна праносіцца над застылымі азёрамі і прасекамі, над палямі і пагостамі, над усім светам і над тым далёкім, ужо начным, маім губернскім горадам...

Дзе ж яно, аджаўцелае святло газніцы юнацтва?

Вецер шамаціць у застылых кустах бэзу, вецер свішча і калыша зоркі, галкі дзіка, як чэрці, зрываюцца ў гарадскім садзе. На вуліцах холадна, няўтульна, і асабліва холадна ад бяссснежных парканаў. Вось беласнежнай пячорай выплывае вуліца, маркотная, на якой ёсць кінематограф «Бразільскі» і ёсць фатаграфія, дзе ўжо шмат гадоў выстаўлены доўгія партрэты, людзі на фатаграфіях — з прычасанымі пісьменніцкімі валасамі і ў ботах; рукі трымаюць яны каля паддзёвак, адтапырыўшы; твары ў іх пажаўцелі ад часу і нездаволеныя. Горад стары, ліберальн-

ны,— пад бокам фабрыкі. Тут жа вецер абсыпае снежным шэлестам чорную шыльду з крэндзелямі залатых літар:

Кёніг і сын
«ДЗІЯНА»

Я заходжу ў падземнае паляўнічае шчасце. Яго пахучы прыцемак пяшчотна ззяе вітрынамі з шырокімі блікамі матавых ружэйных ствалоў. Паветра соладка настоена на трывожна-шчаслівым, вабным паху: гэта вісяць сумкі і патранташы з рыплівай шчыгрынавай скуры. У поцемках каля лесвіцы бавіць час вялізны плюшава-буры мядзведзь з новенькай двухстволкай на ярка-зялёнай шлейцы. Вялізны шэры птах, лопаючы крыламі, з надрыўным свістам зрываецца з пажаўцелай брэмаўскай гравюры і застывае на пыльным суку з выгаралымі сасновымі іголкамі, побач з чорна-кучаравай галавою буйвала, які стрыжэ злоснымі шклянымі вачыма. У птаха тапырыцца шыя і пераліваецца зялёным срэбрам. Ён нахіляецца, і шырокі хвост яго разгортваецца з трэскам, малюючы на сцяне пышны японскі веер. Дзверы старамодна брынкаюць дамашнім адстаўным званочкам.

Стары Кёніг выходзіць з магільнай цемры ў нямецкім тугім каўняры, у бэжавым гальштуку са шпількай, у манжэтах з крухмальна-сінімі палоскамі. Да яго вязанай камізэлькі, прапахлай цыгарным дымам, шчыльна прыціснута адкрытая стрэльба. Яна пераліваецца варанёнай сінню і шэрым глянцавым мармурам загартоўкі. Стары міргае шызымі, падагрычнымі вачыма з чырвонымі жылкамі і задыхана гаворыць:

— Малады чалавек... Да габэн зі айнэ прахтфолле флінтэ! [1] О! Гэтая стрэльба...

І стрэльба, асвяціўшыся сваімі начышчана-паліраванымі нетрамі, мякка шчоўкае і фарсіста зачыняецца ёмкім шчыткам. Ложа яе адлівае вішнёвымі згусткамі кучаравага вошчанага арэха. Шырокая прыцэльная планка імкліва звужаецца па шэрай гільяшыроўцы [2].

— Э-дуард! — хрыпіць Кёніг-бацька.— Малады чалавек хоча лепшы папяровы гільсы.

Зялёныя і чырвоныя шарэнгі роўных кардонных тру-

---

[1] Вось вам цудоўная стрэльба! *(ням.)*

[2] Ахоўны ад светлых блікаў узор з выгравіраваных, узаемна перасечаных ліній.

бак адлюстроўваюцца на шкле. Бледныя рукі маладога Кёніга здзіўляюць вялікім брыльянтам.

Ён спрытна раскладвае гільзы на паліцах. Да іх далучаюцца сінія парахавыя скрынкі з круглым мядзведзем на этыкетцы, рамяні, сеткі і тыя таямнічыя медныя і афарбаваныя ў жабін колер рэчы, якія так акуратна раскладзены за ледзянымі падсвечанымі шыбамі.

О, гэтыя шыбы і зачараваныя ў іх бліскучыя вучнёўскія гузікі!

У цемры мінулага Кёніг-сын перадае мне цяжкія, як гіры, акуратна звязаныя пакункі і блішчыць касцяным водсветам сваёй нафіксатуранай галавы з ганарыстым прускім праборам.

Званочак бразгае — і з марознаю параю паспешнае дыханне шчасця ахоплівае поцемкі вуліцы з яе залацістымі губернскімі агнямі.

## 3

На вуліцы гоніць сухі снежны пыл і праймае ледзяным скразняком. Гэта дзьме [redacted] Волгі. Калі прайсці далей, мінуць Пакроўку і вячэрні, ужо ахінуты прыцемкамі крэмль з яго лаўкамі і дрэвамі, якія цягнуць у ноч свае голыя і кашчавыя шчупальцы, выйдзеш на Адхон. Там зусім пуста, бяздомна, ногі патанаюць у глыбокіх сумётах. Вялізная чорная бездань зарэчча цьмяна мігціць рэдкімі агнямі, абвявае сваім пустэльным, снежным і лясным змрокам. Губерня распасціраецца ў цемры сваімі лясамі, балотамі і пад саламянымі стрэхамі соннымі вёскамі. Вецер не даносіць ні брэху, ні стуку. Але я чую здалёку, нібы з-пад зямлі, як мацнее глухі мачтавы шум; рэзкі скрып уразаецца ў гэты роўны прыбой, лес жаласна плача, крычыць і стогне; над начной губерняй расце тужлівы драўляны набат... Лес абсыпаецца снегам, набягае грозным гулам, які ўсё нарастае. Лес ідзе і гудзе. Па рацэ, дзе ні душы, ганяюцца адна за адной белыя памінальныя віхуры.

Тут, менавіта тут, даўным-даўно, вясною, калі заволжскія вятры становяцца трывожныя і вільготныя, праносіўся я, мінаючы напоўненыя гулам лясныя паўстанкі з іх штабялямі бярвення, што пахне морам, бясконцыя масты над снежным яшчэ трыснягом, семафоры, павятовыя станцыі. Бярозавыя гаі ўжо тума初ліся, апухалі ліловымі і сінімі махрамі. Снег на старожцы, што прамільгнула мі-

ма, ярка-жоўты ад сонца, якое ўжо распякло бярвенне паркнаў, змарнеў і пашарэў. Вечарам зялёны ліхтарык семафора гаварыў пра пустату пералеску, пра кволыя прыцемкі, пра Расію.

Поезд ужо грукоча ноччу. Я імчуся ў прытушаным вагоне, цёмнай лясной неагляднасцю туды, на к р а й  с в е т у, у нейкую даўнюю, акінутую краіну. І тыя ж самыя старамодныя страчаныя словы захапляюць памяць пад ляскат і грукатанне дымнага дальняга поезда: «...Па басейнах глухіх і таежных рэк... у вярхоўях занядбаных, запаведных рэчак, у змрочных сырых лясах...» Вагон, быццам прысядаючы, яшчэ імклівей і страшней кідаецца ў свой чыгунны і незваротны паток. «...Жыццё гэтых птушак мала даследавана і таямнічае. Яно схавана ад вачэй чалавека. Яны не выносяць няволі і адцясняюцца ўсё далей ад чалавечага жылля, туды, дзе яшчэ захаваліся дзікія нетры, непраходныя ягадныя балоты, дрымучыя бары...» Глухі, аддалены і тужлівы свісток паравоза ярка прарэзвае хісткі морак векавечнага, забытага; з шумам, адказваючы рэхам, праносяцца нейкія будынкі, штабялі дошак, вагоны — і ўсё абвалакаецца вільготным цёмназялёным шумам.

Якая ноч стаіць над светам!

Мы выходзім з доміка ў самы позні час глухой ночы, і адразу вочы прападаюць у непрагляднай бязмежнай цемры. Дрэў не відаць. Яны зліліся з ноччу і патанулі ў ёй. Ад зорак, якія мігаюць у сумных бяздонных прасветах, мітусіцца ў вачах. Яны пераліваюцца звярынымі насцярожанымі агеньчыкамі. Высь высвечваецца галавакружнай раістай бледнасцю.

Мы ідзём ужо цэлую вечнасць. Я не бачу ляснічага, але смутна адчуваю, як пахістваецца яго нешырокая сутулая спіна, як раскалыхваецца падгорнуты рукаў, што закрывае куксу яго левай рукі. Мне ўспамінаюцца яго старэчыя брытыя шчокі з ліловымі ацёкамі, яго кароткія пракураныя вусы і худая шыя ў расшпіленым каўняры, ад якой мне заўсёды становіцца сумна, невядома чаму,— у старэчых шыях столькі тужлівага і жаласлівага, чаго ніяк не выкажаш.

Ляснічы спыняецца і шэпча тонам старадаўняга змоўшчыка, таямніча і сур'ёзна:

— Ну, цяпер баста. Учора... тут вось, на балоце, дваіх забіў... Як бараны! Стойце ж... стойце...

І ён перастае дыхаць. Лес звініць жахлівай цішынёй;

я заміраю ад страху — так моцна стукае маё сэрца. Але ляснічы гаворыць ужо гучна і звычайна:

— А вось мядзведзя страляць яшчэ цікавей, бацюхна... Той, ведаеце, спрытнейшы. А ночка-ноч якая! Літургія!

Зорнае зарава пабляднела. Мы ідзём ужо ўпэўнена: у змроку сталі таямніча ўгадвацца дымныя слупы сасновых ствалоў. Потым зарміцелі зоркі. Лес парадзеў. Рэчка пералівалася і вызваньвала недзе збоку, наводшыбе,— начныя прыцемкі нізкага балота ўзніклі перад намі шэрым прывідам.

— У самы час! — дыша мне на вуха ляснічы, і я чую кіслы пах гарэлачнага перагару. Божа мой! Ён зноў піў усю ноч, мілы, сівы, занядбаны...— Вы... таго, дзейнічайце,— гаворыць ён.— А я паслухаю тут. Толькі цур: страляць пад песню, ісці не спяшаючыся — птах непалоханы, мацёры...

Ён знікае. Я застаюся адзін на ўсім свеце, і ад шчасця за давер мне страшна і нязвычна. Ціха. Ці не ўзвесці куркі? Паслухмяныя шурпатыя нарэзкі мякка паддаюцца пальцу і шчоўкаюць. І тут жа мне ўяўляецца пусты левы рукаў ляснічага. Што я раблю! Рука намацвае спускі, і ў той жа самы момант недзе недалёка, наверсе, у бледна-зорным мораку лясных вяршалін, штосьці аглушальна лопае і абрываецца аддаленым громам...

Пачалося.

Я чую, як далёка за вярсту трэснула і ўпала шышка. Невядомая маленькая птушка жаласна і тонка піскнула ў суччы. Над балотам нябачна і трывожна працыкала, на нізкай ноце павісла слонка, але я не звярнуў на яе ніякай увагі. Тужліва пратрубіў жураўліны хор з нетраў шэрых балотаў і змоўк. Саладжава-балючая пакута сціснула сэрца і лёгкія. «Раз... два... тры...:» — лічыў я да ста, з таемнай надзеяй, што вось тады ўсё ўладзіцца, усё праясніцца і я ўбачу (хоць бы адзін раз!) тое таямнічае, што ўжо стала для мяне страшэннае сваёй незвычайнасцю і сваёй неверагоднасцю, што раптам павінна з'явіцца невядома адкуль, з цёмных, даўно знаёмых, але ўжо даўным-даўно зніклых глухіх нетраў. Якая неспакойная, старадаўняя, язычніцкая сіла павінна прывесці сюды, у гэты зорны змрок, яго, гэтага дзіўнага вялікага птаха, што жыве яшчэ дагэтуль далёкім, дачалавечым светам, які можа сніцца толькі на бесклапотнай зары дзяцінства?

Ужо світала. Ірваныя і грубыя абрысы сосен чарнелі

ў зеленаватым небе. Балота траціла тайны і раскрывалася. Свет прыроды выступаў сваім багатым хаосам. Усё маўчала. «Усё загінула,— думалася мне.— Дый ці магло быць інакш?» І мне ўжо ўявіўся дзень, дзённае свежае святло, мы з ляснічым па веснавой светлай дарозе. У старога шэры пражыты твар. Які ён худы, бездапаможны і няшчасны! «Вы не засмучайцеся,— гаворыць ён.— Глушцоў усё роўна знойдзем. Не сёння, дык заўтра». І ў яго голасе гучаць старэчыя, выбачлівыя ноткі.

Неба ўжо свяцілася. І раптам угары, недзе бясконца аддалена, я пачуў слабае, не ўлоўнае вухам шыпенне. Яно абарвалася, каб праз некалькі імгненняў з'явіцца зноў не падобным ні на што на свеце. Незразумелае, непрыхільнае да мяне лясное жыццё, далёкія водгукі бурлівай крыніцы, забытая гаворка вугалля ў хвіліны затухання — цёмнае, непрыкметнае, неадчувальнае,— ледзь кранулася слыху і знікла. І ў тое ж імгненне я ўчуў крохкія касцяныя гукі, якія звонка і адрывіста выбівалі пачатак песні; яны ўчасціліся і рассыпаліся ў імклівае і страснае калена.

Я скакаў сярод туманных рэдкіх сосен, спыняўся, не дыхаў, падаў, падскокваў зноў, замiраў, калі заміралі шыпячыя гукі. І неўзабаве я ўбачыў птаха, які чорным сілуэтам хістаўся між хвойных галін. Глушэц сядзеў, раздзьмуўшы, расставіўшы сваё магутнае пер'е, варушачы веліччу раскінутага паўкругам хваста з белымі мармуровымі плямамі. Барадатая яго галава прыпадымалася і апускалася ў такт бурліваму горлу. Кудлаты і чорны, ён паварочваўся ў няшчотным ружовым ззянні, што пранікала праз змрочнасць сучча. Старадаўняе, паўночнае, задзірыста-пеўнева было ў гэтым калматым прывідзе, павіслым у світальнай маўклівасці дрэў.

Задыхаючыся, я навёў ствалы стрэльбы на гэта чорнае дзіва, што паходжвае па суку,— і разам з барвовым, гулкім ударам, які скалануў увесь лес, зразумеў, што ўсё загінула. Вялізны птах страпянуўся, грузна рынуўся ўніз і, крута залопаўшы і засвістаўшы, замільгаў паміж шызых ад куродыму сосен. Ружэйны дым плаваў па зямлі сінімі сырымі кругамі. Я недарэчна бег, спатыкаючыся каля пнёў, гнілога сучча, калматых і грозных ствалоў. Адрывістыя гукі і шорахі — і шчасце і жах — яшчэ стаялі ў вушах. І востры перадсмяротны боль, цэлы нявінны свет, загублены мною, запоўнілі ўвесь лес, сачыліся горкімі начнымі зоркамі, што яшчэ стаялі ў вачах; нясцерпна пякуча навісалі яны, расплываючыся гарачымі, задыханымі сос-

намі, сцякаючы распаленымі салёнымі жгутамі, закрываючы ўсё асляпляльным бляскам. Разбіваючыся на брудныя струменьчыкі, падалі яны на маю першую стрэльбу.

— Іван Міхайлавіч!.. Іван Міхайлавіч! — крычаў я, чапляючыся за сучча, беззваротна гінучы, захлынаючыся ў дзікім адчаі і жудасці.— І-ван Мі-хай-лавіч!..

## 4

У лясной хаціне было цёмна і чадна ад густога шэрага дыму. Чорнае пракуранае бярвенне навісала з цемры і, паблісквеючы мокрым смаляным куродымам, маркотна адсвечвала досвіткам — познім і сырым. Світанне ледзь прыкметна сеяла свае палосы ў нізкія дзверцы. У гэтай бледнасці была перадасенняя гіблая лясная пахмурнасць, калі зелень становіцца занадта яркая і з выгляду стомленая.

Зарудзін прачнуўся ў цяжкім трызненні і ледзь адарваў цела ад перасохлага калючага сена. Ад косых і няроўных нараў спіна і бёдры нылі свінцовай стомленасцю. Ён злез з дошак і паўзком дабраўся да парога, вылез з прэлай, задымленай лесніччоўкі. Цьмяны, заліты вадою, зацягнуты туманам свет адразу абдаў яго тысячай сваіх пахаў. Лес лунаў. Начны востры водар яшчэ ўзнімаўся ад зямлі. З лугоў душна і востра пахла балотнымі кветкамі. Хмары сеялі святло, падобнае на ззянне. Ноч яшчэ жыла, камары тонка і надрыўна звінелі над заспаным тварам, у горле пяршыла. І Зарудзіну адразу стала не па сабе і адзінока на гэтым зморанным лясным світанку.

Павеяла, абняло аднекуль подыхам далёкага, амаль забытага сну. Спускаючыся да рэчкі, кранаючы кусты, ахутаныя начнымі махровымі пахамі, ён адчуў на сэрцы лёгкую звонкую пустату, і шчаслівую, і салодкую. Скарацечна пранёсся веснавы цень юнацкага, падзьмула проста і лагодна радасцю мілай памяці... Старэнькі Іван Міхайлавіч памёр восем гадоў назад. Ён акінуты, усімі забыты, нікім не аплаканы.

Жыў. Даўно. Ніколі. У імклівыя дні маладой пары.

Вада на рэчцы стаяла ў забыцці, асірацелая, амаль асенняя. Вялікія кусты чорных парэчак з качыным лапчастым лісцем дакраналіся да вады — і вада абдавала іх лагодным вільготным халадком. Слаўна паплёскацца ў дзікай, закінутай на краі зямлі рэчцы, адчуць у сабе бурную даўнюю сілу! Паднімаючыся па белым ад расы каса-

горы, Зарудзін нічога ўжо не памятаў з ночы: свет жыцця акружыў яго свежай, кіпучай сілай.

Вялізныя каршуны коса луналі над лесам, іх дзікія крыкі гаварылі пра пустату асенніх бароў і адлётныя чароды.

На тонкім маскоўскім гадзіннічку яшчэ няма чатырох. Але падымаць Аляксея Якаўлевіча, бадай што, пара. Дажджу, відаць, больш не будзе, і ўсё ж лес надоўга яшчэ застанецца і сыры і туманны. Гэта нядобра: глушцы не любяць вады і пасля дажджу не будуць шырока хадзіць — з сабакамі можна прайсці каля самага вывадка. А сярэдзіна жніўня — самая пара для летняга палявання на глушцоў. Маладыя ўжо выраўняліся, пасталелі, нагналі моцнае пер'е. Пеўнікі надзелі свае расхінутыя каўняры, пацяжэлі на ўраджайных цяперашніх ягадніках і, падымаючыся, ляцяць з тым надрывістым цяжкім высвістам, які так радуе сэрца заядлага паляўнічага. Выводкі моцна трымаюцца сваіх аблюбаваных мясцін. Змешаныя глухія пералескі каля зімніх дарог, ягадныя баравіны, сухія пясчаныя выспы, парослыя верасам і стогадовымі соснамі, асінамі і ялінамі — звычайныя іх угоддзі, дзе з добрымі лайкамі можна заўсёды наткнуцца на гэтых цудоўных, насцярожана-пустэльніцкіх птахаў.

Леснічоўка яшчэ курылася, калі паляўнічыя, кінуўшы лайкам апошнія кускі, не аглядаючыся, кранаючы стрэльбамі росныя галінкі, прапалі ў віры клубоў зялёнага мрова. Стары ішоў наперадзе, павольна, раз за разам пералазячы цераз агромністыя старадрэвіны-вываратні, спрытна праходзячы паміж пераплеценых, пераблытаных і схіленых адно да аднаго дрэў, сучча і хмызнякоў. Зрэдку ён спыняўся і свістаў сабакам, і тады Зарудзін зноў і зноў з цікаўнасцю ўглядаўся ў яго дзіўнае, загадкавае ў старадаўняй уедлівай копаці аблічча.

«Аляксей Якаўлевіч,— хацелася спытацца ў яго,— хто вы? Гатэнтот? Дзікун з вострава Таіці? Жрэц, што памёр пяць стагоддзяў назад? Ці проста невядомае чалавечае дзіця?»

Але стары неразгадны. Скураны заношаны картуз хавае яго доўгія, як у бацюшкі, космы, пранізаныя карычневай, бруднай, старэчай пляшывасцю. Вочы яго наіўныя і сінія, уражваюць сваім шырокім адкрытым спакоем. У няроўнай рэдкай барадзе, як заўсёды, ублыталіся крошкі, згубленыя яго празмерна вялікімі, абвіслымі губамі з пастаянна запечанай сінню. Ён стаіць, урослы ў зямлю, у ка-

рані, у пышную гушчэчу зялёных незлічоных сцяблоў, у сваім шэрым парцяным лахмоцці нагадвае струхлелага таежнага ідала.

— Ху-уць!.. Ху-уць!..— крычыць ён такім тонкім жаласным голасам, што рабчыкі траскучым веерам падымаюцца ў алешніку за балотам.— Моцік!.. Моцік!.. Ху-уць!

Моцік серабрыстым ценем мільгае сярод елак, абнюхвае на хаду імховыя купіны і кідаецца, бегаючы кругамі, за балота. За ім чорнаю лісіцаю вырастае з-пад зямлі вастравухая Лялька з зялёна-шэрымі хрустальнымі вачамі. Яна глядзіць на паляўнічых і віляе хвастом: перапрошвае. У звярыным позірку даклад: я зрабіла ўсё; я магу; глушцоў няма; я люблю цёплыя глушцовыя кішкі.

— Шукай! — сярдзіта гаворыць стары.

Зарудзіну відно, як Лялька хутка бяжыць у лес, як яна спыняецца, убірае з зямлі цэлы свет недаступных чалавеку пахаў і слядоў. Яна шукае трывожна, то водзячы носам, то імкліва кідаючыся наперад. Зарудзін здымае з пляча мокрую стрэльбу і спрабуе засцерагальнік: стрэльба гатова.

— Аляксей Якаўлевіч,— шэпча ён.— А Лялька прыкмеціла...

Але стары спакойны, як заўсёды, і, як заўсёды, аднолькавы яго руды твар у чорна-сініх вуграх і плямах.

— Міма не пройдуць ні ён, ні яна,— адказвае стары таксама шэптам, але проста і звычна.— Гэная вось сучка хоць і маладзейшая, а больш кемлівая. Глядзі — і на птушанятка ніякае не гаўкне.

Сабак ужо не відно. Жоўтымі і фіялетавымі калонамі стаялі сасновыя ствалы, і аліўкава цягнуліся ў самае неба казачныя вятлужскія асіны. Елкі абвіслі жмутамі сівых і медна-яркіх асляпляльных імхоў. На вяршаліны іх страшна глянуць: у вачах цямнее, калі задзярэш галаву, шапка валіцца. Капала, сцякала з дрэў. Крокаў не было чуваць — лапці глыбока патаналі ў набрынялым, пышнападатлівым імховым дыване, раскінутым скрозь мірыядамі сваіх ярка-зялёных, мізэрных, як сняжынкі, зорак. Лес абвалакаў сваім душным дыханнем, дурманам распаленых фарбаў, сваімі шорахамі і гукамі. Недзе прастукаў дзяцел, і далёка аддаўся яго рэзкі, абарваны, кулямётны стук. Жаўна зарагатала ў суччы, злавесна ўзмахнуўшы ў марыве хвоі клоунскім вясёлкавым пер'ем. Усё вільготна дыхала кругом, упіваючыся ранняю роснаю свежасцю.

Чарнічнік да калена, увесь у ягадах, непраходна блытаў і слаў па зямлі свой блакітны, учэпісты да ног дым.

Пара чарнічніку! Ад ягад галава ідзе кругам — сінія россыпы іх укрываюць пні, абымшэлыя калоды: ягады лезуць пад ногі; яны падымаюцца, унізаўшы высокія кусты незлічонымі шарыкамі ў матавым шызым пылку, яны ўкрылі купіны і пагоркі, цягнуцца цэлымі палямі. Рукі і губы даўно перапэцканы іх ліловым нязмыўным чарнілам. А іх усё болей і болей. Як, мабыць, соладка, вольна і бесклапотна ласавацца тут лясным птушкам, слухаючы пільнае квактанне вялікай аранжава-круглай глушыцы, сустракаючы тут у дрымоце хвоі чырвоны світанак! Як соладка бачыць ім птушыныя сны, прытуліўшыся да замшэлай дрымучай кары, высока пад зоркамі, над змрокам хвойных пустынь, калі ўнізе пануе сумотнейшая цішыня вякоў! А буры, калі лес скрыпіць, стогне і гайдаецца!.. А навальніцы!..

Бледнае вадзяное ззянне дня станавілася больш яснае і празрыстае. Часам неба праяснялася — блакітна-вадзяны, вымыты правал яго ззяў дзявочым ранішнім характвом. У лясных прасветах сонечныя промні залатымі піўнымі іскрамі высвечвалі слупы густога туману, веерам разбягаліся ад сонца, якое ўсё часцей выглядала з-за хмар. І там, куды дзённае свяціла кідала свой позірк, адразу станавілася горача, пачыналі звінець мухі. Вялікія жоўтыя матылькі трапяталіся, зрываючыся з абсохлага вясёлкавага лісця.

Паляўнічыя апускаліся ў калматыя яловыя нетры. Сцямнела і адсырэла. Ісці станавілася ўсё цяжэй з-за безлічы гнілых калод і вываратняў, якія пацягнулі за сабою зямлю з усім зялёным светам, што жыў на ёй, упіўшыся ў рудую гнілую труху. Ногі правальваліся ў спарахнелую драўніну, са змроку якой тонка выспеўваў і ўзнімаўся слупам камарыны акаянны звон. Галава кружылася ад саладкавага прыемнага паху грыбоў: яны траплялся на вочы ўсюды, куды ні глянеш. Баравікі тырчалі з-пад яловых шатроў, узнімаючы над мохам свае аксамітава-карычневыя шапкі. Лес апускаўся ўніз.

«Дзіўна,— думаў Зарудзін, ледзь выцягваючы ногі з учэпістага сучча і пахучай струхлелай парахні,— мы звыкла думаем, што лес усюды роўны, расце на спакойнаі раўніне. Па сутнасці ж кажучы, гэта — горы, даліны, прорвы!»

Яму ўявіўся распасцёрты ўдалячынь, пакарабачаны

ппямі, маршчыністы ад павалаў, гор і адхонаў, пусты, высечаны, спалены бязмежны абшар. Пачуццё вострага жалю ахапіла яго ад усведамлення, што так, іменна так хутка і будзе... Сякера і піла аголяць бугрыстую, шышкаватую галаву зямлі, састрыгуць, збрыюць гэтую густую, пышную зялёна-чорную чупрыну. Састрыгуць — і яна на многія гады стане нехлямяжая, злая, арыштанцкая, як галава падлетка з-пад двухнулявой машынкі.

Лясы! З якім старажытным крыкам і гулам падае старое дрэва! Але гэты свет гнілі, гэты хаос распаду ў чорных рэчках, у мірыядах драўняных трупаў... Але гэты стары — звыклы да маўчання, курнага дыму — бедны, брудны, звярыны... Як ён зросся з шызым змрокам гэтых ствалоў, балот, лясной трухі і гнілі!.. Нават яго стрэльба — кусок вывеfinal, свідраванай сталі, былой некалі дакладным амерыканскім вырабам,— прыстасавалася да свайго гаспадара, асцярожнага, ляснога, злітага неразлучна з іржавымі, зеленаватымі і блакітнымі прыцемкамі зараснікаў. Вясковы каваль прыладзіў да стальной каробкі скарастрэльнага вінчэстэра вялізную ржавую стваліну з напаянаю крывою мушкаю. Стрэльба ўкрылася глыбокім пластом застарэлай, назаўсёды запечанай іржы. Але столькі прыгожых нявінных звяроў і птушак палегла пад дымнымі грамавымі ўдарамі гэтай грубай, амаль старадаўняй прылады!

Зарудзіну ўявілася, як ён падпільнаваў, высачыў, падмануў глушца. І вось ён б'ецца на зямлі, адліваючы на красавіцкай зары зялёнаю амальгамаю, кафейным шоўкам магутных грудзей, белым атласам падкрылля, найтанчэйшым шэрым крэпам пяра ювелірнай работы. Нават кроў, такая жахлівая на чалавеку, дзівосная на яго рагавой дзюбе — звісае згусткам вільготнага вішнёвага аксаміту. У яго вялікіх вачах, акругленых залатым абадком, яшчэ жыве жах, ён яшчэ памятае, як скачком кінуўся цень, што схіліўся над ім сваім рудым аблíччам ідала, дзіцячымі шырокімі вачыма, зацёртым зрэбным лахмоццем.

Зарудзіну стала моташна, агідна, брыдка. Перайначваць, перайначваць усё! Успомніліся — цёмная леснічоўка з яе кіслым і прэлым пахам, печ, на якой пастаянна сушацца смярдзючыя анучы; дзеўкі, худыя, падгалістыя, з прылізанымі каровіным маслам, а таму з смярдзючымі галовамі. Яму ўспомнілася апошняя ноч у той душнай, прытуленай да печкі хаце, дзе стары пражыў усё сваё жыццё усе радасці і спадзяванні, ад падушкі цягнула тым

самым прагорклым маслам, усю ноч цела апякалі клапы... І ён ведаў: там нядаўна, у гэтай хаціне, дзяўчынка памерла ад глістоў. А кругом стаялі лясы, да краю свету лясы. Яны пахнуць свежым сонцам, і ветрам, і хвойнай цішынёй,— калі на апошні шарпак падаюць і застаюцца ляжаць шышкі, вясною, у сіне-снегавым сакавіку,— калі ад вавёрчынай шкуркі пахне скураю дзіцяці, калі лыжня вечарам лажыцца, як цень.

Кругом стаялі лясы.

Зарудзіну стала сумна і адзінока. Ён адчуў, што стаміўся, што стары, якога ён лічыць сваім сябрам, па сутнасці варты жалю, далёкі яму і страшны.

— Перайначваць! Перайначваць! — шаптаў ён, з цяжкасцю цягнучы ногі.— Каменя на камені, бервяна на бервяне не пакінуць ад гэтых смярдзючых і вашывых гняздоўяў! Старадаўнасць! Страхоцце! Гнаявы кампрэс на целе рэспублікі.

І стары, што няспешна ішоў са сваёй вялізнай качаргою, здаўся яму вялікім шэрым насякомым, якое забілася ў заношаныя складкі спарахнелага нежывога свету.

## 5

У лесе адразу заекаталі, раз'юшана перабіваючы адзін аднаго, сабакі.

Тужліва, на ўвесь лес, беручы ўсё больш і больш грозна і пераходзячы да азвярэння, загаўкаў, завыў і аддаўся бору Моцік. За ім з нецярпеннем, перабіваючы тужлівае, па-жаночы заўзята і ўпарта залілася Лялька. І тут жа зазвінеў, загукаў і надламаўся цішынёю лес. А надламаўшыся, напоўніўся громам і трэскам цяжкіх узмахаў крылаў. У соснах і елках замільгалі ва ўсе бакі, коса забіраючы ўверх з надтрэснутым свістам, шэрыя здані глушцоў.

Сабачы брэх ужо біў у набат. Лес выў і мітусіўся. Па лесе ішоў гул. І ў яго крадком і асцярожна падала аднекуль зверху, зусім блізка, лясное: «куак, куак, куак» — і сціхла.

Як у тумане, Зарудзін убачыў вялікага папялістага птаха, які сеў проста насупраць яго на вяршаліну адзінокай, задранай у самае неба яліны. Здымаючы на хаду стрэльбу, ён кінуўся наперад, ледзь стрымліваючы нясцерпна шалёны стук сэрца. З лёгкасцю перамахнуў ён цераз слізкую абадраную калоду, прадраўся праз калючыя кусты і замёр.

Лёгка, спрыяльна і бязмежна плылі ў небе пуховыя завітыя хмаркі. Яловыя чорныя лапы сягалі кудысьці ў блакітную цёплую вышыню, непахісна, нерухома разразалі яны белыя воблакі. Цішыня і спакой спачылі на яловых галінах, і белае, паветрана-лёгкае, перыстае,— тое, што стаяла над вяршалінай,— здавалася дзіўным, як у сне.

У скронях стукала, галава ўжо зацякла, неба становілася чорнае, але Зарудзін не бачыў птушкі. Ён хадзіў вакол дрэва, хадзіў і ўсё болей і болей пераконваўся, што глушца яму не знайсці. Ён адчуваў глухі шум у галаве, у скронях выразна аддаваўся сардэчны малаток, знаёмы паляўнічы адчай халадком прабіраўся па спіне.

— Мікалай Мікалаевіч,— пачуў ён раптам моцны, радасны шэпт.

Ён агледзеўся. Стары стаяў, высока закінуўшы сваю абвіслую пыльнымі валасамі галаву, і паказваў яму наверх. Не чуючы зямлі, блытаючыся нагамі, перапыняючы хрыплае дыханне, той марна блудзіў вачамі — і ўрэшце ўбачыў: глушэц ледзь віднеўся нізка апушчаным хвастом, плывучы разам з узнесенай хвойнай вяршалінай насустрач нерухомасці беласнежнага воблака. Ствалы стрэльбы на міг закрылі яго размыты ў яловым мроіве цень, хвіліну ён затрымаўся паміж двума стальнымі паўкругамі, і ўдар стрэльбы паказаўся асабліва гулкім, рэзкім і моцным. Вялізны птах плаўна, не затрымліваючыся, падаў уніз, маўкліва і мякка нырнуў у імховую пярыну цёмным цяжкім валляком і ўспухлай кучай пер'я. Адзінокая пярынка, круцячыся, апускалася ў паветры.

Трымаючы птаха за доўгія шурпатыя ногі ў плоскіх рагавых пласцінках, Зарудзін яшчэ раз адчуў млявасць дзікага, бязмежнага шчасця. Лайкі заліваліся наперадзе, і гэта абяцала яшчэ тое новае, трывожнае, вострае ў сваім салодкім і шчырым смутку, якое прыйшло, якое, ён адчуваў, паўторыцца зноў, якое было цяпер і якое будзе яшчэ наперадзе бясконца. Гэтае б я с к о н ц а было асабліва прыемнае: і, відаць, таму, што паляўнічае, старадаўняе заўсёды падымаецца з пройдзенага, адвечнага, згубленага ў забытым, туманіцца сінім курывам патухлых старадаўніх вогнішчаў, кліча няведанымі дарогамі наперад — ніколі не скончацца цёмныя паляўнічыя дарогі, ніколі не памрэ трывожнае хваляванне, прадчуванне пагоні, пошукаў, удачы, шчаслівага палявання...

Ён нечакана зразумеў, як моцна, невычэрпна любіць жыццё — пакутлівай, дзіцячай, дапытлівай, паляўнічай

любоўю. Яму ўспомніўся невыразны і вельмі даўні яго свет, жахлівая цемра, трывожна мігатлівыя зоркі, мёртвы абшар былога бору, але цалкам усяго ён ужо не мог прыгадаць. У сваім адчуванні сумнай улюбёнасці ў гэты лес, у гэты дзікі, няветлівы, амаль каменнавугальны ландшафт, у гэтага чужога старога, які раптам сказаў так нязвычна, так па-старадаўняму добразычліва: «Мікалай Мікалаевіч...», калі яны стаялі пад старажытнай казачнай здабычай (колькі стагоддзяў назад!),— у сваіх адчуваннях ён цьмяна разумеў толькі адно: гэта ніколі, ніколі не скончыцца.

## 6

А кругом стаялі лясы. Тыя лясы, што хутка знікнуць з зямлі, лясы, дзе ў снягах патанае рысь, калі ў жалезны мароз чуваць зорку і чалавек адзін на адзін з цішынёй чуе, як у Канадзе пяюць пеўні.

...Без канца чарнеў, распасціраўся, закрываў усё — горы, рэкі, даліны, тысячы вёрст,— мільгаў безліччу дымных простых ствалоў сыры хвойны лес. Ён стаяў, падрастаючы ўсё вышэй і вышэй, паднімаўся, нібы невядомы дзікі народ, які пакарыў некалі райскую зялёную зямлю вандроўнымі драўнянымі ордамі. Няма ім ліку і звання. Курыліся балоты, ціха ішлі на ніз чорныя рэкі, вялізныя цені падалі на былую зямлю вольнай травы. Падалі, гнілі, кланіся ў торф на балота звонкія вываратні ялін і сіняватыя ствалы сухастоін — высокія лясныя крамлі паўставалі над бураломам, над пластамі гнілых дрэў, над багнай пустэльных нізін.

І ён жыў, вялікі лес. Яловы змрок засланяў сонца, гудзеў ізумрудны свет незлічоных авадnёў. Бор суха звінеў струнамі сваіх нацягнутых ствалоў, правейваючы нетры сваёй гарачынёй, грэючы сваю запаведную слізкую суш.

Чырвоны, хвойны лес, стары лес! Сосны прараcталі на могільніках вякоў, падымаючы крыжамі мірыяды сваіх ірваных вяршалін, хаваючы стагоддзі і косці, таямніцу былой бізонавай аксамітнай пашы. Лес рос, прагна піў свае сокі з цемры зямлі. Стаячыя воды кішэлі пражэрлівым, неўтаймоўным шчасцем бессмяротных лічынак, кіпелі ў аняменай тайне гніення. Сонца павольна падала, апускаючыся ніжэй і ніжэй, у камарах і мёртвых халаднаватых ценях. Лес сінеў, падымаючыся і апускаючыся на краі

свету — непраходны, непераможны. У глыбіню яго ішлі паляўнічыя. Адзін з іх, доўгі, бестурботны ў сваіх лахманах і лапцях, з адпаліраванай да ззяння дарагою бескуркоўкай, быў абвешаны вялізнымі птахамі, якія распасцёрліся да самай зямлі і матлялі сваімі цяжкімі старадаўнімі галовамі. Ён плёўся зморана, але ахвотна, быў вясёлы, часам усміхаўся і свістаў...

Ды гэта ж паводле Брэма!

Жывая, неперыможная старажытнасць... Паляўнічыя ішлі ўсё далей і далей.

*Масква, 1928—1929*

# Юрый Алеша

## ВІШНЁВАЯ КОСТАЧКА

У нядзелю я пагасцяваў на леціпічы ў Наталкі. Апроч мяне гасцявала яшчэ трое: дзве дзяўчыны і Барыс Міхайлавіч. Дзяўчаты з Наталчыным братам Эрастам падаліся на рэчку катацца ў лодцы. Мы, гэта значыцца Наталка, Барыс Міхайлавіч і я, пайшлі ў лес. У лесе мы расселіся на палянцы; яна была ярка асветлена сонцам. Наталка падняла галаву, і раптам мне здалося, што замест яе твару блішчыць фарфоравы сподак.

Са мною Наталка абыходзіцца як з роўным, а з Барысам Міхайлавічам — як са старэйшым, мілуецца з ім. Яна разумее, што гэта мне не падабаецца, што я зайздрошчу Барысу Міхайлавічу, і таму яна часта бярэ мяне за руку і, што ні скажа, зараз жа пытаецца ў мяне:

— Праўда, Федзя?

Гэта значыцца як бы перапрашае, але не проста ў вочы, а неяк бачком.

Пачалі гаварыць пра птушак, бо з гушчару пачуўся смешны птушыны голас. Я сказаў, што ніколі ў жыцці не бачыў, напрыклад, дразда, і папытаўся: як ён выглядае, той дрозд?

З гушчару вылецела птушка. Яна праляцела над палянкаю і села на адтапыраную галіну непадалёк ад нашых галоў. Яна не сядзела, а, лепш кажучы, стаяла на галіне, што загайдалася ад дакранання. Яна маргала. І я падумаў, да чаго непрыгожыя ў птушак вочы — бязбровыя, але з нязвыкла выразнымі павекамі.

— Што гэта? — папытаўся я шапатком.— Дрозд? Гэта дрозд?

Ніхто мне не адказаў. Я павярнуўся да іх спінаю. Мой насцярожаны позірк не сочыць за імі, яны замілаваны адзінотаю. Я гляджу на птушку. Азірнуўшыся, я бачу: Барыс Міхайлавіч гладзіць Наталку па шчацэ. Яго рука думае: няхай ён глядзіць на птушку, пакрыўджаны малады чалавек! Я ўжо не бачу птушкі, я прыслухоўваюся, я

чую, як расклеіўся гук пацалунка. Я не азіраюся, але яны злоўлены: яны бачаць, што я ўздрыгнуў.

— Гэта дрозд? — пытаюся я.

Птушкі ўжо няма. Яна паляцела ўгору, цераз крону дзерава. Гэтак ляцець нялёгка — яна ляціць, шоргаючы крыламі.

Наталка частавала нас вішнямі. Адну костачку, па дзіцячай прывычцы, я пакінуў у роце. Яна качалася ў роце і была абсмактана чысцютка. Я выняў яе — яна была падобная на драўляную.

Я пайшоў з леціпчча з вішнёваю костачкаю ў роце.

Я падарожнічаю па нябачнай краіне.

Вось я іду — вяртаюся з леціпчча ў горад. Сонца заходзіць, я іду на ўсход. Я раблю сваю дарогу двойчы. Адну маю дарогу могуць бачыць усе: сустрэчны напаткаў чалавека, што ідзе па пустэльнай зялёнай мясцовасці. Але што робіцца з гэтым мірным падарожным чалавекам? Ён бачыць наперадзе сябе свой цень. Цень сунецца па зямлі, далёка выцягнуўшыся; у яго доўгія бляклыя ногі. Я перасякаю пустку, цень падымаецца па мураваным доме, і раптам прападае галава. Гэтага сустрэчны не бачыць, гэта бачу толькі я адзін. Я ўваходжу ў калідор, што ляжыць паміж двума карпусамі. Калідор бясконца высокі, запоўнены ценем. Тут зямля гнілаватая, падатлівая, як у агародзе. Насустрач, удоўж сцяны, загадзя апасаючыся, бяжыць адзічэлы сабака. Мы размінуліся. Я азіраюся. Парог, што астаўся ззаду, зіхаціць. Там, на парозе, сабаку імгненна ахапіў пратуберанец. Потым ён выбягае на пустку, і толькі цяпер я маю магчымасць сказаць, які ў яго колер — рыжы.

Усё гэта адбываецца ў нябачнай краіне, бо ў краіне, даступнай майму зроку, адбываецца зусім не тое: проста падарожны стыкаецца з сабакам, заходзіць сонца, зелянее пустка...

Нябачная краіна — гэта краіна ўвагі і ўяўлення. Падарожны не самотны! Дзве сястры ідуць з бакоў і вядуць падарожнага за рукі. Адну сястру завуць Увага, другую — Уяўленне.

Дык, значыць, што ж выходзіць? Дык, значыць, напоперак парадку і грамадзе, я ствараю свет, які не падпарадкуецца ніякім законам, апроч загадкавых законаў майго ўласнага адчування? Што ж гэта значыць? Ёсць два светы: стары і новы,— а гэты што за свет? Свет трэці? Ёсць два шляхі; а гэта што за трэці шлях?

Наталка прызначае мне спатканне і сама не прыходзіць.

Я прыходжу за паўгадзіны да ўмовы.

Трамвайны гадзіннік вісіць над скрыжаваннем. Ён нагадвае бочачку — ці ж не праўда? Два цыферблаты. Два днішчы. О, пустая бочка часу!..

Наталка павінна прыйсці ў палове на чацвёртую.

Я чакаю. О, вядома, што не прыйдзе. Дзесяць мінут на чацвёртую.

Я стаю на трамвайным прыпынку. Усё віруе вакол мяне, я адзін узвышаюся... Хто заблудзіўся, бачыць мяне здалёк. І вось пачынаецца... Падыходзіць невядомая грамадзянка.

— Зрабіце ласку,— кажа невядомая грамадзянка,— на дваццаць сёмым я даеду да Кудрынскай?

Ніхто не павінен ведаць, што я чакаю спаткання. Няхай лепш думаюць так: «Малады чалавек з шырокаю ўсмешкаю выйшаў на вуліцу ўладкоўваць чужое шчасце, ён усё раскажа, ён наставіць, ён супакоіць... Да яго! Усе да яго!»

— Ну але,— кажу я, знясільваючыся ад далікатнасці.— Вы даедзеце на дваццаць сёмым да Кудрынскай...

І тут жа спахапляюся і ўвесь кідаюся за грамадзянкаю:

— Ах, не! Ах, не! Вам трэба сесці на шаснаццаты.

Забудзем пра спатканне. Я не закаханы. Я добры геній вуліцы. Да мяне! Усе да мяне!

Чвэртка на чацвёртую. Стрэлкі злучыліся і выцягнуліся па гарызанталі. Бачачы гэта, я думаю:

«Гэта муха перабірае лапкамі. Трапяткая муха часу».

Яна не ідзе, яна не прыйдзе.

І падыходзіць чырвонаармеец.

— Скажыце,— пытаецца ён,— дзе тут музей Дарвіна?

— Не ведаю... здаецца, туды... Пачакайце... пачакайце... не, не ведаю, таварыш, не ведаю...

Далей! Хто наступны? Не саромейцеся...

Таксі, даўшы кругаля, пад'язджае да мяне. Вы пагледзіце, як пагарджае мною шафёр! Не сілаю душы, не! Захоча ён апусціцца да таго, каб пагарджаць мною сілаю душы... Пальчаткаю ён пагарджае!!! Таварыш шафёр, паверце мне, я ж толькі аматар, і я не ведаю, куды паварочваць вам машыну...

Я стаю тут не дзеля таго, каб паказваць, куды ехаць... У мяне свой клопат... Гэтае маё стаянне — вымушанае,

недарэчнае! Я ўсміхаюся не ад добрай душы — я ўсміхаюся напружана... Прыгледзьцеся як след!

— Куды на Варсанофеўскі? — пытае шафёр цераз плячо.

І я, спяшаючыся, тлумачу: туды, туды, а потым туды...

Што ж, калі на тое пайшло, то чаму б мне не стаяць сярод вуліцы і сур'ёзна не ўзяцца за справу, якую мне навязваюць?

Ідзе сляпы чалавек.

О, гэты проста крычыць на мяне! Гэты піхае мяне кіем...

— Дзесяты нумар ідзе? — пытаецца ён.— А? Дзесяты?

— Не,— кажу я, стараючыся быць як мага ласкавейшым.— Не, таварыш, гэта не дзесяты нумар. Гэта другі. А вось падыходзіць дзесятка.

Ужо дзесяць мінут прайшло пасля ўмовы. Чаго чакаць яшчэ? А можа, яна спяшаецца недзе, ляціць?

«Ах, апазнілася, ах, апазнілася!!!»

Ужо грамадзянка пафуравала на шаснаццатым, ужо чырвонаармеец ходзіць па халаднаватых залах музея, ужо шафёр трубіць на Варсанофеўскім, ужо сляпец крыўдліва і сябелюбна падымаецца на пярэднюю пляцоўку, несучы перад сабою кій.

Усе давольныя! Усе шчаслівыя!

А я стаю, недарэчна ўсміхаючыся.

І зноў падыходзяць і дапытваюцца: бабулька, п'яны, купка дзяцей з флагам. І пачынаю ўжо я секчы паветра рукамі,— ужо не проста ківаю барадою, як чалавек, у якога папыталіся выпадкова,— не! — ужо я выцягваю руку, паставіўшы даланю рубам... Яшчэ хвіліна — вырастае з кулака майго жазло...

— Назад! — буду крычаць я.— Стой! На Варсанофеўскі? Заварочвай! Бабулька, направа! Стой!

О, глядзіце! Свісток аказаўся ў маіх губах... Я свішчу... Я маю права свістаць... Дзеці, можаце мне зайздросціць! Назад! Ого... Глядзіце: ужо я магу стаяць паміж двума стрэчнымі вагонамі,— я стаю, глядзіце, выставіўшы адну нагу і зллажыўшы рукі за спінаю і падпіраючы лапатку пунсовым жазлом.

— Павіншуйце мяне, Наталка. Я перакінуўся ў міліцыянера...

Тут я бачу: Авель стаіць непадалёк і сочыць за мною. (Авель — гэта мой сусед.)

Наталка не прыйдзе — гэта ясна. Я падзываю Авеля.

Я: Вы бачылі, Авель?

Авель: Я бачыў. Вы вар'ят.

Я: Вы бачылі, Авель? Я перакінууся ў міліцыянера.

(Паўза. Яшчэ адзін позірк на гадзіннік. Куды там! Без дзесяці чатыры.)

Я: Зрэшты, гэтага вы зразумець не можаце. Пераtварэнне маё ў міліцыянера адбылося ў нябачнай краіне.

Авель: Ваша нябачная краіна — гэта ідэалістычнае трызненне.

Я: І ведаеце, што самае дзіўнае, Авель? Самае дзіўнае, што ў гэтай чарадзейнай краіне я чамусьці фігурую як міліцыянер... Здавалася б, што я павінен хадзіць па ёй спакойна і велічна, як валадар, і цудадзейны посах мудраца ў маёй руцэ павінен гарэць бляскам... А вось глядзіце: у маёй руцэ міліцэйскае жазло! Якое дзіўнае скрыжаванне свету практычнага і ўяўнага.

Авель (маўчыць).

Я: І яшчэ большае дзіва, што перадумова, якая ператварае мяне ў міліцыянера,— няспраўджанае каханне.

Авель: Я нічога не разумею. Гэта нейкае бергсаніянства.

Я надумаўся закапаць костачку ў зямлю.

Я выбраў мясціну і закапаў.

«Тут,— падумаў я,— вырасце вішнёвае дрэва, як напамінак майго кахання да Наталкі. Магчыма, калі-небудзь, праз пяць гадоў, вясною, мы стрэнемся з Наталкаю каля новага дрэва. Мы станем з абодвух бакоў,— вішнёвыя дрэвы невысокія: можна, стаўшы на пальчыкі, пакратаць самую верхнюю кветачку. Будзе ярка свяціць сонца, вясна яшчэ будзе пуставатая,— гэта будуць тыя вясновыя дні, калі дзяцей вабяць ручайкі на доле,— і ўжо настане росквіт папяровага гэтага дрэва».

Я скажу:

— Наталка, яркі і ясны дзень, дзьме вецер, што яшчэ больш раздзімае святло дня. Вецер гайдае маё дрэва, і яно рыпіць лакаванымі часцінамі. Кожная кветка яго падымаецца і зноў кладзецца, і ад таго яно то ружавее, то бялее. Гэта калейдаскоп вясны, Наталка. Пяць гадоў таму назад вы пачаставалі мяне вішнямі, памятаеце? Няспраўджанае каханне робіць памяць бедную, але яркую. Я па-

мятаю да гэтага часу: ваша даланя была ліловая ад вішнёвага соку, і вы згарнулі яе жалабком, ссыпаючы мне ягады. Я пайшоў з костачкаю ў роце. Я пасадзіў дрэва як памяць аб тым, што вы мяне не кахалі. Яно цвіце. Вось бачыце: я быў тады абсмяяны; мужны быў Барыс Міхайлавіч, ён перамог вас; я быў летуценны, інфантыльны. Я шукаў дразда, пакуль вы цалаваліся. Я быў рамантык. Але вось глядзіце: цвёрдае, мужнае дрэва вырасла з зярняці рамантыка. Вы ведаеце: вішнёвая кветка — гэта душа мужчыны, так лічаць японцы. Глядзіце: стаіць нізкарослае моцнае японскае дрэва. Паверце, Наталка, рамантыка — мужная рэч, і з яе нявaрта смяяцца. Справа толькі ў тым, як падысці. Калі б Барыс Міхайлавіч заспеў, што я сяджу на кукішках у пустцы і закопваю інфантыльную костачку, ён яшчэ раз адчуў бы сваю перамогу нада мною — перамогу мужчыны над летуценнікам. А я ж у той час закопваў у зямлю ядро. Яно лопнула і выпусціла найдзіўнейшы зарад. Я закопваў у зямлю насенне. Гэтае дрэва — маё дзіця ад вас, Наталка. Прывязіце сына, якога зрабіў вам Барыс Міхайлавіч. Я пагляджу, ці такі ён здаровы, чысты і незалежны, як гэтае дрэва, народжанае ад інфантыльнага суб'екта?

Я вярнуўся з лецішча дадому. Адразу ж з-за сцяны выйшаў Авель. Ён прафработнік. Ён малы ростам, на ім талстоўка з баваўнянага каверкоту, сандалі, сінія шкарпэткі. Ён пабрыты, але шчокі ў яго чорныя. Заўсёды здаецца, што Авель аброс. Можна нават падумаць, што ў яго не дзве, а толькі адна шчака — чорная. У Авеля арліны нос і адна чорная шчака.

Авель: Што з вамі робіцца? Я ехаў сёння ў дачным цягніку і бачыў, як вы сядзелі на кукішках у прыпуцявой палосе і рукамі разграбалі зямлю. Што вы рабілі?

Я (маўчу).

Авель (гуляе па пакоі): Чалавек сядзіць на кукішках і рыецца ў зямлі. Што ён робіць? Невядома. Ён робіць даследаванне? Ці ў яго прыпадак? Невядома. Хіба ў вас бываюць прыпадкі?

Я (пасля паўзы): Ведаеце, пра што я думаў, Авель? Я думаў пра тое, што летуценнікі не павінны мець дзяцей. Навошта новаму свету дзеці летуценнікаў? Няхай летуценнікі гадуюць для новага свету дрэвы.

Авель: Гэта не прадугледжана планам.

Краіна ўвагі пачынаецца ў галавах, на крэсле, якое, раздзеючыся перад сном, вы прысунулі да свайго ложка. Вы прачынаецеся раненька, дом яшчэ спіць, пакой напоўнены сонцам. Цішыня. Не варушыцеся, каб не скрануць нерухомасці асвятлення. На крэсле ляжаць шкарпэткі. Яны рудыя. Але — у нерухомасці і яркасці асвятлення — раптам заўважаеце вы ў рудой тканіне асобныя, рознага колеру шарсцінкі, што варушацца ў паветры: пунсовую, блакітную, аранжавую.

Раніца ў нядзелю. Я зноў іду па знаёмай дарозе ў госці да Наталкі. Трэба напісаць «Падарожжа па нябачнай краіне». Калі хочаце, вось раздзел з «Падарожжа», якому варта даць назву:

«Чалавек, што паспяшаўся кінуць камень».

Раслі пад мураванаю сцяною кусты. Я пайшоў удоўж кустоў па сцежцы. Я ўбачыў у сцяне праёміну і захацеў кінуць у праёміну каменьчык. Я нагнуўся, камень ляжаў каля нагі... Тут я ўбачыў мурашнік.

Гадоў дваццаць таму назад я бачыў мурашнік апошні раз. О, вядома, не раз за гэтыя дваццаць гадоў даводзілася мне ступаць па мурашніках — ці мала разоў? І няйначай як я бачыў іх, але, убачыўшы, не падумаў: «Ступаю па мурашніках», а проста ў свядомасці вылучылася толькі слова «мурашнік» — і ўсё. Жывы вобраз імгненна замяняўся паслужліва набеглым тэрмінам.

О, я ўспомніў: мурашнікі пападаюцца на вока нечакана. Адзін... О! Потым другі! Потым — глядзіце, глядзіце! — яшчэ адзін! Гэтак здарылася і цяпер. Адзін за адным паявіліся тры мурашнікі.

З вышыні майго росту мурашак я не мог бачыць; зрок лавіў толькі нейкі неспакой формы, якую смела можна было лічыць нерухомай. І зрок лёгка паддаваўся падману: я глядзеў і гатовы быў думаць, што гэта не мурашкі ў сваёй многасці снуюць вакол мурашніка, а самі мурашнікі асыпаюцца, як дзюны.

З каменем у руцэ стаяў я крокаў за чатыры ад сцяны. Камень павінен быў упасці ў праёміне. Я размахнуўся. Камень паляцеў і стукнуўся ў цэглу. Падняўся струменьчык пылу. Я не пацэліў. Камень упаў каля сцяны, у кусты. Толькі тады пачуў я голас каменя, што ўзнік у далані маёй яшчэ да таго, як далоня раскрылася.

— Пачакай! — крыкнуў камень.— Паглядзі на мяне!

І папраўдзе, я паспяшаўся. Трэба было камень перш агледзець. Гэта ж бясспрэчна, што ў ім было нешта незвычайнае. І вось ён у кустах, у зарасніку — знік! І я, што трымаў у руках гэтую незвычайную рэч, не ведаю нават, якога яна была колеру. Магчыма, яна была ліловая; магчыма, не маналіт, а складалася з некалькіх целаў: якая-небудзь акамянеласць, магчыма, былі ў ёй рэшткі жука ці вішнёвая костачка; магчыма, камень быў сітаваты, і, нарэшце, можа, я падняў з зямлі зусім не камень, а пазелянелую костку!

Я сустрэў па дарозе экскурсію.

Дваццаць чалавек ішлі па пустцы, у якой ляжала костачка. Іх вёў Авель. Я адышоўся ўбок. Авель не ўбачыў мяне, лепш кажучы — не зразумеў: ён убачыў мяне, але не ўспрыняў; як усякі фанатык, ён паглынуў мяне, не чакаючы згоды ці супраціўлення.

Авель адышоўся ад гурту, павярнуўся да яго тварам (да мяне спінаю) і крыкнуў, моцна ўзмахнуўшы рукою:

— Вось тут! Вось тут! Вось тут!

Паўза. Маўчанне.

— Таварышы з Курска! — крычыць Авель.— Я спадзяюся, што ў вас ёсць уяўленне. Уяўляйце, не бойцеся!!!

О, Авель спрабуе папасці ў краіну уяўлення. Ці не хоча ён толькі паказаць экскурсантам вішнёвае дрэва, што цвіце як напамінак няспраўджанага кахання?

Авель шукае шляхоў у нябачную краіну...

Ён пайшоў. Ён спыніўся, сцепануўшы нагою. Ён сцепануў яшчэ раз. І яшчэ. Ён хоча атрапнуць нейкую дробнакучаравую расліну, якая абвілася вакол яго ступака.

Ён тупнуў нагою, нешта хруснула, пакаціліся жоўтыя шарыкі. (Колькі раслін у гэтым апавяданні, дрэваў, кустоў!)

— Вось тут будзе высіцца гігант, пра які я казаў вам.

...Дарагая Наталка, я выпусціў з вока галоўнае: План. Існуе План. Я ўсё рабіў, не папытаўшыся ў Плана. Праз пяць гадоў на тым месцы, дзе цяпер пустэча, канава, непатрэбныя сцены, будзе пастаўлены бетонны гігант. Сястра мая — Уяўленне — неразважлівая асоба. Вясною пачнуць закладваць фундамент — і куды дзенецца неразумная мая костачка! Вядома, там, у нябачнай краіне, зацвіце некалі дрэва, прысвечанае вам...

Экскурсанты прыйдуць да бетоннага гіганта.

Яны не ўбачаць вашага дрэва. Няўжо нельга зрабіць, каб нябачная краіна стала бачнаю?..

Пісьмо гэтае — уяўнае. Я не пісаў яго. Я мог бы напісаць яго, калі б Авель не сказаў таго, што ён сказаў.

— Корпус гэты будзе размешчаны паўкругам,— сказаў Авель.— Усё нутро паўкруга будзе напоўнена садам. У вас ёсць уяўленне?

— Ёсць,— сказаў я.— Я бачу, Авель. Я бачу ясна. Тут будзе сад. І на тым месцы, дзе стаіце вы, будзе расці вішнёвае дрэва.

*1929*

## Іван Сакалоў-Мікітоў

# ДАРОГІ

*К. А. Федзіну*

Выязджаем з горада на світанні. Унізе, над ракою, сцелецца малочна-белы туман. Са срабрыстага мора туману, нібы відзежы, узнімаюцца сцены гарадскога сабора, цямнеюць дахі дамоў. Далёка-далёка за ракою, з туману, як у старадаўнія часы, чуюцца гукі пастуховай дудкі.

Нешта даўнемінулае, прывіднае ва ўсім гэтым! Мы праязджаем мост, вядомую базарную плошчу, зварочваем на вялікі гасцінец. Сонца ўстае над лугамі. У шматах туману, які падняўся ўжо, дыміцца стужка ракі; у зарослых асакою, нявыкашаных лагчынах без стомы дзяруцца драчы.

Сівыя ад ранішняй расы, ля самай дарогі ляжаць высокія густыя пракосы свежага сена. І там, і там, на прасторах заліўных лугоў, маланкаю бліснe раптам у промні ўскотнага сонца і тут жа згасне стальное лязо касы. З лугоў цягне туманам, мядовым водарам травы. Пад крутым берагам ракі, адбіўшыся ў люстры вады, праляцеў блакітны зімародак — наша райская птушка.

Цішыня, раніца, прастор. Мы выязджаем на бальшак — шырокую, бойкую дарогу, абсаджаную старымі разложыстымі бярозамі, кара на якіх патрэскалася ўжо ад часу. Мала засталося гэтых пракаветных бяроз — яны трухлявыя, дуплістыя і, здаецца, спяць неабудным сном, да самай зямлі апусціўшы свае ніцыя галіны.

Яшчэ стаяць дзе-нідзе ўздоўж дарогі пахіленыя драўляныя крыжыкі, зарослыя высокаю муравою. Па народным звычаі такімі прыдарожнымі крыжыкамі адзначалі на Смаленшчыне помныя мясціны, дзе нечаканая смерць заставала якога чалавека — ці таго, што ішоў, ці таго, што ехаў. Колькі страшных расказаў чуў я ў дзяцінстве пра забітых і памерлых у дарозе, пра апоеных гарэлкаю, спаленых перунамі, пра тапельцаў! Трывожнае адчуванне выклікалі гэтыя бязмоўныя помнікі сумных падзей. Па-

мятаю, як набожна хрысцілася маці, як мы падганялі, бывала, коней, абмінаючы месца, якое напамінала пра даўнюю трагічную смерць.

Вось на скрыжаванні дарог узвышаецца знаёмы склюдаваны камень. Па расказах старых, калісьці тут стаяла вясёлая карчма; пазвоньваючы бомамі, сюды пад'язджалі ямшчыцкія і панскія тройкі, ля абгрызенай канавязі, прыкрытыя армякамі, драмалі калматыя конікі мужыкоў, якія загулялі, вяртаючыся з горада. Па даўнім звычаі, замест пісанай шыльды над страхою карчмы вісела «ведзьміна мятла» — густая яловая лапка, якая, нібы маяк, зазывала праезджых і прахожых гуляк.

Дарога бяжыць, уецца, хаваецца ў кучаравых бярозавых гаях, знікае ў зарослых алешнікам глыбокіх ярах і раўчуках, цямнее вясеннімі прамывінамі, чырванее размытаю глінаю. Навокал — узгоркі, палі, гайдаецца і дыміць пылком жыта, пяшчотна зеляне́юць аўсы, туманяцца лугі. Сонца свеціць весела і ярка; пухлыя, белыя, крыху залацістыя воблакі плывуць па сінім летнім небе, а па ўзвышшах за ракою, па шызых нівах слізгаюць іх ліловыя цені... Чарнеюць старымі саламянымі стрэхамі вёскі, сінеюць за ракою нечапаныя лясы; зялёным астраўком здаецца вясковы могільнік з высокімі соснамі, з пахіленымі крыжамі на магілках, з вастраверхаю страхою капліцы. Ад могільніка не спяшаючыся ідзе чалавек у сарочцы, падпяразанай раменьчыкам; босыя, шэрыя ад пылу ногі мякка ступаюць па гладкай, гарачай ад сонца дарозе, зоркія старэчыя вочы глядзяць на нас з цікаўнасцю.

Мы едзем не спяшаючыся, часам на пад'ёмах ідзём пяшком. Фурман ідзе побач з дугою, бадзёра паляскваючы пугаўём па запыленых салдацкіх ботах. Бронзава-чорная патыліца яго абрасла кучаравымі валасамі; на выгаралае сукно старой салдацкай гімнасцёркі наліплі сляпні. Сляпні прагна ўюцца над потнаю спінаю каня, ліпнуць на яго карак, на грудзі. Скалячы зубы, фурман расціскае іх рукою, выціраючы аб калені запэцканую ў кроў брудную, мазольную далонь.

Дзень займаецца ясны, парны, высока стаіць сонца. Па макавінах бяроз не-не дый прашамаціць і заціхне паўдзённы цёплы ветрык. Ён гайдае галіны бяроз, прыносіць з палёў пах травы і хлеба. У гаях пахне сырасцю, грыбамі, дзе-нідзе пад дрэвамі яшчэ ляжыць раса. Павісла ў спякотным паветры, вісіць і трапеча крылцамі над мяжою даўгахвостая пустальга.

Я гляджу на палі, на дрэвы, на нерухома павіслую ў паветры, асветленую сонцам пустальгу. Колькі малюнкаў, падзей, забытых лёсаў, гісторый узнаўляюць гэтыя знаёмыя з дзяцінства мясціны, дарогі! Вось тут, над ракою, стаяў насупраць царквы вялікі, з пустымі, памутнелымі ад каляровых разводаў вокнамі нежылы дом дваран Пенскіх, і мне ўспамінаюцца чутыя калісьці апавяданні пра грозную пані Пенчыху, якая бязлітасна секла дваровых дзевак і баб, пра амаль вар'ята карліка-пана, які хадзіў маліцца ў поле пад стары дуб (разложысты дуб гэты паказвалі мне ў дзяцінстве). Далёкім, амаль казачным уяўляецца і нядаўняе мінулае: валасная ўправа на краі сяла, казёнка, абкружаная шумлівымі захмялелымі мужыкамі, чорнабароды старшына Фяцісыч з заплыўшымі маленькімі вочкамі, сухотны даўгашыі пісар... Далёкім мінулым здаюцца гэтыя пражытыя часы...

Сцёрты з твару зямлі, па бярвенцы разнесены дом дваран Пенскіх; спалена, галавешкі не знойдзеш, валасная ўправа; з зямлёй зраўнялі мужыкі двор каваліхі Мар'і, якая ў неспакойныя гады хавала ў сябе разбойнікаў-бандытаў... Асталася ад мінулага высокая белая званніца, ды, як і раней, уецца-бяжыць сярод зялёных лугоў знаёмая наезджаная дарога.

* * *

Карміць коней спыняемся ў старым Болдзінскім манастыры.

Праязджаем падманастырную, багатую калісьці вёску з высокімі, крытымі дранкаю дахамі, узорыстымі, шыкоўнымі ганачкамі, з мудрагелістымі шпакоўнямі на дрэвах. Манастыр абгароджаны цаглянай сцяною з байніцамі, праз якія — кажуць людзі — калісьці лазілі па начах гуляць да баб-салдатак маладыя манахі. Цяжкія, нязломныя, каваныя манастырскія вароты з цяжкою жалезнаю завалаю. Праславіўся манастыр вясёлымі прыгодамі манахаў, якіх духоўныя ўлады ссылалі на пакаянне ў гэтую глухую мясціну. Цяпер у манастыры — музей і гаспадарчы склад, а на апусцелым манастырскім двары прабіваецца між камянямі вясёлая зялёная мурава. Цёмная постаць адзінага ацалелага манаха-скапца, які адрокся ад свайго сану і астаўся жыць пры музеі, спалоханай птушкаю хістанулася за вуглом цаглянага дома...

У апусцелым манастыры затрымліваемся нядоўга. Сонца ўжо высока, над дарогаю падымаецца лёгкі пыл. Дарогі тут уюцца ўздоўж ракі пералескамі, палямі — вядуць у сінюю, засмужаную далячынь.

Вялікая цёмная хмара расце за ракою. Мы назіраем, як насоўваецца з захаду гэтая страшная хмара, як клубяцца, сівою градою бягуць паперадзе яе грозныя шматастыя воблакі. Застыла паветра — цяжкое і нерухомае. Быццам стараючыся падкрэсліць гэтую перадНавальнічную цішыню, наўзахваткі, з усяе сілы стракочуць конікі; яшчэ настойлівей ліпнуць да стомленага каня злыя сляпні. Водсвет сонца, якое прабілася праз воблакі, бурштыновымі ясвамі кладзецца на твары. Раптоўна налятае віхор, ён падымае з дарогі і сыпле ў вочы пыл, шалёна цярэбіць, заварочвае на дрэвах лісцё, забаўляецца з грываю каня, за якую начаплялася шмат дзядоў. Усё грамчэй, усё пагрозлівей чуецца грукат грому. Невыразнае адчуванне забытага дзіцячага страху ўзнікае ў душы.

Першыя кроплі дажджу, змешваючыся з пылам, цяжка падаюць на дарогу, на запыленае крылле калёс. Падганяючы каня, мы едзем, пакуль дазваляе дождж, а потым паспешліва прывязваем каня да агароджы і хаваемся ў лес пад дрэвы. Макавіны дрэў грозна хістаюцца над намі, паныла рыпяць. Бесперапынна адна за адною ўспыхваюць маланкі, грыміць гром, з трэскам абвальваюцца яго блізкія ўдары, пасля якіх яшчэ мацней пачынае ліць дождж.

Чакаючы, калі скончыцца навальніца, мы доўга сядзім у лесе пад дрэвамі, потым, прамоклыя амаль да касцей, па прыбітай дажджом траве выходзім на залітую вадою дарогу. Пацямнелы ад дажджу конь радасным іржаннем вітае нас. Далёка-далёка за палямі падымаюцца шызыя клубы дыму. Гэта гарыць вясковая адрына, падпаленая навальніцаю, якая толькі што грукатала тут. Грозная цёмная хмара паволі адыходзіць далей. Усё радзей і радзей бліскаюць маланкі, далей і далей грыміць гром. Наперадзе над дарогаю, над абмытым бярозавым гаем ужо адкрылася высокае чыстае неба, і — нібыта нічога і не было — па ясным яго блакіце ціха плывуць і плывуць высокія лёгкія хмаркі. Радасна зелянее і пахне гай, святочна, быццам нявесты, бялеюць абдожджаныя беластволыя бярозкі. Паток каламутнай дажджавой вады імкліва нясецца па дарозе, абмываючы нават ступіцы колаў, якія круцяцца ў вадзе.

З маладога бярозавага гаю насустрач нам выбягае вясёлы табун маладых коней. Сытыя жарабяты дурэюць, носяцца па лузе, трубою задраўшы хвасты, капытамі разбіваючы люстраныя лужыны. Сонца зіхціць, пераліваецца на іх ільсняных спінах, адбіваецца ў белых ствалах бяроз. Праз паўразбураныя каменныя вароты мы ўязджаем у старадаўні панскі парк, едзем пад дрэвамі, з якіх капаюць на дарогу рэдкія кроплі, спыняемся ля пад'езда вялізнага, старога, з калонамі дома-палаца і, прывязаўшы каня, ідзём па шырокай лесвіцы ўгору.

У гэтым вялізным, падобным на палац доме жылі калісьці самыя багатыя людзі нашага краю — слынныя дваране Барышнікавы, якія валодалі амаль незлічоным багаццем. Цяпер тут дзяржаўнае конназаводства, знаходзіцца сядзібны музей, жывуць і працуюць іншыя, новыя людзі.

У верхніх, адведзеных пад музей пакоях,— мёртвая цішыня. На высокіх запыленых сценах цьмяна адсвечваюць цёмныя партрэты. Высокія вокны таксама запыленыя і мутныя, за рамамі, якія даўно ніхто не вымаў, ляжаць пласты мёртвых восеньскіх мух. Паветра ў пакоях цяжкое, магільнае. Мы праходзім пустэльныя пакоі, застаўленыя мэбляю, сталамі і крэсламі, высокімі сакратэрамі. На круглых сталах ляжаць альбомы, выцвілыя фотаздымкі. У прасторных сценных шафах карычневеюць скураныя вокладкі старых кніг, захоўваюцца стосы пісем, перавязаныя выцвілымі аксамітнымі стужкамі. Я бяру, чытаю адно пісьмо, напісанае мудрагелістым старасвецкім почыркам на шэрай тоўстай паперы. Які далёкі, чужы, навекі пахаваны свет!..

Тут, у гэтых пакоях, жылі, выхоўваліся, нараджаліся і паміралі пакаленні людзей, якія трымалі ў сваіх руках лёсы шматлікіх чалавечых жыццяў. Я ўспамінаю паданне пра адкупшчыка, заснавальніка вядомага роду Барышнікавых, сына простага пасадскага, які, па легендзе, што захавалася ў народзе, прысвоіў сабе золата, атрыманае фельдмаршалам Апраксіным на подкуп ад прускага караля (золата гэтае, як кажа паданне, было прывезена ў бочках пад выглядам селядцоў); успамінаю рамантычную гісторыю аднаго з Барышнікавых, цудоўнага, але невядомага мастака, народжанага ад дачкі прыгоннага пазалотчыка, якога ўрэшце ўсынавіў багаты бацька і які выхоўваўся потым у Мюнхене — ён неаднойчы прывозіў пагасцяваць у смаленскія нетры сваіх сяброў, славутых ня-

мецкіх мастакоў, карціны якіх, тыя, што адлюстроўваюць жыццё рускай вёскі, і цяпер вісяць у еўрапейскіх мастацкіх галерэях... Яшчэ жывуць расказы пра апошняга прыгонніка з роду Барышнікавых — пра таўстуна, насмешніка і дэбашыра, які не ведаў упыну ў сваіх агідных выхадках. Гэта пра яго расказвалі старыя, як, сустрэўшы аднойчы на бальшаку мужычка-дзегцяра, ён загадаў гэтаму прыгоннаму пад страхам жорсткага пакарання тройчы акунуцца ў дзягцярную бочку; як аднойчы, едучы ў горад на дваранскія выбары, ён па дарозе ўбачыў свайго суседа, беднага панка, які купаўся ў сажалцы, загадаў фурману спыніцца і, паклікаўшы з вады голага чалавека, які сарамліва прыкрываў рукамі галізну, сілком пасадзіў у брычку ды так і прымчаў у Адамавым адзенні ў горад, на шматлюдны сход дваран. Пра яго гаварылі, што перад самаю смерцю, ускочыўшы са смяротнай пасцелі, ганяўся ён з зараджаным пісталетам за прывезеным з Масквы слынным лекарам-немцам і крычаў на ўсё горла: «Спярша ты памрэш, нямецкі каўпак, а я яшчэ пажыву, палупцую маіх мужычкоў!..» Шмат такіх расказаў хадзіла пра выбрыкі пана-самадура... У даўніх пісьмах, што захаваліся ў патаемных шуфлядах сакратэраў, апавядаецца пра незвычайнае каханне да мастака Барышнікава маладой яго суседкі Бегічавай, якая на ўсё жыццё засталася вернная адзінаму свайму каханню. Перад яе партрэтам, напісаным самім мастаком, з асаблівыю ўвагаю спыняецца захавальнік музея, заўзяты аматар даўніны. Ветліва глядзіць з залачонай авальнай рамы прыгожы твар дзяўчыны з крыху раскосымі вачыма, прыўзнятымі татарскімі бровамі, у белым аксамітавым кабаце, накінутым на яшчэ дзіцячыя плечы, з адкрытаю тонкаю шыяй, з белаю кветкаю лясной шыпшыны за маленькім пяшчотным вухам. Усё гэта здаецца цяпер недасягальна далёкім; ад старых любоўных пісем пахне пылам і цвіллю, але ў горадзе многія ведаюць, што зусім нядаўна, ужо ў глыбокай старасці, памерла намаляваная на партрэце прыгажуня, якая назаўсёды зберагла вернасць сваму першаму і апошняму каханню; што дажывае свой век у суседнім гарадку, жабруючы, кормячыся міласцінаю, распрадаючы астаткі маёмасці, апошняя з найбагатага роду Барышнікавых, адзінокая старая бабулька... А яшчэ доўга будзе стаяць вялізны цагляны палац, пабудаваны прыгонным дойлідам Сямёнам,— з каланадамі, з англійскім паркам, з вялікімі сажалкамі, на якіх нядаўна памёр апошні лебедзь, са ста-

рымі бярозамі на беразе стаўка, на якіх любяць гнездавацца чаплі... Шмат чаго маглі б яшчэ расказаць старыя пісьмы і пісьмёны, але не аматар я доўга корпацца ў старадаўніх паперах, магільным склепам здаюцца мне музейныя пакоі з памутнелымі ад каляровых разводаў вокнамі, з партрэтамі, якія цьмяна адсвечваюць на сценах, з тоўстымі пластамі мёртвых мух за даўно не выманымі аконнымі рамамі. Прыемней выйсці на святло, на летняе сонца, на лёгкі вецер, што нясе водар траў і кветак, уздыхнуць на поўныя грудзі, пачуць свіст івалгі, убачыць жывога, вясёлага, рассмяянага чалавека, ехаць-трэсціся пыльнаю прасёлкаваю дарогаю сярод палёў і лясоў...

Мы праходзім усе пакоі, падымаемся ў дзіцячыя, адкуль адкрываецца спазор на сажалку, на заглухлы кветнік, дзе на занядбаных клумбах пасвіцца навязанае на вяроўку цяля. Але ўсё яшчэ прыгожы і густы стары парк, цудоўная сажалка з астраўкамі, з альтанкамі, якія разваліліся, з берагамі, з непралазным гушчаром. Нейкія здзічэлыя кветкі, што ўжо выраджаюцца, сіратліва цягнуцца па цаглянай абсунутай агароджы...

Выходзім на волю, у парк. Сівы высокі стары сустракаецца нам у прысадах. Ён спыняецца, загаворвае з намі; яшчэ зорка глядзяць яго выцвілыя, глыбока запалыя вочы, высахлыя цёмныя пальцы старэчых рук учэпіста трымаюць выслізганыя мыліцы. Ён ведае ўсё, пераражыў тры пакаленні вымерлых паноў, добра памятае прыгон. Мы глядзім на яго як на жывое дзіва — на яго рукі, на сівую шырокую бараду, на выцвілыя вочы, якія бачылі далёкіх, невядомых нам людзей...

Увечары адзін блукаю па парку, слухаю салаўёў, жаб, чую, як валтузяцца над сажалкаю чаплі. Вяртаюся позна, праходжу па калідоры, які глуха і пустэльна адбівае крокі. Начуем у паляўнічым кабінеце, што паабвешаны мядзведжымі шкурамі, чарапамі і рагамі аленяў, ласёў. І ўсю ноч не спім, курым, трывожна прыслухоўваемся да таямнічых гукаў, да піску і шастання мышэй за шафамі...

Якою доўгаю здаецца гэтая бяссонная цяжкая ноч. І калі займаецца ў вокнах світанне, здагадаўшыся аб прычыне бяссоння і начных невыразных страхаў, я раззлавана, з нейкаю асалодаю аддзіраю даўно не адкрываную высокую, прысохлую раму. З рамы ляціць на падлогу кіт. Паветра, якое пахне туманам, свежасцю раніцы, лістотаю

роснага парку, урываецца ў пакой. Я дыхаю і не магу надыхацца гэтым свежым, жыватворным ранішнім паветрам, якое наплывае з лугоў.

Выязджаем, калі над зямлёю зноў высока і ярка падымаецца сонца. Праязджаем сажалку, амаль развалены мост, цагляныя службы, пафарбаваныя палевую фарбаю, якая даўно аблупілася, выязджаем у лугі. Там ужо, злёгку калышучы травы, несучы пах кветак, у самы твар дзьме лёгкі паўдзённы вецер. І зноў уецца, вядзе ўдалячынь пыльная, нагрэтая сонцам дарога.

*1929*

## Яўгеній Пятроў

# ДЗЕНЬ МАДАМ БЕЛАПАЛЯКІНАЙ

Мадам Белапалякіна прачынаецца позна, а першай гадзіне. Муж даўно ўжо на службе. У пакоі агідна. На стале брудны посуд, які застаўся пасля ўчарашняй вячэры (мадам Белапалякіна паленавалася яго памыць і пакінула да раніцы, калі прыйдзе хатняя работніца). На крэслах раскіданы спадніцы, панчохі, бюстгальтары. Рог коўдры з'ехаў з пасцелі на падлогу. У расчыненых дзверцах люстраной шафы адбіваецца распухлы пасля сну твар і грыўка ненатуральна жоўтых валасоў. На патыліцы прасвечваюцца карані валасоў прыроднага колеру — чорныя.

— Ню-ура! — крычыць мадам Белапалякіна.— Ню-ур!

— Іду-у!

І ў пакоі з'яўляецца хатняя работніца Нюра. На твары яе выраз напружанага страху і адданасці.

— Падыміце шторы,— гаворыць мадам Белапалякіна.— Ды пачакайце, не тупайце нагамі, як конь. Спачатку прыбярыце посуд. Ды не грукайце вы падносам... Бо-ожа, бо-ожа, няшчасце маё... Пачакайце, кажуць вам! Пастаўце посуд на месца.

Нюра слухаецца.

— На рынку былі?

— Былі,— адказвае Нюра.

— Прынясіце здачу. Ды пачакайце, божа, гора маё, куды вы ідзяце?.. Спачатку палічым, колькі я вам учора дала? Пяць рублёў?

— Пяць.

— Што ж вы купілі?

Нюра прывычна загінае шурпаты, як наждачная папера, указальны палец. Пачынаецца самае пакутлівае — ранішнія разлікі.

— Ды пачакайце вы, божа мой, не балбачыце, як індычка, нічога зразумець нельга. Так, значыць, мяса адзін рубель шэсцьдзесят капеек, ды дванаццаць капеек цыбуля — адзін рубель восемдзесят дзве капейкі, ды адзін ру-

бель дзевяноста капеек масла — будзе два рублі дзевяноста капеек. Што вы яшчэ бралі? Цяляціну? Цяляціна — дзевяноста? Значыць, два дзевяноста ды дзевяноста будзе тры рублі дзевяноста капеек. Ды трыццаць восем капеек алей... Колькі ж гэта будзе? Тры рублі дзевяноста капеек і трыццаць восем капеек — чатыры рублі трыццаць восем капеек. Усё?

— Усё,— гаворыць Нюра і ўздыхае.— Больш нічога не бралі.

— Значыць,— вылічвае мадам Белапалякіна, хмурачы тлусты лабок,— я вам дала пяць рублёў, а вы патрацілі чатыры рублі трыццаць восем капеек. Значыць, здачы — пяцьдзесят восем капеек. Давайце грошы і прынясіце мой рыдыкюль. Ён там, пад кофтачкай... Чаго ж вы стаіце, як конь? Вам кажуць!

Але Нюра не рухаецца з месца. Яна ашаломлена глядзіць на сцяну, абклееную прыгожымі ружовымі шпалерамі са слядамі раздушаных клапоў.

— У мяне грыўня здачы,— прамаўляе яна, ледзьве варушачы губамі.

— Бо-ожа мой! — ускліквае мадам Белапалякіна.— У яе грыўня здачы! Адкуль жа грыўня, калі павінна быць пяцьдзесят восем. Вы што куплялі?..

Рахункі аднаўляюцца.

— Цяляціна — дзевяноста,— лічыць Белапалякіна,— ды мяса рубель шэсцьдзесят, усяго — два дзевяноста. Ды рубель дзевяноста масла. Будзе чатыры дзевяноста. Ды трыццаць восем капеек алей — пяць трыццаць восем. Ды дванаццаць капеек цыбуля — пяць сорак восем... Як жа вы маглі патраціць пяць сорак восем, калі я вам дала пяць? Ну, хай сабе. Потым парахуемся. Гора маё!.. Забярыце брудны посуд і давайце чай!

І мадам Белапалякіна выцягвае з-пад коўдры пухлыя валасатыя ногі.

Цяжка даводзіцца інтэлігентнай жанчыне ў наш суровы час.

Мадам Белапалякіна часта скардзіцца на жыццё. Яна — жанчына інтэлігентная. Яна — тонкі, далікатны арганізм, які не пераносіць сённяшніх турбот і нястач. Замежных модных часопісаў не дакупішся. У нашых, савецкіх,— суцэльны жах: замест модных сукенак — фотаздымкі нейкіх заводаў і выкрайкі чырвоных касынак. Пры-

ходзіцца браць часопісы для прачытання, здымаць з малюнкаў копіі і плаціць за кожную копію шэсць грыўняў.

Муж мадам Белапалякінай дзесьці служыць, у нейкай навуковай установе. Зарабляе мала — трыста рублёў. «Літаратурны гурток», дзе танцуюць па пятніцах і збіраюцца безумоўна «прыстойныя людзі», хочуць закрыць. Прыватнікаў прыціскаюць падаткамі. Палову знаёмых выслалі кудысьці на Салаўкі. Жыццё робіцца цяжэйшае з кожным днём. Служанка — дурніца, нічога не разумее. Проста кашмар нейкі.

А шостай гадзіне з'яўляецца муж, прагна абедае і завальваецца спаць.

— Разбудзі мяне, кошачка, у восем,— просіць ён.— Трэба на пасяджэнне.

— Добра, коцік,— гаворыць жонка.

Муж вельмі любіць мадам Белапалякіну. Аднак ёй ён надакучыў. Яна ахвотна пайшла б ад яго. Але да каго? Сапраўдных жа людзей няма. Добра было б выйсці замуж за іншаземца, паехаць за мяжу, як мага далей ад гэтай нядобрай, грубай краіны. Але іншаземец з сумленнымі намерамі не з'яўляецца. Іншаземцы таксама хітрыя. Стараюцца пакарыстацца выпадкам і кінуць.

Увечары, выправіўшы мужа, мадам Белапалякіна фарбуе тоўстыя патрэсканыя губы, грунтоўна пудрыцца і чакае гасцей.

Адпачыць душой можна ў кампаніі навуковага супрацоўніка, маладога чалавека Барыса Баберава.

Барыс Бабераў — манюка. Усё, што ён ні гаворыць,— усё хлусня. Хлусіць ён нядбайна і неахайна, блытаецца. Але яму даруецца ўсё. Яго хлусня — святая хлусня.

— Добры вечар, дарагая,— гаворыць ён пяшчотным голасам, цалуючы мадам Белапалякіну ў пульс і ўздымаючы бровы.— А ў мяне навіна!

— Не сакрэт? — какетліва пытае Белапалякіна.

— Што вы! Хіба ад вас могуць быць якія-небудзь сакрэты! Зрэшты, дробязь! Мне прыслалі з-за мяжы пасылку.

— Ах! Што вы гаворыце!

— Уявіце сабе. Два англійскія гарнітуры шавіётавыя, пуловер, тузін дамскіх шаўковых панчох і потым... гэта... патэфон «Электрола» з шасцідзесяццю самымі моднымі пласцінкамі.

— Вы жартуеце! — стогне мадам Белапалякіна.

— Не, далібог. Я нават сам здзівіўся. Сёння раніцай атрымліваю позву з таможні. У позве ўсе рэчы і пералічаны.

— Відаць, вялізная пошліна!

— Дробязі! Рублі два-тры. Два шэсцьдзесят пяць! Але я вырашыў не браць.

— Чаму ж, чаму?!

— Лянота, ведаеце. Ехаць кудысьці ў таможню. Хвалявацца. Навошта?

— Гэта вар'яцтва! — крычыць мадам Белапалякіна.— Ды я б, я... Не, вы сур'ёзна?

— Зусім. Але ці варта аб гэтым гаварыць. Ну пасылка, ну патэфон... Падумаеш!

Мадам Белапалякіна доўга не можа супакоіцца.

Бабераў напявае:

У нас, на Кубе,
Ці-ры-рым... ці-ры-рым...

Ах, Куба! Ах, Гаіці, Таіці, Каломба, Валенсія! Мадам Белапалякіна зараз жа, на месцы, гатова даць адсекчы палец, каб пабыць пад гэтымі пальмамі, убачыць гэтае мора і патанцаваць чарльстон пры святле Паўднёвага Крыжа.

— Мне прапануюць камандзіроўку ў Парыж,— гаворыць Бабераў, пазяхаючы,— на восем месяцаў.

— Ды што вы кажаце! Не можа быць!

— Далібог. На сем месяцаў. Пяцьсот долараў пад'ёмных і па тысячы кожны месяц.

— Калі ж?

— Ды хоць заўтра. Пашпарт ужо гатовы. А з візай дробязь — Канстанцін Фёдаравіч пазвоніць па тэлефоне Эрбету... Увогуле, усё гэта дробязь!..

— Галубок... Бабераў... Ды гэта ж... гэта... сон, чароўны сон! Божа! Вы ж шчаслівчык!

— Ну, што вы,— моршчыцца Бабераў,— я хачу адмовіцца.

— Вы не зробіце гэтага! — крычыць Белапалякіна.— Толькі падумайце! Гэта ж Парыж! Разумееце, Парыж! Бо-ожа мой! Берлін! Заграніца!

— Ну, Парыж, ну, Берлін. Я не спрачаюся, у такой паездцы ёсць своеасаблівая прывабнасць. Але падумайце, дарагая, якія клопаты! Насільшчыкі! Таксі! Гасцініцы! Бр-р-р. Пры адной гэтай думцы ў мяне валасы дыба ўстаюць.

Мадам Белапалякіна не знаходзіць слоў.

— Ага, неяк зусім забыў! — гаворыць Бабераў.— Проста смехата. Камерчаскі аташэ аднаго знаёмага пасольства ад'язджае ў гадавы адпачынак і прапануе мне на гэты час свой аўтамабіль, зусім новы «ролс-ройс». Ды я адмовіўся.

— Гаража няма? — пытае Белапалякіна, цяжка дыхаючы.

— Ды не. Гараж ёсць. І шафёр ёсць. Але навошта мне аўтамабіль?

— Як навошта? А ездзіць!

— Э, дарагая. Якая гэта язда. Бензін смярдзіць, трасе.

Ноччу ў пасцелі мадам Белапалякіна грызе мужа. За беднасць. За няўменне жыць. За ўсё.

Муж фыркае, як конь. Але не пярэчыць.

Калі б яму расказалі, што жонка яго непісьменная, дурнаватая, сварлівая, неахайная, што жыве яна ў нашы дні памылкова — ён нізавошта б не паверыў.

*1929*

# Аляксандр Грын

## ЗЯЛЁНАЯ ЛЯМПА

### I

У Лондане ў 1920 годзе, зімою, на рагу Пікадзілі і аднаго завулка, спыніліся двое добра апранутых людзей сярэдняга ўзросту. Яны толькі што пакінулі дарагі рэстаран. Там яны вячэралі, пілі віно і жартавалі з артысткамі Друрыленскага тэатра.

Цяпер іх увагу прыцягваў дрэнна апрануты чалавек гадоў дваццаці пяці, які ляжаў нерухома і каля якога пачаў збірацца натоўп.

— Сцільтан! — грэбліва сказаў тоўсты джэнтльмен высокаму свайму прыяцелю, заўважыўшы, што ён нагнуўся і ўзіраецца ў таго, што ляжыць.— Чэснае слова, не варта займацца гэтай падлай. Ён п'яны або памёр.

— Я галодны... і я жывы,— прамармытаў няшчасны, стараючыся прыпадняцца, каб зірнуць на Сцільтана, які аб нечым задумаўся.— Страціў прытомнасць.

— Рэймер! — сказаў Сцільтан.— Вось выпадак састроіць жарт. У мяне з'явілася цікавая задума. Мне надакучылі звычайныя забавы, а добра пажартаваць можна толькі адным спосабам: рабіць людзей пацешнымі.

Гэтыя словы былі вымаўлены так ціха, што чалавек, які ляжаў на голай зямлі, а цяпер прыхіліўся да плота, іх не чуў.

Рэймер, якому было ўсё роўна, пагардліва паціснуў плячыма, спакойна развітаўся з Сцільтанам і паехаў бавіць час у свой начны клуб; а Сцільтан, пад ухвальны гул натоўпу і з дапамогай палісмена, пасадзіў беспрытульнага чалавека ў кеб.

Экіпаж накіраваўся да адной карчмы на Гай-стрыт.

Бадзягу звалі Джон Іў. Ён прыехаў у Англію з Ірландыі шукаць службы ці працы. Іў быў сірата, выхоўваўся ў сям'і ляснічага. Апрача пачатковай школы, ён не атрымаў ніякай адукацыі. Калі Іву было пятнаццаць гадоў, яго выхавальнік памёр, дарослыя дзеці ляснічага раз'ехаліся — хто ў Амерыку, хто ў Паўднёвы Уэльс, хто ў Еўро-

пу, і Іў нейкі час працаваў у аднаго фермера. Потым яму давялося зведаць працу вуглякопа, матроса, прыслужваць у карчме, а ў дваццацідвухгадовым узросце ён захварэў на запаленне лёгкіх і, калі выйшаў з бальніцы, вырашыў пашукаць шчасця ў Лондане. Але канкурэнцыя і беспрацоўе хутка паказалі яму, што знайсці работу не так лёгка. Ён начаваў у парках, на прыстанях, згаладаўся, схуднеў і быў, як мы бачым, падняты Сцільтанам, уладальнікам гандлёвых складоў у Сіці.

Сцільтан у сорак гадоў зведаў усё, што можа за грошы зведаць халасты чалавек, які не ведае клопату аб ядзе і начлезе. Ён валодаў багаццем у дваццаць мільёнаў фунтаў. Тое, што ён прыдумаў вытварыць з Івам, было зусім бязглуздзіцай, але Сцільтан вельмі ганарыўся сваёй выдумкай, бо меў слабасць лічыць сябе чалавекам з вялікай і хітрай фантазіяй.

Калі Іў выпіў віна, добра пад'еў і расказаў Сцільтану сваю гісторыю, Сцільтан заявіў:

— Я хачу зрабіць вам адну прапанову, ад якой у вас адразу бліснуць вочы. Слухайце: я выдаю вам дзесяць фунтаў з умоваю, што вы заўтра наймеце пакой на адной з цэнтральных вуліц, на другім паверсе, з вокнамі на вуліцу.

Кожны вечар, роўна ад пяці да дванаццаці ночы, на падаконніку аднаго акна, заўсёды аднаго і таго, павінна стаяць запаленая лямпа, прыкрытая зверху зялёным абажурам. Пакуль лямпа гарыць прызначаны ёй тэрмін, вы з пяці да дванаццаці не будзеце выходзіць з дому, не будзеце нікога прымаць і ні з кім не будзеце гаварыць. Адным словам, работа няцяжкая, і, калі вы згодны так дзейнічаць,— я буду штомесяца прысылаць вам дзесяць фунтаў. Свайго імя я вам не скажу.

— Калі вы не жартуеце,— адказваў Іў, страшэнна здзіўлены такой прапановай,— дык я згодзен забыць нават уласнае імя. Але скажыце, калі ласка,— як доўга будзе цягнуцца такі мой дастатак?

— Гэта невядома. Можа быць, год, можа быць — усё жыццё.

— Яшчэ лепш. Але — асмелюся спытаць — навошта спатрэбілася вам гэта зялёная ілюмінацыя?

— Тайна! — адказаў Сцільтан.— Вялікая тайна! Лямпа будзе з'яўляцца сігналам для людзей і спраў, пра якіх вы ніколі нічога не даведаецеся.

— Разумею. Гэта значыць нічога не разумею. Добра:

ганіце манету і ведайце, што заўтра ж па паведамленым мной адрасе Джон Іў будзе асвятляць акно лямпай!

Так адбылася дзіўная здзелка, пасля якой бадзяга і мільянер рассталіся цалкам задаволеныя адзін адным.

Расстаючыся, Сцільтан сказаў:

— Напішыце да запытання так: «3-33-6». Яшчэ майце на ўвазе, што невядома калі, можа быць, праз месяц, можа быць, праз год,— адным словам, зусім нечакана раптам да вас наведаюцца людзі, якія зробяць вас багатым чалавекам. Чаму гэта і як — я растлумачыць не маю права. Але гэта здарыцца...

— Каб яго чорт узяў! — прамармытаў Іў, гледзячы ўслед кебу, на якім паехаў Сцільтан, і задуменна круцячы ў руках дзесяціфунтавы білет.— Ці гэты чалавек звар'яцеў, ці я шчаслівчык асаблівы! Наабяцаць такую кучу раскошы толькі за тое, што я спалю ўдзень паўлітра газы!

На наступны дзень вечарам адно акно на другім паверсе змрочнага дома № 52 на Рывер-стрыт ззяла зялёным святлом. Лямпа была прысунута да самай рамы.

Двое прахожых нейкі час пазіралі на зялёнае святло з тратуара насупраць; потым Сцільтан сказаў:

— Дык вось, шаноўны Рэймер, калі вам будзе сумна, прыходзьце сюды і смейцеся. Там, за акном, сядзіць дурань. Дурань, якога купілі танна, у растэрміноўку, надоўга. Ён сап'ецца ад нуды ці звар'яцее... але будзе чакаць, сам не ведаючы чаго. Ды вось і ён!

Сапраўды, цёмная постаць, прыхінуўшыся лбом да шыбы, пазірала ў начную цемрадзь вуліцы, як бы пытаючыся: «Хто там? Чаго мне чакаць? Хто прыйдзе?»

— Аднак вы таксама дурань, шаноўны,— сказаў Рэймер, узяўшы сябра пад руку, і павёў да аўтамабіля.— Што вясёлага ў гэтым жарце?

— Цацка... цацка з жывога чалавека,— сказаў Сцільтан,— найсмачнейшая яда!

## II

У 1928 годзе бальніца для бедных, што размешчана на адной з лонданскіх вуліц, напоўнілася дзікім крыкам: крычаў ад страшэннага болю толькі што прывезены стары дзед, мурзаты, кепска апрануты чалавек з худым тварам. Ён спатыкнуўся на чорнай лесвіцы цёмнага прытону і зламаў нагу.

Хворага, які пакутаваў ад болю, занеслі ў хірургічнае

аддзяленне. Выпадак аказаўся сур'ёзны, таму што складаны пералом косці выклікаў разрыў сасудаў.

Ужо пачаўся запаляльны працэс мышачных тканак. Хірург, які аглядаў небараку, заключыў, што патрэбна аперацыя. Яна была тут жа праведзена, пасля аслабелага старога палажылі на ложак, і ён скора заснуў, а прачнуўшыся, убачыў, што перад ім той самы хірург, які пазбавіў яго правай нагі.

— Дык вось як давялося нам сустрэцца! — сказаў доктар, сур'ёзны высокі чалавек з сумным паглядам.— Ці пазнаеце вы мяне, містэр Сцільтан? Я — Джон Іў, якому вы даручылі дзяжурыць кожны дзень каля запаленай зялёнай лямпы. Я пазнаў вас з першага позірку.

— Чорт што! — прамармытаў, пільна ўзіраючыся ў яго твар, Сцільтан.— Што адбылося? Ці можа гэта быць?

— Можа. Раскажыце, што так рэзка змяніла ваш спосаб жыцця?

— Я даведзены да галечы... некалькі вялікіх пройгрышаў... паніка на біржы... Вось ужо тры гады, як я стаў жабраком. А вы? Вы?

— Я некалькі гадоў запальваў лямпу,— усміхнуўся Іў,— і спачатку ад нуды, а потым ужо з захапленнем пачаў чытаць усё, што мне траплялася пад руку. Аднойчы я разгарнуў старую анатомію, што ляжала на этажэрцы ў тым пакоі, дзе я жыў, і быў вельмі здзіўлены. Перада мной адкрылася дасціпная старонка таямніц чалавечага арганізма. Як п'яны, я праседзеў усю ноч над гэтай кнігай, а раніцай пайшоў у бібліятэку і спытаўся: «Што трэба вывучыць, каб стаць доктарам?» Адказ быў насмешлівы: «Вывучыце матэматыку, геаметрыю, батаніку, заалогію, марфалогію, біялогію, фармакалогію, латынь і г. д.». Але я ўпарта выпытваў, і я ўсё запамінаў.

Да таго часу я ўжо два гады запальваў зялёную лямпу, а аднойчы, вяртаючыся адвячоркам (я не лічыў патрэбным, як спачатку, сядзець дома сем гадзін), убачыў чалавека ў цыліндры, які глядзеў на маё зялёнае акно не то з прыкрасцю, не то з пагардай.

«Іў — класічны дурань! — прамармытаў той чалавек, не заўважаючы мяне.— Ён чакае абяцаных цудоўных рэчаў... так, ён хоць мае надзею, а я... я амаль даведзены да галечы!» Гэта былі вы. Вы дадалі: «Недарэчны жарт. Не варта было выкідваць грошы».

Я накупляў багата кніжак, каб вучыцца, вучыцца і вучыцца, нягледзячы ні на што. Я ледзь стрымаўся, каб не

стукнуць вам тады на вуліцы, але ўспомніў, што дзякуючы вашай здзеклівай шчодрасці змагу стаць адукаваным чалавекам.

— А далей? — ціха спытаўся Сцільтан.

— Далей? Добра. Калі жаданне вялікае, то выкананне не зацягнецца. У адной са мной кватэры жыў студэнт, які прыняў актыўны ўдзел і дапамог мне, гадоў праз паўтара, здаць уступныя экзамены ў медыцынскі каледж. Як бачыце, я аказаўся здольным чалавекам...

Наступіла маўчанне.

— Я даўно не падыходзіў да вашага акна,— прамовіў, узрушаны Івавым расказам, Сцільтан,— даўно... вельмі даўно. Але мне цяпер здаецца, што там усё яшчэ гарыць зялёная лямпа... лямпа, што асвятляе начную цемру. Прабачце мне.

Іў выняў гадзіннік.

— Дзесяць гадзін. Вам пара спаць,— сказаў ён.— Мусіць, праз тры тыдні вы зможаце пакінуць бальніцу. Тады пазваніце мне — можа быць, я дам вам работу ў нашай амбулаторыі: запісваць хворых. А спускаючыся па цёмнай лесвіцы, запальвайце... хоць бы запальнічку.

*11 ліпеня, 1930*

## Барыс Шаргін

# ЛЕБЯДЗІНАЯ РЭЧКА

Ёсць каля Студзёнага мора Лебядзіная рэчка. Спрадвеку толькі гусі ды лебедзі прылятаді сюды ўвесну, вілі гнёзды. Потым прыйшлі людзі, панастаўлялі гмахаў-дамоў. На адным беразе вёска Лебядзіная Гара, на другім — Гусіная Гара. Зямліца тут ніпічымная, хлеба на такой не наробіш. Вось чаму і кінуўся народ у промысел, драўляны ды жывапісны. Рабілі на продаж куфры, скрыначкі, шкатулкі, размалёўвалі фарбамі. Майстэрства пераходзіла ад бацькі да дзяцей. Бывалі сапраўдныя мастакі. Але ўсе жылі бедна, бо цалкам залежалі ад скупшчыка. Усе глядзелі ў рот гаспадару. Скупшчыкі давалі не цану, не грошы — няшчасныя капейкі. Майстры ганяліся за выпадковымі пакупнікамі. З-за гэтага і цвілі-красавалі варожасць, зайздрасць — ладу не было. Самыя найлепшыя жывапісцы Іван Губа ды Іван Шчака намагліся аднойчы, збілі арцель. Арцель рассыпалася. Самі завадатары, Губа і Шчака, да старасці між сабою і слова гладкага не маглі сказаць. Аднойчы ў царскую ссылку міма чалавек ехаў, то гэтак ім сказаў:

— Не ў той бок ваюеце, сябры!

— А супраць каго ж ваяваць?

— Супраць тых, каму міжусобіца ваша на руку.

— Залатое тваё слова,— сказалі Губа і Шчака.— Мы такіх, як ты, і паважаць згодны. Садзіся ў нашу лодку, бярыся за карміла.

Але разумнага чалавека пагналі далей, да Мёрзлага мора. Не ў галаве было царскай уладзе паклапаціцца пра вясковых самабытных мастакоў, і яны часцяком кідалі сваё мастацтва.

Але прыспела пара, прыйшоў час: царская клець развалілася, падмытая жывою вадою. Як трава з-пад снегу-холаду, пацягнуліся да жыцця мастакі-куфэрачнікі, жывапісцы-малявальшчыкі. Гаваркая Лебядзіная лепш за ўсякую казку раскажа пра камсамольцаў Гулю Большага

і Васю Меншага, якія памаглі вясковым майстрам сабрацца ў складчыну-братчыну.

Гурый Бальшакоў і Васіль Мяньшэнін былі тады першыя камсамольцы на ўсю рэчку. Гуля быў за старшыню ў сельсавеце. Вяскоўцы выхваляліся:

— Старшыня дык старшыня. І кепскага чалавека словам асадзіць, і добрага заўсёды словам падтрымае.

Гуля Большы сабраў у арцель усіх, хто яшчэ аставаўся з жывапісцаў у Лебядзінай Гары. Вася Меншы і стаgórляр Фядот Дзераваяны звязалі ў адну сям'ю майстроў Гары Гусінай.

І спорылася б арцельная справа, ды не хапала хітрамудрых жывапісцаў Губы і Шчакі. Вызваліўшыся ад гаспадаровай кабалы, абодва Іваны пайшлі на далёкія марскія берагі, на промыслы.

Як толькі якое свята, на пясках каля Лебядзінай рэчкі арцелі ўсчыналі сход. Гуля старшынстваваў, Вася сакратарыў. Людзі выказваліся:

— Усякі мастакоўскі прыпас, фарбы, і алей, і клей, мы раздабудзем. Пэндзлікі і ўсякі мастакоўскі рыштунак самі зладзім. А як так зрабіць, каб сваім рамяством ганарыцца маглі, каб нашым паробкам век зносу не было? От тут у нас і паслабка атрымалася, многае што разгубілі. Здаецца, і нішто на выгляд, а хараства таго няма. Фарбаў не шкадуем, а ўсё роўна аблазіць. І зноў жа: як свой мастацкі манер у строгасці вытрымаць, куды весці яго? Без Губы ды без Шчакі тропу не будзе, пісьмо скрывім на нет, заблытаемся. Жывём па суседстве, а ў чарцяжы і ў расфарбоўцы кожная вёска на свой капыл верне. На Лебядзінай колер любяць — самы пяшчотны, «цьма-лімонны» ды «светла-асінавы», блакітны ды лазурытавы. Чалавечкаў пісалі тоненькіх. На Гусінай фарбавалі пярэста, кветкі ажно зякратыя. Мужыкоў пісалі галавасценькіх, а жанок кароценькіх. Нам сваё аблічча на распыл пускаць не выпадае. Ва ўсякай ягады свая смаката.

Старая Губіна дакладвала:

— Пісьмы ад мужа былі, адрас не надпісвае, ад таго што на месцы не сядзіць. І я от папытаю цябе, таварыш старшыня: няўжо па цяперашняй навуцы нельга вызнаць месца пражывання хоць бы нашага Губы? Даведацца б і стрэбаваць пісьмом.

Гуля рассмяяўся:

— На жаль, і навука не можа вылічыць каардзінату нашых майстроў. Ні іхняй даўгаты, ні шыраты.

Парашылі на тым, што будуць вынюхваць кожную вестачку і па тых вестачках лавіць майстроў. А работу пачнуць адразу ж, бо час такі — гарачэй, чым у прыпар.

На Лебядзінай знайшліся і някепскія жывапісцы. Гусіная Гара ў жывапісе збяднела. Затое сталяр Фядот Дзеравяны ў разьбярстве не меў роўных: долатам па дрэве такія штукі вырабляў, што не кожны таго і пэндзлямі дакажа на паперы. Фядот узяўся падвучыць моладзь у сталярскай справе і ў разьбярстве.

І палезлі хлапчукі да Фядота, як мухі на мёд. Пілавалі, часалі, набівалі руку, адштукоўвалі лаўкі і сталы — паглядзець люба. А каторыя з іх мацнейшую хватку мелі, на ляту ўсё схоплівалі, тых Фядот садзіў за тонкую работу.

— Вось, Міхайлік, глядзі,— удзёўбваў Фядот таленавітаму хлапчуку,— гэта і ёсць мастакоўскія снасці: пілка-сякерка, долатца-стамеска. Змайструеш тут скрыначку, прыладкуеш стрэшку. Атрымаецца для мухі-гарухі церам-церамок. Да яе на пастой паедуць-паваляць, пачнуць жыць-пажываць

Муха — Гаруха,<br>
Скочка — Паскакуха,<br>
Камар — Піскун,<br>
Таракан — Шаркун.

Прыглядваюцца хлопцы да Фядотавых рук, пачынаюць рабіць самі. І кожны выраб, які ён на выгляд будзе, спачатку на паперцы вычарцяць. Да Фядотавых вучняў і зусім малыя лезуць, пераймаюць. Маці дасць катораму рэпку, каб схрумстаў, а ён з яе морду чалавечую выража ці якую птушачку.

Многія са старэйшых падахвоціліся маляваць, самі сабе дзіву даваліся — чаму гэта чалавеку мастакаваць хочацца? Фядот разважаў:

— Прыроднасць у чалавека такая: аднаму чарціць-маляваць хочацца, другому што-небудзь майстраваць — хоць хлебам не кармі. Куфар, скажам, і без размалёўкі ў абыходак можна пусціць. А мастаку хочацца, каб гэтым куфэркам любаваліся. Ну, і ў кішэню лішняя капейчына. Я вось разьбою, узорам усякім колькі прыманьваю пакупніка, столькі і сябе весялю.

Фядот жыў і хлапцоў падвучваў у доме Івана Шчакі. У вёсцы ўсе дамы былі вялікія, край жа лясны, але ў Шчакі была асаблівая відната — з шырокім размахам пароб-

лены вокны. Іван Шчака, як на мора збіраўся, сказаў Фядоту:

— У цябе вочкі, як скочкі, і акенцы ў тваёй хатцы карацелькі. Нашто табе там сляпіцца? Заходзь у мой дом, сталярнічай, у печах палі, вартуй...

Калі да Фядота пачалі збірацца арцельшчыкі, ён трохі занепакоіўся: «Гаспадарнічаю тут без попыту». Але ж гаспадар як у канскі [1] мох праваліўся.

На Лебядзінай Гары чакалі Івана Губу. Гуля Большы заходзіў праведаць старую Губіну, распытваў пра навіны:

— Як думаеце, ці не разам Іван Ягоравіч з Іванам Шчакою прамышляюць?

— Ну але, Гулюшка, звядзеш іх разам, ваявод гэтых! Колькі жывуць, столькі і мятуць у два венікі. Усё нешта дзеляць. Толькі я табе скажу па сакрэту: мой жа чалавек Івана Шчокіна работу ў куфэрку хавае. Дальбог! Дзве каробкі распісаныя ў ручнікі пазагортваў, у паперу ўпакаваў. На свята выме, палюбуецца, уздыхне і скажа: «Па жывапісным дабрачыне Ваньку Шчокіна ні з кім у роўнасць не пастаўлю». Або, слухай, што яшчэ было: скупшчык на прыстані парахода чакае, на куфэрку сядзіць, што Іван Губін вымайстраваў. Шчака як убачыў гэта, падскочыў да купца і як урэжа аплявуху: «Ды ты і ў руках трымаць гэты куфэрак недастойны, а не то што сядзець на ім...»

Катурхаюцца цяпер сярод марскіх ільдзін сівыя маржы, не ведаюць, якія справы дома робяцца. Хіба ўжо, мабыць, як зіма ляжа, на аленях прымчаць.

Не дачакаліся старых і на аленях. Іван Губа прыехаў вясною, Іван Шчака — летам.

Як пачыналася вясною разводдзе, Лебядзіная рэчка выбівала з рук пэндзлі і фарбы. Хапаліся за бусакі, за вёслы, за якары, за ветразі, за сеткі рыбалоўныя. Але з вобласці прыйшло запрашэнне ўдзельнічаць у асенняй выстаўцы, і людзі стараліся ўрваць хоць дзянёк, хоць два для мастакоўства.

Гуля Большы, таго і пасада вымагала, і выставачныя справы, гайсаў то ў вобласць, то ў раён. Ніхто не сустрэў Івана Ягоравіча на прыстані, а Гуля не адразу з'явіўся з візітам.

Губа ўспрыняў усё гэта як няўвагу і знявагу: пагар-

---

[1] Ад паўвострава Канін, пустыннай, бязлюднай мясціны.

джаюць ім! Занудзіўся-забедкаваў, што арцельная справа зачалася без яго.

— Я век пра такую справу марыў, дачакацца не мог. А яны абышлі мяне, Ваньку Шчокіна абмінулі, згуртаванне правялі. Знарок паспехам рабілі, каб мяне не запрасіць. Хоць і запрашаюць, але ж пазней за ўсіх.

Жонка ўгаворвала:

— Не пляці абы-чаго, Ягоравіч. У арцелі калёсы шырокія, падсядзь ды едзь сабе.

— Ага, Ванька ды Манька, Фомка ды Яромка, расселіся і ножкі звесілі. Не буду ім шапкаваць, прасіцца звыш камплекту.

— Чаго табе прасіцца? Гуля Большы цэлу зімачку парогі абіваў: чакаем, казаў, Івана Ягоравіча, як майскі дзень.

— Калі я майскі дзень, дык ты ж і сустрэнь мяне як чалавека.

— Музыкі і барабану не знайшлі, а то б сустрэлі.

— Табе, дурніца, смешачкі, а мне смерць... Яны і Ваньку Шчокіна знарок без апавяшчэння трымаюць.

— Хто гэта яны, ці не наш Гуля, ці не Вася Мяньшэнін? — злавалася старая.

— І няма за што хваліць Гульку. Пра ўсю рэчку яго турбота заела, а мне адстаўку даў. Ну няхай маё пісанне без усякіх мудрагельстваў, але Шчака ж — першай ступені майстар. Праўда, па нораве крутаваты. Але і я не пайду ў ножкі кланяцца, распінацца за сябе. Мы і на адной рыбцы пражывём, абы лавілася.

Арцельныя таксама не ведалі, як падступіцца да майстра.

— Смех і грэх са старым. Бач, для яго ўпартасці, гонару сустрэчу трэба было наладзіць. На талерку пасадзіць мо, па вёсцы пранесці... А цяпер усё прапала. Цяпер хоць усім народам на колінцы станавіся, то не паддасца. А некалі ж, ці ён, ці Шчака, за чужую крыўду першыя ў бойку лезлі з міраедамі.

Моладзь дзівілася:

— І што, гаспадары даравалі за такую дзёрзкасць?

— Даравалі. Бо ў Івана Шчакі, у Івана Губы рукі былі залатыя. Гаспадар ды скупшчык прыбытак гэтымі рукамі заграбалі.

Горш чым на каго пакрыўдзіўся Губа на Гулю Бальшакова:

— У горадзе красуецца, паўліёны для выстаўкі гаро-

дзіць, а мяне незалюбіў. Нашто яму Губа? А калі так, то і яны для мяне пустое месца, чхаць на іх хацеў.

Гуля Большы проста з парахода забег да Губы. Сустрэла гаспадыня з такімі словамі:

— Іван Ягоравіч у прыхварэўшым стане здароўя і прыняць не можа. Прабачэння просіць.

Выйшла Гулю правесці і зашаптала:

— Не крыўдуй, Гулюшка. Стары сам не рады, але свайго звычаю ўпартага пераламаць не можа. Учора сам мяне пасылаў у арцель: «Даведайся пацiху, што такое **новая тэматыка.** Хлопцы ішлі з арцелі і пра нейкую «новую тэматыку» квакалі».

Гуля гэта наматаў на вус. Падчакаў Губу на вуліцы, з пашанаю паздароўкаўся і каробачку падае:

— Іван Ягоравіч, гэта мой першы жывапісны вопыт. Я спрабаваў прымяніць новую тэматыку. Дазвольце даведацца, што вы пра гэта думаеце.

Стары ўпіўся вачыма ў малюнак: зорка, чырванафлоцец, караблі з гербамі.

— Ты гэта зрабіў?

— Я,— адказаў Гуля.

— А скрынка-то лепшая за цябе!

Гуля расказаў арцельным. Тыя рагаталі:

— А Іван Ягоравіч увесь век такі. Скупшчыка, бывала, так чыхвосціць, ажно рэха ідзе. Людзі смяюцца, а Губа і на народ можа з вяслом пайсці ці яшчэ з чым... Каб пачапіў на адной галіне Івана Губу і Івана Шчаку — ніводзін не пераважыў бы.

Губа пасля сустрэчы з Бальшаковым узяўся за справу. Шчыраваў і ўдзень і ўночы, добра, што летнія ночы на Поўначы светлыя, як дзень. Вытачыў вялікія драўляныя блюды, якія на вяселлі ўжываюць, і пакрыў ляўкасам, крэйдаю на рыбіным клеі. Як высахла, адшліфаваў звярыным зубам.

Стаў ляўкас, як шкарлупіна з яйка, гладкі ды белы. Па ляўкасе чарціў тонкім вугальком і абводзіў малюнак чарнілам. У пяро з жураўлінага крыла ўвязваў крыху валаскоў з вавёрчынага хваста — рыхтаваў пэндзлікі. Потым сціраў фарбы з яечным жаўтком. Краску збіраў у драўляную лыжку. Многа лыжак пад леваю рукою на лаве ляжыць. Што спатрэбіцца, тое і бярэ, з лыжкі пэндзлікам фарбы падчэпіць і піша па блюдзе. Радкі серабрыстых карункаў на блакіце — гэта мора. Па моры плылі залатыя караблікі. Зверху як быццам ружовы венічак з кветак —

ранішняя зара-зараніца. Як канчаў пісаць і ўсё падсыхала, пакрываў пакостам, ільняным вараным алеем. Хваліўся майстар:

— Глядзі, жонка, як пакост зіхціць. Блакіт і охра туташнія так сабе. Барвянец з-пад нашай жа гары. А зашкляніў пакостам, і як яны светла румяняцца, гарацы!

Жонка любуецца і гаворыць:

— Гуля хоць пакрысе, а мастакоўскі прыпас з горада прывозіць. Перад паводкаю сіняга кобеля прывёз і нутро марынінае.

Смяецца майстар:

— Кобальт і ультрамарын... Фарбы добрыя, а папсуе без толку. Якую б фарбу толькі мезенцавым пэндзлікам падчапіць — і до, а ў іх плыўціць ажно, ім бы толькі вароты мазаць, а не... Чуў нядаўна, як яны пра афарбоўку падлогі лухту плялі: пакост з газаю змяшаць і — цудоўна... Я ў вобмарак чуць не ўпаў.

Старая пераводзіць размову на прыемны лад:

— Як жа ў цябе і красавіта, Ягоравіч! Нібы сады цвітуць на блюдзе.

— То-та ж! — згаджаўся Губа.— А ты хіба разумееш, у чым моц і сэнс пісьма?

— А што ж, вельмі нават... Войдзека чырвонае войска гоніць з нашага мора іншаземных хватаў, а во тутака марскі парад выпісаны: гарматы з нашых караблёў бабэхаюць, сцягі ліюцца-трапечуць, чайкі ляцяць. А чаго гэта дзеўка з трумпеткаю на неба залезла?

— Гэта Слава з трубою,— усміхаецца стары.— Паказана «Прышэсце Чырвонага флоту на Поўнач». Збрыдзелі мне птушачкі ды красачкі. Жадаю тое расказаць, што мой розум вяселіць, ад чаго сэрца радуецца.

Губа вырашыў пахваліцца перад арцельнымі, асабліва перад Гулем. Старая пабегла да Бальшаковых. Аказалася, Гулю зноў у горад паклікалі. Ажно ўчарнеў Іван Ягоравіч:

— Медалі паехаў лудзіць для сваёй канпаніі. Канешне, усе яны Пціцыяны і Рэбрамты. Іх пасадзяць у Ермітаж на бажніцу пад святло электрыкі. А забыты мастак Ванька Губін няхай пяе на вуліцы: «Падарэце хлопчыку на хлеб, ён Велізарыя корміць».

— Ну й мастак жа ты, Ягоравіч, слязу выціскаць,— усхліпвае старая.— Вылізар гэта хто?

— Зняважаная нявіннасць,— хмура адказвае Губа.

Хутка яму надакучыла расчульваць самога сябе:

— Старшыні няма, выстаўлюся перад арцельнымі.

Брала цікаўнасць: што яны там нарыхтавалі для выстаўкі?

Неяк ранічкаю дагледзеў, што на вуліцы народу няма, паўвязваў свае блюды, пайшоў.

— Куды ж ты, Іван? — здзівілася жонка.— Арцель жа, нябось, уся на прыстані. Параход прыйшоў.

— Мялі, Ямеля... Будуць яны бегаць, параходзікі сустракаць... Выстаўка ж на носе! А ты, старая, не звані. Я цішком.

Каб людзі не падумалі чаго, Іван няспешна, памахваючы кійком, прайшоўся па вёсцы і, быццам знячэўку, юркнуў у арцельныя вароты. Таўхануў дзверы майстэрні. Зачынена. Але ўсярэдзіне нехта на ўсю моц грукатаў молатам. Тады Іван давай бабухаць і кулаком, і палкаю.

— Ач якое мінісцерства! Зачыніўшыся працуюць. «Без даклада не заходзіць». Ну не, я не адступлюся. Хоць нязваны наведвальнік, а будзьце ласкавы прыняць!

З суседняга дома выглянула бабка:

— Дарэмна грукату нарабіў. Народ на параход пабег, дровы грузіць... Ой, дык гэта Іван Ягоравіч? Не пазнала цябе. Нейкі тавар за пазухай туліш, анцярэснасць нейкую зрабіў?

З дому насупраць вылезла другая бабка:

— Здароў быў, Іван Ягоравіч! Мацней лупі. У майстэрні адзін Пятруха глухі, патэльні робіць. Давай я падмагну, калом у прасценак грохну...

Не помнячы сябе, прыляцеў Іван Ягоравіч дадому. Пашпурляў блюды пад лаўку:

— Нарабіў смехаўя: «Іван Губа ў арцель ламаўся, кланяўся, прасіўся». Падай мне стрэльбу, старая. На возера пайду. З гагарамі, з качанятамі пагавару. Супакою сваё сэрца. Раней чым у нядзелю не чакай.

Лясная цішыня не супакоіла Івана. У нядзелю прыблукаў дадому, як хмара.

— Нічога, таварышы арцельныя... Я вам налью юшкі ў лыжку. Сам да вобласці дайду. Перад мастацкімі начальнікамі сваю работу выкладу. Хай рошаць, ці заслужана Івашку Губіна ад спраў адхіляць...

Каля сельсавета тоўпіўся народ. Чуліся галасы:

— Губа ідзе! Ягоравіч ідзе!..

Нехта крыкнуў:

— Эй, Іван Ягоравіч! Па цябе два разы бегалі. Дзе ты запрапаў? На сход спознішся!

— Які-такі сход?

— Гуля Бальшакоў з горада даклад прывёз пра арцель. І нашы, і гусінаўскія тут.

«Ну што ж,— падумаў Губа.— Ашчасліўлю вас сваёй прысутнасцю. Наспяваю куплетаў. Вылаю і за старое, і за новае, і ўперад на тры гады...»

У велізарнай зале народу было — хоць па галовах ступай. Скончыліся агульныя пытанні. Са сваім паведамленнем выйшаў Гуля Бальшакоў. Расказаў пра будаўніцтва выстаўкі, адкрыццё якое дастасавана да Кастрычніцкіх свят; пра тое, якое віднае месца адведзена Лебядзінай рэчцы. Іван Губа, лічачы, што для яго ўсё страчана, захацеў зрабіць прыкрасць дакладчыку, пачаў голасна гаварыць з суседзямі. Тады і высокі голас Гулі Бальшакова зазвінеў, як званок:

— Я чую, што сярод нас прысутнічае наш паважаны майстар Іван Ягоравіч Губін. Іван Ягоравіч, я прывёз вам асабістае запрашэнне ўдзельнічаць на выстаўцы.

Іван буркнуў:

— А хто мяне там ведае.

Гуля ж далей кажа:

— Прабачце, што без вашага дазволу я паказаў выставачнаму камітэту некалькі вашых работ. З тых, што захоўваліся ў арцелі. Вашы вырабы, Іван Ягоравіч, вельмі спадабаліся. Камітэт з задавальненнем выдзеліць вам, Іван Ягоравіч, асобную вітрыну або, калі вы пажадаеце зрабіць гонар арцелі,— то ў якасці яе члена, сярод яе экспанатаў. Вы, канешне, будзеце нашым упрыгожаннем, Іван Ягоравіч.

Гуля саскочыў з кафедры, падышоў да лаўкі, дзе сядзеў Іван Губа, і падаў яму канверт:

— Вось вам асабістае пісьмо ад камітэта, Іван Ягоравіч.

Цішыня стаяла ў зале. Сотні вачэй глядзелі на Івана. Іван раптам счырванеў, зморшчыўся, і... слёзы хлынулі з яго вачэй. З-за слёз не бачачы Гулю Бальшакова, стары намацаў яго рукамі і абняў:

— Клапатунок ты мой, спачувальнік ты мой, дабрахот ты мой, Гулюшка! Не я ўпрыгожу, гэта вы, маладыя, добрасардэчныя, свет наш упрыгожваеце!

Павярнуўшы ў бок арцельных мокры ад слёз твар, Іван гаркнуў:

— Арцель, пішы мяне ў члены ці хоць бы ў вучні! Чалом б'ю!

Не гусі-лебедзі крыллямі залопалі — арцельныя забілі ў далоні, закрычалі:

— Інструктарам будзеш у нас, Іван Ягоравіч,— рашана і падпісана!

На Лебядзінай Гары справы ідуць добра. Пра Гусіную Гару можна сказаць, што калі тут будаваў арцельную справу сталяр Фядот Дзеравяны, то страхою накрыў будынак і «вяночак» пачапіў камсамолец Вася Мяньшэнін.

На Гусінай і раней мала было жывапісцаў. Больш сталяры і разьбяры. У апошні час адзін Іван Шчака ўмеў размаляваць-адштукаваць шкатулку-куфэрачак у іхнім, своеасаблівым гусце. І фарба ў Шчокінай рабоце не цямнела, не ліняла, не змывалася.

— Трыццаць гадоў стол мачалкаю здзіраю,— скажа вясковая гаспадыня,— а кветачкі — ну як сёння расцвілі! Пастараўся Іван Шчокін!

Яшчэ зімою Шчака паведаміў Фядоту:

— Адкрыецца навігацыя, то з першым параходам і я буду дома!

Арцельныя ўзрадаваліся. Нарыхтавалі каробачак і скрынак: беражкі-канцікі разьбяныя, а ўсю пляскатасць, што на сценках, што на дошках, пакінулі для роспісу:

— Іван Акімавіч прыедзе, расфарбуе, узорчыкамі ўквеціць. Не паддамося Лебядзінай Гары.

Вася Меншы даставаў малюнкі, карцінкі пра новае жыццё, пра савецкае. Збіраў і прыгаворваў:

— Спатрэбяцца нашаму мастаку.

Фядот задумліва хітаў галавою:

— Толькі вось ці мы спатрэбімся? Да свайго мастакоўства Іван Акімавіч такія рэўнашчы трымае. Гледзячы, якім вокам кіне на ўсё... Можа, не спадабаецца, што ў яго хаце гаспадарым. Мне першаму і пападзе.

Іван Шчака прыехаў пад лета. Тут жа, каля марской прыстані, распытаў усё падрабязна пра арцель, пра тое, што для арцельных у горадзе «куюць медалі». Недарма казалі, што Іван Ягоравіч і Іван Якімавіч адзін аднаго вартыя.

Шчака засердаваў, загарачыўся і на сябе, і на людзей, а на Фядота горай за ўсіх. Па Лебядзінай рэчцы хадзіў спецыяльны параходзік. Шчака не паехаў дадому. Засеў у будане ў знаёмага рыбака.

Аб прыездзе майстра на Гусінай даведаліся ў той жа дзень. Чакалі суткі, непакоіліся: «Ці не захварэў чалавек?

Мо дзе зваліўся пад які баркас...» Фядот Дзеравяны, як на грэх, параніў нагу. На разведку накіраваўся Вася Меншы.

Шчака сядзеў у будане, вязаў рыбацкую сетку. Не зірнуў нават добра на Васю, зыркнуў толькі крыва:

— Здрасьце, малады чалавек. Драбней за вас і паслаць ужо не было каго? Фядотка выпруціўся? Капутнуў?

— Фядот пасек нагу сякерай.

— Знарок, ведаю яго хітрыкі... Значыцца, вас паслалі беспрытульнага бадзягу выгледзець? Абвестку дайце народу, што Івашка Шчокін, паколькі не мае дзе галавы прытуліць, перайшоў на качэўны спосаб жыцця, як тыя дзікія плямёны.

Вася стараўся, каб як улагодзіць старога:

— Як мы вас чакалі, Іван Акімавіч. Справы ў вас столькі будзе — на баржы не завязеш.

Шчака бліснуў на Васю раз'ятраным вокам:

— Без спросу ў парабкі мяне нанялі! Вы будзеце ў маёй хаце права правіць, а я ў вас на пабягушках? Вы і з Губіным нахабства нарабілі. У скамарохі на старасць падаўся. А ў нашым майстэрстве без Івашкі Губіна вам як без рук!

— Я вам логіку хачу даказаць, Іван Акімавіч.

— А я вам і без логікі такую песеньку спяю: каб гэтага фанабэра, аспіда гэтага Фядоткі і духу ў маёй хаце не было! Тыдзень даю тэрміну. Праз тыдзень будзьце ласкавы далажыць мне.

Якая сумная і даўжэзная была Васю дарога назад!

«Як нізка ставіць сам сябе Іван Акімавіч. Капрызы, як у малога дзіцяці. От ужо размоў будзе ў вёсцы: «Добрую, мабыць, кішэню набіў, калі хвост дзярэ». Фядот хворы горш за ўсіх перажывацьме. Лепш памаўчу. Авось наш доўгачаканы майстар за розум возьмецца».

На Гусінай Вася заявіў, што Іван Акімавіч прыхварэў. Прасіў наведаць яго праз тыдзень. Арцельныя супакоіліся. У Фядота адлегла ад сэрца.

Камары, бязлюднасць, крыўда на ўвесь белы свет добра дапяклі Шчаку за тыдзень.

Вася прыехаў і зноў пачаў па-добраму:

— Дарэмна вы на нас крыўдуеце, Іван Акімавіч. Чаму не едзеце дахаты?

— У кладоўку хочаце мяне запраторыць ці на вышкі закінуць? — гарачыўся Шчака.— Уласці з горада прыедуць: «А дзе тут у вас пражывае зняважаны Іван Шчо-

кін?» — «Пад ганкам,— адгукнуся я,— замест Шарыка і Жучкі брашу на розныя басы».

Вася не вытрымаў, зарагатаў.

— Ты яшчэ і насміхацца? — загрымеў стары.— Ты пасольства прысланы спаўняць ці зубы скаліць?

Засердзіўся і Вася:

— Што вы на мяне раз'ехаліся, Іван Акімавіч? Калі я пасол, то вам трэба належна мяне выслухаць.

— Я гаспадара-мíраеда не слухаўся, а цяпер і падаўна. І вось вам мой апошні сказ: яшчэ тыдзень пацярплю. А ў нядзелю прыеду вось з гэтым бярозавым калом. Падобраму Фядотка з двара не выплыве — палкаю пратуру!

Ехаў Вася дадому, думаў горкую думу: «Сам сябе майстар хоча абняславіць. А я нічога не скажу ў арцелі. Хай ідзе як ідзе! Тыдзень — доўгі тэрмін, а раптам ды адпусціцца яго сэрца».

У вёсцы Вася сказаў:

— Іван Акімавіч выздаравеў. Пасылае вам усім па нізкім паклоне. У нядзелю сам прыедзе.

Арцельныя развесяліліся. У Фядота стала хутка зажываць нага.

Дом і так трымалі ў парадку, але да прыезду мастака прыбраліся, як да свята. Хлопцы-вучні рыхтавалі сустрэчу.

У нядзелю Вася з самай раніцы вартаваў параход, стаяў на высокім беразе. Чакаў і хваляваўся: ці скора пакажацца дымок? Раней за Васю ўбачылі параход хлапчукі. З крыкам: «Едзе, едзе дзядзька Іван!» — сыпанулі да прыстані. Не адставаў ад іх і Фядот.

Іван Шчака стаяў каля самага борта. У руцэ трымаў бярозавы пакалак. Адзінокая фігура старога здавалася змрочнаю.

«Нарабіў я клопату!» — падумаў Вася, паволі спускаючыся да ракі.

Седзячы каля мора, Шчака чакаў, што да яго прыедуць пасярод тыдня з дакладам, з запрашэннем. Прыйшла і нядзеля, а ніхто не з'явіўся. Павязаўшы пажыткі, ухапіўшы бярозавы кій, стары палез на параход. Усю дарогу сам сябе падгарачваў, стукаў палкаю па палубе: «Пабачым, дружочкі... Я вам не патрэбны, дык і вы ж мне тым болей. Дайце ж толькі прыехаць, я вам...»

Паказалася Гусіная Гара і прыстань. Дзіву даецца Шчака:

«Каго гэта народ сустракае?.. Фядот у чырвонай шаў-

ковай кашулі... Дзяўчына з букетам, хлапчук з размаляванаю папераю. Дзеці ў два рады... Мо які начальнік у каюце едзе?.. Фядот шапкаю махае. Усе камусьці радуюцца. На мяне глядзяць!»

Параход кінуў прычалы. Арцельныя хлопцы не выцерпелі, парушылі рады. Бягуць да Івана і крычаць:

— Дзядзька Іван Акімавіч, з прыездам!

— Дзядзька Іван Акімавіч, з прыездам!

Палка выпала з рук у Івана, з грукатам пакацілася па палубе... Дзяўчынка дае Івану букет. Хлапчук звонкім голасам чытае па паперцы:

— «Мы, вучні гусінаўскай арцелі, вітаем нашага мастака...»

Іван загроб у абдымкі адразу пяцёх хлапчукоў і схаваў твар сярод іх галоў, каб не бачылі яго слёз. Потым моцна абняўся з Фядотам.

Было чаго радавацца Васю. Заўважыўшы яго, Шчака сказаў:

— Васечка, зайдзі да мяне ў каюту. Куфэрак падсобіш зняць.

У пустой каюце Іван спытаў:

— Вася, ты ім нічога не казаў? Яны нічога не ведаюць?

— Нічога не казаў, Іван Акімавіч. Нічога яны не ведаюць.

Стары пакланіўся Васю ў ногі.

— Не я настаўнік, Васька, а ты мой настаўнік!

Шчака хадзіў па сваім доме:

— Фіраначкі, кветкі, чысціня... Падлогу хоць насовачкай патры, не забрудзіцца. А гэтая святліца чаго ж на замку?

— Тут твой маёнтак,— растлумачыў Фядот.— Куфар, пасцель, пасудак. Як паехаў, дык усё і ляжыць нечапанае.

Іван зашумеў:

— Эх вы, распарадчыкі! Таўкуцца тут, а такі пакой зачынілі. Перанясіце маё ў бакоўку, хопіць мне і яе. А тут — усё пад майстэрню.

Вася хітравата прыплюшчыў вока, шапнуў Івану:

— А я ўжо хацеў, як што якое, к сабе перацягваць арцель.

Іван засмяяўся:

— У цябе вуліца гразкая, у цябе вароты не пафарбаваныя. У цябе падлога не падмецена.

Да ночы Іван трымаў каля сябе народ, а на другі дзень

арцель узялася за фарбы ды за жывапіс. Працавалі — з агню выхопвалі: выстаўка была не за гарамі.

Шчака не трапіў і на сход, дзе Гуля Бальшакоў так спрытна памірыў Губу з арцеллю. Але гусінцы, якія хадзілі на Лебядзіную Гару, не толькі расказвалі, а нават у асобах разыгралі і Губу, і Гулю. Шчака слухаў, і ў яго зіхацелі вочы.

— Цяпер Іван Ягоравіч і мяне не адштурхне. Ты, Вася, і ты, Фядот, рушым заўтра ў Лебядзіную.

У хаце ў Губы сядзелі арцельныя, любаваліся новымі блюдамі. Раптам гаспадар, зірнуўшы ў акно, ахнуў:

— Небывалы госць ідзе! Раздайся, народ, шырэй круг, карагод!

Ён кінуўся ў сенцы, працягнуў абедзве рукі Івану Шчаку.

— Ванька,— сказаў Губа.— Колькі гадкоў мы адзін па адным сумавалі?!

— Ванька,— адказваў Шчака,— няхай лепш людзі палічаць, колькі гадкоў мы з табою дружылі.

Не так сабе хваліліся вясковыя бабкі, што ў горадзе куюць медалі на куфэрачных майстроў. У кастрычніку арцельцам выдалі ўзнагароды. На ўрачыстым сходзе пачулі слова і рэчкі Лебядзінай. Іван Шчака сказаў:

— Хто раней ведаў пра нас, каму мы патрэбныя былі? Цяпер ад дзяржавы загадана нам быць каля жывапісных спраў. Бывала, ніхто і ведаць не хацеў, што ёсць такі скрыначнік-каробачнік Ванька Шчокін. А цяпер мне сказалі падпісваць мае работы. Бывала, нават жывапіс такога майстра, як Іван Ягоравіч Губін, валяўся на базары з вёдрамі, з рыдлёўкамі. Цяпер ён у музеі пад шклом.

Бывала, мы бадзяліся самі па сабе, цяпер нам сапраўдная дарога пад ногі папала. Цяпер мы шырокім крокам ступілі... А час пакажа, ці паспяховае будзе наша пісьмо ў новага будаўніцтва.

Мне, старому, нешта цесна стала каля каробачкі-шкатулачкі сядзець. Жадаю гэтую столь распісваць, на заводскім тэатры пэндзлем размахнуцца. Каб не толькі птушачкі ды кветачкі, а каб пра будову Зямлі, пра вайну і цішыню расказаць.

Іван Губа казаў:

— Прыгажэй за цёплае лета гэтыя восеньскія дні. Люба мне, вясковаму майстру, быць на такім бліскучым схо-

дзе. І пры ўсіх хачу назваць, і ад усёй Лебядзінай рэчкі дзякуй сказаць нашым камсамольцам Гурыю Бальшакову і Васілю Мяньшэніну. Ты, Гуля Большы, і ты, Вася... стараліся на карысць вёскі, вы прытушылі шматвяковую варожасць.

Вы такое цярпенне паказалі таму, што любілі роднае мастацтва! Дальнабачна будавалі вы свае паводзіны... Нас, старых майстроў, клікалі вы ў настаўнікі. І вось я, так званы настаўнік, прыехаў у вялікі горад. Хаджу, разглядваю, раздумваю. І... адчуваю сябе вучнем.

# Іван Катаеў

## НЕЎМІРУЧАСЦЬ

Я ніколі не бачыў слесара Бачурына.

Але я ведаю мясціны, дзе ён жыў.

Ці туман напаўняе ёмкія даліны, ці імжыць густы дробны дожджык, які асядае на адзенні нарзаннымі кропелькамі, ці распагоджваецца,— краявід грозненскіх Новых промыслаў заўсёды цудоўны і заўсёды сумны. Сум, мабыць, ад незавершанасці пакарэння гэтых высокіх узгоркаў працай чалавека. Што яны? Ужо не дзікая вольная града каўказскай Азіі, вядомая толькі ветру, ды магутнаму небу, ды конніку ў прамавугольнай бурцы. Яшчэ не горад на гары, не завод, які праглынае спрадвечную прыроду так, што амаль і не відаць яна, знікае ў праходах паміж карпусамі, у блытаніне пад'язных шляхоў. Нафтавыя промыслы надоўга павіслі ў гэтым пралёце паміж першабытнасцю і цывілізацыяй і як бы ні грукаталі, як бы ні бразгалі сталлю аб сталь, як бы ні ззялі ўночы агнямі, пралягаючы ўдалечыні, у вышынях яркім Млечным Шляхам,— усё нібы няма апошняй перамогі.

Вось кідаецца зігзагамі шаша, адольваючы ўздым, і наўкола толькі прамысловасць; чорныя, у падцёках застылага парафіну, і свежацясовыя буравыя ўзбягаюць па схілах, частым лесам стаяць на грабянях, натоўпам спускаюцца ў глыбокія яры; усюды белыя тоўстыя рэзервуары, чарапічныя дахі майстэрняў, жылля, сталовак, там градзірня[1] газавага завода, тут гудучая крэпасць электрастанцыі. Жыццё, сканцэнтраванае дабыванне энергіі, у грукаце, у перастуках, у густых клубах пары, што вырываліся з зямлі. Але, узляцеўшы на ўзгорак, пераламалася ўніз шаша, і — вырасла адразу маўклівая спрадвечная краіна.

Побач — стромыя валы неасвоеных вышынь, адзетыя рыжаватым плюшам хмызнякоў, злёгку прыпарушаныя

[1] **Градзірня** — прыстасаванне для ахалоджвання гарачай вады.

снегам на ўзлобках,— няходжаныя дзікія нетры, дзе, можа, толькі адзіная нясмелая сцяжынка шнырае ў калючым сплячэнні мокрага ўчэпістага глогу. Рыжыя, бурыя, туманна-малінавыя грады і — за апошнім малінавым мысам — шызая імгла даліны Чачэн-аула. Зірнуць направа, там, за Алдамі, на гарызонце, далёкім, далёкім, у ветранай недасягальнай сінечы — лясістыя Чорныя горы ў плямах і палосках снегу.

Якая панылая і важная прастора.

А яшчэ прасвятлее, устане над усім, усё панізіць, укладзе пад сабой — галоўны хрыбет, вялікі, белы, у ценях і маршчынах, увесь іншамоўная песня, варварская легенда, пушчаная ад мора да мора; і раптам — прамільгне з воблакаў Казбек вуглом страшных ільдоў сваіх (сказаў бы Гогаль).

На другі дзень пасля прыезду я ішоў па першым эксплуатацыйным участку. Дождж спыніўся толькі пад раніцу, было сыра, туманна, непрыемна, наваколле выступала цьмяна, нібы праз навошчаную паперу. На дарогах вязкая і едкая грозненская гразь хапала за ногі, сцягвала боты, але і тут, на травяністых пабурэлых лугавінах, пругкая глеба набрыняла вільгаццю і сумна чаўкала, адпушчаючы падэшву. Дзіўнае бязлюддзе на ўчастку ўразіла мяне. Я ўжо ведаў па літаратуры: сучасная эксплуатацыя промыслаў помпамі і газліфтамі [1] не патрабуе вялікай колькасці рабочых, здабыча амаль аўтаматызавана — толькі агульны кантроль ды рамонт. І ўсё-такі мне, які прывык у мінулыя гады да хлапечай звонкай мітусні жалоначнага тартання [2], дзіўна было адчуваць вакол сябе гэту небывалую справу, якая рабілася сіламі безгаловых механізмаў, нібыта зусім пакінутых людзьмі. Учора я запісаў у блакноце: за мінулы месяц на першым участку здабыта трыццаць тысяч тон нафты. Значыць, уся гэта маса высмактана з зямлі, перапслана па трубах на заводы амаль без дотыку чалавечай рукі, моўчкі.

Ціхае белае неба, мокрая трава, трубы, лінейныя сілуэты помпавых качалак і газліфтаў у тумане — нейкая жалезная пустыня; і тут ідзе тытанічная работа, перамяшчэнне вялізазных мас і цяжараў. Мільганула здань будучыні: гэткія ж пустыя заводы аўтаматычна рухаюць

---

[1] Газліфт — ліфт для газаў.
[2] Жалоначнае тартанне — характэрны гук установкі для пад'ёму вадкасці і буравой гразі.

станкі, круцяць канвееры, а людзі пайшлі куды-небудзь на раку, задумліва сядзяць на беразе, пад небам.

Цішыня на ўчастку была б непарушная, калі б не рытмічныя скрыпы, слабыя стогны, што даносяцца з розных бакоў з туману, і яшчэ — мерныя шоргаты на самой зямлі, у траве. Адкуль шоргаты, мне ўжо было зразумела: разпораз даводзілася перастунаць цераз жалезныя тросы, якія былі працягнуты па ўсім участку і няспынна торгаліся наперад і назад. Каб яны не церліся па зямлі, сям-там падкладзены вялікія драўляныя шпулькі, і шпулькі гэтыя, у драўляных жалабах, падобных на карытцы, таксама ходзяць: наперад-назад, наперад-назад. Я пайшоў уздоўж аднаго такога троса, і ён прывёў мяне да помпавай качалкі; я пазнаў яе па малюнку, звычайную качалку тыпу «Аклахома», якая замяніла на промыслах саматужную жалонку ў дзевяцьсот дваццаць пятым годзе. Вось яна і паскрыпвала жаласна, кланяючыся, як журавель, апускаючы і падымаючы паліраваную штангу, што ішла да помпавага поршня. Гэты нескладаны рух прыдаваўся ёй якраз тым самым тросам, што поўзаў у траве на шпульках. Я павярнуў назад і неўзабаве ўбачыў, што трос цягнецца да адзінокай бетоннай будыніны на пагорку, і адтуль ідуць ва ўсе бакі, як прамяні, дзесяткі такіх самых цяжаў [1]. Там, у будынку, трансмісія ад матора нетаропка круціла гарызантальны эксцэнтрык, да краёў якога і былі прымацаваны ўсе цяжы. Тут, у чысціні выбеленых сцен, у белым святле шырокіх вокнаў, нібыта ў радзільным пакоі, няспынна ўзнікаў гэты просты рух, які перадаваўся дзесяткам буравых.

За ўвесь час хады па ўчастку я ўбачыў толькі двух чалавек: вартавых, якія праверылі мой пропуск.

Вечарам Васіль Міхеевіч Ботаў, даўні мой прыяцель і промыславы старажыл, расказаў мне кароткую гісторыю цяжаў на драўляных шпульках.

— Быў у нас на промыслах такі дзівак, Бачурын, слесар. Гэту самую сістэму цягі ад эксцэнтрыка да качалак ён і вынайшаў у годзе так дваццаць пятым. Справа нібыта няхітрая, але ж усе промыслы прынялі такую сістэму, мудрэй не прыдумаеш. Вядома, прэміявалі Бачурына — паўсотняй. Быў ён, між іншым, партыйны, аднак — спадчына царызму — любіў незаўважна закладваць вось сюды. Мабыць, і прэмію выкарыстаў на гэта. А ў ім здаўна

[1] Ц я́ ж ы — тросы, пасы.

сядзелі сухоты, і пры сухотах, вядома, зусім нельга такога. Лячылі яго, ездзіў ён неяк на курорт. Не памагло. Ну і летась збачурыўся наш Бачурын, пахавалі. Толькі і засталося ад яго, што вось гэтыя шпулькі. Цяпер ідзеш па эксплуатацыйных участках, ціха ўсюды, пуста, качалкі кланяюцца сабе, паскрыпваюць, а шпулькі скрозь у траве ходзяць — туды-сюды, туды-сюды. Ідзеш і думаеш: а вось наш Бачурын усё катаецца, усё катаецца...

Ботаў усміхнуўся, і размова перайшла на іншае. Мне пра многае трэба было ў яго распытаць, у галаве сядзелі газетныя заданні, пытанні, а з эксплуатацыяй у гэты час усё было добра. Адным словам, думкам маім тады не было калі займацца гэтымі качалкамі і ўсім, што з імі звязана. Мільганула толькі: цікава ўсё гэта, трэба запомніць, і на некалькі дзён бачурынскую гісторыю засланілі іншыя справы і ўражанні.

Толькі ў дзень ад'езду, па дарозе назад з далёкай буравой, мне зноў давялося праходзіць першым участкам. За гэты час надышлі халады. На промыслах лёг глыбокі снег. Усё пабялела навокал і нібы зусім абязлюдзела. Яшчэ больш геаметрычна і суха зачарнелі трубы, вышкі, механізмы, яшчэ больш бязрадасна слалася раўнінная далячынь пад бела-свінцовым покрывам, яшчэ больш люта і пагрозліва бліскалі над усёй краінай зубцы і рабрыстыя глыбы галоўнага хрыбта. Усё гэтак жа ішла на промыслах нябачная бяссонная работа, у марозным чыстым паветры ўсюды горка пераклікаліся качалкі, і бясконцае снаванне жалезных цяжаў і драўляных шпулек стала яшчэ грубейшым і выразным на снежнай незаплямленай белізне.

Што ж гэта за бедны, непрыкметны рух, падумаў я, успомніўшы слесара Бачурына,— наперад-назад, наперад-назад і ні з месца. І гэта ўсё, на што пайшло тваё жыццё, таварыш Бачурын, жыццё доўгае і багатае разнастайнымі рухамі... А ці багатае?..

І тут я зразумеў, што нічога не ведаю пра гэтага забытага чалавека, чыя ажыццёўленая думка ўсё яшчэ ўдзельнічае ў працы народа, падымаючы на паверхню зямлі новыя і новыя тоны нафты. Не ведаю яго аблічча, манеры разважанняў, гаворкі, звычак — усяго таго адметнага і адзінага, што разам давала ўяўленне аб сабе: я, Бачурын, і, можа, неяк па-асабліваму падморгваю прыяцелю, закусваючы чарачку квашаным памідорам, і пасля вялікім пальцам разгладжваю тоўстыя вусы... А ці былі вусы? Гэта пачынаецца ўжо фантазія, літаратура, а пра тое, што

было сапраўды, я нічога не магу сказаць. Нават імя і імя па бацьку не ведаю.

Страшэнна захацелася, проста спатрэбілася — неадкладна пра ўсё даведацца, распытаць у Ботава, сяброў, сваякоў — засталіся ж, мабыць. Паглядзець хоць бы фатаграфію...

Але каля групавой канторы мяне ўжо чакала спадарожная машына, трэба было ў горад, час разлічаны да мінуты. І прыйшлося махнуць рукой на Бачурына.

З таго разу я не бываў на Новых промыслах. Падумваў, ці не напісаць Васілю Міхеевічу, ці не запрасіць звестак пра Бачурына. Ды было неяк няёмка. І што ён мне можа паведаміць, акрамя таго, што ўжо расказаў? Год і месца нараджэння, партыйны стаж?.. Ну, фотакартку прышле — зноў нічога не скажа яна. Так і не напісаў.

Але ўспамінаю я пра Бачурына ўсё часцей і часцей.

Быў жа час — мы жылі з ім на адным кавалку зямлі: у дваццатым і дваццаць першым гадах. Можа, сустракаліся з ім на сходах, на суботніках, не ведаючы адзін аднаго. Магчыма, нават гаманілі мімаходам, прыкурвалі... Тады яшчэ дыміліся Новыя промыслы, датлявалі пачварныя пажарышчы. Бачурын разам з іншымі тушыў, расчышчаў, рамантаваў, аднаўляў. А дзе ён быў раней? Ці не партызаніў ён, ці не вандраваў зімою ў гарах з атрадам Мікалая Гікалы, ці не ваяваў пад Вараздвіжанскай, ці не стаяў з трапяткім сэрцам на схіле ўзгорка, углядваючыся ў цемру вясенняй ночы, чакаючы, пакуль загарыцца на промыслах рэзервуар газы — сігнальны факел паўстання? Той ноччу не загарэлася, дарэмна чакалі гікалаўцы: выйшла памылка. І ці не кінуў Бачурын вобземлю кепку ад горкай злосці на такое пракляцце?

Гэта быў рускі рабочы, які перабраўся сюды з Поўначы, у адзіночку альбо з землякамі або хлапчуком разам з бацькамі пасяліўся тут, у гэтай ні на што не падобнай краіне, на краі рускага свету. Ішлі дзесяцігоддзі, непераможаны Каўказ ззяў над ім велічнымі льдамі, шумела мутная Сунжа, а ён, Бачурын, пакашліваючы, рабіў сваю слясарную справу, якая ў спалучэнні з мільёнамі іншых чалавечых спраў калісьці павінна змяніць усё аблічча гэтай краіны і абрысы горных складак і, магчыма, страшную галаву самога Казбека. Тут усё было асаблівае, грозненскае, са сваімі фарбамі, са сваім непаўторным пахам падзей. Бачурын мог узяць жонку з суседняй станіцы, мог ажаніць сына з тутэйшай казачкай, з іншагародняй. Вось

дык лілося на вяселлі кізлярскае і падлогі траншчалі ад падкаваных ботаў... Тысячы ўсялякіх здарэнняў, пра якія мы можам уведаць толькі самае агульнае і сумнае, адбыліся тут, у Грозным і на промыслах,— Бачурын усё бачыў, усё перажываў, і ад гэтых перажыванняў нічога не засталося. Можна напісаць гістарычнае даследаванне: грозненскі пралетарыят у 1905 годзе. Можна напісаць раман аб дасягненнях грозненцаў у першай пяцігодцы, пусціўшы ў героі каго-небудзь накшталт Бачурына. Няхай усё гэта будзе дакладна, падобна на праўду, і ўсё-такі атрымаюцца толькі агульныя рысы, тыповае, падобнае, а не сапраўдны слесар Бачурын, які жыў на Новых промыслах і памёр ад сухотаў у тысяча дзевяцьсот трыццатым годзе.

След сапраўднага, дакладнага Бачурына змешчаны толькі ў той камбінацыі цяжаў і шпулек, ідэя якой азарыла яго аднойчы. Гэта адзіная сапраўдная памяць пра яго. Каб не шпулькі, створаныя яго самастойнай творчай думкай, я ўвогуле б нічога не ведаў пра чалавека з гэтым прозвішчам, не падазраваў пра яго існаванне.

Магчыма, і дастаткова Бачурыну такой неўміручасці — няхай сабе паскрыпвае і катаецца туды-сюды?

Але ўжо ў трыццаць першым годзе прымітыўныя качалкі «Аклахома» выцясняліся на промыслах больш удасканаленымі помпамі «Вікерс» і «Ідэал», што працавалі ад свайго матора. І ўжо тады на змену помпам усіх сістэм прыйшоў газліфт, які выціскаў нафту са свідравіны газам з кампрэсарнай станцыі. Хутка качалкі «Аклахома» разам з бачурынскай сістэмай цяжаў зусім знікнуць з промыслаў.

Апошні след працы і дум Бачурына сатрэцца.

А мне ўсё ж не хочацца яго забываць.

Калі я чытаю ў газеце, што ў Грозным пабудавалі новую гарадскую лазню, я думаю: эх, ужо не папарыцца Бачурыну ў гэтай лазні...

Калі нядаўна было паведамленне, што ад Align Грознага да Новых промыслаў пайшоў трамвай, я зноў прыкінуў на Бачурына: не праедзецца ён у трамваі з шыкам і звонам, без яго, без яго ездзяць...

Чамусьці здаецца мне, што гэта быў цудоўны чалавек.

Дык няхай жа памятаюць яго, мацней памятаюць — дзеці, унукі, таварышы, народ!

*1934*

# Аляксандр Бяляеў

## КІЛІМ-САМАЛЁТ

Упершыню я даведаўся пра прафесара Вагнера многа гадоў таму назад. У адным часопісе, які цяпер цяжка дзе-небудзь знайсці, я прачытаў забаўную гісторыю — «Выпадак на скачках».

На Маскоўскім іпадроме быў вялікі дзень. Афішы апавяшчалі пра «вялікую праграму», пра высокія грашовыя прызы і каштоўныя прызавыя кубкі, пра ўдзел у скачках самых лепшых коней, ездакоў, рускіх і замежных, пра сустрэчы сусветных чэмпіёнаў. Сабралася надзвычай багата людзей. Сталыя наведвальнікі скачак паказвалі навічкам славутых ездакоў і прыгожых выпешчаных прызавых коней, называлі іх гучныя імёны, успаміналі іх радаслоўную, перамогі, рэкорды, імёны гаспадароў і заводаў — словам, усё, чым жыве і цікавіцца заядлы паклоннік таталізатара.

І раптам сярод бліскучай, гордай конскай арыстакратыі нехта заўважыў старую клячу. Яна была такая занядбалая і хударэбрая, што на яе прыкра было глядзець. Акрываўленыя ногі распухлі ў каленях і пакрывіліся. Галава боўталася, ніжняя адвіслая губа ўвесь час варушылася, быццам кляча нешта мармытала, мо скардзілася на свой лёс... На клячы сядзеў нікому не вядомы хлопчык-жакей; сядзеў басанож, у чырвонай паркалёвай кашулі. Нечыя пільныя вочы ўцікавалі, што хлопчык прывязаны да канякі.

Хутка здыхляка, які быццам уцёк з жывадзёрні, заўважылі і другія гледачы. Людзі смяяліся, дзівіліся, пераматуляліся, задавалі пытанні адзін аднаму, абураліся. Як трапіў сюды гэты конь? Якому вар'яту прыйшло гэта ў галаву? Гляньце: худобіна пнецца ў першы рад да найлепшых скакуноў свету... Чалавек у цыліндры махае сігнальным сцяжком. Медныя трубы палкавога аркестра бліщчаць на сонцы і выдзімаюць такія трубныя гукі марша, што ажно дрыжыць паветра.

Хлопчык-жакей у чырвонай паркалёвай кашульцы нізка нахіляецца да конскай спіны і моцна сціскае маленькі рычажок. І ў той жа момант з клячай пачынаецца нешта фантастычнае: яна так мільгаціць нагамі, што здаецца ўсім фантастычнай саракаcножкай, якая віхруе па іпадроме. Не паспелі найлепшыя прызавыя коні яшчэ адысці ад стартавай лініі на тры-чатыры корпусы, а старая кляча ўжо абабегла круг, разарвала грудзямі стужку на фінішы, не прыпыняючыся, пранеслася па крузе яшчэ два разы і нарэшце спынілася як укопаная, нізка схіліўшы галаву з адвіслай губой. Кляча выйграла, і ўладальнік яе павінен быў узяць незвычайны прыз.

Хвіліну тысячы гледачоў былі ў здранцвенні, а ў наступную іпадром прарвала, як вулкан. Людзі проста ашалелі: яны крычалі, размахвалі рукамі, істэрычна вішчалі. Наўкруг клячы сабраўся гарласты натоўп. Даносіліся злыя воклічы:

— Падман! Ашуканства! Прэч!

— Паглядзіце, пад чэравам — матор...

— Велічынёй з цыгарную каробку...

— І тонкія рычагі прымацаваны да ног.

— Чыя гэта кляча?

— Забіць! Разарваць яго! Дзе ён?

— Вось ён, у панаме... вынаходнік Вагнер...

— Хоць і фізік, а жулік. Бі яго!..

— Панове! — з усяе сілы стараўся перакрычаць натоўп чалавек у панаме.— Супакойцеся. Я не ставіў на сваю клячу. Я не збіраўся абгульваць вас... Я хацеў толькі...

Абуральныя выкрыкі заглушалі яго. Над панамай узляталі кулакі, парасоны, палкі. Невядома, чым гэта б скончылася, калі б Вагнер не падняў шар, памерам з більярдны, які ярка бліснуў на сонцы.

— Бомба! — закрычаў ён. Людзей ахапіў страх, і натоўп раскідала на ўсе бакі. Вынаходнік знік.

Пра гэтае здарэнне напісалі ў часопісе. Я зацікавіўся Вагнерам, пазнаёміўся, загаварыў пра здарэнне на іпадроме. Малады вынаходнік безнадзейна махнуў рукою.

— Гэта мая чарговая дурасць. Глупства. Колькі разоў заракаўся «не тою вуліцаю хадзіць» — не разбіваць ілбом сцяну. І вось зноў гузак...— І ён пацёр лоб, на якім напраўду быў гузак.— Донкіхоцтва.

— Магло быць куды горш,— зарагатаў я.— Вас выратавала вынаходлівасць. Але пра якую сцяну вы гаворыце?

— Ды пра тупасць і кансерватызм нашага ўрада і на-

шай грамадскасці. Мы безнадзейна адсталі ў тэхніцы ад Еўропы і Амерыкі. Учапіліся за саху — не адарваць. Аснова нашай энергетыкі — звычайная конская спіна. Як не адчаяцца? Не магу проста мірыцца, донкіхотнічаю. Карыстаюся кожным зручным і нязручным выпадкам, каб пераканаць людзей у тым, што маленькі матор можа цягнуць за вялікага каня, што самаробны экіпаж пераганіць любога рысака.— Вочы ў Вагнера насмешліва прыжмурыліся.— Кляча, якую вы бачылі,— аўтамат, механічная цацка. Ніхто нават і не заўважыў гэтага. Агледзелі адно — маторчык і рычагі. Ці добра зроблена? — весела спытаў ён, пабачыўшы маё здзіўленне і захапленне. Потым Вагнер уздыхнуў.— Мне не ўдалося нават растлумачыць. Людзі памешаны на грашах, на таталізатары... Нягоднікі! Яны западозрылі нават, што я хацеў проста абгуляць іх. Аднак перагорнем гэтую сумную старонку і хутчэй забудзем пра яе,— сказаў Вагнер ужо са звычайнай сваёй прыязнасцю.— Мяне цяпер цікавіць новая дасціпная ідэя... адно вынаходніцтва...— І ён зноў пацёр гузак на лбе.

— Гэта вас на іпадроме так размалявалі? — спытаў я. Хто цябе — сам сябе. Чарговая ідэя распірае галаву і выпіраецца гузакамі.

Я зачасціў да Вагнера і кожны раз заставаў яго з новым гузаком на галаве і сінякамі на руках. «Ідэя», як хвароба, вылазіла наверх. Вагнер адгаворваўся жартамі і не адкрываў сапраўднай прычыны. Аднойчы ён напалохаў мяне забінтаванай галавою і перавязанай праваю рукою. Весела ўсміхаючыся, падаў мне левую руку:

— Ідэя выспела. Здаецца, настаў час здымаць ураджай.

— Ці не пачакаць, пакуль можна будзе зняць бінт? — паспагадаў я.

— Дробязі! Вы мне дапаможаце?.. Выдатна. Я і не сумняваўся. Дык вось, прыязджайце да мяне на дачу заўтра ж. Вы самі ўбачыце, што ўбачыце...— і Вагнер хітра прыжмурыў правае вока — левае было пад бінтам.

На другі дзень раніцай я сышоў з поезда на маленькім паўстанку і пайшоў па пустыннай прасёлачнай дарозе. Навокал ні дач, ні лесу. Даволі нудная, пустынная мясцінка. На даляглядзе — шэрыя сялянскія хаты — вёска Калодзезі — мэта майго падарожжа. У вёсцы і праўда было нямала калодзежаў з высокімі жураўлямі. Прыкмета: каля самага цыбатага жураўля, у «чыстай» палавіне сялянскай хаты, пасяліўся Вагнер. Ён сустрэў мяне ўжо без

бінту, пачаставаў моцным чаем і печанымі скавароднікамі з маслам і сказаў:

— Ну, калі вы не стаміліся, то пойдзем.

Вынаходнік узяў са стала невялікі чамадан, у сенцах прыхапіў вясло, дзве вудачкі і выйшаў на двор.

— А вудачка і вясло — навошта? — здзіўлена спыталася я.

— Маскіроўка,— падміргнуў мне Вагнер.— Каб за намі не ўвязаліся цікаўныя. Пабачаць, што людзі з чамаданамі ідуць не на станцыю, а ў поле, і прычэпяцца. А так падумаюць — ідзём на рыбалку.

У мяне наконт нашай маскіроўкі была такая думка: калі што і магло выклікаць цікаўнасць тубыльцаў, дык гэта менавіта вудачкі. Я добра ведаў, што на дзесяткі кіламетраў навокал не было ні рэчкі, ні возера, дзе б вялася рыба. На шчасце, вёска быццам вымерла — усе былі на полі. Нам трапілася толькі адна вельмі старая бабулька, якая выпаўзла пагрэцца на сонца. Убачыўшы вудкі, яна здзіўлена ўтаропілася на нас, разявіўшы бяззубы рот.

Мы выйшлі за вёску і бадзёра пашыбавалі да так званага старога палігона, што быў за чатыры кіламетры ад вёскі. Тут калісьці былі ваенныя лагеры. Велізарнае поле пустазелля з аднаго боку было абгароджана старым пахіленым плотам, з другога — замыкалася земляным валам. Каля плота і за ім ляжалі кучы сухога конскага гною. Вагнер спыніўся каля гэтых «аўгіевых канюшняў», кінуў вудку і сеў на чамадан. Ён, пакуль ішоў, увесь час маўчаў. Мне вельмі хацелася даведацца, што і як, але я трываў, ведаючы, што Вагнер сам адкрые мне сваю таямніцу. І вось той момант настаў... Пачатак быў нечаканы.

— Як вы мяркуеце: добра змайстраваны чалавек ці не? Мне здаецца, блага. Горш ад блыхі. Вы смяяцеся? Дарма. Блыха — нікчэмнае насякомае. Ага. А скача яна ў дзесяткі і сотні разоў вышэй за сябе. Чалавек — вянец сусвету,— а скача ўсяго ў вышыню на два метры і ў даўжыню на тры-чатыры самае вялікае. Хіба ж гэта не зневажае чалавека?

— І вы надумаліся выправіць гэтую несправядлівасць прыроды?

— Адважыўся. Чалавек навучыўся пераплываць акіяны, падымацца ў паветра, катацца на каньках, бегаць на лыжах, узлазіць на гладкія тэлеграфныя слупы... Якім чынам? Карыстаючыся мускулістай сілай рук і ног ды — невялікім прыстасаваннем?

Вагнер дастаў з чамадана чатыры спружыны, падобныя на матрацныя. Спружыны былі прымацаваныя да дошчачак, на дошчачках былі рамяні. Дзве вялікія спружыны — на рукі і дзве меншыя — на ногі. Вагнер хуценька прывязаў рамянямі дошчачкі са спружынамі да сваіх ног і папрасіў мяне, каб я памог прывязаць спружыны на рукі.

— Усё гэта пакуль прымітыўна. Выпрабаванне прынцыпу. Цяжка разлічыць раўнавагу,— гаварыў Вагнер, пакуль я мацаваў рамяні.— Дзякую. Цяпер вы дапаможаце мне ўзлезці на плот. Вось зараз нам вясло і спатрэбіцца.

Нованароджаны чалавек-блыха ўскараскаўся на плот. Правільней сказаць, я рукамі падняў і паставіў яго, бо са сваімі спружынамі ён быў амаль бездапаможны.

— Ну, дык вось, пачынаем. Увага! Раз, два, тры!..

Вагнер скочыў. Спружына на назе зачапілася за дошку, якая вытыркнулася з плота, і вынаходнік грымнуўся вобзем.

— Першы блін камяком,— дабрадушна ўсміхнуўся ён.

— Калі меркаваць па вашых гузаках і драпінах,— гэта не першы блін,— заўважыў я.

— На гэтых спружынах — першы. Апошняя мадэль. Калі ласка, усцягні мяне зноў на плот.

Я ўсцягнуў.

— Дык вось, пачынаем.

— Прадаўжаем,— дадаў я.

— Уся справа ў тым, каб удала скокнуць. Блысе скакаць лягчэй, у яе шэсць ног,— сказаў Вагнер.— Ану, гоп!

Ужо па тым, як ён падаў — галавою ўніз, я здагадаўся, што скачок зноў няўдалы. І праўда, першы ўдар — усім цяжарам цела прыпаў на рукі. Вагнера падкінула ўверх і назад. Апісаўшы ў паветры дугу, ён знік за плотам.

Я знайшоў няўдачніка на кучы конскага гною. Вагнер коўзаўся на спіне, спрабуючы перавярнуцца. На маё здзіўленне, ён быў вельмі задаволены сабой.

— Ну і спружыны, бачыце, якія спружыны! Як падкінула! Удасца!

І, калі Вагнер скочыў зноў,— удалося, ды яшчэ як! Больш, чым чакаў сам вынаходнік. «Блысе» ўдалося апусціцца на ўсе чатыры нагі і зрабіць скачок. Вагнер, відаць, пусціў у ход мускулы ног, бо новы скачок быў вышэйшы і далейшы. Трэці, чацвёрты яшчэ лепей. І раптам я пачуў усхваляваны крык.

— Трымайце мяне! Я не магу спыніцца!

Няшчасны! Як жа мы не падумалі! Я кінуўся за ім,

але куды там! Вагнер, як вялізная блыха, незвычайнымі скачкамі хутка аддаляўся ад мяне. Высокі земляны вал перагароджваў яму дарогу. Скакун не мог павярнуць убок. Яшчэ некалькі скачкоў — і Вагнер ляснуўся галавою аб земляны вал, перавярнуўся і ўпаў.

— Я не прабіў дзірку? — паволі, ледзь варочаючы языком, спытаўся ў мяне Вагнер, калі крыху ачуняў. Ён яшчэ спрабаваў жартаваць.

* * *

Я не бачыў Вагнера некалькі гадоў. Нечакана ён сам напомніў пра сябе, пазваніў па тэлефоне, запрасіў мяне на дачу: «Ёсць навіны. Калі дазволіце, дык я заеду па вас на аўтамабілі».

Не прайшло і гадзіны, як я ўжо ехаў з Вагнерам у яго машыне па цудоўнай аўтастрадзе Масква — Мінск. З выгляду гэты чалавек мала змяніўся, толькі барада яго стала яшчэ гусцейшая і даўжэйшая. Ён сам кіраваў крытым аўтамабілем, падоўжанай і акруглелай формы. Машына імчалася з такой хуткасцю, што я не мог ухапіць вокам сустрэчныя масты, прыгожыя гасцініцы, што стаялі пры дарозе ў жывапісных кутках — на лясістых узгорках ці на беразе рэчак. Праз гадзіну такой шалёнай язды Вагнер збавіў хуткасць, звярнуў з аўтастрады на добрую шашу, яшчэ з паўгадзіны ляцеў з хуткасцю пяцьдзесят кіламетраў за гадзіну і нарэшце спыніўся каля адасобленага катэджа.

— Вось мы і дома.

Мы наспех паснедалі ва ўтульнай сталоўцы з шырокім венецыянскім акном. Вагнер нечакана выняў аднекуль з-пад стала вялікі бакал і падаў мне:

— Трымайце!

Я ўзяў бакал і вельмі здзівіўся, бо не адчуваў яго цяжару. Паставіў на стол, але не паспеў адняць пальцы, як бакал пырхнуў, узляцеў да самай столі і там застаўся. Мусіць, выгляд у мяне быў такі камічны, бо Вагнер зарагатаў.

— Ну і выгляд у вас! Хоць на экран. Аднак з чаго вы будзеце піць яблычны сідр? Болей бакалаў у мяне няма.

— Вы, можа, усё ж такі мне растлумачыце, прафесар, гэты фокус? — спытаўся я.

— Я не фокуснік і не чараўнік,— адказаў ён, здаецца, крыху пакрыўджаным голасам.

— Бакал, відаць, металічны, а на сталі схаваны магніт. Угадаў я ці не?

— На ўсё свой час, даведаецеся. Надвор'е цудоўнае, пойдзем дыхаць чыстым паветрам. Але найперш я хачу паважыць вас.

Ён паважыў мяне, незразумела толькі навошта, і прапанаваў пакласці ў кішэню гіркі вагою адзін кілаграм васемсот грамаў і дадаў: «Пунктум».

Мы выйшлі з дому і накіраваліся на поле за бярозавым гаем. Мне падалося, што сярод поля знаходзіцца возера: між белых бярозавых стваалоў я бачыў зіхатлівую паверхню, і толькі калі падышоў бліжай, я ўпэўніўся, што памыліўся: большая палавіна поля была як быццам укрытая роўным гладкім і зіхоткім лямцам. Здалёк гэты «дыван» з матавым бляскам светла-шэрага колеру быў вельмі падобны на вадзяную паверхню.

Вагнер смела пайшоў па «возеры», я нерашуча следам за ім. Пасярод я ўбачыў невялікі крыж, як мне падалося. Калі мы падышлі да яго бліжэй, аказалася, што адна «крыжавіна» — шчыліна ў дыване, а другая — перавернуты ўпоперак шчыліны болт, што на металічным стрыжані. Ад крыжа разыходзіліся на ўсе бакі прабоі, якія крыху нагадвалі клямкі ў дзвярах.

Вагнер павярнуў болт так, што той стаў супраць адтуліны. У той жа момант я адчуў, што мы падымаемся, як на кіліме-самалёце.

— Трымайцеся за прабой! — крыкнуў мне Вагнер.

Я схапіўся за ручку, і своечасова, бо наш «самалёт» моцна падкінула. На шчасце, вецер сціх, і наш пад'ём выраўняўся. Здавалася, ідзём уверх, а зямля, поле, бярозавы гай, Вагнерава дача паволі апускаюцца.

— Наш кілім-самалёт падымаўся б хутчэй, каб не супраціўленне паветра,— сказаў Вагнер. Ён сядзеў насупраць мяне, трымаючыся за прабой, які быў падобны на клямку ў дзвярах. Нас раздзяляла шчыліна з болтам, што трымаў кілім-самалёт на зямлі мацней ад якара.

— Форма нашага апарата...— я ледзь прымусіў сябе загаварыць, усё яшчэ калаціўся ад страху,— форма жадае лепшага...

— Гаворыце адно, думаеце другое,— Вагнер хітравата прыжмурыў блакітныя вочы,— зараз папытаеце пра магніт, які, відаць, прыцягвае нас... Гэта вышэй майго разумення.

Вагнер зарагатаў.

— Не тлуміце галаву,— нарэшце сказаў Вагнер.— Вы можаце ўявіць, што я вынайшаў нейкі кеварыт-экран, які засцерагае цела ад зямнога прыцяжэння. Але кеварыт — самая фантастычная мара. Мы маглі б уявіць, што я зарадзіў наш кілім-самалёт электрычнасцю, аднайменным з зямным зарадам, і кілім-самалёт адскочыў ад зямлі, як бузінавы шарык...

— Я нічога не магу ўявіць,— запярэчыў я.— Цяпер мяне болей цікавіць, як высока мы паднімемся. Бо на нас летняе адзенне, і ў нас няма кіслародных прыбораў.

— Не хвалюйцеся. Пад'ёмная сіла нашага кіліма-самалёта зусім невялікая. Яго дах мае ўсяго дзве-тры сотні метраў. Вось бачыце, наш пад'ём ужо запавольваецца. А калі настане вечар, тэмпература панізіцца, вільготнасць паветра павялічыцца, дык наш кілім-самалёт паволі пачне зніжацца. Мой разлік дакладны. Пунктум. Нездарма я выверыў нашу вагу. Ну вось. А пакуль... у нас ёсць яшчэ багата часу, і я магу растлумачыць вам сакрэт нашага кіліма-самалёта... Глядзіце, колькі хлапчукоў збеглася паглядзець на нас. І адкуль толькі яны бяруцца?.. Крычаць, махаюць шапкамі.

Нас паволі адносіла за гай. Скора рэчка і натоўп дзяцей, што быў на беразе, зніклі з поля зроку.

— Дык вось,— казаў Вагнер,— усе гэтыя дзівосы ўзніклі з назірання над фізікай тонкіх плёнак, малавядомых шырокай публіцы. Раю вам пазнаёміцца з гэтым прадметам. Карацей кажучы, наш кілім-самалёт зроблены з так званага цвёрдага ланцуга. Гэта цела, якое складаецца з мноства ячэек-пузыркоў. Сплаў магнію і берылію. Памер ячэек меншы за міліметр, а таўшчыня сценак — адна дзесяцітысячная міліметра. Пустоты ячэек напоўнены вадародам. Пры таўшчыні сценак — тонкіх плёнак — у адну тысячную міліметра ўжо атрымліваецца бязважкі матэрыял, а пры таўшчыні ў адну дзесяцітысячную, як у нас, метал становіцца лятальны. Пры вядомых памерах кіліма-самалёта з такога металу ён, як бачыце, можа падняць не толькі самога сябе, але і дабавачны груз. Прабачце, але я разуюся — прывык хадзіць на дачы басанож,— перапыніў ён сваё тлумачэнні, скінуў чаравікі і паставіў побач з сабой.— Дык вось,— сказаў ён... Але ў гэты момант невядома адкуль наляцеў шалёны парыў ветру, наш кілім-самалёт гушкнула, чаравікі паляцелі на зямлю, палегчаны самалёт ірвануўся ўверх. Вагнер крыкнуў, і гэты крык быў больш падобны на стогн. Я зразумеў: на

жаль, цяпер нам не памогуць ні пачная сырасць, ні нізкая тэмпература. Мы не маглі выпусціць газ, каб сесці, як аэранаўты. Газ нашага кіліма-самалёта глыбока схаваны ўсярэдзіне штучнай «пеністай» структуры. Мы не маглі кіраваць самалётам ні па вертыкалі, ні па гарызанталі. Мы былі бездапаможныя. У нас не было радыёстанцыі. Мы не мелі запасаў харчу і вады. Гэты Вагнер — някепскі вынаходнік, але вельмі непрактычны чалавек. Я пачынаў злавацца на яго, тым болей што мне ўжо хацелася есці і піць.

— Ці не напамінае вам наша становішча старую гісторыю пра чалавека, які надумаўся скакаць, як блыха? — Вагнер злосна засоп, але прамаўчаў.— Што і казаць, у добрае становішча мы трапілі,— я здзекаваўся з яго.— Уночы можа быць навальніца, тады наш кілім-самалёт аберне, і мы разаб'ёмся. Або з'ямо адзін аднаго ад голаду, як тыя, што пацярпелі караблекрушэнне. Ці загінем ад смагі, і нашы целы будуць дзяўбаць птушкі...

Вагнер зарагатаў.

— Я не ведаў, што вы такі вясёлы чалавек і ўмееце жартаваць у самых складаных абставінах! — шчыра сказаў ён, і мне стала сорамна.— Але не такое ўжо трагічнае ў нас становішча, як вам здаецца. На шчасце, мой кілім-самалёт звараны з цвёрдай пены, якая даволі крохкая. Мы можам адломваць кавалкі ад нашага кіліма, ён зменшыцца памерам і апусціцца, як апускаецца плыт пад непасільным цяжарам. Хутчэй за працу!

Вагнер пачаў адломваць у цэнтры кіліма, пачынаючы з краёў шчыліны, кавалачкі порыстай пены. Я стаў памагаць яму. Мы кідалі адламаныя кускі ўніз на зямлю, але яны ўсплывалі на паверхню і прападалі недзе ў нябеснай сіні.

— Сплаў гэты дэфіцытны, шкада губляць гэтыя кавалкі, але мае знаёмыя лётчыкі зловяць іх у сетку. Яны будуць лятаць на аднолькавай вышыні, не вышэй дзесяці кіламетраў. Бачыце, мы ўжо зніжаемся. Яшчэ некалькі кавалкаў... Пачакайце, не кідайце, пад намі, здаецца, возера... Так яно і ёсць. Давядзецца вызваліцца ад баласту. Скідайце чаравікі!

Мы ўдачна прызямліліся ў арэшніку і прывязалі шлейкамі і паясамі скамечаны кілім-самалёт, каб ён не паляцеў. Дахаты мы вярталіся басанож, галодныя і вясёлыя...

*1936*

## Валянцін Катаеў

# КВЕТКІ

Гэта быў вясёлы святочны абед. Таварышы прыгадвалі «мінулыя дні і бітвы, дзе разам секліся яны». За вокнамі шумела кастрычніцкая Масква. Раптам гаспадыня дома выйшла з-за стала і вярнулася да гасцей, трымаючы на руках шасцімесячную дзяўчынку ў доўгай блакітнай байкавай сукеначцы з круглым каўнерыкам. Дзяўчынка сядзела на далоні, жвава круцячы на ўсе бакі галоўкаю, авальнаю, як дынька. Цёмныя сланечнікі яе маленькіх вачэй весела пазіралі навокал. Часам яе раток смешна расцягваўся, агаляючы палоску бяззубых дзяснаў, і яна крычала:

— Дзяй, дзяй, дзяй!

Бацька з пяшчотаю паглядзеў на сваё сямейства і сказаў:

— Гэта невялічкая дзяўчына, прызнаюся вам, прынесла мне сваім нараджэннем незвычайную радасць. Але таксама ўчыніла і немалы клопат.

— Які ж гэта клопат? — пацікавіліся госці.— Раскажы.

— Раскажу,— адказаў шчаслівы бацька і расказаў наступнае:

— ...Я застаўся адзін. Нада мной цокаў гадзіннік.

Красавіцкі золак, моцна настоены на чорнапарэчкавых пупышках, свяціўся ў зеленаватым штофе ганка.

Вялікія шкляныя дзверы, праз якія вывелі маю жонку, былі шчыльна прычынены. За гэтымі страшнымі белымі дзвярамі гарэла электрычнасць. Там яшчэ была ноч, незразумелая і трывожная ноч радзільнага дома, поўная нейкай бадзёрай і таемнай дзейнасці.

Курачы цыгарку за цыгаркаю, я хадзіў пад лесвіцай, не могучы знайсці сабе месца. Узышло сонца. Я зразумеў гэта па мармуровым слупку лесвіцы, які зрабіўся раптам цялесна-ружовы.

Прайшло яшчэ колькі часу. З'явілася сястра, аддала

мне жончыны рэчы: паліто, туфлі, сукенку, бялізну. Я стаяў у разгубленасці пад лесвіцаю, падтрымліваючы падбародкам клунак.

— Ну? — сказала сястра, пахвальна ўсміхаючыся.

— Усё? — спытаўся я.

— Усё.

— Можна ісці?

— Ідзіце і кладзіцеся спаць.

За мною ляснуў замок. Што ж цяпер рабіць? Дзе дзецца? Я быў куды больш бездапаможны і безабаронны за сваю жонку. Я прайшоў па Маскве, тулячы да паліта рэчы, якія не страцілі яшчэ яе цеплыні. Рэдкія падарожныя звярталі на мяне ўвагу. Некаторыя саступалі мне дарогу.

Я вярнуўся дадому. У кватэры было пуста і ярка асветлена, нібы ўночы. «Забыліся патушыць святло»,— падумаў я, лёг на канапу і раптам заснуў як забіты.

Я ўсхапіўся, мяркуючы, што праспаў гадзін дзесяць. Але была яшчэ раніца. Я спаў не больш за гадзіну. Кінуўся да тэлефона і халоднымі пальцамі набраў радзільны дом. Сонны, ціхі, ледзь чутны голас сказаў мне, што яна яшчэ не нарадзіла.

— А можна спадзявацца — калі? — спытаўся я.

— Вам пазвоняць.

— Вы пэўна ведаеце, што яшчэ не?

— Пэўна.

— Даруйце, а вы не можаце сказаць — калі можна спадзявацца?

Там паклалі трубку. Я прылёг, каб хвілінку падрамаць, і прачнуўся ад тэлефоннага званка. Было гадзін пяць вечара. Значыцца, я спаў гадзін восем запар. Электрычнасць гарэла над галавой, але Крэмль за акном быў ярка і ружова асветлены вячэрнім сонцам. Я не даў веры, калі пачуў той сонны, ціхі, але чутны голас, які паведамляў, што ў мяне нарадзілася дачка і жонка адчувае сябе цудоўна.

І тут мяне апанавала ліхаманкавая дзейнасць. Хуценька памыўшыся, я выйшаў з дому. Перш за ўсё я кінуўся ў кветкавы магазін. О, гэты план у мяне ўжо быў гатовы даўно: на ўсе грошы — кветак і заваліць усю кватэру! Няхай мая дачка (не, якія словы — «мая дачка!». Як гэта чароўна гучыць!), няхай жа мая дачка ляжыць у сваім маленькім ложачку сярод кветак, нібы казачны хлопчык з ногцік у атласным кубачку ружы!

Душнае аранжарэйнае паветра кветкавага магазіна акружыла мяне цёплымі пахамі вазонаў і дажджу. Я стаяў сярод джунгляў папараці, цытрусаў, пальмаў, анемонаў, парніковага бэзу. У гліняных збанках на гнуткіх высокіх сцяблінках, укрытых каралавымі зубцамі калючак, хісталіся палымяныя ружы. З нецярплівай прагнасцю я пачаў выбіраць кашы і букеты. Прадаўшчыца — маленькая маскоўская модніца з русай грыўкай, якая падала з-пад белага берэта на палавіну квітучага твару,— пазірала на мяне з бязмежным здзіўленнем і страхам.

— У вас ёсць дзеці? — спытаўся я жвава.

— Я — дзяўчына! — з годнасцю адказала яна і стуліла губы.

— Вось бачыце. Значыць, вам гэтага не зразумець. А ў мяне ёсць дачка. Даволі вялікая. Ёй ужо гадзіны трычатыры. І я хачу, каб яна ўвайшла ў жыццё, нібы ў квітучы сад. Вы гэта разумееце?

— Чаго ж не зразумець? Разумею. Сёння нарадзілася.

— Ага! Яна сёння нарадзілася, і я хачу, каб заўтра яна ўжо ляжала ў сваім маленькім ложачку сярод усіх гэтых кветак, як хлопчык з ногцік у атласным кубачку ружы.

— Ну, гэта наўрад. Раней чым дзён праз сем-восем дадому не трапіць. У іх у радзільных дамах такія жахлівыя парадкі. У мяне сястра летась нарадзіла двайнятак, дык, майце на ўвазе, трапіла дамоў толькі на дзесяты дзень.

Гэтага я і не прадбачыў. Я быў забіты. Я выйшаў з магазіна хістаючыся. Лёгка сказаць: сем-восем дзён. А я? Што я буду рабіць на працягу гэтых жахлівых сямі-васьмі дзён? Зрэшты, справы ў мяне знайшліся. Удзень я знемагаў каля тэлефона, чакаючы званка «адтуль». Званок звінеў, і я чуў кволы голас жонкі, якая пыталася, як я сябе пачуваю і ці не забываю я есці на ноч сыраквашу.

— А ты, ты як сабе пачуваеш? — крычаў я ў гарачую трубку.— Як наша дачка?

— Наша дачка нішто сабе. Спіць.

— А якая яна?

— Маленькая.

— Я разумею, што маленькая. А ці сімпатычная?

— Вельмі. Лепшая за ўсіх. Я яе дужа люблю.

— Я яе таксама вельмі люблю. Але ўсё ж якая яна?

— Які ты дзівак! Я ж табе тлумачу — маленькая. Сімпатычная. Лепшая за ўсіх. Яна сёння чхнула.

— Насмарк? — спалохана крыкнуў я.

— Ды не. Які ты дзівак! Проста чхнула. На ўсю палату. І наогул яна ганарыстая.

— Як гэта ганарыстая?

— Звычайна. Ганарыстая. Ты — дзівак, нічога не разумееш. У яе ганарысты выраз.

Але тут у тэлефоне пачыналася ляскание і нецярплівы стук. Умешваліся чужыя галасы. Гэта іншыя бацькі спяшаліся пачуць падрабязнасці пра сваіх дзяцей. А я таропка крычаў:

— Прыязджай хутчэй! Пацалуй нашу ганарыстую дачку! Ты не пазнаеш пакоя, ён увесь будзе ў кветках. Наша ганарыстае дзіця будзе ляжаць у сваім маленькім ложачку, як хлопчык з ногцік у атласным кубачку...

Я выходзіў на вуліцу. Я блукаў сярод магазінаў, спыняўся каля вітрын з дзіцячымі рэчамі і цацкамі. З непрадбачанай пяшчотай разглядаў я лялек і конікаў, капары, сукеначкі, коўдрачкі, мячыкі, аэрапланы і парашуты. Ранічкаю я сядзеў у садку насупраць Массавета і вёў з нянькамі грунтоўныя дыскусіі аб выхаванні дзяцей. Між тым Масква на маіх вачах прыгажэла. Зялёныя гірлянды цягнуліся ўдоўж фасадаў. У вітрынах паявіліся пейзажы і нацюрморты. Чырвоныя палотнішчы перасякалі вуліцы. Вузкія сцягі трапяталіся над станцыямі метро. Плошчы кружыліся, нібы каруселі, у яркіх стужках, зяляніне, кветках, плакатах.

І вось надышоў жаданы май. Я ляцеў на таксі ў радзільны дом па жонку і дачку. Але па дарозе я павінен быў заехаць у магазін, каб на ўсе мае грошы паслаць дадому кветак. Ды што гэта здарылася? Магазін быў пусты. Голыя паліцы і стосы вазонаў. Зблытаныя маткі рафіі.

— Кветкі?..— задыхаючыся, сказаў я...

Маленькая модніца ў белым берэце паглядзела на мяне са спачуваннем і развяла ружовымі рукамі:

— Усё.

Я кінуўся ў другі магазін. Адтуль два спацелыя камсамольцы выцягвалі апошнюю пальму.

— Кветкі! — амаль крыкнуў я.

— Усё.

За паўгадзіны я аб'ездзіў усе кветкавыя магазіны горада. Яны былі начыста спустошаны.

Гэта было неверагодна.

— За горад! На Клязьму! Куды-небудзь!

Шафёр паглядзеў на мяне са спагадаю:

— Наўрад, таварыш, ці дзе-небудзь знойдзеце. Самі павінны зразумець...

Я нічога не разумеў. Проста-такі як знарок. І менавіта ў такі дзень! Я загадаў ехаць у радзільны дом. Слёзы выступілі ў мяне на вачах, калі я ўбачыў схуднелую жонку з жывымі бліскучымі вачмі, якая падала мне штосьць загорнутае ў блакітную коўдрачку. Я стаў цалаваць мілыя худыя рукі і ў той жа час спрабаваў зазірнуць у коўдрачку.

— Цішэй. Ты звар'яцеў,— сказала жонка.— Яна спіць. Яна прастудзіцца. Дома паглядзіш.

Мы паехалі дадому. На парозе я ўсё ж прыўзняў ражок коўдрачкі і ўбачыў бялюткі носік велічынёю не больш за гарошыну. Асцярожна тулячы да грудзей «нашу дачушку», жонка зайшла ў кватэру і спынілася ў разгубленасці.

— А кветкі?

У пакоі не было ніводнай кветкі.

— Усё,— з горыччу адказаў я.

Жонка прыкметна засмуцілася, але, зірнуўшы на каляндар, усміхнулася.

— Ну, зразумела. Нічога. Абыдземся і без кветак.

І ўсё ж мяне засмучала: у доме не было ніводнае кветкі. Я не спаў усю ноч і задрамаў толькі пад раніцу. Мне снілася, што мая дачка ўжо вялікая, што яна ўжо хімічка, парашутыстка, настаўніца, спявачка, шафёр, прадаўшчыца кветак. Я прачнуўся ад гукаў мноства аркестраў, ад крыку, ад песень, ад грукату гучнагаварыльнікаў.

— З Першым маем! — сказала жонка.

Яна стаяла з «нашай дзяўчынкай» на руках і пазірала ў акно.

Міма дома ішлі вясёлыя калоны, рухаліся букеты, пальмы, кашы з ружамі, папараць...

Сонца паблісквала на залатых зорках Крамля.

Уся Масква была падобная да вялізнага святочнага букета, і маленькая дзяўчынка — «наша дачушка», самы маленькі і самы новы чалавек нашага новага, вясёлага, дзівоснага свету,— ляжала ў самай сярэдзіне гэтага вялізнага каша з кветкамі на руках у сваёй матулі, як хлопчык з ногцік у кубачку атласнай ружы.

І вялікія шумныя пчолы самалётаў кружыліся над першамайскай ружай Масквы, ахоўваючы яе вясёлы, святочны адпачынак...

*1936*

# Барыс Гарбатаў

## ТУТ БУДУЦЬ ШУМЕЦЬ ГАРАДЫ...

Вецер — дзесяць балаў. Шторм. Вялізарны чалавек стаіць, шырока расставіўшы ногі. Яго хістае, збівае ветрам, ён не паддаецца.

Аб боты, аб крыссе кухлянкі шалёна б'юцца хвалі снегу: снежны пыл булькоча, як пена. Чалавек згорбіўся і закрыў твар абледзянелым шалікам.

Усё белае, мутнае, падманлівае вакол — ні ноч, ні дзень, ні зямля, ні неба. Рэальнага свету няма — усё пасечана завірухай, засыпана снегам. Ні ліній, ні контураў. Усё ўскудлачана, уздыблена, падхоплена ветрам і з усяе сілы кінута ў гульню.

Адзін чалавек рэальны ў сваёй сіняй кухлянцы з капюшонам і ў скураных ботах.

Ён адзін стаіць, вакол усё рухаецца. Каля яго з грукатам праносяцца камяні, кавалкі льдзін, гурбы снегу, купіны, укрытыя чэзлым мохам. Раз'юшаная мяцеліца рве снежнае покрыва тундры: мільёны снежных пясчынак прыходзяць у рух, агаляюцца горы, узгоркі, скалы; усё зрываецца з месца і ляціць, паслухмянае толькі ветру. Увесь свет — мутны, калматы, калючы — са свістам праносіцца міма чалавека.

Усё цяжэй стаяць на месцы і процістаяць руху. Трэба схавацца, як схаваліся птушкі і звяры, або ісці. Але чалавеку ў кухлянцы няма куды ісці і няма дзе схавацца: яго машына ўткнулася маторам у снег і замерзла, дзіравы брызент над кузавам амаль не ахоўвае ад ветру. Вакол ні жылля, ні вогнішча, ні дыму.

Чалавек у кухлянцы выцягвае шыю, быццам хоча штосьці ўбачыць наперадзе. Вялізная ноша гарбаціць яго спіну. Гэта вецер. Вецер сядзіць у яго на плячах і злосна штурхае наперад. Чалавек супраціўляецца. Вецер дужы, але чалавек дужэйшы.

Вакол усё ахоплена імклівым, парывістым рухам. Гэта не віхор, не сляпая мяцеліца, не смерчы. Гэта — бег. Бег

ураганнай хуткасці. Безупынная і мэтанакіраваная сіла руху наперад.

У яго ёсць кірунак: на норд-вест, да мора. З гор зрываюцца голыя медна-зялёныя камяні і, грукочучы, падскокваючы, ляцяць на норд-вест. У заліве з шумам падаюць вострыя таросы, і абломкі іх, пераваліваючыся, ломяцца, крышацца, нясуцца на норд-вест. Ускудлачаная ветрам тундра дыміцца, па ёй вандруюць гурбы — на норд-вест, на норд-вест! Уздымаючы кучы снегу, як мага хутчэй праносіцца пазёмка — на норд-вест, на норд-вест! І здаецца, што ўся тундра рванулася і панеслася, паслухмяная ветру, на норд-вест, да далёкага мора.

Адзін толькі чалавек стаіць на месцы, тварам да паўночнага захаду, і не робіць наперад ні кроку. Шалік ужо не ахоўвае яго твару, шалік сарваў вецер, ён яшчэ трапечацца на шыі, надзімаецца і раптам, разгарнуўшыся на ветры, кідаецца на норд-вест. Са свістам выючы, праносіцца міма калматы свет.

І тады чалавек паварочваецца супраць ветру. Ён робіць гэта павольна, вельмі павольна. Яму даводзіцца пераадольваць супраціўленне страшнай сілы: шчыльную сцяну шторму. Ён разварочваецца па крузе, як самалёт: спачатку заносіць правае плячо і выцягвае правую руку, потым робіць паўабарот і прымае ўдар ветру ў грудзі, вытрымлівае яго і застаецца на нагах, потым робіць яшчэ паўабарот і закрывае твар рукамі.

Цяпер ён стаіць супраць ветру. Шалёны, калючы лівень хлешча яму па твары, быццам б'е тысячамі хвойных галінак. У чалавека выступаюць слёзы на вачах, цякуць па шчоках і замярзаюць. Твар здзеравянеў, ён яго болей не адчувае. Сутаргавым намаганнем разяўляе ён рот, каб уздыхнуць, і палохаецца, што скура на шчоках лопне, патрэскаецца.

Занадта шмат ветру; чалавек задыхаецца, вось з шумам лопнуць лёгкія.

І тады ён пачынае крычаць:

— Э-гэй! Ты! Дурань! — Яго голас патанае ў завыванні мяцеліцы, але ён упарта і злосна крычыць ветру: — Ты! Дурань! Ну? Іду. Чуеш? Іду. Ну? Гэй, ты!

Яму здаецца, што, калі крычыш, лягчэй ісці. Ён пачынае нават спяваць — злосна, азвярэла. Але на песню не хапае дыхання. Можна толькі крычаць, сутаргава, адрывіста: «О-о! А-а! Гэ-эй!» — або выць, як вые воўк.

Кожны крок даецца з бою. Было б лягчэй паўзці, але

чалавек упарта трымаецца на нагах, падае і ўстае. Ідзе, разрываючы рукамі шчыльную завесу ветру. Задыхаецца, сапе, сплёўвае густую слізь, але ідзе.

І вось нарэшце з белаватай імглы выступаюць няясныя абрысы нечага цёмнага і бясформеннага. Нарэшце! Ён пераможна махае кулаком завірусе, падымае брызент і залазіць у машыну. Ён — «дома».

Ён трэ снегам змёрзлыя шчокі.

— Ігнат, ты? — чуе ён голас таварыша.

— Ага, я.

— Ну?

— Што — ну?

— Разведаў?

— Разведаў.

— Ну? Цішэй стала? Хутка паедзем?

Ігнат угадвае ў голасе таварыша надзею, але адказвае бязлітасна і насмешліва:

— Сціхла, Касцік, спі. Дзесяць балаў.— І злосна, нявесела смяецца.

...Мінае шмат гадзін, колькі — невядома: ніхто не глядзіць на гадзіннік. Часу няма, ёсць вецер; і людзі прыслухоўваюцца да ветру. Часам ім здаецца, што шторм сціхае. Яны падымаюць галовы і чуйна прыслухоўваюцца.

— Ты чуеш? — перагаворваюцца яны.— Чуеш?

Але новы парыў ветру задзімае надзею, яна тухне, як іскра ў стэпе. Людзі зноў кідаюцца ніц і заціхаюць, скурчыўшыся ў сваіх мяшках. Ігнат робіць выгляд, што бяспечна храпе. Касцік уздыхае. У трэцім мяшку хтосьці ціха стогне і кашляе. Аднекуль зверху няспынна сеецца дробны снег, падае на твар і растае, але да гэтага ўжо прывыклі...

— Гэта вецер...— мармыча Касцік.— Ён не аціхне ніколі. Ён будзе вечна. Што рабіць, што рабіць?

Ён змаўкае на хвіліну і зноў мармыча, не звяртаючыся ні да кога:

— Што рабіць, што рабіць, чорт бы яго ўзяў!

— Чакаць! — чуецца рэзкі голас з трэцяга мяшка.

Касцік уздрыгвае і змаўкае.

У цішы чутно, як стогнуць дошкі кузава. Ігнат паўзком падбіраецца да чорнай скрынкі і каля борта. Гэта маленькі просценькі радыёпрыёмнік з рэпрадуктарам «Рэкорд». Ігнат надзявае навушнікі, усе падымаюць га-

ловы і прагна прыслухоўваюцца. З трубы вырываецца злавесны свіст, быццам радыёстанцыя транслiруе не музыку, а мяцеліцу.

— Масква,— уздыхае Косцік.— Масква...

Свіст рэпрадуктара зліваецца з завываннем мяцеліцы. Ад гэтага здаецца, што вецер стаў яшчэ зласнейшы, яшчэ шалёнейшы. Ігнат скідае навушнікі і моўчкі залазіць у мяшок.

— Чакаць? — мармыча Косцік.— Дакуль чакаць, прафесар? Пакуль нашы шкілеты занясе снегам? Калі едуць на сабаках, можна, прынамсі, з'есці сабак, а мы...

— Чакаць! — зноў чуецца прафесараў голас, зноў паспешліва змаўкае Косцік.

Ён доўга варочаецца ў сваёй футравай клетцы. Яму хочацца гаварыць, чуць чалавечыя галасы. Ён прыслухоўваецца да шумнага дыхання таварыша і гаворыць:

— У Маскве я жыў на Патрыяршых сажалках... Вы ведаеце гэтыя сажалкі? Белыя зімой і зялёныя летам. Чаго чалавеку не сядзіцца на месцы?

Ён чакае. Ніхто не падтрымлівае размовы. З шумам ляпае надзьмуты ветрам брызент.

— Хлапчуком я марыў пра парусы,— шэпча Косцік.— Я хацеў стаць мараком, а стаў геолагам. Але ніколі, нават у самых дзёрзкіх марах, я не ўяўляў сабе, што буду, як пацук, здыхаць у мяшку, які прапах псінай.— Ён зноў чакае і, не вытрымаўшы цішыні, крычыць: — Ды скажыце ж хоць слова, вы!

Ён з шумам паварочваецца на левы бок і чапляецца нагою за кучу мінералаў, што звалены каля борта. Камяні з грукатам коцяцца па падлозе. Чуваць звон разбітага шкла.

— Бутэлечка? — спалохана ўскрыквае прафесар.— Вы разбілі...

— Не, не...— паспешліва адказвае Косцік.— Гэта ліхтар.

— А-а! — супакойваецца прафесар.— То-та!

— Я хаваю бутэлечку пры сабе, прафесар. Калі б гэта быў злітак золата, я б не мог хаваць яго беражлівей.

— Гэта болей чым золата, Косцік. Гэта нафта.

— Ага... Нафта. Я ведаю. Нафта — гэта жыццё. Калі мы будзем жывыя і нарэшце трапім у Маскву — вы ж верыце ў гэта, прафесар, праўда? — мы будзем расказваць, як знайшлі нафту на сопцы. І гэтыя кроплі... як яны сачыліся па пясчаніку і дрыжалі ў бутэльцы, куды мы са-

бралі іх. І пахла нафтай. Смачны пах. О, калі мы будзем жыць!..

— Косцік! — з прыкрасцю перабіў яго прафесар.— Адвучыцеся, калі ласка, размаўляць белымі вершамі. Геолагу гэтак не гадзіцца.

— Слухаю, прафесар,— пакрыўджана шэпча Косцік і змаўкае.

У машыне становіцца зусім ціха. Зрэдку толькі чуюцца хрыпы і прафесараў кашаль, ён хоча суняць іх, але ад гэтага кашляе яшчэ мацней.

...Мінае яшчэ шмат доўгіх гадзін.

Шторм сціхае. Яго ўдары слабеюць, у іх няма ўжо ранейшай злосці. Роў пераходзіць у вурчанне, у ім чуецца сытасць. Усё ніжэй прыпадае да зямлі вецер. Абяссілеўшы, ён ужо не ляціць, а паўзе. Мутная заслона, што ахутвала свет, рассейваецца, усё становіцца на свае месцы, свет зноў рэальны. Белыя горы. Белае неба. Белая тундра.

Сярод гэтай маўклівай белай пустыні чарнее маленькая кропка. Цяпер відаць: гэта грузавік-усюдыход. Радыятар захутаны ватным чахлом (на чахле снег), верх кузава зацягнуты брызентам (на брызенце снег), гумавыя гусеніцы машыны глыбока патанулі ў снезе. Вакол — ні жывой душы, ні чалавечага следу. Нават каляіну, што праклаў усюдыход, даўно замяло, і здаецца, што ўсюдыход ніадкуль не прыйшоў і нікуды не ідзе.

Але вось заварушыўся брызент, пасыпаўся снег і з машыны вылез чалавек у кухлянцы. Ён распраўляе плечы, пацягваецца — чутно, як хрусцяць яго косці,— потым скідае кухлянку. Цяпер ён у пыжыкавай кашулі, пыжыкавых штанах поўсцю паверх, у шапцы і вялікіх, да локцяў, шафёрскіх рукавіцах. У яго цыганскі востры твар, смуглы ці нямыты, вялікі драпежны рот, вялікія зубы.

Ён доўга стаіць і насмешліва глядзіць на горы, на тундру, на неба. «Ну,— быццам хоча сказаць ён,— уціхамірыліся?» Па зямлі струменіць пазёмка, быццам бягуць срэбраныя ручаі; застругі падобныя на камяністае рачное дно.

— Вясёлы месяц май! — насмешліва гаворыць механік, плюе і лезе ў кабіну.

Хутка ён зноў вылазіць. Цяпер у яго ў руках лапата. Ён уторквае яе ў снег, а сам паволі ідзе вакол машыны, па-гаспадарску аглядае яе, астуквае, абмацвае, махае га-

лавою. Потым бярэ лапату і пачынае адкідаць снег. Снегу шмат, машына ўся ў гурбах.

Ён працуе спорна, размашыста, не разгінаючыся. За яго спіной вырастаюць горы пералапачанага снегу.

Ён адзін у руху — вакол усё ў здранцвенні. Стынуць горы, нерухомая ціхая тундра, у белым небе ледзь прыкметна плывуць воблакі. Усё ўгаманілася, замерла, заснула. Ва ўсім лад і спакой — той непраўдападобна прыцішаны спакой, які бывае толькі пасля шторму. Здаецца, што гурбы, застругі, абломкі скалаў, таросы — усё, што прымчаў, разламаў і ўзадраў вецер,— усё гэта было тут вечна, заўсёды было так, як цяпер: сонна і нерухома.

Адзін чалавек у руху. Яго рукі, плечы, спіна — усё ходзіць. Абрынваюцца пад лапатай гурбы, снежны пыл булькоча, як пена.

Цяпер верыцца, што ўсюдыход пойдзе. Разломваючы таросы, адкідаючы прэч цвёрдыя камякі снегу,— пойдзе, пойдзе!

За Ігнатавай спіной чуецца скрып крокаў. Не азіраючыся, ён ведае: гэта Косцік.

Косцік ідзе, крыху хістаючыся. Гэта бледны, хударлявы юнак, у дымчатых акулярах, з рэдкімі русымі валасамі. Яго твар асунуўся, шчокі запалі, вакол рота дзве новыя глыбокія маршчыны.

Ён ідзе паволі, як хворы, цяжка апіраючыся на лапату. Нахіляецца, бярэ ў жменю снегу, прагна есць яго і кашляе. Ён кашляе доўга і пакутліва, але, адкашляўшыся, зноў есць снег. Потым падыходзіць да Ігната і весела глядзіць на яго, жмурачыся ад ззяння снегу.

— Значыць, паедзем, Ігнат? Га? Паедзем?

— Як Стары? — глуха пытаецца Ігнат.

Косцік цямнее.

— Дрэнна,— ціха адказвае ён. Хвіліну маўчыць, потым дадае, зморшчыўшыся: — Вельмі дрэнна.

— Што ён кажа?

Косцік паціскае плячыма:

— Ты ж ведаеш Старога: ён нічога не скажа.

Ігнат слухае, нагнуўшы галаву. Снег раптам пачынае цьмяна пабліскваць — гэта сонца прарвалася скрозь строй воблакаў. Потым Ігнат гаворыць:

— Ён не скажа!

Абодва доўга маўчаць, глядзяць у зямлю. Потым Косцік раптам са злосцю замахваецца лапатай і пачынае

працаваць. Яго рухі нервовыя, парывістыя, мітуслівыя. Ён цяжка дыхае.

Ігнат лезе ў кузаў і выцягвае адтуль два невялікія бітоны. Ён нясе іх, беражліва прыціскаючы да грудзей.

Але, перш чым пачаць заліўку, ён падымае руку і доўга варушыць пальцамі; па пальцах струменіць абяссілены вецер. Ігнат паварочваецца спіной да ветру і пачынае запраўляць машыну. Ён лье бензін асцярожна, беражліва, баючыся праліць хоць кроплю,— так галодны рэжа хлеб на далоні, каб не рассыпаць крошак.

Ужо даўно пусты бітон, але механік усё трасе яго над бакам. Сцяклі апошнія кроплі. Бітон пусты, і тут ужо нічога не зробіш. Уздыхнуўшы, ён бярэ другі.

З лапатай на плячы падыходзіць Косцік. Ён утыкае лапату ў снег і глядзіць, як працуе таварыш.

— Гэта... апошні? — пытаецца ён нясмела.

Ігнат не адказвае. Чутно, як булькае бензін у баку.

— Я хацеў сказаць табе, Ігнат,— нясмела прадаўжае Косцік.— Вось... Мы вельмі багатыя. У нас ёсць яшчэ бляшанка згушчонага малака... Адзіная...

— Старому,— адрывіста кідае механік.

— Паўпліткі шакаладу...

— Старому.

— І галетаў адзін пачак. Усё.— Ён разводзіць рукамі.— Больш нічога няма.

— Галеты — табе.

— А ты?

— Я? — Ігнат прыслухоўваецца да булькання бензіну ў баку, і яго твар крыху святлее.

— Старому вельмі дрэнна,— зноў пачынае Косцік.— Вельмі. Вельмі.— Ён укладвае ў гэта слова ўсё: пакуту сваю, і адчай, і страх.

Ігнат хмурыцца.

— Ён не скардзіцца. Ён гаворыць — чакаць. І жартуе нават, і нават смяецца,— далей гаворыць Косцік,— але я бачу. Як ён стогне, калі думае, што мы спім!

Ігнат падымае бітон, ставіць яго на капот і слухае, хмурачыся.

— Ніколі яму не было так дрэнна,— шэпча Косцік.— Я ж яго... я ж яго даўно ведаю. Я лекцыі яго слухаў... Я да яго залікі здаваць бегаў. У яго хворае сэрца, але цяпер... гэта дарога, мяцеліца, голад...

— Мы хутка кранёмся, Косцік,— гаворыць Ігнат.— Па-мойму, мы цяпер правільна едзем...

— Бачыш, Ігнат,— Косцік падыходзіць бліжэй да механіка і кладзе руку на бітон.— Бачыш, ён вельмі слабы. Я баюся: ці давязём? Сэрца... гэта, гэта, брат... Вось ты не ведаеш гэтага...

— Магнета...

— Ага. Вось я не доктар, вядома, а здаецца мне, што зусім аслабеў Стары. Вось я яшчэ трымаюся, я малады. Ты? Ты — буйвал. А ён... Калі б яму, Ігнат, гарачага чаго-небудзь... Га? Гарачага малака, напрыклад. Як ты думаеш? Га?

Ігнат хмурнее і бярэ бітон.

— Вось іменна, гарачае малако,— пераканана шэпча Косцік.— Разумееш? Гэта сагрэла б яго. Га? Мы давезлі б яго тады... жывога да базы.— Ён зазірае ў тавару цыганскі твар, часта міргаючы, шукае яго позірку, але сустракае халодны свінцовы бляск вачэй і апускае галаву.

— Не дам,— гаворыць Ігнат і адварочваецца.

— Але ж Стары, разумееш, наш Стары памірае! — крычыць Косцік, але, спалохана кінуўшы позірк на кузаў, душыцца крыкам.

— Не дам.

Наступае доўгае маўчанне. Ігнат стаіць, моцна сцяўшы зубы. Твар яго цяпер непрыемны: востра выдаецца наперад цяжкая моцная скіўіца, холадна блішчаць вочы. Косцік ціха плача.

Ледзь дрыжыць Ігнатава скіўіца.

— Ты думаеш,— ціха гаворыць ён,— ты думаеш, я люблю Старога менш за цябе?

Ён глядзіць на бітон, потым рашуча ляпае Косціку па плячы.

— Пойдзем!

— Што? — уздрыгвае той.

— Пойдзем да Старога. Няхай скажа. Я дам.

— Не, не,— палохаецца Косцік.

Ігнат паціскае плячыма: «Як хочаш»,— доўга маўчыць і нарэшце гаворыць:

— І калі б нават Стары сказаў «даць», я не даў бы. Таму што...— Ён запінаецца і гаворыць, гледзячы сабе пад ногі: — Таму што я не толькі люблю Старога. Я, брат, ды мая машына за яго выратаванне адказваем.

— Але ж паўлітра... Усяго паўлітра праклятага бензіну ў прымус і...

— Паўлітра — гэта паўтара кіламетра.

— І ты з-за паўтара кіламетра... адмаўляеш Старому? Ігнат!

Ігнат бярэ бітон і трасе яго. Звонка булькае вадкасць.

— Чуеш? — пытаецца ён.— Тут усё. Апошнія кроплі. Мне яны даражэйшыя за маю кроў. Калі б ты сказаў: дай Старому сваёй крыві шклянку, літр, вядро. Я б вокам не міргнуў — даў бы. А бензіну не дам. Не дам! Чуеш? — пагражальна крычыць ён, але, адразу ж апамятаўшыся, ставіць бітон на бак і іншым ужо тонам, шэптам гаворыць Косціку: — Я лічыў і пералічваў, Косцік. Чуеш: бензіну да базы не хопіць. Колькі не хопіць? Не ведаю. Ведаю, колькі не хопіць, столькі нам ісці пеша.

— Няўжо так пагана? — мармыча Косцік.

— Я эканоміў, як мог,— паціскае плячыма Ігнат.— Я дрыжаў над кожнай кропляй.

Ён падыходзіць да матора, кладзе руку на бітон і запытальна глядзіць на **Косціка.**

— Ну? — пытаецца ён.

Косцік безнадзейна махае рукой.

Ён чуе, як, пазвоньваючы, падаюць у бак апошнія кроплі.

— А галеты я на тры часткі раздзялю,— мармыча ён.— Старому, мне і табе.

— Сябры! Сябры! — раптам чуецца голас з машыны.— Што ж вы?

— Стары! — паспешліва шэпча Косцік, і абодва кідаюцца на голас.

Стары стаіць на ўвесь рост у кузаве і з дакорам глядзіць на гадзіннік. Ён высокі і худы, але не стары. Яму не болей за пяцьдзесят. У яго ясныя дзіцячыя вочы, але пад імі цяжкія сінія мяшкі. Яго твар пад даўнейшым загарам (абветраны твар геолага), але цяпер ён апух, укрыўся ацёкамі. Ён хворы і, відаць, ужо сам разумее гэта.

— Шаснаццаць пяцьдзесят па-мясцоваму — гэта дванаццаць пяцьдзесят па-маскоўску,— махае ён галавой.— Што ж вы, таварышы харошыя? Ая-я-яй! Вось каб не дагледзеў я — і ўпусцілі б...

Ігнат паспешліва ставіць пусты бітон на зямлю і кідаецца ў кузаў. Здзірае брызент, адкідвае борт. У кузаве на падлозе кінуты спальныя мяшкі. У куце акуратна складзены пустыя бітоны, інструмент, палаткі, скрынкі — уся маёмасць партыі. У мяшках кучы камянёў, відаць, узоры. У другім кутку, бліжэй да шкла кабіны шафёра,

радыёпрыёмнік. Да яго і кідаецца Ігнат. Расцягваецца на падлозе, надзявае навушнікі.

Косцік падцягвае спальныя мяшкі бліжэй да рэпрадуктара. Усе садзяцца. Стары падціскае пад сябе па-турэцку ногі і нецярпліва глядзіць у чорную трубу. Яна ўкрыта серабрыстым інеем. Так ціха, што чутно, як цікаюць часы на руцэ ў Старога.

Людзі маўчаць. Нясцерпная цішыня пануе ў свеце. Анямела тундра, і далёкі крык палярнай савы змаўкае, не сустрэўшы адказу. Стары тужліва глядзіць на гадзіннік: 17.10. Ён ціха ўздыхае.

— Празявалі.— І глядзіць на таварышаў.

Вось яны ўсе тут, на адзінокім, загубленым у снягах усюдыходзе. Свет забыўся пра іх, маўчыць, і гэта страшней, чым голад.

Ігнат нецярпліва калупаецца каля прыёмніка. Мяняе настройку. Ён быў бы рады цяпер любой станцыі, нават чужой. Раптам з трубы вырываецца вясёлы голас дыктара. Усе, заміраючы, прыслухоўваюцца.

— А цяпер,— гаворыць труба,— паслухайце пласцінку «Пад дахамі Парыжа»...

Украдлівыя гукі вальса, як цёплы дождж, падаюць над тундрай.

«Парыж, о Парыж!» — спявае рэха ў гарах, і Ігнат пачынае падсвістваць рэху.

Косцік сядзіць, закрыўшы твар рукамі, сцяўшыся. Плечы яго дробна дрыжаць. Спачатку здаецца, што ён проста разгойдваецца ў такт вальсу... Парыж, о Парыж!.. Але вось ужо не ў такт трасуцца яго плечы, хутчэй, хутчэй, чутно, як суха стукаюць зубы аб зубы. Ён сціскае рукамі галаву і раптам ненатуральна тонкім, пісклівым голасам крычыць:

— Я не магу-у болей! — і кідаецца дагары. Яго галава б'ецца аб падлогу.

Стары кідаецца да яго.

— Косцік! Што такое, мілы вы мой? Ды што з вамі?

Косцікавы крыкі змешваюцца з гукамі вальса, рэха ў гарах пакорліва паўтарае і тое і другое.

Стары асцярожна прыпадымае русявую галаву юнака, кладзе яе сабе на калені і гладзіць цёплай далонню па валасах.

— Ну, не трэба, не трэба, Косцік. Ох, як нядобра!

— Я не магу... не магу... Гэта музыка, калі мы гінем... Гэта музыка!

— Выключыце ж радыё, Ігнат! — крычыць Стары.— Да д'ябла Парыж!

Але Ігнат не выключае радыё. Ён крута ступае да Косціка. У яго на твары застыла гідлівая ўсмешка, яшчэ вастрэй выдаюцца наперад сківіцы. Яго кулакі сціснуты, быццам ён збіраецца біць юнака, які плача.

Ён нахіляецца над ім.

— Кінь! — загадвае ён. Яго голас гучыць глуха.— Кінь псіхаваць. Ну? Чуеш? Кінь! Не трэба. Даедзем. Я табе кажу. Выберамся. Ну?

Косцік спалохана сціхае. Яго плачу ўжо не чутно, ён душыцца ім, і толькі плечы трасуцца, як у ліхаманцы.

— Падымі галаву,— камандуе Ігнат.— Сорамна? Ну?

— Акуляры,— нясмела шэпча Косцік.— Я зараз... толькі акуляры знайду.— Усхліпваючы, ён поўзае па падлозе і шукае акуляры. Шукае доўга, наўмысна доўга. Потым падымае галаву, але стараецца ні на кога не глядзець. Спінаецца, быццам яму холадна.

Ігнат адварочваецца і глядзіць наперад, на дарогу.

— Парыж, о Парыж! — падпявае ён, але голас яго гучыць злосна.

Ён стаіць, шырока расставіўшы ногі і засунуўшы рукі ў кішэні. Наперадзе, наколькі хапае вока, хвалістая рабая паверхня тундры,— гэта сонца робіць тундру пярэстай. Дарогі няма, і няма чаго яе выглядваць.

— Сорамна,— шэптам гаворыць Косцік.— Даруйце, калі ласка...

Стары абдымае яго за плечы, і абодва моўчкі слухаюць музыку. Цяпер рэпрадуктар спявае аб гарачай Аргенціне, Ігнат адбівае такт нагой.

Рэпрадуктар сціхае. Ціха ў машыне. І цяпер чутно, як звініць тундра, што прачнулася, як спявае зверам і птушкай. Здаецца нават, што снег, крануты сонцам, спявае таксама. Стары стаіць каля рэпрадуктара, чакае...

Нізка-нізка над машынай пралятае белы лунь у раннім веснавым убранні — карычневыя вочкі на белых крылах — і пранізліва крычыць.

Стары раптам устрапянуўся.

— У дарогу, дзеці, у дарогу! — крычыць ён, бадзёра ляпаючы рукавіцамі.— Па конях!

Ігнат кідаецца да матора, дастае з кабіны бляху, вылівае на яе адпрацаванае масла, запальвае і ідзе разаграваць матор. І раптам пачынае стукаць матор усюдыхода.

Ён стукае спачатку ціха і няўпэўнена, успышкамі, то глухне, то зноў шуміць, усё мацней і настойлівей.

— Чуеце? Чуеце? — крычыць Стары Косціку, вочы ў яго блішчаць.— Чуеце?

Што ён чуе? Матор стукае ціха і адзінока, і толькі рэха ў гарах шматразова паўтарае і ўзмацняе яго гул. Але, магчыма, іменна да рэха і прыслухоўваецца Стары? І здаецца яму, што ўжо шумяць у сопках машыны, буравыя станкі, рухавікі? І нафта б'е фантанам?

Косцік таксама прыслухоўваецца да шуму матора. Цяпер матор стукае роўна і мерна (яго ўпэўнены голас падобны на Ігнатаў голас), і Косцік супакойваецца.

— Паедзем! Цяпер паедзем! — шэпча ён.— Дамоў. Да таварышаў. Зараз пойдзем, Мікалай Кузьміч.

Усюдыход паволі кранаецца ў дарогу. Снег пачынае спяваць пад гусеніцамі; разам з гулам матора гэта найлепшая музыка дарогі.

Велізарнае неба раскінулася над падарожнікамі. У гэты ясны, сонечны дзень яно можа служыць і компасам і картай. Далёка на паўночны захад яно цёмна-шызае — там вада, мора; на поўдзень яно светла-карычневае — там зямля, тундра; на ост яно блакітнаватае — там ільды заліва. Неба, быццам люстэрка, адлюстроўвае зямлю. Косцік глядзіцца ў яго, і яму здаецца, што ён бачыць у ім і дарогу. Яна ляжыць на ўсход, ідзе ў блакітнаватую далячынь заліва. Яна простая і чыстая, залітая сонцам. Сінія іскры ўспыхваюць на ёй.

Раптам моцны штуршок падкідвае машыну. З ляскатам лопаецца стальны трос. У кузаве ўсё падае на падлогу і качаецца ад борта да борта. З машыны вылазяць Стары і Косцік.

— Што здарылася? — спалохана крычыць Косцік.

Ігнат моўчкі паказвае рукавіцай уперад, на дарогу. Наперадзе, наколькі хапае вока,— узгоркавая зеленаватая раўніна. Гэта таросы, дзікае нагрувашчванне ўздыбленых ільдзін.

— Што будзем рабіць? — разгублена пытаецца Косцік і паныла глядзіць наперад: там, за льдзінамі заліва, дзесьці вельмі блізка, недасягальна блізка,— база.

Стары таксама глядзіць наперад, на дарогу. Глядзіць доўга і нарэшце махае рукой Ігнату.

— Наперад!

Ігнат спакойна паўтарае:

— Ёсць наперад!

Ён дастае лапату, адкідвае снег, у якім завязла машына. Стары і Косцік паспешліва кідаюцца яму на дапамогу.

Цяпер Стары і Косцік ідуць побач з машынай. Яна то правальваецца ў мяккі, рассыпчаты снег, то, раптам уздыбіўшыся, як конь у Ігнатавай аброці, пералазіць цераз тарос. Яна быццам зліта са сваім спакойным наезнікам. І часам здаецца, што гэта Ігнат велізарным напружаннем сваіх мышцаў прымушае яе кідацца наперад, уздымаючы яе на сваіх руках і несучы праз таросы. Але ўсё часцей і часцей бездапаможна ўтыкаецца ў снег машына. Дарэмна пасылае яе наперад Ігнат,— гусеніцы завязлі, машына не слухаецца.

Тады з лапатамі кідаюцца наперад Стары і Косцік. Яны валяць таросы, адкідваюць снег, аслабаняюць гусеніцы, каб праз пяць метраў зноў кідацца з лапатамі на выручку. Машына паволі рухаецца наперад, кожны крок яе аплачваецца нечалавечымі намаганнямі трох стомленых галодных людзей.

...Так праходзіць дзень. Абяссіленыя, ляжаць каля машыны людзі. Усюдыход зусім завяз сярод таросаў. Матор выключаны. Вялікая цішыня стаіць над тундрай.

Косцік прагна ліжа снег.

— Шмат мы прайшлі сёння?

— Трыста метраў.

— Не шмат.

Маўчанне.

— Як далёка да базы?

Маўчанне.

— Далёка...

Стары раптам устае на ногі і ідзе да машыны. Ён бярэ лапату і пачынае злосна адкідаць снег. Яго прыклад натхняе ўсіх. Хістаючыся, ідзе да машыны бледны Косцік. Стомлены, з патухлымі вачыма, устае Ігнат.

Яны працуюць моўчкі, панура, сутаргава. У Косціка з закушанай губы капае кроў. Ён аблізвае яе і не перастае працаваць. Ніхто не скажа, што Косцік здрэйфіў!

Часам, разагнуўшы на хвіліну спіну, ён з надзеяй пазірае наперад: магчыма, удасца ўбачыць канец гэтай праклятай дарозе? Але наперадзе па-ранейшаму грувасцяцца льдзіны, ім няма канца, быццам увесь свет уздыбіўся. Пасля позірку на гэту безнадзейную карціну цяжэй сагнуць спіну і пачаць працаваць.

— Нічога! — гаворыць Стары, быццам угадаўшы Ко-

сцікавы думкі.— Нічога, дзеці мае! Чалюскіну было горш... Альбанаву зусім было дрэнна... Нічога!.. Галоўныя якасці палярніка — цярпенне і праца.

Ён хоча штосьці яшчэ сказаць, відаць, смешнае і бадзёрае (яго вочы ўспыхнулі хітрым агеньчыкам), але раптам моршчыцца і, вохнуўшы, ціха апускаецца на калені. Ігнат і Косцік спалохана кідаюцца да яго. У яго на твары застывае грымаса нясцерпнага болю, ён ужо не мае сілы яго схаваць.

— Аднак дрэнна...— з цяжкасцю вымаўляе ён.— Кашулю...— Ён сутаргава рве каўнер.— Душыць!

Ігнат нахіляецца над ім і нажом рэжа тасёмкі, вузлы, завязкі ў кашулі з футра.

— Нічога, нічога,— мармыча Стары.— Гэта і раней бывала. Гэта пройдзе. Цяпер лягчэй.

Косцік і Ігнат беражліва нясуць яго ўбок і кладуць на спальны мяшок. Ігнат прыпадае да грудзей Старога і слухае сэрца. Яно булькоча. Булькоча, як гаручае ў баку.

І тады зрываецца з месца Ігнат.

Ён бяжыць да машыны, нецярпліва капаецца ў кучы інструментаў і нарэшце знаходзіць тапор.

Ён выцірае лязо рукавом, доўга на яго глядзіць і раптам злосна пачынае секчы драўляны борт кузава.

Стук тапара гулка разносіцца па тундры.

— Што ён робіць? Што ён робіць? — здзіўлена ўскрыквае Стары.— Ён звар'яцеў! Ігнат!

Але Косцік не спыняе яго.

— Нічога, нічога,— шэпча ён.— Цішэй! Ён ведае, што робіць.

Шырока расплюшчыўшы вочы, ён глядзіць, як сячэ механік кузаў. У яго злосці ёсць сістэма: ён сячэ верхнія дошкі і пакідае ніжнія. Ён сячэ паспешліва, баючыся спыніцца, баючыся пашкадаваць, што пачаў секчы. Косцік сочыць за ім узрушанымі вачыма і думае, што ніколі не забыць яму гэтай карціны: як механік сячэ машыну.

Ігнат прыносіць ахапак трэсак, кідае на снег, гаворыць Косціку: «Палі!» — і адварочваецца.

Неўзабаве сярод таросаў дыміць вогнішча. У чайніку над агнём растае снег, у снежнай пустыні робіцца ўтульней.

Каля вогнішча сядзяць трое.

— Дзесьці ў Сочы цяпер...— задумліва гаворыць Кос-

цік,— цвітуць магноліі. У Маскве — бэз... А ў нас — снег...

— Міф! Легенда! — абрывае яго Стары.— Дзе цвітуць магноліі? Ігнат, ты можаш паверыць, што дзесьці цяпер цвітуць магноліі?

Ігнат смяецца.

— А цвітуць жа...— усміхаецца Стары, глядзіць на снег і махае галавой.— Тут ні-ко-лі не будуць цвісці магноліі. І не трэба, га? Навошта нам тут магноліі, скажы, калі ласка.

— Не трэба,— смяецца Ігнат.— Вось калі б тытунь тут пасадзіць, гэта іншая справа...

Ён высыпае з кішэні на далонь смецце і гаворыць:

— Падзелімся, прафесар?

— Куры!

Ігнат закурвае.

У цішыні чутно, як булькоча вада ў чайніку.

— Магноліі? — чмыхае прафесар.— Нейкі вучоны, Доўнар Запольскі яго прозвішча, усяго толькі гадоў дваццаць таму назад пісаў у адным шаноўным часопісе, што поўнач Расіі самой прыродай прызначана для паўдзікага звералова і рыбалова і цывілізаваны чалавек тут можа жыць толькі па прымусе. Га? Ведаеш, што мы зробім, Ігнат? На пакаранне гэтаму «вучонаму» мы высечам гэтыя словы на мармуры нашых гарадоў, якія будуць шумець тут, у тундры, каля самага Ледавітага акіяна.

Прафесар глядзіць на бязлюдную далеч заліва, на белыя горы, на медна-чырвоныя скалы, з якіх ветрам сагнала снег...

— Гіганцкая плавільня,— гаворыць ён задуменна.— Мільёны гадоў рабілася ў нетрах зямлі тытанічная работа. Мы знойдзем яе сляды. Мы знайшлі нафту, знайшлі мезазойскі вугаль. Знойдзем і верхнепалеазойскі, тыпу нарыльскіх. Гэта, сябры, сапраўдны, чэсны, высокакаларыйны вугаль. Параходы пойдуць на нашым вугалі. Камчатка атрымае танную соль, якую мы тут здабудзем. Узнікнуць заводы, промыслы, гарады, тэатры.

— Партыі будаўнікоў прыйдуць услед за намі,— падхоплівае, захапляючыся, Косцік.— Яны прыйдуць на вялікіх выдатных машынах, якім не страшны будзе ні дзесяцібальны шторм, ні вецер.

— Што вецер! — усміхаецца Ігнат.— Ды мы прымусім вецер круціць нашы рухавікі. Гэтакая сілішча!

У каструлі зматавалася малако. Ігнат беражліва вылівае яго ў алюмініевы кубак і падае прафесару.

— А вы? — падазрона пытаецца Стары.

— І мы.

Ігнат бярэ два кубкі і, павярнуўшыся спіной да прафесара, налівае ў іх ваду з чайніка і кроплі малака з каструлі.

— Вось і мы,— гаворыць ён, аддаючы гарачы кубак Косціку.

Стары грэе рукі аб алюмініевы кубак, удыхае прыемны водар малака і гаворыць:

— Вып'ем за жыццё, якое ўзнікае тут і для нараджэння якога мы... мы... нічога не шкадавалі.

...Каля вогнішча, схаваўшыся ў спальныя мяшкі, спяць людзі. Косціку сніцца, што ён у Маскве, на Патрыярпіых сажалках, частуе таварышаў. Дзіўна застаўлены стол: вострыя галовы цукру, як таросы, малако ў бензінавым бітоне, кансервавыя бляшанкі.

Толькі Ігнат не спіць. Асцярожна выпаўзае ён з мяшка, азіраецца, прыслухоўваецца да соннага дыхання Косціка і хрыпаў Старога — і ідзе. Неўзабаве постаць яго хаваецца ў таросах.

На Патрыяршых сажалках шуміць баль. Таварышы акружаюць Косціка, радасна трасуць яго за рукі, трасуць...

Ён прачынаецца. Над ім — Ігнат.

— Пара! — гаворыць Ігнат і ідзе будзіць прафесара.

У небе па-ранейшаму вісіць вялікае сонца. Колькі часу цяпер? Дзве гадзіны дня ці дзве гадзіны ночы?

— Прафесар! — дакладвае Ігнат.— Пара!

— Ага,— устрапянуўся Стары.— У дарогу!

— Дазвольце далажыць, прафесар. Я зрабіў разведку дарогі. Наперадзе — суцэльнае поле таросаў. Нам не прайсці.

Стары хмурна слухае, вакол яго рота залягаюць жорсткія складкі.

— Ну? — вымаўляе ён.

— Дакладваю таксама: гаручае канчаецца.

Стары спакойна ідзе да машыны. Ігнат і Косцік — за ім.

— Я чакаю загаду, прафесар.

— Я ж сказаў: у дарогу!

...Зноў трэск і шоргат ільдзін, скрыгат таросаў, хрып матора, лязгат лапат — музыка дарогі.

— Колькі прайшлі? — шэпча пад вечар Косцік.

— Не шмат...

— Пяцьсот метраў.

На прывале ён раздае апошнія галеты.

— Усё,— гаворыць ён.

— У дарогу! Няма харчоў, канчаецца гаручае,— падводзіць вынікі начальнік.— Якое можа быць іншае рашэнне? У дарогу, дзеці мае, наперад!

Гэтае прафесарава «наперад» увесь час вісіць над Косцікам. Ён разгінае спіну і чуе «Наперад!», ён кідаецца з лапатай да гусеніц і чуе: «Наперад!» І сам шэпча перасохлымі вуснамі:

— Наперад! Наперад!

Ігнат занадта позна здагадаўся надзець жоўтыя акуляры. Яго вочы слепнуць ад д'ябальскага ззяння снегу. Ён ужо дрэнна бачыць дарогу, але ўпарта кідае машыну на таросы.

— Я, здаецца, слепну, прафесар,— мармыча ён.

Раптам машына рэзка спыняецца. Штуршок выкідвае Косціка з кузава. Ён падае, устае, звыкла хапаецца за лапату.

— Зноў тарос?

Ігнат здзірае з рук рукавіцы, зрывае акуляры,— ён хоча быць спакойны, але рухі яго ўпершыню за дарогу нервовыя,— і гаворыць:

— Таварыш начальнік! Гаручае скончылася.

Косцік апускаецца на снег і спалохана глядзіць на Ігната.

Ігнатаў твар асунуўся і пастарэў. Бездапаможным позіркам акідвае ён сваю машыну, быццам ужо развітваецца з ёю. Стары глядзіць наперад на дарогу, потым на горы і гаворыць, стараючыся быць насмешлівым:

— Тут, у гарах... мы адкрылі з табой, Ігнат, тысячы тон нафты. А ты скардзішся, што ў цябе гаручага няма...

Цяпер яны падобныя на людзей, якія пацярпелі караблекрушэнне. Моўчкі сядзяць каля халоднай машыны. Косцік увесь час працірае акуляры.

Нарэшце Ігнат парушае маўчанне:

— Чакаем загаду, таварыш начальнік.

— Так, так,— гаворыць Стары і кідае позірк на Косціка.

Косцік ловіць гэты погляд і чырванее.

— Ну, тады ў дарогу, дзеці,— гаворыць прафесар.— Што ж яшчэ? У дарогу!

Ён задуменна глядзіць на кучы камянёў, што звалены ў кузаве,— вынік нечалавечай работы ў сопках.

— Перш чым крануцца ў дарогу,— гаворыць ён спакойна,— трэба пакінуць тут запіску пра тое, дзе мы знайшлі нафту. На ўсялякі выпадак,— дадае ён, кінуўшы позірк на Косціка.

Ён сядае пісаць запіску.

«Пошукавая партыя прафесара Старога, якая адправілася ў дарогу...— піша Стары,— па маршруце... з заданнем...»

Ён піша грунтоўна, суха. «Мы зрабілі ўсё, што маглі,— заканчвае ён запіску.— Ад усёй душы жадаем будучым партыям зрабіць болей». Закончыўшы, ён падпісвае сам і аддае падпісаць таварышам.

Потым ён глядзіць на гадзіннік.

— Дванаццаць пяцьдзесят па-маскоўску,— гаворыць ён.— Дзесяць мінут на зборы.

Косцік сумна ўсміхаецца: збіраць няма чаго.

— У трынаццаць гадзін,— ціха дакладвае Ігнат,— мы яшчэ можам апошні раз паслухаць «Арктычную газету» па радыё.

Ага, радыё! Апошняя павуцінка, якая звязвае іх з далёкім светам.

— Добра,— гаворыць прафесар.— Мы яшчэ паслухаем радыё.

Яны сядаюць вакол чорнай трубы і моўчкі чакаюць. Ігнат калупаецца каля прыёмніка. Стары паглядае на гадзіннік. Косцік думае, што цяпер, відаць, апошні раз давядзецца яму слухаць чужы чалавечы голас.

З рэпрадуктара раптам вырываецца магутны лівень гукаў. Знаёмая велічная мелодыя расце, шырыцца, яна ўжо грыміць над маўклівай белай пустыняй, і тады, пазнаўшы яе, паспешліва і моўчкі ўстаюць са сваіх месцаў людзі. Скідаюцца шапкі. Паварочваюцца тварам на паўднёвы захад. Цяпер відаць, што ў Старога галава зусім белая.

Сціхаюць апошнія акорды, але людзі яшчэ доўга стаяць, павярнуўшы твар на паўднёвы захад, да Масквы.

Іх абуджае голас дыктара:

— Увага! Увага! Гаворыць палярны радыёцэнтр на семдзесят другім градусе паўночнай шыраты. Добры дзень, таварышы палярнікі!

Мяккі голас дыктара шырока разносіцца вакол, і ў

машыне адразу становіцца цяплей і ўтульней. Людзі цягнуцца да рэпрадуктара, як да вогнішча, каб пагрэцца, пабыць каля цёплага чалавечага голасу.

Яны слухаюць навіны далёкага свету і дзівяцца з яго. Дзесьці засядаюць міністры, спаборнічаюць футбалісты, спяшаюцца на поўдзень курортнікі... Свет жыве, мітусіцца, спявае і працуе; і дзіўна: клопаты і радасці гэтага далёкага свету хвалююць і радуюць асуджаных. Яны прагна прыслухоўваюцца, яны засмучаюцца і смяюцца, яны ўдыхаюць ужо забыты пах Вялікай зямлі... Гэтыя людзі не ўмеюць паміраць!

— Увага! Увага! — гаворыць рэпрадуктар.— Да ўвагі геолага-разведачнай партыі прафесара Старога.

Яны здзіўлена ўздымаюць галовы.

— Ці чуе нас партыя прафесара Старога? Ці чуе нас партыя?

— Ага, чуем! — здзіўлена адказвае Стары.

— Гэта нас выклікаюць. Гэта нас! — крычыць Косцік. Ён ускоквае з месца, мітусіцца, бегае, не ведае, што яму рабіць, і нарэшце зноў кідаецца да рэпрадуктара, тармосіць Ігната: — Нас выклікаюць. Чуеш, Ігнат?

— Чую. Не перашкаджай,— шэпча той і абдымае Косціка за плечы.

Усе заміраюць і, затаіўшы дыханне, чакаюць.

— Таварыш Староў! Трэці раз перадаём вам, на выпадак, калі вы нас раней не чулі, радыёграму з базы экспедыцыі. Там занепакоены вашай доўгай адсутнасцю. Вырашылі пачаць пошук. Адпраўлены тры сабачыя запрэжкі. Дзве ў кірунку: База — Сопка, па вашым маршруце, трэцяя — на разведку ў даліну ракі, на выпадак, калі вы збіліся з дарогі. Паўтараю яшчэ раз...

— Не туды! Не туды! — у адчаі крычыць у трубу Косцік.— Нас трэба шукаць у заліве Крыжа. Мы тут, у заліве.

— Як шкада,— усміхаецца прафесар,— што яны нас не чуюць, Косцік.

— Ваш лёс, таварышы,— кажа далей рэпрадуктар,— непакоіць нас усіх. Жадаем вам бадзёрасці і здароўя. Вы чуеце нас? Усе мы, зімоўшчыкі, жадаем вам бадзёрасці і здароўя...

Стары ўстае на ногі і доўга глядзіць на зюйд-вест. Там грувасцяцца медна-чырвоныя вострыя горы, яны цягнуцца зубчастай градой уздоўж заліва, каменне блішчыць на сонцы, як расплаўленае.

— Яны шукаюць нас там,— выцягвае Стары руку,— за гэтымі гарамі... у даліне.

Ігнат падыходзіць да яго. Жмурачы свае прыслеплыя вочы, глядзіць на горы і ціха гаворыць:

— Мы пяройдзем гэтыя горы. Так, прафесар?

Стары парывіста абарочваецца.

— Ты думаеш?

Косцік прыслухоўваецца.

— Сядзьма,— гаворыць прафесар і апускаецца на мяшок, ахоплівае галаву рукамі і маўчыць.

Косцік і Ігнат напружана сочаць за ім.

— Бачыце,— гаворыць ён нарэшце,— мы цяпер маем вельмі багаты выбар. Мы можам выбраць любы спосаб уратавання. Нас шукаюць і будуць шукаць доўга, пакуль не знойдуць нас ці нашы трупы. Я кажу так таму, што хачу, каб вы добра ўяўлялі абставіны. І самі прынялі рашэнне.

— Мы разумеем, прафесар...— шэпчуць Ігнат і Косцік.

— Мы можам ісці па старым маршруце, як вырашылі паўгадзіны назад. Дойдзем? Магчыма. Усё-такі гэта шанц на жыццё. Падумайце. Мы можам застацца тут чакаць, пакуль нас знойдуць. Ці дачакаемся? Магчыма, гэта таксама шанц на жыццё. Мы можам, нарэшце...

— Ісці цераз горы насустрач пошукам,— падказвае Ігнат.

— Ага. Цераз горы. Рызыкуючы, праўда, не дайсці, загінуць ад голаду і марозу. Але гэта таксама шанц на жыццё. Магчыма, нават самы верны. Але самы рызыкоўны. Вырашайце ж.

— Ісці цераз горы,— гаворыць Ігнат.

— Цераз горы,— як рэха, паўтарае Косцік.

Стары яшчэ раз кідае позірк на горы, потым на Косціка і ўстае.

— У дарогу! — жорстка камандуе ён і крадком, каб ніхто не бачыў, хапаецца рукой за сэрца.

Ігнат ідзе апошні. Ён доўга яшчэ азіраецца, развітваецца з машынай, потым адчайна махае рукой і даганяе таварышаў. Яны брыдуць сярод таросаў, правальваюцца ў снег, выручаюць адзін аднаго і зноў брыдуць.

Раптам Косцік ускрыквае з жахам:

— Прафесар!.. Я забыў, забыў бутэлечку...

— Як?

— Забыў! — разгублена шэпча Косцік.

Ён глядзіць назад — машына яшчэ відна за таросамі;

які пакутлівы шлях да яе! — і раптам, адважыўшыся, кідаецца ў таросы.

— Не трэба, Косцік, не трэба! — крычыць яму наўздагон прафесар.— Чорт з ёю! Вы не дойдзеце. Беражыце сілу.

Але Косцік паспешліва прабіраецца між таросамі, пераскоквае цераз шчыліны ў лёдзе, спатыкаецца, падае і хуценька ўскоквае, быццам баіцца, што яго дагоняць і вернуць.

— Ён выб'ецца з сілы,— мармыча Ігнат.— Д'ябальская дарога. Дазвольце, я пайду з ім. Удвух лягчэй,— ён робіць рух, але прафесар спыняе яго.

— Не трэба,— гаворыць ён сурова.— Няхай Косцік сам. Хлопчык становіцца мужчынам.

...Праз дзве гадзіны вяртаецца Косцік. Ён змучаны, але шчаслівы.

— Вось,— гаворыць ён, задыхаючыся.— Вось...— і падае ў снег.

Цяпер брыдуць усе ўтрох. Яны ўжо на подступах да гор. Відаць: яны ўпалі. Ляжаць. Ляжаць доўга. Потым пачынаюць рухацца наперад. Цяпер яны не ідуць, а паўзуць, чапляюцца за вострыя выступы скалаў, ззаду застаюцца чорныя плямы. Яны выразна відаць на снезе. Адна пляма напамінае распасцёртага чалавека. Гэта кухлянка, кінутая кімсьці з трох. Далей — яшчэ кухлянка і потым яшчэ адна. Быццам тры трупы на снезе. Потым кінуты шалік. Шапка. Рукавіцы. Вехі на шляху да перавала.

Людзі ўздымаюцца вышэй, вышэй. Вось яны перавальваюць хрыбет... Цяпер яны на шляху да выратавання...

...Дзве гадзіны ночы. На паўночным усходзе велізарнае медна-чырвонае сонца. Крыху зацямняючы яго, нізка-нізка праходзяць воблакі. Яны ідуць хуткай, неспакойнай градой, барвовыя і калматыя, як дым. Як дым над домнамі ноччу.

У заліве пустынна і ціха. Каля застылай машыны намятаюцца гурбы. Вецер варушыць іх...

...Тут будуць шумець гарады!

*1938*

# Канстанцін Федзін

## МАЛЮНАК З ЛЕНІНА

### 1

У летні поўдзень маладому мастаку Сяргею Шуміліну пазванілі па тэлефоне з газеты і сказалі, каб зайшоў у рэдакцыю дамовіцца пра адну справу. Мастак пакінуў маляваць, памыў рукі, сунуў у кішэню гімнасцёркі алоўкі з блакнотам і выйшаў на вуліцу.

У магазінных вокнах былі выстаўлены партрэты Леніна ў рамках з чырвонай тканіны, і ўсюды кідаліся ў вочы напісаныя словы: «Няхай жыве Трэці Камуністычны Інтэрнацыянал!» Сяргей, зазіраючы ў вокны, падумаў, што — мусібыць — фатаграфіі вельмі правільна перадаюць рысы Леніна, як яны ёсць, але мастак мог бы танчэй улавіць асаблівасці ў абліччы, жвавасць рухаў, і добра было б намаляваць калі-небудзь Леніна з натуры.

У рэдакцыі Сяргею сказалі:

— Мы хочам вам даць адно заданне. На кангрэс Камінтэрна з'язджаюцца іншаземныя дэлегаты. Ідзіце ў Палац працы, там яны сёння збяруцца. Зрабіце замалёўкі каго-небудзь з дэлегатаў. Згодны?

— Добра.

— А заўтра мы дамо вам пропуск на адкрыццё кангрэса, можаце маляваць каго хочаце з дэлегатаў і, калі ўбачыце, Леніна...

— Леніна? — адразу перапытаў Сяргей і ўсміхнуўся сваёй імгненнай думцы, што вось як дзіўна лёс памагае спраўдзіцца ягонаму жаданню.

— Праўда, калі будзе такая магчымасць, намалюйце нам Леніна.

— Добра,— зноў сказаў Сяргей.

Вясёлы, ён паехаў на трамваі ў Палац працы, і як толькі праз адчыненыя ў вагоне вокны заўважаў дзе-небудзь партрэт Леніна, зноў дзівіўся з незвычайнага супадзення і ўжо выразна ўяўляў сабе, які лёгкі, жывы будзе яго малюнак з Леніна.

Ён ужо вырашыў, які альбом узяць з сабою, якія трэба алоўкі, уяўляў, як потым, з гэтага малюнка, напіша вялікі партрэт.

## 2

У Палацы, куды прыйшоў мастак, было шумна. На лесвіцах, у калідорах хадзілі і стаялі іншаземцы, каля іх былі рускія і расказвалі ім пра Савецкую Рэспубліку.

Ішла вайна з Польшчай, палякаў ужо разбілі, і Чырвоная Армія гнала далей польскія войскі. Белагвардзейцам барона Урангеля ў Крыме таксама надыходзіў канец. Але да міру было далёка, варожая блакада знясільвала маладую Савецкую краіну, і з-за граніцы цяжка было трапіць у Петраград. Іншаземныя госці ехалі на кангрэс морам каля Скандынавіі, ім даводзілася перажываць у дарозе рызыкоўныя прыгоды. Але жаданне ўбачыць Краіну Саветаў памагала адольваць самыя цяжкія перашкоды, і людзі сюды з'ехаліся з усіх канцоў свету.

Сяргея пазнаёмілі з адным немцам. Гэта быў маленькі гарбун з важным абліччам, павольнай хадой. Родам ён быў з Браўншвейга, па прафесіі кравец. У час нямецкай рэвалюцыі ён тры дні ўзначальваў «незалежную» рэспубліку ў Браўншвейгу, якой здрадзілі нямецкія сацыял-дэмакраты.

Браўншвейжац адразу згадзіўся пазіраваць мастаку і тут жа пачаў падрабязна распытваць пра савецкую ўладу: усё не мог зразумець, навошта ёй спатрэбілася закрыць усялякі гандаль і ўвесці размеркаванне тавараў.

Яны стаялі на балконе, глядзелі на суровую плошчу перад Палацам, на якой яшчэ відны былі сляды гераічнай абароны Петраграда ад генерала Юдзеніча: на бруку ўпадалі ў вока наспех засыпаныя акопы, на бульвары гарбаціліся рэшткі бруствера — бярвёны, мяшкі з пяском. Сяргей сказаў:

— Цэлае зборышча ворагаў напала на нас. Мы цяпер думаем пра адно — перамагчы іх.

— Разумею, разумею,— тонам перавагі гаварыў браўншвейжац і плаўна паводзіў галавой, якая ўдавалася ў плечы.— Але які сэнс у тым, што ў вас зачынены дробныя крамы?

— Крампікі заадно з нашымі ворагамі.

— Разумею, разумею. Але калі ў мяне вырвецца гузік, дзе я куплю яго?

Гэтакім разважанням, здавалася, канца не будзе, і Сяргей, раптам засумаваўшы, адчуў, што нічога не атрымаецца, калі ён пачне маляваць браўншвейжца.

— Ведаеце, я паспрабую намаляваць ваш партрэт заўтра на кангрэсе,— сказаў ён.

Немец паблажліва дазволіў, і мастак адразу развітаўся.

## 3

Назаўтра раніцай, з білетам у кішэні, Сяргей спяшаўся на адкрыццё кангрэса, але калі ён прыйшоў, зала Палаца Урыцкага ўжо была поўная, на хорах калыхалася жывая палоса галоў, усё глуха гуло ад гаворкі, усюды белымі крыламі пырхалі разгорнутыя газеты. Стаяла духата, часцей і часцей у амфітэатры здымалі пінжакі; людзі ўжо абмахваліся газетамі, хусцінкамі; мігцела ўваччу ад безлічных плям, усё было ў напружаным чаканні.

Сяргей знайшоў месца ў ложы для журналістаў насупроць трыбуны. Адсюль былі добра відны лаўкі прэзідыума. Разгарнуў альбом і пачаў рыхтавацца маляваць.

Раптам хоры зашумелі, і, усё заглушаючы, уніз пачаў спаўзаць глетчар воплескаў. Сяргей устаў і пачаў глядзець на месцы прэзідыума. Толькі там ніхто не з'яўляўся. Ён паглядзеў у залу і адразу выпусціў з рук альбом: пачаў апладзіраваць.

Проста на яго, цераз усю залу, наперадзе рознаплямёнавага натоўпу дэлегатаў ішоў Ленін. Ён спяшаўся, нахіліўшы галаву, нібы рассякаючы ёю сустрэчнае паветра і нібы стараючыся хутчэй схавацца, каб пакінулі апладзіраваць. Падняўся ў прэзідыум, і, пакуль не сціхлі воплескі, яго не было відно.

У тую хвіліну, калі ён з'явіўся, расчыніліся ўсе дзверы залы і на хоры і ў амфітэатр унеслі вялізныя карзіны гваздзікоў. Кветкі разляталіся па руках, і іх чырвань на доўгіх радах лавак маляўніча пачала пераклікацца з чырвонымі палотнішчамі сцягоў і дэкарацый. Аглядаючы залу, Сяргей убачыў непадалёк двух пажылых мастакоў, якія яшчэ нядаўна былі яго настаўнікамі. Яны ўжо ўселіся на месцы, а ён усё яшчэ стаяў. Спахапіўшыся, ён падняў альбом і ўзяўся за аловак.

Нечакана, калі ўсё сціхла, Сяргей зноў убачыў Леніна: ён вельмі хутка падымаўся, праходзячы між лавак амфітэатра. Яго не адразу заўважылі, але як толькі ўбачылі — зноў пачалі апладзіраваць і запаўняць праход,

па якім ён ужо ледзь не ўзбягаў. Параўняўшыся з адным чалавекам, ён, весела ўсміхаючыся, падаў яму абедзве рукі. Той устаў насустрач Леніну, вітаючыся з нейкай спакойнай паважнасцю селяніна і з ласкавай стрыманай усмешкай. Яны размаўлялі і ўсё больш нахіляліся адзін да аднаго, бо авацыя расла і людзі абступалі іх цесным колам.

— Гэта Міха Цхакая,— пачуў Сяргей,— грузінскі камуніст. Ён жыў з Леніным у Швейцарыі.

Кола людзей каля іх усё цяснела, і Ленін, паціснуўшы таварышу руку, ледзь не прарваў непадатлівы натоўп і пакіраваўся ўніз. Відно было, што ён нездаволены воплескамі і тым, што людзі стоўпіліся.

Сяргей сачыў за кожным яго крокам. Яму здавалася, што ён паспеў улавіць вельмі важныя асаблівасці рухаў гэтага невысокага лёгкага чалавека, і ён ужо бачыў, як занатуе іх алоўкам у сваім альбоме.

Ленін узышоў на месцы прэзідыуму і на хвіліну знік, потым зноў паказаўся, і Сяргей убачыў, як ён дастаў з кішэні паперы і прысеў на прыступку ў праходзе. Гэта адбылося хутка, неспадзявана, проста, і лепшай паставы нельга было ні чакаць, ні ўявіць. Сяргей адчуў, што яго суседзі-мастакі ўжо малююць. Ён сціснуў у пальцах аловак, але не мог адарваць вачэй ад Леніна.

Вельмі добра была відна яго галава — вялікая, незвычайная — і запаміналася адразу. Ленін паклаў паперы на калені і, чытаючы, нізка нагнуўся над імі. Узмах яго лба, цемя, патыліца з хвалькамі светлых жоўтых валасоў, што дакраналіся да каўняра, рэзка пераважалі ва ўсім яго абліччы. Мастак хацеў параўнаць Леніна з якім-небудзь знаёмым з гісторыі ці сучаснасці вобразам, але Ленін нікога не паўтараў. Кожная рысачка ў ім была толькі ягоная.

Сяргей нарэшце крануў алоўкам паперу. Лёгкімі штрыхамі накідаў контур Ленінавай галавы і падняў вочы. Леніна ўжо не было.

Сяргей убачыў яго зноў, калі ён ступіў да трыбуны рабіць даклад.

Бурная ад захаплення, несціханая авацыя сустрэла Леніна. Яму давялося цярпець яе да канца. Ён доўга перабіраў паперкі на кафедры. Потым, высока ўзняўшы руку, трос ёю, каб угаманіць буру ў зале. З дакорам і строга паглядаў ён на ўсіх — адзін сярод бурлівага грукату воплескаў. Хутка дастаў гадзіннік і паказаў яго

аўдыторыі, сярдзіта пастукваючы пальцам па цыферблаце,— нічога не памагала. Тады ён зноў узяўся нервова пераглядаць, перабіраць паперкі, пакуль авацыя, нібы вычарпаўшы сябе, не перайшла ва ўважлівую цішыню.

Ленін пачаў гаварыць.

## 4

Сяргей убачыў яго ў руху, якім ён перадаваў думку. Якраз гэта мастак і марыў паказаць на малюнку. Рысы Леніна, некалькі хвілін назад зусім дакладна ўлоўленыя, як быццам зніклі ў Леніне-прамоўцы і замяніліся новымі ў бесперапынным жывым чаргаванні. Адну за адною заначыў іх у памяці Сяргей, але яны ўзнікалі і не паўтараліся, і ён баяўся прапусціць што-небудзь, і ўсё не адважваўся пачаць маляваць, і ўжо не мог бы сказаць — што робіць: вывучае жэстыкуляцыю Леніна ці слухае яго прамову.

Поўная злітнасць жэсту са словам уразіла яго. Змест прамовы перадаваўся пластычна, усім целам. Гэта можна было параўнаць з вадкім металам, улітым у падатлівую форму: настолькі дакладна вонкавы рух выяўляў сказанае словам, гэтак бурна ішла перадача вогненнага сэнсу прамовы.

Ленін выкрываў Англію, якая ні з таго ні з сяго зрабілася вельмі міралюбная і, каб выратаваць Польшчу і белага генерала Урангеля, прапанавала сваё пасрэдніцтва паміж імі і Савецкай Рэспублікай. Калі Ленін запытаўся ў залы, чаму ўзнік ва ўсім свеце «неспакой», як выслаўляецца далікатны буржуазны ўрад Англіі,— усё яго цела іранічна выказвала гэты няёмкі, далікатнага характару для Англіі «неспакой», і яе палітыка ва ўсіх на вачах ператварылася ў знішчальны саркастычны вобраз.

Ленін часта паглядаў у свае запісы і называў шмат лічбаў, але ні на адну хвіліну ён не рабіўся ад гэтага нудным прафесарам, увесь час гэта быў усяўладны трыбун. Яго высокі голас быў нястомны, яго мова — наглядна простая, яго вымаўленне — мяккае; ён часам грасіраваў на гуку «р», і гэта надавала яго слову чалавечнасць, жыццёва набліжала прамову да слухача.

З такім пачуццём, нібы ён не прапускае ніводнага гуку гэтай прамовы, Сяргей узяўся маляваць. Ён накідаў на паперы прыўзнятую галаву Леніна, яго выцягнутыя

рукі, простую, энергічна разагнутую лінію спіны, круглявыя, выпятыя наперад грудзі. Ён пакідаў адзін малюнак, пачынаў другі; то ў яго не атрымліваўся твар, то рукі, то торс. Ён паўтараў тое, што ўдалося, біўся над тым, што не ўдавалася, перагортваў у альбоме аркуш за аркушам і, нарэшце, спалохана заўважыў, што мэта, якую сабе паставіў, ніяк не набліжаецца.

Ён паглядзеў на сваіх настаўнікаў. Адзін з іх, нагнуўшыся, старанна выціраў гумкай тое, што намаляваў. Лысіна яго была пунсовая. Сяргей успомніў — той мастак заўсёды чырванеў, калі ў яго што-небудзь не ўдавалася. Другі мастак пайшоў з ложы, прыстроіўся ў радах супроць трыбуны і, кінуўшы маляваць, слухаў Леніна.

Сяргею раптам зрабілася страшна, што ён назаўсёды страціць такую магчымасць, што Ленін скончыць прамову, а ў яго альбоме так і не будзе цэласнага накіду. Ён выйшаў з ложы, ледзь прабіўшыся ў дзвярах, дзе людзі стаялі плячо ў плячо. Стаў унізе, на праходзе, адкуль Ленін здаваўся яму большым і вышэйшым. Падумаў, што гэта самае лепшае месца. Але тут перашкаджала святло юпітэра: аб'ектывы фотакамер і кіно разам з масакамі лавілі няўлоўнага, жывога Леніна, і агні, ураз асляпіўшы, акуналі зрок у цемрань. Сяргей перайшоў на другі бок ад трыбуны. Адсюль Ленін відзён быў амаль што сілуэтна, бо святло за ім было ярчэйшае. Не, першая пазіцыя была самая лепшая, трэба было хутчэй, хутчэй вярнуцца ў ложу.

У ложы Сяргеева месца было занята, яму давялося стаяць. Але, стоячы, ён раптам убачыў усяго Леніна, на ўвесь рост і ў той паўнаце, якая не давалася воку, калі яно ўспрымала па частках вельмі цэласную натуру. Сяргей адразу ўзяўся за новы малюнак. І тады пачала адчувацца ўся падрыхтоўка, усё няўпэўненае штудзіраванне, эцюды, зробленыя як быццам навобмацак,— і жэсты, рухі галавы, дапаўняючы адно другое, злучаючыся, пачалі павольна ператварацца ў гарманічны малюнак, блізкі да праўды вобраз — у жывога Леніна. Ужо не адрываючыся ад альбома, хутка, без намаганняў маляваў Сяргей.

Гулкая гамана раскацілася па зале. Сяргей ускінуў позірк. Узмахам рукі сабраўшы паперы, Ленін збягаў з трыбуны.

Сяргей загарнуў альбом.

## 5

Калі скончылася пасяджэнне, у шчыльным, гарачым натоўпе дэлегатаў Ленін выйшаў з Палаца разам з Горкім. Зіхотліва сіні дзень сляпіў і апякаў пасля цёплажоўтага святла залы. Ад цясноты рух прыпыніўся каля самага выхаду. Фатографы, наступаючы на дэлегатаў з усіх бакоў, пстрыкалі затворамі, узрадаваныя шыкоўным асвятленнем. Горкі і Ленін, націснутыя натоўпам, спыніліся ля калоны палацавага ганка. Іх бесперастанку здымалі. Гладка паголеная, блакітнаватая галава Горкага блішчала на сонцы і далёка была відна. Наўкола паўтаралі яго імя. Ленін стаяў ніжэй, наперадзе ў яго, таксама з голай галавой.

Сяргей быў побач, і яму трэба было б маляваць. Але натоўп сціснуў яго. Ды ён і не думаў кратацца: гэтак блізка ён яшчэ не бачыў Леніна за ўвесь дзень. Ён адчуваў, што ўсміхаецца і што ўсмешка яго, можа, недарэчы, але яна не сыходзіла ў яго з твару, як адзеравянелая. Вядома, ён не мог радавацца, што фатографы напстрыкаюць некалькі дзесяткаў благіх здымкаў, але ён пазайздросціў на іхнюю прыткасць і бяздумную прафесію.

Шэсце рушыла. Сярод сцягоў, над галовамі, неслі трохметровы вянок з дубовых галінак і чырвоных ружаў: ішлі да брацкай магілы на плошчы Ахвяр Рэвалюцыі. Ленін ішоў на чале дэлегатаў кангрэса. Побач з ім увесь час мяняліся людзі — іншаземцы, рускія, старыя і маладыя. Ён канчаў гаварыць з адным, пачынаў з другім, трэцім.

Ленін ішоў без паліта, расшпіліўшы пінжак, закладаючы рукі то за спіну, то ў кішэні штаноў. Было падобна, што ён — не на вуліцы, сярод цяжкіх, вялізных будынкаў, а ў абжытым пакоі, дома: ані нічога незвычайнага не адчуваў ён у тым, што вакол яго столькі людзей, што яны нястрымна і няспынна цягнуцца да яго, і проста, свабодна паводзіў сябе ва ўсеагульнай увазе.

Сяргей ішоў непадалёк і раптам заўважыў знаёмага чалавека, які, прабіваючыся між шчыльных радоў людзей, вынырнуў наперадзе і, улучыўшы хвіліну, параўняўся з Леніным. Гэта быў браўншвейжац. Сказаўшы ўсё пра сябе і паціснуўшы Леніну руку, ён пачаў, як відаць, добра падрыхтаваную тыраду.

Ленін схіліў галаву набок, каб лепей чуць нізенькага чалавека. Той гаварыў, важна паводзячы доўгай рукой,

цэнячы свае словы, баючыся сказаць што-небудзь марна. Спачатку Ленін быў сур'ёзны. Потым заўсміхаўся, прыжмурыўся, коратка заківаў галавой. А пасля адхіснуўся, махнуў рукою з тым выразам, якім гаворыцца: лухта, лухта! Браўншвейжац, жэстыкулюючы, не пакідаў нешта давадзіць. Ленін узяў яго за локаць і сказаў дзве-тры фразы — кароткія і нейкія канчатковыя, беспаваротныя. Але браўншвейжац раз'ятрана пярэчыў. Тады раптам Ленін ляпнуў яму па плечуку, засунуў пальцы за камізэльку і пачаў смяяцца, ківаючыся на хаду, дадаючы кроку і ўжо не азіраючыся на чалавека, які гэтак яго рассмяшыў.

Ці не пра гузік быў загаварыў няўдачлівы браўншвейжац? Магчыма — усміхнуўся Сяргей, калі немец адстаў ад Леніна і згубіўся ў натоўпе. Дзіўнае пачуццё ўзбудзіла гэтая сцэна ў Сяргея. Яна была для яго нямая, але, поўная руху, гэтак востра выявіла ў Леніне нязмушанасць, даступнасць і бязлітаснае пачуццё смешнага. Сяргей бачыў Леніна вясёлага, як ён смяяўся ад душы; назіраў яго манеру спрачацца — з хуткімі зменамі выразу на твары, з хітравата прыжмураным вокам, з валявымі і поўнымі страсці жэстамі. Сцэна з браўншвейжцам павінна была дапоўніць Сяргееў малюнак такімі важнымі штрыхамі, якіх раней ён не мог ведаць.

«Два старшыні,— думаў ён, усміхаючыся і нібы яшчэ бачачы перад сабою дзве постаці.— Старшыня трохдзённага браўншвейгскага ўрада, што кануў у Лету, і старшыня ўрада, які існуе тры гады і будзе існаваць заўсёды».

Незнаёмае фізічнае адчуванне гордасці, як плынь, найшло на Сяргея, і амаль што ў той самы момант у яго пачало моцна біцца сэрца і ад злосці на сябе і ад дзёрзкай зайздрасці: чаму, чаму гэтак многа людзей падыходзіць да Леніна і той на ўсіх знаходзіць час, а ён, мастак, які павінен, які абавязаны і хоча ўвекавечыць вобраз Леніна для соцень, для тысяч людзей, чаму ён павінен падпільноўваць секунды, каб зазірнуць яму ў твар, разглядзець усмешку, злавіць на ляту яго позірк?

Сяргей разгарнуў альбом. У малюнку былі рысы падабенства, гэта несумненна. Злоўленыя бегла, мімалётна, яны не былі бясспрэчныя, але што сказаў бы пра іх сам Ленін?

Сяргея падштурхнулі наперад. А можа, гэта яму здалося — ён сам праціснуўся ў пярэдні рад і ўжо маршыраваў упоравень з Леніным. Ён ледзь не задыхаўся. Ней-

кі крок аддзяляў яго ад мэты, і, не ведаючы, ці хопіць адвагі, ён зрабіў гэты крок.

Ён падышоў да Леніна.

— Я хачу...— сказаў ён, і старанна прадуманыя словы ўраз разляцеліся ў яго.— Уладзімір Ільіч, як малюнак вам падабаецца гэты?

Ленін мелькам зірнуў на Сяргея, узяў альбом за ражок і, нагнуўшыся, прыжмурыўся на паперу. Потым ён адхінуў альбом, весела пакасавурыў вочы на Сяргея.

— Па-вашаму — добра? — запытаўся ён са сваім добразычлівым «р».

— Не,— адказаў Сяргей,— але падабенства, здаецца, ёсць...

— Не магу меркаваць, я — не мастак,— скорагаворкай адазваўся Ленін.

У яго вачах мільганула жартаўлівая хітрынка, ён адкінуў галаву назад, падбадзёрліва кіўнуў Сяргею і адвярнуўся ў другі бок: да яго хтосьці загаварыў.

Сяргея адціснулі з першага, а потым і з другога рада; ён здзівіўся — чаму ўвесь час ён лёгка захоўваў зручнае месца ў шэсці, а тут адразу страціў яго. Ад няёмкасці? Засмучэння? Ён зноў выклікаў у сабе тое пачуццё, якое толькі што перажываў. Не, ні ў голасе, ні ў позірку Леніна не прамільгнула нічога, што магло б Сяргея ўстрывожыць. Але як прыйшло ў галаву паказаць Леніну няўдалы малюнак? Гэта было маладушша. Сяргей разгарнуў і адразу ж загарнуў альбом: малюнак быў нікуды не варты...

Тады хтосьці ўзяў яго за локаць і пацягнуў уніз. Ён павярнуўся.

Яго цвёрда трымаў браўншвейжац.

— Вы, мой дружа, мелі намер мяне маляваць,— сказаў ён голасна.— Сёння вам гэта не ўдалося, але я магу вас прыняць заўтра.

Прыўзняўшы над галавою даўгую сухую руку, ён паляпаў Сяргею па плячуку.

— Чортведама, які гарачы дзень! Зусім не падобна на вашу матухну-Расію.

— Ведаеце што,— сказаў Сяргей.— Я перадумаў, я маляваць вас не буду.

— О, вельмі міла,— пачуў ён ззаду ў сябе, калі прабіраўся праз натоўп.

Ён адразу забыўся пра немца. І ў той жа момант адчуў новы, цёплы поціск рукі. Яго настаўнік, мастак, які маляваў разам з ім у ложы, са знаёмай спагадлівай удумлівасцю сказаў ціха:

— Чуеце? У мяне не выходзіць малюнак з Леніна. А ў вас?

— У мяне таксама,— адказаў Сяргей і, нечакана прыціскаючы да сябе ласкавую руку, горача дагаварыў: — Але даю слова, даю вам чэснае слова — у мяне абавязкова выйдзе!..

*1939*

# Леанід Собалеў

## САЛАВЕЙ

На фронце пад Адэсаю працаваў атрад разведчыкаў-маракоў. Начамі яны прабіраліся румынам у тыл, прапаўзаючы на жываце паміж мінных палёў, пераходзячы да грудзей у вадзе асенні ліман, заплываючы на шлюпцы далёка за лінію фронту. Яны здымалі часавых ударам штыка ці кінжала, закідалі гранатамі хаты са штабамі, сядзелі пад абстрэлам сваіх жа батарэй, карэкціруючы агонь,— няўлоўныя, смелыя, хуткія, «чорныя д'яблы», «чорныя камісары», як са страхам называлі іх румыны.

Сярод іх быў электрык з мінаносца «Фрунзе», прыгожы і статны марак з ганарлівымі вусікамі, якому за гэтыя вусікі і за любоў да кавалерыйскіх штаноў далі мянушку «гусар». Галіфэ, армейскія гімнасцёрка і пілотка былі выкліканы патрэбаю: не вельмі зручна поўзаць па балотах у шырокіх марскіх штанах і ў флоцкіх чаравіках. Разведчыкі выракліся марское формы, але «марская душа» — паласатая цяльняшка — заўсёды была на целе і сінела праз каўнер неаспрэчным доказам прыналежнасці да флоту, і на пілотцы пад зорачкаю горда паблісквaў якарок.

У спякотны пыльны дзень шасцёра разведчыкаў ішлі праз Адэсу з лазні. Хацелася нясцерпна піць. Але піць у горадзе хацелася ўсім, і каля ларкоў тоўпіліся чэргі. Маракі прайшлі тры ларкі, уздыхаючы, паглядалі на гадзіннік. Стаць у чаргу ў іх не хапала часу. Раптам ім пашанцавала: з неба пачулася характэрнае выццё міны. Гэта было на ўскраіне горада, куды міны часта залятэлі, і гуд іх — агідны, шчымлівы, доўгі — быў добра знаёмы адэсітам. Чарга распалася, людзі пабеглі хавацца за цагляныя сцены дамоў.

Але міна не ўзарвалася. Яна праскавытала сваю агідную песню і бясследна прапала. Затое каля ларка, адкуль звыклы да ўсяго прадавец так і не пайшоў, стаяў

адзін толькі «гусар» і са смакам цягнуў содавую ваду, запрашаючы астатніх маракоў.

Выявілася, што «гусар» мае дар незвычайнай здольнасці да гукапераймання. З яго ружовых поўных губ вылятали самыя нечаканыя гукі: свіст снарада, квохканне курыцы, віск пілы, выццё міны, шчоўканне салаўя, шыпенне гранаты, брэх шчанюка, далёкі гул самалёта. І здольнасць гэта, ледзь толькі выявілася, была адразу накіравана на карысць справы.

«Гусара» аб'явілі «флагманскім сігнальшчыкам», распрацавалі цэлы код і панеслі яго на зацвярджэнне камандзіру. Квохканне курыцы азначала, што каля хаты заўважылі вартавога, краканне качкі — што вартавых двое. Кулямётчык, замаскіраваны ў кустах, выклікаў жаласны рупосвіст івалгі. Месца збору ўночы пасля налёту на румынаў вызначалася доўгім спевам салаўя, які з захапленнем артыста самазабыўна заліваўся ў кустах ці каля шлюпкі.

Вечарамі, калі разведчыкі адпачывалі пасля небяспечнага рэйду, «гусар» наладжваў у хаце канцэрт. Маракі ляжалі на ахапках сена, і ён, закінуўшы рукі за галаву, свістаў.

У цёмнай хаце, дзе свежа і тонка пахла сенам, ён свістаў чыста і моцна, і праўдзівы, празрысты яго свіст, якому акампанавалі глухія, няспынныя гулы сваіх і чужых гармат і выбухаў (пастаянная сімфонія акружанай Адэсы), гучаў далёкаю мараю пра мірнае, спакойнае жыццё, пра яркае святло на вуліцах і ў залах, пра белыя святочныя ўборы і чыстыя рукі, пра забыты, страчаны спакой, пра ўтульнасць і хату. Маракі слухалі моўчкі, і, калі заміраў апошні гук, які танчэў і пераходзіў у лагодную, разумную цішыню, гігант-камандзір тым глухім вурчаннем, якое іншы раз чуеш у магутнай дымавой трубе лінейнага карабля, нямоцна басіў:

— Шчэ давай... Гарна свішчаш.

І маракі ляжалі на сене і думалі пра вайну, пра лёс і перамогу і пра тое, што будзе яшчэ — абавязкова будзе! — жыццё з такою самаю цішынёю і з песняю-мараю. І гарматы за сценамі хаты выкідалі метал і крышылі тых, хто ўварваўся ў наша мірнае жыццё.

У першым паходзе ў румынскі тыл «гусар» астаўся ў шлюпцы ў чароце — ахоўваць гэты адзіны сродак вяртання да сваіх і, як звычайна, быць «флагманскім сігнальшчыкам». Уночы маракі нарабілі спраў у тыле, знялі два

кулямёты, узарвалі хату з румынскім штабам і да шасці раніцы вярталіся да шлюпкі. Крадучыся, яны падыходзілі да чароту. Аднаго неслі на руках — яго раніла разрыўною куляю ў бядро, дваіх таварышаў недалічыліся. У чароце ўсе прылеглі адпачыць і сталі слухаць ноч, каб вызначыць, дзе шлюпка.

Уночы спяваў салавей. Ён шчоўкаў і свістаў, але пошчак быў натужлівы, і спеў перарывісты. Часам ён змаўкаў. Потым спеў ажываў, але такая туга і трывога былі ў ім, што маракі пакінулі цяжкае цела раненага пад аховаю і кінуліся на свіст салаўя.

«Гусар» ляжаў у шлюпцы дагары. У цемры не відзён быў яго твар, а грудзі яго былі ў ліпкай крыві. Аўтамат валяўся на дне, усе дыскі былі пустыя. У чароце маракі наткнуліся на трупы румынаў. Відаць, яны згледзелі днём шлюпку, і тут быў няроўны бой.

«Гусар» не пазнаваў родных галасоў. Ён ляжаў на спіне і хроп цяжка і пакутна. Потым ён набіраўся сілы, і тонкі свіст вылятаў у яго з-пад вусікаў скрозь непаслухмяныя губы, якія пачалі халадзець. Не бачачы, не разумеючы, што тыя, каму ён павінен быў даць выратавальны сігнал, ужо вярнуліся да шлюпкі, ён прадаўжаў свістаць. Ён свістаў нават тады, калі ўсе селі ў шлюпку і, асцярожна апусціўшы вёслы, пайшлі па ціхім цёплым моры.

І салавей — птушка кустоў і дрэваў — спяваў і шчоўкаў над морам. У шлюпцы маўчалі, і толькі часам шумна і доўга ўздыхаў камендор-велікан, які ляжаў побач з «гусарам».

«Гусар» усё свістаў, заміраючы, адпачываючы, цяжка ўцягваючы паветра. Ён усё свістаў, і неба над морам стала ружавець, і шчоўканне салаўя перайшло ў мелодыю.

Абарваная, скалечаная, як і яго цела, яна кідалася над пасвятлелым морам, і маракі, прыслухоўваючыся да яе, грэблі шалёна і хутка.

*1941*

# Вадзім Кажэўнікаў

## САКАВІК — КРАСАВІК

Падраны камбінезон, прагарэлы падчас начлегу каля вогнішча, матляўся на змарнелай постаці капітана Пятра Фёдаравіча Жаваранкава. Рыжая калматая барада і глыбокія чорныя маршчакі — гразь аж уелася ў іх — рабілі яго твар старэчым.

У сакавіку ён са спецыяльным заданнем скочыў з парашутам у тыле ворага, а цяпер, калі сыходзіў снег і паўсюды заварушыліся ручаі, прабірацца па лесе ў набрынялых вадой валёнках было вельмі цяжка.

Спачатку ён ішоў толькі ўночы, удзень адлежваўся ў ямах. Аднак, баючыся зусім знясілець з голаду, прыняў рашэнне ісці і днём.

Заданне капітан выканаў. Засталося толькі адшукаць радыста-метэаролага, закінутага сюды два месяцы назад.

Апошнія чатыры дні ён амаль нічога не еў. Ледзь перастаўляючы ногі, ён ішоў па мокрым лесе, галоднымі вачамі касавурыўся на белыя ствалы бяроз, кару якіх — ён ведаў — можна стаўчы, зварыць у бляшанцы і потым есці, як горкую кашу, што патыхае дрэвам і драўляная на смак...

У думках капітан звяртаўся да самога сябе як да спадарожніка, мужнага і вартага павагі.

«Прымаючы пад увагу надзвычайныя абставіны,— думаў капітан,— вы можаце выбрацца на шашу. Дарэчы, у такім выпадку ўдасца памяняць абутак. Але, трэба зазначыць, напад на адзіночны нямецкі транспарт сведчыць пра ваша дрэннае становішча. Як кажуць, лямант чэрава заглушае ў вас голас розуму».

Прызвычаіўшыся да доўгай адзіноты, капітан мог размаўляць з самім сабой да таго часу, пакуль не стамляўся ці, як прызнаваўся сабе, не пачынаў вярзці глупства.

Капітану здавалася, што той, другі, з кім ён вядзе размову, неблагі хлопец, добры, душэўны, усё разумее. Толькі зрэдку капітан груба перабіваў яго: калі вухам улоўліваў нейкі шоргат ці прыкмячаў адталую лыжню.

Аднак думка капітана пра свайго двайніка, душэўнага і спагадлівага хлопца, крыху разыходзілася з думкай яго таварышаў. У атрадзе капітан лічыўся чалавекам маласімпатычным. Негаваркі, стрыманы, ён не выклікаў і ў іншых сяброўскай прыхільнасці. Навічкам, якія ўпершыню ішлі ў рэйд, ён ніколі не знаходзіў цёплага, каб падбадзёрыць, слова.

Вяртаючыся пасля задання, капітан стараўся пазбягаць урачыстых, узнёслых сустрэч. Ухіляючыся ад абдымкаў, мармытаў:

— Пагаліцца б трэба, а то шчокі, як у вожыка,— і паспешна ішоў да сябе.

Пра работу ў тыле немцаў ён таксама не любіў расказваць і абмяжоўваўся рапартам начальніку. Адпачываючы пасля задання, адлежваўся ў пасцелі; на абед прыходзіў заспаны, пануры.

— Нецікавы чалавек,— казалі пра яго,— нудны.

Раптам ад кагосьці пайшла чутка, якая нейкім чынам апраўдвала яго паводзіны: быццам у першыя дні вайны яго сям'ю загубілі фашысты.

Даведаўшыся пра гэтыя размовы, капітан выйшаў на абед з пісьмом у руках. Сёрбаючы суп і трымаючы ліст перад вачамі, абазваўся:

— Жонка піша.

Усе пераглянуліся. Шмат хто расчаравана, бо хацелася верыць: капітан таму такі нелюдзімы, што яго напаткала няшчасце. А няшчасця, як бачыце, ніякага і не было...

...Голы і мокры лес. Багністая глеба, ямы, поўныя бруднай вады, друзлы, балоцісты снег. Сумна валачыцца па гэтых здзічэлых мясцінах адзінокаму, знясіленаму, зморанаму чалавеку.

Але капітан знарок выбіраў такія мясціны, дзе можна было пазбегнуць сустрэчы з немцамі. І чым болей закінутай і занядбанай выглядала зямля, тым болей упэўненая была капітанава хада.

Вось толькі голад мучыў. Капітан часам зусім блага бачыў. Ён спыняўся, цёр вочы, а калі гэта не памагала, біў сабе кулаком у суконнай рукавіцы па скулах, каб узмацніць кровазварот.

Спускаючыся ў лагчыну, капітан нахіліўся да малюсенькага вадаспада, што сцякаў з ледзяных махроў адхону, і стаў піць ваду, адчуваючы моташны, прэсны смак расталага снегу. Але ён піў, хоць яму і не хацелася,— піў толькі для таго, каб запоўніць пустату ў страўніку.

Вечарэла. Празрыстыя цені клаліся на мокры снег. Пахаладнела. Лужыны застывалі, і лёд храбусцеў пад нагамі. Мокрыя галіны абледзянелі; калі ён адхіляў іх рукой, яны звінелі. І як ні спрабаваў капітан ісці нячутна, кожны яго крок суправаджаўся хрустам і звонам.

Узышоў месяц. Лес заблішчаў. Незлічоныя ледзяшы, застылыя лужыны, адбіваючы месячнае святло, заззялі халодным агнём.

Дзесьці ў гэтым квадраце павінен быць радыст. Ды хіба знойдзеш яго адразу, калі гэты квадрат — аж чатыры кіламетры? Відаць, радыст выкапаў сабе логавішча не горшае за звярыную нару.

Не будзе ж ён хадзіць па лесе і крычаць: «Гэй, таварыш! Дзе вы там?!»

Капітан ішоў у гушчары, азораным зыркім святлом; валёнкі яго ад начнога холаду сталі цяжкія і цвёрдыя, як каменныя тумбы.

Ён злаваў на радыста, якога так нялёгка было адшукаць, але яшчэ болей узлаваўся б, калі б радыста ўдалося знайсці адразу.

Зачапіўшыся за буралом, схаваны пад закарэлым уночы снегам, капітан паваліўся. І калі з цяжкасцю ўставаў, упіраючыся рукамі ў шарпак, за спінай у яго пачулася металічнае пстрыканне пісталета.

— Хальт! — сказалі яму ціха.— Хальт!

Але капітан трымаў сябе дзіўна. Не паварочваючыся, ён расціраў выцятае калена. Калі, зноў-такі шэптам, яму па-нямецку загадалі падняць рукі ўгору, капітан павярнуўся і сказаў з насмешкай:

— Калі чалавек ляжыць, пры чым тут «хальт»? Трэба было адразу кідацца на мяне і біць з пісталета, укруціўшы яго ў шапку,— тады стрэл будзе глухі, ціхі. А яшчэ — немец крычыць «хальт» моцна, каб пачуў сусед і ў выпадку чаго прыйшоў на дапамогу. Вучаць вас, вучаць, а карысці...— І капітан падняўся.

Пароль вымавіў аднымі губамі. Калі атрымаў адказ, кіўнуў галавой і, узяўшы на засцерагальнік, усунуў у кішэню сіні «заўэр».

— А пісталет такі ў руцэ трымалі!

Капітан сярдзіта паглядзеў на радыста.

— Ты мо думаў, што толькі на тваю мудрасць буду разлічваць? — І нецярпліва патрабаваў: — Давай паказвай, дзе тут тваё памяшканне!

— Вы ідзіце за мной,— сказаў радыст, стоячы на каленцах у нейкай ненатуральнай позе,— а я папаўзу.

— Навошта паўзці? У лесе спакойна.

— Нага ў мяне абмарожаная,— ціха растлумачыў радыст,— баліць надта.

Капітан незадаволена паморшчыўся і пайшоў услед за радыстам, які паволі поўз. Кпліва спытаўся:

— Ты што ж, басанож бегаў?

— Гайданка моцная была, калі скакалі. У мяне валёнак зляцеў... яшчэ ў паветры.

— Малайчына! Як гэта ты яшчэ штаны не згубіў! — І дадаў: — Выбірайся цяпер з табой адсюль!

Радыст сеў, апіраючыся рукамі аб снег, і з крыўдай у голасе сказаў:

— Я, таварыш капітан, і не збіраюся адсюль ісці. Пакіньце правіянт і можаце рухацца далей. Калі нага загоіцца, я і сама дабяруся.

— Уга, санаторый тут табе будзе! Засеклі немцы тваю рацыю, зразумела? — І раптам, нахіліўшыся, капітан трывожна спытаўся: — Слухай, а як тваё прозвішча? Твар нейкі знаёмы.

— Міхайлава.

— Ну і ну! — прамармытаў капітан ці то збянтэжана, ці то пакрыўджана.— Нічога, як-небудзь разбяромся.— Потым ветліва пацікавіўся: — Можа, вам памагчы?

Дзяўчына нічога не адказала. Яна паўзла, правальваючыся ў снег па самыя плечы.

Злосць змянілася ў капітана іншым пачуццём, менш пэўным, але больш трывожным. Ён памятаў гэтую Міхайлаву ў сябе на базе, сярод курсантаў. Яна з самага пачатку выклікала ў яго пачуццё непрыязнасці, нават болей — абурэння. Ён ніяк не мог зразумець, навошта яна на базе — высокая, прыгожая, нават вельмі прыгожая, з ганарліва ўзнятай галавой і яркім, вялікім, рэзка абведзеным ротам, ад якога было цяжка адвесці позірк.

У яе была непрыемная манера глядзець проста ў вочы. Непрыемная не таму, што бачыць такія вочы агідна,— наадварот, вялікія, уважлівыя і спакойныя, з залацістымі іскрынкамі вакол вялікіх зрэнкаў, яны былі вельмі прыгожыя. Блага, што іх пільнага позірку капітан не вытрымліваў. І дзяўчына гэта заўважала.

Ды яшчэ гэта манера насіць валасы, пышныя, бліскучыя і таксама залацістыя, выпусціўшы іх за каўнер шыняля!

Колькі разоў гаварыў капітан:

— Падбярыце валасы. Ваенная форма не маскарадны касцюм.

Праўда, вучылася Міхайлава старанна. Застаючыся пасля заняткаў, яна часта звярталася да капітана з талковымі пытаннямі.

Але капітан, перакананы ў тым, што веды ёй не спатрэбяцца, адказваў коратка, рэзка, увесь час пазіраючы на гадзіннік.

Начальнік курсаў неяк зрабіў заўвагу капітану за тое, што ён дагэтуль не звярнуў увагі на Міхайлаву.

— Яна ж добрая дзяўчына.

— Добрая... для сямейнага жыцця.— І нечакана горача капітан дадаў: — Зразумейце, таварыш начальнік, нашаму брату ніякіх лішніх зачэпак мець нельга. Абставіны могуць так павярнуцца, што давядзецца сябе ў расход пусціць. А яна? Хіба яна зможа? Пашкадуе ж сябе! Хіба ж можна сябе, такую... — І капітан збіўся.

Каб адкруціцца ад Міхайлавай, ён перавёў яе ў групу радыстак.

Курсы дэсантнікаў размяшчаліся ў адным з падмаскоўных дамоў адпачынку. Разныя зашклёныя веранды, дывановыя дарожкі ўсярэдзіне, прыгожая лакіраваная мэбля — усё схіляла па вечарах да мірных забаў. Нехта садзіўся за раяль, і пачыналіся танцы. І каб не вайсковая форма, можна было б падумаць, што гэта звычайны вечар напярэданні выхаднога дня.

Грукалі зенiткі, і белае полымя пражэктараў корпалася ў небе сваімі нягнуткімі шчупальцамі, але пра гэта не хацелася думаць.

Пасля заняткаў Міхайлава часта сядзела на канапе ў гасцёўні, падкурчыўшы ногі, з кнігай у руках. Яна чытала пры лямпе з вялізным абажурам, умацаванай на тоўстай і высокай падстаўцы з чырвонага дрэва. Выгляд гэтай дзяўчыны з прыгожым, спакойным тварам, яе ціхамірная поза, хваля валасоў на спіне і тонкія белыя пальцы — усё гэта ніяк не стасавалася з тэхнікай падрыўной справы ці нанясеннем па тырсе ўдараў нажом з тронкамі, абцягнутымі гумай.

Калі Міхайлава заўважала капітана, яна ўсхоплівалася і выцягвалася, як і належыць пры паяўленні камандзіра.

Жаваранкаў, зняважліва кіўнуўшы, праходзіў міма. Гэ-

ты дужы чалавек з чырвоным, сухім тварам спартсмена, праўда, крыху стомленым, быў жорсткі і патрабавальны і да сябе самога...

Капітан лічыў за лепшае дзейнічаць у адзіночку. Ён меў на гэта права. Халодным болем застыла ў капітанавым сэрцы смерць яго жонкі і сына: іх задушылі 22 чэрвеня ў пагранічным пасёлку жалезнымі лапамі фашысцкія танкі.

Капітан маўчаў пра сваё гора. Ён не хацеў, каб няшчасце служыла матывам яго бясстрашнасці. Таму і хлусіў таварышам. Ён сказаў сабе: «Я такі самы, як і ўсе. Я павінен ваяваць спакойна». Усю сваю жыццёвую моц ён сканцэнтраваў на барацьбе з ворагам. Такіх людзей, душа якіх поўная смутку, гонару і сілы, нямала на гэтай вайне.

Добры, вясёлы, слаўны мой народ! Якой жа бядой зрабілі ворагі бязлітасным тваё сэрца!

...Ідучы за радысткай, якая паўзла па снезе, капітан стараўся не думаць пра тое, што магло б перашкодзіць яму знайсці выйсце са складанага становішча. Як быць цяпер? Ён галодны, слабы, знясілены доўгім пераходам. Вядома, Міхайлава разлічвае на яго дапамогу. Але ж яна не ведае, што і ён не памочнік.

Сказаць праўду? Ну не! Лепей прымусіць яе як-небудзь пратрымацца, а там ён збярэцца з сілаю і, можа, як-небудзь здолее...

У стромым схіле яра веснавыя воды прамылі штосьці накшталт нішы. Шорсткія карані дрэў звешваліся над галавою, то тонкія, як шпагат, то перакручаныя і жылаватыя, падобныя на пучкі ржавых тросаў. Ледзяная стрэшка засланяла нішу. Удзень святло трапляла сюды, як у шкляную аранжарэю. Тут было чыста, суха, ляжала подсцілка з яловых лапак. Квадратная скрынка рацыі, спальны мяшок, лыжы, прыстаўленыя да сцяны.

— Утульная пячорка,— зазначыў капітан. І, кіўнуўшы на яловыя лапкі, загадаў: — Сядайце і разувайцеся.

— Што? — гнеўна і здзіўлена спыталася дзяўчына.

— Разувайцеся. Я павінен ведаць, што ў вас з нагою.

— Вы не доктар. І потым...

— Ведаеце,— сказаў капітан,— дамовімся з самага пачатку, меней гаварыце.

— Ой, баліць!

— Не пішчыце,— капітан абмацваў яе ступню, абцягнутую глянцавітай сіняй скурай.

— Дык я ж не магу болей трываць.

— Пацярпіце, пацярпіце,— сказаў капітан, сцягваючы з сябе шарсцяны шалік.

— Не трэба мне вашага шаліка.

— Брудная шкарпэтка лепей?

— Яна чыстая.

— Ведаеце,— зноў паўтарыў капітан,— не дурыце мне галавы. Аборка ў вас ёсць?

— Няма.

Капітан падняў руку, адарваў кавалак тонкага кораня, перавязаў ім нагу, абкручаную шалікам, і задаволена сказаў:

— Няблага трымаецца!

Потым ён выцягнуў з пячоры лыжы і штосьці доўга майстраваў, арудуючы нажом. Вярнуўся, узяў рацыю.

— Можна ехаць.

— Вы хочаце цягнуць мяне на лыжах?

— Я гэтага, дапусцім, не хачу, але давядзецца.

— Ну што ж, у мяне няма іншага выйсця.

— Вось гэта правільна,— пагадзіўся капітан.— Дарэчы, у вас пажаваць чаго-небудзь не знойдзецца?

— Калі ласка,— яна выцягнула з кішэні кавалак сухара.

— Малавата.

— Усё, што ў мяне засталося. Я ўжо некалькі дзён...

— Зразумела,— сказаў капітан.— Некаторыя з'ядаюць спачатку сухары, а шакалад пакідаюць на чорны дзень.

— Можаце пакінуць ваш шакалад сабе.

— А я частаваць і не збіраюся.— І капітан выйшаў, згінаючыся пад цяжарам рацыі.

Пасля гадзіны хады капітан зразумеў, што справы яго дрэнь. І хоць дзяўчына, лежачы на лыжах (лепей сказаць на санях, зробленых з лыжаў, памагала яму, адпіхваючыся рукамі, ён зусім знясілеў. Ногі падкошваліся, а сэрца калацілася так, што было цяжка дыхаць.

«Калі я прызнаюся ёй, што зусім дайшоў, яна разгубіцца. Калі далей буду храбрыцца, невядома чым усё скончыцца».

Капітан зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Няблага б цяпер папіць гарачага.

Выкапаўшы ў снезе яму, ён прабіў палкай дымаход і закідаў дзірку зялёнымі лапкамі і снегам. Лапкі і снег павінны былі фільтраваць дым, каб ён стаў нябачны. Капітан наламаў сухіх галінак, паклаў іх у яму, потым вы-

цягнуў з кішэні шаўковы мяшэчак з гарматным паўзарадам і, сыпануўшы жменю буйнога пораху на галінкі, чыркнуў запалкай.

Полымя зашыпела, аблізваючы дрэва. Прыладзіўшы на агні бляшанку, капітан накідаў у яе ледзякоў. Потым выняў сухар, загарнуў яго ў насоўку і, паклаўшы на пень, пачаў біць па сухары нажом — тронкамі. Крошкі высыпаў у кіпень і стаў размешваць. Зняўшы бляшанку з агню, ён паставіў яе ў снег, каб астудзіць.

— Смачна? — спыталася ў яго дзяўчына.

— Што тая кава «Здароўе»,— адказаў капітан і падаў ёй бляшанку з карычневай жыжкай.

— Я пацярплю, не трэба,— адмовілася яна.

— Вы ў мяне яшчэ нацерпіцеся. А пакуль не дурыце мне галавы рознымі штучкамі, піце.

Пад вечар яму ўдалося забіць старога грака.

— Вы што, будзеце есці варону? — здзівілася дзяўчына.

— Гэта не варона, а грак,— кінуў капітан.

Ён падсмажыў птушку на вогнішчы.

— Хочаце? — прапанаваў ён палову дзяўчыне.

— Ні ў якім разе! — гідліва адмовілася яна.

Капітан крыху павагаўся, пасля неяк задуменна сказаў:

— Мабыць, так будзе справядліва.— І з'еў усю птушку.

Закурыўшы, ён павесялеў. Спытаўся ў яе:

— Ну, як нага?

— Мне здаецца, я магла б трохі прайсці сама,— адказала дзяўчына.

— Няўжо?

Усю ноч капітан цягнуў за сабою лыжы, а дзяўчына, відаць, драмала.

На досвітку капітан спыніўся ў яры.

Вялізная хвоя, вывернутая бурай, ляжала на зямлі. Пад магутнымі каранямі ўтварылася яміна. Капітан выграб з яміны снег, наламаў лапак і паслаў на іх плашч-палатку.

— Хочаце паспаць? — спыталася ў яго, прачнуўшыся, дзяўчына.

— Гадзінку, не болей,— адказаў капітан.— Калі не забыўся, як гэта робіцца.

Дзяўчына пачала выбірацца са свайго спальнага мяшка.

— Гэта яшчэ што? — здзіўлена прыўзняўся капітан.

Дзяўчына падышла бліжэй і сказала:

— Я лягу побач з вамі, так будзе цяплей. І накрыемся спальнікам.

— Ну, ведаеце...— абурыўся капітан.

— Пасуньцеся,— рашуча сказала дзяўчына.— Вам падабаецца, каб я ляжала на снезе? Што, нязручна?

— Падбярыце вашы валасы, бо лезуць у нос, чхаць хочацца... І наогул...

— Вам трэба паспаць — ну дык спіце. А валасы мае вам не замінаюць.

— Замінаюць,— вяла прамовіў капітан і заснуў.

Растаючы, шаргацеў снег, стукалі па каранях кроплі. Па снезе, як дым, паўзлі цені воблакаў.

Капітан спаў, прыціснуўшы кулак да вуснаў, і твар у яго быў стомлены, змучаны. Дзяўчына нахілілася і асцярожна прасунула сваю руку яму пад галаву.

З дрэва, што навісла над ямінай, падалі капітану на твар цяжкія кроплі вады. Дзяўчына выслабаніла руку і падставіла далонь, засланяючы яго твар. Калі ў далоні набіралася вада, яна асцярожна вылівала яе.

Капітан прачнуўся, сеў і пачаў церці вочы.

— У вас сівізна...— сказала дзяўчына.— Гэта пасля таго выпадку?

— Якога? — спытаўся капітан, пацягваючыся.

— Ну, калі вас расстрэльвалі.

— Не памятаю,— пазяхнуў капітан. Яму не хацелася ўспамінаць пра той выпадак.

А справа была такая. У жніўні капітан падарваў буйны нямецкі склад боепрыпасаў. Яго кантузіла выбуховай хваляй, апякло полымем. Ён ляжаў у чорнай, сатлелай вопратцы, калі нямецкія санітары падабралі яго і разам з параненымі нямецкімі салдатамі занеслі ў шпіталь. Ён праляжаў тры тыдні, прыкідваючыся глуханямым. Пасля ўрачы выявілі, што ён не страціў слыху. Гестапаўцы расстралялі Жаваранкава разам з трыма нямецкімі салдатамі-сімулянтамі. Уночы цяжка паранены капітан выбраўся з рова і поўз дваццаць кіламетраў да месца яўкі...

Каб змяніць тэму гаворкі, Жаваранкаў спытаўся:

— Нага ўсё баліць?

— Я ж сказала, што магу ісці сама,— раззлавана адказала дзяўчына.

— Добра, пакуль з гэтым пачакаем. Калі спатрэбіцца, вы ў мяне яшчэ пабегаеце.

Капітан зноў упрогся ў сані і закульгаў далей,

Сыпаў дождж уперамешку са снегам. Ногі раз'язджаліся. Капітан часта правальваўся ў калдобіны, поўныя мокрай снежнай кашы. Усё навокал было цьмянае і шэрае. Капітан тужліва разважаў, ці ўдасца ім пераправіцца цераз раку, якая паверх лёду ўжо, відаць, укрылася вадой.

На дарозе ляжаў забіты конь.

Капітан прысеў каля яго на кукішкі, выняў нож.

— Ведаеце,— сказала дзяўчына, прыўзнімаючыся,— вы ўсё так спрытна робіце, што мне нават не агідна глядзець.

— Гэта вы есці хочаце,— спакойна адказаў капітан.

Ён падсмажыў тонкія кавалачкі мяса, начапіўшы іх на стрыжань антэны, як на ражончык.

— Смачна?! — здзівілася дзяўчына.

— Дзіва што! — усміхнуўся капітан.— Смажаная каніна смачнейшая за ялавічыну.— І, падняўшыся, дадаў: — Пайду пагляджу, што наперадзе, а вы заставайцеся тут.

— Добра,— згадзілася дзяўчына.— Можа, вам гэта будзе смешна, але адной мне цяпер заставацца цяжка. Неяк прывыкла быць разам.

— Ну-ну! Без глупства,— прамармытаў капітан.

Але гэта больш тычылася яго самога, бо ён чамусьці сумеўся.

Вярнуўся Жаваранкаў уночы.

Дзяўчына сядзела на санях, трымаючы ў руцэ пісталет. Убачыўшы капітана, яна ўсміхнулася і паспрабавала ўстаць.

— Сядзіце, сядзіце,— папрасіў капітан тым самым тонам, якім гаварыў усім курсантам, калі яны ўсхопліваліся пры яго з'яўленні.

Ён закурыў і сказаў, скоса пазіраючы на дзяўчыну:

— Вунь якая штука. Немцы непадалёку адсюль аэрадром абсталявалі.

— Ну і што? — спыталася яна.

— А нічога,— адказаў капітан.— Спрытненька ўсё наладзілі.— Потым сур'ёзна пацікавіўся: — У вас перадатчык працуе?

— Хочаце звязацца? — узрадавалася дзяўчына.

— Нават вельмі хачу.

Міхайлава зняла шапку, надзела навушнікі. Праз некалькі хвілін яна спыталася, што перадаваць. Капітан прысеў побач з ёю. Стукнуўшы кулаком па далоні, пачаў гаварыць:

— Адным словам, так: карта раскісла ад вільгаці.

Квадрат размяшчэння аэрадрома вызначыць не магу. Даю каардынаты па компасе. З-за нізкай воблачнасці лінейных арыенціраў не будзе відаць. Таму пеленгам будзе служыць наша рацыя на хвалі... Якая там у вас хваля, паведаміце.

Дзяўчына зняла навушнікі і з радасным тварам павярнулася да капітана.

Але ён, скручваючы новую цыгарку, нават не падняў вачэй.

— Цяпер вось што,— сказаў глуха.— Рацыю я забіраю і іду туды.— Ён махнуў рукой і растлумачыў: — Каб быць бліжэй да мэты. А вам давядзецца дабірацца сваімі сродкамі. Як зусім сцямнее, спусціцеся да ракі. Лёд тонкі, захапіце якую жэрдку. Калі праваліцеся, яна дапаможа. Потым паўзіце да Малінаўкі, кіламетры тры, там вас сустрэнуць.

— Дзякуй за клопат,— кінула з выклікам Міхайлава.— Толькі рацыі вы не атрымаеце.

— Ну-ну, гэта яшчэ што?

— Я адказваю за рацыю і застаюся пры ёй.

— Як бясплатны дадатак,— буркнуў капітан. І, узлаваўшыся, павысіў голас: — А я вам загадваю.

— Ведаеце, капітан, любы ваш загад будзе выкананы. Але адабраць у мяне рацыю вы не маеце права.

— Ды зразумейце ж вы нарэшце!..— ускіпеў капітан.

— Я ўсё разумею,— спакойна адказала Міхайлава.— Гэта заданне тычыцца толькі адной мяне.— І, гнеўна гледзячы ў вочы капітану, дадала: — А вось вы гарачыцеся і берацеся зусім не за сваю справу.

Капітан рэзка павярнуўся. Хацеў кінуць нешта вельмі крыўднае, але перасіліў сябе і павольна, з цяжкасцю прамовіў:

— Добра, шпарце, дзейнічайце.— І, пэўна, каб хоць неяк адпомсціць за крыўду, сказаў: — Сама дадумацца не магла, дык цяпер вось...

Дзяўчына кпліва схіліла галаву:

— Я вам вельмі ўдзячная, капітан, за ідэю.

Капітан адхінуў рукаў, зірнуў на гадзіннік.

— Чаго ж вы седзіце? Час не чакае.

Міхайлава зрабіла некалькі крокаў, потым павярнулася.

— Да сустрэчы, капітан!

— Ідзіце, ідзіце,— буркнуў той і пайшоў да ракі...

Туманная імгла засцілала зямлю, у паветры патыхала сырасцю. Паміраць у такое надвор'е асабліва непрыемна.

Зрэшты, няма на свеце надвор'я, пры якім гэта было б прыемна.

Калі б Міхайлава тры месяцы назад прачытала апавяданне, у якім героі перажывалі б такія самыя прыгоды, у яе прыгожых вачах напэўна з'явіўся б летуценны выраз. Скурчыўшыся пад байкавай коўдрай, яна ўяўляла б сябе на месцы гераіні; толькі ў канцы, каб адплаціць за ўсё, яна абавязкова выратавала б гэтага ганарыстага героя. А потым ён закахаўся б у яе, а яна не звяртала б на яго ніякай увагі.

...У той вечар, калі яна паведаміла бацьку пра сваё рашэнне, яна яшчэ не ведала, што гэтая праца патрабуе ад яе нечалавечага напружання сіл, што трэба будзе навучыцца спаць у гразі, галадаць, мерзнуць, нудзіцца ў адзіноце. І каб ёй нехта грунтоўна і падрабязна расказаў, як гэта цяжка, яна спыталася б проста:

— Але ж іншыя могуць?

— А калі вас заб'юць?

— Не ўсіх жа забіваюць.

— А калі вас будуць мучыць?

Яна задумалася б і ціха сказала:

— Не ведаю, як я буду трымацца. Але **ж** усё роўна нічога не скажу.

І калі бацька дазнаўся, ён апусціў галаву і нейкім незнаёмым голасам прахрыпеў:

— А як жа мы з маці?..

— Тата,— звонка сказала яна,— тата, ну зразумей жа ты мяне!

Бацька падняў галаву, і яна спалохалася: такі змучаны і стары стаў яго твар.

— Я зразумею,— сказаў бацька.— Ну што ж, было б горш, калі б у мяне была не такая дачка.

— Татка,— крыкнула яна тады,— татка, ты такі добры, што я зараз заплачу!

Маці яны раніцай сказалі, што яна паступае на курсы вайсковых тэлефаністак.

Маці збялела, але стрымалася і толькі папрасіла:

— Будзь асцярожная, дачушка.

На курсах Міхайлава вучылася старанна, падчас праверкі ведаў хвалявалася, як у школе на экзаменах, і была папраўдзе шчаслівая, калі ў загадзе адзначылі не толькі колькасць знакаў перадачы, але і яе пісьменнасць.

Апынуўшыся адна ў лесе ў гэтыя дзікія, халодныя і чорныя дні, яна спачатку плакала і з'ела ўвесь шакалад.

Але перадачы вяла рэгулярна, і хоць ёй вельмі хацелася іншы раз дадаць нешта ад сябе, каб не было так сіратліва, яна не рабіла гэтага, эканомячы электраэнергію.

І вось цяпер, прабіраючыся да аэрадрома, яна са здзіўленнем падумала, як усё проста і нават звычайна. Яна паўзе па брудным леташнім лісці, мокрая, з абмарожанай нагой. А некалі ж, варта было ёй падхапіць грып, бацька гадзінамі сядзеў каля ложка і чытаў ёй уголас. А маці з заклапочаным тварам саграваліа ў далонях тэрмометр, бо дачка не любіла класці пад паху халодны. І калі званілі па тэлефоне, маці засмучана шаптала: «Яна захварэла». Бацька запіхаў у тэлефонны апарат паперку, каб званок не трывожыў дачку. А цяпер... Калі немцы паспеюць хутка засекчы рацыю, Міхайлаву заб'юць.

Заб'юць яе, такую добрую, прыгожую, спагадлівую і, магчыма, таленавітую. І будзе яна ляжаць у мокрым, брудным снезе. На ёй футравы камбінезон. Яны, пэўна, здзяруць яго. І яна жахалася, уяўляючы сябе голую, у гразі. На яе, голую, будуць глядзець агіднымі вачамі фашысты.

А лес гэты так падобны на гай у Краскове, дзе яны жылі на дачы. Там былі такія самыя дрэвы. І калі жыла ў піянерскім лагеры, і там былі гэткія самыя дрэвы. І гамак быў падвязаны да такіх самых хвой-блізнятак.

І калі Дзімка выразаў яе імя на кары развесістай бярозы, такой вось, як гэтая, яна зазлавалася на яго — навошта ён пакалечыў дрэва — і доўга не размаўляла з ім. А ён усё хадзіў следам і глядзеў сумнымі і таму прыгожымі вачамі. Потым, калі яны памірыліся, ён сказаў, што хоча пацалаваць яе. Яна заплюшчыла вочы і жаласна папрасіла: «Толькі не ў губы». А ён так расхваляваўся, што пацалаваў яе ў падбародак.

Яна вельмі любіла прыгожыя сукенкі. І калі аднойчы ёй даручылі зрабіць даклад, яна адзелася ў святочную сваю сукенку. Сябры спыталіся ў яе:

— Чаго ты так выфранцілася?

— А што? — гарэзліва ўсміхнулася яна.— Хачу зачараваць усіх слухачоў!

І вось яна паўзе па зямлі, брудная, мокрая, азіраецца, прыслухоўваецца, валачэ абмарожаную, распухлую нагу.

«Ну, заб'юць. Дык што! Забілі ж Дзімку і яшчэ многіх добрых людзей забілі. І мяне хай заб'юць. Што я, лепшая за іх?»

Сыпаў снег, хлюпалі лужы. А яна ўсё паўзла і паўзла. Адпачываючы, ляжала на мокрай зямлі, паклаўшы галаву на сагнутую руку.

Сыры туман стаў чорны, бо настала ноч — чорная, трывожная. А дзесьці далёка ў небе плылі вялізныя караблі. Штурман камандзірскага карабля, адкінуўшыся ў крэсле з прыплюшчанымі вачамі, услухоўваўся ў шолахі і свіст у мегафонах, але сігналаў рацыі пакуль не было.

Пілоты на сваіх сядзеннях і стралок-радыст таксама ўслухоўваліся ў свіст і віскат мегафонаў. Прапелеры свідравалі чорнае неба. Самалёты ляцелі ўсё далей у змроку начнога неба, а сігналаў не было.

І раптам ціха, асцярожна прагучалі першыя пазыўныя. Самалёты, трымаючыся за гэтую тонкую павуцінку гуку, пачалі заварочваць; натужна раўлі маторы, прабіваючыся праз хмары. Родны, як спеў цвыркуна, як звон сухога коласа на стэпавым ветры, як шолах асенняга ліста, гэты гук стаў павадыром вялізным сталёвым машынам.

Камандзір эскадрыллі, пілоты, стралкі-радысты, бортмеханікі — і Міхайлава таксама — ведалі: бомбы будуць скінуты якраз туды, на гэты родны заклік рацыі. Бо там — варожыя самалёты.

Міхайлава стаяла на каленях у яміне, у чорнай цяністай вадзе, і, нахіліўшыся над рацыяй, стукала ключом. Цяжкае неба вісела над яе галавой. Але яно было пустое і маўклівае. У мяккай ціне абмарожаная нага дранцвела, боль у скронях сціскаў галаву гарачым абручом. Міхайлаву калаціла. Яна прыклала далонь да губ — губы былі гарачыя і сухія. «Прастудзілася,— тужліва падумалася ёй.— А зрэшты, цяпер гэта няважна».

Часам ёй здавалася, што яна млее. Яна шырока расплюшчвала вочы і спалохана ўслухоўвалася. У навушніках звонка і выразна спявалі сігналы. Значыцца, рука без яе ведама націскала на рычаг ключа. «Якая дысцыплінаваная! Вось і добра, што я пайшла, а не капітан. Хіба ў яго стала б рука сама працаваць? А калі б я не пайшла, дык была б цяпер у Малінаўцы, і, можа, мне далі б кажушок... Там паліцца ў печы... і ўсё тады было б інакш. А цяпер ужо болей нікога і нічога не будзе... Дзіўна, вось я ляжу і думаю. А недзе ж Масква. Там людзі, шмат людзей. І ніхто не ведае, што я тут. Не, я ўсё-такі малайчына. А можа, я храбрая? Мне ж, бадай, і не страшна... Не, гэта таму, што мне баліць, таму і не так страш-

на... Хутчэй бы толькі! Ну што яны, папраўдзе! Няўжо не разумеюць, што я болей не магу?»

Усхліпнуўшы, яна легла на адхон яміны і, павярнуўшыся на бок, стукала далей. Цяпер ёй стала відаць вялізнае цяжкае неба. Вось яго лізнулі пражэктары, пачулася далёкае напружанае дыханне бамбавозаў. І Міхайлава, глытаючы слёзы, прашаптала:

— Любыя, слаўныя! Нарэшце вы прыляцелі па мяне. Мне так кепска тут.— І раптам спалохалася: «А што, калі замест пазыўных я перадала гэтыя словы? Што яны пра мяне падумаюць?»

Яна села і пачала стукаць павольна, выразна, паўтараючы ўголас шыфр, каб зноў не збіцца.

Гул самалётаў набліжаўся. Загрымелі зеніткі.

— Ага, не падабаецца?

Яна ўстала. Дзіўна, нічога не баліць. З усяе сілы стукала ключом, быццам не сігналы, а крык: «Біце, біце!» — высякала з яго.

Разразаючы чорнае паветра, гахнула першая бомба. Міхайлава ўпала на спіну ад паветранай хвалі. Аранжавыя водбліскі полымя адбіліся ў лужынах. Зямля ўздрыгвала ад глухіх разрываў. Рацыя звалілася ў ваду. Міхайлава паспрабавала падняць яе. Бомбы з віскатам ляцелі, здавалася, проста на дзяўчыну.

Яна ўвабрала галаву ў плечы і прысела, заплюшчыўшы вочы, аднак вогненнае святло прасочвалася праз павекі. Выбуховай хваляй у яміну кінула калкі, аблытаныя калючым дротам. У прамежку паміж бомбавымі разрывамі на аэрадроме нешта глуха лопалася і трашчала. Чорны туман смярдзеў бензінавым чадам.

Пасля настала цішыня, змоўклі зеніткі.

«Канец,— тужліва падумала яна.— Цяпер я зноў адна».

Яна паспрабавала ўстаць, але яе ногі...

Яна іх зусім не чула. Што здарылася? Потым яна ўспомніла. Гэта бывае. Ногі адымаюцца. Яе кантузіла. Вось і ўсё. Яна легла ніцма на мокрую гліну. Хай бы хоць адна бомба трапіла сюды! Як усё было б проста... І яна б не зазнала самага жахлівага.

«Не,— рашуча сказала яна сабе,— з іншымі было горш, і тым не меней не здаваліся. Нічога благога не павінна здарыцца са мной. Я не хачу гэтага».

Дзесьці буркатаў аўтамабільны матор, і белыя халодныя промні некалькі разоў слізганулі па чорным хмыз-

няку; пачуўся выбух, слабейшы за разрыў бомбы, і зусім блізка — стрэлы.

«Шукаюць. А ляжаць так добра. Няўжо і гэтага болей не будзе?»

Яна хацела павярнуцца на спіну, але боль у назе гарачаю хваляю пеканула ў сэрца. Яна крыкнула, паспрабавала ўстаць і ўпала непрытомная.

...Халодныя цвёрдыя пальцы рвалі зашпільку на каўняры.

Яна расплюшчыла вочы.

— Гэта вы? Вы па мяне прыйшлі? — спытала Міхайлава і заплакала.

Капітан выцер далонню ёй твар, і яна зноў заплюшчыла вочы. Ісці яна не магла. Капітан схапіў яе рукой за пояс камбінезона і выцягнуў наверх. Другая рука ў капітана целяпалася як нежывая.

Яна чула, як шоргалі палазы па гразі.

Потым убачыла капітана. Ён сядзеў на пяньку і, трымаючы адзін канец рэменя ў зубах, перацінаў сваю голую руку, а з-пад рэменя сачылася кроў. Узняўшы на Міхайлаву вочы, капітан спытаўся ў яе:

— Ну як?

— Ніяк.

— Усё роўна,— скрозь зубы сказаў капітан,— я болей ні на што не здатны. Сілы няма. Паспрабуйце самі дабрацца, тут зусім нямнога засталося.

— А вы?

— А я тут крыху адпачну.

Капітан хацеў падняцца, але неяк сарамліва ўсміхнуўся і раптам зваліўся з пянька на дол.

Ён быў вельмі цяжкі, і яна такі намучылася, пакуль усцягнула яго бездапаможнае цела на сані. Ён ляжаў нязручна, тварам уніз. Павярнуць яго на спіну яна ўжо не здолела.

Дзяўчына доўга тузала пастронкі, каб скрануць сані з месца. Кожны крок прыносіў нясцерпны боль. Але яна ўпарта тузала за вяроўкі і, адступаючы, цягнула сані па раскіслай, мокрай зямлі.

Яна нічога не разумела. Колькі гэта будзе яшчэ цягнуцца? Чаму яна стаіць, а не ляжыць на зямлі, знясіленая? Прыхіліўшыся спінаю да дрэва, яна стаяла з прыплюшчанымі вачамі і баялася ўпасці, бо тады ёй ужо не падняцца.

Яна бачыла, як капітан споўз на зямлю, паклаў гала-

ву і грудзі на сані. Трымаючыся здаровай рукой за сані, прашаптаў:

— Так вам будзе лягчэй.

Ён поўз на каленях за санямі, часам зрываўся, біўся тварам аб зямлю. Тады дзяўчына падсоўвала яму сані пад грудзі, і ў яе не было сілы адвярнуцца, каб не глядзець на яго пачарнелы, разбіты твар.

Потым яна ўпала, але аднекуль здалёк даходзіла да яе, як шаргаціць гразь пад палазамі. Пачуўся трэск лёду. Яна задыхалася, захлыналася, вада самкнулася над ёю. І ўвесь час ёй здавалася, што ўсё гэта адбываецца ў сне...

Расплюшчыла вочы яна таму, што адчула на сабе нечы неадрыўны позірк. Капітан сядзеў на нарах, худы, жоўты, з бруднай барадою, з рукой, падвешанай да грудзей і зацiснутай паміж двума аскепкамі дошак, і глядзеў на яе.

— Прачнуліся? — голас у яго быў нейкі незнаёмы, лагодны.

— Я не спала.

— Усё роўна,— сказаў ён,— гэта таксама як сон.

Міхайлава падняла руку і ўбачыла, што рука голая.

— Гэта я сама раздзелася? — спытала яна збянтэжана.

— Не, не сама,— сярдзіта адказаў капітан. І, перабіраючы пальцы параненай рукі, растлумачыў: — Мы ж з вамі знянацку ў рацэ пакупаліся, а потым я падумаў, што вас параніла.

— Усё роўна,— сказала яна ціха і паглядзела ў вочы капітану.

— Вядома,— згадзіўся ён.

Яна ўсміхнулася:

— А я ведала, што вы вернецеся.

— Чаму ж гэта?

— Так, ведала, і ўсё.

— Глупства,— адказаў капітан,— нічога вы не маглі ведаць. Вы былі арыенцірам у час бамбёжкі, і вас вельмі проста маглі прыстукнуць. На такі аварыйны выпадак я знайшоў стог сена, каб сігналіць далей агнём. А па-другое, вас запеленгаваў браневічок з радыёўстаноўкай. Ён там усё наваколле прачасаў, пакуль я яго гранатай не спыніў. А па-трэцяе...

— Што па-трэцяе? — звонка спыталася Міхайлава.

— А па-трэцяе,— сур'ёзна адказаў капітан,— вы доб-

рая дзяўчына.— І тут жа рэзка дадаў: — І наогул, дзе гэта вы чулі, каб нехта зрабіў іначай?

Міхайлава села, прытрымліваючы на грудзях ахапак адзення, і, гледзячы проста ў вочы капітану шчаслівым позіркам, сказала ціха, але выразна:

— А ведаеце, я, здаецца, вас кахаю.

Капітан адвярнуўся. У яго пабялелі вушы.

— Ну, гэта вы кіньце.

— Я вас не так... я вас проста так кахаю,— з нейкай гордасцю сказала Міхайлава.

Капітан падняў на яе вочы і, гледзячы неяк спадылба, сарамліва прызнаўся:

— А вось у мяне часта не хапае смеласці выказаць тое, пра што думаю, і гэта кепска.

Ён рашуча ўстаў і чамусьці сурова спытаўся ў яе:

— Верхам ездзілі?

— Не,— адказала Міхайлава.

— Паедзеце,— сказаў капітан.

— Гаўрыла, партызан,— назваўся зарослы цёмнымі валасамі каржакаваты чалавек з вясёлымі прыжмуранымі вачамі, трымаючы за аброць двух кашчавых і куртатых нямецкіх гюнтараў. Злавіўшы здзіўлены позірк Міхайлавай на сваім твары, ён растлумачыў: — Я, прабачце, цяпер на дварняка падобны. Вось прагонім немцаў з раёна — пагалюся. У нас цырульня некалі важнецкая была. Люстра — во, да столі.

Мітусліва падсаджваючы Міхайлаву ў сядло, ён збянтэжана мармытаў:

— Вы не сумнявайцеся наконт хваста. Конь натуральны. Гэта парода. А я ўжо пяшэчкам. Ганарлівы чалавек, саромеюся на бясхвостым кані ездзіць. Народ у нас смяшлівы. Вайна скончыцца, а яны ўсё дражніцца будуць.

Ружовая і ціхая раніца. Прыемна пахне цёплай драўнінай, сагрэтай зямлёй. Міхайлава, нахіляючыся з сядла да капітана, усхвалявана сказала:

— Мне цяпер так добра.— І, зазірнуўшы яму ў вочы, апусціла галаву, з усмешкай прашаптала: — Я такая шчаслівая...

— Ну, вядома,— сказаў капітан,— вы яшчэ будзеце шчаслівая...

Партызан, трымаючыся за стрэмя, ішоў побач з капі-

танавым канём; узняўшы галаву, ён раптам прызнаўся:

— Я раней курыцы не мог зарэзаць. У хоры тэнарам спяваў. Пчаляр — прафесія задумлівая... А цяпер колькі гітлераўцаў парэзаў! Я чалавек злосны, пакрыўджаны...

Сонца падымалася вышэй, асвятляючы радасна-пяшчотную рунь. Нямецкія коні прыціскалі вушы і спалохана ўздрыгвалі, кідаючыся ўбок ад высачэзных дрэў, што кладіся на зямлю галінастымі ценямі.

Калі капітан вярнуўся са шпіталя ў сваю часць, таварышы не пазналі яго. Такі ён быў нязвыкла вясёлы, усхваляваны, гаваркі. Радасна смяяўся, жартаваў, кожнаму ў яго знайшлося прыветнае слова. І ўвесь час шукаў некага вачамі. Таварышы, заўважыўшы гэта, здагадаліся і сказалі, быццам незнарок:

— А Міхайлава зноў на заданні.

На капітанавым твары на секунду з'явілася горкая зморшчынка і адразу ж знікла.

— Баявая дзяўчына, нічога не скажаш.— І, абцягнуўшы гімнасцёрку, ён пайшоў у кабінет начальніка далажыць пра сваё вяртанне.

*1942*

## Канстанцін Сіманаў

# ПЕХАЦІНЦЫ

Ішоў сёмы ці восьмы дзень наступлення. А чацвёртай гадзіне раніцы пачало світаць, і Савельеў прачнуўся. Спаў ён гэтай ноччу, захутаўшыся ў плашч-палатку, на дне адбітага ўчора позна вечарам нямецкага акопа. Імжэў дождж, але сценкі акопа засланялі ад ветру, было мокра і ўсё ж не вельмі холадна. Вечарам не ўдалося прасунуцца далей, таму што ўся лагчына наперадзе накрывалася агнём праціўніка. Рота атрымала загад акапацца і начаваць тут.

Размясціліся ўжо ў цемры, гадзін у адзінаццаць вечара, і старшы лейтэнант Савін дазволіў байцам спаць па чарзе: адзін баец спіць, а другі дзяжурыць. Савельеў, характарам чалавек цярплівы, любіў адкладваць самае прыемнае «напаследак» і таму дамовіўся са сваім таварышам Юдзіным, каб той спаў першы. Да паловы другой гадзіны ночы Савельеў дзяжурыў у акопе, а Юдзін спаў побач з ім. А палове другой ён раскатурхаў Юдзіна, той падняўся, а Савельеў, захутаўшыся ў плашч-палатку, заснуў. Ён праспаў амаль дзве з паловаю гадзіны і прачнуўся таму, што стала развідняцца.

— Світае, ці што? — спытаўся ён у Юдзіна, выглядаючы з-пад плашч-палаткі, не столькі для таго, каб праверыць, ці праўда развідняецца, колькі для таго, каб даznацца, ці не заснуў Юдзін.

— Пачынае,— у голасе Юдзіна адчуваліся дрыжыкі ад ранішняй свежасці.— А ты давай спі пакуль.

Але спаць не давялося. Па акопе прайшоў узводны, старшына Ягорычаў, і загадаў паднімацца.

Савельеў некалькі разоў пацягнуўся, усё яшчэ не вылазячы з-пад плашч-палаткі, потым адразу ўскочыў.

Прыйшоў камандзір роты старшы лейтэнант Савін, ён з раніцы абходзіў усе ўзводы. Сабраўшы іх узвод, ён растлумачыў задачу дня: трэба праследаваць праціўніка, які за ноч адступіў, напэўна, кіламетраў на два, а то і

на тры, і зноў яго дагнаць. Савін звычайна гаварыў пра немцаў «фрыцы», але калі даводзіў задачу дня, то нязменна называў іх праціўнікам.

— Праціўніка,— гаварыў ён,— трэба нагнаць у найкарацейшы час. Праз пятнаццаць мінут выступаем.

Устаўшы ў акопе, Савельеў старанна падцягнуў амуніцыю. А было на ім, калі лічыць і аўтамат, і дыск, і гранаты, і рыдлёўку, і страхавы запас у мяшку, без нечага пуд, а можа, і пуд з нечым. Нідзе і ніколі ён не важыў, але кожны дзень прыкідваў на плячах, і, у залежнасці ад зморанасці, яму здавалася то меней пуда, то болей.

Яны выступілі яшчэ да ўсходу сонца. Дождж не сціхаў. Трава на лагчыне была мокрая, і пад ёю хлюпала раскіслая зямля.

— Бач ты, якое лета нягожае! — абярнуўся Юдзін да Савельева.

— Але ж,— згадзіўся Савельеў.— Затое восень будзе харошая. Бабіна лета.

— Да таго бабінага лета яшчэ даваяваць трэба,— цяжка ўздыхнуў Юдзін, чалавек смелы ў баі, але схільны да невясёлых разважанняў.

Яны спакойна перасеклі тую самую лагчыну, якую ўчора ніяк нельга было перайсці. Цяпер над усім гэтым доўгім пляцам было зусім ціха, ніхто яго не абстрэльваў, і толькі выкапаныя мінамётным агнём маленькія ямкі, што раз за разам траплялiся на дарозе, размытыя і залітыя вадой, нагадвалі пра тое, што ўчора тут ішоў бой.

Мінут праз дваццаць дайшлі да ляска, з краю якога цягнулася лінія акопаў, пакінутых немцамі ноччу. У акопах валялася некалькі бляшанак ад процівагазаў, а там, дзе стаялі мінамёты, ляжала паўтузіна скрынак з мінамі.

— Усё-такі пакідаюць,— зазначыў Савельеў.

— То-та ж,— усміхнуўся Юдзін і дадаў: — А вось мёртвых адцягваюць. Ці, можа, мы нікога ўчора не забілі?

— Не можа быць такога,— упэўнена заявіў Савельеў.

Тут жа ён заўважыў, што акоп побач засыпаны свежаю зямлёю, а з-пад зямлі тырчыць нага ў нямецкім чаравіку з шырокімі плешкамі на падэшве, і сказаў:

— Адцягваць не адцягваюць, а вось хаваць хаваюць,— і кіўнуў на засыпаны акоп, адкуль высунулася нага.

Яны абодва адчулі нейкую палёгку. Захапіўшы нямецкія пазіцыі і панёсшы пры гэтым страты, было б гор-

ка не ўбачыць ні аднаго мёртвага ворага. І хоць яны ведалі, што ў немцаў ёсць забітыя, усё-такі хацелася гэта на свае вочы бачыць.

Праз лясок ішлі асцярожна, каб нечакана не наткнуцца на засаду. Але засады не было.

Калі выйшлі на другі ўзлесак, перад імі раскінулася адкрытае поле. Савельеў убачыў: наперадзе, з паўкіламетра, ідзе разведка. Вядома, немцы маглі яе заўважыць і прапусціць, а потым ударыць мінамі па ўсёй роце. Таму, выйшаўшы на поле, байцы паводле загаду старшага лейтэнанта Савіна разгарнуліся рэдкім ланцугом.

Рухаліся моўчкі. Савельеў чакаў, што вось-вось можа пачацца абстрэл. Кіламетраў за два наперадзе віднеліся ўзгоркі. Гэта зручная пазіцыя, і несумненна: там абавязкова сядзяць немцы.

І праўда, калі разведка адышлася яшчэ з кіламетр наперад, Савельеў спачатку ўбачыў, а потым пачуў, як там, дзе ішлі разведчыкі, выбухнула адразу некалькі мін. І тут жа па ўзгорках ударыла наша артылерыя. Савельеў ведаў, што пакуль нашым артылерыстам не ўдасца заглушыць нямецкія мінамёты або прымусіць іх перамяніць месца, яны не перастануць страляць. Напэўна, вось-вось перанясуць агонь і будуць прыстрэльвацца да ланцуга роты.

Каб да гэтага моманту прайсці як мага болей, Савельеў і ўсе астатнія байцы рушылі наперад хутчэй, амаль пабеглі. І хоць дагэтуль рэчавы мяшок адцягваў плечы, цяпер ад хвалявання, што нахлынула ў баі, Савельеў забыў пра яго цяжар.

Яны ішлі яшчэ мінуты тры-чатыры. Потым недзе воддаль за спіной у Савельева выбухнула міна, і нехта справа ад яго, крокаў за сорак, ускрыкнуў і сеў на зямлю.

Савельеў абярнуўся і ўбачыў, як Юдзін, які быў адначасова і байцом, і санітарам, спачатку спыніўся, а потым пабег да раненага.

Наступныя міны ўдарылі зусім блізка. Байцы залеглі. Калі яны зноў ускочылі, Савельеў паспеў прыкмеціць, што нікога не закранула.

Так яны некалькі разоў лажыліся, падніманіся, перабягалі і прайшлі добры кіламетр да маленькіх узгоркаў. Тут прытаіліся і разведчыкі. Яны ўсе былі жывыя. Немцы вялі пераменны, то мінамётны, то кулямётны агонь. Савельеву і яго суседзям пашанцавала: там, дзе яны залеглі, аказаліся не тое што акопы, але нешта падобнае на іх (напэўна, іх тут пачалі капаць немцы, а потым пакінулі). Са-

вельеў залёг у пачаты акоп, адшпіліў рыдлёўку, падкапаў крыху зямлі і накідаў яе перад сабою.

Наша артылерыя ўсё яшчэ моцна біла па ўзгорках. Нямецкія мінамёты адзін за адным замоўклі. Савельеў і яго суседзі ляжалі, кожную хвіліну гатовыя па камандзе рушыць далей. Да ўзгоркаў, дзе былі немцы, заставалася метраў пяцьсот па зусім адкрытым полі. Неўзабаве пасля таго, як яны залеглі, вярнуўся Юдзін.

— Каго параніла? — спытаўся Савельеў.

— Не ведаю яго прозвішча,— адказаў Юдзін.— Таго, маленькага, што ўчора з папаўненнем прыйшоў.

— Цяжка раніла?

— Ды не так каб вельмі, а са строю выбыў.

У гэты час над іх галовамі праляцелі снарады «кацюш», і адразу ўзгоркі, на якіх заселі немцы, завалакліся суцэльным дымам. Мабыць, гэтай хвіліны і чакаў папярэджаны начальствам старшы лейтэнант Савін. Як толькі прагрымеў залп, ён перадаў па ланцугу загад паднімацца.

Са шкадаваннем пакідаючы мокры акоп, Савельеў скінуў з шыі рэмень аўтамата і выскачыў за бруствер. Некалькі мінут ён, як і іншыя, бег, не чуючы ні аднаго стрэлу. Калі ж да ўзгоркаў засталося ўсяго метраў дзвесце, а то і меней, адтуль адразу ўдарылі кулямёты, спачатку адзін — злева, а потым два — з сярэдзіны. Савельеў з размаху кінуўся на зямлю і толькі тады адчуў, што ён задыхаецца ад цяжкага бегу і сэрца яго калоціцца так, быццам стукае проста па зямлі. Нехта ззаду (хто — Савельеў з гарачкі не разабраўся), не паспеўшы легчы, закрычаў не сваім голасам.

Над галавою ў Савельева прайшоў спачатку адзін, потым другі снарад. Не адрываючыся ад зямлі, правёўшы шчакою па мокрай траве, ён павярнуў галаву і ўбачыў, што ззаду, крокаў за паўтараста, стаяць нашы лёгкія пушкі і проста з адкрытага поля абстрэльваюць немцаў. Прасвістаў яшчэ адзін снарад. Нямецкі кулямёт, які біў злева, замоўк. І ў той жа момант Савельеў убачыў, як старшына Ягорычаў, які ляжаў праз чатыры чалавекі злева ад яго, не паднімаючыся, узмахнуў рукою, паказаў ёю наперад і папоўз па-пластунску. Савельеў рушыў услед за ім. Паўзці было цяжка, месца было нізкае і мокрае. Калі ён, падцягваючыся наперад, хапаўся за траву, яна рэзала пальцы.

Пакуль ён поўз, пушкі прадаўжалі пасылаць снарады цераз яго галаву. І хоць наперадзе нямецкія кулямёты

таксама не змаўкалі, ад гэтых сваіх пушачных выстралаў яму здавалася, што паўзці лягчэй.

Цяпер да немцаў было рукой падаць. Кулямётныя чэргі варушылі траву то ззаду, то збоку. Савельеў прапоўз яшчэ крокаў дзесяць і, мабыць, таксама, як і іншыя, адчуў, што вось зараз ці хвілінай пазней трэба будзе падняцца і на ўвесь рост прабегчы астатнія метраў сто.

Пушкі, што білі ззаду, выстралілі яшчэ некалькі разоў паасобку, потым ударылі залпам. Наперадзе ўзнялася з бруствераў акопаў зямля, і ў тую ж секунду Савельеў пачуў свісток камандзіра роты. Скінуўшы з плеч рэчавы мяшок (ён падумаў, што прыйдзе па яго потым, калі яны возьмуць акопы), Савельеў усхапіўся і на бягу даў чаргу з аўтамата. Ён спатыкнуўся ў непрыкметную ямку, грымнуўся вобземлю, ускочыў і зноў пабег. У гэтыя хвіліны ў яго было толькі адно жаданне: хутчэй дабегчы да нямецкага акопа і кінуцца ў яго. Ён не думаў пра тое, чым яго сустрэне немец, але ведаў, што калі саскочыць у акоп, то самае страшнае будзе пройдзена, няхай там сядзела б колькі хочаш немцаў. А пакуль што самае страшэннае — вось гэтыя апошнія метры, на якіх трэба грудзьмі пракласці сабе дарогу і ўжо нечым прыкрыцца.

Калі Савельеў спатыкнуўся, упаў і зноў падняўся, таварышы злева і справа абагналі яго, і таму, ускочыўшы на бруствер і нырнуўшы ўніз, ён убачыў там забітага немца, які ляжаў ніцма, а наперадзе ў сябе — мокрую ад дажджу гімнасцёрку байца, які бег далей па траншэі. Ён кінуўся ўслед за байцом, але потым звярнуў у акоп налева і з ходу наткнуўся на немца, які выскачыў насустрач яму. Яны сутыкнуліся ў вузкім акопе, і Савельеў, трымаючы перад сабою аўтамат, не выстраліў, а ткнуў немца ў грудзі аўтаматам, і той упаў. Савельеў страціў раўнавагу і таксама ўпаў на калена. Ён ледзь падняўся, апіраючыся рукою аб слізкую, мокрую сценку акопа. Неўзабаве з таго боку, адкуль выскачыў немец, выбег старшына Ягорычаў, які, відаць, гнаўся за гэтым немцам. Твар у Ягорычава быў бледны, вочы гарэлі злосцю.

— Забіты? — спытаўся ён у Савельева і кіўнуў на ляжачага.

Але немец, усё роўна як абвяргаючы словы Ягорычава, нешта прамармытаў і стаў паднімацца з дна акопа. Гэта яму ніяк не ўдавалася, таму што акоп быў слізкі, а рукамі немец не мог аперціся, бо падняў іх угору.

— Уставай! Уставай, ты! Хэндэ ніхт! — Савельеў паказваў немцу, што той можа апусціць рукі.

Але немец апускаць рукі баяўся і ўсё спрабаваў устаць. Тады Ягорычаў падняў яго за каўнер адной рукою і паставіў у акопе паміж сабою і Савельевым.

— Завядзі яго да старшага лейтэнанта,— загадаў Ягорычаў,— а я пайду,— і знік за паваротам акопа.

Ледзь размінуўшыся з немцам у акопе і падштурхоўваючы яго, Савельеў павёў палоннага. Яны прайшлі акоп, дзе ляжаў, раскінуўшыся, той мёртвы немец, якога, ускочыўшы ў акоп, убачыў Савельеў, потым павярнулі ў ход зносін, і вачам Савельева адкрыўся малюнак ад залпаў «кацюш».

Усё і ў самім ходзе зносін, і па краях яго было спалена і засыпана шэрым попелам; воддаль адзін ад аднаго раскіданы па траншэі і наверсе трупы немцаў. Адзін ляжаў, звесіўшы ў траншэю галаву і рукі.

«Мабыць, хацеў саскочыць, ды не паспеў»,— падумаў Савельеў.

Штаб роты Савельеў знайшоў каля паўразбуранай нямецкай зямлянкі, выкапанай тут жа побач з акопамі. Як і ўсё тут, яна была зроблена наспех: відаць, немцы выкапалі яе толькі ўчора. Ва ўсякім разе, гэта нічым не нагадвала ранейшыя трывалыя нямецкія бліндажы і акуратныя акопы, якія Савельеў бачыў у першы дзень наступлення, калі была прарвана галоўная лінія нямецкай абароны. «Не паспяваюць»,— з задавальненнем падумаў ён. І, павярнуўшыся да камандзіра роты, далажыў:

— Таварыш старшы лейтэнант, старшына Ягорычаў загадаў палоннага даставіць.

— Добра, перадайце яго вартавому,— сказаў Савін.

У праходзе зямлянкі стаялі яшчэ трое палонных немцаў, якіх вартаваў незнаёмы Савельеву аўтаматчык.

— Вось табе яшчэ аднаго фрыца, браток,— казырнуў яму Савельеў.

— Сяржант! — аклікнуў у гэтую хвіліну старшы лейтэнант аўтаматчыка.— Калі ўсе збяруцца да вас, вазьміце з сабой яшчэ аднаго лёгкараненага і завядзіце палонных у батальён.

Тут Савельеў убачыў, што ў аўтаматчыка перавязана левая рука і аўтамат ён трымае адной правай рукою.

Савельеў пайшоў назад па акопах і праз мінуту адшу-

каў Ягорычава і яшчэ некалькіх сваіх. У адбітых акопах ужо ўсё прыводзілася ў парадак, байцы наладжвалі сабе месцы для зручнай стральбы.

— А дзе Юдзін, таварыш старшына? — занепакоіўся Савельеў, не сустрэўшы тут сябра.

— Ён назад пайшоў, там раненых перавязвае.

І, можа, дзесяты раз за гэтыя дні Савельеў падумаў, якая цяжкая служба ў Юдзіна: ён робіць тое ж, што і ўсе, ды яшчэ ходзіць выцягваць раненых і перавязвае іх. «Можа, ён ад стомы такі бурклівы».

Ягорычаў вызначыў Савельеву месца, і ён, выцягнуўшы рыдлёўку, стаў расшыраць сабе акоп, каб усё прыстасаваць як найзручней на ўсякі выпадак.

— Іх тут не вельмі многа і было,— сказаў Ягорычаў, заняты побач устаноўкай кулямёта.— А як іх «кацюшы» накрылі, бачыў?

— Бачыў.

— Як «кацюшы» накрылі, дык іх зусім мала засталося. Проста такі цудоўна-дзіўна накрыла іх! — паўтарыў Ягорычаў.

Савельеў ужо заўважыў, што ў Ягорычава была прывычка гаварыць «цудоўна-дзіўна» скорагаворкай, у адно слова, але гаварыў ён гэта зрэдку, калі што-небудзь асабліва захапляла яго.

Накідаючы рыдлёўкай земляны бруствер, Савельеў увесь час думаў, як добра было б закурыць. Юдзін усё яшчэ не вяртаўся, а закурваць аднаму было сорамна. Аднак ледзь паспеў ён зрабіць сабе «казырок», як вярнуўся Юдзін.

— Закурым, Юдзін? — абрадаваўся Савельеў.

— А высахла?

— Павінна высахнуць,— весела абазваўся Савельеў і стаў адкручваць накрыўку ў трафейнай маслёнцы, якую ён напярэдадні знайшоў у акопе і прыстасаваў пад махорку.

— Таварыш старшына, закурыць жадаеце? — папытаўся ён у Ягорычава.

— А што, махорка ёсць?

— Ёсць, толькі сыраватая.

— Давай,— згадзіўся Ягорычаў.

Савельеў асцярожна браў тытунёвую сечку і па адным маленькім каліўцы сыпнуў Ягорычаву і Юдзіну, якія ўжо трымалі паперкі. Потым узяў такое ж каліўца сабе. Раздаўся пранізлівы свіст снарада і выбух каля са-

мага акопа. Над іх галовамі ўзнялася зямля, і яны ўсе трое прыселі на кукішкі.

— Проста такі цудоўна-дзіўна! — усміхнуўся Ягорычаў.— Махорку не рассыпалі?

— Не, не рассыпалі, таварыш старшына! — адклікнуўся Юдзін.

Прысеўшы ў акопе, яны сталі скручваць папяросы, а Савельеў засмучана паглядаў на свае рукі: увесь тытунь, што быў у яго на паперцы, рассыпаўся далоў. Ён глянуў уніз: там стаяла вада, і махорка зусім прапала. Тады ён адкрыў маслёнку і з жалем сыпнуў сабе яшчэ каліва; ён думаў, што засталося на дзве цыгаркі, а цяпер выходзіла, што будзе ўсяго на адну.

Толькі яны паспелі закурыць, як зноў пачалі рвацца снарады. Часам камякі зямлі падалі проста на дно акопа ў ваду.

— Мусіць, загадзя прыстраляліся,— сказаў Ягорычаў.— Разлічвалі, што не ўтрымаюцца тут.

Новы снарад выбухнуў у самым акопе, блізка, але за паваротам. Нікога не закранула. Савельеў, нахіліўшыся над брустверам акопа, паглядзеў у нямецкі бок: там не было відаць ніякага руху.

Ягорычаў выняў з кішэні гадзіннік, паглядзеў на яго і моўчкі схаваў назад.

— Колькі гадзін, таварыш старшына? — пацікавіўся Савельеў.

— Ану, колькі? — у сваю чаргу спытаўся Ягорычаў.

Савельеў глянуў на неба, але па небе цяжка было што-небудзь вызначыць: яно было скрозь шэрае, і па-ранейшаму імжэў дождж.

— Ды гадзін дзесяць раніцы будзе.

— А па-твойму, Юдзін? — усміхнуўся Ягорычаў.

— Ды, відаць, поўдзень ужо.

— Чатыры гадзіны,— у голасе Ягорычава адчувалася зморанасць.

І хоць у такія дні, як гэты, Савельеў і раней памыляўся, вызначаючы час, і вечар прыходзіў заўсёды нечакана, тым не менш ён лішні раз здзівіўся, як хутка ляціць час.

— Няўжо чатыры гадзіны? — перапытаў ён.

— Вось табе і «няўжо». Нават з мінутамі,— удакладніў Ягорычаў.

Нямецкая артылерыя біла яшчэ даволі доўга, але безвынікова. Потым зноў у самым акопе, але цяпер воддаль,

разарваўся снарад, і адтуль адразу ж паклікалі Юдзіна. Хвілін дзесяць было ціха. Раптам зноў прасвістаў снарад, і там, куды пайшоў Юдзін, раздаўся выбух. Потым зноў заціхла, немцы больш не стралялі.

Праз некалькі мінут да Савельева падышоў Юдзін. Твар яго быў вельмі бледны, ні крывінкі.

— Ты што, Юдзін? — занепакоіўся Савельеў.

— Нічога,— спакойна сказаў Юдзін.— Раніла мяне.

Савельеў убачыў, што рукаў у гімнасцёрцы ў Юдзіна разрэзаны на ўсю даўжыню, рука засунута за пояс і прыбінтована да цела. Савельеў ведаў, што так робяць пры сур'ёзным раненні.

«Мабыць, перабітая»,— падумаў Савельеў.

— Як здарылася?

— Там Вараб'ёва раніла,— патлумачыў Юдзін.— Я перавязваў яго, і якраз ударыла. Вараб'ёва забіла, а мяне... вось бачыш.

Ён прысеў у акопе, перш чым пайсці.

— Закуры на дарожку,— прапанаваў Савельеў.

Ён зноў дастаў сваю трафейную маслёнку і спачатку хацеў раздзяліць каліва, якое там заставалася, на два каліўцы, але засаромеўся сваёй думкі, скруціў з усяго тытуню вялікую папяросу і падаў Юдзіну. Той левай, здаровай рукою ўзяў папяросу і папрасіў прыкурыць.

Немцы якраз не стралялі. Стаяла цішыня.

— Ну, пакуль не страляюць, я пайду, браток.— Юдзін падняўся.

Заціснуўшы цыгарку зубамі, ён падаў Савельеву здаровую руку.

— Ты гэта...— сказаў Савельеў і змоўк, падумаўшы: а раптам у Юдзіна аднімуць руку.

— Што «гэта»?

— Ты папраўляйся і назад прыходзь.

— Ды не,— уздыхнуў Юдзін.— Як папраўлюся, дык усё роўна ў іншую часць пападу. У цябе адрас мой ёсць. Калі пасля вайны будзеш цераз Паныры праязджаць, злезь і зайдзі. А так — бывай. На вайне наўрад ці ўбачымся.

Ён паціснуў руку Савельеву. Той не знайшоў, што сказаць яму, і Юдзін, няўмела памагаючы сабе адной рукою, вылез з акопа і, крыху горбячыся, паціху пайшоў па полі назад.

«Прывык, мабыць, я да яго»,— гледзячы ўслед, паду-

маў Савельеў, не разумеючы яшчэ таго, што ён не прывык да Юдзіна, а палюбіў яго.

Каб не надта сумна цягнуўся час, Савельеў рашыў пажаваць сухар. Але толькі цяпер ён успомніў, што свой рэчавы мяшок кінуў, не дайшоўшы да акопаў. Ён папрасіў дазволу ў Ягорычава, вылез з акопа і пайшоў туды, дзе, на яго думку, ляжаў мяшок. Наперадзе віднелася фігура Юдзіна, але Савельеў не аклікнуў яго. Што ён мог яшчэ сказаць яму?

Мінут праз пяць ён знайшоў свой мяшок і пайшоў назад.

Нечакана ён убачыў тое, што назіральнік, які сядзеў у акопе ніжэй за яго, убачыў на некалькі секунд пазней. Наперадзе, лявей ляска, раскінутага на гарызонце, ішлі нямецкія танкі, штук дзесяць ці дванаццаць. Убачыўшы танкі, хоць яны яшчэ не стралялі, Савельеў захацеў хутчэй дабегчы да акопа і скочыць уніз. Не паспеў ён гэта зрабіць, як танкі адкрылі агонь,— не па ім, канешне, але Савельеву здавалася, што менавіта па ім. Задыханы, ён скочыў у акоп, дзе Ягорычаў ужо загадваў рыхтаваць гранаты.

Баец Андрэеў, цыбаты бранябойшчык з іх узвода, прыладжваў зручней у акопе сваё даўгастволае процітанкавае ружжо — «дзегцяроўку». Савельеў адшпіліў ад пояса і паклаў перад сабою на бруствер процітанкавую гранату; яна была ў яго толькі адна, другую ён дзён пяць назад, пагарачыўшыся, кінуў на нямецкі танк, калі той быў яшчэ метраў за сто ад яго. І, канешне, граната рабвалася зусім папусту, не прычыніўшы танку ніякай шкоды. Тады, заўважыўшы промах Савельева, Ягорычаў насварыўся на яго, ды Савельеву і самому было няёмка, бо выходзіла, быццам ён здрэйфіў, а сам сябе ён ведаў, што на самай справе не здрэйфіў, а толькі пагарачыўся. І цяпер, адшпільваючы ад пояса гранату, ён рашыў, што, калі танк пойдзе ў яго бок, ён кіне гранату толькі тады, калі танк будзе зусім блізка.

Але танкі ішлі кудысьці лявей і далей. Толькі дзве сталёвыя пачвары, самыя крайнія, аддзяліліся і, здавалася, ішлі якраз на іх.

— Галоўнае — сядзі і чакай,— сказаў, праходзячы міма, старшы лейтэнант Савін, які абходзіў акопы і ўсім так гаварыў.— Сядзі і чакай і кідай услед яму, калі ён пройдзе. Будзеш сядзець спакойна, нічым ён цябе не возьме.

Камандзір пайшоў далей, і Савельеў чуў, як ён тымі самымі словамі вучыў другога байца.

Нямецкія танкі стралялі няспынна на хаду. То над галавою, то злева свісталі іх снарады. Савельеў крыху прыпадняўся над акопам. Адзін танк ішоў злева, другі — проста на яго. Савельеў зноў нырнуў у акоп. І хоць танк, што ішоў злева, быў большы — гэта быў «тыгр» — а той, які ішоў на Савельева,— звычайны сярэдні танк, але таму, што ён быў бліжэй, Савельеву здалося, што гэты танк самы вялікі. Савельеў узяў з бруствера гранату і прыкінуў яе на руцэ. Граната была цяжкая, і ад гэтага яму стала неяк спакайней.

У гэты момант збоку стаў страляць бранябойшчык Андрэеў.

Калі Савельеў выглянуў яшчэ раз, танк быў ужо за дваццаць крокаў. Ледзь паспеў ён схавацца на дне акопа, як танк прагрукатаў над самай яго галавой, на яго павеяла зверху чужым цяжкім смуродам, гарам і дымам, і пасыпалася з краёў акопа зямля. Савельеў прыціснуў да сябе гранату, быццам баяўся, што яе адбяруць.

Танк пераваліў цераз акоп. Савельеў ускочыў, падцягнуўся на руках, лёг жыватом на край акопа, потым выскачыў зусім і кінуў гранату ўслед танку, цэлячыся пад гусеніцу. Ён кінуў гранату з усёй сілы і, не ўтрымаўшыся, упаў наперад на зямлю. А потым, зажмурыўшыся, павярнуўся і скочыў у акоп. Лежачы ў акопе, ён усё яшчэ чуў гул танка і падумаў, што, напэўна, прамахнуўся. Тады яго ахапіла цікаўнасць; хоць было боязна, ён прыпадняўся і выглянуў з акопа. Танк, грукочучы, паварочваўся на адной гусеніцы, а другая, як распластаная жалезная дарожка, цягнулася за ім. Савельеў зразумеў, што пацэліў.

У гэты міг над яго галавою прасвісталі адзін за адным два снарады. Ледзь толькі Савельеў зноў схаваўся ў акопе, як раздаўся аглушальны выбух.

— Глядзі, гарыць! — крыкнуў Андрэеў, падняўшыся ў акопе і паварочваючы сваю бранябойку ў той бок, дзе дыміўся падбіты танк.— Гарыць! — крыкнуў ён яшчэ раз.

Савельеў, прыўзняўшыся над акопам, убачыў, што танк успыхнуў і ўвесь загарэўся.

Другія танкі былі далёка злева; адзін гарэў, астатнія ішлі, але ў гэтую хвіліну Савельеў не мог бы сказаць, ці наперад яны ідуць, ці назад. Калі ён кінуў гранату і калі ўзарваўся танк, усё ў галаве ў яго зблыталася.

— Ты яму гусеніцу падбіў,— сказаў чамусьці шэптам Андрэеў.— Ён спыніўся, а яна як умажа яму!

Савельеў зразумеў, што Андрэеў гаворыць пра суседнюю процітанкавую пушку.

Астатнія танкі пайшлі некуды ўлева і зніклі з вачэй. Па акопах сталі моцна біць нямецкія мінамёты.

Так прадаўжалася гадзіны паўтары і ўрэшце сціхла. У акоп прыйшоў старшы лейтэнант Савін разам з капітанам Мацвеевым, камандзірам батальёна.

— Гэта ён падбіў фашысцкі танк,— сказаў камандзір роты, спыніўшыся каля Савельева.

Савельеў здзівіўся: ён нікому яшчэ не гаварыў, што падбіў танк, а старшы лейтэнант ужо ведаў пра гэта.

— Ну што ж, падамо да ўзнагароды,— сказаў Мацвееў.— Маладзец! — І паціснуў руку Савельеву.— Як жа вы яго падбілі?

— Ён як прайшоў нада мною, я выскачыў і кінуў яму гранату пад гусеніцу.

— Маладзец! — паўтарыў Мацвееў.

— Яму яшчэ медаль за мінулае павінна быць,— напомніў старшы лейтэнант.

— А я прынёс. Чатыры медалі ў вашу роту прынёс. Загадайце, каб байцы прыйшлі і камандзір узвода.

Старшы лейтэнант пайшоў, а капітан, прысеўшы ў акопе побач з Савельевым, пакапаўся ў кішэні ў сваёй гімнасцёрцы, выняў некалькі пасведчанняў з пячаткамі і ўзяў адно. Потым ён выняў з другой кішэні скрыначку і з яе медаль. Да іх падышлі старшы лейтэнант і старшына.

Савельеў падняўся і замёр, як у страі, па камандзе «смірна».

— Чырвонаармеец Савельеў,— сказаў капітан Мацвееў,— ад імя Вярхоўнага Савета і камандавання як узнагароду за вашу баявую доблесць уручаю вам медаль «За адвагу».

— Служу Савецкаму Саюзу! — адказаў Савельеў.

Ён узяў медаль і ледзь не ўпусціў: рукі ад хвалявання дрыжалі.

— Ну, вось,— сказаў капітан, ці то не ведаў, што яшчэ сказаць, ці то лічыў, што гаварыць болей няма патрэбы.— Віншую і дзякую вам. Ваюйце! — І пайшоў далей акопам у суседні ўзвод.

— Слухай, старшына,— папрасіў Савельеў, калі ўсе астатнія пайшлі.— Прышпілі.

Ягорычаў не спяшаючыся прымацаваў медаль да мок-

рай, потнай, запырсканай граззю гімнасцёркі Савельева.

— Шкада, закурыць няма чаго з такой нагоды! — сказаў Ягорычаў.

— Нічога, і так абыдзецца.

Ягорычаў палез у кішэню, выцягнуў бляшаны партсігар, адчыніў яго, і Савельеў убачыў на дне партсігара крыху махоркі.

— Для такога выпадку не пашкадую. На крайні выпадак хаваў.

Яны скруцілі па цыгарцы і закурылі.

— Што ж гэта, заціхла? — здзівіўся Савельеў.

— Заціхла. А ты давай сухароў пажуй. Трэба, каб усе паелі. Я загад аддам. А то, можа быць, якраз і пойдзем.— І старшына пайшоў да астатніх байцоў узвода.

Дзесьці наперадзе, злева, яшчэ моцна стралялі, а тут было ціха — ці то немцы што-небудзь рыхтавалі, ці то адышлі.

Савельеў пасядзеў з хвіліну, потым, успомніўшы словы старшыны, што, можа быць, і праўда яны хутка рушаць, выцягнуў з мяшка сухар і, хоць яму не хацелася есці, стаў яго грызці.

А на самай справе адбывалася тое, чаго не ведалі ні Савельеў, ні Ягорычаў.

Немцы не стралялі таму, што на левым фланзе іх моцна пацяснілі і яны адышлі кіламетраў на тры, за невялікую забалочаную рэчку. У той момант, калі Савельеў сядзеў у цішы і грыз сухар, у палку ўжо аддалі загад батальёну рухацца наперад і выйсці да самай ракі, каб ноччу фарсіраваць яе.

Прайшло пятнаццаць мінут, і старшы лейтэнант Савін падняў роту. Савельеў таксама, як і іншыя, сабраў зноў рэчавы мяшок, закінуў яго за плечы, выйшаў з акопа і пайшоў. Да ляска дайшлі ўдачна. Пачынала ўжо цямнець. Як перасеклі дзялянку і выходзілі на яе ўзлесак, Савельеў убачыў спачатку згарэлы нямецкі танк, а крокаў за сто ад яго — наш, таксама згарэлы. Яны зусім блізка прайшлі міма гэтага танка, і Савельеў прачытаў лічбу «120». «Сто дваццаць, сто дваццаць»,— падумаў ён. Гэтую лічбу, здавалася, ён нядаўна бачыў перад сабою. І тут ён успомніў, як пазаўчора, калі яны, змораныя, пяты раз падняліся і пайшлі наперад, ім папаліся танкі, што стаялі ва ўкрыццях, і на адным з танкаў была лічба «120». Юдзін, востры на язык, на хаду сказаў танкістам, якія высунуліся з люка:

— Што ж, пайшлі ў атаку разам?

Адзін з танкістаў пакруціў галавою і сказаў:

— Нам цяпер няма калі!

— Добра, добра,— раззлаваўся Юдзін.— Вось як у горад будзем уваходзіць, дык вы туды і ўязджайце, як гордыя танкісты, і няхай вам дзяўчаты кветкі даруюць...

Ён яшчэ вылаяўся тады і пайшоў далей. Савельеву таксама здалося ў тую мінуту крыўдным, што вось яны ідуць наперад, а танкісты чагосьці чакаюць...

Праходзячы міма згарэлага танка, ён тужліва ўспомніў тую гаворку і падумаў, што вось яны жывыя, а танкісты, што сядзелі ў брані, пэўна, загінулі ў баі. А Юдзін, мусіць, ідзе або ўжо дайшоў у медсанбат з перабітаю рукою, перавязанай поясам.

«Такая справа — вайна,— падумаў Савельеў,— нельга на ёй людзей крыўдным словам чапаць. Сёння пакрыўдзіш, а заўтра прабачэння прасіць позна».

У цемнаце яны выйшлі на нізкую лагчыну, якая пераходзіла ў балота. Рака была зусім блізка.

Як сказаў старшы лейтэнант Савін, трэба было да 24.00 сканцэнтравацца і потым фарсіраваць раку. Савельеў разам з іншымі ўжо ішоў па самым балоце, асцярожна, каб не зашумець, ступаючы ў дрыгву, якая глыбока прагіналася пад нагамі. Ён трохі не дайшоў да берага, як раптам над яго галавою правыла першая міна і ўпала ў гразь недзе далёка за ім. Потым завыла другая і ўпала бліжэй. Яны залеглі, і Савельеў стаў таропка капаць мокрую зямлю. А міны ўсё шлёпаліся і шлёпаліся ў балота то злева, то справа.

Ноч была цёмная. Савельеў ляжаў моўчкі, яму хацелася чаго б ні каштавала хутчэй пераправіцца цераз раку.

Пад свіст мін і хлюпанне вады яму прыходзілі на памяць усе падзеі сённяшняга дня. Ён успамінаў то Юдзіна, які, можа, усё яшчэ ідзе па дарозе, то згарэлы танк, экіпаж якога яны неяк пакрыўдзілі, то распластаную, як вужака, гусеніцу падбітага ім нямецкага танка, то, нарэшце, узводнага Ягорычава і апошнюю тытунёвую пацяруху на дне яго партсігара. Яшчэ раз закурыць сёння не выпадала.

Было холадна, няўтульна, і вельмі хацелася курыць. Калі б Савельеў надумаўся лічыць, колькі дзён ён ваюе, то ён лёгка падлічыў бы, што якраз сёння канчаўся яго васьмісоты дзень вайны.

*1943*

## Аляксей Талстой

# РУСКІ ХАРАКТАР

Рускі характар! — для невялікага апавядання назва надта шматзначная. Што зробіш — мне якраз і хочацца пагаварыць з вамі пра рускі характар.

Рускі характар! Паспрабуй апішы яго. Расказваць пра геранчныя подзвігі? Але іх столькі, што разгубішся,— каторы выбраць. Выручыў мяне адзін мой прыяцель невялікай гісторыяй з асабістага жыцця. Як ён біў немцаў — я расказваць не буду, хоць ён і носіць Залатую Зорку і палова грудзей у ордэнах. Чалавек ён просты, ціхі, звычайны — калгаснік з прыволжскага сяла Саратаўскай вобласці. Сярод іншых прыкметны атлетычнай і прапарцыянальнай постаццю і прыгажосцю. Бывала, залюбуешся, калі ён вылазіць з вежы танка,— бог вайны! Саскоквае з брані на зямлю, сцягвае шлем з мокрых валасоў, выцірае старызнай брудны твар і абавязкова ўсміхнецца ад душэўнай дабраты.

На вайне, пастаянна ходзячы каля смерці, людзі робяцца лепшыя, розная дурата з іх злазіць, як апаленая скура пасля сонечнага апёку, і застаецца ў чалавеку — ядро. Вядома — у аднаго яно мацнейшае, у другога слабейшае, але і тыя, у каго ядро са слабінкай, стараюцца, кожнаму хочацца быць добрым і верным таварышам. Але прыяцель мой, Ягор Дромаў, і да вайны быў строгіх паводзін, вельмі паважаў і любіў маці, Марыю Палікарпаўну, і бацьку свайго, Ягора Ягоравіча. «Бацька мой — чалавек сталы, перш за ўсё — ён сябе паважае. Ты, кажа, сынок, шмат пабачыш на свеце, і за мяжой пабываеш, але рускім званнем — ганарыся...»

У яго была нявеста са свайго сяла на Волзе. Пра нявест і пра жонак у нас гавораць шмат, асабліва калі на фронце зацішша, сцюжа, у зямлянцы курыць агеньчык, трашчыць печка і людзі павячэралі. Тут наплятуць такога — вушы развесіш. Напрыклад, пачнуць: «Што такое каханне?» Адзін скажа: «Каханне ўзнікае на базе павагі...» Другі:

«Зусім не тое, каханне — гэта звычка, чалавек кахае не толькі жонку, а бацьку з маткай і нават жывёлу...» — «Цьфу, бесталач! — скажа трэці.— Каханне — гэта, калі ў табе ўсё кіпіць, чалавек ходзіць як п'яны...» І філасофствуюць так і гадзіну, і другую, пакуль старшына, умяшаўшыся, голасам загаду не вызначыць самую сутнасць... Ягор Дромаў, відаць, саромеўся гэтых гаворак, толькі між іншым успомніў пра нявесту — надта, маўляў, добрая дзяўчына, і ўжо калі сказала, што будзе чакаць,— дачакаецца, хоць круціся ён на адной назе.

Пра ваенныя подзвігі ён таксама не любіў прастарэкаваць: «Пра такія справы ўспамінаць неахвота!» Нахмурыцца і закурыць. Пра баявыя справы яго танка мы даведваліся са слоў экіпажа, асабліва здзіўляў слухачоў вадзіцель Чувілёў.

«...Разумееш, толькі мы развярнуліся, гляджу, з-за горкі вылазіць... Крычу: «Таварыш лейтэнант, тыгра!» — «Наперад,— крычыць,— поўны газ!..» Я і давай па ельнічку маскіравацца — управа, улева... Тыгра ствалом водзіць, як сляпы, ударыў — міма... А таварыш лейтэнант як дасць яму ў бок — пырскі! Як дасць яшчэ ў вежу,— ён і хобат задраў... Як дасць трэці раз,— у тыгра з усіх шчылін паваліў дым,— полымя як рванецца з яго на сто метраў угору... Экіпаж і палез праз запасны люк... Ванька Лапшын з кулямёта павёў,— яны і ляжаць, нагамі дрыгаюць... Нам, разумееш, дарога расчышчана. Праз пяць хвілін уляцаем у вёску. Ну тут я проста жывот падарваў... Фашысты хто куды... А — гразь, разумееш,— іншы вылузнецца з ботаў і ў адных шкарпэтках— скок. Усе бягуць да хлява. Таварыш лейтэнант дае мне каманду: «Ану — ціскані па хляве». Гармату мы адвярнулі, на поўным газе я на хлеў і наехаў... Бацюхны! Па бране бэлькі загрукалі, дошкі, цэгла, фашысты, што сядзелі пад дахам... А я і яшчэ прайшоўся,— астатнія рукі ўгору — і Гітлер капут...»

Так ваяваў лейтэнант Ягор Дромаў, пакуль не здарылася з ім няшчасце. У час Курскага пабоішча, калі немцы ўжо сплывалі крывёй і зламаліся, яго танк — на пагорку на пшанічным полі — быў падбіты снарадам, дваіх з экіпажа адразу забіла, ад другога снарада танк загарэўся. Вадзіцель Чувілёў, ён выскачыў праз пярэдні люк, залез на браню і паспеў выцягнуць лейтэнанта — ён быў непрытомны, камбінезон на ім гарэў. Толькі Чувілёў адцягнуў лейтэнанта, танк узарваўся з такой сілай, што вежу адкінула метраў на пяцьдзесят. Чувілёў кідаў прыгаршчамі

мяккую зямлю лейтэнанту на твар, на галаву, на адзенне, каб збіць агонь. Потым папоўз з ім ад варонкі да варонкі на перавязачны пункт... «Я чаму яго тады павалок?— расказваў Чувілёў.— Чую, у яго сэрца стукае...»

Ягор Дромаў выжыў і нават зроку не страціў, хоць твар яго быў абпалены так, што мясцінамі косці былі відны. Восем месяцаў ён праляжаў у шпіталі, яму рабілі адну за адной пластычныя аперацыі, аднавілі і нос, і губы, і павекі, і вушы. Праз восем месяцаў, калі быў зняты бінт, ён зірнуў на свой і не свой цяпер твар. Медсястра, якая дала яму маленькае люстэрка, адвярнулася і заплакала. Ён адразу аддаў ёй люстэрка.

— Бывае горш,— сказаў ён,— з гэтым жыць можна.

Але болей ён люстэрка ў медсястры не прасіў, толькі часта абмацваў твар, быццам прывыкаў да яго. Камісія прызнала яго годным да нестраявой службы. Тады ён пайшоў да генерала і сказаў: «Прашу вашага дазволу вярнуцца ў полк».— «Але ж вы інвалід»,— сказаў генерал. «Я ўрод, але гэта справе не перашкодзіць, баяздольнасць аднаўлю поўнасцю». (Тое, што генерал у час гаворкі стараўся не глядзець на яго, Ягор Дромаў заўважыў і толькі ўсміхнуўся ліловымі, роўнымі, як шчыліна, губамі.) Ён атрымаў дваццацідзённы водпуск для поўнага аднаўлення здароўя і паехаў дамоў да бацькі і маці. Гэта было якраз у сакавіку гэтага года.

На станцыі ён думаў узяць падводу, але давялося ісці пеша васемнаццаць вёрст. Кругом яшчэ ляжаў снег, было сыра, пуста, сцюдзёны вецер раздзімаў крысы яго шыняля, тужлівым сумам свістаў у вушах. У сяло ён прыйшоў, калі пачало змяркацца. Вось і калодзеж, высокі журавель разгойдваўся і рыпеў. Шостая хата адсюль — бацькоўская. Ён раптам спыніўся, засунуўшы рукі ў кішэні. Паківаў галавой. Звярнуў напрасткі дадому. Загруз па калена ў снезе, нагнуўшыся да акенца, убачыў маці — пры цьмяным святле падкручанай над сталом лямпы яна збірала вячэру. У той самай цёмнай хустцы, ціхая, немітуслівая, добрая. Пастарэла, тырчаць худыя плечы... «Ох, калі б ведаць,— кожны б дзень ёй трэба было пісаць пра сябе хоць два слоўцы...» Сабрала на стол няхітрае — кубак малака, акраец хлеба, дзве лыжкі, сальніцу і задумалася, стоячы перад сталом, склаўшы худыя рукі пад грудзямі... Ягор Дромаў пазіраў у акенца на маці, разумеў, што нельга спалохаць яе, нельга, каб у яе адчайна задрыжаў старэнькі твар.

Ну, добра! Ён адчыніў веснічкі, зайшоў у двор і на ганку пастукаў. Маці адгукнулася за дзвярыма: «Хто там?» Ён адказаў: «Лейтэнант, Герой Савецкага Саюза Громаў».

У яго так закалацілася сэрца — прыхінуўся плячом да вушака. Не, маці не пазнала яго голасу. Ён і сам, быццам першы раз, пачуў свой голас, які змяніўся пасля ўсіх аперацый,— хрыплы, глухі, невыразны.

— Бацюхны, а што табе трэба? — спыталася яна.

— Марыі Палікарпаўне прывёз паклон ад сына, старшага лейтэнанта Дромава.

Тады яна адчыніла дзверы і кінулася да яго, схапіла за рукі:

— Жывы Ягор мой? Здаровы? Бацюхны, ды ты зайдзі ў хату.

Ягор Дромаў сеў на лаўку каля стала на тое самае месца, дзе сядзеў, калі яшчэ ногі яго не даставалі падлогі і маці, бывала, пагладзіўшы яго па кучаравай галоўцы, гаварыла: «Еш, саколік». Ён пачаў расказваць пра яе сына, пра самога сябе,— падрабязна, як ён есць, п'е, усё ў яго ёсць, ён заўсёды здаровы, вясёлы, і — коратка пра баі, дзе ён удзельнічаў са сваім танкам.

— Ты скажы — страшна на вайне? — перабівала яна, пазіраючы яму ў твар цёмнымі вачыма, якія не бачылі яго.

— Вядома, страшна, матуля, аднак — прывычка.

Прыйшоў бацька, Ягор Ягоравіч, ён таксама зблажэў за гэтыя гады,— бародку яго як мукой абсыпала. Пазіраючы на госця, патупаў на парозе стаптанымі валёнкамі, не спяшаючыся разматаў шалік, здзеў паўкажушак, падышоў да стала, павітаўся за руку,— знаёмая была, шырокая, справядлівая бацькоўская рука! Нічога не пытаючыся, бо і так усё было зразумела — чаго тут госць у ордэнах, сеў і таксама пачаў слухаць, прыплюшчыўшы вочы.

Чым болей лейтэнант Дромаў сядзеў непазнаны і расказваў пра сябе і не пра сябе, тым болей не мог ён адкрыцца — устаць, сказаць: ды пазнайце ж вы мяне, урода, маці, бацька!.. Яму было і добра за бацькоўскім сталом, і крыўдна.

— Ну што ж, давайце вячэраць, маці, збяры што-небудзь госцю.— Ягор Ягоравіч адчыніў дзверцы старэнькага шкапчыка, дзе ў куточку налева ляжалі рыбалоўныя кручкі ў карабку ад запалак,— яны там і ляжалі,— і стаяў чайнік з адбітым носікам, ён і стаяў там, дзе пахла хлебнымі крошкамі і цыбульнымі лупінамі. Ягор Ягоравіч да-

стаў пляшку з віном — усяго на дзве шкляначкі, уздыхнуў, што болей няма. Селі вячэраць, як некалі. І толькі вячэраючы старшы лейтэнант Дромаў заўважыў, што маці з асаблівай пільнасцю сочыць за яго рукой з лыжкай. Ён усміхнуўся, маці ўзняла вочы, твар яе балюча задрыжаў.

Пагаварылі пра сёе пра тое, якая будзе вясна і ці справіцца народ з сяўбой, і пра тое, што гэтым летам трэба чакаць канца вайны.

— Чаму вы думаеце, Ягор Ягоравіч, што гэтым летам трэба чакаць канца вайны?

— Народ раззлаваўся,— адказаў Ягор Ягоравіч,— цераз смерць пераступілі, цяпер яго не спыніш, немцу капут.

Марыя Палікарпаўна спыталася:

— Вы не расказалі, калі яму дадуць водпуск,— прыехаць дамоў на пабыўку. Тры гады яго не бачыла, дарослы ўжо, мусіць, стаў, з вусамі ходзіць... Гэтак — кожны дзень — каля смерці, відаць, і голас у яго стаў грубы?

— Ды вось прыедзе — можа, і не пазнаеце,— сказаў лейтэнант.

Спаць яго паклалі на печы, дзе ён памятаў кожную цаглінку, кожную шчыліну ў сцяне, кожны сучок у столі. Пахла аўчынай, хлебам — тым родным пахам, што не забываецца і ў смяротны час. Сакавіцкі вецер пасвістваў над дахам. За перагародкай хроп бацька. Маці варочалася, уздыхала, не спала. Лейтэнант ляжаў ніц, твар у далоні. «Няўжо так і не пазнала,— думаў,— няўжо не пазнала? Мама, мама...»

Раніцай ён прачнуўся ад таго, што трашчалі дровы, маці асцярожна завіхалася каля печы; на нацягнутай вяроўцы віселі яго вымытыя анучы, каля дзвярэй стаялі вымытыя боты.

— Ты блінцы прасяныя ясі? — спыталася яна.

Ён не адразу адказаў, злез з печы, надзеў гімнасцёрку, зацягнуў папругу і — босы — сеў на лаўку.

— Скажыце, у вас у сяле жыве Каця Малышава, Андрэя Сцяпанавіча Малышава дачка?

— Яна летась курсы скончыла, у нас настаўніцай. А табе яе пабачыць трэба?

— Сынок ваш прасіў абавязкова ёй перадаць паклон.

Маці паслала па яе суседскую дзяўчынку. Лейтэнант не паспеў і абуцца, як прыбегла Каця Малышава. Шырокія шэрыя вочы яе блішчалі, бровы здзіўлена ўскідваліся, на шчоках — радасная ружовасць. Калі скінула з галавы

на шырокія плечы вязаную хустку, леітэнант ажно застагнаў сам сабе: пацалаваць бы гэтыя цёплыя светлыя валасы!.. Толькі такой уяўлялася яму сяброўка — свежая, пяшчотная, вясёлая, добрая, прыгожая такая,— вось зайшла, і ўся хата стала залатая...

— Вы прывезлі паклон ад Ягора? (Ён стаяў спіной да святла і толькі нагнуў галаву, таму што гаварыць не мог.) А ўжо я яго чакаю і дзень і ноч, так яму і скажыце...

Яна падышла блізка да яго. Зірнула, і быццам яе ўдарылі ў грудзі, адхінулася, спужалася. Тады ён цвёрда вырашыў пайсці — сёння ж.

Маці напякла прасяных бліноў з гатаваным малаком. Ён зноў расказваў пра лейтэнанта Дромава. Цяпер ужо пра яго воінскія подзвігі,— расказваў жорстка, не ўздымаючы вачэй на Кацю, каб не бачыць на яе мілым твары адбітку свайго калецтва. Ягор Ягоравіч замітусіўся быў, каб дастаць калгаснага каня, але ён пайшоў на станцыю пешша, як прыйшоў. Ён быў вельмі прыгнечаны ўсім, што адбылося, нават, спыняючыся, біў далонямі сабе па твары, паўтараў сіплым голасам: «Як жа быць цяпер?»

Ён вярнуўся ў свой полк, які стаяў у глыбокім тыле на папаўненні. Баявыя таварышы сустрэлі яго такой шчырай радасцю, што ў яго адвалілася ад душы тое, што не давала ні спаць, ні есці, ні дыхаць. Вырашыў так — няхай маці як мага далей не ведае пра яго няшчасце. Што ж датычыць Каці — гэту стрэмку ён вырве з сэрца.

Тыдні праз два прыйшоў ад маці ліст:

«Добры дзень, сынок мой ненаглядны. Баюся табе і пісаць, не ведаю, што і думаць. Быў у нас адзін чалавек ад цябе,— чалавек вельмі добры, толькі тварам дрэнны. Хацеў пажыць, ды адразу сабраўся і паехаў. З таго часу, сынок, не сплю ночы,— здаецца мне, што прыязджаў ты. Ягор Ягоравіч крычыць на мяне за гэта — зусім, кажа, ты, старая, звіхнулася розумам: калі б ён быў наш сын — хіба б ён не прызнаўся... Чаго яму таіцца, калі гэта быў бы ён,— такім тварам, як у гэтага, што да нас прыязджаў, ганарыцца трэба. Угаворыць мяне Ягор Ягоравіч, а мацярынскае сэрца — усё сваё: ён гэта, ён быў у нас!.. Чалавек гэты спаў на печы, я шынель яго вынесла на двор — пачысціць, ды прыпаду да яго, ды заплачу,— ён нагэта, яго гэта!.. Ягорка, напішы мне, Хрыстом малю, навучы ты мяне,— што было? Ці напраўду ўжо — з розуму з'ехала?..»

Ягор Дромаў паказаў гэты ліст мне, Івану Судараву, і,

расказваючы сваю гісторыю, выцер вочы рукавом. Я яму: «Вось, кажу, характары сутыкнуліся! Дурань ты, дурань, пішы хутчэй маці, прасі яе дараваць, не муч яе... Вельмі ёй патрэбен твой вобраз! Такі яна цяпер яшчэ болей будзе любіць...»

Ён у той жа дзень напісаў ліст: «Дарагія мае бацькі, Марыя Палікарпаўна і Ягор Ягоравіч, даруйце мне за ўсё, сапраўды ў вас быў я, сын ваш...» І гэтак далей, і гэтак далей — на чатырох старонках дробным почыркам,— ён бы і на дваццаці старонках напісаў — калі б можна было.

Праз нейкі час стаім мы з ім на палігоне — прыбягае салдат і — Ягору Дромаву: «Таварыш капітан, вас пытаюцца...» Твар у салдата такі, хоць ён стаіць па ўсёй форме, быццам чалавек збіраецца выпіць. Мы пайшлі ў пасёлак, падыходзім да хаты, дзе мы з Дромавым жылі. Бачу — ён сам не свой, усё пакашлівае... Думаю: «Танкіст, танкіст, а — нервы». Заходзім у хату, ён — наперадзе мяне, і я чую:

«Мама, добры дзень, гэта я!..» І бачу — маленькая старая прыпала да яго грудзей. Азіраюся, тут, аказваецца, і другая жанчына. Даю чэснае слова, ёсць дзе-небудзь яшчэ такія прыгажуні, не адна ж яна такая, але асабіста я — не бачыў.

Ён адарваў ад сябе маці, падыходзіць да гэтай дзяўчыны — а я ўжо казаў, што ўсёй волатаўскай постаццю гэта быў бог вайны. «Каця! — кажа ён.— Каця, нашто вы прыехалі? Вы таго абяцалі чакаць, а не гэтага...»

Прыгожая Каця яму адказвае,— а я хоць пайшоў у сенцы, але чую: «Ягор, я з вамі сабралася жыць навек. Я вас буду кахаць верна, вельмі буду кахаць... Не адпраўляйце мяне...»

Дык вось яны, рускія характары! Здаецца, просты чалавек, а прыйдзе суровая бяда, у вялікім ці ў малым, і ўздымаецца ў ім вялікая сіла — чалавечая прыгажосць.

*1944*

# Ільля Эрэнбург

## МАРГО

Звалі яе ўсе Марго. Яна, здаецца, сама не памятала, што ў яе ў паперах значылася: «Маргарыта-Луіза Манрабэр». Гаспадыня капялюшнай майстэрні гаварыла: «Марго, зрабіце мадэль найпацешнейшай — гэта той вар'ятцы, амерыканцы!» Стары лістаносец усміхаўся: «Вам пісьма яшчэ не напісалі, мадэмуазель Марго». І небарака Жан, сціскаючы цёплую даверлівую руку дзяўчыны, уздыхаў: «Марго!.. А Марго!..»

Кірпаты носік, маленькі круглы рот, вішнёвы ад памады, смяшлівы позірк, на лбе чубок. Ці мала такіх майстрых у Парыжы? Але Марго ўсім падабалася. Калі яна ішла па вуліцы, прахожыя аглядваліся, а вугальшчык Жуль цмокаў языком: «Ну і шэльма!..» Кансьержка, сварлівае стварэнне з рыбінымі вачымі і з пальцамі, падобнымі на вязальныя пруткі, папракала свайго мужа: «Перастань вылупліваць на яе вочы...»

Усё гэта было даўно: да вайны. Часам Марго сніцца вясёлы натоўп, віскат, каруселі, хрызантэмы, блакітныя сіфоны і спявак, які на плошчы Італіі пяе: «Парыж, мая вёска...» Прачынаючыся, Марго доўга трэ кулачком вочы, а потым плача. Па вуліцах ходзяць салдаты ў шэра-зялёных шынялях, злыя і чужыя, не пад сілу сказаць — якія чужыя. Чаго яны прыйшлі? У немцаў цяжкія чаравікі, і яны ступаюць, нібыта хочуць вытаптаць сіні асфальт. А Жан — у палоне. Стары лістаносец, вінавата ўсміхаючыся, гаворыць: «Мадэмуазель Марго, пісьмо немцы з'елі». Жуль стаў сумны і чысты. Шыльда «Вугаль» засталася, але вугалю няма. Кансьержка нават перастала ўпікаць мужа. Толькі гаспадыня майстэрні не журыцца: «Марго, начапіце што-небудзь такое на зялёны капялюш. Гэта жонцы нямецкага палкоўніка».

Марго думае: дзе ж Парыж? Усё на месцы: і вуліцы, і каштаны, і царква Мадлен, і кавярня «Раяль». На тэрасе нямецкія афіцэры п'юць каньяк, рагочуць, пішуць паш-

тоўкі. А Парыжа няма. І Марго начэплівае аранжавы бант на капялюш: гэта жонцы нямецкага палкоўніка.

Люсі пытаецца:

— Чаго сумная? Думаеш пра Жана?

— Не. Я ні аб чым не думаю.

Гаспадыня скардзіцца:

— Ходзяць без капелюшоў, як у Іспаніі... Не ведаю, што з намі будзе?

Марго адказвае:

— Выжывем. Або памром.

Ёй дваццаць гадоў, але яна разважае, як бабка.

Увечары яна падымаецца да сябе. Яе пакой пад самым дахам: душная, спякотная клетка. На стале залатая карона з паперы: Жанаў падарунак. Гэта было на масленіцу перад вайною. Яны танцавалі да раніцы... А на сцяне яркія паштоўкі, віды Парыжа: нясуцца чырвоныя машыны, б'юць фантаны і развяваецца трохколерны сцяжок...

Гарачым жнівеньскім вечарам Жуль запрасіў яе да сябе. Яна не хацела ісці. Жуль падміргнуў:

— Ты такое пачуеш...

Жуль пачаставаў яе шакаладам і лікёрам.

Адкуль толькі раздабыў? Яна выпіла чарку, і нечакана ёй стала смешна: быў жа Парыж, яна танцавала з Жанам, піла лікёр. Нічога больш няма. Яна выпіла яшчэ кілішак. Жуль раптам яе абняў. Яна пакруціла галавою:

— Не трэба.

Ён сцішана адступіўся:

— Чакаеш Жана?

— Не. Я болей нічога не чакаю. Ведаеш, Жуль, я любіла цалавацца. А цяпер нельга. Цяпер у мяне няма сэрца...— Яна раптам успомніла: — Ты зваў мяне нешта паслухаць?

Ён паглядзеў на гадзіннік:

— Праз пяць мінут... Сядай сюды, а то не пачуеш: яны глушаць. Я ціха пускаю. Суседзяў няма, але ўсё-такі боязна — неспадзеўна пранюхаюць.

Раздалося смутнае выццё, нібы дзесьці вельмі далёка крычала сірэна. Потым пачуліся словы: «Армія свабоднай Францыі...» Марго здзіўлена наморшчыла лоб:

— Якая армія? Арміі ж даўно няма...

— Слухай...

Марго прыпала да драўлянай скрынкі: «Змагайцеся супроць немцаў... шкодзьце... знішчайце...»

— Жуль, навошта гэта гавораць?

— Каб змагаліся.

— А ты?..

Ён раззлаваўся:

— Я слухаю радыё, гэта ўжо нешта. Толькі глядзі — нікому ні слова.

Праз два дні, убачыўшы Марго, Жуль абамлеў. Вочы яе іскрыліся, вішнёвы рот ірдзеў, як свежая рана. Жуль са злосцю спытаўся:

— Значыць, сэрца знайшлося?

— Знайшлося.

Перамену заўважылі і ў майстэрні, дражнілі, дапытваліся: хто? Марго аджартоўвалася. Так прадаўжалася некалькі дзён: Марго цвіла, а Жуль, майстрыхі, кумкі ламалі сабе галаву: з кім яна звязалася?

Тайну раскрыла кансьержка. Раніцаю, махаючы шваброю, яна мо дзесяты раз расказвала:

— Не, вы ніколі не здагадаецеся... гэта такая дрэнь, я штосьці адчула, устала... І можаце сабе ўявіць — гэта быў немец, чыстакроўны немец...

Суседкі абураліся:

— Падумаць толькі!..

— Ён у палоне, а яна не смуткуе...

— Такіх лупцаваць, раздзяваць і лупцаваць, як у васемнаццатым.

Жуль, убачыўшы Марго, сказаў:

— Вось хто знайшоў тваё сэрца?

Яна спакойна адказала:

— Ага. Ён.

Кансьержка пільнавала ўсю ноч, падымалася па лесвіцы, прыслухоўвалася. У пакоі Марго было ціха. Раніцай дзяўчына, як заўсёды, пайшла ў майстэрню. Гаспадыня ўжо ведала пра начныя прыгоды. Сціснуўшы ліловыя губы, яна сказала:

— Кажуць, што Марго знайшла сабе заступніка.

Усе майстрыхі глядзелі на Марго. Яна нічога не адказала. З майстэрні пайшла ў кавярню «Раяль». Там яе і схапілі. Яна піла каньяк з нямецкім афіцэрам і загадкава ўсміхалася. Паліцэйскія сціснулі Марго рукі.

Дарэмна афіцэр пратэставаў: «Гэта вельмі добрая дзяўчына»,— паліцэйскія спешна ўпіхнулі Марго ў машыну.

Яны доўга падымаліся па вузкай вінтавой лесвіцы. Паліцэйскі спытаўся:

— Дзе выключальнік?

— Лямпачка разбіта.

У пакоі было нясцерпна душна. Паліцэйскі сутаргава пазяхнуў. У акно заглядваў жоўты вышчарблены месяц. Паліцэйскі пасвяціў кішэнным ліхтарыкам. Стол, на ім абрэзкі, крошкі хлеба і вялікая залатая карона. На сцяне каляровыя паштоўкі. На ложку спіць нямецкі афіцэр. Паліцэйскі паднёс ліхтарык да твару і адразу адхапіў руку: тонкая палоска засохлай крыві ішла ад рота да падлогі.

— Нажом?

Марго пакруціла галавою.

— Не. Я ўзяла ў кансьержкі малаток, я сказала, што трэба прыбіць штору — прапускае святло. Нажом — гэта потым... Мне здалося, што ён дыхае, тады я перарэзала шыю. Малаток я аддала, а нож не той, што вы ўзялі. Гэты — рэзаць хлеб — ён у шафе...

Дапытваў яе палкоўнік, сівы і блакітнавокі. Ён увесь час глядзеў на свае доўгія адпаліраваныя пазногці. Чорт ведае што, гэтая дзяўчына яму падабаецца! Сапраўдная парыжанка... Ён адганяў ад сябе гэтыя думкі і пытаўся падкрэслена абыякава:

— Жанчына Манрабэр Маргарыта-Луіза, раскажыце, як вы зрабілі злачынства?

— Я ўжо казала... Спачатку ён не хацеў ісці, гаварыў, што лепей у гасцініцы. Але я яму сказала, што я не такая, што я не за грошы, а ад пачуццяў. Ён пайшоў за мной. У пакоі ён хацеў мяне абняць. Я вырвалася. Ён знянацку разбіў лямпу. Было ледзь-ледзь відно — месячык, але акенца маленькае. Я сказала: «Ляжы ціха, я зараз раздзенуся...» Я ўзяла малаток і вельмі моцна стукнула — па галаве. Потым я напалохалася, што ён ачуецца. Я яго рэзала, доўга рэзала, пакуль не развіднела.

— Вы ведалі раней лейтэнанта Эрнста Шульпе?

— Не, я пазнаёмілася з ім у той вечар. Я ўбачыла, што стаіць афіцэр, і ўсміхнулася яму. Ён прапанаваў пайсці з ім у кавярню. Я пайшла.

— Навошта вы на наступны дзень пасля ўчыненага злачынства загаварылі з капітанам Рудольфам Зэйерам?

— Я не ведаю, як яго зваць. Ён сядзеў у кавярні. Я хацела завесці яго.

— Да сябе?

— Не. У гасцініцу.

— Навошта?

— У мяне быў ножык-складанчык. Яго адабралі паліцэйскія...

Палкоўнік не вытрымаў і паглядзеў на Марго. Яна ўсміхалася. Ён сказаў:

— Вы — псіхапатка.

— Я здаровая.

— Тады чаму вы гэта зрабілі?..

— Вы самі сказалі... Я — Маргарыта-Луіза Манрабэр. А той быў немец. У кавярні сядзеў немец. І вы — немец. Я ведаю, што недзе ёсць армія. Але я не ўмею ваяваць. Я звычайная майстрыха. Я зрабіла што змагла.

Палкоўнік больш яе не слухаў. Ён крыкнуў: «Забраць!» — і падышоў да акна. Ён доўга глядзеў на жоўты абломак месяца і паўтараў: «Псіхапатка». Яму было прыкра.

Марго павялі на смяротнае пакаранне досвета, калі ў шэра-ружовым тумане ледзь выступілі далёкія дамы з прычыненымі аканіцамі і некалькі чэзлых, нібы абгрызеных дрэў. Ёй хацелася яшчэ раз глянуць на Парыж, але яна ўздыхнула: Парыжа няма. Можа быць, ён у палоне, як Жан? Або за морам, дзе армія? Яна ўспомніла школьную кнігу; цяпер трэба спяваць «Марсельезу», але яна не ведае слоў, а трэба пець — інакш яны падумаюць, што яна баіцца. І Марго спявала: «Парыж, мая вёска...» Фельдфебель крыкнуў: «Спяваць забараняецца!»

Кругом шэра-зялёныя. Ні аднаго француза... Напалоханы тупатам салдатаў, з дрэва падняўся верабей. І Марго, варушачы губамі, развіталася з ім: «Бывай, мілы».

*1944*

# Георгій Маркаў

## СМАЛЕНСКІ ГОСЦЬ

### 1

Перад выпіскай са шпіталя сяржанта Яфіма Дзямідкава, рослага сутулаватага хлопца, выклікаў да сябе намеснік начальніка па палітычнай часці.

— Ну, таварыш Дзямідкаў,— ветліва сказаў ён,— значыцца, хутка вылятаеш...

— Пара, таварыш капітан, каля шасці месяцаў правалялся ў вас тут. Прывезлі ледзь жывога, а цяпер хоць куды — да любой справы здатны, акрамя ваеннай,— адказаў Яфім і пакруціў у руках ёмкі бярозавы кій.

— Таму і выклікаў. Хачу ў цябе папытацца: куды пойдзеш працаваць — на завод ці ва ўстанову? Людзей не хапае, сам ведаеш, няма адбою ад заявак,— сказаў капітан, перагортваючы стос паперак.

— Не, таварыш капітан, не на завод мяне цягне.

— Значыць, ва ўстанову? — паспешліва перапытаў капітан.

— Мне б у калгас,— паглядзеў шчыра ў вочы капітану Дзямідкаў.

— Што ж, і ў калгас можна,— пагадзіўся капітан.

### 2

Праз тыдзень, раніцай, Яфім Дзямідкаў пакінуў на пустынным раз'ездзе цягнік, які заўсёды быў тут мнагалюдны, за што празваны «дзевяноста вясёлым», і, даведаўшыся ў пуцявога абходчыка, дзе знаходзіцца калгас «Чырвоны світанак», пайшоў далей лесам.

Набліжалася вясна. Снег падтаў і асеў. Ухабістая, шырока раз'езджаная дарога стала бурая, а ў лагчынах пакрылася наледдзю.

Яшчэ па-зімоваму было холадна, але над палямі ўжо лунаЛі пахі вясны.

Сырое марознае паветра аддавала прэснай вільгаццю.

Апіраючыся на кій, Яфім нетаропка ішоў, пазіраючы на пагоркі, што гарбаціліся пад сумётамі снегу. Відаць, летам у гэтых мясцінах вельмі прыгожа. Нездарма пуцявы абходчык, пачуўшы, што Яфім ідзе ў «Чырвоны світанак», пачаў расхвальваць калгас:

— Жывуць там добра, сынок,— прывабныя мясціны.

Калі, абагнуўшы бярэзнічак, Яфім падняўся на пагорак і ўбачыў дымкі над комінамі хат,— неспакойнае, трывожнае пачуццё ахапіла ўсю яго істоту.

Колькі разоў вось гэтак жа, там, дома, на Смаленшчыне, даводзілася падыходзіць яму да роднай Званароўкі. І заўсёды, адкуль бы ён ні вяртаўся — ці з поля, ці з раённага гарадка, ці з МТС,— заўсёды, падыходзячы да сяла, пачуццё радасці ахоплівала яго.

Яфім мацней сціснуў у руцэ кій: перажытае не вернеш, а проста так трывожыць і без таго збалелае сэрца не ў яго звычцы. Ён пачаў думаць пра іншае. Як сустрэнуць яго тут? Ці прыжывецца ён, далёкі смаленскі госць, тут, у таежным сібірскім калгасе?

Крыху не дайшоўшы да канцавой хаты, Яфім спыніўся, зухавата паправіў шапку-вушанку, абцягнуў шынель, зняў са спіны рэчавы мяшок і перакінуў яго цераз плячо, меціь неахайны выгляд на новым месцы яму не хацелася.

Першае, на што звярнуў увагу Яфім, былі сядзібы, і ён адразу адзначыў сам сабе, што ў «Чырвоным світанку» ўмеюць будавацца.

Хаты з лістоўніцы былі моцныя, чыстыя, з узорнымі ліштвамі такой мудрагелістай разьбы, што нават ён, Яфім Дзямідкаў, прайшоўшы з Чырвонай Арміяй ад Львова да Падмаскоўя і пабачыўшы тысячы вёсак, быў вельмі ўражаны. Двары абгароджаны высокімі платамі, а на дахах і весніцах упрыгожанні: конікі, пеўнікі, сабакі, якія былі выразаны з тонкіх, як вашчына, кедравых дошак. «З выгляду добра жывуць, але ці густа ў дварах?» — падумаў Яфім, аглядаючы шырокую вясковую вуліцу.

І, нібы ў адказ на яго думкі, у гэты ж момант з завулка паказаліся рыжыя, рабыя каровы. Яфім аглядзеў статак, прыкінуў, палічыў: не меней як сотня. «Добрую жывёлу гадуюць. Не горшая за нашу сіментальскую»,— падумаў Яфім, прапускаючы статак і прыцішыўшы хаду.

У завулку ён сустрэўся з жанчынай, якая ішла з доўгім дубцом у руцэ. Сустрэча была дарэчы: трэба было даведацца, дзе знаходзіцца праўленне калгаса.

— Дзень добры, цётка! — гучна прывітаўся Яфім.

Звонкім голасам, у якім пачулася ўсмешка, жанчына адказала:

— Дзень добры, дзядзька!

Яна была ў мужчынскім паўкажушку, у шэрых валёнках. У гэтым адзенні выглядала старэй, як на свае гады, але Яфім па голасе здагадаўся, што жанчына маладая.

— Прабачце, грамадзяначка, што назваў вас так,— далікатна адстаўляючы кій, з лагоднай усмешкай у вачах сказаў ён.

— Калі ласка. Мы не крыўдлівыя,— у тон яму адказала жанчына і засмяялася. Смех яе быў звонкі і працяглы. Жанчына раптам змоўкла і, памаўчаўшы, спыталася: — Упаўнаважаны з раёна будзеце?

— Не-е,— адказаў Яфім,— я сам па сабе. Іду да вас, у калгас.

— У нас жыць будзеце?

— У вас.

— А божухна! — усклікнула жанчына.

— Ці не пакажаце дарогу да вашага праўлення,— стараючыся на гэты раз гаварыць далікатней, папрасіў Яфім.

— Ідзіце вунь да той крайняй хаты — праўленне калгаса там знаходзіцца,— паказала яна рукою.

## 3

Калі Яфім Дзямідкаў, пастукваючы кіем, падняўся на ганак і ўвайшоў у прасторную, што пахла смоллю, хату праўлення — першае, што ён убачыў, былі ярка-блакітныя вочы жанчыны, з якой ён толькі што размаўляў.

Жанчына сядзела на лаўцы, насупраць дзвярэй, зусім ужо інакш адзетая. На ёй была цяпер строкатая, у клетку хустка, драпавае паліто і чорныя валёнкі. Пухлявыя вусны яе былі сціснутыя, а сур'ёзны твар насцярожаны. Яфім хацеў было ўсміхнуцца ёй, як знаёмай, але яна зрабіла выгляд, што не ведае яго. «Ці не памыліўся я?» — падумаў ён і, глянуўшы яшчэ раз на жанчыну, зразумеў, што сумненні яго дарэмныя. Гэта была яна. «Як хутка паспела пераадзецца»,— здзівіўся ён і, адчуваючы на сабе нецярплівыя, цікаўныя позіркі людзей, што сядзелі ў канторы, сказаў:

— Мне б старшыню.

— Я буду старшыня,— адгукнуўся з кута хударлявы

чалавек у акулярах, з невялікай бародкай і абвіслымі вусамі.

— Паперу да вас маю,— Яфім выцягнуў з кішэні ватных штаноў накіраванне нампаліта шпіталя.

Пакуль старшыня, паглядаючы з-пад акуляраў, павольна чытаў паперу, Яфім агледзеў усіх, хто сядзеў у канторы калгаса. Акрамя жанчыны, з якой сустрэўся на вуліцы, і старшыні калгаса, былі тут кудлаты рыжы мужчына, што панура перабіраў пузатыя кацёлкі лічыльнікаў пажаўцелымі ад цыгарэтнага дыму пальцамі, відаць, мясцовы рахункавод, каратка падстрыжаная, з тварам, укрытым рабаціннем, дзяўчына, памочніца рахункавода, стары з люлькай, што прымасціўся на дрывах, і некалькі жанчын, захутаных у шалі і хусткі. «Значыцца, вайна і сюды дакацілася. Народ усё больш жанчыны»,— падумаў Яфім.

Нарэшце старшыня калгаса скончыў чытаць Яфімавы паперы і загаварыў:

— Прыбаўленне ў нас, гаспадары. Франтавічок у нашым калгасе працаваць будзе.

Жанкі заварушыліся, стары з люлькай ускочыў з дроў і перасеў на табурэтку. Нават пахмуры рахункавод і той адарваўся ад сваіх спраў.

— А на якім фронце таварыш ваяваў? — запытаўся стары.

— На Заходнім апошнім часам, бацька.

— На Заходнім?! — ледзьве стрымаўся, каб не ўскочыць, перапытаў стары.— А Міцюху Заварзіна часам не сустракаў? Сынка майго? Пісаў, што недзе ў тых мясцінах ваюе.

— Народу там, бацька, што дрэў у вас у лесе. Дзе ж кожнага ўведаеш і запомніш? — Яфім стрымана ўсміхнуўся.

— Так-так, я і кажу, што не запомніць,— ахвотна пагадзіўся стары і раптам запытаўся зусім пра іншае: — Да нас?

— Ага, да вас.

— З рамяством якім ці так?

— У сябе загадваў хатай-лабараторыяй, а потым быў калгасным агратэхнікам.

— Бач ты! — задаволены адказам, вымавіў стары.

Жанчыны ажыўлена зашапталіся, і толькі тая, блакітнавокая, маўчала.

— Ну, лепш не прыдумаеш! — старшыня калгаса зноў агледзеў Яфіма з ног да галавы.

— Вось па гэтай часці яго і ўладкуем, Елісей Захарыч,— не адрываючыся ад папер і не гледзячы на Яфіма, сказаў рахункавод.

— Па гэтай самай,— паспешліва згадзіўся старшыня.

— А родам адкуль? — жмурачыся ад струменьчыку тытунёвага дыму, далей цікавіўся стары.

— Смаленскі.

— Смаленскі?! Нібыта немец у тых краях?

— Таму і трапіў да вас.

— Родненькі! — спачуваючы, уздыхнула нейкая жанчына.

— А дзе ж паселім мы франтавічка, Петраван Ляксеіч? — папытаўся ў рахункавода старшыня калгаса.

— Фацерку, мужычкі, служываму панатуральней знайдзіце,— самавітым, патрабавальным тонам нібы загадаў стары.

— Ведаем, Прохарыч, як гасцей прымаць,— з гордасцю ў голасе сказаў старшыня калгаса.

— Пра тое, бач, і вяду гаворку,— перасеў з табурэткі на дровы стары.

— Але ж адразу і не прыдумаць, да каго паслаць,— узмахнуў доўгімі рукамі рыжы рахункавод.

— У Насцечкі пасяліць бы яго, Елісей Захарыч,— прапанавала дзяўчына з рабым тварам, якая ўвесь час маўчала.

— А што?! Дом — што тая казарма! — пасунуўшыся да старшынёвага стала, вымавіў стары.

— А відаць, Елісей Захарыч, слушна кажа Груня,— сказаў рахункавод, паглядваючы на старшыню.

Елісей Захаравіч прамармытаў нешта невыразнае і, пабарабаніўшы пальцамі па стале, запытаўся:

— Як ты, таварыш Паяркава?

Стала ціха. «Якая ж тут Паяркава?» — падумаў Яфім, пазіраючы на жанчын.

І раптам з процілеглага боку загаварыла тая, блакітнавокая.

— Што ж тут глядзець, Елісей Захарыч, пасылайце.— І, мімалётна глянуўшы на Яфіма, дадала: — Толькі, можа, франтавіку неспакойна будзе: хлопец у мяне двухгадовы, жвавы малы...

## 4

Вясна тут была іншая, не такая асцярожная і мяккая, як там, на роднай Смаленшчыне. Да самай сярэдзіны красавіка стаялі халады. І хоць узгоркі на санцапёку агаліліся, начамі зямля ўкрывалася ледзяной скарынкай.

Аднаго разу звечара падзьмуў цёплы вецер, а раніцаю нечакана пачаўся дождж. Хутка з пагоркаў у возера пабеглі нястрымныя, імклівыя ручаі. Снег растаў на вачах за некалькі гадзін. Пасля ўсталяваліся пагодныя ясныя дні, і суровая сібірская зямля ўкрылася стракатымі краскамі.

Неяк Яфім Дзямідкаў выехаў за сяло, адкуль на добрых дзесяць кіламетраў цягнуліся палі калгаса «Чырвоны світанак», і спыніўся як зачараваны. Усяго ён чакаў ад сібірскай зямлі, але толькі не такога разнатраўя, якое давялося ўбачыць яму.

Шырокія бязмежныя прасторы ляжалі перад ім, укрытыя раннімі кветкамі і густымі шаўкавістымі травамі. Як ні любіў Яфім сваю смаленскую зямлю, як ні млела яго сэрца пры ўспаміне пра родны край,— ён не мог пакрывіць душою: глядзеў навокал замілавана і думаў — прыгожая зямля сібірская, вельмі прыгожая!

Цяпер ён зразумеў, чаму з такой зайздрасцю гаварылі смаленскія калгаснікі пра сібірскія землі, чаму некаторыя, выправіўшыся ў Сібір хадакамі, вярталіся назад у захапленні ад убачанага, бясспрэчна пакораныя выгодамі перасялення.

На нізкарослым гнядым ён раз'язджаў па полі, настаўляючы аратых, баранавальшчыкаў, сяльшчыкаў. А то і сам браўся за плуг, надзяваў сявеньку з насеннем або браў за аброць каня, запрэжанага ў сеялку.

## 5

Кватараваў Яфім Дзямідкаў у Настассі Паяркавай. Спаў ён у светлым прасторным пакоі на шырокім ложку з точанымі бярозавымі ножкамі. Тут, пад ложкам, у казённым зялёным рэчавым мяшку ляжалі ўсе яго пажыткі.

Акрамя Настассі і яе двухгадовага Сёмкі, у вялікай пяцісценцы жыла старая Агапа — Настассіна маці. Калі дачка прывяла Яфіма ў сваю хату і сказала, што франтавік пасланы да іх праўленнем на пастой, старая ўзрадавалася, пляснула рукамі, замітусілася па хаце.

— І добра, Насцечка. Хата без мужчыны, што прыход без папа, а месца ўсім нам хопіць. Як цябе, сардэчны, звадь-велічаць?

Пазнаёміўшыся з Яфімам, Агапа паказала яму фотаздымак Насцінага мужа, які загінуў у баях на Ханко, паўздыхала, паплакала і стала распальваць самавар.

Жылося Яфіму ў Паяркавых добра, не меў ён ні ў чым патрэбы. Ежы хапала, за адзежай сачыла Агапа, каб заўсёды была чыстая і папрасаваная, а на забаву і вяселле быў шустры Сёмка.

Адно непакоіла Яфіма: не складіся ў іх адносіны з Насцяй. Гаспадыня трымалася з ім вельмі ўжо строга. Усё гэта было б паўбяды, калі б у душы ў Яфіма з кожным днём не цяплела пачуццё да яе.

Вінаватая ў гэтым часткова была і сама Насця. Кожны раз, калі Яфім аказваўся з ёю сярод людзей, і асабліва недзе на сходзе, яна садзілася ў куток і глядзела адтуль на яго такімі закаханымі вачамі, што ў Яфіма кружылася галава. А траплялася разам ісці дадому, і вярталася старое. Насця была з ім абыходлівая, прыветная, але не болей.

Аднойчы, калі бабка Агапа з Сёмкам пайшлі да суседзяў, а Яфім з Насцяй засталіся адны, ён паспрабаваў шчыра пагаварыць з ёю.

— Настасся Андрэеўна, я хачу папытацца ў вас,— нясмела пачаў ён. Яна адразу наструнілася, адышла ад печы, стала спіной да Яфіма.

— Памятаеце, калі я першы раз сустрэў вас на вуліцы, вы жывёлу гналі, што вы тады пра мяне падумалі?

Яна доўга нічога не казала, потым засмяялася, як заўсёды, працяжна і звонка, і сказала зусім не тое, чаго чакаў Яфім:

— Не памятаю, Яфім Палікарпавіч, што я тады падумала. Памяць у мяне дзіравая.

Яфім уважліва паглядзеў на яе, не разумеючы — жартуе яна ці гаворыць сур'ёзна.

— Та-ак,— няпэўна вымавіў ён і дадаў: — А я дык памятаю. Пачуў тады ваш голас, Настасся Андрэеўна, і нібы ў сэрца нешта кальнула.

І змоўк, нецярпліва чакаў яе слоў. Але Насця пайшла ў кут і не адазвалася.

Як ні стрымлівала сябе Насця, як ні змагалася сама з сабою, але аднойчы прарваліся і яе пачуцці.

Здарылася гэта ў нядзелю. Бабка Агапа, як звычайна,

сышла да некага ў госці. Сёмка хоць быў і малы, але любіў усюды хадзіць з бабкаю.

Дома засталіся Яфім і Насця. Яфім ляжаў у сваім пакоі на ложку і праз дрымоту ўспамінаў перажытае.

Раптам ён пачуў Насцін ціхі голас:

— Яфім! — І яшчэ гучней: — Яфімушка!

Яфім ускочыў і кінуўся ў прыхожую ў чым быў: босы, у споднім. Адхінуўшы паркалёвы занавес, за якім стаяў Насцін ложак, ён спыніўся ў нерашучасці. Насця сядзела, звесіўшы голыя ногі, спалоханая, са слязамі на вачах, з распушчанымі валасамі. Яфім стаяў, не ведаючы, што сказаць.

— Ты даруй, Яфім, мне, дурной, даруй,— ціха, нібы просячы, вымавіла Насця, першы раз называючы яго на «ты» і не па бацьку.

Яфім зразумеў: у душы ў Насці сёння адбыўся нейкі пералом.

— Вы ўсё пакутуеце, Настасся Андрэеўна, а што, каб даверыцца мне? Я ж дрэннага вам не жадаю,— сказаў ён.

— Дзіўны вы, Яфім Палікарпавіч! Калі яго забілі, вырашыла я: ну, вось і канец. Жыць мне далей, як траве. Ад гэтай думкі спакойна стала на душы. Але бачу... не па сіле ношку ўзваліла. Ну, пра гэта потым, потым! — спалохаўшыся, замахала яна рукамі. Яфім здагадаўся: цяпер лепей не гаварыць далей. І пайшоў.

## 6

У пачатку жніўня калгаснікі выехалі на палявы стан — напсяваў хлеб. Яфіму таксама трэба было ехаць. Ён сабраў рэчы, што змогуць спатрэбіцца ў полі, і ўжо ў прыхожай запытаўся:

— А можа, Настасся Андрэеўна, Сёмку са мною пусціце? Людзей на полі шмат, без дагляду не застанецца.

Насця сядзела за сталом з алоўкам у руцэ і ў тоўстым сшытку рабіла нейкія падлікі, звязаныя з работай у МТФ. Яна падняла галаву, твар яе засвяціўся.

— Замучыць ён вас, Яфім Палікарпавіч,— і не чакаючы, што скажа Яфім, папыталася ў Сёмкі: — Сынок, паедзеш з Палікарпычам у поле?

Сёмка, які забаўляўся каля парога, хуценька ўскочыў і замітусіўся, шукаючы свой картуз.

— Я цябе, Сёмка, суніцамі карміць буду,— з усмешкай паглядаючы на хлопчыка, сказаў Яфім. Насця таксама ўсміхалася, пераводзячы позірк з кватаранта на сына, і Яфім заўважыў, што вочы яе свяціліся ласкай і радасцю.

Людзей на палявым стане набралася столькі, што прасторная хата ўмясціла толькі палавіну. Астатнія размясціліся хто дзе змог: на паддашку, пад павеццю, на саломе каля тока. Яфім з Сёмкам пасяліліся ў шалашы каля самай ракі.

Надвор'е стаяла гарачае, ночы былі цёплыя, сухія, з меданоснымі росамі, жытнёвымі пахамі.

Вечарамі, калі напружаны рабочы дзень канчаўся, Сёмка засынаў на духмяным сене, а прагныя да франтавых успамінаў падлеткі ішлі спаць, Яфім выходзіў на бераг, курыў тоўстыя самакруткі, падстаўляючы грудзі прахаладзе, што паднімалася ад вады, доўга сядзеў, перабіраючы ў памяці мінулыя дні.

Той, хто быў на фронце, хто перажыў усю горыч адступлення, хто пасля бачыў, як уцякае біты вораг, хто праліў кроў на полі бою,— той зразумее, вельмі добра зразумее, пра што думаў у гэтыя ціхія ночы былы сяржант Чырвонай Арміі Яфім Дзямідкаў.

Вестка пра тое, што Чырвоная Армія гоніць ворага і імкліва рухаецца да родных Яфімавых мясцін, нараджала ў яго душы боль і тугу.

Пазіраючы на процілеглы бераг, зарослы хмызняком, цені ад якога падалі на ціхую роўнядзь соннай ракі, Яфіму бачылася, як паднімаюцца ў атаку (можа, нават у гэты час) яго баявыя сябры і пабрацімы з чацвёртай роты, як са слязамі радасці на вачах сустракаюць іх у вызваленых гарадах і сёлах спакутаваныя савецкія людзі.

— Ненавісныя фрыцы падрэзалі мне крылы,— з адчаем шаптаў у такія хвіліны Яфім.

Тыдні праз два, вярнуўшыся з поля, у адзін з вечароў Яфім вось гэтак жа сядзеў на беразе і раптам пачуў за спіной крокі. Ён азірнуўся і не паверыў сваім вачам. Па звілістай сцежцы, асвечанай малочна-блакітным святлом месяца, ішла Насця.

Яфім падняўся ёй насустрач, адчуваючы, як моцна закалацілася сэрца.

— Як вы тут апынуліся, паўночніца?

— Засумавала я, Яфім Палікарпыч!

— Дарма. Сын ваш жыве, не сумуе,— не знайшоўся што сказаць Яфім.

— І па сыне, і па вас засумавала, галубе мой,— вымавіла яна і, падышоўшы бліжэй, абняла Яфіма.

Яфім верыў, рана ці позна павінна гэта было адбыцца, але ніколі не думаў, што адбудзецца вось гэтак нечакана.

— Настаська, родная! — прытуліўшы яе да грудзей, паўтараў ён.— Мая родная! Мая родная!..

## 7

Дажынкі супалі яшчэ з адной падзеяй у жыцці Яфіма Дзямідкава — Чырвоная Армія вызваліла яго родны калгас на Смаленшчыне «15 гадоў Кастрычніка». Калгас «Чырвоны світанак» святкаваў гэтую падзею: дванаць вазоў збожжа накіраваў ён на ссыпны пункт нарыхтоўчай канторы. На першым возе быў прымацаваны фанерны шчыт, на якім сам Елісей Захаравіч чарнілам напісаў «Калгаснае сібірскае прывітанне вызваленаму смаленскаму калгасу «15 гадоў Кастрычніка»! Прэч фашыстаў!» Яфім сам паехаў з абозам. Што казаць, з гэтай здачай збожжа дзяржаве адзначаліся і яго заслугі.

Калі зерне было здадзена, Яфім зайшоў на тэлеграф, які быў непадалёк ад складаў нарыхтоўчай канторы, і паслаў на радзіму тэлеграму, што жывы-здаровы і чакае ад таго, хто ўцалеў, адказу.

Маладзенькая тэлеграфістка доўга ўпарцілася і не прымала тэлеграмы, спасылаючыся, што няма распараджэння зверху. Яфім пусціў у ход усё сваё красамоўства, на якое толькі быў здатны.

І праўда, ці то хутка было атрымана ўказанне, пра якое казала тэлеграфістка, ці ёй удалося нейкім іншым чынам даслаць Яфімаву тэлеграму — толькі тэлеграма яго дайшла і на яе хутка прыйшоў адказ.

Старшыня калгаса «15 гадоў Кастрычніка» пісаў: «Немцы ўшчэнт разграбілі нас. Работы непачаты край. Прыязджай хутчэй».

Увечары Яфім пайшоў да Елісея Захаравіча. Той пачытаў ліст, пакруціў яго ў руках і аддаў назад Яфіму:

— Сілаю трымаць, Яфім Палікарпыч, не магу. Пра тваю работу Петраван Ляксеевіч паперу адпіша, каб ведалі твае землякі, што працаваў ты добра, ураджай дапамог падняць і задаволены мы табою на ўсе сто працэнтаў.

Яфім схаваў ліст зноў у кішэню гімнасцёркі, патаптаўся і нясмела дадаў:

— Не адзін я, Елісей Захарыч, ехаць хачу.

— Як разумець — не адзін? — здзівіўся старшыня калгаса.

— З Настассяй Паяркавай,— нясмела адказаў Яфім.

Спакойны старшынёвы твар раптам рэзка змяніўся. Елісей Захаравіч утаропіўся на Яфіма, перасунуў акуляры з пераносся на лоб, абвіслыя яго вусы прыўзняліся.

— Ты што ж гэта, Яфім, робіш?! Ну, Яфім, не чакаў я ад цябе такога. Ты ж у самую сарцавіну калгаса «Чырвоны світанак» ударыў. На Паяркавай у нас сёмы год МТФ трымаецца...

Елісей Захаравіч зацмокаў губамі, не знаходзячы адпаведных слоў. Распалены і разгневаны, ён пахадзіў па хаце, пастаяў каля акна, сеў за стол і, гледзячы на Яфіма, суха сказаў:

— Вырашаць адзін гэтае пытанне, таварыш Дзямідкаў, я не магу. Збяром калгаснікаў, пагамонім, і як яны скажуць, так і будзе.

## 8

На другі дзень пасля вячэры ў кантору калгаса «Чырвоны світанак» падаліся жанчыны, старыя, падлеткі. Збіраліся, як звычайна, не спяшаючыся,— ведалі, што доўгая асенняя ноч толькі пачалася і яе яшчэ хопіць, каб вырашыць калгасныя справы і выспацца.

У канторы вісеў дым — было цёпла. Палілася ў буржуйцы, хоць у гэтым вялікай патрэбы пакуль яшчэ не было. Відаць, проста ад гэтага цяпла рабілася ўтульней, спрыяла задушэўнай размове, схіляла да роздуму, разважлівасці.

Каля печкі сядзеў, пасмоктваючы люльку і пасопваючы, Прохарыч. Ён любіў гэтае месца і нікому не саступаў.

Задымленыя ходзікі, цыферблат якіх быў размаляваны кветкамі сланечніка, паказвалі дваццаць тры гадзіны, калі Елісей Захаравіч сказаў дзяўчыне з вяснушчатым тварам:

— Груня, сядай за пратакол.

Груня села да стала, разгарнула перад сабой тоўстую прашнураваную кнігу пратаколаў. Яфім і Насця, якія сядзелі ў розных кутах, трывожна пераглянуліся. Про-

харыч узняў галаву, прагаяючы дрымоту, запыхкаў люлькай.

Паведамленне Елісея Захаравіча пра тое, што смаленскі госць збіраецца ехаць і хоча забраць з сабою Насцю Паяркаву, нікога не здзівіла.

Калі ж Елісей Захаравіч дайшоў да «падліку» даходаў МТФ за гады вайны і пачаў выкладаць, да чаго можа прывесці Насцін ад'езд у час ацёлу, адна з калгасніц, што сядзела ля самых дзвярэй, запыталася:

— Дык што ж, Елісей Захарыч, нашай сястры ў ваенны час і замуж выйсці нельга?

Пытанне было зададзена рэзка, не без яхідства і адразу змяніла ціхамірны ход сходу. Калгасніцы ўсе разам загаманілі. Елісей Захаравіч марна стараўся перакрычаць іх.

Невядома, колькі б яшчэ часу страцілі жанкі, каб на сярэдзіну хаты не выйшла мажная чырванашчокая даярка Фёкла Пластунова.

Вочы ў яе блішчалі, яна загаварыла горача, нібы гэта датычылася яе самой.

— Елісей Захарыч палохае нас, маўляў, паедзе Насця, дык і МТФ загіне. А вы, праўленцы, запыталіся ў нас? Мы ж таксама не ліхадзеі сабе, а ўсё ж вырашылі так: ідзі, Насця, замуж! Едзь, Насця, з мужам хоць на край белага свету. А пра МТФ, праўленцы, не бядуйце: паедзе Насця, будзем працаваць дзень і ноч, а справу загубіць не дадзім.

Устала яшчэ некалькі жанок, каб выказаць сваю думку, але ад печкі пачуўся Прохарычаў голас:

— Елісей Захарыч, дазволь слова сказаць!

Сход насцярожыўся — Прохарыч не любіў казаць пустое. Жанкі, што збіралсяі выступаць, селі на свае месцы. Прохарыч праціснуўся да стала, пакідаючы за сабою густыя клубы дыму, такія самыя кучаравыя, як і яго барада.

— Цьфу! А каб на вас, пра што гаворку завялі! — сярдзіта плюнуў убок Прохарыч.— Ісці Насці замуж ці пачакаць — пра тое яна сама ведае. Не мы з табою, Елісей Захарыч, такі парадак заводзілі. Ды і жаніх! Ці ж Яфім не жаніх? Паспрабуй такога знайдзі. Давайце, праўленцы, лепей пра пасаг нявесце падумаем. У спустошаны край едзе. Хай людзі ведаюць — не збяднела Сібір. Усім, чым трэба, дапаможа яна вызваленым калгасам. Даю ад сябе цялушку.

Прохарыч падаўся было на сваё ўлюбёнае месца да печкі, але прайсці туды цяпер было немагчыма. Яго словы ўспрынялі як заклік.

Усе зразумелі: гэта ўжо справа гонару калгаса «Чырвоны світанак». Жанчыны, старыя, падлеткі ўсталі і загаманілі, перабіваючы адно аднаго.

Калі гоман трохі аціх, з розных месцаў пачулася:

— Пішы, Груня, ад мяне авечку.

— Свінню ад мяне прыпішы, Груня.

— Мех збожжа, Груня, пазнач там.

З усіх бакоў чуліся галасы падтрымкі.

Елісей Захаравіч сядзеў за сталом. Спачатку выгляд у яго быў разгублены і вінаваты. Хударлявы твар пабялеў, вусы журботна павіслі. Але паволі ён сабраўся з духам, павесялеў і моўчкі паглядаў з-пад акуляраў, як хутка-хутка бегае па паперы Груніна рука. Калі ў хаце пацішэла, узяў слова Елісей Захаравіч:

— Цялушку я даю, Груня,— і, цмокнуўшы губамі, дадаў: — Ад калгаса трэба таксама нешта выдзеліць, таварышы. Праўленне збяром — памяркуем.

— Вось гэта па-нашаму, Елісей Захарыч. А то працівіцца ўздумаў,— дабрадушна ўсміхнуўся Прохарыч.

Елісей Захаравіч, уцягнуўшы галаву ў плечы, глухавата дадаў:

— Яно, Прохарыч, нездарма гаворыцца, што народ усёй справе галава. Я, бач, толькі пра свой калгас падумаў, а ён, народ, пра ўсю дзяржаву думку мае. Памылка, прызнаюся.

— Конь, Елісей Захарыч, чатыры нагі мае і той спатыкаецца,— уставіў сваё слова Прохарыч.

Перабіраючы кацёлкі лічыльнікаў, падняўся кудлаты і рыжы Петраван Ляксеевіч.

— Пісалі, што Гітлер зерне начыста вывез. Ад калгаса трэба было б, Елісей Захарыч, выдзеліць насеннага збожжа. Як кажуць — каб выказаць удзячнасць за добрую працу Яфіму Палікарпавічу і нібыта мы шэфы над калгасам «15 гадоў Кастрычніка».

— Добра! Да кажуха рукавы! — горача падтрымаў Елісей Захаравіч. Ён хацеў аб'явіць сход закрытым, але слова папрасіла Насця. Яна выйшла з кута да стала, скінула з сябе стракатую, у клетку хустку і, склаўшы рукі на грудзях, горача загаварыла.

— Дзякую вам, людзі, а табе, хрышчоны Кандрат Прохарыч, нізкі паклон. Радасна мне, што шануеце гонар мой

і дабра жадаеце. Не хацела я сёння пра гэта казаць, але бачу: няма ў мяне ад вас тайны. Еду я з Яфімам, не на век жа. Дапаможам там, у спустошаных краях, ад немца раны залячыць і назад. Ды не адны! Увесь калгас за сабой пацягнем. Ці ж ёсць дзе-небудзь землі багацейшыя за сібірскія?

Пачуліся гучныя дружныя воплескі. Убаку стаяў Яфім, высокі і дужы, вочы ў яго гарэлі, ён разам з усімі апладзіраваў. Калгаснікі і калгасніцы паглядзелі на Яфіма, і гул узнёслых галасоў заглушыў апошнія Насціны словы.

*1944*

## Вячаслаў Шышкоў

# ДЗЕД АНДРЭЙ

У дзеда Андрэя два сыны, ды ўнук, ды пяць унучак-дзяўчатак. Унук і малодшы сын на фронце, а старэйшы ў тайзе на залатых прыісках. Дзяўчаты-пагодкі працавітыя, дужыя — штурхне плячом, трымайся! Старэйшай дваццаць тры гады.

Ды і сам стары, гэтакі камлюкаваты сібірскі кедр, яшчэ ў поўнай сіле. Вочы, як у пугача, круглыя, вялікія, нос арліны, стракатая барада лапатаю. З вушэй і ноздраў волас прэ, увесь твар у шэрсці, шчокам месца няма, шчокі як малыя сярод густой тайгі паляны. Ён сям'ю трымае ў моцных руках, ён і да вайны верхаводзіў усёй багатай сваёй гаспадаркай.

Іх калгас «Шырокі шлях» быў адзін з багатых у раёне. Зямля не мераная, узорвай, колькі хочаш, поле — урадлівае, хлеб, травы, гародніна родзяць багата. Жыві, не тужы!

Вялікая дружная Андрэева сям'я грошай працаднямі выганяла многа. Зімой таксама без занятку не сядзелі: хто на лесанарыхтоўках, хто ў тайзе са стрэльбай на лісіц, на вавёрак. Дзед быў скарэда, скупы. Пра яго і па сяле слава ішла: скнара. Але ён да насмешнікаў адносіўся без крыўды, як стары лясны мудрэц, які многае пабачыў. У яго была свая запаветная дума, ён у яе верыў, ёю жыў, у ёй бачыў апраўданне сваёй скупасці.

«Няхай завуць мяне скнарам, няхай,— бубніў ён, паплёўваючы направа і налева,— а вось паміраць стану, вазьму дый здзіўлю ўсіх». Але пра тое, што Андрэй хацеў усіх здзівіць, ніхто не ведаў, нават і яго дамашнія.

Грошай у яго куры не клююць, ляжалі яны ў каваным жалезным куфры нялічаныя; ён гаварыў:

— Часіна настане — падвяду рахунак.

Стары атрымаў з аказіяй пісьмо ад унука, танкіста Паўла. Ён, між іншым, пісаў:

«Нядаўна, мілыя мае сваякі, было ў нас на фронце вя-

лікае свята: калгаснікі Маскоўскай вобласці падаравалі Чырвонай Арміі многа танкаў, на свае грошыкі пабудавалі іх. Вось бы і вам, дарагія сямейныя мае і ўсе нашы паважаныя калгаснікі, не падкачаць і таксама пастарацца для бацькаўшчыны. Чым больш будзе ў нас зброі, тым хутчэй прыкончым немца, тады і вайне канец...»

Пісьмо было грунтоўнае, доўгае. Дзед крактаў, старая плакала.

Не прайшло і тыдня, як радыё паведаміла з Масквы, што ад калгасаў і асабіста ад калгаснікаў сталі паступаць ахвяраванні на пабудову танкаў і самалётаў.

У калгасе «Шырокі шлях» заварушыліся. Старшыня з двума камсамольцамі хадзілі з хаты ў хату, гутарылі з гаспадарамі, прамацвалі глебу. Гаспадары не раздумваючы адказвалі:

— Ды ўжо ж... чаго тут гаварыць... Справа ясная. Назначай, старшыня, сход... Мы заўсёды рады. Калі ўсёй грамадой навалімся на немца, ён трэсне, як арэх пад абцасам. Адно слова — калектыў.

Прыйшла дэлегацыя і да дзеда Андрэя Мохава. Дзед на прышлых рукамі замахаў:

— Ідзіце, ідзіце, адкуль прыйшлі... Правальвайце. Няма ў мяне для вас нічога, ядрона каша. Гэта самае, як яго... У мяне свой намер... Рублёў сто дам, ад сілы паўтары сотні.

Неўзабаве адбыўся ў Народным доме мітынг. Дзеда прывялі на мітынг унучкі.

Вечар быў блакітны, прыгожы, ціхі. На небе мігалі зоркі. Цераз прамёрзлыя вокны ў хатах свяціліся агеньчыкі электрычных лямпачак. Пад нагамі парыпваў распалены марозам снег. Дзед ні на што не зважаў, сярдзіта глядзеў у зямлю, адплёўваўся і бубніў. У вялікім памяшканні Народнага дома светла, утрэўна. Андрэй, ні на кога не гледзячы, сеў, пануры і ўзлаваны, звесіў на грудзі валасатую галаву і прытварыўся, што дрэмле.

Высокі пажылы настаўнік выступаў: гаварыў складна, шчыра. Словы яго былі вобразныя і простыя, яны даходзілі да самага сэрца. Калі ён стаў гаварыць пра славутага ніжнегародскага патрыёта, простага чалавека Кузьму Мініна, пра тое, як той заклікаў ніжнегародцаў ахвяраваць на выратаванне айчыны, Андрэй шырока адкрыў вочы, адкінуў навіслыя на вушы кудлы валасоў і, пакрэктваючы, стаў слухаць настаўніка з вялікай увагай. Настаўнік так красамоўна, так пераканаўча гаварыў пра жудасныя па-

куты тагачаснай Русі, што дзед Андрэй прашаптаў: «Ах, няшчасная наша Расеюшка», нават праслязіўся. Потым, узлаваўшыся на сябе і на настаўніка, гучна высмаркаўся ў насоўку і, уздыхнуўшы журботна, падумаў: «Чамусьці жаласлівы я стаў, мабыць, перад смерцю».

— Дарагія сябры калгаснікі! — заклікаў настаўнік, пакашліваючы і паблісківаючы акулярамі.— Наша айчына цяпер перажывае часіну яшчэ цяжэйшую, люцейшую, чым у тое злапомнае ліхалеццe. Не дадзім жа вераломнаму ворагу насмяяцца з нас! Мы не прымем ганьбы на нашы галовы, мы аддадзім на выратаванне маці-радзімы ўсё, што маем.

Ён пералічыў прозвішчы калгаснікаў-патрыётаў: адзін ахвяраваў сто тысяч, другі перакрыў яго, даў наяўнымі сто пяць тысяч рублёў, а вось такі аддаў паўтары сотні тысяч.

— Не дам, усё роўна не дам,— упарта шаптаў Андрэй, з непрыязнасцю пазіраючы на спакусніка.— Табе, гаварунy, лёгка пустымі баечкамі займацца. А ў мяне, можа, свае запаветныя гуслі-думы. Я, можа, хачу дабрадзеем свайму калгасу быць. І буду! — прадаўжаў злавацца стары Андрэй, але ў яго мужыцкай душы ўжо закруціліся нейкія добрыя калёсікі.

Дамоў прыйшоў ён прыдзірлівы, пануры, дамашнія баяліся да яго і падступіцца. Павячэраўшы, аблаяў старую, пхнуў нагою ката. Лёг спаць, але не спалася. Апаноўвалі думкі. Яны цяклі то плаўна, то як бурная рачулка па камянях, то ўспыхвалі і, нібы птушкі, адляталі. Тады ў галаве і на сэрцы ў дзеда станавілася пуста, ён ляжаў з адкрытымі вачыма, яму было ўсё прыкра, крактаў, стагнаў, пачынала ныць паясніца, як зубны боль. А ў вушах чыйсьці голас, можа, голас сумлення, назойліва шаптаў: «Найболей свайго душэўнага спакою любі радзіму, ахвяруй для радзімы ўсім багаццем сваім і нават сваім жыццём». Дзед адмахваўся, пераварочваўся на бок, моцна заплюшчваў стомленыя вочы, але душэўнае заспакаенне не наступала.

«Та-а-к, вось яно... смерць падыходзіць, восемдзесят пяць годзікаў адмучыўся,— разважаў ён сам з сабою.— Не-е, я не скнара, хлусіш... Я грошыкі недарэмна збіраю. Не сабе, не сваёй сямейцы — яны гладкія і без мяне сытыя будуць,— а збіраю грошы для грамадства. Каб успаміналі пра мяне, пра скнару. Вось надыдзе час душы з целам расставацца, пазаву ўсіх калгаснікаў і скажу: ахвярую вам усе свае грошыкі на пабудову хаты-чытальні альбо бальніцы, чаго хочаце, на ваш погляд. Не, браточкі,

не скнара я... Іншыя раней, бывала, на манастыры ахвяравалі для ўратавання сваёй душы. Сваю душу ўсякі дурань ад пагібелі ўратуе, а ты вось іншых ратуй, сукін ты сын, а не сябе. Гэта богу куды прыемней будзе».

Дзед успомніў, як ён у семдзесят сёмым годзе супраць туркаў на Шыпцы ваяваў. Нават тагачасная песенька ў галаву прыйшла:

Вспомним, братцы, как стояли
Мы на Шипке в облаках:
Турки нас атаковали,
Да остались в дураках.

Ох і наглядзеўся ён там усякіх жахаў. «А ўсё ж мы туркаў адолелі: пушак у нас было болей і пушкі нашы намнога лепшыя за басурманскія. Вось і ўнук Пашка піша: танкамі ды самалётамі можна знішчыць ворага. Правільна паршывец піша, дарма што шчанюк. Ну, і я так лічу. Чым хутчэй зломім хрыбеціну немцу, тым болей сваіх людзей уратуем. Ці ж не шкада мне нашай рускай крывінкі? Ого!.. Паўтары тысячы на танкі ахвярую, ядрона каша, а то і ўсе дзве».

Раніцаю дзед сказаў старой:

— Ану, бабка, панясём куфар у лазню, грошы злічыць трэба, колькі іх у нас.

Заперліся са старою ў лазні, адчынілі куфар: цэлая куча крэдытак. Сталі ўдваіх лічыць. Андрэй, варушачы калматымі брывамі, пстрыкаў самаробнымі лічыльнікамі. Падслепаваты стары лічыў няважна, дый памяць аслабела ў яго, а старая і зусім лічыць не ўмела: «Дзевяноста дзевяць, дзевяноста дзесяць, паўтараста».

— Мітынгі ідуць па ўсіх вёсках,— сказаў Андрэй.— Ахвяраваць заклікаюць. Давядзецца ахвяраваць тысяч тры на танкі.

— Кінь, стары. Танек у нас сваіх — пяць дзевак.

— Маўчы, дурніца...— прахрыпеў Андрэй.— То Танькі, а то танкі, з пушак паляць, немцаў душаць. Ці ж не бачыла карцінку — у канцылярыі вісіць?.. Вось дурніца.

Бабка пакрыўдзілася, ужо гатова была заплакаць. Ды якраз стары сказаў:

— Ідзём абедаць.

Пасля абеду і розных гаспадарчых турбот яны вярнуліся ў лазню на прыцемку. Стары ўпусціў на падлогу лічыльнікі і закрычаў на старую:

— Ну вось, усё збіў! Цьфу ты! Дык колькі ж налічылі?

Старая адказала, адкуль яна ведае, ён жа сам на лічыльніках клаў... Ці то шэсць тысяч, ці то дзевяць.

— Не дзевяць, а ўсе трынаццаць! — зноў закрычаў Андрэй.— Зблытаўся я падлічваючы... Ох, і шкодная ты, бабка. Давай нанава!

Пры святле самаробнай свечкі зноў узяліся лічыць. Хіліла да сну, ды было цемнавата. Збіваліся, пералічвалі зноў.

Стары ўсю ноч не спаў: думаў. І думы яго былі то светлыя, то цёмныя...

Мітынг у Народным доме быў мнагалюдны і ўрачысты. Калгас адлічыў з запасных сродкаў мільён дзвесце сорак тысяч. Усе ўсталі, закрычалі «ўра», заспявалі «Інтэрнацыянал». Потым пачалі выходзіць асобныя калгаснікі, клалі на стол прэзідыума грошы, залатыя пярсцёнкі, пушніну, адзін стары паклаў дзвюх лісіц і собаля.

— Роднай Чырвонай Арміі ахвярую з радасцю сто пудоў мукі,— гаварыў адзін.

— Не адступімся! — крычаў другі, размахваючы кулакамі.— Не адступімся! Не бываць немцу над намі... Я не ўмею многа гаварыць... Бі іх, акаянных! Душы нашымі танкамі! Ур-ра-а-а!

Гаспадары пляскалі ў ладкі, выкрыквалі з месца:

— Гэта не апошняя наша ахвяра! Мы заўсёды рады. Цяпер толькі пачынаецца...

Вось, апіраючыся на кіёк, пайшла да стала маленькая згорбленая бабулька ў белай хустцы. Яна пакланілася народу, як у царкве, на тры бакі і душэўна загаварыла:

— Мілыя мае працавікі і працавічкі, дарагія мае. Як пра вайну ўспомню, сэрца маё стогне чалавечым голасам. Унучак там у мяне на флоце, па марах-акіянах ходзіць трэці год. Дый не па ім адным смутак, па ўсіх салдацікаx нашых сэрцайка ные. А я старая бедная, адзінокая, самі ж вы мяне гуртам корміце, дзякую. Грошай у мяне няма, дастатку няма, а вось панчохі шарсцяныя ды рукавіцы звязала, гэта пашліце салдацікам на вайну з паклонам. Кланяецца, маўляў, усяму воінству бабуля Дар'я, родная бабка чырванафлотца Дзёміна.

Яна паклала вязанне на стол, пакланілася народу і пайшла на месца.

Калгаснікі праводзілі Дар'ю ласкавымі позіркамі і, аглядаючыся па баках, сталі адшукваць дзеда Андрэя. Але яго нідзе не было.

— Андрэй Іванавіч Мохаў! Дзе ты? — крыкнула звеннявая Ганна Рэпіна.

— Няма яго. Не відаць. Змыўся!

— Тута, тута Андрэй Іванавіч Мохаў! У наяўнасці,— нечакана абазваўся з самага цёмнага кутка стары з ільняною барадою і густымі валасамі.

Усе павярнулі да яго галовы. Ружовашчокі дзед цвёрдым крокам прайшоў праз усю залу, падняўся на ўзвышэнне і, паклаўшы на стол прэзідыума кумачовую навалачку, набітую грашыма, усхвалявана сказаў:

— Вось кажуць — скнара ды скнара... А я вось... як яго... Рашыў я ўсе грошы аддаць на нашу дарагую Чырвоную Армію. Няхай і мая капейка не шчарбатая. Намер такі! А сабе, так... паскрэбкі пакінуў. Тут грошай, трэба меркаваць, ядрона каша, тысяч сорак, а то і ўсе пяцьдзесят... Хто іх ведае, лічылі-лічылі са старою, аж аслеплі.

Усе падняліся, закрычалі:

— Ур-ра! Дзякуй, Андрэй Іванавіч! Падтрымаў наш калгас. Ура, ура!..

Стары ўскінуў калматую галаву, глянуў разам у знаёмыя твары блізкіх сваіх аднасяльчан, якія нарадзіліся, выраслі і састарэліся на яго вачах, і шчокі ў яго задрыжалі. Глытаючы слёзы, ён гаварыў:

— Я ж, браткі, вельмі рад... Я ж, браткі мае... добры намер такі... гэта самае... як яго... На танк! Я, браткі, ночы не спаў, усё думаў ды думаў. Гэта, як яго... дзве мыслі ў мяне было ў галаве, ну, адна мысля другую паваліла. Як паміраць буду, скажу вам, браткі, пра яе. Я грошай на яе яшчэ збяру. Гэта дальняя дарога. А танкі справа неадкладная, справа вельмі спешная. Я так і парашыў... гэта, як яго... І вы, браткі, не скупіцеся, ахвяруйце на Чырвоную Армію. Я... як яго, гэта самае... Глядзі, і ў нас жа руская кроў цячэ, не горш, як у Мініна, ядрона каша з маслам.

Дзеду заапладзіравалі. Мітынг прадаўжаўся. Камсамольцы ў пяць пар рук пералічвалі грошы старога, кожны запісваў свой падлік асобна. Да канца мітынгу падвялі вынікі, падалі агульную зводку старшыні. Увесь твар старшыні засвяціўся ўсмешкай. Пазваніўшы званочкам, ён устаў і прамовіў:

— Таварышы! Андрэй Іванавіч Мохаў ахвяраваў на пабудову танкаў не сорак і не пяцьдзесят тысяч, як заяўляў, а ўсе шэсцьдзесят дзевяць тысяч трыста сорак сем рублікаў.

Уся зала зарагатала ў нейкім асаблівым, святочным, радасным настроі.

— Гушкаць, гушкаць Андрэя Іванавіча! Дзе ён? — чуліся галасы.

Але дзеда Андрэя ў зале не аказалася. Ён спяшаўся дамоў. «Бог даў... добрую справу, самую дабрэйшую», — мармытаў ён сам сабе, і на звычайна хмурым твары яго свяцілася ўсмешка.

З гэтай усмешкай увайшоў ён і ў хату.

*1945*

# Андрэй Платонаў

## ВЯРТАННЕ

Аляксей Аляксеевіч Іваноў, гвардыі капітан, адбываў з арміі па дэмабілізацыі. У часці, дзе ён праслужыў усю вайну, Іванова праводзілі, як і быць павінна, са шкадаваннем, з любоўю, павагай, з музыкай і віном. Блізкія сябры і таварышы паехалі з Івановым на чыгуначную станцыю і, развітаўшыся там канчаткова, пакінулі Іванова аднаго. Цягнік, аднак, спазніўся на доўгія гадзіны, а потым, калі гэтыя гадзіны мінулі, спазніўся яшчэ дадаткова. Наставала ўжо халодная восеньская ноч; вакзал быў разбураны ў вайну, начаваць не было дзе, і Іваноў вярнуўся на спадарожнай машыне назад у часць. Назаўтра таварышы па службе яшчэ раз праводзілі Іванова; яны зноў спявалі песні і абнімаліся з ім у імя вечнай дружбы, але пачуцці свае яны растрачвалі ўжо стрыманей, і адбывалася гэта ў вузкім коле сяброў.

Потым Іваноў другі раз паехаў на вакзал; на вакзале ён даведаўся, што ўчарашні цягнік усё яшчэ не прыбыў, і таму Іваноў мог бы, па сутнасці, зноў вярнуцца ў часць на начлег. Але няёмка было трэцім разам перажываць провады, непакоіць таварышаў, і Іваноў застаўся сумаваць на пустэльным асфальце перона.

Каля выхадной станцыйнай стрэлкі стаяла ўцалелая будка стрэлачнага паста. На лаўцы каля той будкі сядзела жанчына ў ватоўцы і цёплай хустцы; яна і ўчора там сядзела каля сваіх рэчаў, і цяпер сядзіць, чакаючы цягніка. Ад'язджаючы ўчора начаваць у часць, Іваноў падумаў быў: ці не запрасіць і гэтую адзінокую жанчыну, няхай яна таксама пераначуе ў цёплай хаце ў медсясцёр, навошта ёй мерзнуць усю ноч, невядома — ці зможа яна абагрэцца ў будцы стрэлачніка. Але пакуль ён думаў, спадарожная машына кранулася, і Іваноў забыўся пра гэтую жанчыну.

Цяпер тая жанчына па-ранейшаму непарушна знаходзілася на ўчарашнім месцы. Гэтае пастаянства і цярплі-

васць сведчылі пра вернасць і нязменнасць жаночага сэрца — у крайнім выпадку, у адносінах да рэчаў і свайго дому, куды гэтая жанчына, напэўна, вярталася. Іваноў падышоў да яе: магчыма, ёй таксама не гэтак сумна будзе з ім, як адной.

Жанчына павярнулася тварам да Іванова, і ён пазнаў яе. Гэта была дзяўчына, яе звалі «Маша — лазеншчыкава дачка», бо так яна сябе некалі назвала, будучы сапраўды дачкой работніка лазні. Іваноў зрэдку ў гады вайны сустракаў яе, наведваючыся ў адзін БАА, дзе гэтая Маша, лазеншчыкава дачка, служыла ў сталовай памочнікам кухара па вольным найме.

Навакольная асенняя прырода была панылая і сумная гэтай парой. Цягнік, які павінен завезці адсюль дадому і Машу і Іванова, знаходзіўся невядома дзе ў шэрай далечы. Адзінае, што магло суцешыць і забавіць чалавечае сэрца, было сэрца другога чалавека.

Іваноў разгаварыўся з Машай, і яму стала добра. Маша была прыгожая з твару, простая душою, прывабная сваімі моцнымі рабочымі рукамі і здаровым, маладым целам. Яна таксама вярталася дадому і думала, як ёй будзе цяпер жыцца новым цывільным жыццём; яна прывыкла да сваіх вайсковых сябровак, прывыкла да лётчыкаў, якія любілі яе, як старэйшую сястру, дарылі ёй шакалад і звалі «прасторнай Машай» за яе вялікі рост і за сэрца, якое змяшчала ў сабе, як у сапраўднай сястры, усіх братоў у адну любоў і нікога паасобку. А цяпер Машы непрывычна, дзіўна і нават страшнавата было ехаць дамоў да сваякоў, ад якіх яна ўжо адвыкла.

Іваноў і Маша адчувалі сябе цяпер асірацелымі без арміі; аднак Іваноў не мог доўга быць панурым, маркотным; яму здавалася, што ў такія хвіліны хтосьці недзе смяецца з яго і бывае шчаслівы замест яго, а ён застаецца нахмураным прасцячком. Таму Іваноў хутка разварушваў сябе, інакш кажучы — знаходзіў сабе які-небудзь занятак, або ўцеху, або, як ён сам казаў, простую падручную радасць,— і гэтак збаўляўся ад сваёй маркоты.

Ён падсунуўся да Машы і папрасіў, каб яна па-таварыску дазволіла яму пацалаваць яе ў шчаку.

— Я ледзь-ледзь,— сказаў Іваноў,— а то цягнік позніцца, сумна яго чакаць.

— Толькі таму, што цягнік позніцца? — спыталася Маша і ўважліва паглядзела ў твар Іванову.

Былому капітану было на выгляд гадоў трыццаць пяць;

скура на ягоным твары, абвеяная вятрамі і загарэлая на сонцы, мела карычневы колер; шэрыя вочы Іванова глядзелі на Машу скромна, нават сарамліва, і гаварыў ён хоць і проста, адкрыта, але далікатна і прыязна. Машы спадабаўся яго глухі, хрыплы голас чалавека ў гадах, яго цёмны грубы твар і выраз сілы і безабароннасці на ім. Іваноў патушыў агонь у люльцы вялікім пальцам, неадчувальным да жару, што тлеў у люльцы, і ўздыхнуў, чакаючы дазволу. Маша адсунулася ад Іванова. Ад яго моцна пахла тытунём, сухім падсмажаным хлебам, трошкі віном — тымі чыстымі рэчывамі, якія ўзніклі з агню або самі могуць нарадзіць агонь. Падобна было, што Іваноў толькі і харчаваўся тытунём, сухарамі, півам і віном.

Іваноў паўтарыў сваю просьбу.

— Я асцярожна, я павярхоўна, Маша... Уявіце, што я ваш дзядзька.

— Я ўявіла ўжо... Я ўявіла, што вы мне тата, а не дзядзька.

— Вунь як... Дык вы дазволіце...

— Бацька ў дачкі не пытаецца,— засмяялася Маша.

Пазней Іваноў прызнаваўся сабе, што Машыны валасы пахнуць, як асенняе лісце ў лесе, і ён не мог іх ніколі забыць... Адышоўшы ад чыгуначнага пуці, Іваноў расклаў невялікі агонь, каб прыгатаваць яечню Машы і сабе.

Ноччу прыйшоў цягнік і павёз Іванова і Машу ў іх бок, на радзіму. Двое сутак яны ехалі разам, а на трэція суткі Маша даехала да горада, дзе яна нарадзілася дваццаць гадоў таму назад. Маша сабрала свае рэчы ў вагоне і папрасіла Іванова зручней прыладзіць ёй на спіне мяшок, але Іваноў узяў яе мяшок сабе на плечы і выйшаў услед за Машай з вагона, хоць яму яшчэ заставалася ехаць да месца больш за суткі.

Машу здзівіла і кранула ўвага Іванова. Яна баялася адразу застацца адна ў горадзе, дзе яна нарадзілася і жыла, але які стаў цяпер для яе амаль чужынай. Машыны бацька і маці былі выгнаны адсюль немцамі і загінулі ў невядомасці, а цяпер засталіся ў Машы на радзіме толькі стрыечная сястра і дзве цёткі, і да іх Маша не адчувала сардэчнай прыхільнасці.

Іваноў аформіў у чыгуначнага каменданта прыпынак у горадзе і застаўся з Машай. Па сутнасці, яму трэба было б хутчэй ехаць дамоў, дзе яго чакала жонка і двое дзяцей, якіх ён не бачыў чатыры гады. Аднак Іваноў адкладваў радасны і трывожны час сустрэчы з сям'ёй. Ён сам не

ведаў, чаму так рабіў,— магчыма, таму, што хацеў пагуляць яшчэ трохі па волі.

Маша не ведала сямейнага становішча Іванова і па дзявочай сарамлівасці не спыталася ў Іванова пра гэта. Яна даверылася Іванову па дабраце сэрца, не думаючы больш ні пра што.

Праз два дні Іваноў ад'язджаў далей, да роднага месца. Маша праводзіла яго на вакзале. Іваноў прывычна пацалаваў яе і ласкава паабяцаў помніць яе вобраз.

Маша ўсміхнулася ў адказ і сказала:

— Навошта мяне помніць вечна? Гэтага не трэба, і вы ўсё роўна забудзеце... Я ж нічога не прашу ад вас, забудзьце мяне.

— Дарагая мая Маша! Дзе вы раней былі, чаму я даўно-даўно не сустрэў вас?

— Я да вайны ў дзесяцігодцы вучылася, а даўно-даўно мяне зусім не было...

Цягнік прыйшоў, і яны развіталіся. Іваноў паехаў і не бачыў, як Маша, застаўшыся адна, заплакала, бо нікога не магла забыць, ні сяброўкі, ні таварыша, з кім хоць аднойчы зводзіў яе лёс.

Іваноў пазіраў праз акно з вагона на спадарожныя домікі гарадка, які ён наўрад ці ўбачыць у сваім жыцці, і думаў, што ў такім жа падобным доміку, але ў іншым горадзе, жыве яго жонка Люба з дзецьмі Пецькам і Насцяй, і яны чакаюць яго; ён яшчэ з часці паслаў жонцы тэлеграму, што не марудзячы едзе дамоў і жадае як найхутчэй пацалаваць яе і дзяцей.

Любоў Васільеўна, жонка Іванова, тры дні запар прыходзіла да ўсіх цягнікоў, якія прыбывалі з захаду. Яна адпрошвалася з работы, не выконвала нормы і па начах не спала ад радасці, слухаючы, як марудна і абыякава ходзіць маятнік насценнага гадзінніка. На чацвёрты дзень Любоў Васільеўна паслала на вакзал дзяцей — Пятра і Насцю, каб яны сустрэлі бацьку, калі ён прыедзе днём, а да начнога цягніка яна зноў прыйшла сама.

Іваноў прыехаў на шосты дзень. Яго сустракаў сын Пятро; цяпер Пятрушку ішоў ужо дванаццаты год, і бацька не адразу пазнаў сваё дзіця ў сур'ёзным падлетку, які здаваўся старэйшым на свае гады. Бацька ўбачыў, што Пятро быў маларослы і хударлявы хлапчук, але затое галавасты, лабасты, і твар у яго быў спакойны, нібыта ўжо прывычны да жыццёвых клопатаў, а маленькія карыя вочы яго пазіралі на белы свет змрочна і незадаволена, быц-

цам паўсюды яны бачылі адно бязладдзе. Адзеты-абуты Пятрушка быў акуратна: чаравікі на ім былі паношаныя, але яшчэ годныя, штаны і куртка старыя, перарobленыя з бацькавага цывільнага адзення, але без дзірак — дзе трэба, там зацыравана, дзе неабходна, там пакладзена латка, і ўвесь Пятрушка выдаваў як маленькі, небагаты, але спраўны мужычок. Бацька здзівіўся і ўздыхнуў.

— Ты бацька, так? — спытаўся Пятрушка, калі Іваноў абняў яго і пацалаваў, прыўзняўшы да сябе.— Відаць, бацька!

— Бацька... Добры дзень, Пятро Аляксеевіч!

— Добры дзень... Чаму ехаў доўга? Мы чакалі-чакалі.

— Гэта цягнік, Пеця, ціха ішоў... Як маці і Насця: жывыя-здаровыя?

— Нармальна,— сказаў Пятро.— Колькі ў цябе ордэнаў?

— Два, Пеця, і тры медалі.

— А мы з маткай думалі — у цябе на грудзях месца чыстага няма. У маці таксама два медалі ёсць, ёй па заслугах выдалі... Што ж у цябе мала рэчаў — адна сумка!

— Мне болей не трэба.

— А ў каго чамадан, таму ваяваць цяжка? — спытаўся сын.

— Таму цяжка,— згадзіўся бацька.— З адной сумкай лягчэй. Чамаданаў там ні ў кога не бывае.

— А я думаў — бывае. Я ў чамадане хаваў бы сваё дабро — у сумцы паломіцца і пакамечыцца.

Ён узяў бацькаў рэчавы мяшок і панёс яго дамоў, а бацька пайшоў следам за ім.

Маці сустрэла іх на ганку; яна зноў адпрасілася з работы, усё роўна як адчувала яе сэрца, што муж сёння прыедзе. З завода яна спачатку зайшла дамоў, каб потым пайсці на вакзал. Яна баялася — ці не з'явіўся дамоў Сямён Яўсеевіч: ён любіць заглянуць часам днём; у яго ёсць такая прывычка — з'яўляцца сярод дня і сядзець разам з пяцігадовай Насцяй і Пятрушкам. Праўда, Сямён Яўсеевіч ніколі пусты не прыходзіць, ён заўсёды прынясе штонебудзь дзецям — цукерак, або цукру, або булку, ці ордэр на прамтавары. Сама Любоў Васільеўна нічога кепскага ад Сямёна Яўсеевіча не бачыла; за ўсе гэтыя два гады, што яны ведалі адно аднаго, Сямён Яўсеевіч быў добры да яе, а да дзяцей ён ставіўся, як родны бацька, і нават лепей за некаторага бацьку. Але сёння Любоў Васільеўна не хацела, каб муж убачыў Сямёна Яўсеевіча; яна прыбрала

кухню і пакой, у доме павінна быць чыста і нічога пабочнага. А пазней, заўтра ці паслязаўтра, яна сама раскажа мужу ўсю праўду, як яна была. На шчасце, Сямён Яўсеевіч сёння не з'явіўся.

Іваноў наблізіўся да жонкі, абняў яе і так стаяў з ёю, не разлучаючыся, адчуваючы забытую і знаёмую цеплыню любімага чалавека.

Маленькая Насця выйшла з дому і, паглядзеўшы на бацьку, якога яна не помніла, пачала адштурхоўваць яго ад маткі, упёршыся рукамі ў яго нагу, а потым заплакала. Пятрушка стаяў моўчкі каля бацькі з маткай, з бацькавым мяшком за плячыма; пачакаўшы трохі, ён сказаў:

— Хопіць вам, а то Насцька плача, яна не разумее.

Бацька адышоўся ад маткі і ўзяў да сябе на рукі Насцю, якая плакала ад страху.

— Насцька! — аклікнуў яе Пятрушка.— Апомніся — каму я кажу! Гэта бацька наш, ён нам радня!..

У хаце бацька памыўся і сеў за стол. Ён выцягнуў ногі, заплюшчыў вочы і адчуў ціхую радасць у сэрцы і спакойнае здаволенне. Вайна мінула. Тысячы вёрстаў выхадзілі яго ногі за гэтыя гады, маршчыны стомы ляжалі на яго твары, і вочы рэзаў боль пад заплюшчанымі павекамі — яны хацелі цяпер адпачынку ў сутонні ці ў цемры.

Пакуль ён сядзеў, уся сям'я мітусілася ў святліцы ды на кухні, рыхтуючы святочны пачастунак. Іваноў разглядваў усе прадметы ў доме па парадку — насценны гадзіннік, шафу для пасуды, тэрмометр на сцяне, крэслы, вазоны на падаконніках, рускую кухонную печ... Доўга яны жылі тут без яго і сумавалі па ім. Цяпер ён вярнуўся і глядзеў на іх, нанава знаёмячыся з кожным, як са сваяком, што жыў без яго ў журбе і беднасці. Ён дыхаў застоеным пахам роднага жытла — тленам дрэва, цяплом ад цела сваіх дзяцей, гарам на пячным загнетку. Гэты пах быў такі ж і раней, чатыры гады таму назад, і ён не рассеяўся і не змяніўся без яго. Нідзе болей Іваноў не адчуваў гэтага паху, хоць ён бываў за вайну ў сотнях дамоў розных краін; там пахла іншым духам, у якім, аднак, не было ўласцівасці роднага дома. Іваноў успомніў яшчэ Машу — як пахлі яе валасы; але яны пахлі лясной лістотай, незнаёмай зарослай дарогай, не домам, а зноў трывожным жыццём. Што яна робіць цяпер і як уладкавалася жыць па-цывільнаму, Маша — лазеншчыкава дачка? Бог з ёю...

Іваноў бачыў, што больш за ўсіх завіхаўся ў хаце Пятрушка. Мала таго што ён сам працаваў, ён і матцы з

Насцяй даваў указанні, што трэба рабіць, і што не трэба, і як трэба рабіць правільна. Насця пакорна слухалася Пятрушку і ўжо не баялася бацькі, як чужога чалавека; у яе быў жвавы засяроджаны твар дзіцяці, якое робіць усё ў жыцці папраўдзе і ўсур'ёз, і добрае сэрца, таму што яна не крыўдзілася на Пятрушку.

— Насцька, апаражні кубак ад бульбяных лупінаў, мне пасуда трэба...

Насця паслухмяна вызваліла кубак і вымыла яго. Маці між тым спешна гатавала пірог-скарадум, замешаны без дражджэй, каб пасадзіць яго ў печ, у якой Пятрушка ўжо распаліў агонь.

— Варушыся, маці, варушыся хутчэй! — камандаваў Пятрушка.— Ты бачыш, у мяне печ напагатове. Прывыкла калупацца, стаханаўка!

— Зараз, Пятруша, я хутка,— паслухмяна гаварыла маці.— Я разынак пакладу, і ўсё, бацька даўно, мабыць, не еў разынак. Я даўно іх хаваю.

— Ён еў разынкі,— сказаў Пятрушка.— Нашаму войску іх таксама даюць. Нашы байцы, глядзі, якія мардатыя ходзяць, яны харчы ядзяць... Насцька, чаго ты села — у госці, ці што, прыйшла? Абірай бульбу, на абед смажыць будзем на скавародцы... Адным пірагом сям'ю не накорміш!

Пакуль маці гатавала пірог, Пятрушка паставіў у печ вялікім рагачом чыгун з капустай, каб не гарэў марна агонь, і тут жа зрабіў указанне і самому агню ў печы:

— Чаго гарыш па-лахматаму — бач, ва ўсе бакі ёрзаеш! Гары роўна. Грэй пад самую яду, хіба дарэмна дрэвы на дровы раслі ў лесе... А ты, Насцька, чаго ты трэскі як папала ў печ напіхала, трэба было ўкласці іх, як я цябе вучыў. І бульбу зноў ты абіраеш па-тоўстаму, а трэба абіраць тонка — навошта ты мяса з бульбы стругаеш: ад гэтага ў нас харч прападае... Я табе колькі разоў пра тое гаварыў, цяпер апошні раз кажу, а потым па патыліцы атрымаеш!

— Чаго гэта ты, Пятруша, усё Насцю тармосіш,— спакойна сказала маці.— Чаго яна табе? Хіба ж справіцца яна столькі бульбы ababраць і каб табе тонка было, як у цырульніка, нідзе мяса не зачапіць... Да нас бацька прыехаў, а ты ўсё злуешся!

— Я не злуюся, я па справе... Бацьку карміць трэба, ён з вайны прыйшоў, а вы дабро псуяце... У нас у лупінах ад бульбы за цэлы год колькі ежы прапала?.. Калі б свіна-

матка ў нас была, можна б яе за год аднымі лупінамі выкарміць і на выстаўку паслаць, а на выстаўцы нам далі б медаль... Вось што было б, а вы не разумееце!

Іваноў не ведаў, што ў яго вырас такі сын, і цяпер сядзеў і дзівіўся з яго розуму. Але яму болей падабалася маленькая лагодная Насця, якая таксама ўвіхалася сваімі ручкамі па гаспадарцы, і ручкі яе ўжо былі прывычныя да работы і ўмелыя. Значыць, яны даўно прывучаны да хатняй работы.

— Люба,— спытаўся Іваноў у жонкі,— ты што ж гэта мне нічога не кажаш — як ты гэты час жыла без мяне, як твае здароўе і што на рабоце ты робіш?..

Любоў Васільеўна цяпер саромелася мужа, як нявеста: яна адвыкла ад яго. Яна нават чырванела, калі муж звяртаўся да яе, і твар яе, як у маладосці, набываў сарамлівы, спалоханы выраз, які так падабаўся Іванову.

— Нічога, Алёша... Мы няблага жылі. Дзеці хварэлі мала, я гадавала іх... Дрэнна, што я дома з імі толькі ноччу бываю. Я на цагельным заводзе працую, на прэсе, хадзіць туды далёка...

— Дзе працуеш? — не зразумеў Іваноў.

— На цагельным заводзе, на прэсе. Кваліфікацыі ж у мяне не было, спачатку я ў двары align="">рознарабочай была, а потым мяне навучылі і на прэс паставілі. Працаваць добра, толькі дзеці адны і адны... Бачыш — якія выраслі. Самі ўсё ўмеюць рабіць, як дарослыя сталі,— ціха сказала Любоў Васільеўна.— Ці на дабро гэта, Алёша, сама не ведаю...

— Там будзе відаць, Люба... Цяпер мы ўсё разам будзем жыць, потым разбяромся — што добра, што дрэнна...

— Пры табе ўсё лепей будзе, а то я адна не ведаю — што правільна, а што нядобра, і я баялася. Ты сам цяпер думай, як нам дзяцей гадаваць...

Іваноў устаў і прайшоўся па святліцы.

— Дык, значыць, увогуле неблагі, кажаш, настрой тут быў у вас?

— Нічога, Алёша, усё ўжо прайшло, мы перацярпелі. Толькі па табе мы вельмі сумавалі, і страшна было, што ты ніколі да нас не прыедзеш, што ты загінеш там, як іншыя...

Яна заплакала над пірагом, пакладзеным ужо ў бляшаную форму, і слёзы яе закапалі ў цеста. Яна толькі што намазала пірог зверху яйцом і яшчэ вадзіла далонёй па цесце, міжволі змочваючы святочны пірог слязамі.

Насця абхапіла матчыну нагу рукамі, прыціснулася тварам да яе спадніцы і спадылба сурова паглядзела на бацьку.

Бацька нахіліўся да яе.

— Ты чаго?.. Насцечка, ты чаго? Ты пакрыўдзілася на мяне?

Ён падняў яе да сябе на рукі і пагладзіў ёй галоўку.

— Чаго ты, дачушка? Ты зусім забыла мяне, ты маленькая была, калі я пайшоў на вайну...

Насця паклала галаву на бацькава плячо і таксама заплакала.

— Ты што, Насцечка мая?

— А мама плача, і я буду.

Пятрушка, які стаяў у разгубленасці каля пячнога загнетка, быў незадаволены.

— Чаго вы ўсе?.. Настрою паддаліся, а ў печы жар перагарае. Нанава, ці што, паліць будзем, а хто ордэр на дровы нам новы дасць! Па старым жа ўсё атрымалі і спалілі, колькі там засталося ў паветцы — пален дзесяць, ды і тыя адна асіна... Давай, маці, цеста, пакуль дух гарачы не астыў.

Пятрушка выняў з печы вялікі чыгун з капустай і разгроб жар на чарэні, а Любоў Васільеўна, спяшаючыся, быццам стараючыся хутчэй дагадзіць Пятрушку, пасадзіла ў печ дзве формы пірагоў, забыўшыся змазаць яйцом другі пірог.

Дзіўны і яшчэ не зусім зразумелы быў Іванову родны дом. Жонка была ранейшая — з мілым, сарамлівым, хоць ужо і моцна стомленым тварам, і дзеці былі тыя самыя, што нарадзіліся ад яго, толькі выраслі яны за час вайны, як і быць павінна. Але штосьці не давала Іванову адчуваць радасць свайго вяртання ўсім сэрцам,— напэўна, ён вельмі адвык ад дамашняга жыцця і не мог адразу зразумець нават самых блізкіх, родных людзей. Ён пазіраў на Пятрушку, на свайго выраслага першынца-сына, слухаў, як ён дае каманду і павучае матку і маленькую сястру, бачыў яго сур'ёзны, заклапочаны твар і з сорамам прызнаваўся сабе, што яго бацькоўскае пачуццё да гэтага хлапчука, цяга да яго як да сына недастатковая. Іванову было яшчэ сорамней за сваю раўнадушнасць да Пятрушкі ад усведамлення таго, што Пятрушка больш за іншых меў патрэбу ў тым, каб яго любілі і клапаціліся аб ім, на яго цяпер нельга было глядзець без жалю. Іваноў не ведаў дакладна таго жыцця, якім жыла яго сям'я ў вайну, і ён

не мог яшчэ добра зразумець, чаму ў Пятрушкі склаўся такі характар.

За сталом, седзячы ў сям'і, Іваноў зразумеў свой абавязак. Яму трэба як найхутчэй брацца за справу, паступаць на работу, каб зарабляць грошы, і дапамагчы жонцы правільна выхоўваць дзяцей,— тады паступова ўсё пойдзе на лепшае, і Пятрушка будзе бегаць з хлапчукамі, сядзець за кніжкай, а не камандаваць з рагачом каля печы.

Пятрушка за сталом з'еў менш за ўсіх, але падабраў усе крошкі за сабою і высыпаў іх сабе ў рот.

— Што ж ты, Пятро,— загаварыў да яго бацька,— крошкі ясі, а свой кавалак пірага не даеў... Еш! Маці табе яшчэ потым адрэжа.

— Паесці ўсё можна,— нахмурыўшыся, адказаў Пятрушка,— а мне хопіць.

— Ён баіцца, што калі сам пачне есці памногу, то Насця таксама, гледзячы на яго, будзе многа есці,— прастадушна сказала Любоў Васільеўна,— а яму шкада.

— А вам нічога не шкада,— абыякава сказаў Пятрушка.— А я хачу, каб вам болей дасталося.

Бацька і маці глянулі адно на аднаго і скалануліся ад сынавых слоў.

— А ты чаму дрэнна ясі? — спытаўся бацька ў маленькай Насці.— Ты на Пятра, мабыць, глядзіш?.. Еш як след, а то так і застанешся маленькая...

— Я вырасла вялікая,— сказала Насця.

Яна з'ела маленькі кавалак пірага, а другі кавалак, што быў большы, адсунула ад сябе і накрыла яго сурвэткай.

— Ты навошта так робіш? — спыталася ў яе маці.— Хочаш, я табе маслам пірог памажу?

— Не хачу, я пад'ела...

— Ну, еш так... Навошта пірог адсунула?

— А дзядзька Сямён прыйдзе. Гэта я яму пакінула. Пірог не ваш, я сама яго не ела. Я яго пад падушку пакладу, а то астыне...

Насця злезла з крэсла і занесла кавалак пірага, абгорнуты сурвэткай, на ложак і паклала яго там пад падушку.

Маці ўспомніла, што яна таксама накрывала гатовы пірог падушкамі, калі пякла яго Першага мая, каб пірог не астыў да прыходу Сямёна Яўсеевіча.

— А хто гэты дзядзька Сямён? — спытаўся Іваноў у жонкі.

Любоў Васільеўна не ведала, што адказаць, і сказала:

— Не ведаю, хто такі... Ходзіць да дзяцей адзін, яго жонку і яго дзяцей немцы забілі, ён да пашых дзяцей прывык і ходзіць гуляць з імі.

— Як гуляць? — здзівіўся Іваноў.— У што ж яны гуляюць тут у цябе? Колькі яму гадоў?

Пятрушка жвава паглядзеў на маці і на бацьку; маці ў адказ бацьку нічога не гаварыла, толькі пазірала на Насцю сумнымі вачыма, а бацька па-нядобраму ўсміхнуўся, устаў з крэсла і закурыў папяросу.

— Дзе ж цацкі, у якія гэты дзядзька Сямён з вамі гуляе? — спытаўся потым бацька ў Пятрушкі.

Насця злезла з крэсла, забралася на другое крэсла каля камоды, дастала з камоды кніжкі і прынесла іх бацьку.

— Гэта кніжкі-цацкі,— сказала Насця бацьку,— дзядзька Сямён мне чытае іх: вось які забаўны Мішка, ён і цацка, ён і кніжка...

Іваноў узяў у рукі кніжкі-цацкі, якія падала яму дачка: пра мядзведзя Мішку, пра пушку-грымушку, пра домік, дзе бабулька Домна жыве і лён з унучкай прадзе...

Пятрушка ўспомніў, што пара ўжо юшку ў коміне зачыняць, а то цяпло з хаты выйдзе. Зачыніўшы юшку, ён сказаў бацьку:

— Ён старэйшы за цябе — Сямён Яўсеіч!.. Ён нам карысць прыносіць, няхай жыве...

Зірнуўшы на ўсякі выпадак у акно, Пятрушка заўважыў, што там на небе плывуць не тыя хмары, якія павінны плыць у верасні.

— Чамусьці хмары,— прамовіў Пятрушка,— свінцовыя плывуць — з іх, мабыць, снег пойдзе! Ці мо заўтра зіма зранку ляжа? Дык што ж тады нам рабіць: бульба ўся ў полі, не нарыхтавана нічога ў гаспадарцы... Бач, становішча якое!..

Іваноў глядзеў на свайго сына, слухаў яго словы і адчуваў сваю нясмеласць перад ім. Ён памкнуўся запытацца ў жонкі больш дакладна, хто ж такі гэты Сямён Яўсеевіч, што ходзіць ужо два гады ў яго сям'ю, і да каго ён ходзіць — да Насці ці да яго мілавіднай жонкі,— але Пятрушка заняў Любоў Васільеўну гаспадарчымі справамі:

— Давай мне, маці, хлебныя картачкі на снеданне і талоны на прымацаванне. І яшчэ талоны на газу давай — заўтра апошні дзень, і вугаль драўнінны трэба ўзяць, а

ты мех згубіла, а там адпускаюць у нашу тару, шукай цяпер мех, дзе хочаш, або з anуч пашый новы, нам жыць без меха нельга. А Насцька няхай заўтра да нас у двор нікога не пускае, а то многа вады з калодзежа чэрпаюць; зіма вось прыйдзе, вада тады ніжэй апусціцца, і ў нас вяроўкі не хопіць вядро апускаць, а снег жаваць не будзеш, а растапляць яго — дровы таксама патрэбны.

Гаворачы ўсё гэта, Пятрушка адначасна замятаў каля печы і складваў кухоннае начынне. Потым ён дастаў з печы чыгун з капустай.

— Закусілі трохі пірагом, цяпер мясную капусту з хлебам будзем есці,— сказаў усім Пятрушка.— А табе, бацька, заўтра з раніцы трэба было б у райсавет і ваенкамат схадзіць, станеш адразу на ўлік — хутчэй картачкі на цябе атрымаем.

— Я схаджу,— пакорліва згадзіўся бацька.

— Схадзі, не забудзься, а то раніцай праспіш і забудзешся.

— Не, я не забудуся,— паабяцаў бацька.

Свой першы агульны абед пасля вайны, капусту з мясам, сям'я з'ела ў маўчанні, нават Пятрушка сядзеў спакойна, нібы бацька з маткай і дзеці баяліся парушыць ненаўмысным словам ціхае шчасце сям'і, якая сабралася разам.

Потым Іваноў спытаўся ў жонкі:

— Як у вас, Люба, з адзеннем — напэўна, абнасіліся?

— У старым хадзілі, а цяпер абноўкі будзем праўляць,— усміхнулася Любоў Васільеўна.— Я латала, што было на дзецях, і твой касцюм, двое тваіх штаноў і ўсю бялізну тваю перашыла на іх. Ведаеш, лішніх грошай у нас не было, а дзяцей трэба адзяваць...

— Правільна зрабіла,— сказаў Іваноў,— дзецям нічога не шкадуй.

— Я не шкадавала і паліто прадала, якое ты мне купіў, цяпер хаджу ў ватоўцы.

— Ватоўка ў яе кароткая, маці ходзіць — прастудзіцца можа,— выказаўся Пятрушка.— Я качагарам у лазню паступлю, палучку буду атрымліваць і спраўлю ёй паліто. На рынку гандлююць на руках, я хадзіў, прыцэньваўся, там ёсць ніштаватае...

— Без цябе, без тваёй палучкі абыдземся,— сказаў бацька.

Пасля абеду Насця надзела на нос вялікія акуляры і

села каля акна цыраваць матчыны пальчаткі, якія маці надзявала цяпер, пад рукавіцы на рабоце,— ужо холадна стала, восень на дварэ.

Пятрушка глянуў на сястру і ўзлаваўся на яе:

— Ты што забаўляешся, навошта акуляры дзядзькі Сямёна надзела?..

— А я гляджу паверх акуляраў, я не ў іх.

— Яшчэ чаго! Я бачу! От сапсуеш вочы і аслепнеш, а потым будзеш утрыманкай усё жыццё жыць і на пенсіі. Знімі акуляры зараз жа, я табе кажу! І перастань рукавіцы цыраваць, маці сама зацыруе або я сам вазьмуся, калі параблю ўсё. Бяры сшытак і пішы палачкі,— забыла ўжо, калі займалася!

— А Насця што — вучыцца? — спытаўся бацька.

Маці адказала, што не вучыцца яшчэ, яна малая, але Пятрушка загадвае Насці кожны дзень займацца, ён купіў ёй сшытак, і яна піша палачкі. Пятрушка таксама вучыць сястру лічыць, складваючы і аднімаючы перад ёю гарбузікі, а літары вучыць Насця сама з Любоўю Васільеўнай.

Насця паклала рукавічку і дастала з шуфляды ў камодзе сшытак і ўставачку з пяром, а Пятрушка, задаволены, што ўсё выконваецца па парадку, надзеў матчыну ватоўку і пайшоў у двор калоць дровы на заўтрашні дзень; наколатыя дровы Пятрушка звычайна прыносіў на ноч у хату і складваў іх за печчу, каб яны там падсохлі і гарэлі пасля гарачэй і па-гаспадарску.

Вечарам Любоў Васільеўна рана сабрала вячэраць. Яна хацела, каб дзеці раней заснулі і каб можна было пасядзець з мужам удваіх і пагаварыць з ім. Але дзеці пасля вячэры доўга не засыналі; Насця, якая ляжала на драўлянай канапе, доўга пазірала з-пад коўдры на бацьку, а Пятрушка, улёгшыся на рускай печы, дзе ён спаў заўсёды, і зімой і летам, варочаўся там, крактаў, шаптаў штосьці і не хутка яшчэ ўгаманіўся. Але настаў позні час ночы, і Насця заплюшчыла стомленыя глядзець вочы, а Пятрушка захроп на печы.

Пятрушка спаў чуйна і насцярожана: ён заўсёды баяўся, што ноччу можа што-небудзь здарыцца — пажар, залезуць зладзеі-разбойнікі або маці забудзе зачыніць дзверы на кручок, а дзверы ноччу адыдуць, і ўсё цяпло выйдзе на двор. Цяпер Пятрушка прачнуўся ад трывожных галасоў сваіх бацькоў, якія размаўлялі ў пакоі побач з кухняй.

Колькі было часу — поўнач ці ўжо пад раніцу,— ён не ведаў, а бацька і маці не спалі.

— Алёша, ты не шумі, дзеці прачнуцца,— ціха казала маці.— Не трэба яго лаяць, ён добры чалавек, ён дзяцей тваіх любіў...

— Не патрэбна нам яго любоў,— сказаў бацька.— Я сам люблю сваіх дзяцей... Бач ты, чужых дзяцей ён палюбіў! Я табе атэстат прысылаў, і ты сама працавала,— навошта табе ён спатрэбіўся, гэты Сямён Яўсеевіч! Кроў, ці што, у цябе гарыць яшчэ... Эх ты, Люба, Люба! А я там думаў пра цябе іншае. Значыць, ты ў дурнях мяне пакінула...

Бацька замоўк, а потым запаліў сярнічку, каб раскурыць люльку.

— Што ты, Алёша, што ты кажаш! — гучна ўсклікнула маці.— Дзяцей жа я павыгадоўвала, яны ў мяне амаль не хварэлі і на цела поўныя...

— Ну і што ж!..— гаварыў бацька.— У іншых па чацвёра дзяцей заставалася, а жылі няблага, і дзеці выраслі не горшыя за нашых. А ў цябе вунь Пятрушка што за чалавек вырас — разважае, як дзед, а чытаць нябось забыўся.

Пятрушка ўздыхнуў на печы і захроп для таго, каб не выдаць сябе і слухаць далей. «Ну што ж,— падумаў ён,— няхай я дзед; табе добра было на гатовых харчах!»

— Затое ён самае цяжкае і важнае ў жыцці спазнаў! — сказала маці.— А ад граматы ён таксама не адстане.

— Хто ён такі, гэты твой Сямён? Хопіць табе загаворваць мне зубы,— злаваўся бацька.

— Ён добры чалавек.

— Ты яго любіш, так?

— Алёша, я маці тваіх дзяцей...

— Ну, далей! Адказвай шчыра!

— Я цябе люблю, Алёша. Я маці, а жанчынай была даўно, з табою толькі, ужо забыла калі.

Бацька маўчаў і курыў люльку ў цемры.

— Я па табе сумавала, Алёша... Праўда, дзеці пры мне былі, але яны табе не замена, і я ўсё чакала цябе, доўгія страшныя гады, мне прачынацца раніцай не хацелася.

— А якую ён пасаду займае, дзе працуе?

— Ён служыць па забеспячэнні матэрыяльнай часткі на нашым заводзе.

— Зразумела. Жулік.

— Ён не жулік. Я не ведаю... А сям'я яго ўся загінула ў Магілёве, трое дзяцей было, дачка ўжо нявеста была.

— Няважна, ён узамен другую гатовую сям'ю атрымаў — і бабу яшчэ не старую, сабой мілавідную, так што яму зноў жывецца цёпла.

Маці нічога не адказала. Настала цішыня, але неўзабаве Пятрушка пачуў, што маці плакала.

— Ён дзецям пра цябе расказваў, Алёша,— загаварыла маці, і па голасе яе Пятрушка зразумеў, што вочы яе заплылі слязамі.— Ён дзецям гаварыў, як ты ваюеш там за нас і пакутуеш... Яны пыталіся ў яго: а чаму? А ён адказваў ім: таму, што ты добры...

Бацька засмяяўся і выбіў попел з люлькі.

— Вось ён які ў вас — гэты Сямён-Яўсей! І не бачыў мяне ніколі, а хваліць. Ну і асоба!

— Ён цябе не бачыў. Ён выдумляў знарок, каб дзеці не адвыклі ад цябе і любілі бацьку.

— Але навошта, навошта яму гэта? Каб цябе хутчэй дамагчыся? Ты скажы, што яму трэба было?

— Мабыць, у яго сэрца добрае, Алёша, таму ён такі. А чаму ж?

— Дурная ты, Люба. Ты прабач мне, калі ласка. Нічога без разліку не бывае.

— А Сямён Яўсеіч часта дзецям прыносіў што-небудзь, кожны раз прыносіў, то цукеркі, то муку белую, то цукар, а нядаўна валёнкі Насці прынёс, але яны не падышлі — памер маленькі. А самому яму нічога ад нас не трэба. Нам таксама не трэба было, мы, Алёша, абышліся б без яго падарункаў, мы прывыклі, але ён кажа, што ў яго на душы лепей бывае, калі ён клапоціцца пра іншых, тады ён не так моцна сумуе па сваёй мёртвай сям'і. Ты ўбачыш яго — гэта не так, як ты думаеш...

— Усё гэта лухта нейкая! — сказаў бацька.— Не задурвай ты мяне... Сумна мне, Люба, з табою, а я жыць яшчэ хачу.

— Жыві з намі, Алёша...

— Я з вамі, а ты з Сенькам-Яўсейкам будзеш?

— Я не буду, Алёша. Ён больш да нас ніколі не прыйдзе, я скажу яму, каб ён больш не прыходзіў.

— Дык, значыць, было, раз ты больш не будзеш?.. Эх, якая ты, Люба, усе вы, жанчыны, такія.

— А вы якія? — з крыўдай спыталася маці.— Што значыць — усе мы такія? Я не такая... Я працавала дзень і ноч, мы вогнетрывалыя матэрыялы рабілі для кладкі ў паравозных топках. Я стала худая з твару, страшная, усім чужая, у мяне жабрак міласціны не папросіць. Мне таксама было цяжка, і дома дзеці адны. Я прыйду, бывала, дома не пáлена, не варана нічога, цёмна, дзеці сумуюць, яны не адразу гаспадарыць самі навучыліся, як цяпер. Пятрушка таксама малы быў... І пачаў тады хадзіць да нас Сямён Яўсеевіч. Прыйдзе — і сядзіць з дзецьмі. Ён жа жыве зусім адзін. «Можна,— пытаецца ў мяне,— я буду да вас у госці прыходзіць, я ў вас адагрэюся?» Я кажу яму, што ў нас таксама холадна і ў нас дровы сырыя, а ён мне адказвае: «Нічога, у мяне ўся душа прамерзла, я хоць каля вашых дзяцей пасяджу, а паліць печ для мяне не трэба». Я сказала — добра, хадзіце пакуль: дзецям з вамі не так боязна будзе. Потым я таксама прывыкла да яго, і ўсім нам было лепей, калі ён прыходзіў. Я глядзела на яго і ўспаміпала цябе, што ты ёсць у нас... Без цябе было так сумна і дрэнна; няхай хоць хто-небудзь прыходзіць, тады не так тужліва бывае і час ідзе хутчэй. Навошта нам час, калі цябе няма!

— Ну далей, далей што? — падганяў бацька.

— Далей нічога. Цяпер ты прыехаў, Алёша.

— Ну, што ж, добра, калі так,— сказаў бацька.— Пара спаць.

Але маці папрасіла бацьку:

— Пачакай яшчэ спаць. Давай пагаворым, я так рада з табой.

«Ніяк не сунімуцца,— думаў Пятрушка на печы,— памірыліся, і добра; матцы на работу трэба рана ўставаць, а яна ўсё гуляе — узрадавалася не ў час, перастала плакаць».

— А гэты Сямён кахаў цябе? — спытаўся бацька.

— Пачакай, я пайду Насцю накрыю, яна раскрываецца ў сне і мерзне.

Маці накрыла Насцю коўдрай, выйшла ў кухню і прыпынілася каля печы, каб паслухаць — ці спіць Пятрушка? Пятрушка зразумеў маці і пачаў храпці. Тады маці пайшла назад, і ён пачуў яе голас:

— Напэўна, кахаў. Ён пазіраў на мяне з любасцю, я бачыла, а якая я — хіба я прыгожая цяпер? Нясоладка было яму, Алёша, і каго-небудзь трэба было яму кахаць.

— Ты хоць бы пацалавала яго, калі ўжо так у вас задача склалася,— па-добраму сказаў бацька.

— Ну вось яшчэ! Ён мяне сам два разы пацалаваў, хоць я і не хацела.

— Навошта ж ён так рабіў, калі ты не хацела?

— Не ведаю. Ён казаў, што забыўся і жонку ўспомніў, а я на яго жонку трошкі падобная.

— А ён на мяне таксама падобны?

— Не, не падобны. На цябе ніхто не падобны, ты адзін, Алёша.

— Я адзін, кажаш? З аднаго ж лік і пачынаецца: адзін, а пасля два.

— Ён жа мяне толькі ў шчаку пацалаваў, а не ў губы.

— Гэта ўсё роўна — куды.

— Не, не ўсё роўна, Алёша... Што ты разумееш у нашым жыцці?

— Як што? Я ўсю вайну праваяваў, я смерць бачыў бліжэй, як цябе...

— Ты ваяваў, а я па табе тут абмірала, у мяне рукі ад гора трэсліся, а працаваць трэба было з бадзёрасцю, каб дзяцей карміць і каб дзяржаве карысць была ў змаганні з ворагамі-фашыстамі.

Маці гаварыла спакойна, толькі сэрца яе пакутавала, і Пятрушку было шкада яе; ён ведаў, што маці навучылася сама рамантаваць абутак сабе і яму з Насцяй, каб дорага не плаціць шаўцу, і за бульбу папраўляла электрычныя печы суседзям.

— І я не сцярпела жыцця і смутку па табе,— гаварыла маці.— А калі б сцярпела, я памерла б, я ведаю, што я памерла б тады, а ў мяне дзеці... Мне трэба было адчуць што-небудзь іншае, Алёша, спазнаць якую-небудзь радасць, каб я адпачыла. Адзін чалавек сказаў, што ён кахае мяне, і ён адносіўся да мяне так пяшчотна, як ты калісьці даўно...

— Гэта хто, зноў той Сямён-Яўсей? — спытаўся бацька.

— Не, другі чалавек. Ён служыць інструктарам райкома нашага прафсаюза, ён эвакуіраваны...

— Ну чорт з ім, хто ён такі! Дык што ж здарылася, уцешыў ён цябе?

Пятрушка нічога не ведаў пра гэтага інструктара і здзівіўся, чаму не ведаў яго. «Бач ты, а маці наша таксама адчайная»,— прашаптаў ён сам сабе.

Маці сказала бацьку ў адказ:

— Я нічога не спазнала ад яго, ніякай радасці, і мне было потым яшчэ горай. Душа мая пацягнулася да яго, таму што яна памірала, а калі ён стаў мне блізкі, зусім блізкі, я была раўнадушная, я думала ў тую хвіліну пра свае хатнія клопаты і пашкадавала, што дазволіла яму быць блізкім. Я зразумела, што толькі з табою я магу быць спакойная, шчаслівая і з табою адпачну, калі ты будзеш блізка. Без цябе мне няма куды дзецца, нельга ўратаваць сябе для дзяцей... Жыві з намі, Алёша, нам добра будзе!

Пятрушка пачуў, як бацька моўчкі падняўся з ложка, закурыў люльку і сеў на табурэт.

— Колькі разоў ты сустракалася з ім, калі была зусім блізкая? — спытаўся бацька.

— Адзін толькі раз,— сказала маці.— Больш ніколі не было. А колькі трэба?

— Колькі хочаш, справа твая,— прамовіў бацька.— Чаму ж ты гаварыла, што ты маці нашых дзяцей, а жанчынай была толькі са мной, і тое даўно...

— Гэта праўда, Алёша...

— Ну як жа так, якая ж тут праўда? Ты ж з ім таксама была жанчынай?

— Не, не была я з ім жанчынай, хацела быць і не магла... Я адчувала, што прападаю без цябе, мне трэба было — няхай хто-небудзь будзе са мной, я спакутавалася ўся, і сэрца маё цёмнае стала, я дзяцей сваіх ужо не магла любіць, а для іх, ты ведаеш, я ўсё стрываю, для іх я і касцей сваіх не пашкадую!..

— Пачакай! — сказаў бацька.— Ты ж кажаш — памылілася ў гэтым новым сваім Сеньку-Яўсейку, ты ніякай радасці ад яго быццам не атрымала, а ўсё-такі не прапала, не загінула, цэлая засталася.

— Я не прапала,— прашаптала маці,— я жыву.

— Значыць, і тут ты мне маніш! Дзе ж твая праўда?

— Не ведаю,— шаптала маці.— Я мала чаго ведаю.

— Добра. Затое я ведаю многа, я пережыў больш, як ты,— сказаў бацька.— Сцерва ты, і больш нічога.

Маці маўчала. Бацька, чуваць было, часта і цяжка дыхаў.

— Ну вось я і дома,— сказаў ён.— Вайны няма, а ты ў сэрца параніла мяне... Ну, што ж, жыві цяпер з Сень-

кам і Яўсейкам! Ты пацеху, пасмешышча зрабіла з мяне, а я таксама чалавек, а не цацка...

Бацька пачаў у цемнаце адзявацца і абувацца. Потым ён запаліў лямпу, сеў за стол і завёў гадзіннік на руцэ.

— Чатыры гадзіны, — сказаў ён сам сабе.— Цёмна яшчэ. Праўду кажуць, баб многа, а жонкі адной няма.

Стала ціха ў хаце. Насця роўна дыхала ў сне на драўлянай канапе. Пятрушка прынік да падушкі на цёплай печы і забыўся, што яму трэба храпці.

— Алёша! — па-добраму сказала маці.— Алёша, даруй мне!

Пятрушка пачуў, як бацька застагнаў і як потым хруснула шкло; праз шчыліны фіранкі Пятрушка бачыў, што ў пакоі, дзе былі бацька і маці, стала цямней, але агонь яшчэ гарэў. «Ён шкло ў лямпе раздушыў,— здагадаўся Пятрушка,— а шкла нідзе няма».

— Ты руку сабе парэзаў,— сказала маці.— У цябе кроў цячэ, вазьмі ручнік у камодзе.

— Замоўкні! — закрычаў бацька на маці.— Я голасу твайго чуць не магу... Будзі дзяцей, будзі зараз жа!.. Будзі, табе кажу! Я ім раскажу, якая ў іх маці! Няхай яны ведаюць!

Насця ўскрыкнула ад спалоху і прачнулася.

— Мама! — пазвала яна.— Можна, я да цябе?

Насця любіла прыходзіць ноччу да маці на ложак і грэцца ў яе пад коўдрай.

Пятрушка сеў на печы, спусціў ногі ўніз і сказаў усім:

— Спаць пара! Навошта вы разбудзілі мяне? Дзень яшчэ не настаў, цёмна на двары! Чаго вы шуміце і святло запалілі?

— Спі, Насця, спі, рана яшчэ, я зараз сама да цябе прыйду,— адказала маці.— І ты, Пятрушка, не ўставай, не размаўляй болей.

— А вы чаго размаўляеце? Што бацьку патрэбна? — загаварыў Пятрушка.

— А табе якая справа — што мне патрэбна! — адазваўся бацька.— Бач ты, сяржант які!

— А навошта ты шкло ў лямпе б'еш? Навошта ты маці палохаеш? Яна і так худая, бульбу без масла есць, а масла Настачцы аддае.

— А ты ведаеш, што маці рабіла тут, чым займалася? — жаласным голасам, як маленькі, ускрыкнуў бацька.

— Алёша! — пакорліва сказала Любоў Васільеўна да мужа.

— Я ведаю, я ўсё ведаю! — гаварыў Пятрушка.— Маці па табе плакала, цябе чакала, а ты прыехаў, яна таксама плача. Ты не ведаеш!

— Ды ты яшчэ не разумееш нічога! — раззлаваўся бацька.— Падшыванец!

— Я ўсё дачыста разумею,— адказваў Пятрушка з печы.— Ты сам не разумееш. У нас клопатаў хапае, жыць трэба, а вы сварыцеся, як нейкія дурныя...

Пятрушка замоўк; ён прылёг на сваю падушку і нечакана нячутна заплакаў.

— Вялікую волю ты дома ўзяў,— сказаў бацька.— Ды цяпер ужо ўсё роўна, жыві тут за гаспадара...

Выцершы слёзы, Пятрушка адказаў бацьку:

— Эх ты, бацька называецца, што гаворыш, а сам стары і на вайне быў... Вось схадзі заўтра ў інвалідную кааперацыю, там дзядзька Хартон за прылаўкам служыць, а ён хлеб рэжа, нікога не абважвае. Ён таксама на вайне быў і дамоў вярнуўся. Схадзі спытайся ў яго, ён усім расказвае і смяецца, я сам чуў. У яго жонка Анюта, яна на шафёра вывучылася ездзіць, хлеб развозіць цяпер, а сама добрая, хлеб не крадзе. Яна таксама дружыла і ў госці хадзіла, яе частавалі там. Гэты знаёмы яе з ордэнам быў, ён без рукі і галоўным служыць у магазіне, дзе па адзінках прамтавар выкідваюць...

— Што ты вярзеш там, спі лепей, хутка світаць пачне,— сказала маці.

— А вы мне таксама спаць не давалі... Світаць яшчэ не хутка будзе. Гэты без рукі падружыўся з Анютай, стала ім добра жыцца. А Хартон на вайне быў. Потым Хартон прыехаў і стаў сварыцца з Анютай. Цэлы дзень лаецца, а ноччу віно п'е і закуску есць, а Анюта плача, не есць нічога. Лаяўся-лаяўся, потым стаміўся, перастаў Анюту мучыць і сказаў ёй: чаму ў цябе адзін бязрукі быў, ты дурная баба, вось у мяне без цябе і Глашка была, і Апроська была, і Маруська была, і цёзка твая Нюшка была, і яшчэ на дабаўку Магдаліна была. А сам смяецца. І цётка Анюта смяецца, потым яна хвалілася — Хартон яе добры, лепшага нідзе няма, ён фашыстаў забіваў і ад розных жанчын яму адбою няма. Дзядзька Хартон усё нам у краме расказвае,

калі хлеб паштучна прымае. А цяпер яны жывуць у згодзе, па-добраму. А дзядзька Хартон зноў смяецца, ён кажа: «Ашукаў я сваю Анюту, нікога ў мяне не было — ні Глашкі не было, ні Нюшкі, ні Апроські не было і Магдалінкі на дабаўку не было, салдат — сын Айчыны, яму няма калі дурнотай займацца, яго сэрца супраць ворага ляжыць. Гэта я Анюту знарок напалохаў...» Кладзіся спаць, бацька, патушы святло, навошта агонь курыць без шкла.

Іваноў са здзіўленнем слухаў гісторыю, якую расказваў яго Пятрушка. «Вось жа сукін сын які! — разважаў бацька пра сына.— Я думаў, ён і пра Машу маю скажа зараз...»

Пятрушка стаміўся і захроп; ён заснуў цяпер сапраўды.

Прачнуўся ён, калі дзень стаў зусім светлы, і спалохаўся, што доўга спаў, нічога не зрабіў у хаце з раніцы.

Дома была адна Насця. Яна сядзела на падлозе і гартала кніжку з малюнкамі, якую даўно яшчэ купіла ёй маці. Яна яе разглядвала кожны дзень, бо іншай кніжкі ў яе не было, і вадзіла пальчыкам па літарах, як быццам чытала.

— Навошта кніжку з раніцы пэцкаеш? Пакладзі яе на месца! — сказаў Пятрушка сястры.— Дзе ж маці, на работу пайшла?

— На работу,— ціха адказала Насця і загарнула кнігу.

— А бацька куды дзеўся? — Пятрушка агледзеўся навакол, у кухні і ў пакоі.— Ён узяў свой мяшок?

— Ён узяў свой мяшок,— сказала Насця.

— А што ён табе гаварыў?

— Ён не гаварыў, ён у рот мяне і ў вочкі пацалаваў.

— Так-так,— сказаў Пятрушка і задумаўся.— Падымайся з падлогі,— загадаў ён сястры,— давай я цябе памыю чысцей і адзену, мы з табой на двор пойдзем...

Іхні бацька сядзеў у гэты час на вакзале. Ён ужо выпіў дзвесце грамаў гарэлкі і паабедаў з раніцы па талоне на дарожнае забеспячэнне. Ён яшчэ ноччу цвёрда вырашыў паехаць у той горад, дзе ён пакінуў Машу, каб зноў сустрэць яе там і, магчыма, ужо ніколі не разлучацца з ёю. Дрэнна, што ён намнога старэйшы за гэтую лазеншчыкаву дачку, у якой валасы пахлі прыродай. Але там відаць бу-

дзе, як яно атрымаецца, наперад нельга адгадаць. Усё-такі Іваноў спадзяваўся, што Маша хоць трохі ўзрадуецца, калі зноў убачыць яго, і гэтага будзе дастаткова яму; значыць, і ў яго ёсць новы блізкі чалавек, і прытым цудоўны сабою, вясёлы і добры сэрцам. А там відаць будзе!

Неўзабаве прыбыў цягнік, які ішоў у той бок, адкуль толькі ўчора прыехаў Іваноў. Ён узяў свой рэчавы мяшок і пайшоў на пасадку. «Маша і не чакае мяне,— думаў Іваноў.— Яна мне гаварыла, што я ўсё роўна забуду яе і мы ніколі з ёю больш не ўбачымся, а я вось еду да яе назаўсёды».

Ён зайшоў у тамбур вагона і прыпыніўся ў ім, каб, калі цягнік пойдзе, паглядзець апошні раз на невялікі горад, дзе ён жыў да вайны, дзе ў яго нараджаліся дзеці... Ён яшчэ раз хацеў глянуць на пакінуты дом; яго можна разглядзець з вагона, бо вуліца, на якой стаіць дом, дзе ён жыў, выходзіць на чыгуначны пераезд і цераз той пераезд пойдзе цягнік.

Цягнік крануўся і ціха паехаў праз станцыйныя стрэлкі ў пустыя асеннія палеткі. Іваноў узяўся за поручні вагона і пазіраў з тамбура на домікі, будынкі, хлявы, на пажарную каланчу горада, які быў яму родны. Ён пазнаў два высокія коміны ўдалечыні: адзін быў на мылаварным заводзе, а другі на цагельным; там працавала цяпер Люба каля цагельнага прэса; няхай яна жыве цяпер па-свойму, а ён будзе жыць па-свойму. Магчыма, ён і мог бы ёй дараваць, але што гэта значыць? Усё роўна яго сэрца налілося злосцю супраць яе, і няма ў ім даравання чалавеку, які цалаваўся і жыў з другім, каб не так сумна, не ў адзіноцтве ішоў час вайны і разлукі з мужам. А тое, што Люба стала блізкая да свайго Сямёна або Яўсея таму, што жыць ёй было цяжка, што нястача і сум мучылі яе, дык гэта не апраўданне, гэта пацвярджэнне яе пачуцця. Усё каханне нараджаецца з нястачы і суму; калі б чалавек ні ў чым не меў патрэбы і не сумаваў, ён ніколі не пакахаў бы другога чалавека.

Іваноў памкнуўся ўжо ісці з тамбура ў вагон, каб легчы спаць, не жадаючы глядзець апошні раз на дом, дзе ён жыў і дзе засталіся яго дзеці; навошта мучыць сябе дарэмна. Ён глянуў наперад — ці далёка засталося да пераезда, і ў той жа момант убачыў яго. Чыгуначны пуць тут перасякала сельская грунтавая дарога, якая ішла ў горад; на гэтай дарозе валяліся пучкі саломы і сена, што ўпалі з вазоў, лазовыя галінкі і конскі гной. Звычайна гэтая да-

рога была бязлюдная, апрача двух базарных дзён на тыдні; рэдка, бывала, праедзе селянін у горад з поўным возам сена або вяртаецца назад у вёску. Так было і цяпер; пустая ляжала вясковая дарога; толькі з горада, з вуліцы, у якую ўваходзіла дарога, беглі ўдалечыні нейкія двое дзяцей; адно было большае, другое меншае, і большае, узяўшы за руку меншае, хутка пацягнула яго за сабой, а меншае, як ні спяшалася, як ні шчыранька тэпала ножкамі, а не паспявала за большым. Тады большае валачыла яго за сабою. Каля апошняга гарадскога дома яны спыніліся і глянулі ў бок вакзала, вырашаючы, мабыць, ісці ім туды ці не ісці. Потым яны паглядзелі на пасажырскі цягнік, які праходзіў праз пераезд, і пабеглі па дарозе проста да цягніка, быццам захацелі раптам дагнаць яго.

Вагон, у якім стаяў Іваноў, мінаваў пераезд. Іваноў падняў з падлогі мяшок, каб прайсці ў вагон і легчы спаць на верхнюю лаўку, дзе не будуць перашкаджаць пасажыры. Але ці паспелі тыя двое дзяцей дабегчы хоць да апошняга вагона? Іваноў высунуўся з тамбура і паглядзеў назад.

Двое дзяцей, узяўшыся за рукі, усё яшчэ беглі па дарозе да пераезда. Яны раптам абое разам упалі, падняліся і зноў пабеглі наперад. Большае з іх узняло адну вольную руку і, павярнуўшыся тварам па ходу цягніка ў бок Іванова, махала рукою да сябе, быццам заклікаючы кагосьці, каб той вярнуўся да яго. І тут жа яны зноў упалі на зямлю. Іваноў разгледзеў, што ў большага адна нага была абутая ў валёнак, а другая ў галош,— з-за гэтага дзіця і падала так часта.

Іваноў заплюшчыў вочы, не жадаючы бачыць і адчуваць болю дзяцей, што ўпалі, абяссіленыя, ён адчуў, як горача стала ў яго ў грудзях, быццам сэрца, што пакутавала, як у клетцы, білася доўга і дарэмна ўсё яго жыццё і толькі цяпер яно прабілася на волю, запоўніўшы ўсю яго істоту цяплом і хваляваннем. І ўсё, што ён ведаў раней, раптам адкрылася яму больш дакладна і праўдзіва. Раней ён адчуваў другое жыццё цераз перагародку самалюбства і ўласнага інтэрасу, а цяпер раптам дакрануўся да яго аголеным сэрцам.

Ён яшчэ раз паглядзеў з прыступак вагона ў хвост цягніка на дзяцей — тыя ўсё аддаляліся. Ён ужо ведаў цяпер, што гэта былі яго дзеці, Пятрушка і Насця. Яны, напэўна, бачылі яго, калі вагон праходзіў па пераездзе, і Пятрушка клікаў бацьку дамоў, да маці, а ён пазіраў на іх няў-

важліва, думаў пра іншае і не пазнаў тады сваіх дзяцей.

Цяпер Пятрушка і Насця беглі далёка ззаду цягніка па пясчанай дарожцы паўз рэйкі; Пятрушка па-ранейшаму трымаў за руку маленькую Насцю і валачыў яе за сабою, калі яна не паспявала бегчы нагамі.

Іваноў кінуў рэчавы мяшок з вагона, а пасля спусціўся на ніжнюю прыступку вагона і сышоў з цягніка на тую пясчаную дарожку, па якой беглі ўслед за ім яго дзеці.

*1946*

## Павел Бажоў

# АМЕТЫСТАВАЯ СПРАВА

Не пра людзей, пра сябе гаварыць буду.

У тыя гады, як народ валам у калгасы паваліў, я ўжо ў немаладых гадах быў. Замест русае чупрыны плеш на ўсю галаву вылез. І старая мая не маладзіцаю глядзелася. Некалі, бывала, песеннаю машынкаю называў яе, а цяпер накшталт тачыльнага станка стала. Точыць і точыць мяне: таго няма, гэтага не хапае.

— У людзей гаспадары пра ўсё паклапоцяцца, а ў нас як прыпляцецца ды ў лазні выпарыцца, дык і на бакавую. І ні пра што не падумае!

На той час мы з ёю ўдваіх асталіся. Малодшых дачок паўладжвалі, а трое сыноў даўно аддзяліліся, кожны сваю гаспадарку меў. Старая і тут мяне вінавацілa, што ў хаце пуста стала.

— Праз цябе гэта! Праз тваё няшчаснае рамяство!

— Чым,— пытаюся,— маё рамяство нашкодзіла?

— Ведама,— адказвае,— чым. У кожнай хаце старыя гаспадарку вядуць, зямлю аруць, жыта сеюць, маладым распарадак даюць, а ты што? Да старасці розуму не набраўся. Бегаеш па каменных ямах. А дома госцем бываеш.

Я, зразумела, угаворваў яе:

— Жывём усё-такі. Дзяцей выгадавалі. З торбамі ніхто не хадзіў. Не лежань, бачыш, я ў цябе: зарабляю вунь колькі. Што яшчэ трэба?

Старая, ведама, сваё чаўпе:

— Па тваёй працы нам бы ў мураваным доме жыць, а мы гэтай хаціны хоць збольшага падправіць не можам. Сцены, зірні, свіцяцца ўсе, дый печка скора паваліцца. Гаспадар! А ўсё таму, што зямлі выракся. У вёсцы век пражылі, а курам авёс куплёны! Дзе гэта чута?

— Дурніца ты! — кажу.— Я, бач, дарагі тавар здабываю. Гэта табе не авёс — дзе пасееў, там і вырасце. Шукаць даводзіцца. Затое трапіцца, дык за тры вазы твайго аўса ў кашальку прынясеш.

— Не прыпомню,— адказвае,— такога выпадку, каб ты па тры вазы аўса ў кашальку прыносіў. Не пры мне, відаць, было такое. Часцей з пустым прыходзіў. Помніш — жаліўся: «Не пашэнціла мне, Мар'ячка, на гэтым тыдні. Нічога, лічы, не здабыў». А я дык здуру яго суцяшала: «Не бядуй, Іванка! Не кожны дзень сонейка, бывае і халепа». Забыўся пра гэта?

— А помніш,— зноў пытаюся,— тую шчотачку каменьчыкаў, на якую мы карову купілі? А той каменьчык, што на Васілёву жаніцьбу хапіла? Ды ці мала ў мяне вясёлых знаходак бывала!..

— Не забыла,— кажа,— і гэта. Як знойдзеш што весялейшае, дык і звалачэшся ў горад збываць дый бадзяешся там бог ведае колькі, а я тут б'юся-таўкуся з дзецьмі ды пра цябе думаю, хоць бы не забілі. Не, адна пакута тваё рамяство!

Адным словам, не згаворышся з ёю. А біць яе, як другія рабілі, у мяне ў завядзёнцы не было, дый не такога мы лёсу, каб пра гэта нават падумаць. Ведаў я, што яна аднаадненькая на ўсім белым свеце мяне шкадавала дый цяпер папраўдзе шкадуе. Бурчыць-бурчыць, а лазеньку дзеля мяне, нябось, зранку напепліць, перамыўку падрыхтуе, кусок смачнага знойдзе, а калі і словам суцешыць. Помню яе прыгаворку: «Не бядуй, Іванка, не ўсё сонейка, бывае і халепа!» Другая на яе месцы даўно б ад мяне пайшла, а мы з ёю трох сыноў ды дзвюх дачок выгадавалі, і ні з кога з іх людзі не смяюцца. Прызнацца, і тое было, што за сабою віну чуў. Старая мая праўду казала. Рамяство маё — і правільна — і да месца прыйшлося.

Вёска наша, як па-даўнейшаму лічыць, да Ірбіцкага павета належала. Людзі тут скрозь жыта сеялі ды каноплі крыху. І жывёлу таксама гадавалі. Бацькі мае, ад якіх мне гэтая хата ў спадчыну перайшла, былі прыродныя аратыя, ды абое, на маю бяду, у маладыя гады памерлі, пакінулі мяне малога на горкае сіроцкае жыццё. Пра гаспадарку, ведама, і гаварыць няма чаго: яе развалаклі ўсю дабрадзеі тыя, у якіх я спачатку карміўся, а потым працаваць стаў. Спіну гнуць на чужога дзядзьку нідзе не соладка, а ўсё ж лепей, калі не ў сваёй вёсцы. Я і выбраўся на прыіскі, дзе золата ды каменьчыкі здабывалі. Недалёка ад нас гэтая мясціна. На прыісках я і атрымаў гэтую каменную заразу.

З усіх камянёў найболей мне аметыст палюбіўся. Камень не вельмі дарагі, з самых вядомых, а нечым забавіў

мяне. Дый як завабіў! Бывала, здабудзеш шчотачку і ведаеш, што найбольшая цана ёй рублёўка, а любуешся на цэлую дзесятку ды яшчэ шкадуеш, што здаваць давядзецца.

Як сталы стаў, дамоў пацягнула. Дай, думаю, пакажуся сваім вяскоўцам, каб ведалі, што не згінуў. Дый на хату бацькоўскую паглядзець хочацца — зусім развалаклі яе мае дабрадзеі ці трохі пакінулі. Прыйшоў у самае вясновае свята. Бацькоўская хата была зусім цэлая. Дабрадзеі, бачыш, усе на яе нацэліліся, адзін аднаму не давалі развалакаць,— так і ўцалела хата. Агледзеў я, бачу: не вялікае дабро, але жыць можна. Пайшоў потым на гульбішча, за вёску, дзе карагоды вадзілі. Вясковыя хлопцы мяне за чужака палічылі, натаўчы хацелі, але падступіцца баяліся. Бачыш, які ўрадзіўся. На днях вунь Колька, унучак мой ад старэйшае дачкі, казаў: «Дзядуля! У цябе рукі, калі расставіш, як аэрапланава крыло». Так і ёсць. На хаду незнарок магу чалавека з ног збіць. Нездарма ў поцемках з дарогі саступаюць. Думаюць, ці не званіца па зямлі пайшла. Вось хлопцы і не ведалі, як падступіцца. Ну, я не стаў да бойкі даводзіць, сказаў, што я за чалавек. З гэтай нагоды, ведама, выпілі. Пакрысе, бо прыхільнасці да гэтага я не маю. У свята калі дзеля весялосці вып'ю шклянку-другую, а каб дап'яна напівацца,— гэтага ў мяне не было ніколі.

У той самы вечар я са сваёю цяперашняю старою сустрэўся. Доля яе горшаю за маю здалася. Маці з ёю прахадам па нашай вёсцы ішла ды на адзіноце і памерла. Гадоў ёй тры-чатыры было, калі маці пакінула. Толькі і ведала, што завецца Маша, а чыя, адкуль — так і не даналіся. Пры нябожчыцы папер не было ніякіх. Каб суд ды паліцыя не наехалі і вёску не спустошылі, ціпком пахавалі гэтую падарожніцу, а дзеўчаня багатаму мужыку ў дочкі аддалі. І пайшло далей нібыта ў казцы.

Расла Насця — білі часта, вырасла Настасся — пайшла па напасцях ды без перадышкі. Ад аднае адаб'ецца, другая наваліцца. Думала-думала, наважылася з белым светам развітацца, ды на дарозе кучаравец трапіўся. Паглядзела дзеўка на незнаёмага хлопца, а ён і кажа: «Не спяшайся, красуня, да таго, пастой з гэтым. Не пакаешся! Галавою ручаюся, а яна, бачыш, кучаравая. У пустой гульні такую не паставяць». Дзеўка і прыпынілася. Пагамапілі трохі, па другі дзень зноў сустрэліся. Так і пайшло, а неўзабаве, бач, і вяселле згулялі.

У нас з Мар'ячкаю якраз па гэтай казцы і выйшла. Адразу пачулі, што наш лёс па адной дарозе пайшоў. Разважаць доўга не сталі, пайшлі ў царкву: абвянчацца хочам. Нам спачатку адмовілі: нельга, бо невядомыя гады нявесціны. «Як, кажу, невядомыя, калі яна ў гэтай вёсцы вырасла, на вачах ва ўсіх?» — «Гэта,— адказваюць,— мала значыць, што на вачах расла. Папера патрэбна, у які дзень яна нарадзілася і якіх бацькоў дачка». Ну, бачу: словамі тут нічога не дамажашся. Аддаў ім два каменьчыкі самыя прывабныя. Тады знайшлі выйсце, запісалі на таго багатага мужыка, якому спярша яе ў дочкі аддалі. І стала мая Мар'ячка Апанасаўна, дарма што той Апанас самым лютым ворагам ёй стаў. Ну, такое бяды.

Абвянчалі нас, і паявілася ў вёсцы новая пара: Іван Даўган ды Мар'я з Голага поля. Сілы ды здароўя нам абаім у людзей не пазычаць. Хацелі спярша гаспадарыць, як другія нашы вяскоўцы. Кароўку купілі, пару авечак прыдбалі, курэй штук некалькі. Пры бацькоўскай хаце гарод быў вялікі. Платы паправілі, засадзілі ў пару. Мясціны ў нас не цесныя. Накасіць травы не тое што на адну карову, а і на дзве-тры пры маіх руках, шчыра кажучы, гэта раз плюнуць. Усё было б добра, ды на кані спаткнуліся. Па часе, можа, каня агаралі б, ды прыбаўка да яго вялікая трэба: воз ды сані, збруя ды снасць усялякая. Без дабрадзеяў ніяк не абыдзешся, а яны, гэтыя дабрадзеі, нам з Мар'ячкаю дорага каштавалі. Так у нас поўнае гаспадаркі і не выйшла.

Упёк я зноў на прыіскі працаваць. Праўду сказаць, і камень цягнуў мяне. Не ўмею табе растлумачыць, у чым тут сіла, а цягнуў. Нібыта не прагны я, на вялікае багацце ніколі не кваліўся, а здабыць новы каменьчык хочацца. Ну, і прыіскавыя людзі неяк бліжэй за вясковых сталі.

Так мы з Мар'ячкай і жылі. Памагаў я ёй у гародзе пасадзіць і сена накасіць. Зімамі таксама крышку, а болей на прыісках калаціўся. У грамадзянскую вайну пайшоў з прыіскавымі ў полк «Чырвоныя Арлы». За вайну мяне ранілі ў нагу пры перабежцы ў ланцугу. У мяккае трапіла. Скразная рана, пусцяковая. Праз месяц зноў стрэльбу ў рукі ўзяў.

Як дабілі Калчака, дахаты вярнуўся, і той самы парадак у нас павёўся: у вясковыя справы не ўнікаў, усё на прыісках ды на прыісках. Як калгасы ствараць сталі, мы з Мар'ячкаю і апынуліся ні пры чым. Не бракавалі, ведама, бо сям'я працоўная, бясконная, і сам на вайне дабра-

вольцам быў. Запрашалі нават, ды як пойдзеш, калі ты не цесляр, не муляр, не шавец, не кравец, а з усіх сельскіх работ адно ўмееш — касіць ды стагі кідаць. У Мар'ячкі большы навык. Яна і цялят гадавала, і птаства даглядала, і капусту добрую вырошчвала. Такую работніцу з радасцю прынялі б, ды хіба яна без мяне пойдзе?

Спачатку ў калгасе тутэйшым нямала сумятні было. Кулакі ўсялякую гадасць чынілі. Да мяне нават адзін пагаварыць прыбягаў, ды я гэтых дабрадзеяў з маленства зразумеў. Так на яго цыкнуў, што болей ніводзін з такіх да мяне не сунуўся. Потым, як кулакоў выселілі, справа пайшла намнога лепей. Усе дзеці нашы, безумоўна, з першых гадоў у калгас запісаліся. Меншы — ён паспеў падвучыцца трошкі — паляводам стаў; большы — ён у мяне ў грамадзянскую вайну кавалерыстам быў,— дык яго конным дваром ведаць прызначылі; сярэдні пры машынах стаў, бо ён раней у кузні працаваў; абедзве дачкі таксама пры справе. Толькі мы са старою, як дзве галкі на прасле ў непагодлівы дзень увосень: самім крыўдна і збоку на нас глядзець маркотна.

Вось тут старая і ўзялася тачыць мяне. Дзеці таксама ўгаворвалі. Асабліва меншы Пятруха стараўся:

— Кінь ты, тата, сваімі каменьчыкамі займацца! Вузенькая гэта справа, дробная, іншы раз і зусім на пустую сходзіць.

— Як,— кажу,— так?

— Вельмі,— адказвае,— проста. Ці многа людзей твой каменьчык убачаць? Ды ці кожны разбярэцца, што тут краса ёсць? Вось і выходзіць, па вузкай сцежачцы твой каменьчык ідзе. Мала каму радасці прыносіць. А напустую часцей выходзіць. Адзін, які разумее, знойдзе — палюбуецца, другі, які разумее, аграніць — таксама палюбуецца, а дастанецца той каменьчык дурню, якому ні да чога няма справы, абы толькі блішчала. Пафарбаваную паперку падкласці пад шкло — яму і гэта добра.

— Гэта,— згаджаюся,— бывае, ды не ў тым сіла, камень сам мяне цягне.

Тлумачу яму, а ён па-свойму разумее:

— Гэтаксама струмень з сарціроўкі бяжыць. Чым ён гусцейшы ды зерне паўнейшае, тым прыгажэй. Глядзеў бы, не адыходзіў!

Утлумачваю яму, што ў нашай справе галоўнае — асобіна каменя. У адным сіняга болей, у другім — чырвонага, трэці жаўціць мацней, а розніца ёсць. Ад аднае шчоткі

адламі, дык і то, на прывычнае вока, адрозніць можна.

— Калі прыгледзецца,— адказвае Пятруха,— і ў зерні такое заўважыш. Адно ў адно ніколі не сыдзецца. На тым і гатунковая справа пастаўлена. А калі табе ўжо так палюбілася на сіне-пунсовае з жоўтым глядзець, дык і гэта знойдзем.

— Дзе,— кажу,— такое ў вашай калгаснай справе?

— А вось нядаўна пасылалі мяне на Краснауфімскую насенную станцыю па канюшыну. Бачыў я там, як з-пад «кускуты» — машына ёсць такая — сіне-пунсовы струменьчык бег. Куды твайму аметысту! Ого, канюшына ў іх! У нашых мясцінах на такое насенне ўзбіцца не могуць. У нас найболей бурае, падчырвоненае, насенне выходзіць, а ў іх сіняга многа. Таму і называецца краснауфімская фіялетавая. З гатункаў гатунак! На ўсю краіну славіцца.

Тут і пачаў Пятруха пра канюшыну расказваць. Любіў ён пра гэта гаварыць. Ну, адукаваны, словы падбіраць навучыўся, паслухаць люба, дый ад душы расказваў пра сваё жывое. У канцы пахваліўся:

— Будзе і ў нас аметыставае насенне! Тады і ўбачыш, лепшы ці горшы жывы насенны струменьчык проці твайго сіне-пунсовага каменьчыка.

Потым спахапіўся:

— Пачакай! Мне ж зноў скора ехаць на насенную. Паедзем са мною. Паглядзіш.

І што ты думаеш? З'ездзіў я, бачыў гэту самую «кускуту». Машына як машына. Сіты ды валікі. Разумна прыдумана, каб куколь і іншае пустазелле адганяць. Ды не ў гэтым справа. Не прывучаны я ў машынах разбірацца. А вось як пайшоў па латаку сіне-пунсовы з жаўцінкаю струмень, дык і вачэй адарваць я не мог. Нібыта самы найлепшы камень, ды яшчэ з такімі пераліўамі, якіх мне бачыць не даводзілася.

Ну, а кончылася гэта тым, што нас са старою прынялі ў калгас. Не наводшыбе ад людзей цяпер жывём, а спецыяльнасць мая называецца — канюшыннае насенняводства.

Дамогся-такі я фіялетавага насення! Мы, горцы, назіральныя. Без гэтага нам нельга. А канюшына што? Той самы дзяцельнік. У нашых мясцінах дзікі расце, і белы, і чырвоны. Бывала, на перадышцы ляжыш на траве, разатрэш з паспелае кветкі шышачку і бачыш, што насенне рознае: адно паўнейшае, другое драбнейшае. Пачынаеш разбірацца, чаму такое? Яшчэ сашчыкнеш адну-дзве шышачкі з другіх кустоў. Яно і відно стане: на якім кусце

шышак меней, там і насенне паўнейшае. Вось я і стаў потым, як у калгасе да гэтае справы падышоў, лішнія шышачкі абрываць. Спярша, зразумела, на малым кавалачку, на адной градцы. Бачу: добра пайшло, пашырацца з гэтым стаў, а тут і выбранае ўручную насенне пачало даваць плён. Цяпер у нас калі струмень канюшыны пры ачыстцы бяжыць — залюбуешся. Знарок людзі прыходзяць, каб на яго паглядзець. Пра мяне і гаварыць няма чаго. Як малы, чакаю гэтых дзён. А справа ж ого якая!

На днях вунь новы палявод — Пятруха наш загінуў на вайне з праклятымі фашыстамі — чытаў на сходзе, што на канец пяцігодкі па нашай краіне пад укос павінна пайсці нешта болей за дваццаць мільёнаў гектараў шматгадовых траў. Падумай, колькі спатрэбіцца насення. А канюшынка ж — яна ўсім травам трава. Не толькі зверху багацце дае, а болей таго ў зямлі назапашвае. Насеннечка дарагое! А наша яшчэ даражэйшае, бо не бурае, не чырванец, а сіне-пунсовае, аметыставае.

Вось і выходзіць, што я пры аметыставай справе астаўся, толькі цяпер мая старая не бурчыць, а пахвальвае:

— У самы раз, Іванка, прыдумаў! Гэта і Пятруху нашаму памяць, бо ён заўсёды пра канюшыну клапаціўся, дый справа размашыстая. Не пара тваім каменьчыкам!

Гэта яна, папраўдзе, дарэмна пра каменьчыкі так разважае. Не разумее старая, дый нябожчыку Пятруху не ўмеў я ўтлумачыць, што камень ніколі сябе не страціць і сіла тут не ў адной красе. Вайна вунь, кажуць, паказала, што нават каменныя адходы, якіх у агранку не бралі, на вялікую справу спатрэбіліся. Ну, я пра гэта маўчу. Не варушу мінулага. У адным старая не памыляецца — вельмі ўжо гэта шырокая справа і ў глыбіню далёка ідзе. Шчыра кажучы, зямлю маладзіць. І вачам уцешна на жывы аметыставы струмень паглядзець. Быццам усе аметысты, якія здабыў за сваё жыццё, перад табою праходзяць, дый тыя бачыш, якія ў гарах асталіся.

*1947*

## Канстанцін Паўстоўскі

# ШЫПШЫНА

Ноччу над ракой апусціўся туман. Параход не мог ісці далей: з-за туману не відно было ні бакенаў, ні перавальных агнёў.

Параход прыткнуўся да крутога берага і заціх. Толькі раўнамерна парыпвалі сходы, перакінутыя на бераг. Па гэтых сходах матросы завялі чал і прымацавалі яго вакол старое ракіты.

Маша Клімава прачнулася сярод ночы. Вакол была такая цішыня, што чулася, як у дальняй каюце хроп пасажыр.

Маша села на ложку. Праз адчыненае акно лілося свежае паветра, патыхала саладкаватасцю вербняковай лістоты.

Кусты, невыразныя ад імглы, навісалі над палубай. Машы здалося, што параход немаведама як апынуўся на зямлі, у гушчары хмызняку. Пасля яна пачула лагоднае цурчанне вады і здагадалася, што параход спыніўся каля берага.

У хмызняку штосьці цёхнула і заціхла. Потым цёхнула зноў. І зноў заціхла. Як быццам хтосьці, цёхнуўшы, прыслухоўваўся, выпрабоўваў на гук цішыню, начное водгулле. Неўзабаве цёханне перайшло ў доўгі пераліў і абарвалася кароткім свістам. На свіст адразу ж адгукнуліся дзесяткі птушыных галасоў, і раптоўны салаўіны рокат пракаціўся па зарасніку.

— Чуеш, Ягораў? — спытаўся нехта наверсе, відаць, на капітанскім мосціку.

— Такое салаўінай магутнасці нават на Шаксне не было,— адказаў знізу хрыплаваты голас.

Маша ўсміхнулася, выцягнула перад сабою рукі. Яны здаваліся вельмі смуглымі ў цьмяным начным святле — толькі пазногці на пальцах бялелі.

— І чаго гэта мне сумна, не разумею? — ціха спыталася Маша.— Чакаю чагосьці? А чаго, і сама не ведаю.

Яна ўспомніла бабуліна прастарэкванне пра тое, што ёсць на свеце незразумелы дзявочы сум, і сказала:

— Лухта! Які там дзявочы сум! Проста ў мяне пачынаецца сваё жыццё. Таму вось і страшна трошачкі.

Маша нядаўна скончыла лясны інстытут і ехала цяпер з Ленінграда на Ніжнюю Волгу на працу — садзіць калгасныя лясы.

Маша, вядома, хітравала сама перад сабой, калі думала, што ёй страшна толькі трошачкі. Ёй было добра-такі страшна. Яна ўяўляла, як прыедзе на лясны ўчастак і начальнік — абавязкова запылены, пануры чалавек у чорнай куртцы з адцягнутымі кішэнямі, у заляпаных глінаю ботах — паглядзіць на яе, на яе шэрыя вочы («Проста сподачкі алавяныя»,— думала пра свае вочы Маша), на косы і падумае: «Як чароўна! Не ставала нам толькі дзяўчынак з коскамі! Будзе нам тут, вядома, пра свае падручнікі. А нам не да гэтага! Як дзьмухане сухавей-«астраханец», дык твае падручнікі, мілая, тут табе не памогуць».

У доўгай дарозе Маша прывыкла да думкі пра панурага начальніка ў чорнай куртцы і перастала яго баяцца. А сум усё-такі не праходзіў.

Маша не ведала, што гэта зусім не сум, а тое пачуццё, якому, бадай, няма яшчэ дакладнай назвы,— заміранне сэрца перад невядомай будучыняй, перад простай красой зямлі з яе рэкамі, туманамі, глыбокімі начамі і пошумам прыбярэжных вербаў.

Сон не прыходзіў. Маша апранулася, выйшла на палубу. Усё было роснае — поручні, драцяная сетка ўздоўж борта і плецены крэслы.

На баку чуўся прыглушаны гоман.

— А я яму кажу,— расказваў малады матрос.— «Дзед, чуеш, дзед, пакінь мне пакурыць». Ён даў мне недакурак. Я зацягнуўся і пытаюся: «Што ты тут, дзеду, робіш ноччу, на лузе?» — «Зару, — кажа, — вартую. — А сам смяецца.— Можа, гэта апошняя зара ў маім існаванні. Табе,— кажа,— гэтага не зразумець. Ты хлопец малады».

Матросы змоўклі. У зарасніку зноў азваліся салаўі.

Маша абаперлася локцямі на поручні. Далёка ў цемры дружна загалёкалі пеўні — там, за імглой, была, відаць, вёска.

«Якія ж гэта пеўні? Першыя ці другія?..»

Маша падумала, што не ведае, калі пяюць першыя, а

калі другія пеўні. Колькі разоў чытала пра гэта ў кнігах, а вось і не ведае.

Паехаць параходам Машы параіла бабуля, удава рачнога капітана. Маша была рада, што паслухалася. Параход ішоў спачатку па чорна-сіняй Няве, пасля перасек Ладагу. Маша ўпершыню ўбачыла яе шэрую ваду і каменныя маякі на нізкіх мысах. Убачыла бурлівую Свір, шлюзы на Марыінскім канале, берагі, парослыя хвашчом, нязменных хлапчукоў на прыстанях, засяроджаных верхаводачнікаў з крывымі вудзільнамі.

Спадарожнікі мяняліся, але ўсе яны здаваліся Машы цікавымі. У Белазёрску сеў на параход малады яшчэ лётчык з сівымі скронямі. Ён адпачываў, відаць, у Белазёрску, у маці — худзенькай старой у шэрай паркалёвай сукенцы. Яна ціхенька плакала на прыстані, праводзячы сына, а лётчык гаварыў ёй з палубы:

— Ты не забудзься, мама: я тую рыбу, што налавіў, павесіў у пагрэбніку, за драбінамі. Ты аднаго акуня дай Ваську.

— Не забудуся, Паша, нізашто не забудуся,— ківала галавой старэнькая, выціраючы слёзы згорнутай камячком хусцінкай.

Лётчык усміхаўся, жартаваў, але глядзеў на старэнькую не зводзячы вачэй. Шчака ў яго дрыжала.

Пасля на параход селі акцёры. Яны голасна гаманілі, вастраславілі, адразу ж пазнаёміліся з усімі пасажырамі. У салоне цяпер амаль не моўкла адсырэлае ад рачных туманоў піяніна.

Адзін пажылы акцёр, з вострым тварам, жвавы, спяваў часцей за іншых. Маша здзіўлена слухала яго песні — дагэтуль яна ніводнай такой песні не ведала. Асабліва часта акцёр спяваў польскую песеньку пра закаханага злодзея, якому не ўдалося ўкрасці каханай дзяўчыне зорку з начнога неба, і дзяўчына яго за гэта прагнала.

Кожны раз, калі акцёр канчаў гэтую песню, ён гучна закрываў піяніна і гаварыў:

— Мараль гэтай песні ясная. Спагадайце тым, хто кахае. Не пярэчце! Гутарцы нашай канец.

Ён папраўляў чорны гальштук-«бабачку», сядаў за столік і заказваў сабе піва і воблу.

У Чарапаўцы на параходзе з'явілася некалькі студэнтаў архітэктурнага інстытута. Яны вярталіся ў Маскву з Кірыла-Белазёрскага манастыра. У манастыр яны

ездзілі на практыку — рабіць абмеры і замалёўкі старадаўніх будынкаў.

Усю дарогу студэнты спрачаліся пра каменную разьбу, скляпенні, Андрэя Рублёва і пра вышынныя дамы ў Маскве. Маша, слухаючы іх, толькі чырванела за сваё невуцтва.

Калі на параходзе з'явіліся студэнты, пажылы акцёр неяк прыціх, перастаў спяваць песеньку пра злодзея і ўвесь час сядзеў на палубе, чытаў Станіслаўскага «Маё жыццё ў мастацтве». Чытаючы, ён надзяваў акуляры. Ад гэтага твар яго рабіўся добры і стары. І Машы ясна стала, што ўсе напышлівыя акцёрскія тырады — застарэлая прывычка і што чалавек гэты значна лепшы, чым хоча здавацца.

Цяпер усе пасажыры спалі — і лётчык, і акцёр, і студэнты. Адна Маша стаяла на палубе і слухала гукі ночы, намагаючыся іх разгадаць.

Далёкі гук узнік у небе і паволі заціх. Відаць, над туманам прайшоў начны самалёт. Пад берагам плёхнула рыба, а потым недзе воддаль заспяваў пастухоў ражок. Ён спяваў так далёка, што спачатку Маша не магла зразумець, што гэта за працяглыя і прыемныя гукі.

Хтосьці чыркануў запалкай за плячыма ў Машы. Яна азірнулася. Ззаду стаяў лётчык і закурваў папяросу. Запалку з агнём ён кінуў у ваду. Яна паволі падала праз імглу. Вакол агеньчыка ўтварылася вясёлкавая пара.

— Салаўі спаць не даюць,— сказаў лётчык, і Маша, не бачачы, здагадалася, што ён усміхаецца ў цемры.— Проста як у песні: «Соловьи, соловьи, не тревожьте солдат — пусть солдаты немного поспят...»

— Я ніколі яшчэ не чула такіх салаўёў,— сказала Маша.

— Паездзіце па Савецкім Саюзе — яшчэ не тое будзеце ведаць,— адказаў лётчык.— Такая краіна і ў сне не заўсёды прысніцца.

— Гэта таму, што вы лятаеце,— сказала Маша,— і зямля ўвесь час мяняецца ў вас пад крылом.

— Не думаю,— адказаў лётчык і надоўга змоўк...— Світае,— сказаў ён нарэшце.— Пасінела на ўсходзе... Вы куды едзеце?

— У Камышын.

— Ёсць такі гарадок на Волзе. Спёка, кавуны, памідоры...

— А вы куды?

— Я далей.

Лётчык абапёрся на парэнчы і глядзеў, як разгараецца світанне. Пастухоў ражок спяваў ужо бліжэй. Узняўся вецер. Туман заварушыўся. Яго панесла клоччам над ракою. Сталі відаць мокрыя кусты і сярод іх сплецены з вярбы будан. Каля будана курылася вогнішча.

Маша таксама глядзела, як світае. На пазалацелым небакраі гарэла, як кропля сярэбранай вады, апошняя зорка.

«Ад сённяшняга дня,— падумала Маша,— буду жыць зусім інакш. Раней я нічога не заўважала як след. А цяпер буду ўсё заўважаць, запамінаць і берагчы ў сябе на сэрцы».

Лётчык азірнуўся на Машу.

— Задумалася дзяўчына,— прамармытаў ён, адвярнуўся, але адразу ж зноў паглядзеў на яе.

Ён успомніў словы з даўно прачытанага рамана, што няма нічога лепшага на свеце, чым вочы дзяцей і дзяўчат уранні — у іх яшчэ цямнее ноч, але ў той жа час паблісквае ўжо ранішняе святло.

«Гэта, бадай, не так ужо і дрэнна сказана»,— падумаў лётчык.

З мосціка збег абветраны памочнік капітана ў брызентавым плашчы.

— Не спіцё? — гукнуў ён весела да Машы.— Праз гадзіну пойдзем далей. Можаце сысці на бераг, пагуляць.

— А што ж, і пайду,— сказала Маша лётчыку.— Кветак, дарэчы, нарву.

— Ды яно так,— згадзіўся лётчык,— хадзем.

Яны сышлі па хісткіх сходах на бераг. З будана вылез стары, відаць, той самы, што вартаваў ноччу зару. Тут над туманамі ўзышло сонца.

Травы стаялі навокал цёмна-зялёныя, нібы глухія глыбокія тоні. Ад іх яшчэ патыхала рэзкім холадам ночы.

— Што ты тут робіш, дзед? — спытаўся лётчык у старога.

— Кашы пляту,— адказаў стары і вінавата ўсміхнуўся.— Пляту сабе памаленьку. Венцяры, кашы на калгасную бульбу, кошыкі... А вы што? Лугам зацікавіліся?

— Ды вось хочам паглядзець.

— Во якія быстрыя! — засмяяўся дзед.— Я тут семдзесят гадоў пражываю, на гэтым лузе, дый то ўсяго не наспеў паглядзець. Ідзіце па гэтай во сцежцы да ясакара. Далей не ідзіце. Далей трава такая, што з галавой схава-

ешся — расою вас так залье, што за ўвесь дзень не абсохнеце. Там расу можна збанкамі браць і піць.

— А ты яе піў? — спытаўся лётчык.

— А няўжо ж! Лякарства.

Маша з лётчыкам памалу пайшлі па сцежцы. Маша прайшла некалькі крокаў да таго месца, дзе сцежка абкружала высахлы ясакар, і спынілася.

Абапал сцежкі высокімі і крутымі сценамі стаяла шыпшына і цвіла такім ярка-чырвоным і вільготным агнём, што нават ранняе сонечнае святло, якое падала на лісце, побач з кветкамі шыпшыны здавалася халодным і бледным. Кветкі шыпшыны як быццам назаўсёды аддзяліліся ад калючых галінак і вісяць у паветры, як яркае маленькае полымя. У гушчары шыпшыны заклапочана гулі чмялі, чорныя, з залатымі палоскамі на спіне.

— Георгіеўскія кавалеры,— сказаў лётчык.

І сапраўды, чмялі былі падобныя на кароценькія стужкі ад георгіеўскіх медалёў. І паводзілі яны сябе вельмі смела, як старыя ваякі, не звяртаючы ўвагі на людзей і нават злуючы на іх.

Сям-там зараснік шыпшыны перарываўся, і ў прагалінах цвілі стройнымі свечкамі рагулькі, сінія ледзь не да чарнаты. За імі ў нечуванай гушчыні ўздымалася, рухомастракатая ад сонца, раскоша зеляніны і кветак: чырвоная і белая дзяцеліна, павіліца, беленькі цюцюпан, дзікая мальва з празрыстымі на святле ружовымі пялёсткамі і сотні іншых кветак, назваў якіх ні Маша, ні лётчык не ведалі.

Перапёлкі з трэскам вырываліся з-пад ног. Схаваўшыся ў сырым карчэўі, рыпеў, з усіх пакепліваючы, драч. Жаваранкі трапятліва ўздымаліся ў вышыню, але звон іх чамусьці не супадаў з тым месцам, дзе яны віліся ў небе,— ён, здавалася, даходзіў сюды ад ракі. Там, кашлянуўшы дзеля прачысткі голасу, загуў параход, клічучы Машу і лётчыка назад.

— Што ж гэта тут? — гаварыла разгублена Маша, гледзячы на кветкі.— Што ж гэта?..

Яна спяшаючыся нарвала аберуч цэлыя ахапкі кветак. Параход загуў другі раз, цяпер патрабавальна і сярдзіта.

— Дык што ж гэта тут! — сказала Маша нездаволена, павярнулася туды, дзе над зараснікам струменіў дым з параходнага коміна, і крыкнула: — Зараз! Ідзём!

Яны хутка пайшлі да парахода. Сукенка Машына прамокла і хвастала яе па нагах. Косы, укладзеныя на паты-

ліцы вузлом, расплялісся і апалі. Лётчык ішоў ззаду. На хаду ён паспеў зрэзаць нажом некалькі галінак шыпшыны з кветкамі.

Матросы, якія чакалі іх, каб зняць сходы, цікнулі на ахапкі кветак, сказалі:

— Во, ірваць дык ірваць! Усе лугі агалілі. Ну, давай, Сямён, разам!

Памочнік капітана сказаў з мосціка:

— У салон нясіце кветкі. Усім пасажырам!..— І гукнуў у рупар: — Наперад найменшы!

Цяжка павярнуліся колы, пліцы ўспенілі ваду, і бераг адплыў у пошуме хмызнякоў.

Машы шкада было расставацца з гэтым берагам, з лугамі, з буданом і дзедам, майстрам на кашы. Усё неяк адразу стала ёй тут роднае, нібы яна тут вырасла, а гэты дзед гадаваў і навучаў яе.

«Дзіўна,— падумала Маша, ідучы па трапе наверх, у салон,— я ж не ведаю нават, у якой вобласці, у якім раёне, каля якога горада мы цяпер».

У салоне было чыста і холадна. Сонца яшчэ не нагрэла паліраваныя драўляныя сцены, столікі і арэхавае піяніна.

Маша пачала разбіраць і расстаўляць кветкі ў вазах. Лётчык прынёс з ніжняй палубы свежай вады ў вядры.

— У мае матулі ў Белазёрску,— сказаў лётчык, памагаючы Машы расстаўляць кветкі,— ёсць маленькі сад. Але кветак процьма. Асабліва аксамітак.

— Вы добра адпачылі ў Белазёрску? — спыталася Маша.

— Нішто сабе. Чытаў, даводзіў да ладу сваё жыццё. А больш там і рабіць няма чаго, у Белазёрску.

— Як гэта «да ладу»? — здзівілася Маша.

— Усё запісаў, што бачыў, рабіў і думаў. Пасля разабраўся, ці правільна я жыў, у чым памыляўся, і падлічыў, чым жыццё ўзбагаціла мяне апошнім часам.

— Ну і як?

— У мінулым цяпер усё ясна. Можна са свежай галавой жыць далей.

— А я вось і не ведала, што так бывае,— сказала Маша і ўважліва паглядзела на лётчыка.

— А вы паспрабуйце,— параіў з усмешкай лётчык,— самі здзівіцеся, якое ў вас акажацца багатае жыццё.

— Брава! — сказаў за плячыма ў Машы знаёмы голас.

Маша азірнулася.

У дзвярах стаяў акцёр з касматым ручніком на плячы.

На ім была сіняя піжама з карычневымі адваротамі на рукавах.

— Брава! — паўтарыў ён.— Люблю ранішнія размовы. Уранні нашы думкі бываюць такія ж чыстыя, як толькі што вымытыя рукі.

— Ды кіньце вы! — сказаў нездаволена лётчык.

— Правільна, усё гэта глупства! — згадзіўся акцёр.— Не злуйцеся. Я незнарок падслухаў вашу гутарку і хачу дадаць да яе адну прыватную драбніцу. Адну неабвержную ісціну. Я дакапаўся да яе ў самым, можна сказаць, канцы свайго жыцця.

— Што ж гэта за вялікая ісціна? — спытаўся лётчык.

— «Я не люблю іроніі тваёй»,— сказаў акцёр знарок атлусцелым голасам дрэннага чытальніка і засмяяўся.— Ісціна простая. У кожным дні жыцця ёсць што-небудзь добрае. А часамі і паэтычнае. І калі вы даводзіце да ладу, як вы мелі ласку сказаць, сваё жыццё, вы міжволі ўспамінаеце галоўным чынам той яго паэтычны і разумны змест. Гэта цудоўна! І дзіўна! Усё навокал нас напоўнена паэзіяй. Шукайце яе. Вось вам мой старэчы наказ у дарогу — на векі вякоў. Не пярэчце. Гутарцы нашай канец.

Акцёр пайшоў, пасміхаючыся, а Маша задумалася, што і сапраўды ўсё навакол і вельмі простае і адначасна незвычайнае. У Ленінградзе, у інстытуце, гэта не так заўважалася, як цяпер, у дарозе. Магчыма, гэта і была тая раней схаваная, а цяпер адкрытая ёй часціна паэзіі, што ёсць у кожным дні існавання.

На Волзе кожны дзень дзьмуў вецер. Па рацэ і па бартах парахода пралятала, пераліваючыся хвалямі, паветраная сінеча. Машы здавалася, што вецер гулліва праносіць перад ёю ўсе гэтыя летнія дні, адзін за адным.

Вечарамі вецер аціхаў. Рака несла свае хвалі з цемры ў цемру. Толькі параходныя агні вырывалі з гэтай чарнаты невялікае кола асветленай вады.

Машы было добра і часамі журботна. Яна ніяк не магла паверыць, што яе новае жыццё, пачаўшыся так харашо, можа стаць іншае.

У Камышыне Маша сышла. Вецер нёс над Волгай жоўтую імглу.

Лётчык і акцёр выйшлі на прыстань праводзіць Машу.

Маша разгублена развіталася з лётчыкам. Лётчык, не ведаючы, што рабіць, вярнуўся на параход, спыніўся каля борта і глядзеў адтуль, як акцёр развітваецца з Машай.

Акцёр зняў капялюш, узяў Машыны рукі, паглядзеў Машы ў твар прыплюшчанымі вясёлымі вачыма.

— Вы будзеце шчаслівая,— сказаў ён.— Аднак маё шчасце большае за ваша. Таму што я стары чалавек.

— Пра што вы гаворыце? — спыталася Маша.

— Вы не можаце зразумець таго шчасця, якое дадзена немаладым? — напышліва сказаў акцёр.— Шчасця бачыць слёзы на вачах Дэздэмоны, якая кахае другога.

Ён адпусціў Машыны рукі і, з капелюшом у руцэ, адступіўся да сходаў. Параход даў трэці гудок і адчаліў.

Вецер з ракі, што пахла нафтай, дзьмуў у твар. Нізенькі сівавусы стары тупаў каля Машы і прыцішана гаварыў: «Паднесці вам рэчы, грамадзяначка?» Але Маша не чула яго і не адказвала. Тады нізенькі стары прысеў збоку на драўлянай лаве і закурыў — пачаў чакаць, калі Маша нарэшце супакоіцца.

Праз дзень Маша жыла ўжо далёка ад Камышына, у вагончыку, які цяпер стаяў у стэпе, каля сажалкі з глiністымі голымі берагамі. У гэтым рухомым доме-вагончыку — яго называлі «казёнкай» — жылі работнікі калгаснай лясной пасадкі.

Начальнік участка быў, як аказалася, зусім не запылены і не пануры, а, наадварот, вельмі рухавы і жартаўлівы чалавек. Аднак настрой на ўчастку з першага ж дня, як Маша прыехала, быў неспакойны. Усе хваляваліся з-за новых жалудоў, прысланых для пасадкі,— ці ўзыдуць яны? Хваляваліся з-за сухавею, які набліжаўся з паўднёвага ўсходу,— там, за Волгай, далягляд ужо зацягнуўся шклянiстай імглою. Слова «саланчакі» паўтаралася няспынна. Саланчакі былі самыяназольныя і небяспечныя ворагі маладога лесу — гэтыя мёртвыя лішаі сярод стэпаў, гэтая жоўтая гліна, што на зломах пабліскавала белым водбліскам солі.

Аднойчы Маша, як параіў лётчык, правярала сваё жыццё і выявіла, што яно выразна дзеліцца на тры часткі — жыццё ў Ленінградзе, падарожжа на параходзе і праца ў прыволжскіх стэпах. У кожным такім адрэзку жыцця былі свой харошы змест і свая, як гаварыў стары акцёр, паэзія.

У Ленінградзе быў пакой, адкуль віднеўся захад сонца над Лахтой, былі сяброўкі, інстытут, кнігі, тэатры і паркі. У дарозе Маша ўпершыню зразумела красу мімалётных сустрэч, што глыбока кранaлі душу, а таксама зразумела

красу рачнога рускага прыволля. А тут, у стэпе, яна зразумела вялікі сэнс і сілу свае работы.

І недзе ў самай глыбіні сэрца не памірала памяць пра лётчыка, пра тое, як ён збянтэжана ўсміхнуўся, паскардзіўшыся на салаўёў, як ён глядзеў на яе ў Камышыне з палубы парахода і шчака яго ўздрыгвала, як і тады, у Белазёрску. Чалавек прайшоў міма, і было вельмі шкада.

Маша так часта ўспамінала нядаўняе падарожжа, што аднойчы яно ёй нават прыснілася. Прысніўся густы росны шыпшыннік. Было змярканне. Далікатны маладзічок, як забыты жняёй сярэбраны серп, ляжаў на сінім покрыве ночы. І было так ціха і лёгка на сэрцы, што Маша нават засмяялася праз сон...

Лясныя пасадкі зеленаватай мелкай ракой пераліваліся цераз пагоркі і адыходзілі ў сухія стэпы, дзе над шырокімі шляхамі курыўся чырванаваты пыл.

Было многа работы. Трэба было ўзорваць зямлю паміж маладымі дубкамі, саджаць акацыю. Маша рабіла гэта з асаблівай заклапочанасцю, нават з пяшчотай да маладых дрэўцаў.

Маша загарэла. Косы яе выгаралі на сонцы. Яна стала падобная на стэпавае дзяўчо. Сукенка, рукі, усё вакол прапахла палыном. Палыном пахла таксама ад калматай шкуры чорнага сабакі Нарзана, які вартаваў вагончык, калі ўсе супрацоўнікі ішлі ў стэп на работу.

Вартавалі вагончык Нарзан і сямігадовы хлопчык Сцёпа, сын начальніка ўчастка.

Увесь дзень яны сядзелі ўдвух у цяньку вагончыка і слухалі свіст суслікаў і шум ветру ў карэлай грушы-дзічцы. Яна звінела так моцна, нібы адлітая з бронзы.

У канцы лета на пасадкі напалі тушканчыкі. Яны капалі ямкі каля дубкоў і качаліся ў гэтых ямках у пыле, ратуючыся ад блох. Са Сталінграда выклікалі самалёт-«агароднік», каб рассеяць на пасадках атручаны авёс.

Неяк увечары, калі Сцёпа сядзеў на прыступках вагончыка і абіраў бульбу, Нарзан узняў галаву і забурчаў. Нізка над стэпам, з таго боку, дзе заходзіла сонца, ляцеў, лена пагыркваючы маторам, маленькі самалёт.

Ён праляцеў над вагончыкам, крута завярнуўся, сеў у сухую траву і, пракаціўшыся некалькі крокаў, спыніўся.

З кабіны выйшаў лётчык і пайшоў, зняўшы шлем, да вагончыка. Лётчык быў яшчэ малады, але скроні яго былі сівыя. На куртцы ў лётчыка Сцёпа ўбачыў дзве палоскі ордэнскіх стужак.

Нарзан, замест таго каб аббрахаць лётчыка, залез пад вагончык і пачаў там няголасна бурчаць.

— Здароў, малы! — сказаў лётчык, сеў побач са Сцёпам на прыступцы і закурыў.— Гэта пятнаццаты ўчастак?

— Ага,— нясмела адказаў Сцёпа.— Вы да нас?

— Да вас. Тушканчыкаў буду труціць...

— Во колькі ў вас ордэнаў,— сказаў, падумаўшы, Сцёпа,— а вы тушчанчыкаў труціце. Мы думалі, што да нас прышлюць лётнага вучня.

— Я сам, малы, папрасіўся да вас,— сказаў лётчык і памаўчаў.— Маша Клімава тут працуе?

— Тут,— адказаў Сцёпа і прыжмурыўся.— А чаму?

— А дзе яна?

— Там, у лесе,— Сцёпа махнуў рукой у бок пасадак.

— І сапраўды, лес! — засмяяўся лётчык, устаў і пайшоў не азіраючыся да пасадак.

Сцёпа глядзеў услед яму. Ужо сцямнела, і ў стэпе было дрэнна відаць. Ды ўсё ж Сцёпа ўбачыў, як ішла са стэпу Маша. Лётчык хутка пайшоў насустрач ёй, але Маша да лётчыка не дайшла, яна спынілася і аберуч закрыла твар.

Было ўжо зусім цёмна. Над сажалкай павісла, гледзячыся ў чорную ваду са сваёй агромністай вышыні, бадзячая стэпавая зорка.

«Навошта Маша закрыла твар рукамі?» — падумаў Сцёпа і паўтарыў вясёлыя словы, якія гаварыў часта пра Машу яго бацька:

— Яна ў нас дзівачка!

А Нарзан усю ноч бурчаў з-пад вагончыка на самалёт, які спакойна драмаў сабе на сухой цёплай зямлі.

*1951*

## ЗМЕСТ

**Рускае савецкае апавяданне:** З рус. мовы. У 2 т.
Р 88 Т. 1 /Уклад. і прадм. Б. Сачанкі.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 430 с.

ISBN 5-340-00362-0 (т. 1)
ISBN 5-340-00361-2

У першы том увайшлі апавяданні М. Горкага, А. Серафімовіча, Л. Лявонава, А. Платонава, Б. Пастарнака, М. Булгакава, А. Грына і іншых майстроў слова, якія знаёмяць беларускага чытача з дасягненнямі рускай савецкай навелістыкі 1918—1951 гадоў, адлюстроўваюць яе багацце і жанравую разнастайнасць і плённа прадаўжаюць найлепшыя традыцыі рускага апавядання, удыхнуўшы ў яго новае жыццё.

Р $\frac{4702010200-028}{М\ 302(03)-88}$ 144—87 ББК 84 Р7-44

*Литературно-художественное издание*

**РУССКИЙ СОВЕТСКИЙ РАССКАЗ**

**В ДВУХ ТОМАХ**

**ТОМ 1**

Составитель

**Саченко Борис Иванович**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**РУСКАЕ САВЕЦКАЕ АПАВЯДАННЕ**

**У ДВУХ ТАМАХ**

**ТОМ 1**

Укладальнік

**Сачанка Барыс Іванавіч**

Рэдактар *В. І. Рабкевіч.* Мастак *І. М. Андрыянаў.* Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Я. А. Бебель*

ІБ № 2592

Здадзена ў набор 05.03.87. Падп. да друку 17.12.87. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68. Ум. фарб.-адб. 23,10. Ул.-выд. арк. 23,95. Тыраж 7000 экз. Зак. 218. Цана 2 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

